# Аповесьці

## Абеліск

*Светлай памяці М. А. Пашкевіча*

Мне і дагэтуль крыўдна на сябе і балюча, што за два доўгія гады так і не выбраў часу з'ездзіць у тую не надта і далёкую ад горада сельскую школку. Колькі разоў думаў аб тым, але ўсё адкладваў: зімой — пакуль мінуць маразы ці завеі, увесну — калі падсохне ды пацяплее; улетку ж, калі было і суха і цёпла, найбольшы клопат адбіраў адпачынак і ўсе звязаныя з ім турботы дзеля нейкага тлумнага месяца на цесным, гарачым, перанаселеным поўдні. А збольшага, усё чакаў вальнейшага часу, настрою, думаў: пад'еду калі павальнее з працай, з рознымі хатнімі клопатамі. І як гэта часам бывае ў жыцці, даадкладваўся да таго, што спазніўся канчаткова і непапраўна: зрабілася позна выпраўляцца на госці — прыспеў час ехаць на пахаванне.

Даведаўся аб тым таксама не ў час, са спазненнем — прыехаўшы з Мінска, ішоў дадому і спаткаў знаёмага, колішняга сябра па працы. Трохі пагаварыўшы пра сёе-тое і абмяняўшыся парай жартоўных фраз, мы развіталіся, ды раптам, нібы ўспомніўшы штось, сябар спыніўся.

— Чуў, Міклашэвіч памёр? Што ў Сяльцы настаўнікам быў.

— Як — памёр?

— Так, звычайна. Пазаўчора памёр. Сёння хаваюць недзе.

Таварыш сказаў і пайшоў, для яго Міклашэвіч, мусіць, мала што значыў, а я стаяў і разгублена глядзеў цераз

вуліцу. З пачуцця знікла ўсякае адчуванне сябе, я забыўся на свае справы — выбух бяды і нейкае неўсвядомленай вінаватасці аглушыў мяне і на хвіліну прыкаваў да асфальту. Пэўне ж, я разумеў, што ў тае заўчаснае смерці маладога сельскага настаўніка мае віны не было ніякай ды і сам настаўнік не быў мне ні раднёй, ні вялікім сябрам, але сэрца маё востра зашчымела ад жалю і прыкрасці на сябе, што не зрабіў таго, на што цяпер заўжды ўжо будзе позна. Мусіць, хапаючыся за нейкую апошнюю магчымасць апраўдацца перад сабой, адчуў раптоўны намер паехаць цяпер, зараз жа, не адкладваючы ні на гадзіну.

Час з тае хвіліны, як я прыняў гэта рашэнне, памчаў для мяне па нейкім асаблівым адліку, больш правільна — у пачуццях знікла ўсякае адчуванне часу. З усяе сілы пачаў спяшацца, хоць гэта ўдавалася кепска. Сямейнікаў маіх дома нікога не аказалася, але я нават забыўся хоць якой запіскай папярэдзіць іх аб маім ад'ездзе і пабег на аўтобусную станцыю. Успомніўшы пра справы на службе, спрабаваў пазваніць туды з аўтамата, які, бы назло, спраўна глытаў медзякі і маўчаў, як закляты. Кінуўся шукаць другога, ён надарыўся мне аж каля новага будынка гастранома, але там стаяла чарга. Чакаў некалькі хвілін, ледзьве набіраючыся трывання слухаць яеныя і дробязныя размовы ў сінім з разбітым шклом шкапчыку, пасварыўся а нейкім хлапчом, якога прыняў спярша за дзяўчыну — штаны клёш і льняныя валасы да каўняра вельветавай куртачкі. Пакуль дазваніўся, урэшце, ды растлумачыў, у чым справа, празяваў апошні аўтобус у Сяльцо, другога ж транспарту ў той бок сёння не было. Спрабаваў з паўгадзіны дамагчыся таксі, ды марна: да кожнай машыны кідаўся адразу натоўп болей спрытных, а галоўнае — болей нахабных, чым я. Давялося ўрэшце выпраўляцца на шашу за горадам і пакарыстацца старым у такіх выпадках спосабам — галасаваць. Сапраўды, дзесятая або пятнадцатая машына з горада, амаль даверху накладзеная скруткамі толю, спынілася на ўзбочыне і ўзяла нас, мяне і хлопца-падлетка ў кедах з вялізнаю сумкай, набітай боханамі гарадскога хлеба.

На яздзе стала трохі спакайней, толькі часам здавалася, што машына коціць занадта марудна, і я лавіў сябе на тым, што лаю ў думках шафёра, хоць на болей цвярозы позірк, дык ехалі мы звычайна, як і ўсе тут ездзяць. Шаша была гладкая, асфальтаваная і амаль скрозь прамая, як страла, якая ціха пагойдвалася па пакатых узгорках — то ўгору, то ўніз. Стаяў пагодлівы адвячорак апошняй пары бабінага лета са спакойнай празрыстасцю даляў, парадзелымі пералескамі ля дарогі, вольным прасторам ужо апусцелых палёў. Воддаль ад дарогі над лесам пасвіўся калгасны статак — некалькі сот пярэзімкаў (усе як адзін аднолькавай бура-чырвонай масці). Побач тарахцеў увішны палявы працаўнік трактар «Беларусь»— араў пад зябліва. Насустрач ішлі машыны, груваcтка нагружаныя льном-трасцой — везлі на льнозавод. У прыдарожнае вёсцы Будзілавічах ярка чырванелі ў гародчыках апошнія дацвітаўшыя вяргіні, на гародах у разораных барознах з палеглым каліўем капаліся вясковыя цёткі і маладзіцы — выбіралі бульбу. Прырода поўнілася мірным спакоем восеньскай зморанасці і лагодай, людская задаволеная нетаропкасць адчувалася ў мерным рытме адвечных сялянскіх клопатаў, калі ўраджай быў ужо вырашчаны, большасць звязаных з ім турботаў засталася ззаду, цяпер яго трэба было толькі сабраць, падлічыць, упарадкаваць.

Гэта міратворная раскоша прыроды мяне аднак нікольκі не супакойвала, а толькі гняла і раздражняла. Я спазняўся, адчуваў гэта, перажываў і кляў сябе за ляноту, душэўную чэрствасць. Думалася на дзіва пакаянна з нейкай самакрытычнай бескампраміснасцю: ніякія мае ранейшыя прычыны не здаваліся цяпер слушнымі, ды і наогул — ці былі якія прычыны? З такой медзведзяватаю разваротлівасцю нядоўга было дашчэнту пражыць адведзеныя табе гады і нічога не зрабіць з таго, што, можа, толькі і магло скласці гонар твайго жыцця. Дык прападзі яна пропадам, тая нікчэмная мітусня дзеля бясконцага, ненаежнага дабрабыту, калі праз яе застаецца ўбаку самае важнае. Мусіць, тым самым абіраецца і абясцэньваецца ўсё жыццё, якое толькі здаецца аўтаномным, адасобленым

ад іншых людскіх жыццяў, скіраваным на тваім, асабістым кірунку. На самай жа справе, як гэта не сёння заўважана, калі яно і напаўняецца чымсь значным, дык гэта разумнаю добрасцю і клопатамі аб іншых — блізкіх ці хоць бы далёкіх табе людзях, якія маюць патрэбу ў гэтым тваім клопаце. Аддаць, а не ўзяць або адчуць задаволенасць аддаючы — як неахвотна і спазнела прыходзіць чалавек да гэтай не новай, такой зайздросна простай высновы... На самай справе, чаго варта жыццё толькі дзеля здавальнення свайго, такога дробязнага, самалюбівага, капрызлівага і ненасытнага Я?

Мабыць, гэта лепш за другіх разумеў Міклашэвіч.

І, здаецца, не было ў яго асаблівых для таго прычын, надзвычайнай адукаванасці ці адмысловага выхавання, якія б яго вылучалі з кола ягоных бліжніх. Гэта быў звычайны сельскі настаўнік, мабыць, не лепшы і не горшы за тысячы іншых гарадскіх і сельскіх настаўнікаў. Праўда, я чуў, што ён перажыў страшную трагедыю ў вайну і цудам уцалеў ад «мерці. І яшчэ — што ён быў дужа хворы. Для кожнага, хто яго бачыў упершыню, было відавочна, як уходала яго тая хвароба. Але я не чуў, каб ён паскардзіўся на яе ці даў каму зразумець, як яму трудна. Успомнілася, як мы пазнаёміліся з ім у часе перапынку на нейкай настаўніцкай канферэнцыі. Ён стаяў тады, з кімсь размаўляючы ля акна ў шумлівым вестыбюлі гарадскога Дома культуры, і ўся яго надта худая вастраплечая постаць з выпнутымі пад пінжаком лапаткамі і худой доўгай шыяй здалася мне ззаду на дзіва недарослай, амаль хлапечай. Але варта было яму праз момант павярнуцца да мяне сваім непрыемна абвялым, густа зморшчаным, шэрага колеру тварам, як стала відаць, што гэта даволі патрапаны жыццём, амаль пажылы чалавек. На справе ж — і я гэта ведаў дакладна — у той час яму ішоў толькі трыццаць чацвёрты год.

— Чуў пра вас і даўно хацеў звярнуцца а адной заблытанай справай,— сказаў тады Міклашэвіч сваім глухім голасам. Ён курыў, абтрасаючы попел у пусты

карабок ад запалак, які трымаў у пальцах. І я ажно. жахнуўся, убачыўшы гэтыя яго нервова-дрыготкія пальцы, абцягнутыя жоўтай зморшчанай скурай. З кепскім прадчуваннем я пасяшаўся перавесці позірк на твар — змарнелы твар яго, аднак, быў на дзіва спакойны.

— Друк — вялікая сіла,— жартаўліва і са значэннем працытаваў ён. На яго лбе, шчоках, ля вуснаў, збегліся заўчасныя маршчыны, і праз іх праглянула добрая, з пакутлівым сумам усмешка.

Я ведаў, што ён нешта шукае ў гісторыі партызанскай вайны на Гродзеншчыне, што сам яшчэ падлеткам-хлапчуком прыняў удзел у партызанскіх справах, што ягоныя сябрышкольнікі былі расстраляны немцамі ў сорак другім, і клопатамі Міклашэвіча пасля іх памяці збудаваны невялікі абеліск у Сяльцы. Але вось, аказваецца, была ў яго і яшчэ нейкая справа, па якой з'явілася пэўная патрэба ўва мне. Што ж, я быў гатовы. Я абяцаў прыехаць, пагаварыць і па магчымасці разабрацца, тым болей калі справа сапраўды заблытаная — у той час да заблытаных спраў я яшчэ быў аматар.

І вось — спазніўся.

У невялікім прыдарожным барку з высока ўзнёслымі над дарогаю шапкамі хвой шаша пачала шырокае плаўнае закругленне, за якім паказалася ўрэшце і Сяльцо. Гэта быў колішні панскі маёнтак з разбуялымі за гады сукаватымі кронамі вязаў і ліп, што хавалі ў сваіх нетрах старасвецкі панскі палац — школу. Машына нетаропка набліжалася да павароту ў маёнтак, і гэтае набліжэнне новаю хваляй узрушэння ахапіла мяне — я прыязджаў. На момант з'явілася здрадніцкая думка: навошта? Навошта я еду сюды, на гэтую жалобу, трэба было прыехаць раней, а цяпер каму я патрэбны тут ды і хто тут можа спатрэбіцца мне? Але, мабыць, разважаць такім чынам не мела ўжо сэнсу, машына наша пачала замаруджваць хаду. Я гукнуў хлопцу-спадарожніку, які, мяркуючы па яго спакойным выглядзе, ехаў далей, пастукаць шафёру, а сам па

шархоткіх рулонах толю пасунуўся да борта, каб скочыць на жвір абочыны.

Ну вось і прыехаў. Машына, злосна стрэльнуўшы дымным смуродам з выхлапной трубы, пакаціла сабе далей, а я, нязручна выпростваючы замлелыя ногі, крыху прайшоў па ўзбочыне. Знаёмае, не раз бачанае з акна аўтобуса гэтае раздарожжа сустрэла мяне сцішана і журботна. Ля мастка над канавай тырчэў слупок са знакам аўтобуснага прыпынку, далей быў знаёмы абеліск з пяццю юнацкімі імёнамі на чорнай металічнай пліце. Праз сотню крокаў ад шашы абапал дарогі да школы пачыналася старая вузкаватая ўжо алея з таўшчэзных пахілых вязаў. У дальнім канцы яе на школьным падворку чакаў некага «газік» і чорная, мабыць, райкомаўская, «Волга», але людзей там не было. Пэўна, людзі цяпер былі ў іншым месцы, падумаў я. Але я нават не ведаў, дзе тут былі могілкі, каб ісці туды. Калі яшчэ мела які сэнс туды ісці.

Так не надта рашуча і даволі заклапочана разважаючы сам з сабою, я ўвайшоў у алею над мнагаярусныя шаты дрэў. Калісь, гадоў пяць таму, я тут ужо быў, але тады дом гэты і алея не здаліся мне такімі падкрэслена і зацята маўклівымі — школьны падворак гаманіў галасамі дзятвы, якраз быў перапынак. Цяпер наўкола ляжала нядобрая, хаўтурная ціш — нават не шапацела, стаілася ў перадвячэрнім спакоі парадзелая, з жаўцізною лістота старэчых камлістых вязаў. Жвіровая ўезджаная дарожка неўзабаве вывела на падворак школы — наперадзе высіўся пышны, у два паверхі, але ўжо пастарэлы і запушчаны, з трэснутай па фасадзе сцяною старасвецкі палац: фігурная балюстрада веранды, пабеленыя калоны абапал параднага ўвахода, высокія венецыянскія вокны. Мне трэба было запытаць у кагось, дзе хаваюць Міклашэвіча, але запытаць не было ў каго — ля машын і ў машынах таксама не было нікога відаць. Не ведаючы, куды падацца, я разгублена патаптаўся поруч і ўжо хацеў ісці куды далей, як з той жа параднай алеі, ледзьве не наехаўшы на мяне, выскачыў яшчэ адзін запылены «газік». Ён тут жа затармазіў, і з яго брызентавага нутра праваліўся

знаёмы чалавек у скамечанай «балонні». Гэта быў колішні заатэхнік з упраўлення сельскай гаспадаркі (цяпер, я чуў, ён рабіў недзе ў раёне). Гадоў пяць мы з ім не бачыліся, ды і наогул знаёмства наша было даволі шапачнае, але цяпер я нечакана ўзрадваўся яго з'яўленню.

— Здароў! — кінуў мой знаёмец з такім ажыўленнем, нібы мы прыехалі сюды на вяселле, а не на пахаванне.— Таксама, да?

— Таксама,— стрымана, без ценю ягонага ажыўлення адказаў я.

— Яны там, у настаўніцкім доме,— адразу прыняў мой стрыманы тон прыезджы.— А ну давай, падмагні.

Ухапіўшы за край, ён вывалак з машыны зіхоткую скрынку бутэлек з «Маскоўскай», за якой, мабыць, і ездзіў у сельпо ці ў горад. Я рупна падхапіў яе за другі бок, і мы, мінаючы школу, пайшлі па сцежцы між садовых зараснікаў у бок недалёкага флігеля — дамоўкі настаўнікаў.

— Як жа гэта з ім здарылася? — запытаў я, усё яшчэ не могучы звыкнуцца з думкай аб гэтае заўчаснай смерці.

— Ат, як! Як усё здараецца. Трах бах — і гатова. Быў чалавек — і няма.

— Хоць хварэў перад тым, ці што?

— Хварэў?! Ён усё жыццё хварэў. Ды рабіў. Ну і дарабіўся да ручкі-крышкі. Пойдзем ды вып'ем во, пакуль ёсць такая магчымасць.

У старым, як і палац, атынкованым знадворку флігелі-доме за парадзелымі кустамі бэзу ў гародчыку, сярод якіх сакавіта і свежа рдзела абсыпаная гронкамі рабіна, чулася прыглушаная гамана многіх людзей, якая давала знаць, што самае важнае і апошняе тут ужо скончана. Ішлі памінкі. Нізкія вокны асеўшай долу дамоўкі былі насцеж расчынены, з-за фіранкі віднелася нечая ў белай нейлонавай сарочцы спіна ды льняная

капешка высокай жаночай прычоскі. Ля ганка стаялі і курылі двое няголеных у рабочым адзенні дзядзькоў. Яны стрымана гаварылі аб чымсь, пасля змоўклі, пераняялі ў нас скрынку і панеслі яе ў дом. Мы праз калідорчык пайшлі за імі.

У невялікім пакоі, з якога цяпер было вынесена ўсё, што можна вынесці, стаялі ссунутыя ўпрытык сталы з рэштаю пітва і закусі. Два дзесяткі расчырванелых людзей за імі займаліся, аднак, хто чым, а найбольш размовамі і курывам — цыгарэтны дым вітымі космамі цягнуўся ў вокны. Было відаць, што вячэра ідзе не першую гадзіну, і я зразумеў, што паспеў на разбор шапак — не болей. Знаў бы — не ехаў. Такое спазнелае з'яўленне ў гэтай справе — горш чым адсутнасць і можа быць лёгка вытлумачана не ў маю карысць. Ну, але не брацца ж за шапку, калі ўжо прыехаў.

— Сядайце, во тут і месцейка,— проста запрасіла ціхмяная з выгляду жанчына ў цёмнай касынцы, не пытаючыся, хто я і чаго прыйшоў,— мабыць, такое з'яўленне тут было цяпер справай звычайнай. Я паслухмяна сеў на нізкаватую пры высокім стале табурэтку, стараючыся як найменш звяртаць на сябе ўвагу. Але збоч нехта ўжо паварочваў да мяне свой азызлы, немалады, узмакрэлы ад поту твар.

— Спазніўся? — проста запытаў чалавек.— Што ж... Няма болей нашага ІIаўліка. І ўжо не будзе. Вып'ем таварыш.

Ён сунуў мне ў рукі яўна ўжо пітую, са слядамі нечых пальцаў шклянку гарэлкі, сам узяў са стала другую.

— Давай, брат. Каб яму там пухам зямля.

— Што ж, хай будзе пухам.

Мы выпілі. Нечым відэльцам я накалоў у талерцы скрылёк салёнага гурка, сусед няслушнымі пальцамі ўзяўся вылушчваць з пакамечанага пачка «Прымы», мабыць, апошнюю там сігарэту. У гэты час ціхмяная жанчына паставіла на стол некалькі новых бутэлек

прынесенай намі «Маскоўскай». Ахвочыя мужчынскія рукі рашуча ўзяліся разліваць яе па шклянках.

— Ціха! Таварышы, ціха,— праз гаману пачуўся аднекуль з нярэдняга кута не надта цвярозы ўжо голае. — Тутхочуць сказаць.

— Ксяндзоў, загадчык райана,— густа дыхнуўшы цыгарэтным дымам, прагудзеў над вухам сусед,— Што ён можа сказаць? Што ён ведае?

У дальнім канцы стала ўстаў з месца малады яшчэ чалавек са звыклай начальніцкай упэўненасцю на цвёрдым валявым твары, важна падняў шклянку з гарэлкай.

— Тут ужо гаварылі пра нашага дарагога Паўла Іванавіча. Добры быў камуніст, перадавы настаўнік. Актыўны абшчэсцвеннік. І наогул... Адным словам, жыць бы яму ды жыць.

— Жыў бы, каб не вайна,— уставіў хуткі жаночы голас, мабыць, настаўніцы з выгляду, што сядзела поруч з ім у імпартным бэжавым гарнітуры. Прамоўца спыніўся, нібы збіты з панталыку гэтаю рэплікай. Гаварыць яму, мяркуючы па ўсім, было трудна, нязвыкла на такую тэму, ён з натугай падбіраў словы — мусіць, проста не было патрэбных для такога выпадку слоў.

— Да, каб не вайна,— урэшце пагадзіўся прамоўца.— Каб не навязаная нямецкім фашызмам вайна, каторая прынесла нашему народу бясчысленыя ахвяры. Цяпер, праз дваццаць год пасля таго, як залечаны раны вайны, адноўлена наша разбураная вайной гаспадарка і савецкі народ дабіўся выдатных поспехаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, а таксама культуры, навукі і асветы і асабліва поспехаў у галіне...

— Пры чым тут поспехі! — раптам грукнула ля самага майго вуха, і адпітая бутэлька на стале з лязгатам упала на талерку ад вінегрэту.— Пры чым поспехі? Мы пахавалі чалавека!

Прамоўца з нядобрасцю змоўк, а ўсё застолле насцярожана, амаль са спалохам начало азірацца на майго суседа. Немаладыя вочы таго на счырванелым і хваравіта спатнелым твары ўвачавідкі наліваліся гневам, вялікі, перавіты набраклымі венамі кулак пагрозліва ляжаў на абрусе. Загадчык райана зважліва змоўчаў хвіліну і спакойна, з годнасцю сказаў, нібы школьніку:

— Таварыш Ткачук, вядзіце сябе прыстойна.

— Ціха, ціха. Ну што вы! — заклапочана схілілася дасуседа маладая жанчына, што сядзела з другога ад яго боку. Але Ткачук зусім не хацеў сядзець ціха, а грузна і медзведзявата ўстаў за сталом.

— Гэта вам трэба прыстойна. Што вы тут вярзеце пра поспехі? Чаму вы ні словам не ўспомнілі пра Мароза?

Здаецца, пачынаўся скандал, і я адчуваў сябе не дужа прыемна, асабліва ў такім суседстве. Але я тут быў чалавек староннi і не лічыў сябе ў праве ўмешвацца, некага супакойваць ці за каго заступацца. Аднак загадчыку райана, здаецца, нельга было адмовіць у належнай вытрымцы.

— Мароз тут ні пры чым,— са спакойнай цвёрдасцю парыраваў ён выпад майго суседа.

— Нават вельмі пры чым! — ледзь не крыкнуў сусед.— Гэта Марозу трэба дзякаваць за Міклашэвіча!

— Міклашэвіч іншая справа,— рэзюмаваў загадчык райана і павярнуўся да іншых. Дык вып'ем, таварышы, за яго памяць і возьмем яго жыццё сабе ў прыклад.

За сталом усчаўся звычайны паслятостны рух, ажыўленне, залязгалі чаркі і шклянкі, сюды-туды захадзілі рукі. Адзін змрочны Ткачук дэманстратыўна адсунуў ад сябе шклянку і апусціўся на крэсла.

— Мне з яго браць прыклад позна. Гэта ён з мяне браў прыклад, калі хочаце ведаць,— ваўкавата кінуў ён у пярэдні кут. Яму аднак ніхто не адказаў. Загадчык

райана стараўся болей не заўважаць сварліўца. Тады Ткачук павярнуўся ў мой бок.

— Скажы хоць ты пра Мароза. Хай ведае...

— Пра якога Мароза? — не разумеў я.

— Што, і ты не ведаеш Мароза? І не чуў нават? Дажыліся! Сядзім, п'ём у Сяльцы, і ніхто не ўспомніць Мароза! Каторага павінен тут ведаць кожны вучань... Што так гледзіцё на мяне? — зусім ужо абурыўся ён, злавіўшы на сабе нечы дакорлівы позірк.— Я ведаю, што кажу. Мароз — во хто павінен быць прыкладам для ўсіх нас. Як для Міклашэвіча быў.

У пакоі прыціхлі. Нешта тут адбывалася, чаго я не зусім разумеў, але што, мусіць, выдатна разумелі за тым сталом у куце. Пасля відавочнай хвіліннай няёмкасці ўсё той жа загадчык райана Ксяндзоў сказаў з зайздроснай начальніцкай цвёрдасцю ў голасе:

— Перш чым што гаварыць, трэба падумаць, таварыш Ткачук.

— Я думаю, што кажу.

— Вось іменна.

— Ну, хопіць! Цімох Цітавіч! Хопіць ужо,— з настойлівай лагодай загаманіла яго маладая суседка.— Вы з'ешце каўбаскі. Гэта хатняя. У горадзе ж, мусіць, няма такой. А то вы не ясцё зусім...

Але Ткачук, відаць, не хацеў есці і, сцяўшы маршчыністыя пашчэнкі, толькі скрыгаў зубамі-пратэзамі. Пасля ўзяў недапітую шклянку гарэлкі і залпам выпіў усю да дна. Нясвежыя счырванелыя вочы яго пагрозліва схаваліся над брывамі.

За сталамі стала цішэй,.усе моўчкі памалу закусвалі, некаторыя курылі. Я павярнуўся да суседа справа — маладога хлопца ў зялёным світэры,— настаўніка ці якога спецыяліста з калгаса.

— Не ведаеце, хто гэта? — кіўнуў я ў бок Ткачука.

— Цімох Цітавіч. Былы тутэйшы настаўнік.

— А цяпер?

— Цяпер на пенсіі. У горадзе жыве.

Я сеў раўней і ўважліва прыгледзеўся да майго гняўлівага суседа. Не, у горадзе я, здаецца, яго не бачыў, можа ён нядаўна пераехаў адкуль. А Ткачук, ужо абыякавы да ўсяго тут, нерухома сядзеў, адваліўшыся ў крэсла, глядзеў кудысь на клятчасты бераг абруса.

— З горада? — раптам запытаў ён, мабыць, заўважыўшы маю да яго ўвагу.

— З горада.

— Чым прыехаў?

— Папутнай.

— Свае няма?

— Пакуль не.

— Ну, піце, памінайце, я пайду.

— А вы чым едзеце?

— Чым-небудзь. Не першы раз.

— Тады і я з вамі,— чамусьці рашыў я. Заставацца тут, здаецца, не мела ўжо сэнсу.

Цяпер дык мне цяжка і сказаць, чаму я пайшоў з гэтым чалавекам, чаму, столькі дабіраючыся да Сяльца, так хутка і ахвотна развітваўся з гэтаю школай. Вядома, найперш таму, што спазніўся. Таго, дзеля каторага я выпраўляўся сюды, ужо не было, а іншыя людзі за гэтымі сталамі мяне мала цікавілі. Але і мой новы спадарожнік у той час зусім не здаўся мне ні цікавым, ні тым болей прывабным. Хутчэй наадварот. Я бачыў у ім добра ўжо падпітага, напэўна, прывярэдлівага

пенсіянера; ад ягоных слоў пра свае першынство над нябожчыкам нясло звычайнаю старэчай пахвальбой, заўсёды не дужа прыемнай. Нават калі ён і казаў праўду.

Тым не менш з невыразным адчуваннем палёгкі я ўстаў з-за стала і выйшаў з хаты. Ткачук быў грузнаваты, камлюкаваты чалавек у гамашах і шэрым паношаным гарнітуры з дзвюма ордэнскімі планкамі на грудзях. Здаецца, ён добра выпіў, хоць, зрэшты, у гэтым не было нічога дзіўнага — пераважыў на пахаванні, трохі панерваваўся ў спрэчцы з маладым самаўпэўненым загадчыкам, прычыну якой я так і не ўцяміў. Але, відаць было па ўсім, ён не на жарт раззлаваўся і цяпер ішоў перада мной па сцежцы, усім сваім выглядам сведчачы пра сваю злосць і зацятасць.

Так моўчкі мы мінулі палац і прайшлі алею. Ткачук усё маўчаў. Не даходзячы шашы, прапусцілі на ей грузавік, здаецца, пусты і ў бок горада. Можна было б крыкнуць і трохі падбегчы, але мой спадарожнік нават не прыспешыў кроку, ну і я не праявіў асаблівага клопату за нашу дарогу. Ля слупка з аўтобусным знакам нікога не было, шаша ў абодва канцы ляжала да бляску наглянцаваная за дзень і пустая.

Мы дайшлі да раздарожжа і спыніліся. Ткачук паглядзеў у адзін бок шашы, у другі і сеў, дзе стаяў, спусціўшы ногі ў неглыбокую сухую канаву. Гаварыць са мной ён не хацеў, гэта было пэўна, і каб не назаляць яму, я адышоўся крыху, пазіраючы на дарогу. Неўзабаве з-за павароткі ў гайку паказалася легкавушка, прыватніцкі «Масквіч» з гарбатым, нагрувашчаным трантамі верхам,— абдаўшы нас пахам бензіну, пакаціў далей. У тым жа канцы шашы, які цяпер асабліва цікавіў нас, было абсалютна пуста. Над недалёкім лесам заходзіла ў хмарку вечаровае сонца. Яго нізкія разложыстыя промні сляпілі вочы, але ўглядацца туды, мабыць, і не мела вялікага сэнсу — машын там не было. Губляючы цікавасць да дарогі, я панад канавай падаўся да помніка.

Гэта быў прысадзісты бетонны абеліск за штакетнаю

абгародкай, проста і без лішняй выдумкі змайстраваны рукамі нейкіх мясцовых умельцаў. Выглядаў ён болей чым сціпла, калі не сказаць бедна, цяпер нават у вёсках ставяць куды прыгажэйшыя помнікі. Праўда, пры ўсёй яго несамавітасці не было ў ім і знаку закінутасці, хутчэй наадварот. Колькі я яго памятаў, заўжды ён выглядаў старанна прыбраным і дагледжаным: у доле было чыста падмецена, насыпана свежым пясочкам, а на невялічкай, абкладзенай цаглянымі ражкамі клумбачцы сціпла і прыгожа стракацела штосьці з запозненай кветкавай драбнаты. Гэты трохі вышэйшы за чалавечы рост абеліск за якіх дзесяць год ужо некалькі разоў мяняў свой колер: быў то беласнежны, белены перад святамі вапнаю, то зялёны, над колер салдацкіх прыладаў і зброі; аднойчы праездам па гэтай шашы я бачыў яго зіхотка-срэбным, як крыло рэактыўнага лайнера. Цяпер жа ён быў проста шэры, і, мусіць, з усіх іншых колераў гэты найболей ішоў да яго аздобы.

Абеліск мяняў сваё аблічча, нязменнай заставалася толькі чорная металічная шыльдачка на баку з пяццю на ёй імёнамі. Я іх ведаў на памяць, чуў пра іх вядомы ў нашай мясцовасці подзвіг у часе Айчыннай вайны. Але цяпер тут з'явілася і новае імя — Мароз А. І., якое было не дужа зграбна выведзена над іншымі белаю фарбай, і я трохі здзівіўся, убачыўшы яго тут.

На дарозе ў напрамку ад горада зноў з'явілася ад павароткі машына, на гэты раз самазвал, ён даволі шпарка прамчаў па пустой шашы міма. Узняты ім пыл аднак падняў майго спадарожніка з яго не надта прыдатнага для адпачынку месца. Ткачук выйшаў на асфальт і заклапочана паглядзеў у далячынь дарогі.

— Чорт іх дачакаецца. Давай пойдзем. Нагоніць якая, дык сядзем.

Я быў згодны ісці, тым больш што на двор'е пад вечар і яшчэ палепшала: было цёпла, ціха, ні адзін лісцік на вязах не варухнецца, а глянцаватая стужка пустой шашы так і клікала даць волю нагам. Я перайшоў канаву, і мы з прыемнасцю пакрочылі па асфальце.

— Даўно вы ведалі Міклашэвіча? — запытаў я, проста каб запытаць аб чым-небудзь і парушыць цяжкае маўчанне, якое пачынала ўжо прыгнятаць.

— Знаў? Усё жыццё. На маіх вачах вырас.

— Я дык мала і ведаў яго,— прызнаўся я.— Так, сустракаўся некалькі разоў. Чуў, што неблагі настаўнік, добра дзяцей вучыў.

— Вучыў! Вучылі і яшчэ некаторыя не горш за яго. А ён сапраўдным чалавекам быў. І такімі дзяцей выхоўваў. Рабяты за ім табуном хадзілі.

— Цяпер гэта рэдкасць.

— Цяпер рэдкасць, а даўней так часта было. І ён таксама ў табуне за Марозам хадзіў. Як пацаном быў.

— Зрэшты, а хто гэты Мароз? Ці не той, што на помніку?

— Ну. Настаўнік з гэтай жа школы. Некалі разам тут пачыналі. Я ж сюды ў лістападзе трыццаць дзевятата прыехаў. А ён у кастрычніку школу гэтую адкрыў. Тады на чатыры класы ўсяго.

— Загінуў?

— Да, загінуў,— коратка адказаў Ікачук. Са старэчай развалкай нетаропка ён крочыў поруч па навошчанай каляіне асфальткі. Пінжак яго быў распшілены, вузел гальштука з'ехаў набок пад ражок каўняра. На цяжкім, не дужа старанна паголеным твары прамільгнуў ледзь улоўны цень смутку.

— Мароз быў нашаю болькай. На сумленні ў абодвух. У мяне і ў яго. Ну але я што... Я здаўся. А ён не. І вось — перамог. Дабіўся свайго. Шкада, сам не ўтрываў.

Здаецца, я нешта пачаў разумець, аб чымсьці здагадвацца. Нейкая гісторыя з вайны. Ткачук надта скупа тлумачыў, можа трэба было б папытаць настойлівей, але я баяўся зноў разгнявіць яго І толькі каб падтрымаць размову, устаўляў свае банальныя

фразы.

— Так ўжо заведзена. За ўсё добрае трэба плаціць. Часам дарагую цану.

— Ды ўжо ж. Куды даражэй. Шкада, харошая была пераемнасць. Цяпер жа столькі размоў пра пераемнасць традыцый бацькоў... Праўда, Мароз яе быў яму бацькам, але пераемнасць была. Проста на дзіва! Бывала, гляджу калі і не магу нарадавацца: ну нібыта брат гэтаму Марозу Алесю Іванавічу. Усім: і характерам, і добрасцю, і прынцыповасцю. А цяпер... Хаця не можа быць, нешта там ад яго застанецца. Не можа не застацца. Такое не прападае. Прарасце. Праз год, пяць, дзесяць, а нешта праклюнецца. Пабачыш.

— Магчыма.

— Не магчыма, а пэўна. Не можа быць, каб праца такіх двух людзей марна прапала. Тым больш пасля такіх смерцяў. Смерць — яна, брат, свой сэнс мае. Вялікі, я табе скажу, сэнс. Смерць — гэта абсалютны доказ. Саамы неабвержны аргумент. Памятаеш, як у Някрасава: «иди в огонь за честь отчизны, за убежденье, за любовь, иди и гибни безупречно, умрешь недаром, дело прочно, когда под ним струится кровь!» Во! А тут крыві пралілося ого колькі! Не можа быць, каб дарма. Ды і Мароз даказаў гэта самым красамоўным чынам. Хаця ты ж не ведаеш...

— Не ведаю,— шчыра прызнаўся я.— Некалі Міклашэвіч збіраўся расказаць...

— Памятаю. Ён гаварыў. Ён тады да каго толькі не звяртаўся. І да цябе хацеў. Ды во, не паспеў.

Гэтыя яго словы адгукнуліся ўва мне непрыемнасцю, балючым дакорам сабе. Сапраўды, чула маё сэрца, што, сам таго не жадаючы, я ўсё ж дапусціў тут памылку. Ну але хто ж ведаў! Хто мог прадбачыць, што ўсё гэта абернецца такім горкім чынам.

— Ты ж з рэдакцыі? — скоса паглядзеў на мяне Ткачук.

— Ведаю. Фельетончыкі пішаш і так далей. За праўду-матку ваюеш. Вось ён тады і надумаў падключыць цябе да гэтае справы — заступіцца ў друку за Мароза. Не, Мароз не асуджаны, не палохайся. І не які там паслугач нямецкі. Тут іншая справа...

— Цікава,— сказаў я, калі Ткачук ненадоўга змоўк.— Каб жа я раней ведаў!

— Цяпер ужо ўсё зроблена, знайшліся дзе трэба і заступнікі. Цяпер ужо можна расказваць. І напісаць можна. Нават патрэбна. Міклашэвіч дамогся праўды. Толькі вось сам... У цябе закурыць няма? — запытаў ён, лапаючы па сваіх пустых кішэнях. Я даў яму сігарэту, мы закурылі абодва, пастараніліся, прапускаючы чорную, з нікелем «Волгу», якая порстка прашмыгнула міма. Мусіць, «Волга» ішла ў горад, але цяпер ні ён, ні я не зрабілі ніякай спробы яе спыніць — я прадчуваў, што Ткачук нешта раскажа, а той на хвіліну неяк роздумна-засяроджана паглыбіўся ў сябе, пазіраючы ўслед машыне.

— Можа б узяла? А, ліха з ёй! Хай едзе. Пойдзем памалу. Табе колькі гадоў? Сорак, кажаш? Ну, гэта малады яшчэ век, яшчэ многае наперадзе. Не ўсё, канешне, але многае яшчэ засталося. Калі здароўе, вядома, нішто сабе. У мяне здароўе таксама не сказаць каб кепскае, яшчэ і чарку магу часам узяць. Але ўжо не тое, што было раней. Раней я, брат, аўтобуса гэтага рэдка і чакаў калі.А што, у тыя, даўнейшыя часы дык і аўтобусаў ніякіх не было. Трэба ў горад — бярэш палку і айда. Дваццаць кіламетраў — за тры з паловай гадзіны і ў горадзе. Цяпер, мусіць, болей спатрэбіцца, даўно не хадзіў. Ногі яшчэ нішто. Вот горай — нервы здаюць. Знаеш, не магу глядзець кіно, каторае жаласлівае ці пра вайну асабліва. Як убачу тое гора наша, хоць і даўно ўжо ўсё перажыта і памалу забываецца, а знаеш, душыць нешта за горла. Ды яшчэ музыка прытым. Не кожная, вядома, не джазы якія, а песні, што тады спявалі. Як пачую, ну проста нервы пілой пілуе.

— Падлячыцца б трэба. Цяпер жа няблага лечаць.

— Не, мае ўжо не вылечаць. Шэсцьдзесят два гады,што ж ты хочаш! Жыццё іх удрызг пашкуматала, вяроўкі з іх віло. А тым болей вучоныя кажуць, што нервовыя клеткі не аднаўляюцца... Да. А некалі таксама малады быў, нежанаты, здаровы, як Жабацінскі які. У трыццаць дзевятым пасля ўз'яднання наркамат асветы накіраваў у Заходнюю арганізоўваць школы. Арганізоўваў школы, калгасы, круціўся, матаўся, сам у школах рабіў. Тут во, у Сяльцы, пасля вайны сем год адбухаў...

— Так. Час ідзе.

— Не ідзе, а імчыцца. Знаеш, некалі ўсё думаў: ну год, два, тры папрацую, а там у Мінск падамся, у педінстытуце вучыцца хацеў. Я ж да вайны толькі настаўніцк двухгадовы скончыў. Ну а жыццё інакш закамандавала, вайна ўсчалася, ніякага педа не выйшла, тут во на ўсё жыццё і прыкіпеў. Раней райком не пушчаў, школа, кватэра, а цяпер во, калі можна каціцца на ўсе чатыры бакі,нікуды ўжо і не цягне. Так, відаць, і прыйдзецца застацца ў гэтай зямліцы, як Марозу. Хіба з некаторым спазненнем.

Ён змоўк. Я дакурыў цыгарэту і таксама маўчаў, не хочучы парушаць яго зразумелага мне настрого і ладу думак. Мы ўжо міналі гаёк, дарога ішла ў выемцы, па абодва бакі высіліся пясчаныя адхоны з хвоямі. Зачынаўся вечаровы прыцемак, і нават вяршыны хвой ахінаў цень, толькі бясхмарнае неба ўгары яшчэ адсвечвала развітальным святлом нябачнага сонца.

— Сёння якое чысло? Чатырнаццатае? Во акурат у гэтую пару першы раз наведаўся ў Сяльцо. Цяпер ужо прывычная справа — усе гэтыя куткі-дарогі, а тады ўсё тут было новае, цікавае. Маёнтак гэты, дзе школа, тады быў не такі абшкрэбаны — спраўны, стары, але дагледжаны дом, расфарбаваны, як лялька. Пан Габрусь у верасні ўцёк, пакінуўшы ўсё, падаўся, казалі, да румынаў, ну а тут Мароз школку адкрыў. На школьным двары перад парадным высіліся два нейкія дрэвы, не тутэйшыя, дужа сукаватыя, з нейкім серабрыстым лісцем. Гіганты, як тыя амерыканскія секвоі. Такія цяпер яшчэ дзе-нідзе на былых маёнтках засталіся,

дажываюць век. А тады іх многа было. У кожнага пана, лічы.

Той першы год я рабіў у райана загадчыкам. Школы амаль усе новыя, маленькія, наспех прыстасаваныя — то ў асадніцкіх сядзібах, то ў панскіх, а то проста ў вясковых хатах. Абсталявання, падручнікаў, інвентару не хапала, ды і з настаўнікамі таксама туга было. У гэтым Сялъцы разам з Марозам рабіла Падгайская, пані Ядзя, як мы яе звалі. Старая кабета жыла тут і пры Габрусі, вунь у тым самым флігелі. Нотная была пані, старая дзеўка. Рускую мову амаль не ведала, трохі разумела па-беларуску, але што датычыць астатняга — ого! Выхавання была самага гжэчнага.

І вось аднойчы пад вечар сяджу ў сваім кутку ў райана, зашыўся ў паперы — справаздачы, планы, ведамасці. Ездзіў па раёне, тыдзень не быў на месцы, усё запусціў — страх! Не адразу пачуў — хтось шкрэбае ў дзверы. Заходзіць гэтая пані Ядзя — маленькая, шчупленькая, але з лісой на шыі і ў шыкоўным такім капялюшыку. «Проша звініць, пан шэф, я, проша пана, па педагагічнай справе».— «Што ж, калі ласка, сядайце, слухаю».

Сядае на краёчак крэсла, аберуч папраўляе свой такі пекны капялюшык і пачынае сыпаць амаль скрозь па-польску — ледзь разбіраю. Усе манеры старанна выхаванай паненкі, а самой гадоў за пяцьдзесят — такі зморшчаны, хітранькі тварык. Што ж аказваецца? Аказваецца, мае канфлікт на педагагічнай аснове са сваім школьным шэфам у Сяльцы калегам Марозам. Аказваецца, гэты Мароз не падтрымлівае дысцыпліны, як роўны паводзіць сябе з вучнямі, вучыць без неабходнай строгасці, не выконвае наркаматаўскіх праграм і самае галоўнае — кажа вучням, што не трэба хадзіць да касцёла, хай туды ходзяць бабулі з дзядулямі.

Ну, наконт касцёла я, вядома, не дужа спалохаўся,— правільна робіць Мароз, калі так раіць. А вось што датычыць панібрацтва, дысцыпліны, непавагі да наркаматаўскіх праграм, гэта ўжо затрывожыла. Але хто такі гэты Мароз — паняцця не маю, у Сяльцы ні

разу не быў. Дай, думаю, пры першай магчымасці махну, пагляджу, што там у яго за парадкі.

Магчымасць надарылася аднак не дужа хутка, ды праз. тыдні два ўсё ж вырваўся, узяў у гаспадара, дзе кватараваў, ягоны веласіпед, «ровар» па-тутэйшаму, і рвануў во па гэтай шашы. Шаша, вядома, не такая як цяпер была — брук. Ехаць па ім хоць на фурманцы, хоць на ровары — кішкі вытрасеш. Але паехаў. Добра ціскануў на педалі і праз гадзіну ўкаціў у тую самую алейку з вязамі. Хацеў папасці на ўрок, ды прыпазніўся — урокі ўжо скончыліся, але здалёк яшчэ бачу — поўны двор дзетвары. Думаў, гульня якая, але не гульня — ідзе праца. Аказваецца, нарыхтоўваюць дровы. Бура паваліла тое заморскае дрэва ў двары, цяпер яго пілуюць, сякуць і носяць у хлявок. Мне гэта спадабалася. Дроў тады не хапала, кожны дзень скаргі са школ наконт холаду, а транспарту ў раёне ніякага — дзе ўзяць, адкуль прывезці? А гэтыя, бач, сцямілі і не чакаюць, калі там у раёне надумаюцца забяспечыць іх палівам — самі аб сабе клапоцяцца.

Злез у двары з веласіпеда, усе на мяне глядзяць, я на іх — дзе ж загадчык? «Я загадчык»,— кажа адзін, якога я не адразу і заўважыў, бо стаяў ён за таўшчэзным паваленым камлём — пілаваў яго з хлопцам, мабыць, перарosткам, ніштаватым такім хлопцам гадоў на пятнаццаць. Ну, кідае пілу, падыходзіць. І адразу бачу: кульгае. Адна нага нейк вывернута ўбок і быццам не разгінаецца, таму ён здорава прыпадае на яе і здаецца нібы недарослы. А так на выгляд плячысты, ладны з твару, позірк смелы, упэўнены. Мусіць, здагадваецца, хто перад ім, але ніякай замінкі ці там спалоху ў паводзінах. Прадстаўляецца: Мароз Алесь Іванавіч. Руку паціскае так, што адразу зразумела: дужы хлопец. Далонь шурпатая, цвёрдая, мусіць, такая работа яму не ўпершыню. Той напарнік яго стаіць з пілой і спрабуеяе аднаруч тузаць, але нічога ў яго не выходзіць, якраз на сук трапіла, ды і таўшчыня — больш метра ўпоперак. Мароз папрасіў прабачэння, узяўся, каб скончыць зарэз, але і ўдвух справа не дужа лепшае — пілу чым далей, тым больш заціскае ў распіле. Я стаю, гляджу,

кажу: трэба нешта падкласці. Але каб падкласці, трэба прыўзняць. Мароз кінуў пілу, пачаў паднімаць за камель — ды адзін не дужа паднімеш. Тут хлапчукі, каторыя большыя, тожа папрыліпалі да бервяна, а тое ні з месца. Карацей кажучы, паклаў я на траву свой ровар ды таксама за той камель узяўся. Тужыліся, тужыліся, здаецца, прыўзнялі, яшчэ б сантыметр, можна б падапхнуць палку, але гэты апошні сантыметр, як заўжды, самы трудны. І тут, як на ліха, з-за рога выплывае тая самая пані Ядзя. Убачыла ровар, мяне ля камля, ды так і аслупянела.

Пасля, калі я гаварыў з ёй, зразумець нічога не магла, усё ўспамінала матку боску ды дзівілася: што гэта за настаўнікі ў Саветаў, ці маюць яны якія паняцці аб педагагічным такце і гонары? Кажу, не бяда, пані Ядзя, гонару ад таго не ўбавіцца, а дровы ў школе будуць. У цяпле працаваць будзеце. Ну але гэта пасля. А тады ўсё ж распілавалі мы тую чортаву калоду, і я ўжо забыўся, чаго прыехаў, скінуў свой адзінюткі пінжак і разам пілаваў з Марозам, пасля секлі. Папацеў уволю. Дзеці перанеслі дровы ў хлявок, і Мароз адпусціў усіх дадому.

Вядома, у той раз заначаваў у школе. Мароз жыў у баковачцы пры класе, спаў на цудоўнай, у стылі барока, канапцы з выгнутымі накшталт ільвіных лап ножкамі. Накрываўся, вядома, палітом, коўдры не меў. На тую ноч канапка дасталася мне, накрыўся сваім пінжачком. Перад тым як легчы, паелі бульбачкі, маці аднаго вучня на такі выпадак прынесла з хутара кавалак каўбасы і гарлач прастаквашы. Вячэралі і знаёміліся. Хоць пакуль пілавалі тыя дровы, адчувалася мне, што я ведаю яго ўсё жыццё. Родам ён быў з Магілёўшчыны, ужо гадоў пяць настаўнічаў пасля педвучылішча. Нага такая з дзяцінства, доўга балела, ды так і асталася. Я асцярожненька завёў размову пра нашы звычайныя рэчы: праграмы, паспяховасць, дысцыпліну. І тады пачуў ад яго нешта такое, што спярша выклікала ў ва мне нязгоду, а пасля роздум. А пасля я пачаў думаць, што, можа, ён і правы. Як цяпер гляджу з вышкі майго пенсійнага ўзросту, дык быў ён абсалютна правы.

Да, ён быў правы, бо глядзеў шырай і, можа, далей, чым гэта прынята глядзець, абмяжоўваючы свой кругагляд прафесійнымі нормамі. Нормы, яны, брат, харошая справа, калі не закасцянелі, не засохлі ад часу і не прыйшлі ў супярэчнасць з жыццём. Словам, ужываць іх, як і ўсякія догмы, трэба з розумам, гледзячы па абставінах. А ў нас як бывае? Цяпер усе прадметы за спецыялістамі, а ўсім спецыялістам трэба як мага лепшыя веды па іх спецыяльнасці. І таму, скажам, матэматычцы яе біном Ньютана ў сто разоў даражэй за ўсю паэтыку Пушкіна або чалавеказнаўства Талстога. А моваведу адасабляць ягоныя дзеепрыслоўныя звароты — мера ўсяе годнасці вучня. За гэтыя свае коскі ён гатовы дзіця на другі год пакінуць і ў ВНУ не даць ходу. Матэматычка — таксама. І ніхто не падумае, што гэты біном таму вучню можа — і пэўна — ніколі ў жыцці і не прыгадзіцца, нават не прыгадаецца, ды і без косак пражыць можна. А вот як пражыць без Талстога? Ці можна ў наш час быць адукаваным чалавекам, не чытаўшы Талстога? Ды і наогул, ці можна быць чалавекам.

Цяпер, праўда, ужо прыгледзіліся і да Талстога, і да многага іншага, і гэта не так ужо кідаецца ў вочы. А тады ўсё тое выглядала інакш, відавочней, і Мароз гэта зразумеў, відаць, раней за мяне. Хоць я і быў старэйшы за яго год на пяць, і быў член партыі, і загадваў усім района. І ён мне сказаў тае ноччу, калі мы ляжалі побач — я на яго канапцы, а ён на стале,— прыкладна так:

— З праграмамі ў школе сапраўды не зусім лады, паспяховасць не дужа бліскучая. Рабяты вучыліся ў польскай школе, многія, асабліва католікі, кепска спраўляюцца з беларускай граматыкай, іх пачатковыя веды не адпавядаюць курсам нашых праграм.

Але не гэта галоўнае. Галоўнае, каб яны цяпер зразумелі, што яны — людзі, не быдла, не нейкія там недалугі, якімі лічылі паны іхніх бацькоў, а самыя паўнапраўныя грамадзяне. Як і ўсе. І яны, і настаўнікі, і іх бацькі, і ўсе кіраўнікі ў раёне — усе роўныя ў сваёй краіне, нікога не трэба баяцца, трэба толькі вучыцца

спасцігаць тое самае значнае, што далучае людзей да вышынь агульначалавечай і нацыянальнай культуры.

У тым ён бачыў свой самы найпершы настаўніцкі абавязак. І ён з іх рабіў не выдатнікаў вучобы, не паслухмяных зубрылак, а найперш — чалавекаў.

Сказаць такое, вядома, проста — трудней было да таго дадумацца і яшчэ трудней дамагчыся таго. Такое ў праграмах і методыках не дужа распрацавана, гадзіны на гэта на прадугледжаны. І Мароз сказаў, што найперш дамагчыся таго можна толькі ўласным прыкладам у працэсе ўзаемаадносін настаўніка з вучнямі.

Мабыць, мы ўсё ж мала ведаем і кепска вывучаем, чым было наша настаўніцтва для народа на працягу ягонай гісторыі. Духавенства — гэта вядома, тут яшчэ ёсць нейкі малюнак, больш або менш даставерны. Роля папа, ксяндза на кожным гістарычным этапе больш-менш вядома. А вось што зрабіла сельскае настаўніцтва ў нашых школах, што яно значыла для нашай некалі цёмнай сялянскайг краіны ў царскія: часы, пры Рэчы Паспалітай, у вайну, нарэшце, ды і пасля вайны? Гэта цяпер запытай якога падшыванца, кім ён будзе, калі вырасце, і ён скажа табе: інжынерам, урачом, лётчыкам, а то і касманаўтам. Да, цяпер ёсць такая магчымасць. І сапраўды так і бывае аж да касманаўта, уключна. А раней? Калі рос, бывала, харошы хлопчык, добра вучыўся, што пра яго казалі дарослыя? Вырасце — настаўнікам будзе. І гэта была найлепшая пахвала. Не ўсім вартым, вядома, удавалася дабіцца настаўніцкага лёсу, але да гэтага імкнуліся. Гэта была мяжа жыццёвае мары. І правільна. І не таму, што пачотна ці легка. Ці заробкі харошыя — не дай бог настаўніцкага хлеба, ды яшчэ ў вёсцы. Ды ў тыя даўнія часы. Галеча, беднасць, чужыя куткі, вясковая глуш і ў канцы — ранняя магіла ад сухотаў... І тым не менш, скажу табе, не было нічога больш важнага і карыснага, як тая штодзённая, ціхая, непрыкметная праца тысяч бязвесных сейбітаў на гэтай духоўнай ніве. Я так думаю: у тым, што мы ёсць цяпер як нацыя і

грамадзяне,— найпершая заслуга сельскіх настаўнікаў. Хай, можа, я і памыляюся, але так лічу.

І тут, як часта бывае, не абыходзіцца без сваіх энтузіястаў. Мароз быў менавіта адзін з такіх, хто ў гэтым сэнсе зрабіў для людзей найбольш. І зрабіў свядома, часам на свой страх і рызыку, праз труднасці і непрыемнасці. А непрыемнасцяў і розных канфліктаў у яго заўсёды хапала.

Памятаю, паехаў неяк у Сяльцо інспектар з вобласці — праз дзень вяртаецца ў раён абураны і гняўлівы. Аказваецца, чарговы скандал. Не паспеў таварыш інспектар увайсці ў Габрусёў палац, як на верандзе яго атакавалі сабакі. Адзін чорны, на трох лапах, а другі — ваш такі, дробны вяртлівы шчанюк (паліцаі пасля іх пастралялі). Да. Дык пакуль абаранілі інспектара, сабакі і распаласавалі яго калашыну. Ну, Мароз, канечне, прасіў прабачэння, а Ядзя зашывала пану інспектару штаніну, пакуль той сядзеў у пустым класе ў падштаніках. Аказваецца, сабакі былі школьныя. Менавіта так. Не вясковыя, не адкудь з хутара і нават не асабіста настаўнікавы, а агульныя, школьныя. Дзеці недзе знайшлі шчанят, бацькі загадалі ўтапіць, але перад тым у класе чыталі тургенеўскага «Муму», і вось Алесь Іванавіч рашыў пасяліць шчанюкоў пры школе, каб усім па чарзе іх даглядаць. Так у Сяльцы завяліся школьныя сабакі.

А пасля завёўся і школьны шпак. Не мог ляцець у вырай, адстаў увосень ад шпачынае грамадкі, злавілі яго на лузе, мокрага дахадзягу, і Мароз таксама пасяліў яго ў школе. Спярша лётаў па класе, а пасля змайстравалі клетку, але клетку найбольш дзеля таго каб не з'еў кот. Ну, вядома, быў там і кот, сляпое такое бездапаможнае стварэнне, якое нічога не бачыць, а толькі мяўкае, есці просіць.

Тым часам цямнела. Шэрая даўжэзная стужка дарогі, выгінаючыся па пагорках, знікала ў прыцьмелай далечыні. Далягляд ціха марнеў у змрочным тумане, аселі ў вечаровай смузе палі, а лес зводдаль усё болей рабіўся цьмянай глухой паласой. Неба наперадзе, куды

ішла дарога, зусім змеркла, ягоная вышыня над намі замутнелася няпэўпым колерам, толькі заходні небакрай ззаду яшчэ свяціўся залаціста-шэрай смутой. Машыны па шашы ўжо ішлі з уключанымі фарамі, але, як на злосць, усе з горада, нам насустрач. Пасля нікеляванай «Волгі», нас не абагнала ніводная машына. Слухаючы Ткачука, я час ад часу азіраўся назад і яшчэ здалёку згледзеў на шашы дзве кропкі па-вечароваму зыркіх фараў.

— Аўтобус,— сказаў Ткачук з упэўненасцю.

Мабыць, мой спадарожнік быў дальназоркі, бо я на такой адлегласці не мог адрозніць легкавушкі ад грузавой, ён жа разгледзеў, што гэта менавіта аўтобус. І праўда, яшчэ праз нейкі нядоўгі час мы ўжо абодва ўбачылі на шашы вялікі шэры аўтобус, які хутка наганяў нас. Вось ён на момант знік у нябачнай адсюль лагчынцы, каб затым з яшчэ большым імпэтам вынікнуць бліжэй, з-за пагорачка; выразней сталі калючыя агеньчыкі яго фараў і нават стала прыкметна, як цьмяна адсвечваў яго салон. Аўтобус, аднак, замаруджваў ходу, міргнуў адной фарай і стаў, трохі ўзяўшы да абочыны. Ён не даехаў да нас можа метраў з трыста, і мы, раптам падхопленыя надзеяй пад'ехаць, памкнулі абодва насустрач. Я трохі паспешліва сарваўся з месца бягом. Ткачук таксама паспрабаваў бегчы, ды хутка адстаў, але я думаў, што трэба хоць мне паспець — я б пастараўся і для майго спадарожніка.

Бегчы было ўвогуле лёгка, трохі ўніз, падэшвы гучна ляскалі па гладкім уезджаным асфальце, аж забалела ў ступнях. Здавалася, аднак,— не дабяжым, аўтобус вось-вось кранецца, ды пакуль што ён стаяў. З яго нават хтось выйшаў, мабыць, вадзіцель, пакінуўшы расчыненыя дзверцы, абышоў ззаду і там нечым разы два бразнуў. Я ўжо быў зусім блізка і яшчэ болей напяў свае сілы, здалося — дабягу, як вадзіцель ускочыў у кабіну, і аўтобус сарваўся з месца.

Не жадаючы ўсё ж развітвацца з надзеяй, я спыніў бег на асфальце і шалёна замахаў рукой: маўляў, стой, вазьміце ж! Мне нават здалося, што аўтобус

прытармазіў, і тады я зноў кінуўся да яго ледзь не пад самыя колы. Але на хаду адчыніліся дзверцы кабіны вадзіцеля, і праз узнятую аўтобусам віхуру на дарогу вылецела:

— Няма, няма астаноўкі. Чашы далей...

Я застаўся адзін сярод гладкае паласы асфальту, Удалечыні сцішана гудзеў матор камфартабельнага «Ікаруса», зводдаль на пагорачку стрымана маячыла цьмяная постаць Ткачука. «Каб ты спрах, гад!» — вырвалася з душы, як праклён,— трэба ж было падмануць гэтак. Было прыкра, быццам мне ўчынілі якую подласць, хоць я разумеў, што ніякая гэта не подласць і не такое ўжо няшчасце — сапраўды, хіба тут была астаноўка? А калі не было, дык навошта гэтаму міжгародняму хуткаснаму экспрэсу падбіраць усіх валацуг — для таго, мусіць, ёсць аўтобусы мясцовых ліній.

Напэўна, я выглядаў надта маркотным, калі дабрыў да Ткачука, які дачакаўся мяне і спакойна зазначыў:

— Не ўзяў? І не возьме. Яны такія. Раней бы ўсіх сабраў, каб рубля зарабіць. А цяпер зарабіць нельга — кантроль, ну і жме. На злосць быццам сабе і другім.

— Кажа, астаноўкі няма.

— Але ж спыняўся. Мог бы... Ды што там. Я ўжо ў такіх выпадках маўчу: сабе дзешавей абыходзіцца.

Мабыць, ён быў правы: не трэба было спадзявацца — не было б і расчаравання. Значыць, будзем топаць памалу далей. Трошкі, праўда, прытаміліся ногі, але калі мой старэйшы спадарожнік маўчаў, дык і мне, мусіць, належала сябе паводзіць спакойней.

— Але. Дык, значыцца, пра Мароза,— сказаў Ткачук, прадаўжаючы свой перарваны расказ.— Другі раз наведаўся я ў Сяльцо зімой. Маразы стаялі лютыя, памятаеце ж, напэўна, зіму саракавога года. Сады вымярзалі. Пашэнціла, пад'ехаў у санях з нейкім

дзядзькам, ногі закапаў у сена і то змерзлі — думаў, адмарозіў зусім. У школу ледзьве дабег, было позна, вечар, у адным акенцы святло гарыць, пастукаў. Бачу, быццам глядзіць нехта праз замерзлую шыбу, а не адчыняе. Што, думаю, за ліха, ці не шуры-муры якія завёў тут мой Алесь Іванавіч. «Адчыні,— кажу,— гэта я, Ткачук з райана». Нарэшце адчыняюцца дзверы, недзе брэша сабака, уваходжу. Перада мной хлопчык з лямпай у руках. «Ты што тут робіш?» — пытаюся. «Нічога,— кажа.— Чыстапісанне пішу».— «А чаму дамоў не ідзеш? Ці можа Алесь Іванавіч пасля ўрокаў пакінуў?» Маўчыць. «А дзе сам Алесь Іванавіч?» — «Павёў Ленку Удодаву з Вольгай».— «Куды павёў?» — «Дамоў». Нічога не разумею. Чаму трэба вадзіць вучняў дадому? «А што, ён усіх вучняў па дамах разводзіць?» — пытаюся, трохі ўжо злуючыся, вядома, за такую сустрэчу. «Не,— кажа,— не ўсіх. Бо гэтыя малыя, а ім праз лес ісці трэба».

Ну што ж, ладна, думаю. Распрануўся, пачаў трохі грэцца, настрой мой пайшоў угору. Але мінула з гадзіну часу, а Мароза няма. «Дык колькі ж,— пытаюся,— да той іх вёскі?» Кажа: «Вярсты тры будзе». Хай. Сядзім, чакаем. Хлопец у сшытку піша. «А цябе ён пакінуў, мусіць, печку паліць? — пытаюся.— Ты дзе жывеш?» «Тут,— кажа,— жыву. Бо мяне Алесь Іванавіч узяў, а то мой тата б'ецца». Э, вось яно, аказваецца, якая справа. Як бы яна не абярнулася новым клопатам. І, скажу табе, так і выйшла. Як я прадчуваў, так і атрымалася.

Гадзіны праз тры вяртаецца Мароз. Ні стуку, ні крокаў — нічога, здаецца, не было чутно, толькі хлопец мой, Паўлік... Да, да, ты здагадаўся правільна. Іменна Паўлік, Павел Іванавіч, будучы таварыш Міклашэвіч... Тады быў такі чарнавокі, худзенькі, рухавы хлопчык. Дык гэты Паўлік зрываецца, бяжыць цераз клас і адчыняе дзверы. Увальваецца Мароз, увесь заінелы, заснежаны, паставіў у кут свой кіёчак з такой, накшталт казлінае галавы, ручкай. Павіталіся. Тлумачыць сваю затрымку. Аказваецца, такая справа: у маці гэтых дзяўчат штосьці здарылася з каровай, не магла расцяліцца, ну вось і затрымаўся настаўнік, даваў

рады. А дзяўчаты? Ну то простая гісторыя. Пачаліся халады, маці зняла іх са школы, маўляў, кепскі абутак ды і далёка хадзіць. Усё гэта звычайна тады было, але справа ў тым, што дзяўчаты — блізняты, надта слаўныя былі дзеўкі, вучыліся добра, і Мароз разумеў, што гэта значыла для маці-ўдавы (бацька з нямецкай вайны не вярнуўся, забілі пад Гдыняй). Ну дык Мароз, вядома, суцешыў бабу, купіў дзеўкам па пары чаравікаў — сталі вучыцца. Толькі вось як пабольшалі ночы, забаяліся адны хадзіць праз лес, трэба было некаму праводзіць. Звычайна гэта рабіў перарастак Коля Бародзіч, той, што некалі пілаваў з настаўнікам дрэва. Але цяпер Бародзіч не прыйшоў нешта, мусіць, дома якая патрэба здарылася, вось і давялося ісці з малымі самому.

Расказвае ён гэта, а я маўчу. Чорт ведае, што сказаць яму, педагагічна гэта ці не — тут усе нашы педпастулаты паблыталіся. Мароз гэты наогул быў майстра блытаць пастулаты, і я ўжо стаў прывыкаць да гэтай яго рысы. А пра ягонага кватаранта мы тады не дужа і гаварылі. Ён сказаў толькі, што хлопчык пакуль пабудзе ў школе, дома нелады. Ну што ж, думаю, хай. Тым болей такія халады на вуліцы.

І вось праз якіх пару тыдняў выклікаюць мяне да пракурора раёна. Што яшчэ, думаю, за ліха, не любіў я гэтых законнікаў, ад іх заўжды чакай непрыемнасцяў. Прыходжу, там сядзіць нейкі дзядзька ў кажусе, і пракурор — таварыш Сівак — строга гэтак загадвае мне ехаць у Сяльцо і адабраць у грамадзяніна Мароза сына гэтага вось грамадзяніна Міклашэвіча. Я паспрабаваў пярэчыць, ды наткнуўся на адзін аргумент, якім заўжды, бы даўбнёй, біў пракурор: закон! Ладна, думаю, закон дык закон. Селі ў міліцэйскі вазок і з участковым і селянінам пакацілі ў Сяльцо.

Прыехалі пад канец заняткаў, выклікалі Мароза, узяліся яму тлумачыць, у чым справа: пракурор загадаў, на баку грамадзяніна Міклашэвіча закон, трэба вярнуць хлопца. Мароз выслухаў усё моўчкі, паклікаў Паўла. Той убачыў бацьку, сцяўся, як звярок які, блізка не падыходзіць. А тут уся дзятва за дзвярыма,

апранулася, а дамоў не ідзе, чакае, што будзе. Мароз і кажа Паўліку: так і таж, маўляў, пойдзеш дамоў да бацькі. Так трэба. А той ні з месца. «Не пайду,— кажа.— Я ў вас жыць хачу». Ну, Мароз няўмела так, вядома няшчыра, тлумачыць, што жыць у яго больш нельга, што па закону сын павінен жыць з бацькам і ў даным выпадку з мачахай (маці перад тым памерла, бацька ажаніўся з другой, ну і ўсчаліся там нелады з хлопцам — вядомая справа). Ледзь угаварыў хлопца. Той, праўда, заплакаў, але апрануў свой пінжачок, сабраўся ў дарогу.

І вось карціна як сёння стаіць перад вачыма, хоць мінула ўжо... Колькі ж гэта? Мусіць, трыццаць гадоў. Мы стаім на верандзе, дзеці тоўпяцца ў двары, а старшы Міклашэвіч у доўгім чырвоным кажуху вядзе па алейцы да шашы Паўліка.

Атмасфера напружаная, дзятва на нас не пазірае, міліцыянер маўчыць. Мароз проста скамянеў тварам,. Тыя двое адышліся далекавата, так па алейцы, і тут, бачым, спыняюцца, бацька тузае за руку сына, той пачынае вырывацца, але, вядома, не вырвецца. Тады Міклашэвіч знімае аднарўч папругу і пачынае лупіць сына. Не дачакаўся нават, пакуль з чужых вачэй сыдуць. Паўлік ірвецца, плача, дзятва ў двары загаманіла, некаторыя павяртаюцца ў наш бок, у вачах папрок — чагосьчакаюць ад свайго настаўніка. І што думаеце? Мароз рангам як сарвецца з веранды, кульгаючы, цераз двор — туды. «Стойце! — крычыць.— Спыніцеся біць!»

Міклашэвіч і праўда спыніўся, перастаў біць, сапе, зверам пазірае на настаўніка, а той падыходзіць, вырывае Паўлаву руку з бацькавых рук і кажа так з дрыготкаю ў голасе: «Вы ў мяне яго не атрымаеце! Зразумела?» Міклашэвіч раз'ятраны — да настаўніка, але і Мароз, не глядзі што калека, таксама грудзі наперад і гатовы ў бойку. Ну, тут ужо мы падаспелі, разнялі, не далі пабіцца.

Разняць-то разнялі, а далей што? Паўлік уцёк у школу, бацька лаецца і грозіцца, я маўчу. Міліцыянер чакае. Ён

што, ён выканаўчая ўлада. Ну але неяк уціхамірылі мы абодвух. Міклашэвіч пайшоў на шашу, а мы ўтрох асталіся — што рабіць? Тым болей што Мароз адразу ж аб'явіў з уласцівай яму катэгарычнасцю: такому бацьку хлопца не аддам.

Вярнуліся мы з міліцыянерам у раён ні з чым, загад пракурорскі не выканалі. Перадалі ўсю гэтую справу на выканком, назначылі камісію, а бацька тым часам падаў у суд. Да, было клопату і непрыемнасцяў яму і мне — хапіла абодвум. Але Мароз усё ж дабіўся свайго: камісія рашыла перадаць хлопца ў дзетдом. Праўда, з выкананнем гэтага саламонавага рашэння Мароз не спяшаўся і ў тым меў рацыю.

Тут яшчэ трэба ўспомніць пра адну акалічнасць. Справа ў тым, што, як я ўжо гаварыў, школы ствараліся нанова, усяго не хапала. Кожны дзень у раён прыязджалі з вёсак настаўнікі, скардзіліся на ўмовы, прасілі то парты, то дошкі, то дровы, то газу, то паперу і, вядома, падручнікі. Падручнікаў не хапала, мала было бібліятэк. А чыталі здорава, чыталі ўсе: школьнікі, настаўнікі, моладзь. Кнігі даставалі дзе толькі можна было. Мароз, калі прыязджаў у мястэчка, найбольш падступаў да мяне з просьбай: трэба кніжкі. Штокольвечы я, вядома, яму даваў, калі прывозілі, але, зразумела, не шмат. Ды, прызнацца, думаў: школка малая, нашто яму там вялікая бібліятэка? Тады ён узяўся здабываць кніжкі сам.

Кіламетры за тры ад раённага мястэчка, калі ты ведаеш, ёсць такая вёска Княжава. Вёска звычайная, нічога там княжацкага няма, але тады непадалёк быў панскі маёнтак, у вайну пры немцах згарэў. А пры паляках там жыў нейкі багаты пан, пасля яго засталася вялікая бібліятэка. Я там быў неяк, глядзеў,— здаецца, нічога здатнага. Кніг многа, новыя і старыя, але ўсе на польскай ды на французскай мовах. І вось гэты Мароз упрасіў дазволу з'ездзіць туды адабраць што-небудзь для школы.

І ведаеш, яму пашэнціла. Недзе, на гарышчы, здаецца, адкапаў сундук з рускімі кніжкамі, і сярод усяго не

дужа вартаснага — розных там гадавых камплектаў «Нивы», «Мира божьего», «Огонька» — аказаўся эбор твораў Талстога. Мне ён пра тэта не сказаў нічога, у першы выхадны ўзяў у Сяльцы фурманку, вучня, таго пераростка, што пілаваў з ім дрэва,— і зноў у Княжава. Але справа такая: пачалася вясна, дарога раскісла, як на тую бяду паламаўся мост, блізка пад'ехаць да сядзібы неяк. Тады ён пачаў насіць кніжкі цераз раку па лёдзе. Усё ішло добра, ды ў самым канцы, ужо ўпоцемку, праваліўся ля берага. Праўда, нічога страшнага тады не сталася, але намачыў ногі да каленяў і захварэў. Ды здорава захварэў — на цэлы месяц. Запаленне лёгкіх.

Мне сказаў пра тэта прыезджы дзядзька з Сяльца, і вось я ламлю галаву: як быць? Настаўнік хварэе, школу хоць закрывай. Пані Ядзя, памятаю, тады ўжо не працавала, выехала некуды, замены ніякай, во, мусіць, рабятам воля. Ведаю, трэба з'ездзіць туды, ды часу няма — сноўдаю па раёне, арганізую калгасы. І ўсё ж аднаго разу праездам завярнуў у тую алейку. Дай, думаю, праведаю Мароза, ці жывы хаця?

Заходжу у калідор — на вешалцы поўна адзення. Ну, думаю, слава богу, значыць, паправіўся, пэўна, ідуць заняткі. Адчыняю дзверы ў клас — стаяць штук дзесяць парт і — пуста. Што, думаю, за ліха, дзе ж дзеці? Прыслухаўся: недзе быццам размова, ціхая такая, складная, бы моліцца хто. Яшчэ прыслухаўся: зусім дзіва — чую маналог князя Андрэя над Аўстэрліцам. Ведаеш, гэты: «Где оно, это высокое небо, которого я не знал до сих пор и увидел нынче... И страдания этого я не знал также... Да, я ничего этого не знал до сих пор. Но где я?»

Мне таксама здалося: дзе я? Такога я не чуў ужо дзесяць год, а некалі, будучы студэнтам, гэты ўрывак таксама дэкламаваў на літаратурным вечары.

Ціхенька, вядома, адчыняю дзверы — у Марозавай бакоўцы поўна дзяцей — паселі хто дзе: на стале, на лаўках, на падаконніку і на падлозе. Сам Мароз ляжыць на сваёй канапцы, укрыты кажушком, і чытае. Чытае

Талстога. І такая цішыня і ўвага, што муху чуваць. На мяне ніхто не звяртае ўвагі — не чуюць. І я стаю, не ведаю, што рабіць. Першае пачуццё: проста зачыніць дзверы ды ехаць назад.

Але усё ж успомніу, што я — начальства, загадчык райана і адказны за педпрацэс у раёне. Гэта добра — чытаць Талстога, але ж і праграму выконваць трэба. А калі ты ўжо можаш чытаць «Вайну і мір», дык, мусіць, і вучыць можаш? А то чаго ж вучням брысці за столькі кіламетраў у гэта Сяльцо?

Прыкладна так я і сказаў яму, калі мы адправілі вучняў і засталіся адны. А ён кажа, што ўсе тыя праграмы, усе тыя веды, што ён прапусціў з вучнямі за месяц хваробы, не варты дзвюх старонак Талстога. Я дазволіў сабе не пагадзіцца, і мы паспрачаліся.

Тую вясну Мароз вывучаў Талстога, сам перачытаў наскрозь усяго, многае прачытаў вучням. То была навука! Гэта цяпер, знаеш, любы студэнт ці нават старшакласнік, толькі завядзі з ім гаворку пра Талстога ці там Дастаеўскага, адразу табе выпаліць усе іх хібы, памылкі і абмежаванасці. Пра вартасці і значэнне трэба яшчэ дачытацца, а недахопы найперш у кожнага па палічках раскладзены. Наўрад ці хто ведае, на якой гары ляжаў паранены пад Аўстэрліцам князь Андрэй, а заблуджэнні Талстога ў кожнага напералік. А Мароз вось не раскладваў нічога па палічках — проста чытаў вучням і сам убіраў у сябе ўсё спрэс, душой убіраў. Чулая душа — яна выдатна сама разбярэцца, дзе добрае, а дзе так сабе. Добрае ўвойдзе ў яе, як свае, а так сабе — хутка забудзецца. Усё раздзеліцца, як на ветры зерне з мякінаю.

Цяпер я гэта зразумеў выдатна, а тады што ж... Быў малады ды яшчэ начальнік.

Звычайна ў хлапечай кампаніі знаходзіцца нехта адзін, старэйшы ці там разумнейшы, які сваім характерам ці аўтарытэтам хутка падначальвае сабе астатніх. У той школе, у Сяльцы, як мне пасля гаварыў і Міклашэвіч, такім хлопцам стаў іменна Коля Бародзіч. Калі ты

памятаеш, яго прозвішча ішло першым на помніку, а цяпер стала другім пасля Мароза. І гэта правільна. Ва ўсёй гэтай гісторыі з мостам іменна Коля сыграў першую скрыпку. Трагічную, вядома, скрыпку. Але што ж...

Я бачыў яго некалькі разоў, заўжды ён быў поруч з Марозам. Плячысты такі, прыкметны юнак, упартага маўклівага характару. Мяркуючы па ўсім, вельмі любіў настаўніка. Проста быў адданы яму бязмежна. Праўда, я ніколі не чуў ад яго ніводнага слова — заўжды пазірае з-пад ілба і маўчыць, быццам злуецца за што. Было яму ў той час, мабыць, гадоў шаснаццаць, пры паляках, вядома, не дужа вучыўся, у Мароза хадзіў у чацвёрты клас. Да, яшчэ адна дэталь: у саракавым скончыў гэты чацвёрты, далей трэба было падавацца ў НСШ за шэсць кіламетраў у Будзілавічы. Дык ён не пайшоў. Папрасіўся ў Мароза хадзіць другі год у чацвёрты. Абы ў Сяльцо.

Мароз, апроч таго, што вучыў па праграме і наладжваў чыткі кніжак без праграмы, яшчэ займаўся і самадзейнасцю. Мастацкай, вядома. Ставілі, помню, «Паўлінку», нейкія п'ескі, дэкламавалі, спявалі, ну як звычайна. Ну і, вядома, былі ў іх антырэлігійныя нумары, байкі там пра папа і ксяндза. І вось гэтыя нумары, пэўна, камусь не спадабаліся, аб тым уведаў ксёндз у Скрылёве, які ў часе службы на нейкае свята зняважліва сказаў пра настаўніка з Сяльцоўскай школы. Як высветлілася потым, даволі подла абразіў яго за кульгавасць, быццам ён быў у тым вінен. Зрэшты, пра гэта даведаліся пасля. А перш: здарылася вось што.

Неяк аднаго разу сустракае мяне ў сталоўцы пракурор, усё той жа Сівак, кажа, каб зайшоў у пракуратуру. Я ўжо казаў, што страх як не любіў гэтых візітаў, але што ж, не адмовішся, мусіш ісці... І вось, аказваецца, у пракуратуру паступіла скарга ад скрылёўскага ксяндза на злодзея, які ўлез у святы храм і асквярніў алтар, ці як там у іх, католікаў, называецца гэта штуковіна. Нешта напісаў там.

Служкі аднак злавілі асквярніцеля, і ім аказаўся

сяльцоўскі вучань Мікалай Бародзіч. Цяпер ксёндз і група прыхаджан звяртаюцца да ўлады з просьбай пакараць зламысніка і яго настаўнікаў.

Што тут рабіць — зноў разбірацца? Праз тыдзень у Сяльцо выязджае следчы, участковы, нехта з ксяндзоўскага начальства з Гродні. Бародзіч не адмаўляецца: так, хацеў адпомсціць ксяндзу. Але за каго і за што — не гаворыць. Яму кажуць: не прызнаешся па шчырасці — засудзяць, не паглядзяць, што малалетак. «Ну і хай,— кажа,— засудзяць».

І што ты думаеш, чым скончылася? Мароз усю віну ўзяў на сябе, давёў начальству, быццам усё гэта вынік яго не зусім прадуманага выхавання. Ездзіў некуды ў цэнтр, хадайнічаў — і хлопца пакінулі ў спакоі. І ксяндзы адвязаліся. Ну ці трэба казаць, што пасля гэтага не толькі школьнікі з Сяльца, але і сяляне з усяе акругі сталі глядзець на Мароза, як на якога заступніка. Што ў каго было цяжкага ці незразумелага — усе да ято цягнуліся ў школу. Цэлы кансультацыйны пункт адкрыў па розных пытаннях. Але не толькі тлумачыў ці даваў парады, яшчэ і клопату хапала самаму. Кожную вольную хвіліну — то ў раён, то ў Гродна. Во па гэтай самай шашы — на фурманках ці выпадковых, не частых тады машынах, а то і пешкі. І гэта кульгавы чалавек з кійком. І не за грошы, не па абавязку — так проста. Па прызванню вясковага настаўніка.

Знайдзі цяпер такога настаўніка.

Відаць, мы пратупалі па гэтай шашы гадзіну, калі не больш. Стала зусім ужо цёмна. Зямля асела ў змрок, туман заснаваў нізіны, хвойны лес непадалёк ад дарогі зачарнеўся няроўным зубчастым грабянём на светлаватым закрайку неба, на якім адна за другой запальваліся нанач зоркі. Было ціха, не сцюдзёна, хутчэй свежавата і дужа прывольна на апусцелай увосень зямлі, трошкі пахла свежай раллёй з палёў, таксама пылам, нафтай і асфальтам. Я слухаў Ткачука і падсвядома ўбіраў у сябе ўрачыстую веліч ночы, неба, дзе над соннай зямлёй пачыналася сваё, незразумелае, вечнае і недасяжнае начное жыццё. На небасхіле збоч

ад дарогі ўжо выразна і спакойна гарэлі сем зор Вялікай Мядзведзіцы, над імі мільгаў коўшык Малой з Палярнай у хвасце, а наперадзе, якраз над шашой, тоненька і востра бліскала зорка Рыгеля, нібыта штэмпель на ражку срабрыстага канверціка Арыёна. І мне міжвольна падумалася: якія ўсё ж нікчэмныя ў сваім ненатуральным прыгостве грэчаскія міфы, хоць бы во і пра гэтага прыгажуна Арыёна, каханага багіні Эос, якога забіла ад рэўнасці другая багіня, Арцяміда. Тым не менш оперна-балетная смерць гэта ўражвае і чаруе чалавецтва на працягу тысяч гадоў ягонай гісторыі. Мусіць бы, і ў наш час кожны згадзіўся на яго месцы на такую ягоную смерць і асабліва на яго касмічнае бяссмерце ў выглядзе гэтага туманістага сузор'я на краі зіхоткага начнога неба. На жаль, гэта недаступна нікому. Міфалагічныя смерці так мала падобны на нашы зямныя, як опера на само жыццё, хоць бы вось і ў тым самым Сяльцы, аб якім цяпер, нанова перажываючы ўсё, расказваў побач Ткачук.

— І тут — вайна.

Знаеш, колькі мы да яе ні рыхтаваліся, як ні мацавалі абарону, колькі ні чыталі і ні думалі пра яе, а абрушылася яна нечакана, як бура ў ясны дзень. Праз тры дні ад пачатку, якраз у сераду, тут ужо былі немцы. Мясцовыя каторыя, тутэйшыя сяляне — тыя ўжо, знаеш, прывыклі за свой век да частых мінтрэг: як-ніяк, пры адным пакаленні трэцяя змена ўлады. Прывыклі, нібы так і павінна быць. А мы — усходнікі. Гэта было такое няшчасце — ці ж мы думалі калі, што на трэці дзень акажамся пад немцам! Памятаю, прыйшоў загад арганізаваць знішчальны атрад, каб лавіць нямецкіх дыверсантаў і парашутыстаў. Я кінуўся збіраць настаўнікаў, аб'ездзіў шэсць школ, у абед на ровары прыкаціў у раён, а там пуста. Кажуць, толькі што пакідалі ў палутарку свае бэбахі і пакацілі на Мінск, шашу, маўляў, ужо перарэзалі немцы. Я спярша не паверыў. Калі немцы, дык павінны ж недзе адступаць нашы, ці што. А то нашых з пачатку вайны тут ніхто ніводнага салдата не бачыў. Але тыя, што казалі так, не падманвалі — пад вечар у мястэчка напраўду ўкаціла

штук шэсць вяздзеходаў на гусеніцах, і ў іх паўнютка самых сапраўдных фрыцаў.

Я ды яшчэ тры хлопцы — двое настаўнікаў і інструктар з райкома — гародамі шмыганулі ў жыта, праз яго ў лес і падаліся на ўсход. Тры дні ішлі — без дарог, праз балоты ля Нёмана, некалькі разоў пападалі ў такія перадзелкі, што не пажадаеш злодзею, думалі — каюк. Настаўніка аднаго, Сашу Крупеню, параніла ў жывот — што рабіць? А дзе фронт — чорт ведае, не дагоніш, відаць. Ужо, кажуць, і Мінск пад немцам. Бачым, не пройдзем, папрападаем усе. Заставацца — а дзе? У чужых людзей не дужа спадручна, ды і як папросішся? Рашылі вяртацца назад, усё ж у сваім раёне хоць людзі знаёмыя. За паўтара года пёразнаёміліся з рознымі.

І тут, знаеш, аказалася, што кепска ўсё ж мы зналі гэтых людзей. Колькі было гаворак, сустрэч, нават і за чаркай сядзелі, здавалася, усе добрыя, харошыя, шчырыя людзі. А на справе аказалася трошкі не так. З раненым прывалакліся ў Стары Двор — хутары такія пры лесе, у баку ад дарог, немцаў быццам яшчэ і не было тут. Ну, думаю, самае месца перасездзець якіх пару тыдняў, пакуль нашыя турнуць немцаў. На болей тады не разлічвалі — што ты! Каб хто сказаў, што вайна на чатыры гады зацягнецца, яго б панікёрам або правакатарам палічылі. Крупеня тым часам ужо даходзіць, далей ісці нельга. І я ўспомніў, што ў Старым Двары ў мяне знаёмы, актывіст, граматны такі чалавек, Усолец Васіль. Некалі начаваў у яго пасля сходу, пагаварылі тады ўсмак, спадабаўся чалавек: разумны, гаспадарлівы. І жонка, маладжавая такая кабетка, гасцінная, чысценькая, не як некаторыя. Грыбкамі салёнымі частавала. У хаце кветак поўна — усё застолле імі застаўлена. Ну, дык мы позна ноччу і заявіліся да гэтага Усольца. Так і так, трэба памагчы, паранены і так далей. І што, думаеш, наш знаёмец? Выслухаў і на парог не пусціў. «Кончылася тут,— кажа, — ваша ўласць!» І так ляснуў дзвярыма, што з падстрэшша пасыпалася.

Прытуліла нас на тым часе простая такая цётка — трое

дзяцей малых, старэйшы хлопчык глуханямы, муж у войску. Як даведалаея, што паранены (перад тым мы да другой сям'і ў крайнюю хату зайшлі), як дазналася, хто такая,— забрала ўсіх да сябе, бедалагу Крупеню абмыла, накарміла курыным булёнчыкам ды схавала пад снапамі ў пуньцы. І ўсё памятаю вохкала: можа ж і мой дзе, бедненькі, так мучыцца! Бо — любіла свайго бедненъкага, а, гэта, браце, заўжды нешта значыць. Ну, а Крупеня праз тыдзень памёр, не памог і курыны булёнчык: заражэнне пачалося. Цішком закапалі ноччу на краі могілак. Што рабіць далей? Пасядзелі яшчэ тыдзень у цёткі Ядвігі, і я пачаў намацваць сякіх-такіх партызан. Мусіць, думаю, павінны быць дзе нашыя. Не ўсе ж на ўсход паўцякалі. Без партызан ні адна вайна ў нас не абыходзілася — колькі аб тым кніжак напісана.

А знаеш, натрапіў-такі на групу акружэнцаў, чалавек трыццаць. Камандзір над усімі маёр Селязнёў, з кавалерыстаў, рашучы такі мужык, родам кубанскі, майстра вылаяцца ў сем паверхаў, накрычаць, нават прыстрэліць пад гарачую руку мог. А ўвогуле справядлівы. І што цікава: ніколі не ўгадаеш, як ён да цябе паставіцца, якім бокам. Толькі што гразіўся кулю ў лабаціну загнаць за ржавы затвор вінтоўкі, а праз гадзіну ўжо аб'яўляе табе падзяку за тое, што на пераходзе першы хату ўбачыў, дзе была магчымасць падсілкавацца. А пра затвор ён ужо і забыўся. Такі быў чалавек. Спярша ён мяне здзіўляў, пасля — нішто, прывык да гэтага яго кавалерыйскага нораву. У сорак другім пад Дзятлавам ішоў першым па сцежцы, за ім ад'ютант Сёма Царыкаў ды астатнія. І трэба ж— нейкі паліцай са страху пальнуў раз ад моста і прама камандзіру ў сэрца. Во табе і лес. У колькіх страшных баях удзельнічаў — і нічога. А тут адна за ўсю ноч куля і — у камандэіра.

Да, Селязнёў быў мужык асаблівы, але, знаеш, не без галавы. На ражон не пёр, як некаторыя. Заядлы болей на словах, а так нішто — думаў. Першыя пару месяцаў пасядзелі ў лесе, на Воўчых ямах — так мясціна тая называецца за Якімаўскай леснічоўкай. Пасля ўжо, у сорак трэцім, як мы перайшлі ў пушчу, там атабарылася

Кіраўская брыгада. А тады, на пачатку, гэтыя ямы мы абжывалі. Здатнае, скажу табе месца: лес, балота, а там то пагоркі, то ямы, увалы — чорт нагу зломіць. Ну, пагрэліся крыху ў зямлянках, абвыкліся з лясным жыццём. Не ведаю, ці падказаў хто, ці маёр сам дайшоў, што вайна не на некалькі месяцаў — мабыць, наболей прадоўжыцца — і што без мясцовых яму не абысціся. Таму і прыняў у свае кадравае войска мяне і яшчэ некаторых: начальніка міліцыі з Пружан, студэнта аднаго, старшыню сельсавета з сакратаром. А на Кастрычніцкія святы і пракурор наш, таварыш Сівак, заяўляецца, таксама да фронту не дайшоў, вярнуўся. Спярша радавым быў, а пасля начальнікам асобаддзела паставілі. Ну але гэта пасля ўжо, пад восень, як Селязнёва не стала. А тады рашылі, што пакуль ціха, трэба агледзецца ды наладзіць сякія-такія сувязі з вёскамі, аднавіць знаёмства з надзейнымі людзьмі, памацаць на хутарах акружэнцаў, каторыя да маладзіц паўладкоўваліся. Перш-наперш разаслаў маёр усіх мясцовых, тутэйшых,— а такіх чалавек з дванаццаць тады ўжо назбіралася,— каго куды. Мяне з пракурорам, вядома, у былы наш раён. Рызыка тут нам, ведама, была большая, чым дзе ў другім месцы,— усё ж многа людзей тут нас ведалі, маглі апазнаць. Але затое і мы ведалі болей і трохі арыентаваліся ўжо, каму даверыцца, а каму не. Ды і выгляд наш быў не ранейшы, не адразу пазнаеш — абраслі барадамі, абадраліся. Пракурор у чорным чыгуначным шынялі, я ў армяку і ботах. У абодвух хатулі за плячыма. Як жабракі якія.

Найперш рашылі зайсці ў Сяльцо.

Не ў маёнтак, вядома, а ў вёску, там праз паўвярсты якіх — ты ж, мабыць, ведаеш, цераз аселіцу. У вёсцы ў пракурора быў знаёмы адзін, былы актывіст, дэпутат сельсавета, дык мы да яго і кіравалі. Але спярша, знаеш, дзеля асцярогі зайшлі ў адну хату на Грынёўскіх хутарах — во тую, што пасля вайны заўмаг з Рандуліч адкупіў ды ля сельмага паставіў. Гаспадыня ў Польшчу выехала, гады тры хата стаяла пустая, дык заўмаг і купіў. А ў вайну там жылі тры дзеўкі пры маці, нявеста — сынава жонка (сын у польска-германскую вайну

прапаў, пасля аж у Андэрса аб'явіўся). Дык пакуль мы гэта анучы сушылі, дзеўкі нам усё і расказалі. І пра навіны ў Сяльцы. Аказваецца, добра зрабілі, што перш зайшлі да гэтых палячак, а то б не мінуць бяды. Справа ў тым, што гэты пракурорскі знаёмец ходзіць ужо з белай павязкай на рукаве — паліцаем стаў. Пакрактаў мой пракурор ад такой навіны, а я, прызнацца, парадаваўся: было б горш, каб мы адразу ды сунуліся ў паліцаевы рукі. Але неўзабаве прыйшла і да мяне чарга паздзіўляцца ды заклапаціцца — калі я спытаў пра Мароза. Кажа нявестка: «Мароз усё ў школе робіць».— «Як робіць?» — «Дзяцей,— кажа,— вучыць». Аказваецца, тых самых сваіх пацаноў пазбіраў па вёсках, немцы далі дазвол адкрыць школу, ну і вучыць. Праўда, ужо не ў Габрусёвым палацы — там цяпер паліцэйскі засценак,— а ў адной хаце ў Сяльцы.

Вось дык метамарфоза! Ад каго другога, а ад Мароза такога я не чакаў. Каб працаваць пры немцах?! А тут і пракурор выказваецца ў тым сэнсе, што даўно трэба было гэтага Мароза рэпрэсіраваць — не наш чалавек. Я маўчу. Думаю, думаю і ніяк не магу пагадзіцца, што Мароз — нямецкі настаўнік. Сядзім ля грубкі, глядзім у агонь і маўчым. Што рабіць? Называецца, наладзілі сувязі. Адзін — паліцай, другі — нямецкі служачы, харошыя мы кадры падрыхтавалі за два гады ў раёне.

І знаеш, думаў я думаў і надумаўся схадзіць усё ж уначы да Мароза. Няўжо, думаю, ён прадасць мяне? Ды я яго, калі так, гранатай узарву. Вінтоўкі не было, а граната была. Селязнёў забараніў браць з сабой зброю, але гранату я ўсё ж прыхапіў на які прыкры выпадак.

Пракурор адгаворваў, але я не здаўся. Мусіць, такі ўжо характар з маленства. Чым болей мне што даводзяць насуперак, тым болей мне хочацца па-свойму зрабіць. Не дужа гэта спрыяе ў жыцці, але што ж. Праўда, пракурор тут ні пры чым. Проста баяўся за мяне, думаў, як бы не прыйшлося аднаму вяртацца.

Дзеўкі расказалі, як знайсці Мароза. Трэцяя хата ад калодзежа, з падворка ганак. Жыве ў старой бабулі. Цераз вуліцу ў другой хаце ягоная школа.

Сцямнела — пайшлі. Дожджык цярушыць, гразнота, вецер. Нешта пачатак лістапада, а халадэча сабачая. Дамовіліся з напарнікам, што я зайду, а ён мяне пачакае ў загуменні ля кусцікаў. Чакаць будзе гадзіну. Не прыйду — значыць, справа кепская, нешта здарылася. Ну але, думаю, за гадзіну ўпраўлюся. Ужо я разгадаю душу гэтага Мароза.

Так пракурор застаўся за пунькай, а я ўзмежкам — да хаты. Цёмна. Ціха. Адно дождж большае ды шамаціць па саломе на страхах. За плотам вобмацкам дабрыў да варотцаў на падворак, паспрабаваў расчыніць, а яны дротам завязаныя. Я так і гэтак — нічога не выходзіць. Трэба цераз плот пералазіць, а плот высакаваты, слізкі. Наступіў ботам ды як пакаўзнуўся, грудзьмі аб жардзіну, тая хрась напалам, а я носам у гразь. І тут сабака. Так заліўся брэхам, што я ляжу ў гразі, баюся крануцца і не ведаю, што лепей: уцякаць або клікаць каго.

Але, чую, нехта выходзіць на ганак, бразнуў дзвярыма, слухае. Пасля пытаецца ціха так: «Хто тут?» І да сабакі: «Гулька, прэч! Прэч, Гулька!» Ну ведама, гэта ж школьны сабачка, той трохлапы, што некалі інспектара ўкусіў. А чалавек — Мароз, знаёмы голас. Але як адазвацца? Ляжу і маўчу. А сабака зноў у брэх. Тады ён сыступае з ганка, кульгаючы так (чутно па гразі: чу-чвяк) ідзе да плота.

Устаю і проста кажу: «Алесь Іванавіч, гэта я. Былы твой загадчык». Маўчыць. І я маўчу. Але што тут рабіць — назваўся дык, мусіць, трэба вылазіць. Устаю, пералажу плот. Мароз ціха так: «Тут лявей трымайся, а то карыта ляжыць». Уціхамервае сабаку і вядзе мяне ў хату.

У хаце гарыць капцюшка, акно занавешана, на табурэтцы раскрыта кніжка. Алесь Іванавіч падстаўляе табурэт бліжэй да печы. «Сядайце. Пальто зніміце, хай сохне».— «Нічога,— кажу,— паліто маё яшчэ высахне». — «Есці хочаце? Бульба ёсць».— «Не галодны, еў ужо». Адказваю быццам спакойна, а ў самога напружанне ў нервах — да каго трапіў? А ён нішто, спакойны, быццам мы толькі ўчора разышліся: ніякіх пытанняў, ніякай

няёмкасці. Хіба толькі залішні клопат у голасе. І погляд не такі адкрыты, як быў раней. Бачу, няголены, мусіць, дзён пяць — русявая бародка на твары.

Сяджу мокры, не знімаючы армяка, і ён урэшце прысеў на лаўцы. Капцюшку паставіў на табурэт. «Як жывем?» — пытаюся.— «Ведама як. Кепска».— «А што такое?» — «Усё тое ж. Вайна».— «Аднак, чуў, на табе гэта мала адбілася. Усё вучыш?» Ён кісла, адным бокам твару, усміхнуўся, паўзіраўся ўніз на капцюшку.— «Трэба вучыць».— «А па якіх праграмах, цікава? Па савецкіх ці па нямецкіх?» — «Ах, во вы пра што!» — кажа ён і ўстае. Пачынае хадзіць па хаце, а я незнарок, пільна так сачу за ім. Маўчым абодва. Пасля ён спыняецца, нядобра зырае на мяне і кажа: «Мне некалі здавалася, што вы — разумны чалавек».— «Магчыма, і быў разумны».— «Дык не задавайце тады неразумных пытанняў».

Сказаў, як адрэзаў, і змоўк. І, ведаеш, мне стала трохі не па сабе. Адчуў, што, мабыць, даў маху, змарозіў глупства. Сапраўды, як я мог сумнявацца ў ім! Ведаючы, як ён тут жыў і чым быў раней, як можна было падумаць, што ён у тры месяцы перарадзіўся. І, знаеш, я адчуў без слоў, без запэўнення і бажбы, што ён наш — чэсны, харошы талавек.

Але ж гэтая школа! І з дазволу нямецкіх улад...

«Калі вы маеце на ўвазе маё цяперашняе настаўніцтва, дык адкіньце вашы сумненні. Благому я не вучу. А школа патрэбна. Не будзем вучыць мы — будуць абалваньваць яны. А я не затым тут два гады ачалавечваў гэтых рабят, каб цяпер іх расчалавечылі. Я за іх яшчэ пазмагаюся. Наколькі змагу, вядома».

Так ён гаворыць, шкандыбаючы па хаце, і не глядзіць на мяне. А я сяджу, грэюся і думаю: а што, калі ён і сапраўды правы? Немцы ж таксама не дрэмлюць, сваю атруту ў мільёнах лісткоў і газет сеюць па гарадах і вёсках, сам бачыў, чытаў штокольвечы. Так складна пішуць, так зманліва хлусяць. І нават партыю сваю як назвалі: нацыяналсацыялісцкая рабочая партыя. І быццам гэтая партыя змагаецца за інтарэсы германскай

нацыі супраць капіталістаў, плутакратаў, яўрэяў ды бальшавіцкіх камісараў. А моладзь ёсць моладзь. Яна, брат, як малеча на дыфтэрыт: заразлівая на розныя незразумелыя штучкі. Старэйшыя — тыя ўжо разумеюць такія хітрыкі, рознага нагледзеліся ў жыцці. А маладзейшым?

«Цяпер усе хапаюцца за зброю,— кажа Мароз і ўсё ходзіць па хаце.— Патрэба ў зброі, як, мусіць, і заўжды ў вайну, стала большая за патрэбу ў ведах. І гэта зразумела: ўвесь свет узброіўся. Але каторым патрэбна вінтоўка, каб страляць у немцаў, а каторым — каб перад сваімі выпендрывацца. Але ж перад сваімі зброяй фарсіць куды больш бяспечна ды і прымяніць яе можна беспакарана, вось і знаходзяцца, што ідуць у паліцыю. Думаеце, усе разумеюць, што гэта значыць? Далёка не ўсе. Не задумваюцца многія, што будзе далей. Як далей жыць. Ім бы толькі атрымаць вінтоўку. Вунь у раёне ўжо і паліцыю набіраюць. І з Сяльца двое туды падаліся. Што з іх будзе — не цяжка сабе ўявіць».

І гэта праўда, думаю сабе. Але ўсё ж такі гэты Мароз добраахвотна працуе пад нямецкай уладай. Як тут быць?

І раптам, памятаю добра, падумалася неяк само сабой: ну і хай! Хай працуе. Не важна дзе — важна як. Хоць і пад нямецкім кантролем, але, напэўна, ужо ж не на немцаў. На нас працуе. Можа не так на наша цяперашняе, дык на наша будучае. Бо будзе ж і ў нас будучае. Павінна быць. Іначай навошта тады і жыць? Адразу галавой у прорву і — канец.

Але, аказваецца, Мароз гэты працаваў не толькі дзеля будучага.

Гадзіна, мусіць, ужо мінула, я пабаяўся за пракурора, выйшаў паклікаць яго. Той спярша ўпіраўся, не хацеў ісці, але сцюжа даняла, пабрыў следам. Павітаўся з Марозам стрымана, не адразу ўключыўся ў размову. Але спакваля асмялеў. Яшчэ пагаварылі, затым распрануліся, сталі сушыцца. Марозава бабка нешта паставіла на стол, і нават бутэлечка, мутнай, праўда,

знайшлася.

Так парадкам мы пасядзелі тады, пагаварылі па шчырасці аб усім. І трэба сказаць, мабыць, тады ўпершыню я адкрыў, што Мароз гэты — не нам раўня, разумнейшы за нас абодвух. Вось так здараецца, што калі часам усе робяць разам, па адных правілах, дык здаецца тады, што і на розум усе аднолькавыя. Але калі жыццё развядзе па сваіх розных сцежках, ва ўсе бакі і раптам неспадзявана нехта вырываецца, вылучаецца ад іншых, тады мы здзіўляемся: глядзі, а быў як усе. Здаецца, і не разумнейшы за іншых. А як падскочыў.

Вось тады і я так адчуў, што Мароз сваім розумам бярэ шырай за нас, глыбей. Пакуль мы шасталі па лясах ды дбалі аб самым надзённым — пад'есці, перахавацца, узброіцца ды якога немца падстрэліць,— ён думаў, паглыбляўся, асэнсоўваў гэту вайну. Ён і на гэтую акупацыю глядзеў як бы знутры і бачыў такое, што мы не заўважылі. Галоўнае, ён яе болей маральна адчуваў, з духоўнага боку, ці што. І знаеш, нават пракурор мой гэта адчуў. Калі мы ўжо добра нагаварыліся, зусім зблiжэлі адзін да аднаго, я і кажу Марозу: «А можа кідай усю гэту шарманку ды айда з намі ў лес. Партызаніць будзем». Памятаю, Мароз насупіўся так, зморшчыў лоб, а пракурор тады і кажа: «Не, не трэба. Які з яго, кульгавага, партызан! Ён тут нам болей патрэбны». І Мароз з ім пагаджаецца: «Цяпер, мусіць, мне тут болей да месца. Усё ж мяне тут кругом ведаюць, памагаюць. Хіба калі ўжо нельга будзе...»

Ну і я пагадзіўся. Сапраўды, нашто ўсім у лес? Ды яшчэ з такою нагой. Мусіць, і нам выгадней мець свайго чалавека ў Сяльцы.

Во так мы тады пагасцявалі ў яго і са спакойнай душой развіталіся. І скажу табе, гэты Мароз стаў для нас самым дарагім памагатым з усіх нашых памагатых у вёсках. Галоўнае, як пасля аказалася, прыёмнік дастаў. Не сам, вядома,— мужыкі перадалі. Так яго паважалі ў вёсках, так лічыліся з ім, што, як і раней, не да папа ці ксяндза ішлі з чым благім ці харошым, а да яго. І калі во недзе аказаўся гэты прыёмнічак, дык найперш перадалі

настаўніку свайму Алесю Іванавічу. А той паціхеньку пачаў яго пакручваць у асеці. Увечары, бывала, раскіне антэну на грушыне і слухае. А затым запіша, што чуў. Галоўнае — зводкі Саўінфармбюро, на іх быў самы вялікі попыт. У нас у атрадзе нічога не мелі, а ён во — займеў. Селязнёў, праўда, як дазнаўся, дык хацеў адабраць для сябе, але перадумаў. У нас бы тыя навіны чалавек трыццаць пяць слухала, а так уся акруга карысталася імі. І зрабілі так, што разы два ў тыдзень Мароз перадаваў зводкі ў атрад — была там каля леснічоўкі такая дуплянка на хвоі, туды ягоныя хлопцы клалі, а нашыя забіралі ўначы. Памятаю, сядзелі мы тою зімою па сваіх ямах, усё скрозь пазамяло снегам, халадэча, глухата, са жратвой тугавата, і толькі радасці, што гэтая Марозава пошта. Асабліва калі немцаў з-пад Масквы пагналі — кожны дзень тады бегалі да яліны... Стой, здаецца, хтось едзе...

З начной цемрадзі ззаду праз лёгкія павевы свежага ветру данёсся знаёмы пошчак конскіх капытоў, бразнулі цуглі. Колаў, аднак, не было чутно на гладкім, падмеценым аўтамабільным віхрам асфальце. Цёмная восеньская ноч ужо зусім ахінула зямлю, толькі наперадзе, куды імкнула шаша, разрознена ззялі электрычныя агні недалёкай прыдарожнае вёскі Будзілавічы. З-за пагорка ад яе жвава стрыглі ў небе стромкія ножніцы святла з фараў.

Мы прыпыніліся, крыху счакалі, і сапраўды з ночы, пастукваючы падковамі, вытупаў ціхі рахманы конік з адзінокім седаком у возе, які лена патузваў лейцамі. Згледзеўшы нас двух на ўзбочыне, возчык насцярожыўся, углядаючыся і чакаючы якога пытання.

— Во хто нас падвязе,— без прывітання лёгка сказаў Ткачук.— Мусіць жа, пусты, га?

— Пусты. Мяхі адвозіў,— глухавата пачулася з воза.— А вам далёка?

— Ды ў горад. Але хоць бы да Будзілавіч давёз.

— Ну, гэта можна. Якраз у Будзілавічы еду. А там на

аўтобус сядзеце. У дзевяць аўтобус. Гродзенскі. Цяпер каторая?

— Без дзесяці восем,— сказаў я, так-сяк разгледзеўшы стрэлкі свайго гадзінніка.

Фурманка спынілася. Ткачук, крэкнуўшы, узлез на яе, я прыткнуўся ззаду. Сядзець тут было не надта каб зручна, нешта муляла на голых са смеццем дошках, але я ўжо не хацеў адставаць ад майго спадарожніка, які з салодкаю зморай уздыхнуў і звесіў цераз край ногі.

— А ўсё ж, знаеш, замарыўся. Што значыць — гады. Эх, гады, гады...

— А здалёк ідзяцё? — спытаў возчык. Мяркуючы па яго глухаватым голасе, быў ён таксама не маладога ўжо веку, паводзіў сябе зважліва і як бы чагось чакаў.

— З Сяльца.

— А, дык з пахавання, мусіць?

— З пахавання,— коратка пацвердзіў Ткачук.

Возчык патузваў лейцамі, конь рушыў барзджэй — дарога кіравала ўніз. Насустрач, па той бок змрочнай, без аніводнага аганька шырокай нізіны, усё джгала здалёк стромкае святло аўтамабільных фараў.

— Да, малады быў яшчэ чалавек, настаўнік гэты. Ведаю добра. Залетась у горадзе ў бальніцы разам ляжалі.

— З Міклашэвічам?

— Ну. У аднэй палаце. Яшчэ ён усё нейкую тоўстуюкніжку чытаў. Калі дык і ўслых. Вот забыўся таго пісацеля... Помню, пісалася там, што калі няма бога, дык няма і чорта, а значыцца, няма ні раю, ні пекла, значыцца, усё можна. І забіць, і палілаваць. Во як. Хаця ён казаў, што гэта гледзячы як разумець. Гледзячы на каго.

— Дастаеўскі,— кіўнуў Ткачук і сказаў возчыку: — Ну а

ты, напрыклад, як разумееш?

— Ды я што! Я цёмны чалавек, тры класы абразавання. Але так мяркую, што трэба, каб нешта было ў чалавеку. Шрубка якая. А то без шрубкі дрэнь справа. Вунь у горадзе трое наскочылі на хлопца з дзеўкай, чуць шкоды не зрабілі. Віцька наш, хлопец з Будзілавіч, умяшаўся, дык сам цяпер у бальніцы трэці тыдзень ляжыць.

— Пабілі?

— Не сказаць каб набілі — усяго адзін раз ударылі кісцянём па скроні. Але і ад яго нехта дастаў. Злавілі — знатны бандзюга аказаўся.

— Гэта харашо! — ажывіўся Ткачук.— Глядзі, не спужаўся. Адзін супраць трох. Калі гэта было ў вашых Будзілавічах?

— Ну, у Будзілавічах можа і не было...

— Не было, не было. Знаю я вашыя Будзілавічы — бедная веска. Выселкі. Цяпер што, цяпер іншая справа:пад шыфер ды гонту ўбраліся, а ці даўно яшчэ на стрэхах мох зелянеў! Гэткая вёска пры бруку, і што дзівіла мяне — ніводнага дрэўца! Як у Сахары якой. Сапраўды, зямля — адзін пясок. Помню, неяк зайшоў — расказалі гісторыю. Аднаго будзілаўчаніна галадуха па вясне прышчаміла, дайшоў на крапіве, ну і надумаў па дарозе разжыцца. Ноччу падпільнаваў аднаго прахожага ды і стукнуў абушком. Вунь цяпер яшчэ на ваколіцы ля каменя крыж стаіць. Аказаўся жабрак з пустой торбай. А гэты катаргу атрымаў, так з Сібіры і не вярнуўся. А цяпер,глядзі ты — кавалер які знайшоўся ў Будзілавічах. Рыцар.

— Ну.

— А куды ў школу хадзіў? Не ў Сяльцо?

— Да пятага класа ў Сяльцо.

— Ну во бачыш,— шчыра ўзрадаваўся Ткачук.— У

Міклашэвіча, значыць, вучыўся. Я так і ведаў. Міклашэвіч умеў вучыць. Яшчэ тая закваска, адразу відно.

«Што праўда, то праўда,— падумаў я.— Пэўна відаць: пашэнціла гэтаму Сяльцу на настаўнікаў, дай бог на болей такіх».

— А ён, гэты Віктар ваш, хто? Робіць дзе? — яўна зацікаўлены павярнуўся да возчыка Ткачук.

— Ды малады яшчэ. На настаўніка вучыцца.

— Малайчына. Вось бы і яго ў тое Сяльцо. На змену. Трэцяе пакаленне, брат, ідзе... Хаця гэты з вышэйшай у пачатковую не пойдзе. Калі талковы, у горадзе засядзе: аспірантура, кандыдантура і так далей.

Апошнія словы Ткачука прагучалі са шкадаваннем, і мне раптам таксама дужа захацелася, каб гэты незнаемы Віктар сапраўды трапіў у Сяльцо. Увогуле гэта было б здорава. Хоць, зрэшты, хіба так важна, куды накіруюць будучага настаўніка.

— Знаеш, я дык не згодны,— натрапіўшы на нешта сваё, пачаў рязважаць Ткачук.— Навука навукай, але і чорную работу рабіць траба. Калі разабрацца, дык яна, можа, яшчэ важней за навуку. А то як толькі дзе хто аб'явіцца лепшы, дык адразу яго ў навуку.. Зноў жа, і прабіўныя, тых ад яе за вушы не адцягнеш. А кандыдата атрымаў — і не чухаецца. Усё жыццё казну доіць. А запытай: каму яна патрэбна, тая іх педнавука? У той жа час паглядзі ў школах: рэдка дзе прашмыгне мужчына. Скрозь жанчыны. Я нічога не маю проці жанчын, ёсць і сярод іх слаўныя настаўніцы. Але ж настаўніца для дзяўчат, для малых яшчэ куды ні гадзіцца, а для падлеткаў? Ды і для старэйшых мужык патрэбны. Бо што жанчына: у яе самой дзеці, гаспадарка, муж, сталаванне, уборы-прыборы. Вучням яна дай бог калі выдзеліць які мінімум. А ім, брат ты мой, калі хочаш харошым быць, аддай усяго сябе. Тады ты для іх станеш ідэалам, прыкладам, з якога робяць жыццё. Во як той Сухамлінскі з Паўлыша або як Макаранка быў. А

прападаваццеляў розных прадметаў яны і ў грош не цэняць. Цяпер між іх саміх такія знаўцы водзяцца, што не горш за настаўніка разбяруцца. І ў матэматыцы, і ў літаратуры.

Машыны хутка ляцелі насустрач і яшча здадёку асляпілі нас зіхоткім патокам промняў. Возчык рупна збочыў з фурманкай, конік запаволіў хаду, і яны з ровам прамчаліся міма, сцебануўшы па возе шчэбенем з-пад колаў. Стала зусім цёмна, і з паўхвіліны мы слепа ехалі ў гэтую цемрадзь, не бачачы дарогі і даверыўшыся каню. Ззаду па шашы хутка аддаляўся, меншаў магутны нутраны гул дызеляў.

— Дарэчы, вы не даказалі... Дык як яно тады з Марозам абышлося? — напомніў я Ткачуку.

— Ге, каб жа абышлося. Тут доўгая яшчэ гісторыя. Ты, дзед, Мароза не ведаў? Ну, настаўніка з Сяльца? — звярнуўся ён да нашага возчыка.

— Таго, што тады ў вайну?.. А як жа! Яшчэ манго племяша разам загубілі.

— Гэта каго?

— А Барадзіча. Гэта ж пляменнік мой. Сястры роднай сын. Як жа, ведаю...

— Дык во я таварышу ўсю гэту гісторыю расказваю.

— Ты то ведаеш, значыць? А то можаш дaслухаць, мабыць, не ўсё чуў. У лесе ж, мусіць, не быў? У партызанку?

— А як жа! Быў,— крыўдліва азваўся чалавек.— У таварыша Куруты. Вазіў раненых. Санітарам рабіў.

— У Куруты? Камбрыга Куруты?

— Ну. Ад вясновага Міколы ў сорак трэцім і да канца. Як нашыя прыйшлі. Лічы, больш года.

— Ну, Курута не нашай зоны.

— Мала што. Нашай не нашай, а быў. Медаль маю і дакумент,— ужо зусім закрыўдаваў стары. Ткачук пасляшаўся змякчыць гаворку:

— Ды я нічога, я так. Маеш — насі на здароўе. Тут мы пра іншае... Мы пра Мароза.

— На першым часе ўсё ў яго ішло добра. Немцы і паліцаі пакуль не чапляліся, мабыць, сачылі здаля. Адно, што тачыла яго сумленне і што ён перажываў доўга,— дык гэта ўдовіны дочкі. Тыя во дзве дзяўчынкі, якіх ён некалі адводзіў дадому.

Улетку сорак першага, якраз перад вайной, паслаў іх у піянерскі лагер пад Навагрудак — рганізоўвалі тады першы раз такія міжраённыя піянерскія лагеры. Маці не хацела пускаць, баялася — вядома, вясковая баба, далей раёна нідзе не была, а ён угаварыў, думаў дзяўчатам харошае зрабіць. Толькі паехалі, а тут вайна. І прапалі малыя. Мінула ўжо колькі месяцаў, а ад іх ні слыху ні дыху. Вядома, маці ўбіваецца, ды і Марозу праз тое не соладка. Як-ніяк, яго ўсё ж віна. Точыць сумленне, а што зробіш? Так і па сёння прапалі дзяўчаты.

Цяпер трэба табе сказаць пра тых двух паліцаяў з Сяльца. Аднаго ты ўжо ведаеш, гэта былы пракурораў знаёмы Лаўчэня Уладзімір. Аказваецца, быў ён не такі, за каторага мы яго спярша прынялі. Праўда, у паліцыю пайшоў — сам ці прымусілі, цяпер ужо не дазнаешся,— ды ў сорак трэцім зімой немцы расстралялі яго ў Навагрудку. Дзядзька ўвогуле аказаўся харошы, многа нам добрага зрабіў і ў гэтай гісторыі з хлопцамі сыграў даволі прыстойную ролю. Лаўчэня быў маладзец, хоць і паліцай. А вось другі аказаўся апошнім гадам. Не памятаю ўжо ягонага прозвішча, але па вёсках яго звалі Каін. І сапраўды быў Каін, многа бяды нарабіў людзям. І адкуль што ўзялося — чорт ведае. Да вайны жыў з бацькам на хутары, малады яшчэ быў, не жанаты, хлопец як хлопец.

Быццам ніхто пра яго, даваеннага, паганага слова сказаць не мог, а прыйшлі немцы — перарадзіўся

чалавек. Во што значыць умовы. Мусіць, у адных умовах расцвітае адна частка характару, а у другіх — другая. Таму на кожным часе свае героі. Дык вось і ў гэтага Каіна да вайны драмала сабе паціху нешта нягоднае, і каб не гэтая калатнеча, можа б і не выперла з яго ніколі. А тут во налезла. Шчыра паслужыў немцам, нічога не скажаш. Ягонымі рукамі тут шмат чаго наробленa. Увосень параненых камандзіраў расстраляў. (З лета хаваліся ў лесе чацвёра параненых, хто-ніхто з мясцовых ведаў пра іх, ды маўчаў. А гэты высачыў, знайшоў у ельніку зямляначку і з дружкамі перабіў усіх ноччу). Сядзібу сувязнога аднаго, Крыштафовіча, спаліў. Сам Крыштафовіч паспеў ўратавацца, а бацькі старыя, жонка з дзецьмі — усе ў агні пагарэлі. Яўрэяў у мястэчку катаваў, аблавы рабіў. Ды ці мала што! Улетку сорак чацвёртага знік недзе. Можа дзе палучыў кулю, а можа і цяпер на Захадзе раскашуе. Такія і ў віры не тонуць.

Дык вось гэты Каін нешта ўсё ж западозрыў каля Марозавай школкі. Які б ні быў Мароз асцярожны, а, ведама, што-нішто вылезла, як шыла з мяшка. Мусіць, дайшло і да паліцэйскіх вушэй.

Аднойчы пад вясну (снег ужо стаў раставаць) з'яўляецца ён да Мароза. У таго якраз ішлі заняткі — чалавек дваццаць дзетвары ў адным пакоіку за двума доўгімі сталамі. Урываецца гэты Каін, з ім яшчэ двое і немец — афіцэр з камендатуры. Зрабілі вобыск, пяратрэслі вучнёўскія торбачкі з кніжкамі, праверылі падручнікі. Ну але, ведама, нічога такога не знайшлі — што можна знайсці ў вучняў у школе? Праўда, нікога не зачапілі, не забралі. Толькі настаўніку допыт наладзілі, гадзіны дзве ганялі па. розных пытаннях. Але абышлося.

І тады Марозавы хлопцы, маладзейшыя, што вучыліся ў яго, і той перарастак Бародзіч, нешта ўдумалі. Увогуле яны былі шчырыя з настаўнікам, але тут затаіліся нават і ад яго. Аднойчы, праўда, гэты Бародзіч быццам між іншым намякнуў, што не лішне б прыстукнуць Каіна. Ёсць, маўляў, такая магчымасць. Ды Мароз .забараніў

катэгарычна. Сказаў, што калі трэба будзе — прыстукнуць без іх. Самавольнічаць у вайну нягожа. Бародзіч не стаў пярэчыць, нібыта пагадзіўся. Але такі ўжо гэта быў хлопец, што калі браў што ў галаву, дык не хутка расставаўся са сваёй думкай. А думкі ў яго заўсёды былі адна за другую смялейшыя.

Далей мне ўжо расказваў сам Міклашэвіч, дык можна лічыць, што ўсё тут чыстая праўда.

Сталася так, што пад вясну сорак другога вакол Мароза ў Сяльцы склалася невялічкая, але адданая яму група хлопцаў, якая ва ўсіх справах была з настаўнікам заадно. Хлопцы гэтыя цяпер вядомыя, на помніку ўсе іх імёны ў поўным складзе, апроч Міклашэвіча, канечне. Паўлу Міклашэвічу ішоў тады пятнаццаты год. Коля Бародзіч быў самы старэйшы, мусіць, год пад васемнаццаць бралася хлопцу. Яшчэ былі браты Кажаны — Цімка і Астап, аднафамільцы — Смурны Мікола і Смурны Андрэй, усяго такім чынам шасцёра. Самаму малодшаму з іх, Смурнаму Міколу, было якіх гадоў трынаццаць. Заўжды ва ўсіх справах яны трымаліся разам. І вось гэтыя хлопцы як убачылі, што на іх школу і на іхняга Алеся Іванавіча насеў гэты Каін з немцамі, рашылі таксама не застацца ў даўгу. Сказалася Марозава выхаванне. Але ж гэта хлопцы, амаль хлапчукі, без зброі, амаль з голымі рукамі. Дурасці ды адвагі ў іх было аж занадта, а спрыту ды розуму недахват. Ну і скончылася гэта ведама чым.

Міклашэвіч расказваў, што пасля таго, як Мароз забараніў чапаць гэтага Каіна, яны пасядзелі крыху ды ўзяліся за сваю задуму цішком, патаемна нават і ад настаўніка. Доўга меркавалі, прыглядваліся і ўрэшце надумалі такі план.

Я, здаецца, казаў ужо, што гэты Каін жыў з бацькам на хутары цераз поле ад Сяльца. Увогуле ўвесь час ён аціраўся ў мястэчку, але калі-нікалі прыязджаў дадому — пап'янстваваць ды пазабаўляцца з дзеўкамі. Прыязджаў рэдка адзін, а болей з такімі ж, як сам, здрайцамі, а то і з нямецкім начальствам. Тады ў туташнім краі было яшчэ ціха. Гэта пасля ўжо, з лета

сорак другога загрымела, і яны не дужа паказвалі носа ў вёскі. А ў першую зіму паводзілі сябе нахабна, адчайна, нічога не баяліся. Часам гэты Каін і ўноч заставаўся на хутары, пераначуе, а назаўтра ранічкай коціць сабе ў раён. Вярхом, на санях, а то і на нямецкай машыне. Калі з начальствам. І вось хлопцы аднаго разу падпільнавалі момант.

Усё сталася нечакана, неспадзявана, як след не арга, нізавана. Вядома, хлапчукі — малыя, нявопытныя. Ды і адкуль той вопыт? Адна прага помсты, і болей нічога.

Памятаю, была вясна. З палёў сышоў снег, у лесе, праўда, на равах ды ямах яшчэ ляжаў бруднымі пластамі. У балацявінах, на пожнях было сыра і хлюпка. Ручаі беглі поўныя, мутныя. Але дарогі падсыхалі, сад ранак часам здараўся невялікі маразок. Атрад наш сабольшаў, набралася паўсотня чалавек: вайскоўцы і мясцовыя папалам. Мяне паставілі камісарам. То быў радавы, а то адразу начальства — клопату нахлынула, не дай бог. Але быў малады, энергіі хапала, стараўся, спаў па чатыры гадзіны ў суткі. У той час мы ўжо зналі, прадбачылі: увесну загрыміць, а зброі ў нас было малавата, на ўсіх не хапала. Дзе маглі — усюды здабывалі, шукалі зброю.

Пасылалі за ёй, памятаю, аж за сто кіламетраў на дзяржаўную граніцу. Аднаго разу нехта сказаў, быццам на пераездзе праз Шчару нашы мінулым летам, адступаючы, увалілі два грузавікі з боепрыпасамі. І вось Селязнёў загарэўся, рашыў выцягнуць. Сарганізаваў каманду з пятнаццаці чалавек, нарыхтаваў пару фурманак, узяўся кіраваць сам — ведама, надакучыла сядзець. у лагеры. А мяне пакінуў тут за галоўнага. Першы раз начальнікам над усімі, ноч напралёт не спаў, два разы правяраў пасты — на просецы і дальні, ля кладкі. Уранку толькі задрамаў у зямлянцы — будзяць. Ледзьве падняўся з свайго хваёвага ложка, гляджу —стаіць Віцюня, наш партызан, даўгалыгі такі саратавец, нешта талкуе, а я са сну ніяк не магу ўцяміць. Урэшце зразумеў: вартавыя затрымалі чужога. «Хто такі?»— пытаюся. Кажа: «А чорт яго ведае, але вас

пытаецца. Кульгавы нейкі».

Пачуўшы такое, я, прызнацца, спалохаўся. Адразу адчуў: Мароз. Значыць, штось сталася. Праўда, спярша чамусьці падумаў пра селязнёўскую групу — здалося: з ёй нешта, таму і прыбег Мароз. Але чаму сам Мароз? Чаму не прыслаў каго з хлопцаў? Хоць каб на цвярозы розум, дык якія Мароз меў адносіны да групы камандзіра? Яна нават і не ў той бок выправілася.

Устаў, надзеў боты, кажу: «Вядзіце сюды». І точна, уводзяць Мароза. У кажушку, цёплай шапцы, але на нагах туфлі ледзь не на босую нагу і мокрыя да каленяў штаніны. Што здарылася — не цямлю, а што здарылася кепскае — ужо ведаю пэўна: увесь выгляд Мароза пра гэта сведчыць. Ды і яго гэтае нечаканае з'яўленне тут, дзе ён ніколі яшчэ не быў. Жарты, кіламетраў дванаццаць адмахаць па такой дарозе. Вярней — без усякай дарогі.

Мароз пастаяў крыху, затым апускаецца на нары і глядзіць на Віцюню — маўляў, ці не лішні. Я даю знак, хлопец зачыняе з другога боку дзверы, і Мароз кажа такім голасам, быццам пахаваў родную маму: «Хлопцаў пабралі». Я не зразумеў спярша: «Якіх хлопцаў?» — «Маіх,— кажа.— Шасцярых чалавек сёння ноччу схапілі, сам ледзь вырваўся. Адзін паліцай папярэдзіў».

Прызнацца, тады я чакаў горшага. Я думаў, што сталася штось куды болей страшнае. А то — хлопцаў! Што яны маглі зрабіць, тыя яго хлопцы? Можа, сказалі што? Ці пасварыліся з кім? Ну, дадуць па дзесяць бізуноў і адпусцяць. Такое ўжо было. Тады я яшчэ не прадбачыў усяго, што станецца праз гэты арышт Марозавых хлопцаў.

А Мароз крыху супакоіўся, аддыхаўся, нават закурыў самасейкі (раней не курыў быццам) і мала-памалу пачаў расказваць.

Высвятляецца такая карціна.

Бародзіч усё ж дамогся свайго: хлопцы падпільнавалі

Каіна. Якраз пару дзён таму паліцай гэты на нямецкай машыне з немцам-фельдфебелем, салдатам ды двума паліцаямі прыкаціў да бацькі на хутар. Як было ўжо не адзін раз, на хутары заначавалі. Перад тым заехалі ў Сяльцо, узялі парсюкоў у Хведара Бароўскага і глухога Дзянішчыка, нахапалі па хатах з дзесятак курэй — назаўтра меліся везці ў мястэчка. Ну, хлопцы ўсё выгледзелі, разведалі і, як сцямнелася, гародамі — на дарогу. А на дарозе гэтай, калі памятаеш, недалёка ад таго месца, дзе яна выходзіць на шашу, у раўку невялікі такі масток. Масток-то невялікі, але высокі, да вады метры два, мусіць, хоць вады той па калена, не болей. Да мастка крутаваты спуск, а потым пад'ём, таму машына там ці падвода, калі едуць, дык бяруць разгон, іначай на пад'ём не вылезеш. О, гэтыя падшыванцы, яны ўсё ўлічылі, тут яны былі майстры. Тут у іх усё было зроблена тонка. Дык вось як сцямнела, усе шасцёра з тапарамі і піламі — да гэтага мастка. Відаць, папацелі, але ўсё ж падпілавалі лагі, не зусім, а так, напалову, каб для відавоку трымалася і чалавек там ці конь маглі прайсці, а машына — не. Машына, вядома, пераехаць гэты масток ужо не магла. Зрабілі ўсё ўдала, ніхто ім не перашкодзіў, не застукаў, радасныя выбеглі з раўка. Але не ўсе. Як жа ўсім спаць у такі час, калі будзе ляцець дагары нагамі нямецкая машына! І двое засталіся дзеля такога моманту —Барадзіч і Смурны Яўген. Знайшлі сабе месцейка зводдаль у кустах і заселі пільнаваць. Астатніх адправілі дамоў.

Увогуле ўсё адбывалася так, як і было прадугледжана, апроч драбязы нейкай. Але, мусіць, гэтая драбяза іх і загубіла. Па:першае, Каін прыпазніўся, мусіць, заспаў пасля п'янкі. Развіднелася, у вёсцы паўставалі людзі, пачалася звычайная гаспадарчая цяганіна — сюды-туды. Міклашэвіч пасля казаў, што яны дома за ўсю ноч не заплюснулі вока і што далей — усё болей трывожыліся: чаму не прыбягаюць дазорныя?

А дазорныя ўпарта чакалі машыну, а машыны ўсё не было. Замест яе на дарозе ранічкай з'явілася фурманка. Дзядзька Яўмен, нічога сабе не падазраючы, коціць у равок па дровы. Давялося Барадзічу вылезці са свае

сховы і страчаць дзядзьку. Кажа: «Не едзьце, пад мастом міна». Яўмен спалохаўся, не стаў дужа цікавіцца той мінай і павярнуў у аб'езд.

Нарэшце гадзін, мабыць, у дзесяць на дарозе паказалася машына. На жаль, дарога была кепская, у выбоінах, хуткасці не было ніякай, дык яна і паўзла паціху, валюхаючы з боку на бок. Не было і разгону ў раўку. Паціху спаўзла над ухіл, на мастку шафёр яшчэ прымарудзіў, стаў пераключаць хуткасць, і тады папярэчына адна надламалася. Машына пахілілася і бокам павалілася пад мост. Як пасля аказалася, седакі і свінні з курамі проста ссунуліся ўбок, у ваду, але тут жа паўскоквалі. Не пашэнціла толькі аднаму немцу, што сядзеў ля кабіны — якраз трапіў пад борт, і яго задушыла да смерці. Выцягнулі з-пад машыны ўжо мёртвага.

А хлопцы як згледзелі, чаго дамагліся,— ашалелыя ад шчасця і хвалявання шыбанулі па кустоўі да вёскі. На радасці, мабыць, здалося, што ўсім фрыцам і паліцаям капут, машыне таксама. І няўцям было нікому з двух, што Каін ды іншыя тут жа паўскоквалі, пачалі паднімаць машыну, і нехта тады ўгледзеў, як у кустах мільганула постаць. Постаць малога, хлапчука — болей нічога не удалося ўбачыць. Але і гэтага было даволі.

У вёсцы кожная чутка лятае маланкай. Праз якую гадзіну ўжо ўсе ведалі, што здарылася на дарозе ў раўку. Каін прыбег за падводай везці труп немца ў мястэчка. Мароз як пачуў пра гэта — адразу кінуўся ў школу, паслаў па Бародзіча, але таго не аказалася дома. Затое Міклашэвіч Паўлік, бачачы, як затрывожыўся іх настаўнік, не вытрымаў і расказаў яму пра ўсё.

Мароз не мог знайсці сабе месца, але заняткі ў школе не адмяніў, пачаў толькі з малым спазненнем. Хлопцы, што вучыліся, таксама ўсе папрыходзілі. Не было аднаго Бародзіча, хаця Бародзіч у той час ужо ў школу не хадзіў. Мароз усё паглядваў у акно, казаў, усе ўрокі правёў ля акна, каб убачыць, калі хто чужы паявіцца на вуліцы. Але ў той дзень ніхто не паявіўся. Як

скончыліся заняткі, Мароз другі раз паслаў Смурнага за Бародзічам, а сам стаў чакаць. Як ён сам мне прызнаўся, становішча яго было да дзікасці недарэчнае. Ведама, хлопцы больш-менш паклапаціліся пра тое, што датычыла самой дыверсіі, але як быць далей, калі дыверсія ўдасца, яны проста аб тым не думалі. І настаўнік таксама не ведаў, што рабіць. Вядома, ён разумеў, што немцы гэтую справу так не пакінуць, пачнецца вэрхал. Магчыма, западозраць і хлопцаў, і яго таксама. Але ж у вёсцы тры дзесяткі мужыкоў, думаў, не так проста між іх знайсці менавіта таго, каго трэба. Калі б ён загадзя ведаў, што рыхтавалі гэтыя падшыванцы, дык, мабыць, нешта б прыдумаў. А цяпер усё абрынулася на яго так знянацку, што ён не ведаў, як ратавацца. Ды і якая пагражае ім небяспека, таксама было невядома. І каму яна пагражае найперш. Мусіць, трэба было ў першую чаргу пабачыць Бародзіча, усё ж той старэйшы, разумнейшы. Зноў жа, з суседняе вёскі можа быў сэнс да часу перахаваць у яго хлопцаў. А можа наадварот, найперш яго трэба было недзе схаваць.

Пакуль ён сядзеў у тую ноч у свае бабулі і чакаў Смурнага з Бародзічам, перадумаў, ведама, рознае. І вось недзе пад поўнач чуе: стук-стук у дзверы. Ды стук не дзіцячай рукі — гэта ён зразумеў пэўна. Адчыніў і аслупянеў: на парозе стаяў паліцай, той іх Лаўчэня, пра якога я ўжо казаў. Але чамусьці адзін. Не паспеў Мароз што прыдумаць, як той яму і выпаліў: «Уцякай, настаўнік, хлопцаў пабралі, за табой ідуць». І назад, не павітаўшыся, не развітаўшыся. Мароз расказваў, спярша яму падумалася: правакацыя. Але не. Выгляд, тон і ўсё такое гэтага Лаўчэні не пакідалі сумнення: кажа праўду. Тады Мароз за шапку, кажушок, за сваю палку і гародамі — у лясок на выгане. Ноч там праседзеў пад хваінай, а пад ранак не вытрымаў, пастукаў да аднаго дзядзькі, якому верыў, дазнацца каб, што ўсё ж такі здарылася. А дзядзька як убачыў настаўніка, аж задрыжэў. Кажа: «Уцякай, Алесь Іванавіч, ператрэслі ўсю вёску, цябе шукаюць».— «А хлопцы?» — «Хлопцаў пабралі, запёрлі ў стараставым свірне, адзін ты астаўся».

Цяпер ужо пэўна вядома, як усё атрымалася. Аказваецца, Бародзіч даўно быў на падазрэнні ў гэтага Каіна, да таго ж нехта з паліцаяў убачыў тады яго ў раўку. Не пазнаў, але ўбачыў, што пабег падлетак, юнак — не мужчына. Ну, мусіць, пагаварылі там, у раёне, успомнілі Бародзіча і вырашылі ўзяць. Ноччу прыкацілі пад яго хату. А той, дурань, якраз абувае чуні. Цэлы дзень бадзяўся па лесе, а пад ноч прытаміўся, згаладнеў, ну і вярнуўся ў бацькаву хату. Спярша ў кагось запытаў на вуліцы, сказалі: усё, маўляў, ціха, спакойна. Рашучы быў хлопец, смелы, а засцярожлівасці не хапала. Мусіць, падумаў: усё шыта-крыта, ніхто нічога не ведае, яго не шукаюць. А ўвечары якраз прыбягае Смурны: так і так, Алесь Іванавіч кліча. Толькі хлопцы пачалі збірацца ў Сяльцо да Мароза, як тут машына. Так і схапілі абодвух. Нават з хаты не паспелі выскачыць.

А схапіўшы двух, няцяжка было пабраць і астатніх. Часам так думаецца толькі: як гэта следчы знайшоў злачынцу, калі ніхто нічога не бачыў, нічога не ведаў? Можа гэта і сапраўды нялёгка, асабліва калі трымацца нейкіх там правілаў юрыспрудэнцыі. Толькі немцы ў такіх выпадках чхалі на юрыспрудэнцыю. Каін ды іншыя разважалі інакш. Калі дзе што здаралася, яны прыкідвалі паводле верагоднасці: хто можа? Выходзіла: той або той. Тады і хапалі ўсіх разам з іх сваякамі ды дружбакамі. Маўляў, адна шайка. І, знаеш, рэдка памыляліся, халеры. Так і было. А калі і памыляліся — усё роўна не перайначвалі, назад нікога не выпускалі. Каралі ўсіх — і вінаватых і невіноўных.

Дагэтуль невядома дакладна, як таму Лаўчэню ўдалося папярэдзіць Мароза. Мусіць, спярша яны там не планавалі хапаць настаўніка, а зрабілі гэта імправізавана, па ходзе справы. Мусіць, Каін гэта дапетрыў, што калі хлопцы, дык і настаўнік таксама. І вось гэты Лаўчэня, якога мы лічылі падлюгам, выбраў момант, літаральна якіх дзесяць хвілін, і забег, папярэдзіў. Уратаваў Мароза.

Во як яно атрымалася.

А ў лагер на другі дзень прыехаў Селязнёў. Прывезлі пару скрынак намоклых гранат — ведама з вады. Удача не вялікая, хлопцы натаміліся, камандзір злы. Я расказаў пра Мароза: так і так, што будзем рабідь? Трэба, мусіць, браць настаўніка ў атрад, не прападаць жа чалавеку. Кажу так, а Селязнёў маўчыць. Ведама, баец з гэтага настаўніка не надта зайздросны, але нічога не зробіш. Падумаў маёр і загадаў выдаць вінтоўку з чорным прыкладам, без мушкі (ніхто яе не хацеў браць, бракаваную) і залічыць Мароза ва ўзвод Пракапенкі байцом. Сказалі аб тым Марозу, той выслухаў без усякага энтузіязму, але вінтоўку ўзяў. А сам нібы ў ваду апушчаны. І вінтоўка ніяк не падзейнічала. Бывала, калі каму ўручаеш зброю, дык столькі жвавасці, амаль дзіцячага захаплення. Асабліва ў маладых хлопцаў, для іх уручэнне зброі — найбольшае свята. А тут нічога падобнага. Чалавек жыў сваім і не меў нават намёку на якую вайсковую хвацкасць. Два дні прахадзіў з гэтай вінтоўкай і нават пачапкі не зрабіў, усё насіў у руках. Як ламачыну якую.

Так мінула яшчэ два ці тры дні. Памятаю, хлопцы капалі трэцюю зямлянку на краі нашага стойбішча, пад ельнічкам. Народу пад весну пабольшала, у дзвюх стала цеснавата. Я сяджу сабе над ямай, гутарым пра тое-гэта. І тут прыбягае партызан, што быў днявальным у лагеры, кажа: «Камандзір кліча».— «А што такое?» — пытаюся. Кажа: «Ульяна прыйшла». А Ульяна — гэта наша сувязная з леснічоўкі, харошая была дзеўка, смелая, баявая, на язычок — не дай бог, як брытва. Колькі хлопцы да яе не падкатваліся — нікому ніякай паблажкі, любога адбрые, толькі трымайся. А смелая. Пасля, улетку сорак другога, з Марыяй Казухінай ледзь камендатуру ў мястэчку не ўзарвалі, ужо і зарад падклалі, ды нейкі падлюга заўважыў, данёс. Зарад тут жа вынялі, а яе дагналі на конях, схапілі і расстралялі неўзабаве. А Казухіна неяк уратавалася, у блакаду паранена была, ды перасёдзела ў балоце. Цяпер у Гродні працуе. Нядаўна вяселле спраўляла, сына жаніла. І я быў запрошаны, а як жа.

Да. Прыбегла, значыць, Ульяна. Я, як пачуў пра гэта,

дык зразумеў адразу: справа кепская. Кепская, бо мы Улляне катэгарычна забаранілі з'яўляцца ў лагеры. Што трэба было, передавала цераз сувязных разы два на тыдні. А самой было дазволена прыбегчы толькі ў самым крайнім выпадку. Дык вось, мусіць, гэта і быў той самы крайні выпадак. Інакш бы яна не прыйшла.

Значыць, я — да камандзіравай зямлянкі і ўжо на прыступках чую: размова сур'ёзная. Болей дакладна — гучная размова. Селязнёў крые матам, а Улляна таксама не адстае. «Мне сказалі, а я што, маўчаць буду?» — «У аўторак бы перадала!» — Ага, да аўторка ім усім галовы паадкручваюць!» — «А я што зраблю? Я ім галовы папрыстаўляю?» — «Думай, ты камандзір».— «Я камандзір, ды не бог. А ты мне во лагер дэмаскіруеш. Я цябе назад цяпер не пушчу».— «Не пушчай, чорт з табой. Мне тут горай не будзе».

Заходжу, абодва сціхаюць. Сядзяць, адзін на аднаго не пазіраюць. Пытаюся як мага ласкавей: «Што сталася, Уллянка?» — «А што сталася? Дрэнь сталася. Патрабуюць Мароза, іначай, сказалі, хлопцаў павесяць. Мароз ім патрэбны».

«Ты чуеш? — крычыць камандзір.— І яна з гэтым прымчала ў лагер! Так ім Мароз і пабяжыць. Знайшлі дурня!»

Улляна маўчыць. Яна ўжо накрычалася і, мусіць, болей не хоча. Сядзіць, папраўляе пад барадой хустку. Я стаю ашаломлены... Бедны Мароз! Памятаю як цяпер, менавіта гэтак падумаў. Яшчэ адзін камень на яго душу. Вярней, шэсць камянёў — ёсць ад чаго чарнець. Вядома, ніхто тады з нас і думкі не меў, каб пасылаць Мароза ў вёску. Здурнелі мы, ці што! Пэўна ж, яны і мальцоў не пусцяць і яго кокнуць. Ведаем мы гэтыя штучкі. Як-ніяк, дзевяты месяц пад немцам жывём. Нагледзеліся.

А Улляна расказвае:

«Я што, хіба жалезная? Прыбягае ноччу цётка Таццяна і цётка Груша — валасы на сябе рвуць. Ведама, маці.

Просяць хрыстом-богам: «Ульяначка, родненькая, памажы! Ты ведаеш як». Я ім талкую: «Нічога я не ведаю. Куды я пайду?» А яны: «Ідзі, ты знаеш, дзе Алесь Іванавіч, хай ратуе мальцоў. Ён жа разумны, ён жа іхні настаўнік». Я сваё вяду: «Адкуль мне ведаць, дзе той Алесь Іванавіч? Мусіць, уцёк куды, дзе я яго шукаць буду?» — «Не, золатка, не адмаўляйся, ты з партызанамі знаешся. А то ж заўтра павядуць у мястэчка, мы ж іх болей не ўбачым». Ну што мне было рабіць?»

Да. Ось такая наспела сітуацыя. Невясёлая, прама скажу, сітуацыя. А Селязнёў пагарачыўся, накрычаў ды і змоўк. Зацяўся, нахмурыўся. І я маўчу. А што зробіш?

Прапалі, мусі быць, хлопцы. Гэта так. Але як жа маткам? Мусіць жа ім жыць яшчэ трэба. І Марозу таксама.

Мы маўчым, як пні, а Ульяна ўстае. «Рашайце, як хочаце, я пайшла. І хай правядзе хто. А то ля кладкі нейкі ваш дурань чуць не застрэліў».

Зразумела, дзяўчыну трзба праводзіць. Яна выходзіць, я за ёю. Вылажу з зямлянкі і тут жа нос у нос — з Марозам. Стаіць ля ўвахода, трымае ў руцэ сваю вінтоўку без мушкі, а ў самога твар, нібы смерць. Зірнуў на яго і адразу бачу: ён усё чуў. «Зайдзі,— кажу,— к камандзіру, справа ёсць». Ён палез у зямлянку, а я павёў Ульяну. Пакуль знайшоў, каго вылучыць ёй у праважатыя, пакуль даваў заданне таму, пакуль развітваўся — мінула хвілін дваццаць, калі не болей. Вяртаюся ў зямлянку, там камандзір, як тыгр, бегае з кутка ў куток, гімнасцёрка расшпілена, вочы гараць. Крычыцъ на Мароза: «Ты з глузду з'ехаў, ты дурань, псіх, ідыёт!» А Мароз стаіць ля дзвярэй і паныла глядзіць у зямлю. Здаецца, ён нават і не чуе таго камандзіравага крыку.

Я саджуся на нары, чакаю, пакуль яны мне вытлумачаць, у чым справа. А яны на мяне нуль увагі. Селязнёў усё ярыцца, грозіцца Мароза да яліны паставіць. Ну, думаю, калі ўжо да яліны дайшло, то

справа сапраўды сур'ёзная.

А справа сапраўды далей некуды. Камандзір выкрычаў сваё і да мяне: «Чуў, хоча ў вёску ісці!» — «Чаго?» — «А гэта ты яго запытай». Гляджу на Мароза, а ён толькі ўздыхае. Тут ужо і я пачаў абурацца. Трэба быць круглым ідыётам, каб паверыць немцам, што яны выпусцяць хлопцаў. Значыць, ісці туды — самае бязглуздае самагубства. Так я і сказаў Марозу. Як думаў. Той выслухаў і раптам кажа гэтак спакойна: «Гэта праўда. І ўсё ж трэба ісці».

Тут мы ўжо абодва ўтрапелі: што за дзівацтва? Камандзір кажа: «Калі так, я цябе пасаджу ў зямлянку. Пад варту». Я таксама раю: «Ты падумай спярша, што гаворыш». А Мароз маўчыць. Сядзіць, угнуўшы галаву, і не варушыцца. Бачым — такая справа, трэба, мусіць, параіцца нам удвух з камандзірам, што з ім зрабіць. І тады Селязнёў, натаміўшыся ад спрэчкі, кажа: «Ладна, ідзі падумай. Праз гадзіну прадоўжым гаворку».

Ну, Мароз устаў і пакульгваючы, вылез сабе з зямлянкі. Мы засталіся ўдвух. Селязнёў сядзіць злы ў кутку, бачу, на мяне зуб мае — маўляў, твая кадра. Кадра сапраўды мая, але, адчуваю, я тут ні пры чым. Тут у яго свае нейкія прынцыпы, у гэтага Мароза. Хоць я і камісар, але ён за мяне не дурнейшы. Што я магу з ім зрабіць?

Пасядзелі так, Селязнёў і кажа са строгасцю ў голасе, да якой я ўсё яшчэ не мог да канца прывыкнуць: «Пагавары з ім. Каб ён гэтую дурату выкінуў з галавы. А не, дык на Шчару паганю. У сцюдзёнай вадзе пабоўтаецца — паразумнее».

Думаю, ладна. Трэба неяк пагаварыць, адвесці ад яго гэты бязглузды намер. Вядома, я разумеў: шкада хлопцаў, шкада мацярок. Але, мусіць, ім ужо не паможаш. Пагінуць хлопцы. Ды хіба адны Марозавы хлопцы гінуць? Вайна, паміраюць мільёны. І не такія арлы, як гэтыя падшыванцы.

Да, я чэсна збіраўся пагутарыць і адгаварыць яго нават і думаць пра яўку ў Сяльцо. Але вось не пагаварыў. Я

прамарудзіў. Можа, прытаміўся, а можа проста не сабраўся з духам зрабіць гэта зараз жа пасля гаворкі ў зямлянцы. А далей здарылася адна мінтрэга, стала не да Мароза.

Сядзім, маўчым, думаем і раптам чуем галасы непадалёк, ля першай зямлянкі. Нехта бягом пратупацеў ля акенца. Услухаўся — голас Браневіча. А Браневіч толькі ўранку адправіўся на адзін хутар з сержантам Пекушавым — было заданне наконт сувязі з мястэчкам. Пайшлі на тры дні, і раптам ужо ўвечары яны тут.

Першы, учуўшы нядобрае, выскачыў камандзір, я ўслед. А што ж бачым? Сядзіць перад зямлянкай Браневіч, а побач у доле ляжыць Пекушаў. Я зірнуў і бачу адразу: мёртвы. А Браневіч расшкуматаны ўвесь, потны, мокры па пояс, з акрываўленымі рукамі, заікаючыся, расказвае. Аказваецца, кепская справа. Ішлі і каля аднаго там хутара наскочылі на паліцаяў, тыя абстралялі і вось забілі сержанта. А харошы быў хлопец, з пагранічнікаў. Добра яшчэ, Браневіч неяк выкруціўся і прывалок цела. У самога куляй прабіта на плячы ватоўка.

Памятаю, гэта была наша першая ахвяра ў лагеры. Перажывалі не дай бог. Проста апанылі ўсе. І каторыя кадравыя, і мясцовыя. І праўда, харошы быў хлопец: ціхі, смелы, старанны. Усё даваенныя пісьмы перачытваў ад маці — недзе за Масквой жыла. А ён у яе адзін толькі сын. І вот трэба ж...

Што зробіш — пачалі рыхтаваць пахаванне. Паблізу ад лагера, над абрывам ля ручая, выкапалі хлопцы магілу. Пад хвояй у пясочку. Труны не было, праўда, магілу выслалі лапнікам. Пакуль хлопцы ўпраўляліся, я пацеў над прамовай. Гэта ж была мая першая прамова перад войскам. Назаўтра пастроілі ўвесь атрад, шэсцьдзесят два чалавекі. Ля магілы паклалі Пекушава. Надзелі яму нейчую новую гімнасцёрку, сінія штаны. Нават трохкутнічкі на пятліцы сабралі, па тры на кожную, каб як і належыць у арміі. Затым выступілі. Я, камандзір, нехта з ягоных сяброў пагранічнікаў. Некаторыя ажно

заплакалі. Словам, гэта было першае і, мабыць, апошняе такое прачулае пахаванне. Пасля хавалі часцей і нават не па адным. Было, па дзесяць у адну яму закопвалі. А то і без ямы. Якой-небудзь церухой загорнеш — і годзе. У блакаду, напрыклад. Ды і самога камандзіра пахавалі проста — яму па калена выкапалі, і ўсё. Не перажывалі і дзесятай долі таго, што па гэтым Пекушаве. Прывыклі.

А тады ўсё было свежа, нова. Вядома, нашае тады толькі яшчэ пачыналася.

Дык, значыцца, пахавалі Пекушава. Нават Селязнёў неяк па-сяброўску, без свае вечнай строгасці пагаварыў, пакуль ішлі поруч да нашай зямлянкі. Хацелі ўжо спусціцца па яе прыступках, як падлятае ўзводны Пракапенка: так і так, няма Мароза. З ночы няма.

«Як з ночы? — узвіўся Селязнёў.— Чаму не далажыў адразу?» А Пракапенка толькі цепае плячыма: маўляў, думалі знойдзецца. Думалі, да камісара пайшоў. Ці куды на ручай. Усё ля ручая апошнім часам любіў сядзець. На адзіноце.

Тут ужо, знаеш, нам стала млосна.

Селязнёў накінуўся на Пракапенку, бэсціў яго, як толькі ўмеў. А ён-то ўмеў. А пасля вызверыўся на мяне. Абазваў апошнімі словамі. Я маўчаў. Што ж, мабыць, заслужыў. Спусціліся ў зямлянку, камандзір загадаў паклікаць начальніка штаба — быў такі ціхі, паслухмяны лейтэнант Кузняцоў, з кадравых, камандзіраў узводаў. Усе сабраліся, ужо ведаюць, у чым справа, і маўчаць, чакаюць, што скажа маёр. А маёр думаў, думаў і кажа: «Мяняць лагер. А то прыжмуць гэтага кульгавага ідыёта, сам не хочучы таго, выдасць усіх. Перастраляюць, як курапатак».

Бачу, хлопцы павесілі насы. Нікому не хочацца мяняць лагер, дужа ўжо зручнае месца: ціхае, у старане ад дарог. І шчаслівае. За ўсю зіму ніводнай неспадзяванкі. А тут праз нейкага кульгавага ідыёта... Ведама, ім-то

хто гэты Мароз? Пэўна ж, пасля таго, што здарылася,— кульгавы ідыёт, не болей. Але ж я, як ніхто, тут ведаю гэтага кульгавага. Ведаю, думаю і так і гэтак і пачынаю верыць: не падвядзе Мароз. Сябе пагубіць, вядома, а нас не прадасць. Не можа ён выдаць лагер. Не ведаю, як даказаць гэта, але адчуваю: не выдасць. І калі ўсе ўжо гатовы былі пагадзіцца з Селязнёвым, я і кажу: «Не трэба лагер мяняць». Той на мяне як на другога ідыёта ўтаропіўся: «Як гэта не трэба? Дзе гарантыя?» — «Ёсць, — кажу,— гарантыя. Не трэба».

Стала ціха, усе маўчаць, толькі Селязнёў сапе ды на мяне з-пад шырокіх брывоў паглядвае. А я што яму магу сказаць? Хіба пачынаць расказваць з самага пачатку, хто такі гэты кульгавы настаўнік? Адчуваю, не магу я многа цяпер гаварыць, ды і ці трэба гэта. Я толькі упёрся на сваім: лагер мяняць не трэба.

Не ведаю, што падумалі тады Селязнёў і іншыя, ці паверылі мне, ці можа самі разважылі. Ды дужа ужо не хацелася выпраўляцца куды з наседжанага месца, але, мусіць, наважыліся рызыкнуць, пачакаць які тыдзень. Толькі рашылі назначыць два дадатковыя дазоры — з боку ад вёскі Зарудзіна і ад шашы ў лагу. І яшчэ паслалі Гусака ў Сяльцо — там яго жыў сваяк, нічога сабе чалавек,— дык каб паназіраць, як яно будзе далей.

Вось ад гэтага Гусака тады, ды ад нашых людзей з мястэчка, ды пасля ўжо ад Паўліка Міклашэвіча і стала вядома, як яно ўсё адбывалася там, у Сяльцы.

Пачыналіся Будзілавічы. Ля крайняе хаты за плотам гарэў электрычны ліхтар, які асвятляў варотцы, лавачку пры іх, парадзелы куст бэзу ў гародчыку. Ля хляўкоў у садку ярка чырванеў сярод цемры агеньчык, і вецер разносіў па наваколлі пах дыму — мусіць, палілі лісце. Наш возчык збочыў, пэўна, для заезду ў двор, конь, бы разумеючы штось, сам па сабе спыніўся. Ткачук няўцямна змоўк.

— Што прыехалі?

— Прыехалі, ага. Я тут распрагу, а вы пройдзеце трохі,

ля пошты астаноўка будзе.

— Знаю. Не першы раз,— сказаў Ткачук, злазячы з воза. Я выскачыў на вышчарблены край асфальткі.— То дзякуй, дзед, за падвоз.

— Няма за што. Конь калгасны, так што... Фурманка павярнула ў двор, а мы, памалу, ступаючы пасля нязручнага сядзення, пашкандыбалі сабе па вясковай вуліцы. Цьмяна гарэлі ліхтары на слупах, і мы ішлі, трапляючы то ў святло, то ў прыцемак. Я чакаў працягу расказу, але Ткачук моўчкі тупаў, пакульгваючы, і я не прыспешваў яго. Наперадзе тарахцеў матор, неўзабаве мы збочылі, прапускаючы міма калёсны трактар; яго падслепаватыя фары амаль не асвятлялі вуліцу. За трактарам наперадзе стаў відаць ярка асветлены ганак белага цаглянага будынка з шыльдай — там была чайная. З яе зашклёных скрыпучых дзвярэй нетаропка выйшлі двое і, закурваючы, прыпыніліся каля збочанага да самай канавы ЗІЛа. Ткачук яшчэ зводдаль скіраваў у той бок свой стомлены і знерваваны за гэты дзень позірк.

— А давай зойдзем, га?

— Давайце, што ж,— пакорліва згадзіўся я.

Мы абышлі ЗІЛ і павярнулі на невялікі ўтаптаны падворак.

— Была калісь паршывая забягалаўка, а зараз во якую цаглянку выбудавалі. Я ў гэтай не быў,— трохі нібы з вінаватасцю сказаў ён, пакуль мы ішлі да бетонных прыступак. Я змоўчаў — што там было апраўдвацца: усе мы грэшныя ў гэтай малашаноўнай справе.

Невялікае памяшканне чайнай было амаль пустое, толькі за кутнім сталом ля печкі вольна расселіся трое, і хмара дыму навокал іх сведчыла, што яны тут не першую ўжо гадзіну. Паўтузіна лёгкіх столікаў і такіх жа крэслаў пры століках была незанятая.

Жанчына ў шархоткай сіняй куртцы ціха

перагаворвалася цераз стойку з буфетчыцай.

— Ты сядай во. Я зараз,— кінуў мне Ткачук.

— Не, то вы ўжо сядайце. Я маладзейшы.

Ён не даў сябе ўгаворваць, сеў, не выбіраючы месца, за бліжэйшы да яго столік, не забыўшыся аднак папярэдзіць:

— Два па сто, і годзе. Ды можа піва? Калі ёсць.

Піва аднак тут не аказалася, гарэлкі таксама. Было толькі «чырвоне моцне», і я ўзяў бутэльку. На закуску буфетчыца прапанавала катлеты — сказала, свежыя, толькі ўранку прывезеныя.

Я падумаў, што Ткачуку такі пачастунак наўрад ці спадабаецца. І праўда, не паспеў я данесці ўсё гэта ў дзвюх руках да стала, як мой спадарожнік паморшчыўся.

— А белай няма? Цярпець не магу гэтага чарніла.

— Што ж, бяром, што даюць.

— Ды ўжо ж...

Мы моўчкі выпілі па шклянцы. Трохі яшчэ засталося ў бутэльцы. Закусваць Ткачук не стаў, замест таго закурыў з мае скамечанай пачкі.

— Беленькая — яна подлая, канешне, але смак мае. Сталічная, скажам. Або, знаеш, яшчэ лепей саматужная Хлебная. Каторая з добрых рук. Эх, некалі ўмелі рабіць яе! Смаката, не тое што гэтая хімія. І градус, я табе скажу, мела — ого!

— А вы таго... паважалі?

— Было дзела! — зыркнуў ён на мяне пачырванелымі вачыма.— Як маладзейшы быў.

Распытваць яго наконт таго «дзела» я не наважыўся — я з нецярплівасцю чакаў, калі ён зноў пачне расказваць

пра здарэнне ў Сяльцы. Але ён нібыта ўжо страціў да яго цікавасць, курыў сабе і скоса праз дым пазіраў у кут, дзе трое за сталом развязна гарлапанілі на ўсю чайную. Адзін у ватоўцы так саўгануў стол, што з таго ледзь не пасыпаўся посуд. Двое ўзяліся яго супакойваць.

— Набраліся. Таго лысаватага трохі ведаю. Бухгалтар са спіртзавода. У вайну быў узводным у Бутрымовіча. І неблагім узводным. А цяпер во, паглядзі.

— Бывае.

— Бывае, канешне. У вайну ордэнаў з тры адхапіў, ну і паплыла галава ад гонару. І даганарыўся. Ужо тры гады адседзеў, ды во не сунімаецца. А іншыя ціхенькія, спрытненькія, ордэнаў не хапалі, ды хітрасцю бралі. І абышлі. Абскакалі. Так во... Ну што? Даказаць табе пра хлопцаў? Чаму не пытаеш? Эх, хлопцы, хлопцы!..Знаеш, чым старэй раблюся, тым усё даражэй яны мне, гэтыя хлопцы. Хлопчыкі! Чаму б гэта так, не ведаеш?

Ён грузна аблёгся на наш хісткі столік, добра зацягнуўся цыгарэтай. Твар яго стаў журботна-засяроджаны, і Ткачук на момант прыціх, мусіць, настройваючыся, як гарманіст, на сваю невясёлую мелодыю, што сёння гэтак неспадзявана загучэла ў яго душы.

— Колькі ў нас герояў? Скажаш, дзіўнае пытанне. Правільна, дзіўнае. Хто іх лічыў. Але паглядзі газеты: як яны любяць пісаць аб адных і тых жа. Ведама, зручна, апрабавана. Асабліва яшчэ калі гэты герой вайны і сёння на віднай пасадзе. А калі ён загінуў? Ні біяграфіі, ні фатаграфіі. І звесткі кароткія, як зайцаў хвост. І неправераныя. І часта блытаныя, супярэчлівыя. Тут ужо асцярожненька, бокам, бокам ды далей ад граху. Ці не так ваш брат, карэспандэнт?.. Вось мне незразумела, напрыклад, чаму герояў, там жывых ці забітых, павінны шукаць піянеры? Каб і тыя, і другія, і піянеры таксама — гэта іншая справа. А то скрозь пра гэта турбуюцца адны піянеры. Што гэта яны — найлепш могуць разабрацца? Спецыялісты? Ці яны самыя смелыя ў

сэнсе перастрахоўкі? Бо пасад яшчэ не маюць? Ці можа настырнасці ў іх болей — малым зручней да важных дзядзяў дастукацца? Я во не разумею. Чаму гэтыя дзядзі важныя не паклапаціліся, каб не было гэтых самых — бязвесных? Няўжо яны ўсе ўмылі рукі? Што тут — абязлічка, ці што? Але на каго — ты надумай! Загінула колькі людзей, і якіх людзей! І цяпер іх памяці не могуць даць рады іх сябры, іх начальнікі, землякі, урэшце.

Знаеш, мне гэта трохі дзіўна. І незразумела. А дзе вайскоўцы? Штабы? Ваенкаматы? Архівы? Чаму яны ўбаку?

Перадаверылі піянерам. Да...

— Дык вось як яно стала далей, калі хочаш ведаць. Хлопцаў, як пабралі, трымалі дні тры ў свірне ў старасты Бохана. Быў такі ў Сяльцы мужык, ля сухой вярбіны хата стаяла, цяпер ужо няма. Хітры, скажу табе, мужычок: і на немцаў рабіў, і з нашымі знаўся. Ну але такое ведаеш жа чым звычайна канчаецца. Нешта заўважылі немцы, выклікалі ў раён, і назад ён ужо не вярнуўся. Казалі, у лагер адправілі, недзе і загнуўся стары. Дык вось, сядзяць хлопцы ў тым свірне, а ў хаце немцы, водзяць на, следства, б'юць. І чакаюць Мароза. Па вёсцы распусцілі чутку, што во, маўляў, як робяць Саветы: чужымі рукамі ваююць з немцамі, дзяцей на закланне ахвяруюць. Маці, ведама, галосяць, усё лезуць на двор да старасты, просяць, прыніжаюцца, а іх паліцаі ганяюць. Яўгена Смурнага матку як самую заўзятую таксама забралі за тое, што на немца плюнула. Хлопцы, праўда, трымаюцца цвёрда, зацяліся і ні ў якую; нічога не ведаем, нічога не рабілі. Ну але ж хіба так доўга пратрымаешся ў гэтых катаў? Пачалі біць, і першы Бародзіч не вытрымаў, кажа: «Я падпілоўваў. Каб душыць вас, гадаў. Цяпер страляйце мяне, не баюся вас».

Ён-то сказаў так, пра сябе, можа думаючы, што цяпер ад іншых адчэпяцца. Але ж і гэтыя паслугачы не дурні — адразу скумекалі, што калі адзін, дык і астатнія, мусіць, з ім заадно. Усе ж дружбакі. Пачалі біць яшчэ,

выцягваць новыя дадзеныя і пра Мароза. Пра Мароза асабліва стараліся. Але што маглі хлопцы сказаць пра Мароза?

І вось у такі час, у самы разгар катавання з'яўляецца сам Мароз.

Было гэта на досвітку, расказвалі, вёска яшчэ спала. На выгане туманок гэткі лёгенькі слаўся, было не сцюдзёна, толькі макравата зранку. Падышоў Алесь Іванавіч, мусіць, гародамі, бо на вуліцы з канца сядзела засада, а яго не заўважыла. Мусіць, пералез цераз плот і — у двор да старасты. Там, вядома, варта, паліцай як крыкне: «Стой, назад!» ды за вінтоўку і на яго. Але Мароз ужо не баяўся нічога, ідзе сабе прама на вартавога, пакульгвае толькі і гаворыць спакойна гэтак: «Скажыце начальніку: я — Мароз».

Ну, тут збеглася паліцэйская зграя, жандары, скруцілі Марозу рукі, здзерлі кажушок. Як прывялі ў стараставу хату, Бохан і кажа ціхенька так, мусіць, каб паліцаі не ўчулі: «Не трэба было, настаўнік». А той адно толькі слова яму ў адказ: «Трэба». І болей нічога.

І вось тут, павінен табе сказаць, і ўсчалася тая шарада, якая нарабіла столькі блытаніны з эпілогам усёй гэтай трагедыі. Я так думаю, што менавіта праз яе Мароза столькі гадоў марынавалі і столькі ўсё гэта вымагала турботаў. Сталася так, што калі ў сорак чацвёртым турнулі нарэшце адсюль немчуру, у мястэчку і ў Гродні знайшлі сякія-такія паперы: дакументы паліцыі, СД. Усё гэта, вядома, было падабрана, распрацавана кім трэба. І вось сярод іншых аказалася адна паперка адносна Алеся Іванавіча Мароза. Сам бачыў: звычайная паперка са школьнага сшытка ў клетку, напісаная па-беларуску — рапарт старшага паліцэйскага Гагуна Хведара, таго самага Каіна, свайму начальству. Маўляў, такога-та чысла красавіка сорак другога года каманда паліцэйскіх пад яго началам захапіла ў часе аперацыі праследавання завадатара мясцовай партызанскай банды Алеся Мароза. Ведама, спрэс хлусня. Але Каіну гэта было выгадна, мусіць, таксама, як і ягонаму начальству. Узялі хлопцаў, а праз тры дні злавілі і

завадатара банды — было за што пахваліць старшага паліцая. І ўзнагародзіць. І ні ў кога ніякага сумнення наконт праўдзівасці рапарта.

Як ні дзіўна атрымалася, але і мы ненаўмысля пацвердзілі гэты дурацкі міф паліцая. Аказалася во як. Ужо ўлетку, калі насталі для нас гарачыя дзянёчкі і набралася нямала забітых і параненых, патрэбавалі неяк у брыгаду даныя аб стратах за зіму і вясну. Кузняцоў склаў спіс, прынёс сам з Селязнёвым на подпіс і пытаецца: «Як будзем паказваць Мароза? Можа, лепей зусім не паказваць? Падумаеш, два дні ўсяго ў партызанах пабыў». Тут, ведама, я запярэчыў. «Як гэта не паказваць? Што ж ён тады, седзячы на печы памёр?» Селязнёў, памятаю, нахмурыўся — ён не любіў успамінаць тую гісторыю з Марозам. Падумаў і кажа Кузняцову: «А што круціць! Так і напішы: папаў у палон. А далей не наша дзела». Так і напісалі. Прызнацца, я тады прамаўчаў. Ды і што б я сказаў. Што сам здаўся? Хто б гэта зразумеў? Так да нямецкага дадаўся яшчэ і наш дакумент. І паспрабуй цяпер абвергнуць гэтыя дзве паперкі. Лягчэй аказалася Волгу з Донам злучыць, чым да гэтае ісціны дакапацца. Дзякуй вот нашаму Міклашэвічу. Ён усё ж дакапаўся.

Да. А ў Сяльцы тады што ж? Аказаліся ўсе ў зборы, можна было адпраўляць у паліцэйскі ўчастак. Пад вечар вывелі ўсіх семярых са свірна, усе стаялі на сваіх нагах, апроч Бародзіча. Той быў збіты да крыві, і два паліцаі ўзялі яго пад пахі. Астатніх пастроілі па два і пад канвоем пагналі да шашы.

Вось тут ужо блізка фінал, і што і як было далей, мне расказваў сам Міклашэвіч.

Хлопцы яшчэ ў свірне дужа апанурыліся, як пачулі ў двары голас Алеся Іванавіча. Рашылі — схапілі і яго. Дарэчы, да самага іх канца так ніхто і не падумаў інакш — лічылі, не ўбярогся настаўнік, папаўся немцам. І ён ім нічога не сказаў пра сябе. Толькі падбадзёрваў. Сам стараўся вясёлым быць, наколькі, вядома, гэта яму ўдавалася. Казаў, што жыццё чалавечае надта несувымернае з вечнасцю і што ці пятнаццаць гадоў, ці

шэсцьдзесят — усё не болей чымсьці імгненне ў вечнасці часу. Яшчэ казаў, што тысячы людзей хоць бы ў тым жа Сяльцы нарадзіліся і адышлі ў нябыт за вякі, і ніхто іх не ведае, не памятае. А вось іх будуць памятаць, і ўжо ў тым іхняя ўзнагарода. Найвялікшая з усіх магчымых у свеце ўзнагарод.

Мусіць, гэта тады ўсё ж мала іх суцяшала. Але тое, што з імі быў іхні настаўнік, іх заўсёдны Алесь Іванавіч, вядома, аблягчала незайздросны іх лёс. Хоць, пэўна, яны б тады шмат далі, каб ён уратаваўся — яны-то яго шанавалі, як бога.

Расказвалі, як вывелі іх на вуліцу ад старасты — збеглася ўся вёска. Паліцаі пачалі адганяць. І тады старэйшы брат гэтых блізнятаў Кажаноў — Іван вылез наперад і да нейкага немца: «Як жа так, маўляў, вы ж казалі: калі прыйдзе Мароз, дык хлопцаў адцусціце. Пусціце ж цяпер». Немец яму парабелумам у зубы, а Іван яму ботам у жывот. Ну той і стрэліў. Іван так і скорчыўся ў гразі. Што там усчалося тады: гвалт, слёзы, праклёны. Ну але ім што — павялі хлопцаў.

Вялі па той самай дарозе цераз масток. Масток направілі трохі, пешкі можна было прайсці, а фурманкі яшчэ не ездзілі. Ішлі, як я ўжо гаварыў, парамі: наперадзе Мароз з Паўлікам, за імі блізняты Кажаны — Астап і Цімка, потым аднафамільцы — Смурны Яўген і Смурны Коля. Ззаду два паліцаі вялі пад рукі Барадзіча. Паліцаяў, казалі, было чалавек сем і чатыры немцы.

Ішлі моўчкі, гаварыць не давалі. Ды і не хацелася, мусіць, гаварыць. Зналі ж, вядуць на смерць. Бо што іх яшчэ магло чакаць у мястэчку. Рукі ва ўсіх былі звязаны ззаду. А наўкола разлегліся палі, знаёмыя ад маленства мясціны. Прырода ўжо дружна кіравала к вясне, на дрэўцах парастрэскаліся пупышкі. Вербіны стаялі бухматыя, абвешаныя жоўтымі махрамі ў голлі. Казаў Міклашэвіч, такая журба напала на яго, што хоць крычы. Яно і зразумела. Каб хоць пажылі, а то па чатырнаццаць–шаснаццаць гадоў хлопцам. Што яны бачылі?

Так падышлі да ляска з тым мастком. Мароз усё маўчаў, а тут ціха так пытаецца ў Паўліка: «Бегчы можаш?» Той не зразумеў спярша, паглядзеў на настаўніка: пра што гэта ён? А той зноў: «Бегчы можаш? Як крыкну, бяжы па кустах». Павел здагадаўся. Наогул, бегацьто ён быў вялікі мастак, але за гэтыя тры дні ў свірне без ежы, у пакутах і катаваннях умельства яго, мусіць, убавілася. Але ўсё ж гэтыя словы Алеся Іванавіча далі надзею. Паўлік захваляваўся, казаў, аж ногі задрыжэлі. Здалося тады, што Мароз нешта знае. Калі так кажа, дык пэўна ж можна ўратавацца.

І хлопец пачаў чакаць.

А лясок — ужо во ён, побач. За дарогай адразу кусцікі, хвойкі, ядловец. Праўда, не дужа густа, але ўсё ж схоўна. Паўлік тут ведаў кожны кусток, кожную сцяжынку, паваротку, кожны пянёк. Толькі б паболей сілы. Такое напружанне ўзяло хлопца, што, казаў, здавалася,сэрца лопне ад хвалявання. Да першага кусціка заставалася ўжо крокаў з дваццаць, пасля дзесяць, пяць. Во ўжо і кусток. Але Мароз чамусьці маўчыць. Во ўжо і лясок абапал — алешнік, елачкі. Направа нізінка, тут, вядома, бегчы лягчэй. Тады Паўлік здагадаўся, што, мусіць, менавіта гэтую мясціну і меў на ўвазе Мароз. Дарога вузенькая, на фурманку, не болей, два паліцаі ідуць спераду, па два абапал. У полі яны трымаліся крыху далей, за канавай, а тут ідуць поруч, рукой ухапіць можна. І, ведама, усё чуюць. Мусіць, таму Мароз нічога не сказаў болей. Маўчаў, маўчаў ды як крыкне ўбок: «Во ён, во — глядзіце!» І сам улева ад дарогі зыркае, плячом ды галавой паказвае, быццам там убачыў каго. Вядома, хітрасць не бог ведае якая, але так гэта натуральна ў яго атрымалася, што нават і Паўлік туды зірнуў. Але зірнуў толькі раз, ды як скочыць, бы заяц, у другі бок, у кусты да нізінкі, праз голле, цераз карчы — у лес.

Некалькі секунд ён усё ж урваў для сябе, паліцаі празявалі той самы першы, самы галоўны міг. Але секунды праз тры нехта ўжо бухнуў з вінтоўкі, затым яшчэ. Двое кінуліся ў кусты наўздагон, пачалі біць раз

за разам.

Бедны, няшчасны Паўлік! Казаў, ён не адразу і сцяміў, што папалі. Ён толькі здзівіўся ад неразумення, што гэтак пякотна ўдарыла яго ззаду паміж лапатак. І чаго так не ў пару падламаліся ногі. Гэта найбольш яго ўразіла, падумаў: можа спатыкнуўся. Але ўстаць ужо не мог, ды так і выцягнуўся на леташняй калючай траве ў малінніку.

Пасля ўжо расказвалі людзі — чулі, мусіць, ад паліцаяў, бо ніхто болей нічога не бачыў, а тыя, што бачылі, ужо не раскажуць. Даганятыя прывалаклі хлопчыка на дарогу. З-пад кашулі з грудзей лілася кроў, хлопец не варушыўся і быў як мёртвы. Кінулі яго ў гразь і ўзяліся за Мароза, Павалілі, білі нагамі, прыкладамі. Пабілі так, што і Алесь Іванавіч ужо не падняўся. Але на смерць забіць яго было нельга — настаўніка трэба было даставіць жывым. Двое ўзяліся яго цягнуць у мястэчка. І тады Каін падышоў да Паўліка, ботам перавярнуў яго тварам угору, бачыць — мярцвяк. Для пэўнасці яшчэ стукнуў прыкладам па галаве і спіхнуў у канаву з вадой.

Там яго і падабралі ўночы. Кажуць, тая самая бабка, у якой Мароз жыў. І што ёй там трэба было? У прыцемках знайшла, вывалакла на сухое, думала, нежывы і нават рукі на грудзях склала, па-хрысціянску каб. Ды чуе, сэрца нібыта стукае. Ціхенька так, ледзь-ледзь. Ну, бабка ў вёску да суседа, Антона Аднавокага. Той нічога не кажучы запрог падводу, усклаў хлопца ды да бацькі. І тут, скажу табе, бацька аказаўся малайцом, не глядзі, што біў некалі. Прывёз доктара з горада, лячыў, хаваў, сам колькі нацярпеўся, а сына выняньчыў. Апошнім часам на хутары ў далёкай радні хавалі. Уратаваў ад пагібелі.

А тых шасцярых давялі да мястэчка і патрымалі яшчэ дзён пяць. Скатавалі ўсіх — не пазнаць. У нядзелю, якраз на вялікадня, вешалі. На тэлефонным слупе ля пошты прымацавалі перакладзіну — тоўсты такі брус, атрымалася накшталт крыжа, і па трое з кожнага боку. Спярша, вядома, Мароза і Бародзіча. Пасля іншых — то з таго, то з другога боку. Дзеля раўнавагі. Так і стаяла

гэта карамысла некалькі дзён. Як знялі — закапалі ў кар'еры за цагельняй. Пасля ўжо, мусіць, у сорак шостым, калі вайна скончылася, перахавалі бліжэй да Сяльца.

З сямёх гэткім вось цудам уцалеў адзін Міклашэвіч. Толькі здароўя так і не было ў чалавека. Малады быў — усё хварэў, пасталеў — хварэў. Прыкінуліся сухоты. Ведама, мала што такая рана ў грудзях, дык яшчэ столькі ў вясновай вадзе праляжаць. Амаль кожны год у бальніцах лячыўся, усе курорты аб'ездзіў. Але што тыя курорты! Калі свайго здароўя няма, дык ніхто ўжо не дасць. Праўда, апошнім часам яму стала лепей, здаецца, няблага сябе адчуваў. Ды во знянацку стукнула. З таго боку, адкуль не чакаў. Сэрца! Пакуль лячылі лёгкія, сэрца і падпала. Як ні ратаваўся ад праклятай, а праз дваццаць год усё ж дагнала. Даканала нашага Паўла Іванавіча.

Во якая, браце, гісторыя.

— Да, невясёлая гісторыя,— сказаў я.

— Невясёлая — што! Гераічная гісторыя, во! А ты думаў?

— Можа быць.

— Не можа быць, а пэўна. Ці ты не згодзен? — утаропіў у мяне позірк Ткачук. Ён нечакана загаварыў гучна, расчырванелы твар яго стаў гняўлівы, як там, у Сяльцы за сталом. Буфетчыца з пагардлівай падазронасцю паглядзела на нас цераз галовы двух падлеткаў з транзістарам, што куплялі там цыгарэты. Тыя таксама азірнуліся. Ткачук заўважыў на сабе чужую ўвагу і нахмурыўся.

— Ладна, пайшлі адсюль.

Мы выйшлі на ганак. Ноч, здаецца, яшчэ пацямнела, ці толькі здалося так пасля светлага. Рыжы лапавухі сабачка дапытлівым позіркам акінуў нашыя твары і асцярожна прынюхаўся да Ткачуковых ботаў. Той

спыніўся і з нечаканай для яго ціхай добрасцю загаварыў да сабакі:

— Што, есці? Нічога няма. Няма, брат. Пашукай дзе яшчэ.

І па тым, як ён хістка і грузна сышоў з прыступкаў, таксама як і па яго нечаканай злосці на мяне, я здагадаўся, што ўсё ж, мабыць, ён перабольшваў свае сілы. Не трэба было нам заходзіць у гэтую чайную. Тым болей па такім часе. Цяпер ужо была палова дзесятай, аўтобус, пэўна, даўно прайшоў, чым дабірацца ўначы да горада — было невядома. Але гэты клопат толькі слізгануў паціху ў вяршках свядомасці, ледзь крануўшы яе,— думкамі ж цалкам валодала тое даўняе здарэнне ў Сяльцы, да якога сёння далучыўся і я. Так многа і featuresрознага пераплялося тут у адзін зблытаны клубок узаемаадносін, што цяжка было адразу правільна вызначыць да яго свае ў многім супярэчлівыя адносіны. Тым не менш логіка гэтага здарэння вымушала на нейкую пэўнасць у адносінах да яго прычын і вынікаў, хацелася ўсё абдумаць і дакапацца да ўсіх тонкасцяў, дайсці розумам да іх складанае сутнасці. Што ж да пачуццяў, дык яны незалежна ад розуму былі нагатове прыняць сэнс гэтай гісторыі з усёй яе супярэчлівасцю — мусіць, пачуцці падрыхтаваў за вечар і падначаліў сваім расказам гэты чалавек, мой неспадзяваны сённяшні спадарожнік.

Здаецца, ён зноў закрыўдаваў на мяне і ціха ішоў, як і там, па алеі ў Сяльцы, наперадзе, і я моўчкі цягнуўся ўслед. Мы сышлі з асветленага месца каля чайнай, па чорным гладкім асфальце пайшлі краем вуліцы. Я не ведаў, дзе быў аўтобусны прыпынак і ці можна было яшчэ чакаць якога аўтобуса, але цяпер гэта не здавалася мне важным. Пашанцуе — пад'едзем, а не — дык будзем тупаць да горада, засталося нямнога.

Але мы не прайшлі, мусіць, і палавіны вуліцы, як ззаду з'явілася машына. Шырокія плечы Ткачука засвяціліся ў змроку ад яе далёкіх яшчэ фараў. Неўзабаве два нашы цені стромна пабеглі ўдалячынь па зашарэлым асфальце. Машына хутка набліжалася, пасоўваючы

гэтыя цені ўбок і ломячы іх у канаве, на платах, шалёваных сценах і шыферных, бляшаных паддашках дамоў.

— Мо прагаласуем? — сказаў я, беручы ўбок з асфальту.

Ткачук азірнуўся і я ўбачыў яго незадаволены, як бы нават засмучаны твар, на якім нечакана штосьці бліснула пад электрычнай яркасцю промняў. Праўда, ён тут жа спахапіўся і рукой выцер вочы, і мяне працяло новае пачуццё да яго, якое з'явілася ўпершыню за сённяшні вечар. А я, дурань, думаў, што справа толькі ў чырвоным моцным.

Я разгубіўся на момант і не падняў рукі, машына з ветрам прамільгнула поруч, і нас зноў ахінула цемра. На фоне хісткага пука святла, які яна несла перад сабой, стала відаць, што гэта быў «газік». І раптам ён спыніўся, ледзь падаўшыся да краю дарогі, нейкае адчуванне падказала — гэта па нас.

І сапраўды, спераду адтуль пачуўся голас, ён, безумоўна, адносіўся да Ткачука:

— Цімох Цітавіч!

Ткачук прабурчэў нешта, але не набавіў кроку, і я аббег яго, баючыся ўпусціць гэтую нечаканую магчымасць паехаць. Нейкі чалавек вылез з кабіны і, прытрымліваючы адчыненымі дзверцы, сказаў:

— Залазьце ўглыб. Там свабодна.

Я аднак памарудзіў, чакаючы Ткачука, які нетаропка і валюхаста падыходзіў ужо да машыны.

— Што ж вы так запазнелі? — сказаў да яго гаспадар «газіка», і я толькі цяпер пазнаў у ім загадчыка райана Ксяндзова.— А я думаў, даўно ўжо ў горадзе.

— Паспеем у горад,— буркнуў Ткачук.

— Ну дык залазьце, я падвязу. А то аўтобус прайшоў, сёння болей не будзе.

Я ўлез у цёмную прасмярдзелую бензінам сярэдзіну кузава, намацаў лаўку і сеў за нерухомай спіной шафёра. Здалося, Ткачук не адразу рашыўся лезці за мной, але ўрэшце, нязграбна хапаючыся за спінкі сядзенняў, увапхнуўся і ён. Загадчык райана лязгнуў дзверцамі і гукнуў да шафёра:

— Паехалі!

З-за шафёравага пляча было зручна і прыемна пазіраць на пустую чорную стужку шашы, абапал якой ляцелі назад платы, дрэвы, хаты, слупы. Збочылі, прапускаючы нас, хлопец з дзяўчынай. Яна засланіла даланёй вочы, а ён смела і прама глядзеў у яркае святло фар. Вёска канчалася, шаша выходзіла на палявы прастор, які звузіўся поначы да нешырокай стужкі дарогі, абмежаваны з бакоў дзвюма прапыленымі канавамі.

Загадчык райана павярнуўся на паўабарота і сказаў, звяртаючыся да Ткачука:

— Дарма вы там, за сталом, наконт Мароза гэтага. Не прадумана.

— Што не прадумана? — адразу з нядобрасцю напяўся на сядзенні Ткачук, і я зразумеў, што не варта цяпер пачынаць гэтую, мабыць, не лёгкую для абодвух гаворку. Ксяндзоў, аднак, павярнуўся і яшчэ болей — здаецца, у яго быў свой нейкі намер.

— Вы зразумейце мяне правільна. Я нічога не маю супраць Мароза. Тым болей цяпер, калі яго імя, так сказаць, рэабілітавана.

— А яго і не рэпрэсіравалі. Яго проста забылі.

— Ну хай забылі. Забылі, бо іншыя былі справы. А галоўнае, былі большыя, чым ён, героі. Ну на самай справе,— ажывіўся Ксяндзоў,— што ён такое зрабіў? Ці забіў ён хоць аднаго немца?

— Ніводнага.

— Вось бачыце. І гэта яго заступніцтва не зусім ладнае.

Я б сказаў, нават бязглуздае.

— Не бязглуздае! — абрэзаў яго Ткачук, і па яго нервовым парывістым голасе я яшчэ болей адчуў, што цяпер гаварыць ім не трэба. Але, відаць, у Ксяндзова таксама нешта накіпела за вечар, і ён хацеў у што б там ні стала пакарыстацца выпадкам і давесці сваё.

— Абсалютна бязглуздае. Што ён — абараніў каго? Пра Міклашэвіча не будзем гаварыць — Міклашэвіч выпадкам застаўся жывы, ён не ў лік. Я сам некалі займаўся гэтаю справай і, ведаеце, не бачу асаблівага подзвігу за гэтым Марозам.

— Шкада, што не бачыце! — зусім ужо варожа адрэзаў Ткачук.— Бо, мусіць, слепаваты! Душэўна слепаваты!

— Гм... Ну хай слепаваты,— паблажліва згадзіўся загадчык райана.— Але ж не я адзін так думаю. Ёсць і другія...

— Сляпыя? Безумоўна! І глухія. Нягледзячы на пасады і рангі. Ад прыроды сляпыя. Во як! Але ж... Вось вы мне скажыце, колькі вам год?

— Ну, трыццаць восем, дапусцім.

— Дапусцім. Значыць, вайну вы па газетах ды па кіно ведаеце. Так? А я яе сваімі рукамі рабіў. Міклашэвіч у яе кіпцюрах пабываў ды во так і не вырваўся. Дык чаму ж вы нас не запытаеце? Мы ж нейкім чынам спецыялісты. А цяпер жа скрозь і ва ўсім спецыялізацыя. Дык мы ж інжынеры вайны. І пра Мароза ў нас спярша запытаць трэба было...

— Што пытаць? Вы ж самі той дакумент падпісалі. Аб палоне Мароза,— загарачыўся і Ксяндзоў.

— Падпісаў, бо дурны быў,— кінуў Ткачук.

— Ось бачыце! — нядобра ўзрадаваўся загадчык райана. Ён сядзеў, павярнуўшыся да нас тварам, імпэт спрэчкі захапляў яго ўсё болей.— Ось бачыце! Самі і напісалі. І правільна зрабілі, бо... Вось цяпер вы мне скажыце: што

было б, калі б кожны партызан так зрабіў, як Мароз?

— Што?

— У палон здаўся.

— Дурань! — раўнуў Ткачук.— Бязглузды дурань! Спыніце машыну! Чуеш, спыні машыну! — закрычаў ён да шафёра.— Я не хачу з вамі ехаць.

— Магу і спыніць,— раптам кінуў гаспадар.— Калі нельга без асабістых зняваг.

Шафёр, здаецца, і сапраўды прытармазіў. Ткачук зрабіў спробу ўстаць і ўхапіўся за спіну сядзення. Але гэта было ўжо занадта. Я нават спалохаўся за Ткачука і моцна ўзяў яго за локаць.

— Цімох Цітавіч, пастойце. Навошта так...

— Сапраўды,— сказаў Ксяндзоў і адвярнуўся.— Цяпер не час. Пагаворым у іншым месцы.

— Што ў іншым! Я не хачу з вамі пра гэта гаварыць! Вы чуеце?! Ніколі! Вы глушэц! — Во ён — чалавек. Ён разумее! — кіўнуў Ткачук у мой бок.— Бо ён слухаць умее. Ён хоча разабрацца. А для вас загадзя ўсё ясна. Раз і назаўжды. Але хіба так можна? Жыццё — гэта мільёны сітуацый, мільёны характараў. І мільёны лёсаў. А вы ўсё хочаце ўкласці ў дзве–тры схемы. Каб прасцей! Ды меней турбот. Забіў немца ці не забіў?.. Ён болей зрабіў.

Штосьці ў Ткачуку надарвалася. Захлынаючыся, нібы баючыся не паспець, ён стараўся выкласці гэта сваё набалелае і, мабыць, цяпер самае для яго галоўнае.

— Мароза няма. Не стала Міклашэвіча — ён-то разумеў выдатна. Але я застаўся. Дык што ж вы думаеце, я змоўчу? Чорта з два! Пакуль я жывы, я давяду, што такое Мароз! Увяду ў самыя глухія вушы. Чакайце! Во і ён паможа, і другія... Ёсць яшчэ людзі! Я дакажу! Думаеце, стары? Не-е, памыляецеся...

Ён гаварыў нешта яшчэ. Гэта быў яго непадкантрольны парыў, выбух пачуцця, можа, насуперак яго жаданню. Але, не сустрэўшы пярэчання, Ткачук усё ж выдыхся і змоўк. Сціх і адчужана сцяўся ў кутку на сядзенні. Ксяндзоў, мабыць, не чакаў гэтага запалу і таксама змоўк, засяроджана ўзіраючыся на дарогу. Я таксама маўчаў. Мы пад'язджалі к гораду, шафёр развіў добрую хуткасць на пустой уначы дарозе. Асфальтка шалёна бегла пад колы машыны, з віхрам і шалясценнем ірвалася з-пад іх назад, фары лёгка і ярка рассоўвалі змрок. Па баках бясконца мільгалі белыя ў промнях святла слупы, дарожныя знакі, вербы з пабеленымі камлямі. Роўна і дужа вурчаў матор.

На душы было тлумна і прыкра — нядоўгая сутычка з Ксяндзовым нічога для мяне не праясніла і ні ў чым не пераканала. Мне яшчэ трэба было шмат у чым разабрацца. Праўда, пачуццямі я нязменна быў на баку Ткачука і гатовы быў памагчы яму, толькі не ведаў як. Кажуць, збоку відней. Магчыма, гэта і так, можа і сапраўды цяпер за мной слова. Бо Ткачук быў. надта блізка да ўсёй гэтай трагічнай гісторыі, Міклашэвіч стаў яе героем і яе ахвярай. Ксяндзоў, мабыць, даўно і моцна быў у палоне свае прадузятасці, з якой не так лёгка вызваліцца. Магчыма, кожны з іх па-свойму быў правы, але хто правы найбольш, гэтага я не ведаў. Зноў жа, што я тады мог? Хіба напісаць аб тым так, як чуў, як разумеў сам. І вось хай цяпер рашае чытач. Хай разбіраецца. Кожны адпаведна свайму светапогляду, свайму позірку на вайну, на гераізм, на свой абавязак перад сумленнем і перад гісторыяй...

## Пайсці і не вярнуцца

### 1

Ішоў снег. Белая гушчэча сняжынак коса неслася долу, з ціхім няспынным шолахам хутка засыпаючы сухую ад марозу траву, рудыя зараснікі асакі на балоце. Гладкімі плямамі браліся ўмерзлыя вадзяныя прагалы, якія, каб

не пакідаць слядоў, старанна мінала Зоська. Але гэткіх прагалаў у траве было многа, спакваля яна зразумела, што нікуды ад іх не дзецца на гэтым імшыстым балоце, і пайшла наўпрост, не выбіраючы шляху. Дзе-нідзе яна неглыбока правальвалася ў мох то адной, то дзвюма нагамі, але да вады не даставала: за апошнія некалькі дзён балота няблага ўмерзла. Ці то ад завеі, ці ад хуткага набліжэння вечара балотна-лесавы прастор навакол усё болей рабіўся змрочны, няўтульны, хмурылася нізкае неба, поўнячы шчымлівай самотай і без таго неспакойную душу дзяўчыны. Толькі што выбраўшыся з зараснікаў, Зоська ўжо разы тры азірнулася, хаця ні ззаду і нідзе паблізу быццам не было нікога. Каб неяк пазбыцца кепскіх адчуванняў, яна спынілася, агледзелася, зняла з рук сподкі, пазмятала імі з мокрых плячэй снег, страсянула падол спаднічкі. Але не мінула і хвіліны, як снег зноў густа заляпіў ворс яе плюшавага сачка, і яна падумала, што дарма тут абтрасацца, лепей паберагчы сподкі, якія і без таго прамоклі наскрозь і не грэлі. Рукі ўсё болей зяблі, асабліва калі яна пераходзіла голыя, без кустоўя, прагалы балота, дзе мацней дзьмуў вецер і, здаецца, гусцейшы рабіўся снег, які нямала шкодзіў ёй у гэтай дарозе. Тыя, што пасылалі яе, спадзяваліся на чорную, без слядоў, сцяжыну, – яшчэ дзве гадзіны назад не было ніякай завеі, зямля ляжала скрозь голая і ўмерзлая, праўда, надта хмурылася сцюдзёнае неба, але гэтаю восенню яно амаль заўжды хмурылася. І цяпер гэты снег...

Азірнуўшыся, Зоська згледзела на белай куп’істай траве прыкметныя здаля сляды сваіх ног, абутых у адсырэлыя ўжо і лапленыя ў шмат якіх месцах боты. Праўда, разам з травой снег засыпаў і сляды, і калі гэтая замець не перастане да ночы, дык слядоў, напэўна, можна будзе не надта баяцца.

Горш, што яна заблудзілася.

Яна ішла, мабыць, з гадзіну, але патрэбнай ёй леснічоўкі ўсё не было відаць, навокал цягнулася незнаёмае замерзлае балота, там-сям парослае чахлымі

пакручастымі бярозкамі, кустоўем лазняку і алешніку. Цяпер ёй і не ўцяміць, як яна згубіла сцяжынку, можа, прамінула ў кустоўі чарговы яе паварот або тая проста прапала пад снегам. Зоська ішла наўздагад, без жаднай упэўненасці, што ідзе правільна. Але запытаць тут не было ў каго, яна ведала, што бліжэйшая вёска была кіламетраў праз восем за рэчкай, да вёскі яшчэ трэба было дайсці. Зброі ў яе не было ніякай, хоць зброю перад выхадам можна было папрасіць у хлопцаў, але калі яна намякнула Дазорцаву, той забараніў катэгарычна – у яе справе лепей было абысціся без зброі. Компаса ёй таксама не далі. Компас, напэўна, памог бы ў шляху, ды ў выпадку чаго навёў бы на падазрэнне, а падазрэння ёй трэба было пазбягаць. Праўда, яна мела пашпарт, нямецкі аўсвайс, але не надта спадзявалася на гэтую тоненькую, з сінімі пячаткамі кніжку, выпісаную на нейкую Адэлаіду Аўгусцевіч. Аўсвайс быў стары, патрэпаны, відаць, не яна першая выпраўлялася з ім з партызанскай зоны, хоць імя той жанчыны дужа падабалася Зосьцы. Ёй бы такое імя.

А то Зося Нарэйка.

Хаця што ж, кожнаму – сваё.

Зосьцы вось толькі б перайсці гэта балота, пералезці на той бок рэчкі і выбрацца на Скідзельскі шлях – там пачыналася знаёмая мясцовасць, там былі людзі, там бы яна ўздыхнула. Праўда, яна разумела, што там яе пільнавала нямала небяспек іншага роду, але цяпер ёй здавалася, што тут страшней. Яна амаль перастала пазіраць пад ногі, дзе звыкла шорхала каляная ад марозу трава, – яе позірк імкнуў наперад, у пагусцелы над балотам змрок, у якім цьмела навокал мноства невыразных плям, няпэўных палос наводдаль, нейкіх незразумелых ценяў. Здавалася, усюды, замершы, пільнуюць яе балотныя здані, можа, ваўкі, а можа, і нядобрыя людзі. Але кожны раз, падышоўшы бліжэй, яна бачыла, што гэта цьмелі ў снезе высокія купіны папараці ці кусты багуну, а то і нізенькія, перасыпаныя снегам елачкі. Напэўна, нікога болей і не магло быць у

гэты час на ўмерзлым балоце, аднак, па меры таго як цямнелася, невыразны загадкавы страх усё болей агартаў дзяўчыну.

Яна ўпарта гнала яго прэч, у думках лаяла сябе за палахлівасць і ўсё ўгаворвала: ну, чаго ты баішся, дурніца, што ж тут можа быць страшнае? Баяцца прыйдзецца там, дзе людзі, дарогі, варта, праверка дакументаў, паліцыя. Тут жа скрозь бязлюднае балота, непагодны восеньскі вечар, снег – усё хоць, можа, і малапрыемнае для падарожніка, затое зусім бяспечнае. Чаго тут баяцца?

І тым не менш тут ей здавалася страшней, чым там, наперадзе, паблізу ад вёсак з вартай, патрулямі, праверкамі ўсіх чужых, падазроных.

Яна ўзышла на ледзьве прыкметны ў балоце грудок, пакрыты небалотнай, без ледзяных плямаў травой, з рэдкімі зараснікамі алешніку, які бязладна шарэў на белай зямлі. Завея нібы парадзела, і хоць неба ўгары зрабілася цямней, чым дагэтуль, кустоўе відаць стала далей, за ім, здаецца, шарэла сцяна дальняга лесу, і Зоська падумала: ці не там скончыцца гэта балота? Яна набавіла кроку, рашуча кіруючы цераз грудок па зарасніку, як раптам амаль жахнулася: праз пяць крокаў ад яе матлянулася штосьці жывое і, як здалося, вялізнае, і толькі праз момант, неяк авалодаўшы сабой, Зоська ўбачыла наводдалек зайца. Вялізны русак размашыстымі скачкамі ўцякаў прэч з балота, пакуль не знік у прыцемках. Адольваючы спалох, Зоська перавяла дыханне і нерашуча, сама не ведаючы чаму, азірнулася.

Тут яна застыла ў нямым здзіўленні, на момант, але з пэўнай дакладнасцю ўбачыўшы зводдаль сілуэт чалавека, які нібыта з асцярожнай увагай назіраў за ёй ззаду. Спалохана ўгледзеўшыся ў яго, Зоська цепнула вейкамі, і сілуэт у той жа момант знік у пагусцелых прыцемках, нібы зліўся з невыразнымі плямамі зямлі і кустоўя. Абмершы сэрцам, Зоська яшчэ паўхвіліны ўзіралася, ды марна: ззаду не было нічога такога, што хоць бы прыблізна нагадвала сабой чалавека. Тады яна

падумала, што памылілася, што гэта здалося, і, палаяўшы сябе за дурны спалох, прыспешаным крокам пайшла ўніз з грудка.

Некалькі хвілін яна таропка крочыла драбналессем, усё ўхіляючыся ад сцюдзёнага голля алешніку і ледзьве стрымліваючы напружанае жаданне азірнуцца хоць бы таму, каб упэўніцца, што ззаду нікога няма. Але яна не азіралася, яна прымусіла сябе глядзець толькі наперад, дзе, пэўна, канчалася балота і цягнуўся па баках рэдкі зараснік, а пад нагамі роўна шархацела высокая, прысыпаная снегам трава. Там, наперадзе, ужо ўгадваўся ў прыцемках шырокі вольны прасцяг, кустоўе канчалася, да цёмнай сцяны хвойнага лесу было зусім блізка. Зоська падумала, што дзесь там павінна быць рэчка. Не Бог ведае якая гэта рачулка, у якой летам трэба было пашукаць мясціну глыбей, каб пакупацца, увосень разлілася і цяпер трывожыла Зоську – як цераз яе перабрацца? Лёгка было Дазорцаву раіць там, у лесе, пашукаць брод, які павінен быць недзе каля леснічоўкі. Але як ёй знайсці гэты брод, калі яна згубіла саму леснічоўку і нават не ведае, у якім баку тая засталася.

Так яно і аказалася – рака была тут. Яшчэ зводдаль Зоська пазнала яе, убачыўшы шэраг выгінастых вольх, якія прывольна разрасліся на краі голага дрыгвяністага поплаву. Паміж ракой і кустоўем ляжаў прасторны, засыпаны снегам лугавы прасцяг. Перш чым выйсці на яго, Зоська спынілася, зірнула ў адзін бок, пасля ў другі і, не ўтрымаўшыся, таропка азірнулася. Але ў шэрых снегавых прыцемках скрозь было ціха і бязлюдна, толькі бязладныя парывы ветру няспынна церушылі на балота снегам і тым парушалі санлівую ціш ночы.

Зоська выйшла на поплаў, рашуча кіруючы да купкі старых крывых алешын, што раскінулі над берагам адмысловую блытаніну голля. Яшчэ здалёку між іхніх камлёў яна ўбачыла супрацьлеглы, таксама парослы кустоўем бераг і нібы прыпаяны да яго цьмяны закраек лёду, які дзе-нідзе цямнеўся разводамі мокрага снегу. Такі ж, з плаўна выгінастым, нібы падталым, краёчкам лёд цягнуўся і ўздоўж гэтага берага, а паміж імі

чарнела няроўная паласа чыстай вады. Была яна не шырокая, гэтая злашчасная вадзяная палоска, месцамі ледзяныя берагі амаль сыходзіліся, але рака скрозь упарта разлучала іх, і Зоська нерашуча спынілася. Не, тут перайсці не было магчымасці.

Мінуўшы некалькі вольх, яна зноў падышла да невысокага, але стромкага берага. Рака тут крута паварочвала да лесу, і шырокая закраіна лёду з таго боку амаль ушчыльную падышла да абрыву ля яе ног, можа б, і ўдалося да яе дабрацца. Калі б на што абаперціся. Або яшчэ лепш пакласці з берага доўгую палку і па ёй асцярожна перайсці на той бок.

Трэба было пашукаць палку.

Схіліўшыся, каб ухінуцца ад нізка навіслага голля, Зоська абышла некалькі тоўстых вольх, мацаючы рукой іх шархоткія камлі, і незнарок кінула позірк на прытуманеную далячынь поплаву. Яна зноў палахліва здрыганулася, застыўшы ў нязручнай паставе: цяпер ужо не магло быць сумнення – цераз поплаў з кустоўя па яе слядах ішоў чалавек.

Паўхвіліны яна стаяла так, у змярцвенні, не адрываючы позірк ад поплаву. Адсюль нельга было разгледзець чалавека, начное сутонне згладжвала яго абрысы, але стракатая белізна снегу, а галоўнае, таропкія рухі яшчэ здалёк выдавалі яго. Паўзіраўшыся, Зоська зразумела, што гэта – мужчына і што кіруе ён да ракі ўпэўненым крокам чалавека, які мае пэўную мэту і, мабыць, ведае шлях. Рукі яго мерна пацепваліся ў такт кроку, здаецца, яны не былі занятыя зброяй ці якой ношай, але ці меў ён што за спіной, яна не магла згледзець. Тым не менш яна востра адчула, што ён ужо бачыць яе, што ёй трэба як найхутчэй уцякаць і што ўцячы ў яе становішчы можна толькі ў адзін бок – за раку.

Яна спалохана кінулася да берага, маючы намер саскочыць з абрыву, але ўбачыла ўнізе цемнаватую паску мокрага снегу і пабегла далей. З-пад снегу ля самай вады тырчаў нейкі сук, яна на бягу выдрала яго і вяршалінай з наліплым брудным лісцем перакінула

цераз чорны паток на крыгу. Аднак сук аказаўся кароткі, да таго ж здорава выгнуты пасярэдзіне, ён адразу перавярнуўся і амаль увесь схаваўся ў вадзе. Баючыся, што не паспее, і ліхаманкава працуючы рукамі, Зоська выбралася з-пад абрыву і аберуч учапілася ў нятоўсты пахілы адростак у бліжнім кусце. Нядоўга завісшы пад ім, яна зноў зірнула на поплаў: запаволіўшы крок, чалавек набліжаўся да рэчкі. Іх раздзяляла ўжо не болей як сотня крокаў, Зоська з усяе сілы тузанула дрэўца, і тое няроўна адламалася ля самага кораня. Не спрабуючы нават абламаць на ім голле, яна саскочыла з абрыву і перакінула над вадой гэтую хісткую, маланадзейную апору.

Яна ўсё ж паспела, хоць і намачыла ля берага ногі, у левым боце непрыемна захлюпала, але цяпер, мабыць, можна было адважыцца. Нядоўга думаючы і амаль фізічна адчуваючы набліжэнне таго чалавека, яна ступіла на крывы канец дрэўца і ўзмахнула рукамі.

Ёй удалося зрабіць толькі тры нясмелыя таропкія крокі, як вяршалінка дрэўца, падагнуўшыся, саслізнула з закрайка, і Зоська апынулася ў вадзе.

Гэта было жахліва ў яе становішчы. Падумаўшы, што ўсё пралала, яна інстынктыўна рванулася да недалёкай і такой недасяжнай цяпер крыгі, Але ногі яе ў вадзе раптам згубілі апору, дно пахінулася ўбок, яна шыбанула ў ваду амаль да сярэдзіны, з жахам адчуўшы, як цячэнне пругка ўдарыла яе ў сцёгны, пагражаючы зваліць з ног. І тады праз шум разварушанай целам вады, аднекуль зверху пачулася:

– Зоська, пастой! Ты што, здурнела?

«Антон?» Ахопленая спалохам, збянтэжаная, яна хіснулася ад глыбіні і замерла ў вадзе, пазнаўшы голас таго, каго меней за ўсіх чакала цяпер пачуць. Але памылкі быць не магло – спрытна сігануўшы з абрыву, Антон падхапіў з вады дрэўца і размашыста кінуў яго мокрым вяршком ёй у рукі.

– Ану, трымай! Я пацягну...

Яна ўжо і сама ўправілася з даволі моцным на глыбіні цячэннем і, спакваля пераборваючы спалох, ухапілася за голле дрэўца, дужа пацягнуўшы за якое, Антон вывалак яе з вады.

– Давай сюды! Бо, на сухое... Эх ты, дурніца! Хіба так можна кідацца?

– Ой і напалохаў жа ты мяне... А адкуль ты ўзяўся?

– Узяўся. Хіба так можна? Тут глыбіня – во! – адмераў ён сабе далонню па грудзі, І яна, ледзьве стрымліваючыся, каб не закалаціцца ад сцюжы, паглядзела ў ягоны твар. Не, ёй не здалося, гэта сапраўды быў ён, партызан з трэцяга ўзвода Галубін, якога яна некалькі дзён назад пачала зваць Антонам.

– А я гляджу даганяе нехта. Так напалохалася, што... Сэрца ледзьве не выскачыць.

– Прамокла дужа? Ну, канешне! Ану, быстра за мной! – скамандаваў ён. – Бягом! Тут вёска недзе была.

Яна не пярэчыла, адразу паддаўшыся ягонай уладарнай патрабавальнасці, тым больш што патрабавальнасць гэта была ёй паратункам, яна і сама адчувала, што гэтак нядоўга і задубець на ветры. Узлезшы на абрыў, ён пабег па-над рэчкай кудысьці па поплаве ўлева, і яна, ледзьве трываючы сцюжу, якая паліла ногі і ніз жывата, пабегла следам.

– Рукамі, рукамі во так! – паказаў ён, замахаўшы на бягу рукамі. – Угору-ўніз! Угору-ўніз! Грэйся!

Рака павярнула пад лес, цёмная сцяна якога адышлася і спакваля знікла ў прыцемках, дзесь там жа зніклі пакручастыя прырэчныя вольхі. Яны беглі па поплаве ў напрамку нізенькіх зараснікаў, што цямнелі на снезе, і яна адчувала, як усё болей дранцвеюць ногі ў мокрых пацяжэлых ботах; спаднічка спярша мокра хлюпала, пасля пачала цвярдзець на марозе, сподкі яе засталіся ў рацэ, і рук яна амаль ужо не адчувала.

– Адкуль ты ўзяўся? Цябе што – паслалі за мной?

– Паслалі, ага. Супакойся. Ты ж такая разведчыца, што...

– А што?

– Ды нічога. Добра, паспеў, а то б...

Яна ўсё яшчэ не магла пераадолець збянтэжанасці, зразумець, чаму ён апынуўся тут, за дзесяць кіламетраў ад лагера. Калі яе пасылалі ў гэтую дарогу, не было і размовы аб Галубіне, рыхтавалі на заданне яе адну. Але вось ён тут, і першае яе здзіўленне хутка сталася радасцю. Гэта была прыемная для яе нечаканка, калі б толькі не той яе недарэчны спалох, які па-дурному штурхнуў яе ў раку. Але хто ведаў, што гэта Галубін, а не які-небудзь паліцай або немец. Прымаючы папрок, Зоська вінавата маўчала. Сцюжа ўсё болей скоўвала яе рухі, ногі вышэй калень нядобра гарэлі, быццам абпаленыя, унутры, праўда, ад доўгага бегу рабілася цяплей, але яна адчувала, што спыняць бег нельга. У бегу быў яе паратунак, асабліва калі там, наперадзе, вёска, можа, там яна і сагрэецца. І Зоська пакорна бегла поруч з гэтым нечаканым яе выратоўцам, з якім толькі раніцой рассталася каля лагернай кухні. Яна сказала яму, што цяпер убачацца не так хутка, можа, праз тыдзень ці два. Яна не магла сказаць, куды і па што яе выпраўлялі. Галубін, аднак, штосьць зразумеў, насцярожыўся, нават спрабаваў затрымаць яе за рукаў, але яна вырвалася і ўжо са сцяжынкі гарэзліва памахала яму сподкам. Пасля таго, як атрад перабазіраваўся ў паўднёвую частку Сухога балота і яна пачала памагаць Сцепанідзе ўпраўляцца на кухні, гэты Галубін часцяком прыпыняўся ля яе, то павітаецца, то пажартуе, разы два яны нават недалёка прайшліся ўдваіх, і яна падумала, што, можа, трэба было б яму намякнуць, куды яна ідзе. Але тады, ля кухні, яна нічога яму не сказала, а пасля ёй стала не да Галубіна, гадзіны са тры яна праседзела ў штабе, слухала інструктаж начальніка разведкі Дазорцава, вывучала паролі для сувязі са сваімі людзьмі ў вёсках, пароль-пропуск праз зону суседняй партызанскай брыгады. Ведама, шлях быў не блізкі, усё трэба было вывучыць напамяць – там

запытаць не будзе ў каго, і з Галубіным яна болей не ўбачылася.

Каб яна не адставала, Антон стрымліваў бег і шырокім размашыстым крокам з хрустам таптаў падмерзлую траву поплаву, упэўнена вёў Зоську ў змрок снежнае ночы. Яна хацела сказаць, што ёй трэба за рэчку, але стрымала сябе – цяпер сапраўды спярша трэба было абсохнуць, і яна амаль з радасцю ўхапілася за гэтую яго таварыскую дапамогу, якая аказалася вельмі дарэчы. А яна, дурная, баялася.

– Тут недзе вёска была. Забыў, як называецца. Кандыбаўшчына, здаецца. Не чула такой?

Яна моўчкі пакруціла галавой.

– Што, здорава выкупалася? Ану? – ён скінуў рукавіцы і цепнуў рукой яе па спіне і ніжай. – Жакетка наўродзе сухая. Спадніца толькі. І ногі. Ану хутчэй! Шырай шаг, малеча! – бадзёра закамандаваў ён.

–Там так глыбака! Ніколі не думала, – сказала яна, ціхенька ляскаючы зубамі.

– Глыбака, канешне. Гэта ж не ўлетку. Трэба было каля леснічоўкі перапраўляцца, а ты во куды шыбанула.

– Я і хацела каля леснічоўкі. Але ж... заблудзілася.

– Я так і падумаў. Яшчэ не выйшла з зоны, а ўжо заблудзілася. Як жа ты будзеш там, разведчыца?

Што яна магла на гэта сказаць? Пачатак сапраўды атрымаўся няўдалы, магло быць і горш, калі б не падаспеў ён. А можа, без яго яна была б асцярожней і не палезла так раптам у рэчку? Але заблудзілася па сваёй віне, тут ужо вінаваціць не было каго, тут была сама вінаватая...

## 2

Хвіліну яны моўчкі трухалі поруч. Зоська з

нецярплівасцю ўзіралася ў змрок, імкнучыся ў рэдкім мільгаценні сняжынак заўважыць першыя прыкметы вёскі, але вёскі ўсё не было, нават не пачыналася поле, пад нагамі па-ранейшаму слалася-шастала някошаная балотная трава. Антон пачаў углядацца ў бакі і нават азірнуўся назад, дзе ў змроку зацямнелася штосьці высокае, падобнае на грудок з хвойным гайком. Напэўна, гэты грудок быў тут адзінай прыкметай на іх балотным шляху, і Антон, раптам спыніўшыся, з прыкрасцю вылаяўся:

– Ах ты, халера! Во куды зайшлі! Гэта ж Круглы грудок. Вёска ўбаку асталася.

Зоська расчаравана ўздыхнула, яна ледзьве ўжо стаяла на, здавалася, зусім адмерзлых нагах, у грудзях ажно прагоркла ад стомы, а рукі і асабліва ногі вышэй калень зусім здранцвелі ад сцюжы. Спаднічка хутка змерзлася і жорстка муляла сцёгны.

– Што ж цяпер рабіць? – разгублена прагаварыла яна, спыніўшыся і адчуваючы, што выйсця, мабыць, няма, што, мабыць, прыйдзецца ёй замярзаць на гэтым балоце.

– Халера! – злаваў Антон. – Трэба ж... Думаў, гэты грудок злева, а ён... Нарабіла ты бяды з гэтай рэчкай.

Ён бурчаў незадаволена, з яўным папрокам, і яна таксама хацела зазлаваць ды крыкнуць, што ўсё праз яго, што каб ён не з’явіўся за яе плячыма, яна б не сунулася па-дурному ў гэту праклятую рэчку, пашукала б дзе другі пераход. А то сам яе напалохаў, загнаў у ледзяную ваду і яшчэ папракае. Але штось утрымала яе ад сваркі, усё ж яна адчувала і сваю тут віну і таму, пераборaўшы крыўду, коратка кінула:

– Ладна! Ужо сама як-небудзь...

Аднак у голасе яе пачуліся слёзы, ён, мабыць, заўважыў гэта і змоўк, раптам зноў угледзеўшыся ў прыцемкі. Штось там зашарэлася воддаль, але яна не магла разгледзець, што – задубелымі пальцамі яна выцірала

вочы.

– Пастой! – сказаў ён. – Глядзі, стажок нібы? Праўда! Ану бягом!

Яна зразумела і нават убачыла ў шэрых ветраных прыцемках шызыя вярхі стажкоў на балоце пад самым кустоўем. Пярэдні стажок быў зусім блізка, за якія паўста крокаў – касабокі, з заснежаным верхам і чорнай палкай у ім, ён з’явіўся для яе паратункам; нічога цяпер, напэўна, нельга было і прыдумаць. Антон першы падбег да стажка і, абмацаўшы яго, пачаў энергічна выскубаць сена. Падбегшы пасля, Зоська таксама сунула ў жорсткае шархоткае сена свае знямелыя рукі. Але перасыпанае снегам, настылае сена так злеглася ў гэтым стажку, што ніяк не паддавалася іхнім рукам. Антон, як ні стараўся, за дзесяць хвілін выскуб толькі невялічкую ямку – болей яно не скублася.

– Халера! Зляжалася, не выдзераш! Ану скубі, тут нібы мякчэй, – паказаў ён нейкую мясціну ў стажку, а сам падаўся за стажок да наступнага.

Зоська, здаецца, зусім скалела, хоць ля стажка было трохі зацішней ад ветру, але яе мокрыя ногі і сцёгны ашчаперыў такі мароз, што яна ледзьве трывала. Рукі, аднак, пачалі грэцца ў сене, з травяных нетраў якога разам з духмяным водарам нібы патыхала назапашанае за лета цяпло.

Яна ўжо гатова была ўціснуцца целам у неглыбокую выскубіну, як здаля пачуўся прыглушаны Антонаў голас:

– Гэй, сюды ідзі! Чуеш? Топай сюды…

Гэта прагучала ўзнёсла, амаль бадзёра, яна адразу адчула надзею і, кінуўшы на снег жменю сена, пабегла да суседняга стажка. Там стаяў Антон, які, махнуўшы рукой, знік дзесьці, быццам забег за стажок.

– Сюды! Лезь сюды, – пачула яна, падбегшы бліжэй, і ледзьве прыкмеціла ў цемры чорную дзірку ў круглым

баку стажка, адкуль чуўся глухаваты голас Антона:

– Нашто скубці, калі гатовае лаўжо ёсць. Ану лезь. Хаця пагадзі – я вылезу.

Ён задам выпаўз з нары, і яна, не доўга думаючы, нырнула галавой у яе духмяную цемру, што абяцала якую ні ёсць і схованку ад пранізлівага начнога ветру. Яна ўжо зусім здранцвела і не спадзявалася калі-небудзь сагрэцца.

– Во і будзем сушыцца. Што – яшчэ холадна? – падабрэлым голасам пытаўся ён, узлезшы следам і шорхаючы сенам ля выхаду– Нічога! Надыхаем, знаеш, як цёпла стане. Толькі ты распранайся. Распранайся, распранайся, скідай з сябе ўсё мокрае. І яшчэ во... На мой кажух, ухутайся. А я лаз загарну. Цёпла будзе, пабачыш.

Ляскаючы зубамі, яна паспешліва ўладкоўвалася ў гэтай поўнай сеннага шэрхату і травяных пахаў схованцы і старалася не думаць, што яе можа чакаць у такім неспадзяваным начлезе. Нязручна сцягнула з ног мокрыя боты, разгарнула анучы і сунула ногі ў лагодную цяплынь Антонавага кажушка. Антон заклаў сенам лаз, і яна, не доўга думаючы, сцягнула з сябе ўсё мокрае, што толькі можна было сцягнуць, тужэй загарнулася ў кажушок і, усё яшчэ калоцячыся ад сцюжы, ніяк не магла сагрэцца.

– Во гэта начлег! – задаволена сказаў Антон, шорхаючы сенам побач. – Не горш, чым у зямлянцы, праўда?

– Праўда, – ціхенька сказала яна і, падумаўшы, запытала: – А ты... Па свайму заданню, ці як?

– Я? – няпэўна перапытаў ён, пасоўваючыся бліжэй да яе падцятых, загорнутых у кажушок ноп– Ды амаль што па твайму.

– Гэта што – разам, значыць, пойдзем?

– Безумоўна. Не будзеш пярэчыць?

– Не, што ты!

– Во і добра.

Зоська гаротна ўздыхнула. Калі б не тыя яе недарэчныя страхі, усё магло б стацца лепш і нават цікавей, яны б заначавалі дзе ў вёсцы, пры людзях, а не ў гэтай нары, дзе хоць і цяплей, чым у полі, але... Яна нерухома, амаль не дыхаючы, курчылася ў самым канцы гэтай зробленай кімсьці нары. Усё ж у такім становішчы яны апынуліся ўпершыню, і яна страх як баялася гэткага блізкага суседства з гэтым увогуле сімпатычным, хоць яшчэ і мала ёй знаёмым мужчынам. Хоць бы ён не пачаў да яе лезці, яна проста не ведала, як тады паводзіць сябе. З аднаго боку, яна была ўдзячна яму за тое, што выцягнуў яе з вады, уладзіў у гэта прыстанішча, сагрэў сваім кажушком. А з другога – хто ведае, што ў яго ў галаве. Мабыць, трэба ад яго трымацца далей і паводзіць сябе з ім строга, бо ці мала што можа тут з імі здарыцца.

– Ну як, грэешся? – клапотна запытаў ён, усё бліжэй пасоўваючыся да яе макраватага, настылага бока. Голас яго цяпер гучаў зусім інакш, чым на поплаве, – гэта быў зусім іншы голас, з ноткамі дабрыні і спачування, якім яго Зоська прывыкла чуць апошнім часам у лагеры.

– Грэюся, – сказала яна.

– Хутка сагрэешся, – паабяцаў ён. – Гэта я ведаю. Неяк заначаваў увосень. Дождж ліў, жывой ніткі не было. А ў стажку ўсё высахла. Лепш, чым на печы ў хаце... Памятаеш Заглядкі? – раптам запытаў ён без усякай сувязі з іх сённяшнім здарэннем, і яна ўсміхнулася.

– А, Заглядкі! А як жа... Такія вечарыны былі...

– Вечарыны на славу. Кузняцоў гэта любіў. Умеў ваяваць і пагуляць любіў.

– Дык малады быў.

– Малады, ага. Дваццаць чатыры гады.

– Здаецца, калі ўсё было. А ўжо няма ні Кузняцова, ні шмат каго, – самотна ўздыхнула Зоська.

– Хто ведае, можа, і нас хутка не будзе.

– Не, – зябка здрыганулася Зоська. – Не хочацца аб тым думаць. Не трэба аб гэтым. Аб іншым трэба.

– Гэта правільна, што аб іншым, – пагадзіўся Антон. – Але аб чым ты ні гавары, як ні весялі сябе, а гэта ў табе сядзіць, бы прысохла. Як хвароба якая.

– Шуміць усё, – ціха сказала Зоська.

– Вецер. Шумець доўга будзе. Затое нас не чуваць. Заглушае.

– Усё роўна страшна. Цішай трэба.

– А нічога. Тут нідзе нікога.

Абое, змоўкшы, прыслухаліся, але сапраўды вакол было ціха, толькі знадворку шумеў сенам вецер. Загорнутыя ў кажушок Зосьчыны ногі пачалі трохі саграваецца, макраватая тканіна на целе памалу цяплела, нара набіралася чалавечага духу, і знямога салодкаю хваляй пачала агартаць стомленае цела дзяўчыны.

– А знаеш, – сказаў раптам Антон, і яна падняла заплюшчаныя неўпрыкмет вейкі, хаця ў абсалютнай цемры ўсё роўна нічога не было відаць. – Я памятаю, як ты была апранута... Там, у Заглядках. У сінюю сукенку ў гарошак. Правільна?

– Правільна, – проста адказала Зоська. І сукенка ў гарошак і той адзіны танец з ім пад балалайку ў салдатчынай хаце, калі Антон нечакана выхапіў яе з купкі дзяўчат і хвілін дзесяць ліха круціў па хаце, яна добра памятала і цяпер радасна здзівілася, што гэта самае прыпомніў і ён.

– А танцавала ты ладна.

– Дык і ты... Ладны танцор.

– Любіў дзяўчат пакружыць.

– А цяпер не любіш?

– Цяпер не да таго. Цяпер самога вайна закружыла.

– Забылася... Адкуль ты родам?

– Ды я з Усходняй. Барысаў, горад такі, мо чула?

– Гэта за Мінскам, здаецца?

– За Мінскам. А ты мясцовая?

– Са Скідзеля. Дваццаць восем кіламетраў ад Гродні.

– Знаю. Хадзіў у верасні. Амаль да Гродні дабраліся. Бобікі там нас шуганулі. У Ласосне. А ты з маці жыла?

– З мамай і старшай сястрой. Замужняй. А шурына немцы вясной расстралялі.

– Добра яшчэ, што вас не ўзялі. А маці і цяпер там?

– Там, дзе ж ёй яшчэ быць? З вясны не бачыла, проста душа чарнее. Як яна там?

– Трэба пабачыцца. Туды ж ідзеш? – запытаў ён і прыціх. Зоська ўся напружылася ў цемры.

– А ты адкуль ведаеш?

– Ведаю.

Часта задыхаўшы, Зоська прымоўкла, і ён сказаў як аб чымсь само па сабе зразумелым:

– Што ж ты – амаль дома будзеш і маці не праведаеш? Так не гадзіцца.

– Знаеш, не зусім дома. Ды і другіх спраў багата.

– Ну, панятна, надавалі табе заданняў, трэба выконваць. Але і пра сябе падумаць не грэх, – сказаў ён і пазяхнуў. – У мяне таксама ў Скідзелі ёсць знаёмыя. Былы сябрук

нават.

– Жыве там?

– Жыве.

– Дзе, на якой вуліцы? Можа, я знаю?

– Не, ты не знаеш. Ён чалавек новы.

– Ну, новых я, канешне, не ведаю. Каторыя прыехалі ў трыццаць дзевятым, тыя не дужа знаёмыя. Я ж перад вайной у Навагрудку вучылася.

– Я і кажу: не знаеш, – пацвердзіў Антон. Зашорхаўшы сенам, ён павярнуўся на бок і раптам паклаў руку на яе плячо. Яна палахліва здрыганулася, зрабіла слабую спробу адсунуцца, але адсунуцца тут было некуды.

– Не трэба...

– Цяплей будзе. А то ты ў маім кажушку, а мне...

– А табе холадна?

– Ну так, знаеш... Не дужа, але ўсё-такі.

Яна змоўкла, і ён абняў яе рукой за плечы. Ад яго вялікага і дужага цела ішло прыемнае для яе цяпло, і яна, прыціхшы, амаль што абмерла пад ягонай рукой.

– Ты такая малеча, – шэптам прамовіў ен з прыкметнай ноткай лагоды ў яго басавітым голасе. Ёй раптам зрабілася смешна – ніхто яе ніколі не зваў малечай, была яна хоць і невысокага росту, але дужанькай, спрытнай дзяўчынкай.

– Я не малеча, – сказала яна. – Я, знаеш, дужая.

– Ды ну?

– Ага. Магу паваліць. Нават такога, як ты.

– Як я?

– Ну.

Здаецца, гэта было ўжо занадта, яна жартоўна перахвальвала свае здольнасці, але гэта таму, што адчувала пагрозу, якая ішла ад яго, і няўмела старалася неяк абараніць сябе.

– Што, Дазорцаў навучыў? – зацікаўлена запытаў ён. – Самба?

– Ага. Самба.

– Глядзі ты! Ну і разведчыца!

– А што? Хіба кепска?

– Не, чаму ж? Яшчэ каб аружые. Але аружыя нябось не далі?

– Разведчыку не абавязкова аружые. Лепей харошыя дакументы.

– Гэта правільна.

– А ў цябе ёсць дакументы? У мяне нейкі аўсвайс патрэпаны. Як бы не ўліпнуць з ім.

– Патрэпаны – гэта добра. Гэта лепей, чым новы.

– Па аўсвайсу я Адэлаіда, паняў? – не без гонару паведаміла Зоська. – А цябе як па дакументу?

– А ўсё так жа: Антон Галубін.

– А хіба не замянілі? Трэба ж памяняць імя і прозвішча.

– Навошта мяняць? У мяне дакумент нязменны, – ён ціхенька варухнуў нагой, – Рэвальвер сістэмы наган.

– Ой! – здзівілася Зоська – Як жа гэта? А раптам праверка?

– На выпадак праверкі гэта болей надзейна, чым твой аўсвайс.

Стрымліваючы дрыжыкі, Зоська насцярожана сціхла – тое, што ў Антона аказалася зброя, ёй не спадабалася. Навошта зброя? Так бы яны спакойна прабіраліся прасёлкамі, выдаючы сябе за сялян з якой-небудзь далёкай вёскі, на выпадак затрымкі і вобыску – у кішэнях нічога падазронага, як і вучыў Дазорцаў. А тут – наган! Як бы праз гэты наган не праваліць заданне і не прапасці самім.

– А ў штабе там ведаюць, што ты з наганам?

– Мне самому лепей ведаць, з чым трэба ісці.

– Ой, я баюся...

– А ты не бойся. Ты мне даверся. Ужо мы як-небудзь, – сказаў ен жартоўна і, прыгарнуўшы яе за плечы, раптам пацалаваў каля вуснаў.

– Ой! Ты што?

– Нічога, нічога... Знаеш, пасля таго, ля кухні, я месца сабе не мог знайсці.

– Гэта чаму? – з салодкім прадчуваннем запытала Зоська.

– Таму. За цябе спалохаўся.

– Во дурненькі! Ну чаго ж ты? – ласкава сказала яна, міжвольна падаўшыся ў сене да яго шырокіх грудзей. – Я ж не маленькая. Ужо хадзіла ў Міхневічы. Помніш, як там Стукачова павесілі?

– Міхневічы што? Міхневічы тады пад рукой былі. А тут кіламетраў трыццаць. Па прамой калі.

– Дык ты за мяне спалохаўся? – перапытала яна, усё ўсміхаючыся ў цемры. Гэта яго прызнанне здалося ёй такім дзіўным і такім прыеыным, што яна захацела пачуць яго яшчэ раз.

– Ну. А ты гэта... Ужо сагрэлася, – абвясціў ён, усё цясней ашчаперваючы яе за плечы. Яна чула на сваім

твары разгарачанае яго дыханне, сэрца яе часта забілася, трошкі аддгрэтымі пальцамі яна ўчапілася ў яго дужыя рукі. Але ён з настойлівай сілай усё больш павальваўся на яе, рукі яго саўгануліся пад кажушок да яе сцёгнаў, і яна спалохана крыкнула:

– Ты што? Ану, кінь! Прэч рукі! А то...

– Што?

– Крычаць буду.

– Крычаць?

– А ты думаў?

– Ну што ж, – сказаў ён, падумаўшы, і раптам разняў у яе за спіной свае доўгія рукі. – Крычаць не варта. Спаць будзем.

Зоська прыціхла, спакайнеючы ад хвіліннай трывогі, зручней захуталася палой кажушка.

– Ты гэта не думай. Я не такая.

– Ладна, – сказаў ён стомлена. – Лічы, пажартаваў. Пажартаваць жа можна?

– Можна. Але трэба знаць як.

– А ты, гляджу, злюка.

– Няхай сабе злюка.

– Во ўжо не думаў.

– Можа, пойдзеш адзін? Калі ласка. Плакаць не буду.

– Не, яшчэ пачакаю, – не адразу сказаў ён і сціх. Яна таксама прыціхла, адчуўшы, што такая размова – ужо амаль сварка, а сварыцца з ім ёй зусім не хацелася.

**3**

Закапаўшыся па самыя плечы ў сена і дыхаючы яго

травяным водарам, Антон зрабіў выгляд, нібы засынае. Ад Зоські ён трошкі адсунуўся, пакінуўшы яе ў належанай ім ямцы. Ведама, разам пад кажушком было б куды цяплей і ўтульней абаім, але Антон цяпер не хацеў да яе лезці. Яшчэ падумае, што яму толькі гэта і трэба, што па гэта ён і бег следам, даганяючы яе на поплаве. Але для яго зусім не гэта было ў ёй галоўнае, і не затым ён даганяў яе, ледзь быў не згубіў у балоце. Хаця, вядома, ён быў мужчына і яна не магла не вабіць яго сваёй юнай дзявоцкасцю.

Цяпер ён не ведаў нават, калі ўсё пачалося. Можа, з тых вечарын у Заглядках, калі ён танцаваў з ёю «страданіе», або з таго тлумнага дня, калі атрад Кузняцова, пакінуўшы абжыты лагер у Селіцкім лесе, паспешна перабазіраваўся за Шчару. На новым месцы іх напаткала прамозглая глуш старога замшэлага ельніку. Уцякаючы ад даганятых, яны суткі не елі, былі галодныя і знемаглі, як чэрці. Пасля кароткага адпачынку камандзір узвода вылучыў трох партызан зрабіць атрадную кухню. Двое пайшлі шукаць чыстую ваду, а Антон пачаў ладзіць топку – пад іх закапцелы таган трэба было выкапаць ямку. Ён адразу ўзяўся за справу, угрэўся, спацеў і, падумаўшы, што трэба здзець кажушок, убачыў Зоську. Дзяўчына нячутна падышла да яго, стала насупраць і ўсміхалася.

– Што, памагчы прыйшла? – запытаўся ён і таксама ўсміхнуўся.

– Ну, такому яшчэ памагаць! Адзін управішся. Во, рукі якія шырокія, бы лапаты, – засмяялася яна, і ён чамусьці ніякавата паглядзеў на свае нямытыя, запэцканыя зямлёй, далоні.

– На пусты жывот і рукі знямогуць.

– Згаладнеў, бедненькі. На, во табе...

Зоська ступіла бліжэй і з маленькага белага кулачка адсыпала яму паўжмені буйнага сухога гароху.

– Мацуйся. Сняданак не скора.

І зноў неяк загадкава ўсміхнуўшыся, нетаропка пайшла ў ельнік, дзе чуліся галасы хлопцаў, што ладзілі буданы для жылля. Ён паўзіраўся ўслед яе зграбнай невялічкай постаці ў боціках, спаднічцы і нейкай шырокай, не па яе росце, куртцы і падумаў з нечаканай зайздрасцю: «Ладная дзяўчынка».

Зоська пайшла, здаецца, тут жа забыўшыся пра яго, адразу акружаная іншымі хлопцамі, маладымі і нават хто быў старэй – усімі, каму карцела звярнуць на сябе хвілінную яе ўвагу, пажартаваць, тым больш што іншых жанчын, апроч яшчэ буркатлівай пажылой Сцепаніды, у атрадзе ўжо не было. Антон не лез перад другімі, хаця некалькі разоў і лавіў сябе на тым, што пачаў думаць аб ёй і не супраць быў бы зноў убачыць яе.

Аднак бачыў ён яе па-ранейшаму рэдка. У кастрычніку два ўзводы з атрада праводзілі аперацыю па знішчэнню Лук’янаўскага льнозавода і больш за тыдзень не былі ў лагеры, а ў пачатку кастрычніцкіх свят ён двойчы з групай Мамыкіна хадзіў на шашу здабываць боепрыпасы і зброю. Па дарозе з другога задання група наскочыла на засаду, іх абстралялі з вясковага выгану, аднаго хлопца забілі, а цяжка параненага Мамыкіна ён нёс на сабе кіламетраў дванаццаць да лагера, дзе той праз дзень і сканаў. Хавалі забітых, настрой быў паганы, стала не да гэтай дзяўчыны, якая прыжылася пры кухні, а затым пры штабе – з яе пачалі рыхтаваць разведчыцу. Аднойчы, праўда, спаткаў на сцежцы, абмяняліся дзвюма-трыма фразамі, і ўсё. Праўда, Антон не надта сумаваў ад таго, бо па натуры быў чалавек з характарам, вытрымкі ў яго хапала. Засады, баі, небяспека загартавалі яго яшчэ болей, і ён не мог нават успомніць выпадак, каб калі разгубіўся або хоць бы надта спалохаўся. Нават на злашчасным тым хутары. Хаця хто-колечы ў атрадзе і не супраць быў спіхнуць на яго смерць камандзіра атрада, але ён не быў ні ў чым вінаваты. Наадварот, сваёй кемлівасцю ён уратаваў чацвярых, калі першы скочыў з гарышча ў крапіву і крыкнуў астатнім: за мной! Хата ўжо гарэла, заняўшыся з другога канца, ад трысцена, яны, задыхаючыся ў дыме, з гадзіну адстрэльваліся ад паліцаяў, што

насядалі з трох бакоў, з чацвёртага нічога не было відаць, туды валіў дым. Кузняцоў з ардынарцам рэдка пастрэльвалі з падпола ў хаце, куды паліцаі кідалі гранаты. Напэўна, камандзір быў паранены і не мог выбегчы, а яны, учатырох, што маглі зрабіць супраць трох дзесяткаў нахабных бобікаў? Добра яшчэ, што дзьмуў моцны вецер, які нізка слаў дым па гародзе, гэта і ўратавала іх.

Кузняцова Галубіну было шкада да слёз, гэта быў смелы і талковы камандзір атрада, Антон любіў яго, як толькі можна любіць здатнага камандзіра ў арміі. Ідучы куды-небудзь па справе, у разведку, на баявую аперацыю або гулянку, той заўжды браў з сабой шасцярых партызан, разам з якімі ездзіў таксама і Галубін. Цяпер ад гэтай шасцёркі, здаецца, нікога не асталося.

Вельмі цяжка было ўпачатку» атрад збіраўся з розных людзей – часткова з раённага актыву, партыйцаў, НКУС, частка з параненых чырвонаармейцаў, а таксама прымакоў-акружэнцаў і нават некалькіх зняволеных, якім пашчасціла ўцячы з лагераў. Многія былі без зброі, другія – хворыя ці з адкрытымі ранамі, некаторыя наракалі на партызанскія парадкі і начальства, невядома кім і калі пастаўленае. Быў адзін, які назваўся маёрам і патрабаваў сабе камандзірскай пасады. Кузняцоў у такіх выпадках прытрымліваўся нязменнага для ўсіх правіла: паказаў сябе ў баі – атрымлівай камандаванне. І гэта было добрае правіла, думаў Галубін. Сам ён некалькі год да вайны рабіў падатковым агентам у райфа, у арміі раней не служыў, а давялося пайсці на вайну – стаў камандзірам узвода, затым камандзірам падрыўнікоў, і толькі пасля гібелі Кузняцова зноў панізіўся да радавога. Але ён не крыўдаваў, стала не да камандзірскіх амбіцый, важней было зберагчы цэлай аўчынку, як любіў казаць Кузняцоў.

Пад восень, аднак, стала лягчэй, людзі ў атрадзе больш-менш прыцерліся адзін да аднаго, можна было ваяваць. Калі б не гэта недарэчная смерць камандзіра.

Відаць, сапраўды на вайне, як і ў жыцці, паслядоўна

чаргуюцца розныя палосы: белуго мяняе чорная і наадварот.

З верасня атрад, мабыць, увайшоў у сваю чорную паласу, і беды так і пасыпаліся на яго адна горш за другую.

Пачалося з гібелі Кузняцова і трох чалавек яго групы. Пасля пайшла і не вярнулася дыверсійная група Кубёлкіна. Не паспелі як след набедавацца па яе слаўных, можа, самых лепшых у атрадзе хлопцах, як атрад выступіў граміць гарнізон на станцыі і, трапіўшы неспадзёўку пад арганізаваны агонь немцаў, панёс вялікія страты. Адных забітых у гэтым баі аказалася столькі, колькі іх не было за ўсю вясну і лета ва ўсіх аперацыях, разам узятых. Хлопцы проста панылі, хоць і без таго настрой у атрадзе быў далёка не лепшы. Яны не мелі прыёмніка і ніякай сувязі з Масквой, але з розных крыпіц і чутак, выпадковых нямецкіх газет і зводак Саўінфармбюро, якія часам перадавалі з атрада імя Варашылава, збольшага ведалі пра тое, што адбывалася на поўдні краіны.

Неяк познім асеннім ранкам, змяніўшыся з начнога дзяжурства, Галубін трохі прыдрамаў у будане і прачнуўся ад ціхай гаманы двух партызан. Ён адразу пазнаў голас Каўша, былога міліцыянера з Вілейкі, і таго маёра, які патрабаваў сабе камандзірскай пасады. Раней за іншых вярнуўшыся з кухні, яны ўкладвалі ў сумкі свае кацялкі і размаўлялі пра Сталінград.

– Усё прэ і прэ! Калі ж гэтаму канец будзе? – бедаваў Коўш, стоячы на каленях ля свайго месца на лапніку. – Калі ён спыніцца?

– Цяпер чаго ж яму спыняцца? – казаў з дальняга кутка маёр, не дужа маладога ўжо веку, з адвіслым жыватом мужчына, як аказалася, былы начфін нейкай разбітай пяхотнай часці. – Цяпер яму трэба Сталінград узяць, каб перарэзаць Волгу. Каб бакінскую нафту перакрыць.

– А хіба Баку на Волзе? – здзівіўся Коўш.

– Не на Волзе – на Каспіі. Але шлях адтуль толькі адзін – па Волзе. Ану, глянь сюды...

Яны змоўклі, зашорхаўшы паперай і, пэўна, нешта разглядаючы ў ёй. Наконт геаграфіі Галубін разбіраўся не надта і слаба ўяўляў сабе цяперашні раён баявых дзеянняў на поўдні. Сцяміўшы, што ў маёра карта, ён падняў галаву і скінуў з сябе кажушок.

– Во, бачыш? – вадзіў пальцам па карце маёр. Гэта была маленькая, выдраная са школьнага падручніка карта еўрапейскай часткі Саюза, і яны пачалі поркацца ў ёй – вызначаць лінію фронту.

Галубін убачыў размяшчэнне гарадоў і здзівіўся. На самай справе, ён нават не мог уявіць сабе, што Сталінград так далёка ў Расіі, што Волга аж за Масквой, што Каўказ на граніцы з Турцыяй, а Баку і яшчэ далей – каля самай граніцы з Іранам. Звар’яцець можна, у якую далячынь зайшлі немцы!

Некалькі дзён пасля таго ён хадзіў, бы ў тлуме, – штосьці рабіў, размаўляў ці маўчаў, а з ягонай галавы не ішло трывожнае да болю пытанне: як Сталінград? Зрэшты, ён ужо ведаў, што лёс гэтага горада вырашаны, што рана ці позна яго возьмуць немцы, як яны ўзялі Мінск, Кіеў, Харкаў і мноства іншых вялікіх і малых гарадоў, і вайна на тым скончыцца.

Гэта было страшна, неверагодна, але, мабыць, інакш павярнуць ужо не магло.

Тады нашто яны тут, у гэтым лесе? Што ім тут рабіць? І што іх чакае ў хуткім будучым?

Але як ён ні думаў, ні меркаваў і ні біўся ў пошуках разумнага выйсця, ніякага выйсця знайсці не мог. Праўда, Сталінград быццам трымаўся. Але колькі ён мог пратрымацца? Усё гэта трывожыла і гняло штодзень, душа ныла ў трывожнай самоце на заданнях, у будане, усе сцюдзёныя дні і ночы гэтай позняй дажджлівай восені.

А тут яшчэ цалкам і без аніякага следу знікла група Кубёлкіна, пакінуўшы шэраг загадак у атрадзе, якія ніхто не мог адгадаць. Антон не пытаўся ў Зоські, але здагадваўся, што тая ішла цяпер менавіта на пошукі слядоў гэтай групы.

Кепскія былі справы на фронце, разладзіліся яны і ў атрадзе пры новым камандзіру, нядаўнім калгасным старшыні Шаўчуку, благія прадчуванні даймалі партызана Галубіна. А Зоська ў часе рэдкіх сустрэч з ім заставалася ўсё тая ж – усмешлівая і зваблівая, нібы штосьці абяцала і падманьвала адначасова. Такая яна заўжды была на кухні, такая і сёння ўранку перад паходам за Шчару, дзе ўжо знайшоў сабе пагібель не адзін партызан з іх атрада. А Зоська... Нават ці здагадвалася яна, што чакае яе па той бок ракі?.. У часе кароценькага таго спаткання ля штабной зямлянкі нешта ў Антонавай душы зрушылася, ды так глыбока і непапраўна, што, здаецца, разам перавярнула ягонае жыццё...

**4**

Сярод ночы Зоська прачнулася, як-колечы прыгрэўшыся ў сене за цёплай мужчынскай спіной, якая адразу напомніла ёй пра ўсё, што з ёй здарылася. Каб не парушыць мернае дыханне Антона, яна кончыкамі пальцаў ціхенька дакранулася да яго крутога пляча і ўсміхнулася сама сабе ў цемры. Гэта ж трэба такому здарыцца! Выпраўлялася адна, перажывала, баялася розных прывідаў у балоце і не марыла спаткаць тут таго самага, хто, здаецца, ужо запаліў у ёй маленькую іскрынку дзявочай цікаўнасці да сябе. Чамусьці ёй дужа спадабалася нечаканае яго прызнанне, што ён затрывожыўся пра яе, як дазнаўся, што яна ідзе на заданне. Усё ж гэта прыемна, калі за цябе нехта трывожыцца, перажывае і нават гатовы памагчы. Тут, напэўна, ужо не проста таварыскасць і не сяброўства нават, а, мабыць, і нешта большае. Можа, нават каханне... Усё ж ён слаўны, гэты Антон Галубін, а яна ўжо і кінула думаць аб ім, клопаты з гэтым заданнем выціснулі ўсе іншыя думкі, і яна гатова была

пагадзіцца з тым, што болей яго не ўбачыць. І вось ён з’явіўся ў цяжкую для яе хвіліну і прынёс з сабой радасць.

Прыпамятаўшы цяпер яго нясмелую спробу блізкасці і свой грубаваты адпор яму, Зоська адчула няёмкасць. Усё ж, мабыць, не трэба было так рэзка, ён жа з дабром і ласкай, а яна… Але што яна магла тут зрабіць? Яна заўжды пасля шкадавала, але ў той самы рашучы момант была нязломная, жорсткая і нават грубая – толькі гэта і памагала ёй абараніць сябе ад мужчынскіх дамаганняў.

Што і казаць, нялёгка было дзяўчыне сярод столькіх мужчын, дзе кожны імкнуўся наблізіцца, хто сапраўды для спагады, каб памагчы, паспачуваць, перакласці на сябе частку яе мулкай ношкі, а хто з яўнай або тайнай карысцю, маючы на ўвазе сваё, кароткачасовае і зняважлівае. Раней, калі ў атрадзе была Аўдоніна, ёй было лягчэй; дзве жанчыны заўсёды стараліся трымацца разам, часам памагаючы адна адной. Але ўжо месяц, як Аўдоніну пераманіў камандзір суседняга атрада, начальства згаварылася, ды і сама Аўдоніна была не супраць пераехаць у Сцяброўскі лес да бравага камандзіра дэсантнікаў. А Зоська асталася. Спярша, калі былі раненыя, яна памагала ў санчасці, а пасля, як атрад перабазіраваўся ў Сухі бор і стала меней сутычак, рабіла са старой Сцепанідай на кухні, пакуль не спатрэбілася начальніку разведкі Дазорцаву.

Вядома, разведка – не кухня, тут часам даводзіцца рызыкаваць галавой, але ў чымсь тут цікавей і нават спаважней, чым на атраднай кухні. Яна адразу заўважыла, што з таго дня, як над ёй узяў шэфства Дазорцаў, мужчыны ў атрадзе пачалі ставіцца да яе з нейкаю нават пашанай, усё ж атрад з кастрычніка амаль увесь час сядзеў у лагеры, зрэдку вы сылаючы групы падрыўнікоў у розныя мясціны на шашу ці «жалезку», а яна ўжо другі раз ішла туды, адкуль не заўжды вярталіся. Нават і задзірала Вырвік, які раней не ўпускаў выпадку, каб лішні раз зачапіць яе ў размове або нават цішком ушчыкнуць, цяпер прыкметна прыціх і

ветліва вітаўся першы. І толькі ў вачах гэтага нахабнаватага хлопца заўжды цьмеў дураслівы агеньчык, гатовы прарвацца ў самы няздатны момант. (Неяк яна дала яму добры адпор, і ён з падрапаным тварам з’явіўся ў строй перад камандзірам атрада, які тут жа пры ўсіх пацікавіўся, чыіх гэта курэй лавіў уначы Вырвік.)

Стараючыся не пабудзіць Антона, Зоська ціхенька разграбла ў нары сена і босая вылезла са стажка.

Была відная зімовая ноч, снег перастаў сыпаць, нібыта цішэйшы стаў вецер, трошкі марозіла. Усё навакол было белае, па-святочнаму ўбранае, як гэта бывае толькі ў першую ноч зазімку. У снежным сутонні знікалі зараслі хмызняку, на краі поплаву цьмяна драмалі абсыпаныя снегам стажкі; толькі яны і былі відаць сярод свежага снегу, ды яшчэ шарэла паблізу прысыпаная снегам трава. Увесь астатні свет стаіўся ў прыцемках зімовае ночы, прыціх, сцяўся да ранку. Угары слалася хмарнае, без зор і месяца неба, якое матавароўна свяцілася, напэўна, адбітым ад снегу святлом.

Зоська збегала за стажок і зноў вярнулася да нары. У яшчэ не прасохлай апратцы яе адразу скаланулі дрыжыкі, і яна таропка на карачках падалася ў нару. Тут было цёпла, сапраўды, дыханнем яны добра ўгрэлі гэта сваё сховішча, і Зоська падумала, што шкада будзе заўтра пакідаць яго. Але пакідаць трэба. Раніцай яны знойдуць брод цераз рэчку, напэўна, ужо Антон ведае, як пераправіцца, каб абысціся на гэты раз без купання, відаць, ён болей за яе кемлівы, а галоўнае, мабыць, дужэйшы. Цікава, аднак, колькі яму можа быць год, падумала Зоська. Хаця і на выгляд можна заўважыць, што ён старэйшы за яе, напэўна, мае гадоў пад трыццаць, бадай, ужо не хлопец, а дзядзька.

Яна зноў палезла пад цёплую палу кажушка. Антон, сонна ўздыхнуўшы, блізка прываліўся да яе, і яна соладка прыціхла, ледзьве прыкметна ўздрыгваючы і патроху грэючыся. Яна хутка і моцна заснула, нібыта сіганула адразу ў іншы, маркотна-цягучы свет сну. Чамусьці стала надта трывожна на душы, яна невядома

чаго пакутавала, хаця доўга нічога благога з ёй не рабілася, але ў соннай свядомасці ўсё шырылася-расла трывога, прычына якой заставалася для яе невядомай. Нейкі час, нібы памятаючы пра рэальнае, яна недаўменна пыталася ў сябе: чаму так? Усё ж было добра, асабліва благога яшчэ не здарылася, яна не адна, з ёй той, пра каго яна нядаўна яшчэ толькі марыла, праўда, не Антон, нехта іншы і яшчэ невядомы, але несумненна добры, свой чалавек. Але чамусьці ён зрабіўся нейкі няпэўны, нібыта д’ябал і анёл у адной асобе, і самым пакутным для Зоські была гэтая яго няпэўнасць. З цягам часу невыразныя душэўныя перажыванні самі па сабе прытупіліся, пачалася іншая частка сну. Зоська ўбачыла сябе на краі камяністага абрыву ў гарах, дзе яна ні разу ў жыцці не была і нават не ведала, як яны выглядаюць. Але цяпер яна выразна бачыла перад сабой голыя шархоткія камяні з вострымі краямі разломаў, за якія яна з усяе сілы чаплялася пальцамі, каб неяк утрымацца на абрыве і не зрынуцца ў бездань. Яна не азіралася, але спіной выразна адчувала за сабой правалле, куды ўсё болей спаўзала. Ёй трэба было хоць на што-колечы ступіць, абаперціся нагамі, яна шкрэбла па камянях, але ступіць не было на што. Тады яна паспрабавала крычаць, але голасу не было, з грудзей вырывалася незразумелае глухое мычанне, і ніхто не ішоў памагчы ёй, хоць, ведала яна, той чалавек быў дзесь побач. І вось нарэшце ён паявіўся над безданню, але яна не пазнала яго, гэта быў хтось іншы, чужы і агідны, да яе выпнулася яго рукалапа з чорнымі, як у мядзведзя, кіпцюрамі. Зоська спалохалася гэтай лапы болей, чым бездані, глуха крыкнула і сарвалася з абрыву. Некалькі секунд перад тым, як разбіцца ў праваллі, яна выразна ведала, што гіне, але за імгненне да пагібелі раптам прачнулася.

Праз разварушанае сена ў нару пранікала цьмянае святло хмарнага ранку і дзьмуў вецер. Зоська ўспомніла, дзе яна, адкінула палу кажушка і памкнулася выскачыць, але толькі села, прыгнуўшы зацярушаную сенам галаву. Антона ў стажку ўжо не было. Усё яшчэ перажываючы свой страшны сон, Зоська прыслухалася, дзесь паблізу чуліся крокі, і яна ціхенька

паклікала:

– Антон!.. Галубін...

– Што? Прачнулася? Ану, уставай! Выхадзі на зарадку!

Паволі вызваляючыся з-пад улады соннага страху, яна стала таропка збіраць сваю ўтаптаную ў сена апратку, якая амаль ужо высахла, толькі спадніца і боты былі яшчэ макраватыя. Лежачы, як-колечы надзела на сябе спадніцу і з ботамі ў руках выскачыла са стажка.

Займалася позняя зімовая раніца, над поплавам віднела, выплывалі з прыцемку невыразныя ўначы плямы, якімі аказаліся зараснікі, зводдаль цямнела паласа хвойнага лесу. На прысыпанай свежым снегам траве стаялі чатыры стажкі, і ў суседнім з іх Зоська пазнала той іх стажок, дзе яны ўчора спрабавалі ўладкавацца на ноч. Каля яго з падкасанымі рукавамі споднай кашулі націраў снегам шыю Антон. Як толькі яна вылезла з нары, ён скамячыў дужымі рукамі снежку і жартам шпурнуў у яе. Зоська міжволі ўхілілася, снежка мякка шлёпнулася аб стажок і рассыпалася.

– Хутка мыйся, соня! – грубавата пажартаваў Антон. – А то разаспалася, не дабудзішся. Быццам вайна скончылася.

– Учора ўжо вымылася, – сказала Зоська, таропка нацягваючы на панчохі макраватыя боты.

– Учарашняе не ў залік. Хто першым снегам памыецца, усю зіму без прастуды абыдзецца. Ану!

Ён падчапіў рукой жменю свежага снегу і, падышоўшы да Зоські, нацёр ёй лоб і пераноссе мокрым, сцюдзёным снегам.

– Ой, ой! Не трэба!

– Нічога, прывыкай! Спатрэбіцца.

Зоська завязала цёплую шэрую хустку, крадком

пазіраючы на Антона. Ёй было трохі ніякавата перад ім за іх не зусім звычайны начлег, яго дамаганне і сваю рэзкасць учора, але Антон трымаў сябе дзелавіта проста, быццам яны толькі цяпер спаткаліся, і гэта супакоіла Зоську. Абое быццам дамовіліся не ўспамінаць пра маленькі інцыдэнт, робячы выгляд, быццам нічога між імі не здарылася. Зосьцы, праўда, гэта ўдавалася горш, у яго ж выходзіла як найлепш. Быццам ён і не начаваў з ёй у гэтым стажку.

Антон падперазаў ваеннаю дзягай свой руды сялянскі кажушок, прыдзірлівым позіркам зверху ўніз акінуў Зосьчыну постаць, і ў ягоных шэрых вачах з’явіўся клопат.

– Ну як? Трохі падсохла?

– Падсохла. Толькі спаднічка макраватая яшчэ.

– Высахне. На марозе ўсё хутка сохне. Слухай, а паесці ў цябе няма?

– Няма нічога, – вінавата сказала Зоська. – Я ж у Азярках дняваць меркавала. Там бы і пакармілі.

– Го! Азяркі яшчэ вунь дзе! Да Азяркоў паўдня топаць трэба.

– Цяпер ужо што. Усё роўна спазнілася.

– А табе ад Азяркоў куды? – запытаў ён і трошкі пакасіў на яе свае шэрыя на грубаватым абветраным твары вочы.

– Далей. У бок Нёмана. Слухай, а ў Лунна гарнізон, кажуць? – з трывогай запытала яна.

– Гарнізон, ага. У Лунна хадзіць нельга.

– Мне і сказалі – нельга. А я думала...

– Няма чаго і думаць. Цераз Нёман у другім месцы трэба перабірацца. Табе ж сказалі, у якім?

– Сказалі, – ціха зазначыла Зоська.

– Во там і пераправімся. Пароль жа ведаеш, мусіць?

– Пароль ведаю, – сказала Зоська і з трывогай у голасе загаманіла: – Слухай, давай схаваем наган. Во ў стажку. А пасля возьмеш, га?

– Ну, прыдумала! Нашто хаваць? Яшчэ спатрэбіцца.

– А раптам вобыск? Бо калі знойдуць, дык усё прапала. І як Дазорцаў табе дазволіў наган браць?

– Буду я пытацца ў Дазорцава. Яшчэ на плячах сваю галаву маю.

– Ой, баюся я, – ціха сказала Зоська.

– Не бойся. За мяне няма чаго баяцца. Калі я сам за сябе не баюся.

– Дарэчы, кепскі сон бачыла.

– Ну і дзівачка! – развесяліўся Антон, надзяваючы рукавіцы. – Не раўнуючы, як баба якая. А яшчэ студэнтка, у тэхнікуме вучышся.

– Пры чым тут тэхнікум, дзівак. Проста сон кепскі. Непрыемны.

– Я во ніякіх сноў не прызнаю. Калі б я снам верыў, даўно б капыты адкінуў.

– І табе нічога не сніцца?

– Сніцца, чаму. Рознае. Але я нуль увагі. Куды ноч, туды і сон.

Зоська засунула рукі ў маленькія кішэнькі сачка, нявесела пазіраючы ўдалячынь, куды пралягаў іхні шлях. Усё ж ёй было холадна на ветры ў непрасохлай апратцы, і яна, міжвольна скаланаючыся, ледзьве стрымлівала дрыжыкі. Вядома, сны – забабоны, але ў іхнім становішчы гэтыя забабоны вельмі проста маглі ператварыцца ў злую рэальнасць. Месяц назад

дажджлівай непагоднай ноччу ў Селіцкім лесе Зосьцы прыснілася, што яе даганяе аўчарка; закрычаўшы ў сне, яна разбудзіла Аўдоніну, з якой яны спалі ў будане, і тая, пасмяяўшыся над яе дзіцячым спалохам, сказала, што немцы ў такую непагадзь наўрад ці ў лес сунуцца. А яны ранічкай якраз і сунуліся, ледзьве не захапіўшы знянацку сонны атрад, добра, што хлопец-вартавы стрэліў на ўзлеску, і Кузняцоў паспеў вывесці атрад за балота.

– Што сны! – уздыхнуўшы, сказаў Антон. – У жыцці горш бывае. Вунь учора каля сталовай страчаю Куманца, пісара, кажа: рыхтуйся, Галубін, на гарнізон пойдзем. – На які гарнізон? – На Дзярэчын, кажа, паліцаяў выкурваць, памагаць першамайцам. – Ты чула: зноў, значыць, батрачыць на дзядзю. Ды яшчэ з такім камандзірам.

Антон гаварыў расстроена, амаль злосна, і Зосьцы стала няёмка за ўвогуле някепскага, хоць, можа, і не дужа віднага і не заўжды ўмелага новага камандзіра атрада, які ласкава клікаў яе дачушкай.

– Дык яму ж загадваюць. Міжрайцэнтр загадвае, што ён, сам усё выдумляе? – паспрабавала яна абараніць Шаўчука.

– Загадваюць, канешне. І Кузняцову загадвалі. Аднак Кузняцоў быў такі, што дзе на яго сядзеш, там з яго і злезеш. Умеў адбрыкацца. Людзей паберагчы. А гэта цюха-мацюха: загадалі – ёсць, будзем выконваць. А як – у яго і ў паняцці няма.

– Во ты і падказаў бы, – не стрывала Зоська. – Ты ж стары партызан, з самай вясны ў атрадзе.

– З вясны, ага. Наваяваўся ўжо, во, – адмераў ён сабе даланёй да шыі. – Ды я што? Я радавы. Мая справа цялячая.

– Канешне, які з яго камандзір! Усё ж ён ваенны чалавек. Хаця і старшынёй быў.

– З немцамі ваяваць – не вераб’ёў страляць. Умець трэба. Іх вунь колькі напёрла. Сіла!

Зоська прамаўчала. Сіла. Гэта, вядома, яна ведала, бачыла і на сабе адчувала гэтую сілу. Але як справіцца з ёй, гэтай чужаземнай сілай, якая захапіла палавіну Расіі, як вярнуць усё назад – гэтага яна не магла сабе ўявіць. Затое яна выразна адчувала, што ў гэтай вайне, апроч як выстаяць і перамагчы, іншага выбару не існуе. Інакш не варта і жыць, лепш адразу галавой у прорву, каб не ашукваць сябе, не пакутаваць.

Яна была маленькі чалавек на гэтай зямлі – да вайны яшчэ толькі вучылася ў Навагрудку, некалькі месяцаў працавала піянерважатай у глухой сельскай школцы, жыла труднавата, ледзьве зарабляючы на якую-ніякую апратку, перабіваючыся з бульбы на хлеб. Але яна верыла ў лепшую будучыню, а яшчэ болей – ва ўсвоены ёю з кніг ідэал дабра і справядлівасці, які так нахабна растапталі фашысты. Яна іх ненавідзела, як толькі можна ненавідзець сваіх асабістых ворагаў: за тое, што яны расстралялі яе швагра-настаўніка, пазнішчалі ўсіх яе яўрэйскіх сяброўак у мястэчку, папалілі хутары і прычынілі столькі неспатольнага гора яе разбуранай акупаванай зямлі. І яна сказала сабе, што жыць на адным свеце з гэтым звяр’ём немагчыма, што яна будзе ім шкодзіць, як толькі льга, калі толькі яны не заб’юць яе раней. Каб не спазніцца, вясной, як толькі растаў снег, яна згаварылася з сяброўкай і пайшла ў лес, і вось ужо некалькі месяцаў для яе няма іншага лёсу, апроч ляснога жыцця атрада з яго небяспекамі, голадам, сцюжай, з мноствам іншых нягод – апрача вайны.

**5**

– А во і рака. Яе пералазіць будзем? – запытаў Антон, спыняючыся на невысокім, падмытым вадой беразе. – Пераскочым? Ці паплывем?

Вядома, ён жартаваў, ссунуўшы на патыліцу аблезлую, з аўчыны, шапку з абарванымі матузамі, а яна глядзела на цёмную сярод белых снегавых берагоў няроўную

паласу вады, і тая сёння не здалася ёй страшнай. Ужо ўдваіх яны як-колечы пералезуць цераз гэтую недалыгу-рэчку, якая ледзьве не ўтапіла яе ўчора.

Тым не менш, як пералезці, яшчэ трэба было падумаць, і яны няхутка пайшлі ўздоўж купчастага, парослага голым кустоўем берага. Ледзяныя закраіны месцамі былі шырэйшыя і туліліся да самага берага, за ноч іх добра прысыпала снегам, на якім дзе-нідзе расплываліся мокрыя плямы вады. У адным месцы, дзе рака была трохі вузейшая, ледзяныя крыллі амаль сыходзіліся на сярэдзіне, але мокрая шчыліна, што чарнела між імі, сведчыла пра здрадніцкую ненадзейнасць гэтай ледзяной мясціны. Трэба было пашукаць што-небудзь больш здатнае.

– Можа, палку якую пакладзем? – няўпэўнена прапанавала Зоська.

– І далёка ты дастанеш той сваёй палкай? – сказаў Антон, і ў ягоным голасе прагучала лёгкая насмешка з яе прапановы.

– А што! Я ўчора перакінула і ледзь не пералезла.

– Ледзь? Ледзь у такой справе не лічыцца.

Зоська падумала, што, напэўна, ён лепей ведае, што трэба рабіць, і болей нічога не прапаноўвала, пераклаўшы гэты клопат на Антона. Хоць ёй і здалося, што ў некалькіх месцах варта было паспрабаваць, яна маўчала, чакаючы, што скажа ён.

– Чортава рэчка! – бурчаў тым часам Антон, прабіраючыся ў берагавым лазняку. – І не ўмерзла, як трэба, і мелі заліла. Самы храновы час...

Час для дальняй дарогі быў, канешне, не самы лепшы. Тыдзень назад ударыла сцюжа з ветрам, учора паваліў снег, які не пераставаў і сёння – снежныя крупінкі рэдка, быццам без жаднай ахвоты несліся аднекуль з мутнай вышыні, было няўтульна і холадна. Зоська пасля стажка не пераставала дробна дрыжаць, увесь час

карцела пайсці хутчэй, прабегчы, каб як-небудзь сагрэцца. Каб толькі не гэта праклятая рэчка, якая другі дзень неадольнай перашкодай пралягла на яе шляху.

Раптам Антон сціх у хмызняку, трывожна павярнуўшы ўбок галаву, і Зоська пачула наперадзе ціхі, але выразны пляскат вады. Антон адвёў лазіну, прыгнуўся, усё ўзіраючыся кудысь праз зараснікі, і зноў дзесьці пад берагам пляснула раз і другі. Хтосьці там быў, і яны на хвіліну прыціхлі ў хмызняках. Але вось насцярожаны, з выпнутым носам Антонаў твар кранула лагодная ўсмешка.

– Бабёр! Глядзі, вылазе.

Стаўшы на засыпаную снегам купіну, Зоська пацягнулася вышэй і ўбачыла зводдаль на павароце ракі, як нешта жывое і мокрае з шырокай лапаткай хваста няўклюдна выбралася з вады на палку і, павярнуўшыся, стаілася на задніх лапах. Антон ціхенька свіснуў, і звярок, трапятнуўшыся, таропка схаваўся ў дзірцы, якая тут жа чарнела ў аснежанай кучы бязладна наваленых палак.

– Глядзі, прыжыліся! – сказаў Антон з лагодным захапленнем у позірку і палез праз хмызняк да бабровае хаткі.

– Няхай! Не трэба пужаць! Не трэба... – замахала на яго рукамі Зоська.

– Нічога! Глядзі, запруда якая. Во тут і паспрабуем пераправіцца.

Сапраўды, бабры навалілі на ўзбярэжны мысок добрую кучу галля, палак, розных рагацін, абгрызеных, без кары, дрэўцаў, якія ўтварылі шырокую, напалову ўмёрзлую ў берагавы лёд запруду. Абсыпаная снегам, яна высілася над рэчкай амаль на ўзроўні берагавога абрыву, і Антон, хапаючыся рукамі за сцюдзёнае голле асінніку, асцярожна пералез на яе.

– А што? Трымае. Ну – давай памалу… І не бойся, не бойся, я памагу! – падахвоціў ён Зоську. Тая таксама ступіла адною нагой на голы, прысыпаны снегам сук, які раптам пагрозліва пасунуўся пад яе ботам.

– Ой, слізка!

– Нічога... Давай за мной! Куды я ступіў, туды і ты ступай.

Хапаючыся за нізка навіслае з берага суччa і няпэўна ступаючы па слізкім ламаччы, яны перабраліся па завале амаль да сярэдзіны ракі і спыніліся. Далей было метры два чорнай вады, якая імкліва імчала каля крайніх, глыбока ўтопленых палак; з таго берага было відаць прытопленае гнілое бервяно, канец якога ціха пагойдваўся на плыні. Антон прымерыўся, прыкінуў адлегласць да канца бервяна, спрытней уладзіў нагу на ўпоры.

– Будзем сігаць.

– Ой! А раптам сарвемся?

– Зрывацца не трэба. Першы скакаць буду я. І падтрымаю цябе. Ну!

Уся куча палак і голля аднабока хіснулася, пляснуўшы вадой, штось пад нагамі хруснула, Антон узмахнуў рукамі і, лёгка наступіўшы на прытоплены канец бервяна, апынуўся на тым баку.

– Ну?

Ён шырэй расставіў ногі і чакаў, гатовы падхапіць яе, але Зоська раптам згубіла рашучасць, адчуўшы, што для такога скачка ў яе проста не хопіць сілы.

– Не дапрыгну…

– Ну, ну! Дапрыгнеш, давай, не бойся! – падганяў Антон з таго берага. Яна ў каторы раз прымервалася да страшнай вадзяной шырыні, кідаючы вінаватыя позіркі на ажыўлены, поўны нецярпення Антонаў твар, і не

магла адважыцца.

– Не магу. Не дапрыгну...

– Ну што ж мне, назад вяртацца? – урэшце зазлаваў Антон. – Я ж во дапрыгнуў, ты бачыла?

– Дык гэта ж ты!

– А ты? Галоўнае – смела! Ну, скачы, я падхаплю!

Зоська слухала яго і сама ўсё разумела: трэба адважыцца і скокнуць. Але спярша трэба было разлічыць штуршок з адлегласцю, і каторы раз, зрабіўшы тое, яна разумела, што да бервяна не дастане, значыць, зноў апынецца ў ледзяной вадзе. А новае купанне ніяк не ўваходзіла ў яе планы – даволі з яе ўчарашняга, ад якога яшчэ не высахла апратка.

– Ах ты, такую тваю мацер! – вылаяўся на тым беразе Антон і, ломячы ботамі лёд, рашуча сігануў у ваду. Яна не зразумела яшчэ, навошта ён так зрабіў, і спалохалася, убачыўшы яго па калені ў вадзе, адкуль ён патрабавальна працягнуў да яе рукі.

– Прыгай, ну!

Зоська скокнула – не на бервяно, а ў гэтыя выстаўленыя да яе рукі, ён пахіснуўся, але ўтрымаў яе, пераступіў, ледзьве сам не паваліўшыся ў ваду, і дужа штурхнуў нагамі наперад, да самай ледзяной закраіны ля берага. Яна ўпала на адно калена, але хутка ўскочыла і, запэцкаўшы рукі, узлезла на невысокі тут, аблытаны карэннем бераг.

– Дзякуй, – ніякавата сказала яна, пазіраючы, як выбіраўся з вады Антон. Мабыць, спяшацца яму ўжо не было патрэбы, абедзве ягоныя нагі да самых калень былі мокрыя, з левай палы кажушка лілася на бот вада.

– Набраў, ага? У абодва? Ну во... Ты мне даруй, калі ласка.

– Што рабіць! Зялёная ты яшчэ разведчыца. Напэўна,

зялёная, падумала яна, выразна ўсведамляючы сваю віну і з непрыемнасцю адчуваючы трохі прыкрытую яго незадаволенасць. Стоячы збоку, яна моўчкі глядзела, як ён з сілай сцягнуў з левай нагі бот і выціснуў на снег брудную дзіравую анучу.

– Во так! Цяпер абое купаныя, – упершыню падняў ён да яе яшчэ строгі, але трохі падабрэлы позірк, і яна зразумела, што ён ужо не сярдуе.

– Так шырока, што я не магла, – сказала яна. – А ў другім боце як? Суха?

– У другім суха, – сказаў ён. – Левы дзіравы, даўно ваду прапушчае.

Тым не менш Антон сцягнуў з нагі і правы бот, сухую анучу з правай нагі накруціў на пачырванелую ад сцюжы левую ступню.

– Каб крыўдна не было. Мокры бот, затое сухая ануча. Ён зусім ужо не злаваў, і ў Зоські адлягло ад душы – усё ж ён малайчына, гэты Антон Галубін.

– Напэўна, змёрз? Давай прабяжым, – прапанавала яна, але Антон не згадзіўся і нетаропка падняўся з берага, старанна выцер аб снег запэцканыя ў гразі рукі.

– Сагрэюся. Мароз невялікі.

– Куды цяпер – не зразумею нават. Пушча там быццам, так?

– Там, – пацвердзіў ён. – Недзе тут павінна быць дарога. А табе куды – на Астравок?

– Ага, на Астравок. Дазорцаў сказаў. Там хлопцы на заставе перавязуць цераз Нёман.

З гэтага боку рэчкі куп’сты балотны бераг густа зарос кустоўем, сярод якога ледзьве не да калень тапырылася ссохлая, перасыпаная снегам трава, і яны ішлі, пракладваючы паміж кустоў і купін дзве пары глыбокіх слядоў. Напэўна, гэтыя сляды трэба было б маскіраваць

неяк, але Зоська не ведала, як тут іх можна было замаскіраваць, і не здзівілася, калі Антон загадаў:

– Ты ідзі за мной. Каб у адзін след.

– Правільна.

Балота ўсюды добра прамерзла і няблага трымала чалавека, у траве было суха, дробныя лужыны павымярзалі да дна, і пад нагамі часам хрумсцела – нятоўсты лядок лёгка ламаўся ў траве.

– Зося! – нейкім асаблівым голасам сказаў раптам Антон і азірнуўся. Яна ледзьве не наткнулася на яго ззаду і спынілася, пазіраючы ў яго заклапочаны, нават азмрочаны чымсьці твар. – Зося, я павінен табе сказаць...

– Што?

– Знаеш... Я ў самаволцы, – сказаў ён і ўважліва паглядзеў на яе. Яна не зразумела нічога.

– У якой самаволцы? У разведцы...

– У тым-та і справа, што не ў разведцы. Я схлусіў табе. Мяне ніхто не пасылаў, я сам...

– Як сам?

– Сам. Як дазнаўся, што ты ідзеш на такую справу... Не вытрымаў. Ну і во...

Падняўшы высока бровы, Зоська стаяла і няўцямна глядзела ў яго азмрочаны перажываннем твар, і сэнс яго слоў не адразу даходзіў да яе свядомасці. У самаволцы? Чаму ў самаволцы? Чаму яна пайшла і ён не вытрымаў? Але вось пачала разумець нешта, і блытанае пачуццё спагады і спалоху ахапіла яе.

– Што ж ты нарабіў?

– Во нарабіў, – развёў ён рукамі. – Цяпер позна перарабляць.

– Не, табе трэба вярнуцца! – спахапілася яна. – Што ты! Цябе ж за такую справу...

– А цябе? – з нейкай незразумелай пераконанасцю перапыніў ён яе. – Ты ж у першай вёсцы ўліпнеш. Прападзеш за нішто.

– Чаму? – яшчэ болей здзівілася Зоська.

– Чаму? Табе растлумачыць, чаму? Што ты ўмееш? Пералезці цераз рачулку ты ўмееш? Ашукаць паліцая ўмееш? На дакумент свой спадзяваешся? Дык першы ж бобік усё адразу сцяміць. Ану дай твой аўсвайс!

Не могучы перасіліць сваю збянтэжанасць, яна сунула руку за пазуху і са спецыяльна прышытай для таго кішэні ў сачку дастала паламаную кніжачку аўсвайса.

– Ну во! – адразу расчаравана прамовіў ён. – Хто так дакументы носіць? Хіба вясковыя дзеўкі так аўсвайсы свае хаваюць? Трэба было абгарнуць у паперку ды завязаць у кужэльную трапачку. Ды схаваць пад сёмую апратку. А ў цябе – усё нагатове. Цяпер фатаграфія, – сказаў ён і сціх, разглядаючы здымак на дакуменце. – Ну, канешне, адразу відаць: пашпарт аднаго чалавека, а фота другога. Старое фота з чужога дакумента. Ды і пячатка... Ну хто ж так пячаткі ставіць! – абурыўся ён. – Рукі б таму паламаць. Глядзі, нават літары не супадаюць.

Яна зірнула на разгорнутую ў ягоных руках кніжку – сапраўды, літары на фатаграфіі яўна адрозніваліся ад тых, што стаялі на старонцы аўсвайса і ішлі неяк крыва, нібы распаўзліся ад вільгаці. Хаця ўчора аўсвайса яна не намачыла.

– Ну, бачыш? Як за цябе не баяцца?

Падобна, што ён у чымсьці меў рацыю, яе падрыхтавалі не дужа старанна, і яна вельмі лёгка можа ўліпнуць. Але як і чым апраўдаецца ён? Цэлая ноч адсутнасці ў лагеры не застанецца там без увагі, як тады ён растлумачыць гэтую сваю адлучку? Трывогай за Зосю

Нарэйка? Але ці не будзе гэта дзіўна і смешна? І хто гэтаму паверыць?

Збянтэжаная нечаканым адкрыццём, Зоська прыхінулася спіной да алешыны і стаяла, не могучы прыдумаць што-небудзь. Яна толькі няўцямна пазірала на свой злашчасны аўсвайс з няўдалым здымкам, адарваным ад яе даваеннага студэнцкага білета.

– Дык што ж нам рабіць?

Антон трошкі прытаптаў ботамі чорную палеглую папарać і нецярпліва варухнуў пад кажушком плячыма.

– Пойдзем разам. Авось я табе не перашкоджу.

– Ты мне не перашкодзіш, наадварот, – запэўніла Зоська. – Але...

– Быццам муж і жонка, ідзем у Скідзель да маці. Там сапраўды ў цябе маці, могуць праверыць.

– Ну што ты! Якая я жонка?..

– Не хочаш жонкай – сястрой будзеш. А што? Удваіх, знаеш, зручней.

– Яно так. Але...

– Хочаш сказаць: як у атрадзе пасля?

– Ну.

– Відаць будзе. Авось апраўдаемся. Ты ж за мяне ўжо заступішся?

Зоська ўсё не магла даўмецца, што ёй трэба зрабіць, на чым цяпер спыніцца і нават што сказаць Антону. Вядома, сэнс яго недарэчнага ўчынку не пакідаў сумнення, што ён зрабіў кепска і што, вярнуўшыся ў атрад, ім абаім не мінуць бяды. Антон зрабіў няправільна і нават злачынна, самавольна пакінуўшы атрад. У нейкай меры яго апраўдвала хіба тая

акалічнасць, што адправіўся ён не на п’янку на які-небудзь хутар, не на гульбішча, а пайшоў з ёй на небяспечную справу, адкуль невядома яшчэ, як вярнуцца. Зноў жа гэты спалох за яе, амаль безразважная рызыка ад страху за яе жыццё збянтэжылі Зоську. Яшчэ ніхто ў яе жыцці не спрабаваў зрабіць нічога падобнага, і гэта болей за ўсё аслабляла яе рашучасць, рабіла саўдзельніцай Галубіна.

– Ну што задумалася? – падобна, канчаткова адагнаўшы свае перажыванні, бадзёра сказаў Антон. – Няма чаго думаць. Ужо я цябе не пакіну. Пойдзем разам. Ці, можа, ты супраць?

– Я не супраць, Антон. Наадварот. З табой мне, сам разумееш... Але...

– Розных «але» хапае. Цяпер не будзем пра «але»... Халера, усё ж нага мерзне, – сказаў ён і прытупнуў левай, мокрай, нагой. – На Астраўку скажаш, што паслалі ўдваіх. Ты старшая, я ў падмогу. Пропуск далі?

– Далі, ага...

– Во і добра. Пераправімся, а там пабачым.

Ён зноў рабіўся ўпэўнены, нават ажыўлены, быццам наперадзе не было смяртэльнай небяспекі, а ў атрадзе не чакалі яго непрыемнасці, калі ён вернецца з гэтай самавольнай разведкі. Але што рабіць – сапраўды, яна не магла прагнаць яго ад сябе, ды і не мела на гэта жадання. Яна ўспомніла сваё адзінокае блуканне ўчора па гэтым балоце, і ёй стала паныла. А як будзе адной па той бок Нёмана, у незнаёмых, набітых паліцаямі вёсках?

– Няма чаго гараваць! – падбадзёрыў ён і паклаў вялікую руку на яе плячо. – Пайшлі!

Мусіць, каб канчаткова вывесці яе з панылай заклапочанасці, ён жартам скалануў бліжнюю бярозку, і цэлае воблака сняжынак сыпанула на абаіх. Зоська знячэўку здрыганулася, але не ўсміхнулася нават, і ён надзеў рукавіцу і няхутка пайшоў між зараснікі,

пракапваючы ботамі глыбокі след у засыпанай снегам траве.

**6**

Антон ведаў: тут недзе была дарожка, месяц назад ён вяртаўся па ёй з Зарэчча, але цяпер дарогі нідзе не было відаць; проста рабілася дзіўна, куды яна магла знікнуць? Па слізкім ад снегу травяністым схіле яны ўзабраліся да хваёвага ўзлеску, трохі прайшлі між сасонак і, не згледзеўшы дарогі, крута павярнулі ўбок. Але дарогі ўсё не было, а неўзабаве іх шлях упёрся ў шырокі развалісты роў. Спыніўшыся над яго абрывістым берагам, парослым кустамі ляшчынніку, Антон пачакаў Зоську.

– Дзесь дарога была. І няма.

– Папытаць... – зморана вымавіла Зоська і змоўкла, мусіць, даўмеўшыся: у каго тут было папытаць?

Ведама, дарога, – не іголка ў сене, недзе яна знойдзецца, але Антону шкада было часу, нямала якога было патрачана на гэта дурное блуканне, калі наперадзе яшчэ столькі небяспек і клопату. Праўда, ён мог бы ісці і хутчэй (наогул ён хадзіў хутка), але Зоська пачала адставаць, усё ж яе кароценькі крок не параўнаць было з яго крокам у метр. Дзяўчына нарэшце, відаць, угрэлася, светлыя пасмачкі яе валасоў выбіліся з-пад цёплай хусткі і прыліплі да спатнелага лоба, твар расчырванеўся і макава гарэў ад стомы.

Антон пастаяў, падумаў, але ў роў не палез – пайшоў па-над берагам, збіваючы ботамі снег з нізенькіх кустоў ядлоўцу. У лесе стала цяплей, вецер сціх, толькі голае вяршалле ляшчынніку ціхенька пагойдвалася на тым схіле рова. Высокія хвоі з далікатна аснежаным голлем разважна шумелі ўгары. Канешне, ён ведаў напрамак і мог ісці на Астравок праз лес, наўпрасткі, без дарогі, але ўсё ж да Астраўка было кіламетраў восем, і ён пашкадаваў Зосысу. Напэўна, недзе паблізу, можа, нават у тым месцы, дзе канчаўся роў, і была дарога, не

магла ж яна праз зямлю праваліцца.

Яны, аднак, яшчэ не дайшлі да канца гэтага рова, які патроху мялеў, як Антону здалося, што дзесь чуецца голас. Ён спыніўся, паслухаў, азірнуўся на Зоську – тая таксама насцярожана прыслухоўвалася. Неўзабаве іх слых вылучыў у лясным пошуме некалькі невыразных гукаў – несумненна, дзесьці паблізу нягучна размаўлялі людзі.

– Ты пастой тут, – ціха сказаў Антон Зосьцы, а сам памалу пайшоў ад рова ў глыб лесу.

Сосны раслі не густа, між іх голых камлёў было б далёка відаць, калі б не густаватыя зараснікі ядлоўцу і хвойнага падросту, які прывольна раскінуўся на ніжнім ярусе лесу. У гэтым сухім зімовым бары падрост быў неблагім сховішчам на выпадак чаго, Антон лёгка маскіраваўся ў ім, тупаючы ад куста да куста, ненадоўга спыняючыся і слухаючы. Галасы часам знікалі зусім, але вось зноў пачуліся трошкі ўбаку, і Антон затаіўся за патрэсканым камлём сасны. Непадобна, каб тут былі немцы або паліцаі, падумаў ён, хутчэй за ўсё сяляне ці, можа, партызаны з суседняга атрада Варашылава. Але цяпер ён не меў ніякага жадання сустракацца ні з кім. Ды і Зосьцы такія сустрэчы маглі толькі пашкодзіць, ім трэба было трымацца як мага далей ад людскога вока.

У бары пад шапкамі хвой снегу было не шмат, месцамі ён толькі пасыпаў шэры, з ігліцай мох, які добра глушыў крокі чалавека. І ўсё ж трэба было асцерагацца. Спыніўшыся за сасной, Антон выцяг з кішэні наган і, расшпіліўшы ў кажушку верхні гузік, засунуў наган за пазуху.

Людзей ён убачыў нечакана блізка, як толькі абмінуў край маладога густаватага бярэзніку, праз які не стаў прадзірацца, і павярнуў убок. Спярша кінуўся ў вочы конь, што паныла стаяў у вупражы крокаў праз дваццаць ад яго, за ім на санях з падсанкамі сядзела спіной да яго жанчына ў рудым, з чорным каўняром кажушку, і побач, прыгнуўшыся, стаяў мужык у шэрай

суконнай паддзёўцы, які засяроджана сачыў за нечым, што рабіла жанчына. Побач на снезе ляжала свежапаваленая сасна, ужо раскрыжаваная, з абсечаным суччам, і Антон здагадаўся, што, мабыць, гэта з вёскі прыехалі ў лес па дровы.

Не губляючы, аднак, асцярогі, ён выйшаў з-за бярэзніку на адкрытае і спакойна скіраваў да людзей. Жанчына, што сядзела да яго спіной, не магла яго бачыць, але мужчына, напэўна, учуў яго крокі і ўзняў галаву.

– Добры дзень вам, – спакойна павітаўся Антон, падыходзячы бліжэй; мужчына таропка саставіў нагу з саней, пазіраючы на яго трохі здзіўленым, спалоханым позіркам. Гэта быў малады, крутаплечы хлопец з рэдзенькім пушком на барадзе, у чорнай шапцы-аблавушцы. З-пад паддзёўкі на ім відаць былі паношаныя армейскія брыджы з нашыўкамі на каленях, і Антон непрыязна падумаў: прымачок, напэўна.

Падобна, так яно і было. Хлопец трымаў у руцэ скібу хлеба з салам, якім яго частавала жанчына, як заўважыў Антон, падышоўшы бліжэй, спрытная, вяртлявая маладзіца, якая непрыязна і бязбоязна зірнула на яго. Тут жа была і дарога з прашараваным да пяску свежым следам ад гэтых саней.

– Добры дзень, – насцярожліва адказаў прымак, усё трымаючы ў руцэ лусту хлеба з пакладзеным на яе салам. Цяпер ужо абое яны трывожна глядзелі на Антона, які сказаў як можна спакойней:

– Па дровы прыехалі?

– Ды во трэба, – няпэўна сказаў прымак і паклаў на калені жанчыны хлеб, які тая адразу прыбрала ў белую зрэбную сумку. Антон ступіў бліжэй і нагой паварушыў цяжкі хваёвы камель, які ледзьве варухнуўся на снезе.

– Ну і таўшчыня! Як вы здужалі такую?

– Во, два мужыкі ды каб не адужалі! – нечакана ахвотна азвалася маладзіца. З хвойніку, падпяразваючыся

старой вяроўчынай, вылазіў яшчэ адзін мужык, чалавек не маладога ўжо веку, з кароценькай, густа пасрэбранай сівізной бародкай.

– Для будаўніцтва, напэўна? – здагадаўся Антон.

– Падруба пад хату. Згніла, ці ведаеце, тавар быў няўдалы. Вядома, пры цару яшчэ будаваліся, – з добразычлівасцю, без ценю насцярожанасці загаманіў старэйшы і пасля кароткай паўзы папытаў асцярожна: – Здалёк будзеце, пан-таварыш?

– Здалёк, – сказаў Антон, адразу адзначыўшы гэтую няўпэўненасць барадача адносна «пана-таварыша». Аднак прасвятляць гэтае пытанне Антон не збіраўся. – А вы адкуль будзеце?

– Ды вунь са Сцяблёўкі.

– Ну, са Сцяблёўкі мы, – пацвердзіла маладзіца. Прымак маўчаў, насуплена, з-пад ілба вывучаючы няпрошанага ляснога госця.

– А ён таксама са Сцяблёўкі? – запытаў Антон, кіўнуўшы ў ягоны бок.

– Таксама, ага. Мужык мой, – заўсміхалася маладзіца, і спакуслівыя ямкі азначыліся на яе ружаватых шчоках.

– І даўно мужык?

– Не-а. Вунь на спаса ажаніліся.

– Панятна, – сказаў Антон і, зірнуўшы на прыкрытую палой кажушка зрэбную сумку з харчамі, падумаў: пачастуюць ці не? Хаця, напэўна, пакуль не вызнаюць, хто ён – пан ці таварыш, – пачастунку не будзе.

Але ён не спяшаўся вызначаць сябе, ён глядзеў на маладзіцу з сімпатычнымі ямкамі на шчоках і на яе мужычка, зусім яшчэ маладога хлопца, які, калі б не вайна і некаторыя звязаныя з ёй абставіны, напэўна, яшчэ пачакаў бы жаніцца. Маладзіца ж з такой закаханаю лагодай пазірала на яго, што Антон адчуў

зайздрасць. Халера на іх – ідзе вайна, людзі гінуць, пакутуюць, а гэтыя вось жэняцца і нават падумалі мяняць падрубу. Не пудлуе, аднак, гэты хлопец у паддзёўцы.

– Ну еш, еш, Пецечка. На во табе з любавінкай, – хатнім галаском прымаўляла маладзічка перад сваім Пётрам. Антон адвярнуўся.

– А Сцяблёўка гэтая ваша дзе? У якім баку? – запытаўся ён у барадатага.

– А во акурат на ўзлессі. Во тут недалёка.

– А туды што будзе? – кіўнуў ён у той бок, дзе знікала не кранутая санным следам дарога.

– А туды Замошша, Гузы... Пасля гэта, як яе... – забыўся барадаты.

– Ну, Суглінкі яшчэ, – падказала маладзіца.

– Ды не, не Суглінкі, Суглінкі вунь дзе, убаку. А туды Загладзіна, во!

– І Загладзіна, і Суглінкі, і Астравок – усё ў тэй старане, – настойвала на сваім маладзіца, не злазячы з саней. Яе прымачок пачаў моўчкі жаваць хлеб з салам, усё яшчэ кідаючы засцярожлівыя позіркі на Антона. Антон зразумеў ужо, у якім напрамку трэба было ісці, і, каб не выдаць свайго намеру, пра вёскі перастаў пытацца. Запытаўся аб іншым:

– Чужыя ў вёсцы ёсць?

Барадаты з прымаком зірнулі адзін на аднаго, маладзічка кальнула яго недаўменным позіркам.

– Так ета, знаеце, пан-таварыш, – пачаў барадаты. – Ета як палічыць. Калі... Калі немцы, дык няма бытта, а паліцэйскія бываюць. І парцізаны бываюць...

– Панятна, – сказаў Антон. – Далі б хлебца, ці што.

– Ай, дык жа ў саміх мала, – зазірнула ў сумку маладзіца, але дастала акраец і, адрэзаўшы ад яго невялікі кавалак, падала яму.

– А сальца не будзе?

– Ну якое яшчэ вам сала! Самім во па кавалачку.

– Маня, дай чалавеку, – з добрасцю падказаў барадаты, і Маня, не вымаючы рук з сумкі, адкроіла там даўгаватую лусту белага сала.

– Во цяпер дзякуй, – сказаў Антон.

– Ізвіняйце. Мы гэта самае... Думалі, – пачаў і няпэўна замоўк барадаты.

Ні чарта вы не думалі, падумаў Антон, пашкадавалі проста. Не патрабуеш, дык і не дадуць, гэта ён засвоіў даўно. Ён зняў рукавіцу і запхаў хлеб з салам у кішэню кажушка. Барадаты, невялічкага росту мужычок знізу ўгару адкрыта, без страху пазіраў на Антона, відаць па ўсім, не супраць паразмаўляць са свежым чалавекам у лесе. Ён толькі не мог, пэўна, даўмецца, хто гэты чалавек і як трэба весці размову. Нарэшце мужычок не стрымаўся:

– Вы гэта ізвіняйце, аднак жа цікава: парцізан вы ці, можа, з паліцыі будзеце?

– А чаму цябе гэта цікавіць? – здзівіўся Антон некалькі просталінейнаму ў такіх абставінах пытанню.

– Ну, бачу, аружыя ў вас. Аружыя, яно, канешне, у модзе цяпер, але...

Антон машынальна сунуў руку за пазуху, далей запіхнуў рукаятку нагана. Усе трое з недажаванымі кавалкамі ў роце чакалі яго адказу.

– А я – чалавек. Чалавек проста. Гэта што – кепска?

– Яно не кепска. Але, знаеце... Цяпер так не бывае.

– Вось ён жа, напэўна, таксама не парцізан? – паказаў Антон на прымоўклага прымака. – І быццам не паліцай яшчэ. А жыве ж? І, бачу, жыць збіраецца, калі надумаў падрубу мяняць.

– Эт! – грэбліва махнуў рукой барадаты і локцем саўгануў штаны. – Якая гэта жысць! Хіба гэта жысць! Удзень бойся, уначы бойся...

– А чаго ж ён не возьме вінтоўку? Ды не пойдзе ў лес? Каб не ён, а яго баяліся?

– Во, во, во! – раптам нядобра закудахтала ў санях маладзіца і саскочыла ў снег. Адставіўшы ўкормлены зад, сварліва выпнулася перад Антонам і замахала рукамі. – Во! Во! Я так і знала, агітатаршчык! Ён яго спакушаць будзе! І слухаць не слухай яго! Ого! У лес! А можа, у яго характар не той! А можа, ён забіваць нікога не хоча? Ён ціхі, ён курыцу не абідзе, а то ў лес!

– Ды ладна ты! – ляніва прамовіў прымак, і шчокі яго запунсавелі, напэўна, ад гэтага няпрошанага яе заступніцтва.

– А во і не ладна! Тожа мне парцізаншчык найшоўся! – усё болей раз’ятрывалася маладзіца. – Сам, як недабіты воўк, па лясах шастае і другіх яшчэ зманьвае. І яшчэ хлеба яму дай... Ідзі, адкуль прыйшоў!

– Ма-аня, ды сціхні ты! – зноў памкнуўся ўціхамірыць яе прымак. – А то во вазьму і надумаю...

Маня на момант збянтэжылася, але тут жа з яшчэ большай ярасцю накінулася на мужа:

– Ах ты, неданосак! Паспрабуй мне! Я табе надумаю! Я табе пакажу! Даўно цябе ад Параскі адвадзіла, дык цяпер у лес.

Пачыналася сямейная звада, слухаць якую Антон не меў часу, павярнуўся і пайшоў ранейшым следам назад. Яны там усё сварыліся, чуўся жаночы лямант, але ён не азіраўся, ён думаў: дзіўная гэта справа – вайна. Ён даўно ўжо не чуў такога вось сварлівага бабскага крыку

і адвык ад усякіх сямейных клопатаў, амаль забыўся, як некалі вярэдзілі яго душу частыя сваркі маці з жонкай старэйшага брата, з якім яны некалі таксама рамантавалі сваю старую хату ў мястэчку, мянялі гэтую самую падрубу і перакрывалі адзін бок даху дранкай. Апошнія перад вайной гады Антон дома бываў не часта, ездзіў па вёсках, спаганяючы з сялян падатак, зарабляў не так многа, але на хлеб і гарэлку хапала. У яго было мноства знаёмых у раёне, не было адбою ад дзяўчат, кожная з якіх, мабыць, з радасцю пайшла б за яго замуж. Але жаніцца ён не спяшаўся, яму хапала іх без жаніцьбы, думаў, яшчэ паспее. Дома з невялікай гаспадаркай, кароваю і гародам упраўлялася турботная, працавітая маці, пераначаваць і паесці ён мог у кожнай знаёмай вёсцы, работай сваёй увогуле быў задаволены, хаця яна і задавала яму клопату, але ён адчуваў, што прыспеў да яе характарам, не размякаў, як іншыя, калі трэба было паказаць цвёрдасць і спагнаць з разгільдзяяў у карысць дзяржавы столькі, колькі той належала па закону. Палёгкі ён не даваў нікому, і за гэта яго паважала начальства ў раёне, калгаснікі таксама паважалі ці, можа, пабойваліся, але для яго гэта было ўсё роўна. Горш было з тымі знаёмымі, якія ад яго не залежалі і над ім не стаялі, такія чамусьці яго недалюблівалі і міналі на вуліцы, хаця яму было на іх напляваць, з імі ён не вадзіўся. Ён меў неблагую галаву на плячах і не горш за каго разумеў, што добра, а што кепска. Не тое каб ён лічыў, што сам не дужа разумны, – проста ён ведаў, што патурбавацца за агульную справу знойдуцца дзесяткі іншых, а вось клапаціцца аб ім не будзе ніхто, калі ён сам за сябе не паклапоціцца. Таму ён рабіў так, як разумеў, наколькі гэта, вядома, было магчыма, і не любіў, калі яго вымушалі рабіць насуперак яго волі. Праўда, з пачаткам гэтай праклятай вайны ўсё пайшло не так, як заўсёды і як бы таго хацеў ён, ды тут нічога не зробіш. Пачалося з таго, што неяк на зыходзе мінулай зімы ў акно хаты Галубіных ціхенька пастукалі ноччу, Антон расчыніў дзверы, у кухню ўвайшло чалавек шэсць пры зброі. У пярэднім ён не адразу прызнаў раённага начальніка НКУС, з якім да вайны быў трохі ў сяброўстве і думаў, што той цяпер недзе далёка на ўсходзе. Але ён аказаўся паблізу і ў той

свой прыход прапанаваў Антону ўступіць у партызанскі атрад. Антону гэта не надта каб спадабалася, ён ужо прымерваўся да новай працы, механікам на лесапільні, але, учуўшы, што ў атрадзе многа знаёмых, наважыўся, спакаваў «сідар» і праз некалькі дзён быў у патрэбным месцы пад лесам. На першым часе ён займаўся рамонтам зброі, сабранай на палях баёў з немцамі, а пасля сам узяў у рукі вінтоўку. І пайшло-закруцілася: стаў камандзірам узвода, целаахоўнікам у камандзіра атрада і во дакаціўся да радавога, што, нібы згаладнелы воўк, як сказала маладзіца, шастае па цёмных лясах, не даючы спакойна спаць людзям.

Ён спорна крочыў між соснаў да рова, і ў ім усё расла, падступала да сэрца туга па самым звычайным, шэранькім, як ва ўсіх ці ў большасці, мірным сялянскім жыцці пад дахам, сваёю сям’ёй, з такой вось порсткай маладзічкай побач, каб без страху, вайны – у добрасці і міры.

Але ён толькі безнадзейна ўздыхнуў – так гэта было далёка і так недасяжна. Добра гэтак марыць таму, у каго ёсць хоць якая-небудзь гарантыя адносна жыцця наогул – у яго ж не было жаднай гарантыі наогул. Ён ні на што не спадзяваўся, бо ведаў, што не сёння, дык заўтра гарачая куля распластае яго на снежнай траве і справе канец.

Добра яшчэ, калі пахаваюць па-людску. А то ніхто і не знойдзе, і ён будзе ляжаць пад снегам да самай вясны. Калі згаладнелыя за зіму ваўкі і лісіцы не парасцягваюць ягоныя доўгія косці па сваіх лясных схованках.

Зоську ён згледзеў яшчэ здалёку, тая цярпліва чакала яго на ўзроўку, дзе ён пакінуў яе, і Антон, прыпыніўшыся, махнуў два разы рукой – давай, ідзі сюды!

**7**

Яны трошкі збочылі ад рова і неўзабаве прытупалі да

нешырокай лесавой дарожкі, прысыпанай свежым, не кратаным нагамі снегам. Антон зірнуў у адзін бок дарогі, у другі, саней адсюль не было відаць, і ён упэўнена павярнуў направа, пакідаючы ззаду шырокія сляды на снезе, у якіх зажаўцеўся дарожны пясок.

– Во, разжыўся, – сказаў Антон, дастаючы з кішэні абкрышаны кавалак хлеба. – Халера на яе, баба не хацела даваць, ледзьве выцыганіў.

Зоська міжволі праглынула сліну, атрымаўшы ў рукі палову кавалка свежага сялянскага хлеба з вузенькаю паскай сала.

– Смачна як пахне! – панюхала яна хлеб. – Любіла такі, на кляновых лістках. Мама пякла.

– Еш, – проста сказаў Антон, са смакам адкусіўшы сам.

– Зоська нарэшце ўгрэлася, ісці па роўнай дарозе было куды лягчэй, чым прадзірацца праз калючы гушчар, яна расшпіліла верхні гузік свайго плюшавага сачка і адпусціла вузел хусткі на шыі. Хвойны аснежаны бор ледзь чутна шумеў угары, зверху паволі плылі-ападалі рэдкія прыгожыя сняжынкі. Было ціха. Дзесь чуўся дробненькі стукат дзятла, але Зоська не звяртала на яго ўвагі, яна ўвесь час пазірала наперад, дзе знікала пакручастая лесавая дарожка. Туды ж кіраваў позірк і Антон, які проста і натуральна ўзяў на сябе частку яе дарожнага клопату і звязанай з ім небяспекі. Усё гэта іншы раз магло б толькі парадаваць Зосысу, але цяпер яна мала радавалася, хутчэй наадварот, – усё яшчэ не магла вызваліцца ад сваіх трывожных сумненняў. Праўда, за сябе яна менш баялася – яна трывожылася за Антона.

– Слухай, вяртайся назад. Тут ужо я сама прайду, – сказала яна, ідучы ззаду, і Антон крута азірнуўся.

– Нашто? Я правяду.

– Што, да самага Нёмана?

– Там будзе відаць, – няпэўна адказаў Антон, і яна не

стала пярэчыць – адчула, што ён яе не паслухае. Яна разумела, якімі непрыемнасцямі пагражала абодвум гэта яго ўпартасць, але пярэчыць яму не магла. А можа, і не хацела нават.

– Там прыехалі па сасну. На падрубу, – кіўнуў ён галавой, трошкі стрымліваючы свой крок. – Прымачок адзін з дзеўкай. Вайна вайной, а яны будуюцца.

– Ды хіба мала такіх! Думаюць, адседзяцца, перачакаюць. Хай за іх другія ваююць, – зласліва сказала Зоська, і Антон уважліва паглядзеў на яе.

– Гэта так, – пагадзіўся ён. – Ды ўсім жыць хочацца.

Жыць хочацца ўсім, падумала яна, але, мабыць, справа не ў гэтым. Хіба не хочацца жыць тым, хто гіне са зброяй у руках, каго арыштоўваюць і знішчаюць за сувязь з партызанамі, нарэшце, тым няшчасным, ні ў чым не вінаватым, якіх нішчаць толькі за іх паходжанне? Хіба не хацеў жыць яе швагер Леанід Міхайлавіч, выкладчык матэматыкі ў местачковай школе, чалавек зусім бяскрыўдны і безадмоўны, затузаны сваёй уладарнай жонкай, роднай сястрой Зоські. Некалі здавалася Зосьцы, якая ціха недалюблівала швагра за гэтую яго бесхрыбетнасць, што ён з лёгкасцю пражыве пры ўсякай уладзе, сцерпіць усё, нікому не скардзячыся і нават ні на каго не пакрыўдзіўшыся. Але вось не ўдалося пражыць Леаніду Міхайлавічу нават першую ваенную зіму – у сакавіку яго ўжо арыштавала гестапа.

Зоська дагэтуль не магла сабе ўявіць, якую віну перад немцамі меў Леанід Міхайлавіч і завошта яны яго расстралялі. Але, мабыць, штосьці было, інакш бы ён так не развітваўся з жонкай, дзецьмі і Зоськай пры арышце – развітваўся назаўжды, са спакойным усведамленнем непазбежнасці кары і свайго злога лёсу.

Тым часам вузкая лясная дарожка вывела іх на шырокі прагал з бальшаком і лініяй сувязі, якія пад вострым вуглом перасякалі іх шлях. Там яшчэ здалёку былі прыкметны нейкія сляды ад палазоў ці колаў, па

ўзбочыне нехта нядаўна прайшоў, пакінуўшы неглыбокія ямкі ў снезе. Антон толькі выйшаў з-за прыдарожных дрэў і адразу ж павярнуў назад.

– Давай старaной. Ну яе, гэтую дарогу...

Яны сышлі ў лес, прабраліся праз калючы гушчар маладога хвойніку і пайшлі лесам зводдаль ад бальшака, аднак не губляючы таго з поля зроку. На бальшаку было пуста, прадзірацца ж праз хваёвы зараснік і падрост каштавала немалых сіл, куп’істая лесавая зямля з пнямі, жорсткай папараццю і галлём не давалі як разысціся, і Зоська падумала: можа, варта было б рызыкнуць і пайсці бальшаком. На самай справе, яна ўжо здарова прытамілася на гэтым шляху і ледзьве спраўлялася за Антонам, шырокія плечы якога мільгалі ў зарасніках. Зоська хацела была паклікаць яго, але перадумала: добра ёй з дакументам і пропускам, а як будзе яму ў выпадку сустрэчы з паліцыяй або немцамі? Адзін ягоны наган можа загубіць абаіх... І яна моўчкі цярпліва прабіралася па ягоным следзе ў неверагодна калючай хвойнай гушчэчы, з якой яны вылезлі на імшарыстую нізінку, зарослую старым змрочным ельнікам. Тут было ціха, цёмна і дзікавата, нібы ў склепе. Шумна дыхаючы, Зоська раптам заўважыла, як Антон знерухомеў наперадзе між дзвюх абымшэлых елак, і яна затаіла дыханне: з боку дарогі чуўся прыглушаны маторны гул, ён набліжаўся, з ім разам данесліся галасы, мужчынскі смех. Антон засцярожліва падняў руку.

– Чуеш, немцы...

У Зоські абмерла сэрца, яна прыслухалася – гул нядоўга патрымаўся на ранейшай ноце за ельнікам і памалу стаў слабець, аддаляцца. Падобна было на тое, што там сапраўды праехалі немцы, і яна падумала: добра, што Антон збочыў з дарогі. Так лепш, хаця і цяжэй. Мабыць, дарогі цяпер не для іх.

Пасля яны быццам усё ж згубілі бальшак, таму што за гадзіну лесавога шляху з таго боку не данеслася ніводнага гуку, зніклі і ўсе іншыя адзнакі дарогі. Антон

пакрочыў трошкі марудней, і Зоська пачала выроўніваць сваё дыханне. Яна ўжо страціла ўсякае ўяўленне аб гэтай мясцовасці, ніяк не арыентуючыся ў дзікім незнаёмым лесе і спадзеючыся толькі на Антона, які, мабыць, ведаў, куды вёў яе. Яны перайшлі дзялянку са штабелем нарыхтаваных хваёвых дроў, пералезлі шырокі круты роў, з надта слізкага схілу якога Зоська з’ехала на спіне, а пасля ледзьве ўзлезла на другі, не меней абрывісты бераг. Рукавы сачка, калені і спаднічка зноў прамоклі наскрозь, выкачаныя ў снезе. За ровам вялікі лес кончыўся, пачалося драбналессе, падзьмуў вецер, у якім па-ранейшаму гойсалі рэдкія сняжынкі. Неба нядобра хмурылася, стала сцюдзёна, але нейкія няўлоўныя адзнакі ўжо сведчылі пра набліжэнне ракі, рэльеф прыкметна памкнуў уніз. І вось наперадзе, між прывольна разбегшыхся па схіле сосен, зашарэў пусты, прытуманены снегападам абшар. Вады яшчэ не было відаць, а лес скончыўся, і Зоська зразумела: яны падышлі да ракі.

«Малайчына, правільна. Не заблудзіўся», – з задавальненнем падумала яна пра Антона і бягом дагнала яго.

– Ну, во, пажалста. Выйшлі! – кіўнуў ён рукой на разлеглае ўнізе рэчышча.

Яны нетаропка абышлі маладыя хвойкі і спыніліся на абрыве. Унізе, каля іх ног, магутна гнаў сцюдзёныя хвалі Нёман.

Некалькі разоў у дзяцінстве Зоська бачыла гэтую раку, але ўсё ў летні час, і тая не рабіла на яе вялікага ўражання – абмялелая, з пясчанымі залысінамі берагоў, яна здавалася тады нешырокай, спакойнай, раённага маштабу рачулкай. Цяпер жа выгляд яе змяніўся так, што было не пазнаць, быццам гэта была другая рака, так яна раздалася ўшыркі і з імклівай магутнаю плынню несла ў сабе нейкую таямнічую, нават пагрозлівую сілу. Ва ўсю яе бачную з гары даўжыню ішло «сала» – густая мешаніна крыг з абцёртымі, нібы ў стылым тлушчы краямі, якія няспынна плылі і плылі, штурхаючыся і кружачыся, і ціхі, таемна-магутны

шоргат стаяў над ракой. Абрывістыя лясныя берагі шырока расступіліся перад напорыстай сілай стыхіі, абыякавай да іх спакойнага расліннага жыцця, занятай сабой і сваім спрадвечным рухам да мора.

– Астравок, здаецца, вышэй будзе. Мы трохі ніжэй выйшлі, – сказаў побач Антон.

Зачараваная суровай прыгажосцю ракі, Зоська хвіліну не магла адвесці ад яе вачэй, думаючы, як жа ім пераправіцца цераз гэтую ледзяную плынь? Дзе знаходзіцца Астравок, яна не задумвалася, яна ўжо прывыкла, што ў такіх справах Антон разумеў болын, зноў жа, увосень ён тут усё скалясіў са сваёй групай. Не спускаючыся да вады, яны пайшлі па-над абрывістым берагам у пошуках гэтага самага Астраўка.

– Значыць, так, – павярнуўся да яе Антон. – На заставе там Петракоў. Або, можа, сяржант з дэсантнікаў. Той, каторага летам пад Зельвай падабралі. Дык ты назавеш пароль і скажы, што ўдваіх ідзем. Паняла?

– А ты не вернешся?

– Ты слухай сюды. Кажы так. А пасля пабачым.

Зоська не пярэчыла, здаецца, яна ўжо страціла здольнасць пярэчыць гэтаму чалавеку, усё ў якога атрымлівалася лепш і больш хвацка, чым у яе. Ён яўна адбіраў у яе ініцыятыву ў гэтым яе паходзе, але яна не трывожылася, – ну і няхай! Мабыць, ва ўсім, што датычыла вайны, ён быў болыпы спец, чым яна.

Аднак па беразе яны прайшлі кіламетры два, перш чым убачылі на рачной паваротцы прытоплены ў вадзе астравок, зарослы па берагах голым цяпер лазняком. Нёман тут раздзяляўся на два рукавы, галоўнае яго рэчышча абмінала з таго боку, а пратока ля гэтага берага была густа забіта лёдам, рух якога амаль спыніўся ў вузкім вадзяным рукаве. Трохі бліжэй абрывісты лясны бераг разразала вялізная прамоіна-роў, з якой вырывалася ўгору ледзь прыкметнае на цьмелым хвойніку шэрае клочча дыму.

– Задымілі, – сказаў Антон. – Мабыць, грубку раскачагарылі.

Не паспелі яны, аднак, наблізіцца да вусця рова, як аднекуль з кустоў насустрач выбег мітуслівы, чорненькі, бы вугалёк, сабачка, які са злым брэхам кінуўся на Антона. Антон спыніўся, прытупнуў нагой, але сабачка і не падумаў спалохацца, і толькі калі ён падхапіў з-пад ног камень, тады кінуўся назад у роў. Аднак адтуль па сцежцы насустрач ужо шкандыбаў няголены, у ватных штанах і нейкай самаробнай суконнай апранашцы пажылы чалавек з тоўста абвязанай шыяй. Ён глухавата адкашляўся, хутка супакоіў сабачку. Антон уважна павітаўся:

– Здароў, Петракоў.

– Здароў, – глухім голасам адказаў чалавек, стоячы на абрыве. За ягонымі плячыма відаць былі дашчаныя дзверы зямлянкі, іржавы камінок над якой капціў клоччам шызага дыму.

Антон прапусціў Зоську наперад.

– Кажы пароль.

Яна і сама ведала, што трэба назваць пароль, але ці гэта трэба зрабіць цяпер, ці потым, яна забылася. Як заўжды, выручаў Антон.

– Прывет вам ад Міроныча, – сказала яна, з увагаю пазіраючы на худы, з шэрым шчаціннем твар Петракова. Той, ціха кашлянуўшы, прамовіў водзыў:

– Даўнавата з кумам не бачыліся.

Здаецца, усё было правільна, пароль і водзыў супалі. Зоська з палёгкай уздыхнула і тут жа надумала запытаць, як наконт пераправы, ды Петракоў павярнуўся на абрыве.

– Гэта... Сюды ідзіце. Ціш ты, шкварка! – крыкнуў ён на сабачку, які зноў паспрабаваў накінуцца на Антона. Зоську ён яўна ігнараваў увагай, увесь свой гнеў

кіруючы на яе спадарожніка.

– Гэта... Прайдзіце пакуль што... Во сюды, – адчыніў Петракоў падвешаныя на скуратах дзверы зямлянкі, з якой прыемна дыхнула на іх цеплынёй і дымам.

Зоська і Антон, прыгнуўшыся, улезлі ў цесненысую, выкапаную ў рове зямлянаку з абломкам шкла ў дзвярах замест акенца, лаўкай і добра напаленай печкай, дым з якой упарта не хацеў лезці ў комін і раз-пораз кідаўся ўсярэдзіну. Петракоў працёр далонню слязлівыя вочы і ўзяў з долу бот, за якім пацягнулася доўгая нітка дратвы.

– Зашыць трэба... А вы гэта, сядайце, – кіўнуў ён на лаўку, сядаючы сам каля печкі. – Пакуль Барматухін лодку прыгоніць.

Яны селі. Зоська бліжэй да печкі, Антон – ля самых дзвярэй. Антон беглым позіркам акінуў зямлянку.

– А дзе ж начальнік твой?

– А няма начальніка, – сказаў Петракоў, з натугай круцячы шылам дзірку ў задніку.

– Як? Быў жа сяржант гэты. З дэсантнікаў. Петракоў адкашляўся, плюнуў у кут за печкай.

– Быў. Папаўся сяржант. Цяпер я во.

– А, гэтак...

– Так во. А вы туды? – падняў ён на Зоську нейкі спакутаваны позірк счырванелых, мусіць, ад дыму, вачэй.

– Туды, – скупа пацвердзіла Зоська. Петракоў, сціскаючы ў руках бот, ціха ўздыхнуў.

– Да-а-а...

– А што? – не зразумела Зоська.

– Ды нічога, што ж... Учора вунь вярталіся хлопцы з

Чапаеўскага. Двое. Трэцяга няслі ў пасцілцы. Во боты з яго.

Зоська перацяла дыханне.

– Што? Забілі?

– Забіты. Дзве кулі. Адна ў грудзі, другая ў жывот.

– Да, дрэнь справа, – паморшчыўся Антон.

Зоська моўчкі сядзела, непрыемна ўражаная гэтаю весткай, хаця, калі разважыць, чаго тут было здзіўляцца? Ці мала дзе каго забілі – ішла вайна, і забівалі кожны дзень сотнямі. І ўсё ж яна адчувала, што гэта між іншым пачутая навіна мела нейкія адносіны і да яе, – можа, забіты перапраўляўся на той бок ля гэтага самага Астраўка, ды і забілі яго недзе ў тых жа мясцінах, дзе прыйдзецца дзейнічаць ёй. Зноў жа размова пра кулю ў жывот заўжды выклікала ў Зоські непрыемнае адчуванне. Болей за ўсё яна баялася менавіта кулі ў жывот, хаця і разумела, што атрымаць кулю ў галаву ці ў грудзі, мабыць, не лепей. Петракоў з дапамогай самаробнага шыла і дратвы старанна рамантаваў бот, увесь час хрыпла пакашліваў, і Зоська, гледзячы на яго тоўста абвязаную нейкай суконкай шыю, сказала:

– У вас горла баліць, ага?

– Ды ўжо баліць, – адказаў ён, не адрываючыся ад свайго занятку. – Застудзіў і вот... Відаць, дакашляю гэту зіму.

– Ну чаму вы так! – здзівілася Зоська, адчуўшы ў ягоным голасе тужлівыя ноткі. Петракоў толькі махнуў рукой.

– А, усё роўна. Чым жысць такая...

Антон нецярпліва рэзка ўстаў з лаўкі і, сагнуўшы галаву пад нізкаю столлю, зірнуў праз няшчыльна прычыненыя дзверы, з якіх усё несла ветрам і сцюжай.

– Ну дзе ж твой Барматухін? Ці, можа, ты перавязеш?

– Барматухін перавязе. Ён цяпер перавозчык. Антону яўна тут не сядзелася, ды і Зоська ледзьве трывала ў гэтай прагорклай ад дыму зямлянцы. Цяпер яе, праўда, расчуліў спакутаваны выгляд Петракова, і ёй стала шкада хворага чалавека.

– Дык, можа, лякарства трэба якое? Можа, вам мёд памог бы? – сказала яна, настылымі рукамі пагладжваючы прыгрэтае ля печкі калена.

– Якое лякарства! Мне ўжо нішто не паможа, прыйдзецца таго... Сухоты ў мяне, – проста паведаміў Петракоў і змоўк, глыбока засунутай у халяву рукой мацаючы канец дратвы.

Зоська збянтэжылася. Яна не ведала, што ў такіх выпадках можна сказаць чалавеку, чым суцешыць яго. Ды і ці трэба суцяшаць наогул?

Сабачка, які быў недзе знік, радасна заскавытаў па той бок дзвярэй, Антон зірнуў праз акно і адступіўся. Дзверы шырока расчыніліся, і ў іх паявіўся, відаць, вельмі азяблы хлапчук з худзенькай шыяй і ў сямі нейкіх неахайна захінутых на грудзях апранахах. На яго галаве, глыбока насунутая на вушы, сядзела шэрая паношаная кепка з гузічкам наверсе.

– Сігнал давалі, дзядзька Мікалай?

– Даваў, як жа. Во перавезці, – паказаў позіркам на гасцей Петракоў, і Зоська здагадалася, што ўрэшце прыйшоў Барматухін. А яна думала, што гэта будзе чорны мужык з барадой. Хлопец, аднак, увайшоў у зямлянку і прычыніў за сабой дзверы, за якімі тоненька віскатаў сабачка.

– Закалеў. Такі вецер усчаўся...

– «Сала» ўсё прэ? – запытаў Петракоў.

– Яшчэ болей стала. Такія крыгі – ого!

– Стане Нёман, – рашыў Петракоў. – Хужы дзела будзе.

– А нам хужы не будзе, – сказаў Барматухін.

Ён прысеў перад печкай, працяг да агню скорчаныя ад сцюжы рукі, і Зоська падумала: як жа ён іх пераправіць у такі ледаход? А раптам аб лодку стукнецца крыга, і яны апынуцца ў вадзе. Але Нёман – не балотная рэчка, адсюль не так проста выбрацца на бераг. Яна са страхавітым клопатам пазірала на Петракова і хлопца, якія быццам і не думалі аб тым. Барматухін, усё трымаючы ля агню настылыя рукі, павярнуў да яе востранькі, з пасінелым носам, тварык і нібы падміргнуў нават.

– На сувязь? У разведку?

– Барматухін! – са зморанай строгасцю прыкрыкнуў Петракоў. – Табе што? За чым нада, за тым і ідуць.

– А! – расчаравана выдыхнуў хлопец. – Бытта няведама, па што за Нёман ходзяць. Абы варочаліся.

– Як-небудзь пастараемся, – сказала Зоська.

– Во-о! Так усе гавораць. Толькі не ўсе варочаюцца. У нядзелю перавозіў шасцярых, два разы лодку ганяў. А ўчора вяртаюцца трое. І то адзін нежывы. Застрэлены.

– Барматухін! – зноў спыніў яго Петракоў. – Памаўчы лепш.

– Ды я – калі ласка, – з гатоўнасцю пагадзіўся падлетак і ўстаў. – Ну дык пайшлі хіба?

Ямчэй захінуўшы на грудзях свае надзетыя адзін на адзін пінжачкі, ён тужэй падперазаўся брызентавай, ад вайсковых штаноў, папружкай і нагой піхнуў лёгкія дзверы. Яны адзін за адным выйшлі на вузенькую прыступку каля парога. Зоська, азірнуўшыся, сказала Петракову:

– Як-небудзь папраўляйцеся, дзядзька.

– Ды дзякуй, – без асаблівай удзячнасці азваўся Петракоў.

Пасля дымнага цяпла зямлянкі на двары іх адразу ж ахапіла сцюжай, пранозліва дыхнуў з ракі вецер, Зоська дробненька здрыганулася. Але Барматухін ужо бег па сцяжынцы да берага, і яны рушылі следам. Зоська ўся ўнутрана сцялася, пазіраючы на ледзяны крыгалом на рацэ, цераз якую ім трэба было пераправіцца.

Барматухін тым часам з хрупасткім шоргатам абламаў тонкі ледзяны закраек ля берага, спіхнуў з водмелі пласкадонку і прытрымаў яе за драўляны нос.

– Залазьце.

Антон лёгка і ўпэўнена сігануў цераз борт, падаў руку Зосьцы, і тая са страхам няспрытна ўлезла ў лодку, на дне якой плёскалася вада і плавалі празрыстыя кавалачкі лёду.

– Праходзьце далей. Адзін на карму, другі на сярэдзіну. І сядайце, сядайце! Стаяць не можна! – звыкла распараджаўся Барматухін. Калоцячыся ад сцюжы і страху, Зоська апусцілася на мокрую папярэчыну, Антон прысеў на карме. Барматухін паднатужыўся, адпіхнуў лодку ад берага і ў апошні момант спрытна ўскочыў у яе сам.

Зоська ледзьве жывая сядзела на папярэчыне, з усяе сілы трымаючыся рукамі за мокрыя бакавіны лодкі, якая пагрозліва зазыбалася, выцялася носам аб крыгу, але на дно не пайшла і нават не зачэрпнула вады. Стоячы на карме, Барматухін спрытна працаваў вяслом, ва ўсе бакі круцячы сваёй круглай у кепцы галавой. Паволі лодка паплыла ад берага, пасля яе імкліва падхапіла цячэнне і, на вялікі страх Зоські, хутка панесла між крыгаў. Але Барматухін таксама тут не шманаў – размахваючы вяслом, то гроб, то адштурхоўваўся ад цяжкіх крыгаў, адпіхваючы іх далей ад лодкі. Разы два крыгі ўсё ж здорава грукнулі ў борт, вада ў лодцы плёхнулася, Зоська яшчэ мацней учапілася ў дошкі бартоў, у яе кружылася галава, а лодка здавалася такой ненадзейнай, што проста дзіва было, як яна яшчэ трымаецца на паверхні ў гэтым калаўроце крыг і вады. Але лодка трымалася, і

Барматухін яшчэ неяк кіраваў ёю – наўкось да процілеглага, у лазняках, берага. Пераадолеўшы першы спалох, Зоська нясмела азірнулася – нізкі пясчаны астравок і лясны бераг з прамоінай прыкметна аддаляліся, ужо ледзьве стала відаць сцяжынка на абрыве, і зусім прапала за выступам Петракова зямлянка, наўкола шырока разлёгся вадзяны прастор, і бясконцыя чароды крыг імкліва праносіліся міма. Але ўрэшце і сярэдзіна ракі засталася ззаду, лодка ўвайшла ў болей спакойную ўзбярэжную плынь. Тут крыг стала меней, яны ледзьве плылі, раскручваючыся амаль на адным месцы, і ў Зоські палягчэла на сэрцы. Рухава распіхваючы лёд вяслом, Барматухін прывёў лодку ў хмызняк, дзе яна супакоена торкнулася нарэшце ў падмыты край берага.

– Фу! – з палёгкай выдыхнула Зоська. – Ну і нацярпелася страху.

– Які тут страх? – здзівіўся Барматухін. – Хіба тут страшна?

Антон першы выскачыў на бераг, дапамог выйсці Зосьцы.

– Ну, перавозчык, дзякуй табе, – сказаў ён.

– Няма за што, – бойка і, мабыць, звыкла адказаў Барматухін. – Вы, гэта самае, направа не хадзіце, там вёска. І па беразе не ідзіце: небяспечна па беразе.

– Гэтак? Ды што ж нам – па паветры, ці што? – здзіўлена пажартаваў Антон.

– Не, не па паветры, – сур’ёзна адказваў Барматухін, стоячы ў лодцы і старанна хукаючы на свае скалелыя рукі. – Вунь на дрэва трымайце. Там скора лес будзе.

– Ну што ж, пойдзем на дрэва, – пагадзіўся Антон.

– А будзеце вяртацца, во тут у лазе лодку знойдзеце.

– Ясна.

Яны палезлі ад ракі на некруты, але слізкі ад снегу бераг, а Барматухін, трохі адплываючы ў ціхай вадзе, усё дзьмуў на свае азяблыя пальцы.

– А як завуць цябе? – азірнулася з абрыву Зоська.

– Барматухін.

– А імя, імя як?

– А, імя... Ды Валодзька імя.

«Дай Бог табе вырасці, – падумала Зоська. – І яшчэ перавезці нас на той бок».

**8**

Нёман застаўся ззаду, яны нядоўга паазіраліся на яго, ідучы полем, хаця ракі ўжо не было відаць. Амаль не стала відаць на тым беразе і лесу; знік, патануў між берагоў Астравок; памаячыла здаля і прапала нейкая вёсачка ніжэй вострава. Пайшоў снег. Шэры палявы прастор навакол усё болей цямнеў, затканы бялявай смугой завеі. Неўзабаве амаль нічога не стала відаць, трэба было добра напружыць зрок, каб за мільготкаю сеткай сняжынак згледзець які-небудзь прыцьмелы ў полі куст ці адзінокае дрэўца на ўзмежку. Усчаўся вецер. Часам яго шалёныя парывы так моцна шыбалі ў грудзі, што забівалі дыханне, і Антон на хвіліну адварочваўся, падстаўляючы ветру шырокую, у кажуху спіну.

– Во, халера, як раз’юшыўся!..

Зоська паднімала насустрач расчырванелы ад ветру твар з наліплымі да яго мокрымі сняжынкамі, якія заляпілі таксама ўсю яе хустку, пасму валасоў на лобе, густа замуравалі касмылявую шчэць яе плюшавага сачка. Яна спрабавала ўсміхнуцца, хістка заграбаючы ботамі ў снезе і не трапляючы ў шырокія Антонавы сляды.

– От жа халера! Ішлі па лесе, дык ціха было. А ў голым

полі як задуло! – пракрычаў праз вецер Антон. – Замерзла, малеча?

– Не-а, – сказала Зоська і ўсміхнулася астыглымі вуснамі.

– Табе калі трэба ў Скідзель? Заўтра?

– Сёння ноччу.

– Сёння не выйдзе. Адсюль да Скідзеля кіламетраў шаснаццаць.

– Так далёка? – здзівілася яна, таксама павяртаючыся спіной да ветру. І праўда, увесь час ісці полем было пакутай, а дарогі яны абміналі, усё ж тут – не на тым баку Нёмана. Тут ваўсю гаспадарылі немцы і іхнія халуі паліцаі. У адным, аднак, ім пашэнціла – завея памагала прайсці незаўважна і гладка раўняла ззаду сляды. Калі б толькі не гэты шалёны вецер.

– Нічога, датупаем, – бадзёра сказаў Антон, павяртаючыся тварам да ветру.

Кепска, канешне, што яны не разлічылі свой шлях, змарнавалі час на пераправе праз Нёман і сёння не маглі дабрацца да Скідзеля, куды з самага ранку так імкнулася Зоська. Зрэшты, Зоську можна было зразумець: у яе заданне, розныя тэрміны і дзе-небудзь у ціхай напаленай хаце – самотная адзінокая маці. Але не меней, чым Зосьцы, Скідзель патрэбны быў і Антону, хаця ў яго не было там ні маці, ні якога-небудзь задання. Праўда, з нейкага часу там аб’явіўся ягоны стары, яшчэ барысаўскі сябра Жорка Капыцкі, хуткая сустрэча з якім цяпер не на жарт хвалявала Антона. Ведама, яны былі сябрамі, і Антон меў нейкую надзею на яго, але хто ведае, які стаў Капыцкі за тыя пяць або шэсць месяцаў, каторыя яны не бачыліся. Мабыць, маючы нейкую ўладу ў Скідзелі, ён, калі б схацеў, мог бы памагчы Антону. Але ці паможа – во ў чым загвоздка. Тым больш што той з’явіцца да яго не адзін, а з гэтай во сімпатычнай малышкай, на якую ў яго былі свае планы. Антон ужо разумеў, што ў жахлівую пару

вайны людзі, як ніколі раней, здольны крута мяняць свае погляды, і ўчарашні сябра вельмі нават проста можа аказацца ворагам. Гэта дурань Антон, некалі зважаючы на старое сяброўства, памог Капыцкаму ўладкавацца ў сакрэтную спецгрупу, якую фарміравалі для засылкі ў дальні тыл немцаў, і яны разам прыбылі на Беласточчыну. Праўда, пасля іх шляхі разышліся, але тут ужо Антон ні пры чым, тут ва ўсім вінаваты Капыцкі.

У тым, што яго цяперашні шлях так здатна супаў з Зосьчыным выхадам, Антон гатовы быў бачыць шчаслівы знак свайго ваеннага лёсу. Іх сённяшняя пераправа праз Нёман, якая болей за ўсё іншае турбавала Антона, прайшла ўвогуле добра, на заставе не спатрэбілася нічога тлумачыць, памагла Зоська. Мабыць, для Зоські ён штосьці ўжо значыў, калі яна паставілася да яго так прыязна, асабліва пасля іх малапрыемнай размовы каля бабровай запруды. Зоська – не Капыцкі, думаў Антон, маючы амаль цвёрдую ўпэўненасць, што яму пашэнціць з гэтай разведчыцай. Яшчэ ніводная дзеўка, на якую ён кідаў вокам, не грэбавала ім, Антон ведаў сілу сваёй прывабнасці і ўмеў пакарыстацца ёю, калі толькі гэта было яму трэба. Цяпер Зоська стала яму надта патрэбнай, і Антон спадзяваўся, што калі пастараецца, дык усё задуманае ім збудзецца. Толькі б не падвёў Капыцкі.

Прыкідваючы кірунак у полі, ён упарта ішоў супраць ветру і думаў, што калі да Скідзеля сёння ім не дайсці, дык трэба паклапаціцца аб начлезе. Тым больш што кароткі дзень памалу канчаўся, неба на ўсходзе змерклася, здаецца, пачынала цямнець. Яны спусціліся ў лагчынку з кустоўем, Антон трохі ўзяў у абход, каб не лезці ў калючы гушчар, цяпер у голым полі было зручней. Нямоцны ўдзень марозік пад вечар пачаў зусім адпускаць, на хадзе стала цяплей, нават душна пад кажушком. Але Антон з непрыемнасцю заўважыў, што вецер усё болей паварочваў з захаду, адкуль ён заўжды прыносіў адлігу і непагадзь. Сухія крупчастыя сняжынкі ў паветры сталі бухматыя і раставалі на твары, рукавы і полы кажушка хутка зачарнеліся ад

вільгаці. Антон зачэрпнуў з долу жменю свежага снегу, пакамячыў у далонях – снег ужо ляпіўся, і ён падумаў, што ноччу, мабыць, ударыць адліга, якая дашчэнту спляжыць іх палявы шлях. Як бы не давялося выходзіць на дарогу.

Ён азірнуўся на схіле – Зоська ўсё адставала і калі дагнала яго, Антон ціха сам сабе засмяяўся – так яе пераўтварыў снег, што паналіпаў на галаву, грудзі і плечы. Антон пачаў моўчкі змятаць яго з Зоські, і тая, паварочваючыся, слушна падстаўляла сябе пад нямоцныя ўдары яго далоні.

– Замарылася?

– Трошкі...

Увесь дзень Антон наважваўся загаварыць з ёй, падбіраў зручны момант, настрой і прыглядаўся да абставін, каб сказаць ёй тое галоўнае, дзеля чаго ён апынуўся з ёй разам. Але, як наліха, абставіны мала спрыялі такога роду гаворцы: замінала то небяспека паблізу, то прысутнасць чужых людзей побач. Ён мусіў перапыняць сябе на паўслове і чакаць болей спрыяльнага моманту. І Антон чакаў, з затоенай трывогай пазіраючы на спадарожніцу – то заклапочаную, то спалоханую, а цяпер во яшчэ і змораную гэтай снегавой дарогай. Яны пратупалі ад Нёмана, можа, кіламетраў дзесяць, нідзе не напаткаўшы жылля, і Антон не мог даўмецца, дзе тут магла быць якая-колечы вёска. Гэты лесавы раён на паваротцы Нёмана ён быццам ведаў някепска, летам выездзіў яго ўдоўж і ўшыркі, але цяпер не пазнаваў нічога – так змяніла яго завея. Праўда, сам ён не надта стаміўся і мог бы ісці доўга, аднак яму шкада было Зоську. Хаця тая і не наракала на стому, але Антон бачыў, як нялёгка даводзілася ёй на ветры, у лёгкай вопратцы і мокрых з той ночы ботах.

Тым часам неяк раптам зрабілася цёмна, дзень неўпрыкмет скончыўся. Праўда, ноч абяцала быць відная ад свежага снегу на зямлі, але завея ўсё не сціхала, і нічога не было відаць. Можа, так яно і лепш,

думаў Антон, ніхто іх не ўбачыць у гэтым завейным полі. Але і яны не шмат маглі згледзець і брылі амаль што навобмацак, кожную хвіліну рызыкуючы наткнуцца на нечаканасць.

Усё напружана ўзіраючыся наперад, Антон убачыў у мільгаценні завеі некалькі тэлеграфных слупоў паблізу – пэўную адзнаку дарогі. На іх шчасце, дарога ляжала пустая, яны таропка перабеглі яе па слізкім пад снегам бруку, стараючыся адысціся як мага далей. Але за дарогай пад нагамі аказалася засыпаная снегам ралля ці, можа, ускапанае бульбяное поле, ісці па якім было пакутай, і Антон павярнуў наўкось ад ранейшага свайго кірунку. Калі наперадзе зацьмела нешта шырокае, ён падумаў, што наткнуўся на ўзлесак, але падышоў бліжэй і ўбачыў шэраг нахіленых у розныя бакі вербаў, што стаялі на гаці..Прыглядаючыся да іх, Антон міжвольна пацяг у сябе носам і разам са звыклым пахам мокрага снегу адчуў смачны пах ежы.

– О, сала! – сказаў ён, спыняючыся ў некаторым нават здзіўленні. – З цыбуляй...

Зоська таксама спынілася, яны памаўчалі, прыслухаліся, і Антон зразумеў, што не памыліўся. Сапраўды, вецер хутка данёс і пах дыму, значыць, дзесьці ў тым баку была вёска ці, можа, хутар, напэўна, яны б далі прытулак. Антон крута павярнуў да вербаў.

Толькі яны ўзышлі на невысокі насып пад вербамі з белаю гладдзю сажалкі побач, як раптам зусім блізка наперадзе ўбачылі купу будынін: пад нізкім аснежаным дахам цямнела сцяна хлеўчука, заснежанае голле дрэў угары. Трошкі далей за плотам цьмела, напэўна, хата, страха яе была вышэй, чым хлеўчукова, з бліжэйшага да вугла акенца выбівалася слабая плямка святла; данёсся дзіўнаваты ўночы, нейкі рыплівы гук. Калі гук паўтарыўся на болей высокай ноце, Антон здагадаўся, што гэта іграў гармонік. Засцярожліва варухнуўшы рукой да Зоські, ён спыніўся за дуплістым камлём аблепленай снегам вярбы. Пах дыму стаў тут выразней, але гармонік, здаецца, прыціх; данёсся і абарваўся зводдаль нечы прыглушаны смех.

– Ану пачакай. Я зараз, – ціха кінуў Антон Зосьцы, а сам асцярожна скіраваў да хаты, беручы трошкі ўбок, каб наблізіцца да яе з гарода.

У твар ляпіў снег, які не даваў як след разгледзець жытло, ды ўжо Антон здагадаўся, што ў хаце ідзе гульбішча, значыцца, немцаў у вёсцы няма. Але ці ўдасца тут неўпрыкмет прыдбаць дзе начлег, ён не ведаў. Мабыць, трэба было спаткаць каго-небудзь з тутэйшых ды пагутарыць з ім. Або хоць бы дазнацца, як завецца вёска і якая абстаноўка ў іншых вёсках паблізу.

На двары, аднак, не было нікога, на хвіліну ён стаіўся за вуглом хлеўчука, услухаўся ў прыглушаны гоман у хаце. Адначасова чулася некалькі мужчынскіх галасоў, зрэдку між імі раздаваўся жаночы смех, але пра што ішла гамана, зразумець было немагчыма. Счакаўшы хвіліну, Антон асцярожна перабег ля паркана і прыцяўся спіной да шурпатых бярвенняў хаты.

Праз адталую шыбку ў дол падала расплывістая пляма святла, у якой белымі матылямі несліся з цемры і асядалі сняжынкі. Галасы за сцяной сталі гучнейшыя, ён ужо злавіў некалькі ўрыўкаў фраз (да некага звярталіся, называючы яго «пан Юзік»), і зноў зайграў гармонік. Раптам святло ў акне прыцьмела, амаль знікла, на снезе пад акном засталася толькі касая яго палоска, якая то шырылася трошкі, то зусім знікала. Антон зрабіў крок ад сцяны і асцярожна зазірнуў у акно.

За рамай на падаконніку цьмяна паблісквала шкло, пэўна, пустой бутэлькі, побач стаялі міскі з закускай, за імі чарнелі нечыя шырокія мужчынскія плечы. Гэтыя плечы раптам хіснуліся, падаліся ўбок, і ў акне, прыкрыўшы святло, з’явіўся на падаконніку локаць. Антон міжвольна адхіснуўся ад гэтага блізкага за шклом руху, у апошні момант ухапіўшы позіркам штосьці знаёмае на рукаве... Зноў зазірнуўшы з-за ліштвы, ён ціха пра сябе вылаяўся – на цёмным рукаве паддзёўкі святлела знаёмая паліцэйская павязка.

Антон прыхінуўся да бёрнаў сцяны, паглядзеў за вугал.

Ісці ў гэты двор не мела ўжо сэнсу, мяркуючы па ўсім, там пілі паліцаі або нехта з удзелам паліцаяў, што таксама не лепей. Трэба было шукаць іншае месца.

Па сваіх, ужо ледзьве прыкметных у снезе слядах ён хутка перайшоў за хляўчук і пад прыціхлыя гукі гармоніка пакрочыў да недалёкіх вербаў. І раптам ён ярка прыпомніў, што некалі ўжо бачыў гэтыя пахілыя вербы і сажалку, мабыць, у верасні яны праязджалі тут з Кузняцовым, Антон яшчэ хацеў напаіць каня ў сажалцы, але Кузняцоў спяшаўся і не даў спыніцца. Праўда, ён не ведаў, як называецца вёска, але цяпер ужо і так зарыентаваўся і прыпамятаў, што недалёка быў лес, а наўкось ад яго ручэй і далей хутар, да якога вяла з вёскі абсаджаная бярозкамі наезджаная палявая дарожка.

Зоська стаяла каля крайняй вярбы, і Антон не адразу ўбачыў яе, але вось яна нецярпліва падалася да яго, і ён моўчкі махнуў рукой, павяртаючы да грэблі ў завейную імглу поля. Гэты раз ён крочыў рашуча і таропка, не чакаючы Зоську, бо ўжо ведаў, куда трэба ісці, і яму карцела хутчэй апынуцца пад дахам. Зноў жа – хацелася есці. Пах смажанай ежы ды гэтае паліцэйскае гульбішча ў хаце не на жарт абвастрылі яго апетыт.

І сапраўды ён хутка набрыў у полі на радок маладых бярозак, якія роўненька выстраіліся ўздоўж завеянай снегам дарогі, і ўпэўнена павярнуў улева, насустрач ветру. Цяпер ужо не мела значэння, дзе ісці – полем ці па дарозе, і ён пакрочыў уздоўж ледзьве прыкметных у завеі прысадаў. Зоська старалася не адставаць і, угнуўшы галаву, дзе крокам, а дзе і бягом, як-колечы паспявала за ім.

Як ён таго і чакаў, спярша з прыцемкам з’явіліся дзве вялізныя ліпы ў гародзе, пасля зацямнеліся будыніны хутара – хата, гумно, некалькі хляўкоў каля хаты. Хутарок гэты, як памятаў з восені Антон, не кідаўся ў вочы заможнасцю, ды і хатка мела даволі бядняцкі выгляд – урослая ў зямлю пяцісценка з нізенькімі квадратамі акенцаў. Тады тут калупаўся дзед з некалькімі немаладымі жанчынамі, мужчын у той раз,

калі яны сюды заязджалі, не было відаць, і яны ні аб чым не пыталіся ў гаротнага, са зблытанай барадой старога, бо не думалі калі-небудзь паявіцца тут зноў.

Аднак Антон паявіўся.

Касабокія вароты ў плоце былі зачынены і нечым завязаны знутры, Антон, не спрабуючы адчыніць іх, пераскочыў цераз верхнюю жэрдку плота, дапамог пералезці Зосьцы. Тут ён амаль не баяўся нікога: на гэтым Богам забытым хутары наўрад ці хто мог быць староннi. Добра яшчэ, калі тут наогул хто-колечы будзе. Зрэшты, гэта цяпер не мела значэння, ім трэба было перш за ўсё захінуцца ад ветру і трохі аддыхацца ад гэтай начной завеі.

Прыземістая хата пад вялізнаю шапкай страхі з дрывотняй каля хлеўчука спаткала іх глухой цішынёй і бязлюддзем, з вокнаў нідзе не прабівалася ні плямкі святла, можна было падумаць, што хутар даўно пакінуты і нідзе нікога няма. Але Антон невыразна адчуваў нейкія адзнакі жыцця, хтосьці там быў, хоць і нічым не выдаваў гэтай сваёй прысутнасці. Так ціха і неўпрыкмет жывуць і дажываюць на свеце старыя – самі ў сабе, ціха, малапрыкметна для староннягa вока.

Зоська след у след тупала ззаду, Антон моўчкі ўзышоў на каменныя прыступкі ганка і піхнуў дзверы ў сенцы. Дзверы, як ён і чакаў, лёгка адчыніліся, выцягнуўшы рукі, ён прамінуў цёмны прастор сяней і неўзабаве намацаў дзверы ў хату. Адчыніўшы іх, адразу пераступіў высокі парог, ды так і застаўся стаяць у прынесеным з сабой белым воблаку сцюжы.

З трохі падсветленага свечкай паўзмроку да яго павярнулася некалькі твараў жанчын у цёмным адзенні, іх складзеныя на грудзях рукі раптам замерлі, вымаўленая ціхім голасам маліцвенная фраза перапынілася на паўслове. Антон перавёў позірк ніжэй і са страхам ці агідай зірнуў на жоўты, зморшчаны тварык у дамаўі, забыўшыся зачыніць дзверы і ўжо выразна разумеючы, што з’явіўся сюды недарэчы.

– Да-а... Ладна, – прамармытаў ён, ступаючы зноў да Дзвярэй, адкуль уваходзіла ў хату Зоська.

Ледзьве асветленыя знізу мільготкім агеньчыкам свечкі, жалобныя твары жанчын зноў павярнуліся да нябожчыцы, з ціхай напеўнасцю загучалі незнаёмыя словы каталіцкай малітвы, і ён адчуў, што трэба затрымацца тут хоць бы на адну хвіліну. Мокрай рукой ён сцягнуў з галавы мокрую ад снегу шапку і маўчаў. Зоська вялізнымі вачыма моўчкі ўтаропілася ў нябожчыцу. Напэўна, трэба было сказаць нешта, прыдатнае ў такім выпадку, але ён не мог прыдумаць, што можна сказаць, і ўсё пазіраў то на свечку, то на мёртвы твар і думаў. Мабыць, гэтую яго збянтэжанасць жанчыны зразумелі па-свойму – адна з іх нячутна крутанулася ў змрок і вярнулася з нечым, прыхінутым канцом фартуха.

– Во, не абяссудзьце на горачка... Не абяссудзьце на горачка...

Яна казала гэта да Зоські, і тая паслухмяна і без слоў узяла ў яе нешта і, слаба піхнуўшы локцем Антона, павярнулася да дзвярэй. Сунуўшы на галаву шапку, Антон з нечаканай палёгкай выбраўся з цёмных сянец на белы ад снегу двор хутара.

– Халера! – сказаў ён, аддаючыся ранейшаму клопату. З начлегам у іх упарта не клеілася.

Ён не ведаў ужо, куды ісці далей, не папытаўся пра тое ў хаце, а зноў вяртацца туды ў яго не хапала адвагі. Уражаная тым, што ўбачыла, Зоська гаротна стаяла побач, прыціскаючы да грудзей голыя рукі.

– Што гэта? – запытаў Антон. – А, хлеб? Ану дай сюды.

Ён узяў з яе рук акраец чэрствага, як камень, хлеба і чатыры звараныя ў лушпінах бульбіны, распіхаў іх па кішэнях, акрайчык засунуў за пазуху.

– Ну? Пойдзем. Можа, яшчэ што натрапіцца.

## 9

Доўга і амаль навобмацак яны ішлі па голай раўніне поля. Снег, не перастаючы, валіў і валіў у сырых прыцемках. Калені, рукавы і ногі ў Зоські даўно былі мокрыя, і яна думала: хоць бы не прамок сачак, дзе тады пасушыцца? Антон моўчкі з падвойнай энергіяй крочыў і крочыў кудысьці, можа, ведаючы куды, а можа, проста ў ноч, наўздагад. Зоська хацела папрасіць яго збавіць гэты непасільны для яе тэмп, але не адважвалася. Ён і тут ведаў мясцовасць лепш за яе, а галоўнае – лепш арыентаваўся ў гэтай снегавой прасторы, і яна з усяе сілы старалася ад яго не адстаць. Яна прытрывалася ўжо да ветру і не звяртала ўвагі на снег, а толькі ўгінала ніжэй галаву, калі твару рабілася невыносна ад сцюжы. Перад яе вачыма ўсё стаяла жалобная сцэна начных хаўтур на тым хутары. Не першы раз бачыла яна за вайну, як хаваюць нябожчыка, але такія мірныя, «жаночыя» хаўтуры ёй давялося бачыць упершыню. І, здаецца, ніхто там не галасіў, не плакаў, усе засяроджана, з глыбокай верай маліліся, быццам разам рабілі нейкую важную, хоць і малавясёлую справу. І ні аднаго мужыка – толькі бабы. Не, Зоська проста палохалася такіх хаўтур, яны ўражвалі яе сваёй нязвыклай будзённасцю. І, можа, упершыню яна раптам падумала: а якія наканаваны ёй, Зосьцы?

Але не, ёй рана думаць пра тое, у яе труднае, на некалькі дзён распісанае заданне. Трэба наведацца ў Скідзель і яшчэ ў два хутары, з’ездзіць у Гродна. Можа быць, пашэнціць пабачыць матулю. Ёй трэба яшчэ шмат куды паспець у жыцці, навошта думаць пра пахаванне?

Аднак яна зноў адстала. Невыразна-расплывісты цень Антона ледзьве ўгадваўся ў ветравым прыцемку, злева цягнулася сцяна хваёвага лесу, і Зоська падумала: няўжо прыйдзецца паварочваць у лес? У лес яна не хацела, ёй лепш было ў гэтым завейным полі, чым у змрочным, шумлівым, загадкавым і страшным лесе. Чвякаючы дашчэнту раскіслымі ботамі, яна пабегла за Антонам, які спыніўся і даў ёй падбегчы поруч.

– Бачыла? Бачыла, куды мы зайшлі?

Нізка насунуўшы на вочы шапку, ён паказваў на лес, які няроўным узлескам адварочваў кудысьці ўлева, а наперадзе перад імі цягнулася крывулястая чарада кустоўя і невысокіх дрэў, падобная на прысады дарогі. Каб зразумець нешта, Зоська моўчкі ўгледзелася ў падслепаваты снегавы прыцемак.

– Лес?

– Ды не лес. Котра, глядзі.

– Котра?

– Ну. Во куды выйшлі. Трэба было правей. Цяпер такога крука даваць...

Зоська маўчала. У яе нутры ўсё апала ад гэтай нечаканай весткі – сапраўды, калі тут рэчка Котра, дык яны надта адышліся ўбок і даўно прамінулі Скідзель.

– Цяпер у Скідзель прытупаем ранкам, не інакш, – сказаў Антон.

– Мне ноччу трэба.

– Ноччу, канешне, лепей. Але ноччу ўжо не паспеем. Не, у Скідзель яна не магла прыйсці ўдзень, калі яе пазнае першая цётка на вуліцы, ёй трэба было ў цемры зайсці з боку Азёрскай шашы, знайсці крытую гонтай хату пад ліпай і пастукаць у другое акенца ад вуліцы.

Хвіліну пастаяўшы на ветры, яна адчула лёгкія дрыжыкі ў целе, усё ж сачак яе, напэўна, стаў прамакаць, тым болей што снег пачаў брацца імжой, усё ўжо на ёй было мокрае з хусткі да ног. Антонаў кажух таксама пацямнеў ад макрэдзі, хаця Антон, здавалася, не звяртаў жаднай увагі на непагадзь. Далонню ён абыякава выцер сцюдзёныя кроплі з твару і трубна смаркануўся на снег.

– Ладна. Давай жмі за мной, – сказаў ён, крута павяртаючыся ўправа, у мокрую цемру поля, з якой усё

несла і несла па ветры, не зразумець ужо чым – дажджом або снегам.

Пераборваючы ў сабе лёгкую прыкрасць на Антона, які ўсё ж заблудзіўся, Зоська павалаклася следам. Хада па змакрэлым снезе адбірала апошнія сілы, снег ліпнуў да ботаў, мясцінамі яго наваліла шмат, і яна чэрпала яго халяўкамі; схаладнелыя ногі нават на хадзе ўжо не грэліся. Развважыўшы, аднак, Зоська рашыла, што крыўдаваць на Антона не трэба: пры такой завеі ды бездаражы няцяжка заблудзіць кожнаму. Ва ўсякім выпадку яна магла наогул зайсці невядома куды, бо арыентавалася заўжды кепска і ў дзяцінстве часцяком блудзіла па лесе, калі збірала з бабамі ягады. Праўда, там можна было пагалёкаць, паклікаць мамулю або знаёмых скідзельскіх цётак, тут жа не пагалёкаеш, і ніхто табе не адгукнецца. Тут уся надзея на Антона, і добра яшчэ, што ён зразумеў памылку і ведаў, як яе выправіць.

Здаецца, ён сапраўды разумеў, куды трэба ісці далей, бо не мінула і чвэрці гадзіны, як зноў спыніўся каля нейкіх кустоў, пачакаў Зоську.

– Мабыць, нам падвязло, – сказаў ён ціха. – Пастой тут, я схаджу.

Зоська ўгледзелася ў зараснік з аблепленым снегам голлем, там зводдаль нешта чарнелася – будынак ці, можа, стог сена, падобна, аднак, – сядзіба. Адвярнуўшыся ад мокрага, са слатой, ветру, яна счакала хвіліну-другую, усё пазіраючы ў цемру і чакаючы адтуль Антона. Але замест Антона неўзабаве пачула яго прыглушаны голас:

– Ідзі сюды...

«Пэўна, нешта знайшоў», – радасна падумала Зоська, выбягаючы з хмызняку. Сапраўды, каля зарасніку на снезе выцягнулася сцяна нейкай няўклюднай будыніны з абваленым у адным канцы дахам, разламанай і напаўзавеянай снегам агароджай, нейкім інвентаром, раскіданым вакол і таксама заваленым снегам. Антон

дзелавіта абышоў пабудову, зазірнуў у чорны правал шырокіх, насцеж расчыненых варот.

– Во, была сядзіба. Спалілі. Адна абора асталася.

На самай справе, гэта была старадаўняя панская абора – даўгое, змураванае з валуноў памяшканне для хатняй жывёлы з маленькімі акенцамі ў сцяне і чорным праваллем варот. Паблізу болей нічога не было відаць, толькі за аборай высілася некалькі старых дрэў ды цьмеў голы, засыпаны снегам хмызняк.

– Ідзі сюды. Не бойся, – паклікаў Антон з цёмных варот, адкуль горка смярдзела пагарэлішчам.

Нясмела ступаючы па снезе, Зоська ўвайшла за ім у страхавіта-пустэльную цемру аборы і спынілася, не ведаючы, куды ступіць далей.

– Сюды, сюды, – паклікаў ён з цемры, і толькі калі ў ягоных руках пыхнула запалка, Зоська ўбачыла ў глыбіні аборы напаўрасчыненыя нізкія дзверы і ў іх цёмную Антонаву постаць.

– Ідзі, не бойся!

Усё, аднак, баючыся, яна нерашуча пераступіла высокі парог і не паспела яшчэ што разгледзець, як запалка патухла.

– Во, харашо! – з задавальненнем сказаў Антон у глухой цемры і запаліў другую запалку, якая на некалькі секунд асвятліла закапцелую столь, змрочнае каменне сцяны і, на радаснае здзіўленне Зоські, – шырокую топку печы насупраць.

– Во, паняла? – узрадавана сказаў Антон. – Печка ёсць, цяпло будзе. Сядай сюды, на салому ці што тут... Сядай! Зараз мы расшуруем печку. Не можа быць...

Не ў сілах ужо саўладаць з дрыжыкамі, якія калацілі яе ўсё болей, Зоська апусцілася ў цемры на штось сцюдзёнае і мяккае, не стрымаўшыся, паляскала трохі зубамі. Настылыя мокрыя рукі засунула ў трохі яшчэ

сухую пазуху, згорбілася, сціснулася ў барацьбе са сцюжай, якая ўладарна ахапіла яе, і заплюшчыла вочы. Дрыжыкі люта калацілі яе, але тут не было ветру, а галоўнае, было ціха, і не трэба было ісці. Перад вачыма яе ўсё зазыбалася, паплыло ў дрымотнай знямозе, і яна сапраўды заснула – раптам і так моцна, што адразу перастала адчуваць, дзё яна і што з ёю робіцца.

Аднак спала яна нядоўга, можа, некалькі хвілін, не болей. Яна зразумела гэта, раптам прачнуўшыся ад яркай бліскавіцы агню – Антон калупаўся ля печы, распальваў нейкія abломкі дошак, і яна зноў здрыганулася ад сцюжы і спалоху.

– Не бойся! Гэта я – з пораху з патрона. Не гарыць, халера.

Прысеўшы ля топкі, ён шумна дзьмуў у яе, дашчаныя абломкі лянiва тлелі кволым агнём і густа капцілі дымам, які не хацеў ісці ў печ і кручанымі струменямі валіў у абору. Але вось Антон дзьмухнуў з усёй сілы – між дошак вyслізнула некалькі язычкоў полымя, і Зоська супакоена заплюшчыла вочы...

Зноў прачнулася ад лёгкага дотыку да яе нечай рукі, але яна ўжо ведала, што гэта рука Антона, і не спалохалася, слухаючы яго падабрэлы, спакойны, амаль хатні голас:

– Чуеш?.. Давай распранайся. Будзем сушыцца.

Яна расплюшчыла вочы, з прыемнасцю адчуваючы лагодны подых цяпла – у печцы ваўсю палалі дошкі, чорныя канцы якіх няўклюдна тырчэлі з топкі, па нізкай столі і каменных, з марозным бляскам сценах гулялі агняныя бліскаўкі. Антон стаяў перад ёй на каленях у вясковым ваўняным світэры, побач, распяты на палках, сушыўся яго кажушок.

– Чуеш? Распранайся, цёпла ўжо.

Сапраўды, цесная гэта каморка поўнілася дымным цяплом, парай і цішынёй, якая парушалася хіба гулам

полымя ў печы. Зоська перамагла ў сабе рэшту дрымоты і ўсміхнулася.

– Ну, сагрэлася?

– Сагрэлася.

– А гаварыла... Са мной не прападзеш, малеча, – бадзёра паабяцаў Антон і далонню піхнуў канцы дошак, заганяючы іх у топку, з якой шуганула роем іскраў у столь.

– Ой, каб пажару не было!

– Не будзе: камень. А згарыць, не бяда. Здзявай боты, мусіць жа, мокрыя?

– Мокрыя.

– Знімай куртку, усё – сушыць будзем. Тут цяпер ні душы. Самая блізкая вёска за Котрай.

Яна развязала мокрую, скамечаную хустку, якую Антон адразу ўзяўся начапляць ля кажушка, здзела сачак, хвіліну патрымала яго перад топкай, пакуль густыя струмені пары не павалілі ў печ. Боты і падол спадніцы былі мокрыя, мабыць, яшчэ з учарашняга, яна здзела боты, а затым, счакаўшы, сцягнула і свае ваўняныя панчохі. Антон умела ўладкаваў усё гэта на палках бліжэй да печкі.

– На во, сядай на кажух – ужо высах. Ого, як угрэўся! Агонь!

Яна з асалодай апусцілася на цёплую поўсць знаёмага ёй Антонавага кажушка, выткнула мокрыя расчырванелыя калені да прыемнага агню з печкі.

– Та-ак! – задаволена вымавіў Антон і падсеў бліжэй. – А цяпер перакусім. Во па кавалку хлеба і па дзве бульбіны. За памінак душы той бабусі, – пажартаваў ён і пераламаў надвая акрайчык.

На хвіліну прымоўкшы, яны ўзяліся есці хлеб з бульбай і

хутка ўсё з’елі, нічога не пакінуўшы на заўтра. Вядома, яны не наеліся, але наракаць на голад не сталі, здабыць болей харчу тут усё роўна не было дзе. Належала трываць да заўтра.

– Ну во і паначуем. А што? Лепш, чым у якой-небудзь хаце, – сказаў Антон і яшчэ бліжэй пасунуўся да Зоські, жартоўна таўхануў яе локцем. – Удваіх, ніхто не замінае. Праўда?

Яна не адказала і не адсунулася, толькі смяшліва зірнула. Яно, можа, і лепш, падумала Зоська, а можа, і не. У гэтай іх адзіноце было многа прыемнага, але нешта і палохала, хаця яна старалася не думаць аб тым. Цяпер ёй было добра, цёпла і нават супакоена на душы. Сапраўды, над галавой быў дах, у печцы гарэў агонь, а побач сядзеў той, хто ўжо столькі дапамог ёй. Хацелася думаць, што ён і далей будзе побач і ўсё абыдзецца добра.

– Во сядзіш, а маці, пэўна, і не сніць, што яе дачка каля Котры начуе.

– Мама, напэўна, даўно ўжо мяне пахавала. З самай вясны не бачыліся.

– Ну, гэта яшчэ нічога не значыць, – суцешыў Антон. – Людзі ўсё роўна скажуць. Бачылі ж, мусіць, цябе знаёмыя дзе ў вёсках, маглі перадаць.

– Можа, і бачылі, – пагадзілася Зоська, не ведаючы яшчэ, як думаць пра гэта – добра ці не, што бачылі яе сярод партызан. Добра, калі перадалі маці, але маглі перадаць і каму не трэба, тады яе партызанства магло кепска адгукнуцца для маці.

– Мая во іншая справа, – сказаў раптам Антон. – Няма каго баяцца. Ніхто тут мяне не ведае, ніхто за мяне не турбуецца.

– А ўжо ўведалі, мабыць. З Кузняцовым жа ты ўсе вёскі аб’ездзіў.

– А ў весках хто мяне дзе прыкмеціць? Прыехаў і паехаў.

Партызан, як усе.

– Не скажы. Дзяўчаты прыкмецяць. Прыкметны. Антон з лёгкай усмешкай зазірнуў ёй у вочы.

– У гэтым сэнсе згаджаюся. Прыкметны. Але што мне дзяўчаты! Я сам запрыкмеціў адну.

– Дзе? – трапятнулася Зоська, павяртаючыся да яго тварам.

Антон лёгенька пацепаў яе цяжкой рукой па плячы.

– А ў атрадзе. Разведчыцу адну. Слаўненькую такую малечу.

– Ай, няпраўда, – знарок з недаверам сказала Зоська, адчуўшы, аднак, як соладка зашчымела ў яе грудзях.

– Не, праўда. Сама ж разумееш, на што пайшоў. І дзеля каго. Засятка ты мая...

Ён узіраўся ў яе ўжо без ценю іроніі. Крамяны яго твар з трохі зашчаціненым падбародкам зрабіўся сур’ёзны і наблізіўся да яе твару. Зосьцы стала ніякавата, яна не ведала, як адказаць, і, сумеўшыся, узяла яго левую руку, што лягла ёй на калені, далікатна паціснула яе.

– За гэта дзякуй. Толькі...

– Не трэба цяпер пра гэта. Тут справа ў тым, – сказаў ён і, сціхлы, асцярожна, быццам у роздуме, абняў яе. Яна лёгенька здрыганулася, напружылася і маўчала. – Справа ў тым, што...

Яна напружана чакала, замершы ў яго дзіўна хвалюючых абдымках, а ён раптам закінуў да сябе яе галаву і з нейкім адчаем рэзка пацалаваў у вусны.

– Антон!..

– А што я магу зрабіць? – усхвалявана выдыхнуў ён, не аслабляючы на ёй сваіх учэпістых рук. – Пакахаў я цябе.

– Праўда? – здзіўлена прашаптала яна, збянтэжаная

гэтым яго прызнаннем. Ніхто яшчэ не казаў ёй гэтага слова ды яшчэ такім сур’ёзным, амаль роспачным голасам; яна ўся замерла ад жаху, у абсалютным, ні з чым не зраўняным шчасці.

– Во! Знаеш, цяпер я гатовы на ўсё, – яшчэ болей рашуча сказаў ён дрыготкім голасам. Яна нерухома сядзела ў яго цёплых, утульных абдымках, са здзіўленнем слухаючы, як моцна загрукала яе сэрца.

– Вось я сказаў табе ўсё. Ведай. А ты што мне скажаш? Зоська маўчала, стараючыся зразумець свае адчуванні.

Ёй было вельмі не проста так вось у самыя вочы сказаць пра ўсё, што яна адчувала да гэтага чалавека, і нават самой да канца зразумець свае да яго пачуцці. Было ёй і прыемна, і радасна, і адначасова страшна чагосьці, і яна не ведала, якое з гэтых адчуванняў галоўнае і нават якое праўдзівае. Але, здаецца, у гэтую хвіліну ён разумеў яе лепш, чым яна самую сябе.

– Ты ж мяне тожа, я знаю... Кахаеш?

– Знаеш, я тожа, – ціха сказала яна. – Слаўны ты...

– Ну во і дзякуй, – горача выдыхнуў ён ля самага яе вуха і зноў пацалаваў у шчаку, у пераноссе, а пасля – доўгім рашучым пацалункам у вусны.

– Ой, так не можна! – задыхнулася Зоська.

– Можна... Можна...

Печка з агнём хіснулася ўбок, Зоська адчула блізкую цеплыню кажушка і дзіўна завалодаўшую ёю мужчынскую сілу Антона, таропкія рухі ягоных уладарных рук, ад якіх ужо не было як абараніцца.

– Антон!.. Антоша...

– Усё добра, усё добра, малышачка, – прашаптаў ён.

– Не трэба, Антон... Не трэба...

Ён, аднак, ужо не адказваў, і яна з выразнаю безнадзейнасцю зразумела ўсю няўхільнасць яго ўладарнай сілы. Яе ж сіла і воля зніклі, утапіліся ў яе страху і цёплай асалодзе яго абдымкаў. Яна толькі адчувала, што так не трэба, што яна робіць кепска, затуманенай свядомасцю яна добра зразумела, што гіне, але ў гэтай пагібелі была магутная зваблівасць, а галоўнае, было ўсведамленне, што гінула яна разам з ім. То было галоўнае яе апраўданне і яе суцяшэнне, а можа, і вялізнае яе шчасце.

Яна не памятала, што было потым. Магчыма, настаў сон або дзіўнае ўсеперпаможнае небыццё, калі прападае памяць і адчуванні, на некалькі доўгіх гадзін яна перастала адчуваць сябе ў гэтым свеце, быццам прысутнічала ў ім, страціўшы прытомнасць... Прачнулася яна таксама, як і заснула, – раптам, ад нейкага трывожнага штуршка знутры і, баючыся паварушыцца, расплюшчыла вочы. У цеснай каменнай каморцы было цёмна, але некалькі шчылін у заткнутым саломай акенцы ўжо світальна блішчалі, канцы саломін ля шчылін ціхенька ляскаталі ад ветру. Было сцюдзёна, у чорным квадраце топкі не свяціўся ніводзін вугольчык, цьмяна шарэў абшкрэбаны бок печкі, і злавесна чарнелі закапцелыя куты каморкі. Не варухнуўшыся, Зоська абвяла іх страхавітым позіркам, здагадаўшыся, што некалі тут была кубавая ці, можа, кацельная, дзе запарвалі корм і грэлі для жывёлы ваду. Пасля яна перавяла позірк ніжэй, адчуваючы на сабе знаёмае цяпло кажушка і цёплыя шырокія плечы Антона, яго мернае дыханне побач. Антон спаў, і Зоська баялася паварушыцца, каб не пабудзіць яго. Ёй трэба было трошкі часу, каб разабрацца ў сваіх невясёлых думках, зразумець, што з ёй здарылася. Здарылася, канешне, кепскае, яна была вінаватая і дакарала сябе, як магла. Хоць яна разумела таксама, што позна дакараць сябе. Таго, што здарылася, не паправіш. І, разважыўшы так, яна суцешылася адзіна правільнай у яе становішчы думкай, што з кожнай дзяўчынай гэта павінна калі-небудзь здарыцца. Можа, праўда, не так – інакш, прыгажэй, але цяпер усё ў жыцці не так, як прынята спрадвеку, і горш, таму што цяпер – вайна.

Зноў жа, ад кастрычніка ёй пайшоў дваццаты, яна ўжо не дзяўчо, так нядоўга састарэць у дзеўках або загінуць, не пазнаўшы кахання. Ва ўсякім выпадку, трохі паляжаўшы і разважыўшы аб сваім становішчы, Зоська супакоена ціхенька ўздыхнула з адчуваннем таго, што яе, здавалася б, непапраўнае гора нібыта абарочвалася хаця і нечаканым, але, можа, яшчэ не найгоршым чынам. Адно бясспрэчна: на яе нялёгкім, поўным шмат якіх страхаў шляху паявіўся гэты рашучы сімпатычны мужчына. Хай не назаўжды, не надоўга. Але што цяпер назаўжды і надоўга?

Згарнуўшыся абаранкам у лагодным цяпле Антонавага кажушка, яна зноў уздыхнула: што ж, чаму быць, таго не мінуць. Вядома, было дзіўнавата і незвычайна ўсё, што адбылося з ёй за гэтыя дзве ночы. Яна сустрэла на балоце свайго суджанага, спалохалася, узрадавалася, падзяліла з ім свой поўны небяспекі шлях, які ўрэшце і прывёў іх да гэтай адзінокай начной аборы. Але што ёй, знясіленай і мокрай, яшчэ заставалася? Ён увогуле слаўны, прыемны на выгляд мужчына, смелы і не нахабнік, а ў тым, што ў іх здарылася, мусіць, пэўная віна падае і на яе таксама. Відаць, у тым воля выпадку. Зоська ўжо чула ад разумных людзей, што з таго дня, як усчалася вайна, у свеце запанавалі выпадковасці, адна з каторых, відаць, выпала і на яе долю. Таму ці варта празмерна перажываць, ці не лепш спакойна перажыць усё, што з ёй здарылася, і прадаўжаць сваю справу – выконваць заданне, якое, адчувала яна, яшчэ прынясе ёй шмат нечаканак, і сярод іх гэта, можа, не самая горшая.

І ўсё ж ёй было няёмка перад Антонам, асабліва калі яна ўявіла сабе, як ён прачнецца і яны выйдуць з гэтай цёмнай каморкі. І яшчэ яна адчувала сваю віну перад Сашкам, з якім да вайны сябравала і нават збіралася за яго замуж. Ідучы па мабілізацыі, Сашка прасіў чакаць, і вось дачакалася... Праўда, цяпер яна зразумела, што Сашку па-сапраўднаму і не кахала, гэта ён да яе прысох і аднойчы прапанаваў пайсці ў сельсавет распісацца. Сашка ўвогуле быў някепскі, вясёлы хлопец, яны раслі на адной вуліцы, але нешта ўтрымала яе тады ад

замужжа, і яна ўсё адкладвала. Але вось дзіўная справа, падумала Зоська, здарылася б такое ў яе з Антонам, не стала б цягнуць і тыдня – пагадзілася б у адзін дзень, хоць у першай на іхняй дарозе вёсцы. Што значыць каханне з першага позірку або яшчэ што, чаму і назвы, напэўна, не прыдумалі людзі. З Антонам яна гатова была хоць на край свету, асабліва цяпер, пасля гэтай дарогі і гэтага начлегу ў аборы.

Каб не патрывожыць яго, Зоська ціхенька павярнулася на другі бок. Яе вочы прызвычаіліся ўжо да прыцемак у каморцы, дзе стала трошкі відней, і яна зноў убачыла яго сцішаны на саломе твар і яго цвёрды, быццам высечаны з каменю, профіль з прамым роўным носам і моцнай касці падбародкам, які быццам асколкам быў азначаны на канцы маленькай ямкай – такія мужчынскія падбародкі заўжды падабаліся Зосьцы. Адчуўшы наплыў пяшчоты да Антона, яна ціхенька дастала з-пад кажушка сваю цёплую руку і кончыкамі пальцаў дакранулася да яго пляча. Ён не пачуў яе дотыку і па-ранейшаму роўна дыхаў у сне. Яна падумала: няхай спіць, натаміўся, а час, пэўна, зусім яшчэ ранні. І толькі яна памкнулася схаваць пад кажушок руку, як у глухой цішы аборы пачула нейкі далёкі страхавіты гук. Яна яшчэ не зразумела, які гэта быў гук, і замерла, уся ператварылася ў слых. Дле вось гук паўтарыўся, ён быў падобны на нямоцны аддалены стук па чымсь мяккім, і ў тое ж імгненне да яе выразна данеслася: «Но-о, пайшоў, падла!»

– Антон! Антон, чуеш?

Рэзка скінуўшы з сябе кажушок, яна падхапілася і села, зноў сціхшы. Антон таксама ўскочыў на саломе з расшыранымі ад соннага спалоху вачмі і замёр, слухаючы. Пасля, не сказаўшы ні слова, сунуў у боты ногі і ў адным світэры шырока сігануў за парог. Дзверы за ім марудна расчыніліся насцеж, і парыў ветру, дзьмухнуўшы ў каморку, адразу вынес з яе ўсё накопленае за ноч цяпло. Здрыгануўшыся, Зоська пачала таропка нацягваць ссохлыя, пакарэжаныя ля печкі боты, кожную секунду чакаючы, што Антон

крыкне і трэба будзе ўцякаць.

Доўгі час Антон не падаваў голасу, і яна як-колечы паспела абуцца, завязала хустку і надзела ўсохлы, аж залубянелы на плячах сачак. Знадворку нічога болей не было чуваць, і гэта супакойвала трохі. Але Зоська ўсё ўслухоўвалася, стоячы ля дзвярэй. Скамечаны Антонаў кажушок яна трымала ў руках, не ведаючы, ці ёй выходзіць з каморкі, ці чакаць тут Антона.

Аднак выходзіць не давялося. Праз якую хвіліну Антон вярнуўся з наганам у руцэ, прычыніў за сабой дзверы і моўчкі сунуў наган у кішэню штаноў.

– Ну? Хто там? – устрывожана запыталася Зоська.

– Сядай. Куды сабралася? – замест адказу прапанаваў Антон і сеў на салому.

Мала што разумеючы, Зоська шырока расплюшчанымі вачмі ўтаропілася ззаду ў яго пакатыя плечы пад світэрам, вялікую галаву з ускудлачанымі без шапкі валасамі. Антонаў твар выглядаў надта заклапочана і злосна, і яна пачала распытваць. Антон між тым разгублена зірнуў у патухлую печку.

– Паліцаі, хто ж, – спазнела адказаў ён з раздражненнем і звесіў з калень доўгія рукі. Зоська ступіла бліжэй і накінула на ягоныя плечы яшчэ цёплы яго кажушок.

– Што ж нам рабіць? – заклапочана запытала яна.

– А што зробіш? Сядзець нада.

Ён з разгубленым выглядам пазіраў перад сабой у пагаслую топку, і Зоська не магла даўмецца, што здарылася. Няўжо тут так небяспечна сядзець і так напалохалі яго паліцаі? Ці, можа, ён незадаволены ёю? Можа, ён шкадуе і раскайваецца, што пайшоў за ёю з атрада? Што гэта здарылася з ім за гэтую раніцу, чаму раптам ён так змяніўся? Абвяў, знерухомеў і стаў так мала падобны на сябе ранейшага, думала Зоська.

Пакуль Зоська абувалася ў каморцы, Антон перабег цераз намеценую ад парога снежную гурбу, зірнуў у адны дзверы, у другія і раптам, падаўшыся назад, замёр за абгарэлым бервяном шула. Праз паўтары сотні крокаў ад аборы няхутка цягнуліся па раскіслым снезе двое саней з седакамі ў чорных шынялях, убачыўшы якіх, Антон зразумеў: паліцаі. Да аборы даляталі абрыўкі іхняй размовы, смех, хтось, брыдка вылаяўшыся, са злосцю выцяў каня.

Стоячы за шулам, Антон, аднак, хутка асмялеў ад спалоху, сцяміўшы, што паліцаі кіравалі не сюды, а міма, па нейкай сваёй патрэбе, у бок Нёмана. На абору ніхто з іх не звяртаў увагі, начных слядоў у снезе ўжо не засталося, усё добра зраўняла завея. Антон перавёў дыханне і ўслухаўся ў далекаватую для слыху размову, сэнс якой, аднак, зразумець было цяжка. Ён ужо хацеў быў клікнуць Зоську, як раптам учуў знаёмае слова, якое прымусіла яго зноў замерці за шулам. Выразна пачулася «Сталінград», пасля яшчэ раз сказанае кімсьці з паліцаяў гэтае ж слова і ледзьве пачутае затым «далі» ці, можа, «узялі». Гэта яго зацікавіла. Ён напружыў усю сваю ўвагу і слых, але вецер адносіў словы ўбок, і яму ўдалося пачуць толькі адно «...ступленне». Далей, колькі ён ні ўслухоўваўся, зразумець нічога не мог – сані ад’ехалі далекавата і неўзабаве схаваліся на паваротцы за каменным рогам аборы.

Небяспека быццам мінулася, паліцаі паехалі, але Антон усё стаяў ля варот, збянтэжаны тым, што пачуў. У якім сэнсе яны гаварылі пра Сталінград? Што значыць «далі»? Здалі ці, можа быць, узялі? А што можа азначаць «...ступленне»? Наступленне або адступленне? Не, мабыць, хутчэй за ўсё сэнс быў у тым, што немцы пачалі новае наступленне на Сталінград, дзе ўсю восень ішлі крывавыя баі, і, мабыць, узялі нарэшце гэты далёкі горад. Мяркуючы па ўсім, здарылася менавіта гэтак, рашыў Антон, што і выклікала жывую цікавасць паліцаяў.

Але што ж тады атрымліваецца?

Растрывожаны і амаль збянтэжаны, ён увайшоў у каморку, усё ламаючы галаву над гэтай паліцэйскай шарадай. Зоська пачала нешта распытваць, але ён не слухаў яе, ён думаў, што б тое магло азначаць для яго асабіста. Вядома, колькі-небудзь пераканаўчых фактаў у яго не было, былі толькі здагадкі. Але ён і не меў пільнай патрэбы ў фактах, ён ужо быў гатовы да адзіна магчымага вываду: трэба спяшацца. Трэба, пакуль не позна, канчаць з партызанствам, паклапаціцца пра ўласны лёс і сваю галаву, пакуль яна яшчэ на плячах, укараніцца ў новае, нямецкага ладу, жыццё, калі нічога не выйшла з савецкім.

– Зося, ты разумееш? – сказаў ён, не паднімаючы да яе галавы. – Немцы Сталінград узялі.

Ён думаў, што Зоська пачне бедаваць, можа, нават заплача, ён бы тады суцешыў яе. Але, на яго здзіўленне, яна толькі цепнула вачмі і з наіўным выглядам запыталася:

– Гэта калі?

– Не ведаю, – ціскануў ён плячыма. – Чуў, паліцаі там размаўлялі.

– Хлусня, мабыць, – падумаўшы, сказала Зоська. – Хаця, можа, і праўда. Столькі нахапалі, што ім. Сіла!

– Сіла, ага, – пагадзіўся Антон, не зусім уяўляючы, як яму размаўляць далей. Ён не чакаў ад Зоські такой лёгкасці ў адносінах да галоўнае сутнасці яго пытання і пакутна шукаў У галаве магчымыя падступы да галоўнага. Зоська ж, знешне быццам абыякавая да яго навіны, далікатным дотыкам сцюдзёных пальцаў захінула на ім кажушок.

– Зашпіліся, бо холадна. Паліцаяў многа паехала?

– Чалавек шэсць, мабыць.

– Паехалі міма?

– Ну. Тут побач дарога.

– Гэта горш. І печку затапіць нельга?

– Печку нельга, – сказаў ён і дадаў не надта рашуча: – Можа, выйдзем і пойдзем у Скідзель?

– Удзень? Ну што ты!..

Не, здаецца, яна заставалася пры ранейшым рашэнні, падумаў Антон, і мае намер выконваць сваё заданне. А тое, што неўзабаве скончыцца вайна і немцы ўсёй сваёй сілай наваляцца на іх пушчу і, як зайцаў, перастраляюць усіх партызан, гэтага яна не дапушчае і ў думках.

– Слухай, а ты ведаеш, дзе знаходзіцца Сталінград? – запытаўся Антон.

– Далёка, – сказала Зоська.

– Вот гэта адказ! – кісла ўсміхнуўся Антон. – У школе за такі адказ што ставілі?

– Двойку, – усміхнулася Зоська.

Антон падняўся на ногі, надзеў у рукавы кажушок. Зоська, стоячы насупраць, абедзвюма рукамі ўзяла яго за рукавы вышэй локцяў.

– Мы ж не ў школе, Антоша. Мы свой экзамен здалі, – сказала яна з уздыхам.

– Як бы не так, – сказаў ён і нецярпліва вызваліў рукі. – Як бы галоўны экзамен не быў наперадзе.

– Усё можа быць, – ахвотна пагадзілася Зоська. – Так трудна дабрацца да гэтага Скідзеля, а што будзе там – аднаму Богу вядома.

– Вось іменна, – пацвердзіў ён і спахапіўся, адчуўшы, што кожны з іх мае на ўвазе сваё. – Таму слухай. Давай, пакуль ёсць час, абмазгуем усё. Каб не застацца ў дурнях.

– Давай, – сказала яна. – Толькі… Ты пабудзь, а я на хвілінку…

Гарэзліва ўсміхнуўшыся яму, яна выскачыла з каморкі, туга прычыніла за сабой дзверы. Ён стаяў і задуменна пазіраў у парог. Думкі ягоныя цяпер кружыліся каля Зоські, ад разумных паводзін якой надта шмат залежала ў ягоным рашэнні. Вядома, ён разумеў, што схематызму партызанскага мышлення ў ёй будзе даволі, мабыць, не так проста пераканаць яе ў адзіна правільным выйсці і падвесці да непазбежнага. Галоўнае, каб яна зразумела ўсю безнадзейнасць іх партызанскіх пакутаў, нікчэмнасць іх партызанскіх сіл перад сілай фашысцкага гіганта, з якім не можа саўладаць уся Чырвоная Армія. Да таго ж Зоська не мае права забыць, што ў Скідзелі ў яе маці, і павінна разумець, якой небяспецы падвяргае яе як партызанка. Калі дагэтуль усё неяк абыходзілася, дык гэта не значыць, што немцам або паліцыі ўрэшце не стане вядома, дзе знаходзіцца дачка адной жанчыны са Скідзеля. Антон адчуваў, што ў тым быў ягоны галоўны козыр, і ён выкіне яго пад канец, калі, можа, не падзейнічаюць усе іншыя козыры. Праўда, у яго някепскай задуме было адно слабаватае месца, тое, што датычыла сябра Капыцкага. Як той паставіцца да Галубіна і ягонай сяброўкі, калі яны з’явяцца на жыхарства ў Скідзель, заставалася невядома. І нават калі сам Капыцкі паставіцца да іх добразычліва, дык як на гэта паглядзяць яго начальнікі – немцы?

Антон задуменна таптаўся па зляжалай саломе. У вочы яму трапіўся стары растаптаны акурак, Антон нагнуўся, падабраў яго і панюхаў. Гэта быў недакурак нямецкай цыгарэты – тонкі, з жаўтлявай паперы, хаця, вядома, курыць яго мог тут хто хочаш – ад немцаў да партызанаў, напэўна, людзей тут перабыло нямала, і ўсе пакідалі сляды. Беглым позіркам Антон акінуў гранітныя бакі камянёў у сцяне і ў кутку пад акенцам згледзеў брудны шкумат бінта. Пацягнуў за яго – з-пад саломы выцягнуўся цэлы жмут старых, замусоленых, з засохлай крывёй бінтоў, якія ён гідліва адкінуў прэч і наском бота запіхнуў глыбей у салому. Толькі ён зрабіў

гэта, як у каморку ўскочыла Зоська з ненатуральна збялелым тварам, і Антон, сцяміўшы кепскае, запытальна ўставіўся ў яе.

– Антон, там...

– Што такое?

– Там забітыя!

Забітыя – не жывыя, забітых можна ўжо не баяцца, падумаў Антон, выцягваючы руку з кішэні, ад нагана. Зоська выскачыла з каморкі, і ён, не спяшаючыся, пайшоў за ёй цераз языкі намеценага з варот снегу ў дальні, з абрушаным дахам, канец аборы.

– Во глянь! Я падыходжу, думала, камяні, а гэта забітыя. Глянь – божа! Ды гэта ж наш Суравец! – калоцячыся ад хвалявання, загаманіла Зоська.

Антон падышоў да сцяны, дзе ў прыцемку напаўабваленага падстолля за грудай каменя ляжалі забітыя.

Сапраўды, адзін з іх быў Суравец. Антон адразу пазнаў яго па венгерскім, пясочнага колеру, кіцелі з мноствам гузікаў на грудзях – болей такога шыкоўнага кіцеля не было ні ў каго ў атрадзе. Іншых прыкмет удалога падрыўніка засталося не шмат, хіба што яго неслухмяныя, заўжды рассыпаныя напалам валасы, якія цяпер змерзліся ад крыві і снегу. Суравец ляжаў на спіне, раскінуўшы босыя, у брудных падцёках ногі, ботаў на ім не было, а з правага боку чарнела рваная дзірка ў кіцелі. Мабыць, яшчэ ў жывога з яе наплыло шмат крыві, якая цёмнаю лужынай змерзлася на бруднай, у гнаі, земляной падлозе. Побач, прыткнуўшыся плячом да сцяны, сагнуўшыся і нізка звесіўшы бялявую галаву, сядзеў малады хлопец у заношанай блакітнай майцы. Усё верхняе з яго было знята, а ў майцы на спіне чарнелі тры крывяныя дзіркі ад куль, што выйшлі дзесь спераду, – усё ў яго там, на грудзях, жываце і каленях, было заліта ссохлай ці змерзлай крывёю. Гэтага другога Антон ведаў мала,

нават не памятаў прозвішча, бо той паявіўся ў атрадзе нядаўна, казалі – нейкі камсамолец з тутэйшых.

– Вось бачыш? Антон! – Ухапіла яго за руку Зоська. – Гэта ж іх тут забілі?

– Ну, панятна, забілі. Не самі ж яны, – сказаў Антон і крануў за плячо забітага. Труп мякка паваліўся набок – прыціснутыя да жывата рукі і падкурчаныя ногі так і засталіся сагнутыя.

– У спіну. Бачыш, з аўтамата ззаду. Паліцэйская работа, адразу відаць, – сказаў Антон і паглядзеў на Зоську, якая ўся змянілася з твару, стала не пазнаць дзеўкі, так яна перажывала аб забітых. Антон перажываў таксама, але не сказаць каб дужа. Ён ужо адвык дужа перажываць за другіх, прыйшоў час паклапаціцца аб сабе. Каб таксама не давялося камусьці перажываць за яго самога.

– Антоша, як жа гэта? Яны ж ішлі ў Ліду, як жа яны тут апынуліся? І дзе астатнія? Ніхто ж з шасцярых не вярнуўся.

– Пайсці і не вярнуцца – справа няхітрая, як двойчы два, – сказаў Антон. – Цяпер тут усё – цёмны лес.

– Слухай, а чаму паліцаі іх не забралі? Чаму тут пакінулі? – не сціхала Зоська, здаецца, гатовая вось-вось заплакаць. Абедзвюма рукамі яна страхавіта ўчапілася ў Антонаў кажушок.

– А я адкуль ведаю? Можа, для прынады. Во мы прыйшлі, а яны і прыскачуць. Хто іх, сволачаў, ведае.

оська, пабялеўшы, ва ўсе свае вялікія вочы глядзела на Антона.

– Што ж нам рабіць, Антон? – роспачна пыталася яна.

– Чорт яго ведае, што рабіць. Айда пакуль што адгэтуль.

Яны пералезлі цераз абрушаную груду камення і вярнуліся ў ранейшы канец аборы. Зоська ўсё азіралася,

востра перажываючы пагібель знаёмых людзей. У Антона ж было такое адчуванне, быццам ён трапіў у пастку і чамусь не спяшаецца з яе выбрацца. Ён ужо ведаў з практыкі, што прамаруджанне рэдка прыносіць удачу і лёгка можа загубіць кожнага (ці не яно загубіла ў гэтай аборы і Сураўца). Зусім можа быць, што паліцаі пры выпадку або рэгулярна наведваюць гэта адзінокае ў полі прыстанішча і каго-небудзь застаюць тут. Не, трэба хутчэй змывацца, думаў Антон. Але як змыешся, калі ў гэтым полі ты відзён за пяць кіламетраў, і ў кожную хвіліну цябе могуць дагнаць паліцаі.

– Прыйдзецца пакуль патырчэць тут, – спыніўшыся, сказаў ён і паглядзеў у шырокія, з сарванымі завесамі вароты. – Толькі назіраць трэба, а то...

Зоська зразумела і таксама спынілася, зірнуўшы ў ветраную прастору поля. Поле перад аборай ляжала пустое, з ледзьве прыкметным адсюль следам саней на дарозе; у вароты дзьмуў сыры пранізлівы вецер; рыхлы снег, што наваліў уначы, усюды асеў і падтайваў; хмызняк каля аборы рэзка зачарнеўся на яго белізне; з тоўстага галля вяза ўсё падалі долу мокрыя камякі снегу. Там недзе на нябачнай з аборы вяршаліне гучна крычалі вароны.

– Ціш, зараза! – сказаў Антон і падумаў, што вароны цяпер могуць іх выдаць. Падняўшы з-пад сцяны абломак латы, ён ступіў на крок за вароты і замахнуўся на цэлую вароннюю зграю, што абляпіла вяз. Вароны адна за адной пасаскоквалі з голля і паляцелі кудысь за Котру.

– Зося, – сказаў Антон, вярнуўшыся ў абору. Зоська, усё яшчэ з пабялелым тварам, уважліва паглядзела на яго, і ў гэтым яе паглядзе была бездань самоты. – Зося! Ты разумееш наша становішча? – сказаў ён, таксама ўзіраючыся ў яе блакітныя, васільковыя вочы.

– Ну, разумею, – ціха адказала яна.

– Не, ты не разумееш, – сказаў ён. – Калі сапраўды Сталінград узяты, дык... Вайне будзе канец. Ці яны заміracца, ці... Расіі ж нічога не застаецца. Сібір? Але

што ў той Сібіры? Немцы ж зайшлі вунь куды, за Маскву. Ты панімаеш?

– Я панімаю, – па-ранейшаму ціха сказала Зоська.

– Да чаго ж мы даседзімся ў сваёй Ліпічанцы? Яны ж нас з сабакамі пераловяць. Калі мы раней з голаду не дойдзем.

Зоська трошкі адвярнулася ад яго і самотна пазірала з варот у хмарную далячынь шырокага поля з шызаю паскай лесу на гарызонце.

– Можа, і так, – нявесела сказала яна.

– Дык вось, малышка! У цябе ў Скідзелі маці, у мяне там, я казаў табе, начальнік паліцыі Капыцкі, мой землячок з Барысаўшчыны. ён павінен нам памагчы. Давай застанемся ў цябе. Будзем жыць, як людзі, як муж і жонка. Я ж пакахаў цябе, Зоська.

Здаецца, ён сказаў усё, асцярожна абняў яе за плечы і прыгарнуў да сябе, не адчуўшы, аднак, яе сустрэчнага руху. Зоська, быццам ёй стала кепска, ні жэстам, ні рухам не выказала ні сваёй радасці, ні нязгоды. Яна быццам здранцвела ў ягоных руках, і ён ціха ўсклікнуў, з усёй лагодай, на якую быў здатны:

– Зоська!

– Ну, – з уздыхам сказала яна. – Ты гэта пажартаваў? Пажартаваў жа, праўда? – І адхінулася, далікатна, але настойліва вызваляючыся з ягоных рук.

– Нікольки. Я абсалютна сур’ёзна.

Яна зрабіла тры вялых крокі і стала ля шула, усё назіраючы ў поле. Антон зноў парывіста абняў яе ззаду і лёгенька пацалаваў у шчаку.

– Не трэба, Антон.

– Ну як жа! Я ж кахаю цябе.

– За гэта дзякуй. Але... Тое, што ты прапануеш, у другі раз было б маім шчасцем. Але цяпер...

– Ну, а што цяпер?

– А цяпер гэта подласць. Калі не болей.

– Дзівачка! – сказаў ён, адчуўшы, што ўжо нервуецца. – Во ты наслухалася прапаганды... А ты не падумала, апроч таго, пра сваю маці? Што з ёй будзе?

– Не знаю, што будзе, Антон, – нейкім чужым, дрыготкім голасам сказала Зоська. – Але ў такі час уцякаць з атрада... Знаеш, так нават жартаваць нельга. Гэта занадта страшна.

– А я табе кажу: самы час. У атрадзе заставацца больш нельга.

– Час сапраўды цяжкі. І таму ўцякаць – гэта здрада. Гэта ты сказаў, не падумаўшы.

– Не, я ўсё добра абдумаў. Я хачу ўберагчы цябе і тваю маці, і сябе, канешне. Інакш, сама разумееш, мы ўсе прападзем. Як тыя вунь, – кінуў ён у дальні канец аборы.

– Што ж, можа быць, – пагадзілася Зоська, у другі раз ставячы яго ў тупік. Ён болей за ўсё баяўся, што яна не зразумее ягоных довадаў, а яна, аказваецца, довады хапала адразу, але ніяк не магла прыняць вывады, якія лагічна вынікалі з гэтых довадаў.

– Можа быць, можа быць! – пачаў траціць раўнавагу Антон. – Дык чаго ж ты хочаш? Загінуць? Можа, табе жыць агоркла?

Зоська ўздыхнула, павярнулася да яго тварам, узялася за вялікі гузік на яго кажусе.

– Антон, ты разумееш... Каму жыць не хочацца? Я ж зусім і не жыла яшчэ, можна сказаць. Але што ж ты прапануеш? Ісці да фашыстаў? Што ж гэта такое? Гэта ж горш, чым нават смерць. Тут трэба згубіць сумленне.

Яны ж чума дваццатага стагоддзя. Супраць іх увесь свет. З імі ж жыць немагчыма, яны ж звяры.

– Ну, гэта гледзячы для каго звяры. Калі з імі па-добраму...

– Ты жартуеш: па-добраму! Яны вунь колькі перабілі і тых, хто з імі па-добраму і па-дрэннаму, і тых, хто ніяк. Людзі для іх – жывёла на ўбой, а не людзі.

– Ну ладна! – сказаў ён нецярпліва. – Я хіба кажу, што яны – золата? Але ж у нас няма выбару. Што ж нам рабіць? Яны – сволачы, але ж яны перамогуць. Мы ж павінны з гэтым лічыцца.

– Па-першае, яшчэ не перамаглі. І ці перамогуць, яшчэ невядома. Нават калі ўзялі Сталінград і возьмуць Маскву. Ёсць яшчэ Урал, Сібір...

– Што ў той Сібіры...

– Мы – людзі. І мы ніколі не пагодзімся з імі, нават калі яны і перамогуць. Ты кажаш, што няма выбару. Выбар ёсць: або мы, або яны. Во ў чым наш выбар.

– Да-а, – сказаў ён, памаўчаўшы. – Здорава, аднак, цябе напрапагандавалі.

– Прапаганда тут ні пры чым. Я сама гэта ведаю. Бо маю вочы і вушы, Таму лепей давай не будзем. Давай забудзем гэтую нашу размову. Яе не было, так?

– Размову можна забыць, – апалым голасам сказаў Антон. – Аднак лягчэй ад таго не будзе. Трэба нешта рабіць.

Ён быў расчараваны і баяўся, што ўсё сапсаваў, калі пачаў вось так, напрасткі. Мабыць, трэба было інакш – танчэй, з падыходам. А ён у лоб ляпнуў сваю прапанову. Цяпер вось атрымлівай. Цяпер ён і не ведаў, з якога боку да яе падступіцца. Здаецца, усе свае козыры ён ужо выклаў у гэтай гульні і ні на крок не пасунуўся да сваёй мэты.

Антону надакучыла таптацца на мокрым снезе ў варотах, і ён адышоўся далей, знайшоў камень, падкаціў яго бліжэй да выхаду і, сеўшы, прысланіўся да шула. Праз тры крокі ад яго з гаротным выразам твару стаяла Зоська. Было відавочна, што адносіны паміж імі набывалі новы характар і трэба было зараз жа штосьці зрабіць, каб уратаваць іх і разам сябе таксама. Але Антон быццам забрыў у тупік і не ведаў, што можна было прыдумаць, чым падзейнічаць на гэтую яе неразумную ўпартасць.

– Зося! – сказаў ён пасля даўгой паўзы. – Я думаў, ты мяне сапраўды кахаеш?

– У тым-та ўся справа, – хуценька павярнулася яна. – Інакш быў бы другі разгавор.

– Гэта які?

– Просты. Хіба я змагла б з табой так размаўляць?

– Як?

– Гэтак цярпліва. Пераконваць цябе.

– Мяне, ці ведаеш, пераконваць не трэба.

– Не, трэба, Антон, – пераканана сказала яна, прысядаючы перад ім на кукішкі. – Гэта ў цябе дурата. Невялікая слабасць. Гэта забітыя на цябе так падзейнічалі. На мяне, ведаеш, таксама... падзейнічалі. Хіба ў іншым сэнсе.

– У якім жа?

– Ды, знаеш, жыць расхацелася.

– Во гэта і відно!

– Не, нічога табе не відно, Антон. Знаеш, ідзі ты назад у атрад. Калі што, я скажу, што ты быў са мной. Скажу, што я папрасіла цябе праводзіць...

– Дзівачка! – нявесела ўсміхнуўся Антон. – Спярша ты

вярніся пасля гэтых тваіх заданняў.

– Пастараюся, – сказала яна.

– Пастараешся! Гэтага мала. Умець трэба! А ты такая ўмелая...

– Ага, я не надта ўмелая, прызнаюся. Але...

– Во. І не агіціравай мяне. Я ў атрад не вярнуся, – жорстка сказаў Антон. – З мяне хопіць. Я ваяваў чэсна ўсе восем месяцаў. Але – годзе! І цябе не пушчу.

– Жартуеш? – сказала яна дзіўна схаладнелым голасам.

– Нікольկі!

Антон ускочыў з каменя, зірнуў у вароты. У ім з’явілася непахісная цвёрдасць. Толькі яна магла памагчы яму саўладаць з лёсам і з гэтым упартым дзяўчом. Няхай насуперак яе волі. Ён ужо ведаў, што з дзяўчатамі трэба заўжды насуперак іхняй волі, і тыя пасля не скардзяцца. Некаторыя нават удзячны на ўсё жыццё. Трэба толькі рашуча і цвёрда, не зважаючы на іх жаласныя енкі...

## 11

Рэшту гэтага ветранага снежнага дня яны прастаялі на сцюжы за шулам шырокіх варот, пазіраючы на дарогу і поле. Але ў полі скрозь было пуста, а на дарозе толькі адзін раз праехалі сані з двума мужыкамі, і болей ніхто не ішоў і не ехаў. Зоська трошкі паплакала, хоць слёзы не далі палёгкі, і яна адчувала сябе зусім кепска. Суседства забітых падрыўнікоў, якіх яны не маглі тут пахаваць, прыгнятала яе. Але болей за ўсё яе прыгнятаў Антон. У тым, што ён надумаўся на недарэчнасць, у яе не было сумнення, але яна не знаходзіла спосабу, каб утрымаць яго ад гэтай злачыннай недарэчнасці. Усе яе довады ён абвяргаў з лёгкасцю, кіруючыся сваёй увогуле няблага пабудаванай логікай, за якой было натуральнае для чалавека жаданне выжыць. Але якім чынам?

Зосьцы таксама вельмі хацелася жыць, але той спосаб ратунку, які настойліва навязваў Антон, яна прыняць не магла. Ён жа ўпарта не пагаджаўся ні на якія яе ўгаворы, не слухаў ніякіх яе разважанняў.

І стала так, што за час, калі яны то перапынялі адзін аднаго ў спрэчцы, то пасля доўга варожа маўчалі за шулам, Зоська адчула, як стала меншаць для яе чалавечая вартасць Антона. Часам ён выклікаў у ёй шкадаванне тым, што ўпарта не разумеў простых, як снег, людскіх ісцін, часам яна пачынала яго ненавідзець за яўны, шыты белымі ніткамі, разлік. Баючыся канчаткова паддацца гэтаму нядобраму да яго пачуццю, Зоська стрымлівала сябе, ёй пачынала здавацца, што Антон не разумее чагосьці, што ў аснове канфлікту між імі ляжыць не ягоны злачынны намер, а нейкае непаразуменне, што варта яму нешта растлумачыць, як ён зробіцца ранейшым слаўным Антонам. І яна, усё стараючыся растлумачыць яму ягоныя памылкі і не ў стане справіцца з ягонай упартасцю, думала: які ж ён на самай справе? Такі, які ён здаўся ўпачатку – дужы, спагадлівы, умелы партызанскі хлопец Галубін, ці той, хто нечакана адкрыўся ёй у гэтай аборы – напалоханы за сваё жыццё баязлівец, які надумаў зрабіць такой жа і яе. Праўда, пакуль ён не зрабіў ёй нічога кепскага і паводзіў сябе як звычайна, толькі гаварыў не зусім звыклыя для яе словы. Але ад гэтых слоў яе ахапляў жах. Дык што ж ёй рабіць, што рабіць?.. Было, аднак, відавочна, што, апроч як сядзець тут ды чакаць прыцемак, нічога зрабіць было нельга, і яны то маўчалі, то нягучна спрачаліся, то азябла тупалі за шулам, ляскаючы зубамі на скразным пранізлівым ветры. Але вось дзень перайшоў у адвячорак, поле пачало цямнець, дарога, што бегла на дальні бальшак, ляжала пустая, і Антон глыбей насунуў на галаву шапку.

– Хай, ладна, – сказаў ён у адказ на нейкія свае думкі. – Пайшлі.

Зоська дужа азябла і ледзьве стрымлівала дрыжыкі, усё ў ёй ірвалася з гэтай праклятай аборы, абы толькі выйсці ў поле, прабегчы, сагрэцца. Але яна не адразу

выйшла з варот, штосьці ў ёй супраціўлялася гэтаму, ногі раптам страцілі лёгкасць, і яна нясмела ступіла на мокры, збуцвелы снег. Яе нядаўняе захапленне Антонам катастрафічна знікала, і пад вечар яго засталося не шмат. У яе ўжо знікла ахвота ісці за ім, у думках усё перамяшалася, ногі сталі быццам чужыя, самы раз было павяртаць назад, за Нёман, у атрад.

Вялізным намаганнем яна спрабавала адагнаць кепскія прадчуванні, сказаўшы сабе, што рана яшчэ адступацца ад гэтага чалавека, пакідаць яго асепленым, можа, часовай дурнотай; трэба яшчэ паспрабаваць пераканаць яго, не даць зрабіць апошні неразумны крок у жыцці, за якім – пагібель. Усё ж Галубін быў някепскі партызан у атрадзе і калі наважыўся на такое, дык, напэўна, і праз яе таксама. І яна ўхапілася за апошні магчымы для яе сродак.

– Антон! Пастой...

Ён хутка крочыў па раскіслым снезе, кіруючы ўздоўж хмызняку ля дарогі, і неахвотна спыніўся каля зламаных калкоў агароджы. Увесь яго змрочны, незадаволены выгляд казаў: ну, што табе яшчэ трэба? Зоська падбегла бліжэй, каб У вечаровых прыцемках лепей бачыць ягоны твар, і не пазнала яго: такі ён чужы стаў і нядобры.

– Антон, ты падумай... Ведаеш, я даю слова... Я нікому не скажу. А ты ідзі назад. Хочаш, я напішу Шаўчуку. Аловак у цябе ёсць?

– Што ты напішаш? – холадна запытаў ён, стоячы да яе бокам.

– Ну, што я цябе ўпрасіла правесці мяне. Каб цябе там за самаволку...

– Тожа мне скажаш! – пагардліва буркнуў ён і, як заўжды, спорна пакрочыў уздоўж хмызняку. Яна марудна папляхалася следам.

«Што ж мне рабіць? Што рабіць? – ледзьве не са слязьмі

ў каторы раз пыталася сама ў сябе Зоська. – Няўжо ж ён пойдзе да немцаў? Яны ж павесяць яго. Як жа ён не разумее таго?»

Яшчэ падсвядома, але ўсё выразней яна адчувала, што далей ісці з ім нельга, што так яна проста заваліць заданне, падвядзе пад пятлю людзей, сябе і нават, можа быць, маму. Што Антон у такім яго стане – нібыта п’яны ці, можа, горш нават за п’янага, што ён можа нарабіць тое, чаго сам не чакае. Антон жа між тым, здавалася, зусім не турбуючыся, упэўнена крочыў па снегавым цаліку да недалёкага ўжо Скідзеля. Захмаранае неба хутка цямнела, снег на зямлі ляжаў белы і чысты, дзьмуў свежы заходні вецер, які прынёс ноччу адлігу і за дзень ператварыў снег у хлюпкую кашу. Ісці было цяжка, Зосьчыны ногі адразу ж прамоклі і правальваліся да самай зямлі, але яна трохі сагрэлася і пайшла павольней. Антон вырваўся далёка наперад, аднак яна бачыла на снезе яго сляды і не баялася адстаць, даганяць жа яго ёй не хацелася. Яна нават падумала, што, можа, ён так і пойдзе адзін, пакінуўшы яе сярод ночы, і не спалохалася гэтай думкі. Чымсьці яна нават спадабалася ёй, гэтая думка.

Але ён не пайшоў адзін. Крочачы наперадзе, ён усё ж выбраў час азірнуцца і, напэўна, заўважыўшы, як далёка яна адстала, прыпыніўся на ўзлеску. Наперадзе быў малады хвойнік, справа ляжала голае раўніннае поле. Зоська не памятала гэтых мясцін, але адчувала, што Скідзель дзесь побач. Ісці заставалася гадзіну ці дзве, і за гэты час ёй трэба было нешта рашыць. Яна ўжо ведала, што ісці з ім у Скідзель проста не мела права.

– Ну, што ты адстаеш? – запытаў ён з папрокам, калі яна падышла бліжэй. – Хіба прыстала?

– Нагу нацёрла, – буркнула Зоська. Сапраўды ў левым боце тоўстым вузлом збілася ануча, якая балюча церла ступню.

– Дык пераабуйся.

Не ведаючы яшчэ, што рабіць, Зоська хуценька агледзелася вакол – далёка наперадзе каля ўзлеску, здалося, бліснуў і прапаў агеньчык.

– Там што – вёска?

– Там? – Антон паўзіраўся ў вечаровыя, амаль начныя ўжо прыцемкі. – Вёскі тут не павінна быць. Можа, хутар.

– Зойдзем на хутар, – сказала яна.

– Нашто? Да Скідзеля вунь пяць кіламетраў.

– Ну зойдзем. Мне трэба.

– Во яшчэ! Нашто табе хутар? Прыйдзем на месца, там можна пасушыцца і наогул...

Але яна хутка пайшла наперад па ўзлеску на далёкі чырванаваты агеньчык пад лесам. Яна і сама не ведала, нашто ёй быў гэты адзінокі хутар, але адчувала, што цяпер нельга ісці ў Скідзель і неяк трэба змарнаваць час. Не ведаючы пра яе намер, Антон незадаволена патупаў следам.

Яны доўга ішлі па раскіслым снезе ўздоўж лесу, кіруючы на мільготкі агеньчык у нечым акне. Зоська ўжо не старалася размаўляць з Антонам, яна ціхенька плакала, неўпрыцям выціраючы пальцамі вочы. Гэта ж трэба так усё спляжыць у іхняй і без таго нялёгкай дарозе, думала яна пра Антона, адчуваючы сябе глыбока абражанай і няшчаснай. Аказваецца, яна патрэбна была яму для шкурнага яго намеру, а зусім не таму, што ён пакахаў яе. Хаця... Усё ж ён ад яе не адмовіўся – наадварот, ён гатовы быў звязаць свой лёс з яе лёсам. Ды і яна таксама была б не супраць, яна была б рада, калі б толькі ён заставаўся ранейшым партызанскім хлопцам Галубіным. Але ж ён надумаў перамяніцца, стаць нечым іншым – як на гэта магла пагадзіцца Зоська?

І, апроч усяго іншага, ён надумаў яўную дурнату з гэтым Скідзелем. Дзіва, як ён не можа зразумець, што немцы ніколі не даруюць яму яго партызанства і рана ці

позна павесяць з біркай на шыі. Дарма ён спадзяецца на нейкага свайго земляка. У такой справе ніякі зямляк не заступнік.

Трэба было затрымацца самой і затрымаць на хутары Антона, але як зрабіць гэта, Зоська яшчэ не ведала. У той жа час яна адчувала, што сама надта спазнялася, што так могуць мінуць усе тэрміны яе задання. Хаця цяпер ёй было не да тэрмінаў. Пад пагрозай апынуліся яе галава і яе заданні наогул.

Агеньчык, што бліскаў воддаль, недзе прапаў, яны нейкі час нічога не бачылі ля сябе, апроч цьмянага снежнага поля, дужа шумеў на ветры хвойны ўзлесак побач. Гэты ўзлесак цягнуўся і цягнуўся кудысь у снегавыя прыцемкі, і Зоська, ужо не адстаючы, таропка ішла за Антонам, пакуль за чарговым паваротам наперадзе зноў не з’явіўся чырвоны агеньчык у акенцы. Блізка пад самым лесам тоўпілася некалькі хутарскіх будынін, чарнеўся на снезе пункцір плота і на суччы дрэў у чорным небе цьмяна шарэлі камякі снегу. Антон раптам спыніўся, Зоська таксама замарудзіла крок – з хутара даляцеў скрып асвера і невыразны пляскат вады, якую пералівалі з аднаго вядра ў другое.

Нічога не сказаўшы, Антон скіраваў уздоўж плота да хутара, і Зоська, трохі адстаўшы, пайшла следам. Мабыць, яны зайшлі з тылавога боку сядзібы, ад лесу, – хату і акенца з агеньчыкам неўзабаве затулілі снежныя стрэхі нейкіх паветак, з’явілася лазня наводшыбе. Пад нізкай сцяной хаты ляжала засланая снегам куча бярвення, мабыць, нарыхтаванага на дровы ці на якую іншую патрэбу. Антон абышоў гэтае бярвенне і амаль сутыкнуўся з чалавекам у кажусе, які нёс у абедзвюх руках два драўляныя вядры з вадой.

– О, поўныя, удача будзе! – замест прывітання жартоўна сказаў Антон. Чалавек спыніўся, асцярожна паставіў вёдры на снег, моўчкі разглядаючы ў прыцемках начнога госця. – У хаце чужых няма? – ціха запытаў Антон.

– Нёма, – глуха азваўся чалавек.

– Хазяін? – кіўнуў Антон.

– Так, так.

– Ну запрашай у хату. Пагрэцца нада.

– Проша, проша пана, – не надта, аднак, узрадавана прамовіў гаспадар. Пакінуўшы на снезе вёдры, ён ступіў на дашчаны, ачышчаны ад снегу ганак, расчыніў нізкія дзверы. – Проша пана.

Пераступіўшы следам за Антонам парог, Зоська апынулася ў прасторным трысцене, гаспадар зачыніў за ёй дзверы, і яна агледзелася. Насупраць ад увахода дымна палілася ў печы з вялікімі чорнымі чыгунамі ля агню – напэўна, на корм жывёле, падумала Зоська. Тут жа з вілачнікам у руках стаяла белатварая, не старая яшчэ кабеціна, спакойна і моўчкі яна аглядзела Антона, пасля перавяла позірк на Зоську. З-за стала здзіўлена пазіраў на іх хлопчык-падлетак, які сядзеў над раскладзенай кніжкай, побач мільгаў агеньчык капцілкі, той самы, напэўна, які прывёў іх сюды.

У хаце было амаль цёмна, сцюдзёна дзьмула з дзвярэй, дровы ў печы, напэўна, толькі яшчэ разгараліся.

– Мы трошкі адпачыць, – сказаў Антон, стоячы перад жанчынай.

– Проша, проша, – ціха сказала гаспадыня і паставіла ў кут вілачнік.

Зоська спрабавала даўмецца, куды яны трапілі, што за людзі на гэтым хутары, але адразу што-небудзь зразумець было цяжка. Здаецца, гаспадар з гаспадыняй размаўлялі па-польску, значыцца, належалі да мясцовай шляхты, якая, як памятала Зоська, мела свае асаблівыя адносіны да ўсяго на свеце. Белавалосы хлопчык выскачыў з-за стала і паслужліва падсунуў гасцям кароткую лаўку, якая стаяла каля сцяны.

– Проша пані і пана сядаць, – з лагоднай напеўнасцю ў голасе сказала гаспадыня.

– Сядзем, – сказаў Антон. – Сядай, Зоська, пераабувайся. Пагрэемся трохі.

Зоська з асалодай апусцілася на гладкую дубовую лаўку, сцягнула ўшчэнт раскіслы бот. Хлопчык зноў заняў сваё месца за сталом.

– Што чытаеш? – запыталася Зоська, зазіраючы ў кніжку.

– Я? «Таямнічы востраў», – пераадольваючы ніякаватасць, адказаў хлопчык па-беларуску.

– Ведаю. Харошая кніга.

– Ага. Толькі канца няма. Канец тут выдраны, – сказаў і, мабыць, засаромеўся хлопчык.

– Канец, проша пані, выдраны, так ён яе чатыры разы прачытаў. Ужо амаль на памяць ведае, – загаварыла ад печы гаспадыня, і ў тоне яе Зоська пачула ледзьве прытоены гонар за поспехі сына. Што ж, увогуле гэта ёй спадабалася.

– Дык калі б канец быў, – сумна сказаў хлопчык, забаўляючыся з кніжкай. Зоська паправіла анучу і з натугай ледзьве надзела змакрэлы бот.

– Дык ты і не ведаеш, чым скончылася? Я зараз табе раскажу. Цябе як завуць?

– Вацык.

– Ану дай кніжку, Вацык.

Яна прысунулася бліжэй да капцілкі, узяла з рук хлопчыка кніжку. Гаспадыня адышлася ад печы і з яўнай цікаўнасцю назірала за гасцямі і сынам. Зазірнуў у кніжку і Антон. За іхнімі плячамі ў паўзмроку сцішыўся зарослы шчэццю гаспадароў твар.

– Так. На чым тут адарвана? Ага, выбух на востраве. Ну, а далей людзі кінуліся ў мора. Карабель жа дабудаваць яны не паспелі і ратаваліся на рыфах. Здаецца, усе

павінны былі загінуць. Але ў самы апошні момант на гарызонце паявіўся карабель капітана Гранта. Грант плыў па Айртона...

– А, каб зняць яго з вострава? – здагадаўся Вацык.

– Во-во. Бо тэрмін ссылкі мяцежніка скончыўся, і капітан Грант плыў яго зняць. І ён выратаваў усіх.

З рэдкай для падлетка ўвагай у вялікіх вачах Вацык сачыў за кожным рухам на яе твары, лавіў кожнае яе слова, і гэты ягоны позірк і яго ўвага жыва напомнілі Зосьцы даваенных хлапчукоў у Скідзелі, якім яна часам таксама чытала кніжкі. Усяго паўтара года мінула з той мірнай і поўнай надзей пары, а як усё крута змянілася ў свеце. І, напэўна, змянілася яна сама. Куды толькі падзеўся яе малады запал, бесклапотная лёгкасць у жыцці. Усё прыдушыла, аплявала, растаптала вайна.

– Любіш кніжкі чытаць? – запыталася Зоська. Вацык працягла, па-даросламу ўздыхнуў і закрыў кніжку.

– Люблю, але дзе ж іх узяць? У Стасіка Кемпеля было тры, дык я іх прачытаў ужо.

– Проша пані прабачыць, – мякка ўмяшалася ў размову гаспадыня. – Вацык быў выдатнік у школе, грамату мае. Стэфан! – некалькі іншым, амаль начальніцкім тонам звярнулася яна да мужа. – Покаж пані грамату.

– Так, кохана...

Гаспадар паслухмяна кінуўся ў другую палову хаты, а гаспадыня з ранейшай мяккасцю ў голасе запыталася:

– Далёка пані ідзе?

– Не, недалёка, – адказала Зоська. – Тут блізка. Ды нагу намуляла.

– Ой, ой, так нядобжэ ў дарозе. Тшэба ехаць пані.

– Навошта? Мы пехатой...

– Пэўна, пані з панам есць хцо? – запыталася гаспадыня, і Зоська сумелася.

– Дзякуем. Але мы, ведаеце...

– А што? Мы не супраць, – падхапіў Антон. – Грэх ад яды адмаўляцца.

З другой паловы хаты выйшаў гаспадар з загорнутай у старую газеціну школьнай граматай сына, але не паспеў ён раскруціць газету, як гаспадыня распарадзілася:

– Стэфан, несь млеко, сало...

– Так, кохана, – звыкла адказаў Стэфан, амаль подбегам кіруючы з трысцена.

Зоська не вельмі ўважліва прабегла вачмі некалькі радкоў граматы выдатніка пятага класа і перадала грамату Антону. Здаецца, яны зрабілі правільна, калі завіталі на гэты хутар. Мяркуючы па першым уражанні, гаспадары былі добрыя людзі, а галоўнае ні пра што не пыталіся і, пэўна, мала цікавіліся тым, хто іх начныя госці. Толькі гаспадыня запыталася, куды ідуць, але гэта надта звычайнае ў такіх выпадках пытанне, за якім, мабыць, не было нічога, апроч простай цікаўнасці.

Гаспадыня тым часам пачала таропка накрываць на стол, разаслала кароценькі льняны настольнічак, дастала з пасудніка некалькі чыстых гліняных місак, драўляныя лыжкі. Пасля прынесла бохан жытняга хлеба і пачала кроіць яго, прыставіўшы да грудзей, гэтаксама, як некалі рабіла Зосьчына маці. Хусцінку яна ссунула з галавы на плечы, і яе белы, маладжавы твар з тонкімі зморшчынкамі каля вуснаў засвяціўся мілай спакойнай дабрынёй. Такія жаночыя твары здаўна падабаліся Зосьцы, хаця і сустракаліся яны ў гэтую пару не часта.

– Проша сядаць пані. І пана, – прыветліва запрасіла гаспадыня і Антона.

Зоська пасунулася далей за стол, з-за якога адразу, як

толькі пачалі на яго накрываць, сціпла выбраўся Вацык, побач усеўся Антон. Цяжка дыхаючы, у хату ўваліўся гаспадар са стаўбуном малака і вялікім кавалкам сала ў заскарузлых руках. Гаспадыня, як здалося Зосьцы, з сарамлівай паспешлівасцю выхапіла ў яго гэты кус і на стале прыгожа адкроіла ад яго некалькі тонкіх лустаў.

– Проша спробоваць, проша. Мы людзе не ест багатыя, но госцям радыя.

Зоська сама сабе ўсміхнулася ад наіўна-прастадушнай прэтэнзіі гаспадыні на шляхецка-польскае абыходжанне. Польская мова, густа аздобленая мясцовымі беларускімі словамі, выдавала ў ёй тутэйшую ўраджэнку, якая хіба па паходжанню была каталічка. Па тым, як пакорліва і маўкліва стаяў воддаль гаспадар хаты, быццам чакаючы новых распараджэнняў гаспадыні, Зоська сцяміла, хто тут галоўны. Зрэшты, старшынство гаспадыні не выглядала празмерным або зняважлівым, яна выконвала яго з добрым у такіх выпадках тактам. Ды і гаспадар даўно, мабыць, прывык да ролі падначаленага, і не відаць было, каб дужа перажываў ад таго.

Яны з’елі па місцы грэцкай з малаком кашы, выпілі заваранага сушанай малінай чаю. Вацык далікатна стаяў зводдаль, і Зоська запрасіла яго за стол, дзе ён разам з гасцямі таксама выпіў кубак чаю. Усё тут было проста і лёгка, у гэтай акуратнай гасціннай хаце, дзе іх частавалі быццам даўніх добрых знаёмых. Зоська старалася не размаўляць з Антонам, які таксама маўчаў і, хоць меў заклапочаны выгляд, аднак са смакам еў усё, што было на стале. Зоська напружана думала, што рабіць, калі яны павячэраюць. Тут, пры сведках, яна не магла болей нешта тлумачыць, спрачацца, хаця ўсе спрэчкі, здаецца, былі ўжо скончаны. Важна было зразумець таксама, за каго іх прымае гаспадыня – за партызан ці, можа, за якіх паліцэйскіх агентаў. А можа, ні за тых, ні за іншых, а проста за двух людзей, якія задарожыліся па начы і зайшлі адпачыць. Так было б лепш за ўсё. А калі не так? Усё ж хутар стаіць пры лесе і паблізу ад мястэчка, напэўна, яны тут – не першыя

госці.

Душэўны неспакой Зоські надта азмрочваў цеплыню гэтай гасціны, якая, аднак, канчалася. Праўда, Зосьцы хацелася як мага болей часу праседзець тут, можа, заначаваць нават. Але Антон, відаць, быў настроены інакш і, з’еўшы ў дадатак да ўсяго кавалак хлеба з салам, устаў з-за стала.

– Ну, пані, дзякуй. Так накарміла, што дай табе Бог здароўя.

– І пану нех Бог дае здароўя.

– Дасць, куды дзенецца! Як кажуць, пагрэліся і пара ў пуць-дарогу.

Ён пачаў вылазіць з-за стала, і ў Зоські трывожна застукала сэрца ад думкі, што зараз трэба наважыцца. Трэба адмовіцца ісці з ім далей, няхай ідзе, куды хоча, адзін.

– Можа, у пані і закурыць знойдзецца? – звярнуўся Антон да гаспадыні.

– Ест, ест, – пацвердзіла тая. – Стэфан, пану пшыпаліць!

Паслухмяны гаспадар на гэты раз без слоў падаўся на другую палову хаты і вярнуўся са скураным капшуком у руках. Мужчыны павольна згарнулі цыгаркі, пасля Стэфан дастаў на канцы лучынкі агеньчык з печы, і яны прыкурылі.

– Ну, як жывецца на хутары? – пацікавіўся Антон, праз дым выпрабавальна пазіраючы на гаспадара. Той, быццам не ведаючы, што адказаць, пашкроб патыліцу.

– Так, пан. Калі як. То добжа, то кепско.

На яго зарослым густой шчэццю твары адбілася клопатнае напружанне думкі, і ён таксама з прыкметнай увагай паглядзеў на госця.

– Што, мусіць, не даюць спакою пад лесам?

– Так. Калі не даюць. А калі і даюць.

– А хто турбуе? Немцы? Партызаны?

– Як пану сказаць? Калі так, калі гэтак.

Аднак хітраваты мужычок, не глядзі, што праставаты з выгляду, падумала Зоська, пазіраючы на вялікую, з дымнай цыгаркай руку гаспадара ля печы. Рука яго, аднак, была спакойная, і ўся яго сялянская пастава сведчыла пра зважлівае чаканне, і нічога болей. Сам ён надта гаварыць не меў ахвоты. Гаспадыня прыбірала посуд, пераставіла ў пячурку капцілку, каб у трысцене было святлей, яна не ўдзельнічала ў размове мужчын. Вацык нізка сядзеў на чымсь у дальнім цемнаватым кутку, не зводзячы ўважлівых вачэй з Антона і Зоські.

– Ну што ж, нам пара, – Антон загасіў у пальцах цыгарку. Рэшту яе запіхаў за пакамечаны адварот шапкі і надзеў папку на галаву. – Зося!

Нагнуўшы галаву, Зоська нерухома сядзела ў канцы стала.

– Давай патопалі. Перадыхнулі, паелі, – сказаў Антон і ўстаў, загарадзіўшы сабой палову трысцена.

Зоська паволі падняла галаву, убачыла звернутыя да яе запытальныя погляды гаспадыні ад печы, гаспадара з лаўкі насупраць. Нешта, відаць, яны адчулі ў яе паводзінах, і гэта насцярожыла іх.

– Ідзі адзін, – хрыплавата ад хвалявання выціснула яна. – Я тут застануся.

– Хе! – сказаў Антон. – Навіна! Як гэта – застануся?

– Проста. Застануся на хутары.

Яна ўжо справілася з першым самым трудным для яе хваляваннем і стала нязломнай. Галоўнае было зроблена – яны размяжоўваліся. Дапушчаную ёю легкадумнасць трэба было выпраўляць, і тым лепш, чым хутчэй.

– Пагадзі, – спакойна сказаў Антон пасля нядоўгай напружанай паўзы. – Ты гэта – сур’ёзна?

– Сур’ёзна.

– Не панімаю.

– Што панімаць? Я з табой не пайду.

– Гэта чаму?

– Ты знаеш чаму.

Хаця і было цёпла, але яна трэслася ў нервовым напружанні. У адказ на ягоны спакой ёй хацелася закрычаць, заплакаць, але яна стрымлівала сябе, усё ж тут былі людзі, якія няблага аднесліся да яе і не ведалі нічога з таго, што адбылося між імі. Антон у роздуме нядоўга пастаяў ля стала, пасля адступіў назад і прысеў на лаўку.

– Не, так дзела не пойдзе! – са спакойнай цвёрдасцю аб’явіў ён. – Так нічога не выйдзе.

Гаспадыня жэстам адправіла Вацыка на другую палову хаты, Стэфан падышоў да жонкі, і абодва яны са здзіўленнем пазіралі на Зоську, мала што разумеючы. Стала ціха. Дровы разгарэліся ў печы, і па столі і бярвенні сцяны бегалі барвовыя водсветы. Зоська зразумела, што не мінуць чагосьці агіднага, але яна цвёрда рашыла стаяць на сваім.

## 12

Сеўшы на лаўку, Антон адчуў, як цягуча загуло ў галаве, – такое было з ім не часта. Праўда, пакуль што ён не лічыў становішча безнадзейным, але з асаблівай выразнасцю адчуў, што гэта ўпартая недарэка яшчэ наробіць яму клопату. Тым болып зацягнуўшы яго на гэты ідыёцкі хутар, да гэтых невядома ў чыю карысць настроеных гаспадароў. Зрэшты, гаспадароў ён мала баяўся, ён быў упэўнены, што з імі ўправіцца, хоць бы з дапамогай зброі. Было б, аднак, лепш, калі б яны

паводзілі сябе ціха і не лезлі ў ягоную драму.

А без драмы, бадай, не абысціся, думаў Антон. Як ён таго не хацеў, а здаецца, прыйдзецца прымяніць сілу, іншага выйсця ў яго не заставалася. Кінуць яе тут адну ён не мог: што яму было рабіць без яе ў Скідзелі? Пра вяртанне яго ў атрад не было чаго і думаць – лес ён пакінуў ужо назаўжды. Але ён блізка быў да таго, каб апынуцца ні з чым – выйсці з лесу і не дайсці да мястэчка, што было раўназначна пагібелі.

Гаспадары пра штосьці ціха шапталіся ля печы, крадком кідаючы асуджальныя позіркі то на яго, то на Зоську, якая нібы скамянела ў канцы стала. Пакуль што яны не ўлазілі ў чужы і, мабыць, не дужа зразумелы для іх канфлікт, і Антон падумаў, што, магчыпа, пашэнціць настроіць іх у сваю карысць, супраць гэтых выбрыкаў Зоські.

– Во, – кіўнуў ён на яе. – Уперлася жонка. Спадабалася ей у вас, не хоча ісці.

– Я табе не жонка! – тут жа рэзка адказала з-за стала Зоська.

– Як гэта – не жонка? – са шчырым здзіўленнем сказаў Антон. – Во дае баба! Ад мужа адмаўляецца.

– Лжэш! Ты ніякі мне не муж! – з надрывам выкрыкнула Зоська і заплакала.

Антон трохі сумеўся. Ён заўжды трохі бянтэжыўся ад слёз жанчыны і не ведаў, што рабіць далей. Але ўсё ж ён рашыў трымацца таго варыянта, што Зоська – ягоная жонка, якая распачала дробязную сварку з мужам.

– Ну што возьмеш з бабы! – развёў ён рукамі, звяртаючыся да гаспадара, які заклапочана тэпаў ля печы і ніяк не азваўся на ягоныя словы.

Зоська, аднак, хутка перастала плакаць, пальцамі выцерла слёзы, паправіла хустку на галаве. Антон неўпрыцям пазіраў на яе, і некалькі разоў у ягонай душы варухнулася недарэка-спагада – нашто так

упарціцца? Ужо ён старэйшы за яе і лепш разумеў у жыцці, магчыма, ён бы ўратаваў яе ад пагібелі і яшчэ б уладкаваў яе лёс. Толькі б яна даверылася яму. Дык не. Давяла ўсё да сваркі, якую невядома як уладзіць цяпер пры чужых людзях.

– Зося, – сказаў ён і ўстаў з лаўкі. – Ну не хочаш ісці ў мястэчка, дык давядзі мяне хоць да ваколіцы. Пасля пойдзеш, куды захочаш.

У тым была ягоная хітрасць – на ўскраіне мястэчка ўжо ён бы з ёй справіўся. Зоська на хвіліну прыціхла, быццам абдумваючы яго прапанову, і адказала:

– Не!

– Я не ведаю, з якога там боку і падысці, – хітраваў ён.

– Дарога прывядзе.

– Дарога прывядзе. Але... Няёмка па дарозе.

– У людзей запытаешся.

Аднак, чорт пабяры, пакуль нічога не атрымлівалася. Няўжо і сапраўды нічога не выйдзе і яму давядзецца аднаму ісці ў Скідзель? І аднаму прыйсці да Капыцкага? Але як бы яго, аднаго, не палічылі за партызанскага шпіёна, які мае заданне ўладкавацца ў мястэчку, Капыцкі ж таксама можа ў ім усумніцца, не глядзі, што зямляк. Усё ж свая кашуля кожнаму бліжэй да цела, а ў такі час нядоўга расстацца і з кашуляй, і з уласным целам таксама.

Не, яму абавязкова патрэбна была яна – як жонка, гаспадыня і, што важней за ўсё, – як заложніца. Заложніца – якая ні ёсць гарантыя для немцаў і для таго ж Капыцкага, асабліва калі мецъ на ўвазе яшчэ і яе маці. Антон ужо ведаў, што да чалавека з заложнікамі – сям’ёй, дзяцьмі, маці – немцы ставіліся куды з болыпым даверам, чым да адзіночкі, у якога ні кала ні двара, а толькі адны, хай сабе самыя лепшыя, намеры. Як усе дзелавыя людзі, немцы любілі гарантыі.

Але вось вазьмі яе, гэтую гарантыю, што скамянела ў сваёй дзікай упартасці за сталом на лаве.

Аднак ішоў час, напэўна, ужо была блізка поўнач, Антон недаравальна траціў адну за адной усе і без таго нешматлікія свае магчымасці і пачынаў нервавацца. Так, халера на яго, нядоўга і зусім застацца ні з чым. Асабліва калі зважаць на гэтую ўпартасць ды азірацца на гаспадароў. Але ўжо з гаспадарамі ён цырымоніцца не меў намеру.

– Эй, ты! – рэзка павярнуўся Антон да Стэфана. – Давай вяроўку!

– Што пан хцэ? – здзівілася гаспадыня, ступаючы наперад і як бы засланяючы сабой гаспадара.

– Давай вяроўку! Жыва!

Гаспадыня збялела, уставілася ў яго поўны змрочнай рашучасці твар, а гаспадар стаяў ззаду, мабыць, не маючы адвагі выканаць ягоны загад без дадатковай каманды жонкі.

– Я што вам сказаў! – са стрыманай пагрозай вымавіў Антон і выцягнуў з-за пазухі наган.

Ціхенька войкнуўшы, гаспадыня ступіла назад, а гаспадар, паварушыўшы нешта ў цёмным ля дзвярэй кутку, выцягнуў недаўгую зблытаную вяроўку.

Антон загадаў:

– Разбяры! Разбяры, распутай! Што, не разумееш?

Дрыготкімі, няспрытнымі рукамі гаспадар неяк разблытаў вяроўку. Антон сунуў наган за пазуху.

– Ну! – сказаў ён Зосьцы, якая з жахам адкінулася за сталом. – Пойдзеш?

– Не, не! Не чапай мяне!

– Я? Я зачаплю, чорт цябе вазьмі! – крыкнуў ён,

губляючы вытрымку, і хапіў за вугал стала. Рыўком ён адкінуў стол прэч, пачуў, як ззаду прыглушана крыкнула гаспадыня, але ён ужо схапіў Зоську за руку і адным спрактыкаваным рухам падламіў руку назад, за спіну. Зоська войкнула, выгінаючыся ад болю і знаёма павяртаючыся да яго спіной, ён дужа штурхануў яе грудзямі на дол і, злавіўшы другую руку, таксама заламіў за спіну. Пакуль яна екатала і тузалася, спрабуючы вырвацца, ён хутка абкруціў яе кісці вяроўкай, зацяў вузел. Яна супраціўлялася, як толькі магла, але што было для яго яе супраціўленне. Звязаць чалавека ён мог за пару хвілін. Каб яна не брыкалася ботамі, другім канцом вяроўкі абхапіў яшчэ і ногі ля костачак.

Здорава, аднак, умарыўшыся, ён устаў з долу, імкнучыся не слухаць, як лямантуе на падлозе Зоська, павярнуўся да гаспадароў. Тыя прыцiскаліся адно да аднаго, напэўна, ледзьве жывыя ад страху, і стаялі каля самай печы. Але цяпер ён не меў жадання штось ім тлумачыць, тым болып апраўдвацца – настаў час дзейнічаць.

– Запрагай каня! Жыва! – скамандаваў ён гаспадару. Той зноў, быццам нямы, пазіраў на яго, не могучы даўмецца, што яму трэба.

– Каня, кажу, жыва!

– Дык нема, пан, коня, – нарэшце прамармытаў ён, і Антон амаль закрычаў:

– Як няма? Кажу, запрагай каня!!

– Пан, не маю коня. Забралі коня...

– Хто забраў? – запытаў Антон, адчуўшы, аднак, што ягоны намер яшчэ больш ускладняецца.

– Не знаем, пане. Людзі прыйшлі, забралі.

– Лжэш! – выпаліў Антон першае, што ў такім выпадку прыйшло ў галаву, і зноў выхапіў наган з-за пазухі.

Гаспадар бездапаможна развёў рукамі, здаецца, спалох ягоны мінаўся, але з’явілася нейкая, раней не прыкметная ў ім, упартасць ці нават варожасць. Здаецца, ён таксама пераставаў яму падпарадкоўвацца.

– Пан можа стшэліць, але...

– Ану пайшлі! – піхнуў яго Антон, якому раптам здалося, што ўсё ж ён хітруе – дзесьці ў хлеўчуках на двары, пэўна, схаваны яго конь. – А ты – марш туды! – паказаў ён гаспадыні на дзверы ў другую палову хаты. – Жыва!

Гаспадыня паслухмяна знікла ў дзвярах, Антон прычыніў дзверы мацней і, памацаўшы рукой каля печы, ухапіў вілачнік. Здаецца, ён добра падпёр ім дзверы, туга падсунуўшы дзеравяку пад верхнюю планку дзвярэй.

– Запальвай ліхтар!

– Дык, пан, нема ліхтара, – зноў развёў рукамі гаспадар. – Пан сам бэндзе бачыць.

«Чорт там убачыш што без агню!» – ціха вылаяўся Антон. Але ў яго яшчэ было ў кішэні некалькі плоскіх нямецкіх запалак, і ён піхнуў дзверы на выхад.

– Пайшлі!

Ён прапусціў гаспадара наперад, выйшаў за ім і спыніўся: гэтыя дзверы таксама трэба было заперці. Але яны адчыняліся ў трысцен, падперці іх было нельга і, здаецца, нечым. Убачыўшы, што Антон завіхаецца ля дзвярэй, гаспадар знайшоў у прыцемках накладную планку і даў яму ў рукі вялікі замок без ключа.

– От так, пане, так...

Антон запёр дзверы, прасунуў дужку замка ў прабой, і яны пайшлі да хлява.

Але ў хляве каня не было. Адна загародка была пустая, у другой, калі ён засвяціў запалку, на праход павярнула галаву рабая, з самотнымі вачмі, карова, трывожна

закудахтаў патрывожаны на жардзіне певень. Антон апрыкла кінуў у гной рэштку запалкі.

– А з таго боку?

У другі канец хлява, адгароджанага дашчанай сцяной, вялі нізкія дзверцы з двара. Яны абышлі кучу гною ля ўвахода, і гаспадар, адкінуўшы падпоркі, расчыніў дзверы. Тут смярдзела свіннямі, чутна было іх соннае хруканне ў саломе, наўрад ці тут мог стаяць конь. Усё ж для пэўнасці Антон пасвяціў цераз парог запалкай і зразумеў: дарма.

Але гэта ўжо было зусім недарэчна і дзіка. Навошта ён тады рабіў гэты спектакль, вязаў Зоську? Не нясці ж яе на сабе пяць кіламетраў у Скідзель. Аднак няўжо ж гэтая заможная кулацкая гаспадарка сапраўды абыходзілася без каня? Ці яго ўсё ж дурылі, як блазна, дзесьці схаваўшы каня, якога ён проста не мог знайсці ў гэтым лабірынце будынкаў?

Яны выйшлі ў двор, Антон прыпыніўся. Спыніўся і гаспадар у маўклівым чаканні таго, што павінна адбыцца далей. Але Антон цяпер абсалютна не ведаў, што можна зрабіць. Сапраўды, каня на хутары магло і не быць, яго маглі схаваць дзе ў лесе, у суседзяў, у бліжняй ад хутары вёсцы. Дзе яшчэ можна было шукаць? Антон акінуў позіркам цьмяныя ўначы сілуэты будынкаў і заўважыў наводшыбе яшчэ нейкую будыніну – ток або пуню.

– А там што?

– Там? Там, пане, сена. Але... – пачаў тлумачыць гаспадар.

– Ах, сена! Сена, значыць, імеецца, а каня няма? Ану паглядзім!

Ён хутка пайшоў па мокрым снезе да пуні, са скрыпам адчыніў лёгкія дзверы. Тут сапраўды знаёма запахла перасохлым сенам, але было цёмна, і ён зноў сунуў руку ў кішэню з запалкамі.

– Не, не! – падскочыў гаспадар, засцярожліва хапіў яго за руку. – Не можна паліць...

– Не бойся, не спалю, – сказаў Антон і ўсё ж пасвяціў ля парога. Увесь канец пуні быў закладзены сенам, побач стаялі вілы, граблі, нейкія прыслоненыя да сцяны дошкі – падобна, каня не было і тут.

– Няма?

– Нема. Я пану мувіў: забралі коня. Д’ябальшчына, дый годзе, злосна падумаў Антон, не ведаючы нават, што думаць далей. Было падобна на тое, што ён сапраўды трапіў у пастку на гэтым праклятым хутары, завяз, нібы ў дрыгве, – ні туды ні сюды. Заставалася хіба што мірыцца з Зоськай, можа, як-небудзь улагодзіць яе. Але для таго прыйдзецца яе развязаць, якая ж размова са звязанай?

Вузкай сцяжынкай яны павярнулі да хаты. Антон на хвіліну прыслухаўся: ці не едзе хто па дарозе? Але скрозь было ціха, над лесавой раўнінай ляжала глыбокая ноч, рэзка дзьмуў вецер з захаду, снег пад нагамі раставаў, было сыра і зябка.

## 13

Калі Антон зачыніў дзверы ў трысцен, Зоська асталася на затаптанай земляной падлозе і, сцяўшы ў зубах плюшавы ражок каўняра, моўчкі плакала. Ніколі яшчэ за дзевятнаццаць пражытых гадоў ёй не было так балюча і крыўдна. Кароткая барацьба з Антонам зусім знясіліла яе, як яна ні змагалася, але не магла абараніць сябе ад мужчынскай сілы Антона, ён расправіўся з ёй за некалькі кароткіх секунд, і цяпер яна не магла варухнуць ні нагой, ні рукой – так ён туга скруціў іх вяроўкай. З кароткай размовы Антона з гаспадаром Зоська сцяміла пра ягоны намер і зразумела таксама, што яна прапала. Як апошняя недалэга, яна даверылася гэтаму шкурніку, а затым паўдня сумнявалася ў яго чорнай здрадзе, спрабуючы ў чымсь пераканаць яго, не даць зрабіць свой апошні пагібельны

крок. Цяпер вось яе чакала расплата. Ён купіць сабе жыццё цаной яе гібелі, як дурную цялушку, павязе яе на расправу паліцыі.

Яна курчылася на баку ў цемры між сталом і лаўкай, на якой нядаўна сядзела, і яе дапякала крыўда і спазнелая нянавісць да Антона. Пад яе мокрым плячом хлюпала сцюдзёная лужына, што нацякла з яе ботаў, і ёй так карцела завыць, закрычаць, паклікаць на дапамогу людзей, адкрыць ім вочы на гэтага здрадніка партызана. Але што карысці было крычаць, клікаць на дапамогу тут не было каго. І не маючы магчымасці паварушыцца ў доле, яна ліхаманкава шукала ў Думках хоць якой-небудзь магчымасці выйсця. Здаецца, эднак, выйсця тут не было, і таму было нясцерпна крыўдна і балюча.

Відаць па ўсім, цяпер для яе пачынаўся іншы адлік часу, якім яна не распараджалася, наадварот, час пачынаў распараджацца ёю, і ёй заставалася адно – падпарадкавацца ягонай неміласэрнай хадзе. Але яна не магла падпарадкавацца, яна прагла саўладаць з бядой. Тым больш што Галубін пайшоў, канешне, не забыўшы падперці з таго боку дзверы. Яна чула ягоныя крокі на ганку і ягоную размову з гаспадаром. Затым іхнія крокі прапалі на двары, і яна, сціхнуўшы плакаць, прыслухалася. Ёй здалося, што яны вяртаюцца, дзверы ціхенька стукнулі. Але гэта былі не тыя дзверы, у якіх знік Галубін, а тыя, што вялі ў другую палавіну хаты. Яны сапраўды ціхенька затузаліся пад нечай нябачнай рукой, Зоська здзіўлена падняла галаву – слабы агеньчык капцілкі ў пячурцы ледзьве свяціў на змрочную столь трысцена і шэры квадрат дзвярэй, падперты вілачнікам. Але канец вілачніка быццам сам па сабе пасунуўся ўбок, паволі вызваляючы дзверы ад падпоры, і тыя нарэшце адчыніліся. У трысцен прашмыгнуў Вацык, за ім убегла гаспадыня, абое кінуліся да Зоські.

– Ой, панечка, панечка, цікайце!..

Праглынуўшы салёныя слёзы, яна трапятнулася, паспрабавала сесці, ногі адразу падвярнула вяроўкай,

за якую тут жа ўхапіўся Вацык. Упаўшы ля яе на калені, ён пачаў ліхаманкава тузаць вузел вяроўкі, а гаспадыня сунула ў ягоныя рукі нож.

– Цікайце, цікайце, панечка!..

Хлопчык хутка перарэзаў вяроўку, ногі яе вольна выпрасталіся, яна ўскочыла, скідваючы з набалелых рук накручаныя рэшткі вяроўчыны. Яна яшчэ не зусім усвядоміла, што гэта паратунак, яна толькі адчула, што магчымасці яе раптам павялічыліся, і асабліва востра зразумела, што ў яе ёсць саюзнікі. Гэта адразу падвоіла яе сілы, яна скінула з сябе безнадзейнасць і памкнулася да невыразнай яшчэ, але ўжо бліскаўшай іскры надзеі.

– Сюды, сюды...

Дзесьці ў запечку гаспадыня адкінула паласатую посцілку-занавесь, Вацык знаёма стукнуў клямкай дзвярэй, і на яе дыхнула сцюжай і – воляй. «Дзякуй!» – кінула яна шэптам і, наткнуўшыся на штосьці ў цемры і ледзьве не ўпаўшы, ірванулася да выратавальна расчыненых на двор дзвярэй.

Ну, вядома, тут быў раней не заўважаны імі чорны ход з хаты на панадворак з дрывотняй каля парога і раскіданымі вакол тоўстай калоды палкамі; трошкі ўбаку грувасціліся заснежаныя камлі складзенага пад сцяной бярвення; яна кінула позірк у другі бок – зводдаль за плотам цямнела на гародзе лазня, каля якой яны нядаўна ішлі, кіруючы да сядзібы.

– Туды, туды бяжыце! – махнуў ёй з парога Вацык, і яна цераз праломіну ў загарадзі пабегла да лазні.

Яна бясконца доўга імчала па снезе якіх-небудзь паўсотню метраў да лазні, увесь час чакаючы крыку або нават стрэлу ззаду, цяпер яна ведала, што літасці ёй не будзе. Але прысадзістая хата з трысценам, напэўна, затуляла яе ад двара, ці, можа, Антон усё яшчэ быў у хляве, шукаў каня. Дзіўна, але менавіта ў гэтыя секунды яна амаль прагнула ягонага крыку, яна хацела

пачуць ягоны спалох, разгубленасць, няхай бы страляў, чорта б цяпер ён у яе пацэліў. А наконт бегу яна яшчэ магла паспаборнічаць з ім, няхай паспрабуе яе дагнаць.

Але пакуль што ён не крычаў і не кідаўся яе даганяць, мабыць, ён яшчэ не заўважыў яе ўцёкаў, і яна з ашалелым дыханнем забегла за лазню. Далей за плотам і нешырокай паласой гарода цямнелася ўночы высокая сцяна лесу, які гатовы быў уратаваць яе, пакуль не спахапіўся Галубін. Але ці ад знямогі, ці яшчэ чаму яна не кінулася далей, у лес, а прыпала плячыма да сцюдзёных бёрнаў сцяны, і слёзы зноў пакаціліся з яе вачэй.

– Ах ты, нягоднік! Ах, нягоднік… – сказала яна сабе і замерла – у двары пачуўся знаёмы Антонаў голас. Але голас быў у меру спакойны, без крыку і трывогі, штосьці ён пытаўся там, і яму ціха адказаў гаспадар. Здаецца, ён усё яшчэ не заўважыў яе ўцёкаў – яны гаварылі там пра каня. Але што будзе, калі ён вернецца ў хату і не знойдзе яе? Ён жа можа перастраляць там усіх, адразу зразумеўшы, што ёй дапамаглі ўцячы. Божа, што толькі чакае гэту няшчасную сям’ю?..

Яна зірнула з-за вугла, але ў двары між цёмных сцен хаты і хлявоў нічога не было відаць. Антон з гаспадаром кудысьці пайшлі, можа, ужо вярнуліся ў хату. Ведама, ёй трэба было зараз жа бегчы ў лес, можа б, ён не адразу кінуўся за ёй па слядах, але яна ўсё стаяла. Яе зноў быццам паралізавала за гэтай пракапцелай лазняй, уся яна калацілася ад ветру і сцюжы і з жахам чакала стрэлаў і крыкаў – цяпер ужо не з двара, а ў хаце.

– Ах ты, нягоднік! Ах, здраднік!..

Не здольная што-небудзь рашыць і ўсё нервова дрыжучы ад сцюжы і страху, яна стаяла каля сцяны ўжо хвіліну ці болей, адчуваючы толькі, як знікае шанец на паратунак… Раптам яна зноў пачула галасы ў двары, і гэта вярнула ёй частку смеласці, – значыць, яны яшчэ не ў хаце. Самае страшнае адкладвалася на хвіліну-другую. І тады, усё ўзіраючыся з-за няроўнага вугла

лазні ў двор і будынкі, яна ўбачыла на шэрым снезе падворка дзве цьмяныя зводдаль постаці – высокую Антона і прысадзістую гаспадара, якія кудысь шыбавалі – у напрамку пуні, ці што. Тут толькі яна здагадалася, што ён будзе шукаць у гумне, што, мабыць, каня ён яшчэ не знайшоў. Тым самым ён дараваў ёй яшчэ некалькі скупых хвілін, і яна раптам зразумела, што зробіць.

Трошкі беручы ўбок, каб затуліцца за хатай, яна кінулася назад на падворак. Хвіліну назад, выбегшы з хаты, яна ўбачыла ўбіты ў калоду тапор. Цяпер, нібы кошка, крадучыся каля сцяны, яна ўбегла на дрывотню і схапілася за гладкае сцюдзёнае тапарышча, аберуч з натугай выдзерла тапор з калоды. Пасля ababегла хату з другога боку, пералезла цераз невысокі штыкетнік агароджы, ускочыла на знаёмы ганак з вялізным замком на дзвярах. Але на ганку схавацца не было дзе, усё тут было адкрыта, а зноў бегчы цераз дрывотню ў хату ўжо не ставала часу. Ведама, яна нічога як след не абдумала і нават не агледзелася, але інакш яна не магла. Па-ранейшаму яе душыла крыўда, слёзы не давалі глядзець на свет. І яна ледзьве прымушала сябе да сцярогі. Прабегшы па двары да вугла, каб зірнуць на пуню, яна тут жа адхіснулася да сцяны – яны ўжо ішлі па снезе ад пуні назад. Зоська прыціснулася спіной да сцяны і ўзняла тапор. Іхнія крокі ўсё блізіліся, сэрца яе тоўхалася ў грудзях, ледзь не грукаючы аб бёрны сцяны, даўкі камяк перасеў у горле. Але яна не заплакала, яна толькі праглынула слёзы і, як толькі ён ступіў з-за вугла, з усяе сілы замахнулася над галавой тапаром. Тут жа яна сцяміла, што няўдала, Антон крута, па-ваўчынаму вывернуўся і моцна ўдарыў сам. Занесены на другім узмаху тапор стукнуўся аб сцяну і адляцеў на снег, Зоська крыкнула, а ён, мацерна, са злосцю вылаяўшыся, паваліў яе долу, выцяў раз і другі, прыўзняў, скалануў і зноў выцяў.

– Ах ты, курва тваю маць! Што ўдумала... Ах, курва!..

Нядоўга, але без літасці збіўшы яе на снезе, Антон уцягнуў Зоську ў трысцен. На гэты раз яна не

супрацiўлялася, адразу абяззброеная не так яго азвярэлым напорам, як сваёй страшэннай няўдачай. У думках яе злосна пыхнула: «Забівай, гад!» I яна спярша нават не адчула болю, зразумеўшы нарэшце, што цяпер ужо ўсё. Цяпер ужо надзеі ў яе не засталося ніколечкі.

– Мярзаўка, што ўдумала! Ах, курва! – распалены шаленствам, хрыпеў Галубін, кінуўшы яе на падлогу. – Я да яе па-добраму, а яна... А вы! – раптам вызверыўся ён да разгубленых і напалоханых гаспадароў хутара, што прыціхлі ля печы. – Ты яе выпусціла, сцерва! – закрычаў ён і пагрозліва ступіў да гаспадыні.

– Не, не, пан! Ніц не вем...

– Не вем! Я табе пакажу – не вем! Усіх разам прыкончу! I таго выпаўзка таксама! Падла! – пагрозліва вертануўся Антон да гаспадара. – Каня ўсё ж схаваў, сволач! Цяпер сам яе панясеш!

Паволі, без сіл, прыўзняўшыся ў доле, Зоська выплюнула крывавую сліну. Здаецца, ён выбіў ёй зуб, вельмі балела скіўіца, заклала ў баку, не было як дыхаць. Пакуль ён пагражаў гаспадарам, яна села, знямогла абаперлася рукамі аб зямлю. З рота ўсё ішла кроў, і яна думала: што будзе далей? Раззлаваны няўдачай, ён мог кожную хвіліну пазабіваць усіх у гэтай хаце. Праўда, за наган ён яшчэ не хапаўся, напэўна, жывыя яны былі яму болей патрэбныя. I болей за ўсіх, канешне, патрэбна была яму Зоська. Інакш з кім ён прыйдзе Да той паліцыі ў Скідзелі? Значыць... Значыць, будзе лепш, калі ён яе не давязе да Скідзеля. ёй трэба памерці раней. Так будзе лепш для яе самой, для тых, хто ў атрадзе, для сувязных у вёсках. Нарэшце, для яе маці ў Скідзелі. Зосьцы трэба як найхутчэй памерці і тым адвесці ганьбу і вялікую бяду ад многіх.

Новы паварот у яе становішчы асвятліў усё іншым святлом, надаў новае адценне ўсім яе думкам, па-іншаму павярнуў яе намеры. Яна ўся аціхла, сцялася, засяродзілася на сваёй новай мэце. Цяпер ёй стала не да задання, якога яна не магла выканаць, адпаў клопат аб тэрмінах, нават прапала спачуванне да гэтай во

добрай жанчыны і яе сына Вацыка. Каб не нарабіць ім бяды, яна павінна як мага хутчэй развітацца з жыццём, у якім чакала яе горшае, чым сама смерць.

Але як гэта зрабіць?

Яе доўга і падрабязна інструктавалі ў атрадзе, пасылаючы на гэта заданне, яна вывучыла на памяць усе паролі і водзывы, запомніла нямала імён людзей і назваў хутароў і вуліц. Яна старалася даведацца і запомніць усё, што магло ёй спатрэбіцца, і ведала многае, апроч самага важнага: як лепш памерці ў самы апошні момант, калі жыццё абернецца для яе бядой.

Седзячы на падлозе, яна крадком агледзела змрочныя закуткі трысцена, зірнула ў цемру пад лаўкай, пад стол, разы два зірнула на сцяну ля парога. Там вісела нейкая вопратка, каромысла, стары картух на цвіку, але не было нічога такога, што магло б спатрэбіцца ёй. На падлозе ляжаў кавалак вяроўчыны, перарэзанай Вацыкам, але што карысці цяпер з вяроўкі? Заставалася адно: выхапіць у Антона наган і застрэліць яго і сябе. Гэта было б здорава!.. Але калі забіваць яго, дык нашто забіваць сябе? – падумала Зоська. Тады, можа, удасца выратавацца. Значыць, так: забіць яго і выратавацца. Адна спроба не ўдалася, можа, удасца другая.

Здаецца, зноў паявілася хоць слабенькая надзея, і Зоська, трохі аддыхаўшыся, пачала патрошку сачыць за Антонам, які хадзіў па трысцене. Яна чакала, што ён падыдзе бліжэй і тады... У руках яе была яшчэ сіла, мабыць, яна б яшчэ змагла выхапіць наган, рукаятка якога заўжды трохі тырчэла ў яго з-за пазухі. Але Антон быў заняты гаспадарамі і на яе амаль не звяртаў увагі. Яму зноў карцела наконт каня.

– Дык дзе ўзяць каня? – строга запытаў ён, спыняючыся перад гаспадаром. Той недаўменна паціснуў плячыма.

– Не вем, пан. Нема коня. Пан бачыў...

– Бачыў! Схаваў, зараза! Цяпер ты во што... Вёска далёка?

– Яку пан мысліць вёску?

– Любую. Якая бліжэй. Колькі кіламетраў? Гаспадар моўчкі зірнуў на жонку.

– Вёска? Вёска ест блізка. Пенць кілёмэтраў, – сказала гаспадыня, і абое яны ўставіліся на Антона, відаць, не разумеючы, што той удумаў.

– А хутар? Хутар ёсць бліжэй?

– Хутор ест.

– Колькі кіламетраў?

– Кілёмэтраў два бэндзе, – адказаў гаспадар. – Блізко ест хутор.

– Ага! Значыць, так! – узрадавана рашыў Антон. – Ты топай на хутар і каб праз гадзіну быў тут з канём. Паняў? Перш чым што-небудзь сказаць, гаспадар цяжка ўздыхнуў.

– Так, пан. Але сасед не бардзо дасць коня. Многа лепш бэндзе, калі пан сам сходзіць на хутор.

– Не, так не выйдзе. Ты пойдзеш, а я астануся. Паняў? А будзеш хітраваць, не прывядзеш каня – спалю хутар. Паняў?

Гаспадар маўчаў, гаспадыня таксама маўчала, затуліўшы фартушком твар, і гаспадар зважліва абняў яе за плечы.

– Не тшэба, кохана. Нех бэндзе, як пан сказаў. Я пшыпрувадза коня, нех пан чэка.

– Гэта другая размова, – спакойней сказаў Антон. – Толькі жыва мне! Даю гадзіну часу.

Зоська паспрабавала зручней сесці доле, але толькі варухнулася, як моцна забалела ў баку, і яна застагнала. Яна зразумела, што гэтая гадзіна часу стане мераю і яе магчымасцей. За гэты час чакання

абавязкова трэба нешта зрабіць, пасля, мабыць, ужо будзе позна. Пасля магчымасцей у яе не застанецца, час будзе служыць толькі яму, працуючы супраць яе.

Але што можна было зрабіць?

Гаспадар зашпіліў кажух, надзеў рукавіцы і, нешта ціха сказаўшы жонцы, пайшоў да дзвярэй. Антон прыдзірлівым позіркам праводзіў яго да парога і, як толькі дзверы за ім зачыніліся, крута павярнуўся да гаспадыні.

– Ану марш туды! – паказаў ён на другую палову хаты. – І не шавяліся мне!

Гаспадыня не прымусіла сябе чакаць і адразу знікла за філёнчатымі, абклеенымі шызымі шпалерамі дзвярыма. Антон абвёў позіркам трысцен і, напэўна, не знайшоўшы таго, што шукаў, абедзвюма рукамі схапіў стол, які размашыста, праз усё памяшканне пасунуў да дзвярэй, падпершы іх з гэтага боку.

– Во так! Цяпер хай паспрабуе выйсці. Яны зноў засталіся ўдваіх. Зоська сядзела на трошкі прысветленай земляной падлозе, старалася не пазіраць на Антона – яна і без таго адчувала кожны ягоны рух побач. Скіўіца яе балела, напэўна, апухала шчака, і яна ціхенька пагладжвала яе левай рукой. Антон, падпершы дзверы, прысунуў туды ж і лаўку, абмацаў і зачыніў на крук дзверы ў двор, зірнуў у акно з запатнелымі шыбамі і сеў на лаўку. Аднак штось яму замінала, пра нешта ён непакоіўся і, ускочыўшы, намацаў рукой на лапатцы прарэху, прасечаную ў кажусе тапаром.

– Зараза! – сказаў ён і вылаяўся. – Забіць хацела?

– Хацела! – не ўтрымалася Зоська. – Шкада, не ўдалося.

– І не ўдасца, – сказаў ён, распяразваючыся. Аднак яшчэ не распеdo разаўшыся, выняў з-за пазухі наган і старанна запіхаў яго ў цесную, чымсь напіханую кішэню штаноў. Зоська другі раз ледзьве не застагнала ад роспачы, зразумеўшы, што апошні яе намер

спляжаны, што з кішэні нагана не выхапіш. І нашто яна адказвала яму, можа б, ён і не заўважыў гэтай прарэхі, лепш было скіраваць ягоную ўвагу на што-небудзь іншае.

Антон тым часам зняў кажушок і пры скупым святле капцілкі стаў разглядаць касую, праз усю спіну дзірку. «Можа, ён пачне яе зашываць, павернецца бокам, – падумала Зоська. – Можа, паспрабаваць?..» Але ўпэўненасці ў поспеху на гэты раз не было, яна проста магла не паспець.

Не, ён не ўзяўся зашываць прарэху – ён адсунуў стол і расчыніў дзверы.

– Гэй, ты! Ідзі сюды! Во табе заданне – зашыць кажух! Паняла!

– Добжэ, пан, – прамовіла з-за дзвярэй гаспадыня.

– Дзесяць хвілін часу. Паняла?

– Добжэ, пан.

– Давай, шый! – сказаў ён, грукнуў дзвярыма і зноў шчыльна падпёр іх сталом.

Сядзець на падлозе ў нязручнай паставе было пакутна, Зоська паспрабавала сесці зручней і пасунулася, каб прыперціся да сцяны. Але толькі яна варухнулася, як Антон падхапіўся з лаўкі.

– Гэй, куды? Ану стой! Бач, спрытная якая...

Ён груба піхнуў яе зноў на асветленую сярэдзіну падлогі, падняў аднекуль з-пад лаўкі абрэзак, напэўна, усё той жа вяроўкі.

– Рукі! Рукі давай. Звяжам, каб спакойней было. Мне і табе. Паняла?

– Гад ты! – сказала яна, ужо не супраціўляючыся, і ён пачаў туга абкручваць яе рукі вяроўкай. Яна толькі хваравіта моршчылася, ледзьве стрымліваючы ў сабе

крыўду і боль.

– Баліць жа...

– Нічога, пацерпіш. Яшчэ не так будзе балюча.

– Болей балюча мне ўжо не будзе.

– Будзе. У паліцыі будзе, – проста паабяцаў ён, туга зацягваючы вузел.

– І ты мяне адвядзеш у паліцыю? – запыталася яна, і голас яе здрыгануўся.

– А куды ж мне цябе адвесці? Я хацеў да маці. Але ж ты – супраць.

– Мала таго, што падлюга, дык ты яшчэ і прадажнік, – сказала яна, зноў не стрымаўшы слёз.

Антон старанна завязаў вузел, памацаў яго, падняўся з кукішак і сеў ля стала. Ён злосна маўчаў. Глытаючы слёзы, каб не расплакацца перад ім, маўчала і Зоська. Ніводнаму з яе намераў, мабыць, не накавана збыцца, мабыць, трэба было рыхтавацца да горшага, што толькі магло здарыцца ў яе становішчы. Тым не менш яна прадаўжала сачыць за Антонам, які, ссунуўшы на патыліцу касматую шапку, адхінуўся спіной да стала і зморана расставіў на падлозе доўгія ногі. Капцілка з пячуркі слаба свяціла на яго туга абцягнутыя світэрам плечы, адзін бок насатага твару, на якім бугрылася цяпер нядобрая злая рашучасць.

– Во ты гаворыш: прадажнік, – з нейкаю нават крыўдай загаварыў ён. – Правільна, можа, нават прыйдзецца і прадаць. Але хто мяне змусіў на гэта?

Зоська кісла ўсміхнулася.

– Табе патрэбны апраўданні? – сказала яна, адчуваючы, аднак, што не трэба пачынаць з ім гаворку – подла ўсё гэта і брыдка. Усе іх размовы даўно перагавораны, цяпер паміж імі – бездаць, у якую вельмі хутка, напэўна, прыйдзецца рынуцца ёй.

– Мне напляваць на апраўданні. Але ты сапсавала мне ўсё жыццё. Я не кажу ўжо, што ты хацела мяне забіць. А я чаго для цябе хацеў? Я хацеў з табой жыць. Як палагаецца, па-людску. А ты? Прадажніка з мяне робіш.

– Ты даўно ўжо прадажнік!

– Памыляешся! Я нікога яшчэ не прадаў. Хіба што пачну з цябе першай. Калі ты мяне на гэта штурхаеш...

– Што ж, прадавай! – злосна сказала яна, адчуўшы, як усё ў ёй затрэслася ад злоснай бяссільнай ярасці. – Прадавай! Не ты першы. Але памятай, нават першы падавіўся сваімі срэбранікамі. І за ім усе астатнія.

Антон, здавалася, нібы і не чуў яе гнеўных слоў, яго мала кранаалі старыя аналогіі, таксама як і Зосьчыны слёзы. Падобна на тое, што ён сам быў пакрыўджаны не менш за яе і цяпер даў выйсце ўсім сваім крыўдам.

– Ты мне наплявала ў душу. Падняла на мяне тапор!

– А ты не напляваў мне ў душу? Не зганьбіў мяне?

– Я? Не. Я табе памагаў. Без мяне ты б даўно ўжо ўлопалася.

Зоська падумала, што ў гэтым, можа, ён і меў рацыю, але пасля таго, што здарылася, яе ўдзячнасць да яго прапала. Яна ўжо гатова была ўзненавідзець сябе за тое, што прымала гэтую яго некалі неабходную ёй дапамогу.

– Я не прасіла цябе памагаць.

– Мала што не прасіла. Я па сваёй волі. Бо кахаў цябе.

– Сволач ты!

– Во дзякуй! Але цяпер ты мне паможаш. Бо табе ўсё адно прападаць. Дык паслужы мне хоць напаследак.

– Во ўжо не! – выкрыкнула яна, скаланаючыся на цвёрдай падлозе. – Гэта не будзе. Не думай. Я цябе

бараніць не буду.

– А я і не прашу мяне бараніць. Ты толькі пацярпі трошкі. Да Скідзеля. Во і ўся твая задача.

Зоська ў роспачы ўся абвяла і сціхла. Значыць, яна не памылялася, адгадаўшы ягоны намер, значыць, ён яе павядзе ў паліцыю. Дзіва толькі, як яна не разумела таго ў самым пачатку. Паддалася яго прывабнасці, наслухалася ягоных прызнанняў, растала ад яго кахання. Во гэта каханне, каб яно спрахла! А яна думала... Колькі яна перачытала пра яго ў кніжках, нагледзелася ў кіно. Колькі марыла пра яго да вайны ды і пасля ў лесе! Якім яно ўяўлялася ёй прыгожым! А выпала горшае за самое жыццё. І хто вінаваты? Немцы? Вайна? Час? Антон лічыць, што ва ўсім вінавата яна. Яна ж упэўнена, што ўсяму віной ён і яго шкурныя планы. На якога д’ябла яны сышліся на адной сцежцы ў той начны час каля незамерзлай Шчары, нашто яна дала выцягнуць сябе з рэчкі? Ці не лепей было ціха і неўпрыкмет булькнуць пад лёд, каб не перажываць столькі перажытых і яшчэ наканованых ёй пакутаў?

## 14

Антон усё прыслухоўваўся да нямой цішы ночы, чакаў пачуць у двары знаёмы тупат каня, часу ўжо мінула даволі, павінен быў вярнуцца гаспадар. Але той не вяртаўся, хаця, напэўна, ужо было больш як за поўнач. Скурчыўшыся, Зоська ляжала на падлозе, і Антон раз за разам пазіраў на яе, каб не развязалася. ён ужо вынес ёй свой прысуд, і, як ні дзіўна, яму не было яе шкода – хай прападае. Няхай прападае, калі яна такая дурніца, ні д’ябла не разумее ў жыцці, не хоча ацаніць ягонай рэдкай па гэтым часе адвагі. Сапраўды, ці шмат знайшлося б у атрадзе мужчын, якія б дзеля такой смаркачкі адважыліся б рызыкаваць галавой, ратаваць яе ад вайны. А ён вось адважыўся. ён пакінуў атрад, правёў яе скрозь асіныя паліцэйскія гнёзды, аберагаў, саграваў. А яна? Чым за ўсё тое адплаціла яму яна?

Як апошняя ідыётка, яна не можа зразумець розніцы

паміж гэтай вайной і тым, што пра яе пішуць у газетах і гавораць на мітынгах. А яшчэ студэнтка! А можа, менавіта таму, што студэнтка. Адукаваная, начыталася кніжак. Ён дык не дужа любіў гэтыя кніжкі, бо жыццё прывык спасцігаць практычна і ведаў, што практыка – найлепшая школа жыцця, якую не пройдзеш па кніжках. Трэба заўсёды глядзець, як робяць жыццё другія, і самому рабіць гэтаксама – атрымаецца калі і не лепш, дык і не горш за астатніх. І яшчэ не марудзіць, не плесціся ў хвасце, не з’явіцца да шапачнага разбору. Хаця і спяшацца таксама не трэба, трэба добра агледзецца і прыйсці ў самы час. А яна: здраднік, прадажнік! Куды як грозна і страшна, але па сутнасці ўсё няправільна. Цяпер, калі з ягоных намераў нічога не выйшла, што ж яму застаецца? Адпусціць яе з Богам у Скідзель, а куды самому? І які ад яе будзе толк у гэтым Скідзелі? Ля першага ж кантрольнага пункта яе спыніць паліцыя, перадасць гестапа і – бывай, Зоська! Закатуюць, знявечаць і павесяць на плошчы перад касцёлам. Ці расстраляюць у рове. І каму якая з таго будзе карысць? А то яшчэ выведаюць на допытах адрасы, яўкі, прозвішчы сувязных і агентаў, пачнуць хапаць сем’ямі, загубяць многа людзей...

Дык ці не лепш будзе для яе і для многіх, калі яна, не паспеўшы ні з кім сустрэцца, трапіць проста да ягонага сябра Капыцкага і тым зробіць добрую паслугу Антону. Ужо, напэўна, начальнік паліцыі не ўсумніцца ў намерах свайго земляка, калі той з’явіцца да яго з прыведзенай з-за Шчары разведчыцай. Напэўна, гэта яму залічаць. Ды і ёй будзе лягчэй, бо ніякіх сустрэч у яе яшчэ не было, ніякіх заданняў яна не паспела выканаць – ён іх у гэтым упэўніць. Тады, можа, яе і не павесяць – адвязуць у які-небудзь лагер. Сумленне? Канешне, ён не стане бажыцца, што сумленне яго спакойнае. Было трохі няёмка, нешта яго трывожыла. Але што рабіць? Ён даўно ведаў, што калі прыслухоўвацца да згрызотаў сумлення, дык хутка адкінеш капыты. Не так проста з гэтаю штукай, якую завуць сумленнем, спакойна пражыць у мірны час, не кажучы ўжо пра вайну. Бо тут – барацьба, дзе пануе адзіны закон: хто – каго. Ён не слабак і не зломак, але

чаму б і яму ў цяжкі час не пакарыстацца часткай таго, з чым заўжды носяцца гэтыя прапагандысты сумлення. Няхай вось яны і дакажуць сваю гатоўнасць да самаахвяравання ў імя бліжняга. Цяпер жа ён для яе самы бліжні. Тым больш што менавіта сярод жанчын шырока распаўсюджана Богам ці прыродай дадзеная ім патрэба ахвяраваць дзеля бліжняга. Няхай вось і ахвяруе для яго жыццём, калі яно надакучыла гэтай адукаванай дурніцы. Ён дае ёй такую магчымасць. Хоць бы па сваёй шэрасці і малапісьменнасці. Ці па сваёй прадажнасці. Няхай карыстаецца ёй. Антону не шкода.

Але чамусьці доўга не вяртаўся гаспадар хутара. Можа, і ў суседзяў не знайшлося каня, пайшоў далей? Мабыць, так яно і здарылася. У тым, што гаспадар вернецца, Антон быў упэўнены: ён ведаў сілу сваёй пагрозы. Гэтыя хутаранцы больш, чым жыццём, даражаць сваім хутарскім набыткам і добра разумеюць, што для такога, як ён, паднесці пад страху запалку – справа пяці секунд. Тут як ні круці, а зробіш усё, што загадаюць.

– Гэй! – крыкнуў ён у зачыненыя дзверы. – Твой куркуль не ўцёк?

– Ой, не ўцёк, пане. Скора пшыведзе коня.

– Кажух гатовы?

– Скоро, скоро гатовы...

– Давай хутчэй! А то ўжо сцюдзёна.

Сапраўды, у трысцене пачало халаднець, дровы ў печы даўно згарэлі, з-пад другіх дзвярэй расцякалася ў доле сцюжа. Капцілка ў пячурцы роспачна хліпала, мабыць, нагарэў кнот ці канчалася газа. Антон падышоў да печы і, выняўшы ўторкнутую тут жа іголку, падцягнуў кнот. Зрабілася трохі святлей.

У гэты час недзе ў хляве галасіста, хаця і хрыплавата спрасоння, закрычаў певень, і Антон здрыгануўся: так нядоўга даседзець да раніцы. «От жа сволач! – падумаў ён пра гаспадара хутара. – Як бы не падвёў пад

манастыр. Ну, няхай толькі вернецца!..»

**15**

Як гэта здарылася, Зоська сама не заўважыла, але неўзабаве яна задрамала, скурчыўшыся на бруднай, затаптанай падлозе, са звязанымі на жываце рукамі. Усе яе горкія беды засталіся ў трыдзевятым царстве, далёка ў іншым свеце, у другім месцы і часе. Яна не ведала ў сне, ці гэта была вайна, ці яна выпала з усякага часу і апынулася ў іншым, незямным вымярэнні. Аднак яна ні на секунду не разлучалася са сваімі адчуваннямі, якія і ў сне былі поўныя пакут і трывогі. Яна не ведала, што было прычынай гэтай яе трывогі, але ёй было кепска, вельмі неспакойна; агорклае прадчуванне чагосьці яшчэ горшага няспынна прыгнятала яе. У полі яе зроку, аднак, не было нічога нядобрага, наадварот, перад ёй разлеглася вясновая раскоша поля з зялёнай травой і нейкімі кветкамі, паблізу высілася наўздзіў белая, быццам цукровая званічка царквы ці касцёла, дзе вось-вось павінен быў паявіцца ён. Хто такі ён, Зоська не ведала, яна не ўяўляла нават аблічча гэтай істоты, але дакладна ведала, што ён – істота жывая, вельмі строгая і несумненна добрая. Праўда, з ім трэба быць вельмі пачцівай і паводзіць сябе сціпла, як са школьным дырэктарам па меншай меры, – гэта яна адчувала выразна.

У той жа час, востра адчуваючы сябе душэўна, яна ніяк не адчувала сябе фізічна, яна нават не ведала, як і ў чым яна апранута і ці ёсць у яе рукі, ногі, быццам яна без цела, без свайго ранейшага аблічча або страціла здольнасць зрокава ўспрымаць гэтае аблічча. Што датычыць навакольнага свету, дык ён даволі поўна ўспрымаўся ёю ва ўсёй яго рэчаіснасці, яна бачыла ля сябе нейкіх людзей, якія стаялі і размаўлялі, быццам на кірмашы ў дзень свята. Магчыма, гэта адбывалася нават на кірмашовай плошчы ці, можа, на лужку за мястэчкам. Не зважаючы на гаману і мітусцю навакол, людзі таксама чакалі хуткае паяўленне яго, хаця, можа, і не так нецярпліва і прагна, як чакала Зоська.

Але адбылася дзіўная падмена ў гэтай атмасферы ўсеагульнага чакання, чамусьці нікім, нават самой Зоськай, ніяк не заўважаная, – проста адзін стан неўпрыкмет змяніўся другім, і замест яго ўгары апынулася сама Зоська. Яна лёгка і вольна плыла ў вышыні над зямлёй, дрэвамі і людзьмі, дахамі нейкіх будынін, возерам і крывулякай рэчкай. Гэта быў радасны, чароўны палёт, поўны салодкага адчування прасторы і бязмежнага шчасця волі. Зоська лёгенька махала рукамі, каб трымацца на вышыні, дзе яна не адчувала ні ўласнай вагі, ні прыцягнення зямлі, ні нават супраціўлення паветра. Унізе былі, напэўна, усё тыя ж людзі, па адным і ў невялікіх купках, але цяпер ёй не было ніякае справы да гэтых людзей, ёй прыемна было аддавацца радаснаму адчуванню палёту над гэтай цёплай вясновай зямлёй.

Аднак нешта ўжо змянілася ў самой Зосьцы ці, можа, у гэтай прасторы, нейкая сіла ўладарна пацягнула яе ўніз, яна адчула вагу ўласнага цела, мацней замахала рукамі. Але ўтрымацца на вышыні яна ўжо не магла і катастрафічна хутка апускалася; зямля, дахі, дрэвы і тэлеграфныя слупы пры дарозе ўсё набліжаліся, яна з усяе сілы працавала рукамі, але спыніць зніжэння ўжо не магла. Яе з уладарнай няўхільнасцю цягнула ўніз, дзе ўжо бегалі, крычалі і махалі рукамі нейкія людзі ў чорным, яны ўжо гатовы былі ўхапіць яе, і ёй патрэбна было вялізнае намаганне, каб ухіліцца ад іх доўгіх пагрозлівых рук. Прадчуваючы, што яе чакае на зямлі, яна з усяе сілы працавала рукамі, і гэтыя яе рукі раптам ператварыліся ў крылы – шырокія, чорныя крылы птушкі, якой стала яна сама.

Крылы, аднак, не памаглі ёй узняцца, яна ўжо была на зямлі, сярод снежнага поля, і, б’ючыся грудзьмі аб дол, адчайна спрабавала ўзляцець. Вялізныя яе крылы толькі размяталі вакол рыхлы марозны снег, махаць з кожнай хвілінай рабілася ўсё трудней, сілы яе канчаліся, і ў свядомасць шыбануў страх ад думкі, што яна гіне.

Пасля яна нібы аддзялілася ад той чорнай птушкі і

ўбачыла яе збоку – распластанай на снезе з апушчанымі, перасыпанымі снегам крыламі і апалай галавой на схіленай, з ускудлачаным пер’ем шыі. Птушка рабіла апошнія канвульсіўныя рухі і роспачна білася вострымі грудзьмі аб снег. Яна ўжо не ўзлятала – яна памірала, гэта вялізная чорная птушка ў заснежаным полі, і з ёй разам у невыразнай роспачы, здаецца, канала Зоська...

Але яна не памерла – яна раптам прачнулася з адчуваннем таго, што навакол нешта змянілася, можа, нават здарылася нешта. У накінутым на плечы кажушку Антон расчыняў дзверы, з якіх у воблаку сцюжы ў трысцен увайшоў гаспадар, за ім нейкі чалавек у шынялі, са счырванелым ад ветру тварам, пасля таўстунок у суконнай паддзёўцы і чорнабароды мужык у армяку і з вінтоўкай. Зоська пасунулася бліжэй да сцяны, спрабуючы ўстаць як не на сваіх нагах і не разумеючы, што адбываецца. Антон адступіў да печы пад накіраваным на яго аўтаматам пярэдняга, які з нязлоснай упэўненасцю закамандаваў:

– Рукі ўгору! Угору, угору! Во так. Пашка, абшукаць! Зоська з трапяткім ад спалоху сэрцам ціснулася да сцяны і не ведала, што рабіць. Яна толькі глядзела, як таўстунок у шэрай паддзёўцы, якога пярэдні назваў Пашкам, рашуча шкуматнуў з Антона яго кажушок, лапнуўшы па кішэнях штаноў, выняў з правай наган, пачаў нешта намацваць у левай. Знешне амаль спакойны, Антон стаяў, трохі прыўзняўшы рукі, і мармытаў разгублена:

– Рабяты, ды што вы? Ну чаго вы? Свайго не прызнаеце, ці што? Я ж з «Сувораўскага»...

– А гэта мы яшчэ паглядзім, з якога ты «Сувораўскага», японскі гарадавы! Чым тут займаешся? – строга запытаў невялічкі з чырвоным тварам і падабраў аўтамат. – А яна? Хто яна такая?

Тут яны ўсе разам павярнуліся да яе, разглядваючы яе пры цьмяным святле капцілкі, і да свядомасці Зоські паволі, як пасля страты прытомнасці, стала прабівацца

думка, што гэта ж свае, напэўна, з нейкага ліпічанскага атрада, хлопцы-партызаны. Але, амаль паверыўшы ў сваю здагадку, яна чамусьці не ўзрадавалася, тут жа сцяміўшы, што радасці з гэтага будзе не многа. Хутчэй зноў будзе кепска.

– Яна таксама з «Сувораўскага», – сказаў Антон і прыапусціў рукі. Ніхто з іх не заўважыў таго, усе пазіралі на скурчаную пад сцяной Зоську. Зоська між тым маўчала, бо не мела права называць сябе, хаця і адчувала, што зараз, відаць, пачнуцца роспыты і трэба будзе нешта сказаць.

– А чаму звязана? Гэта што – ты яе звязаў? Японскі гарадавы! – хмурачы светлыя броўкі на яшчэ юначым твары, дапытваў той, што стаяў з аўтаматам. Напэўна, ён тут быў старшы.

– Я звязаў, – проста сказаў Антон, і гаспадар, які стаяў ззаду за ўсімі, ледзь прыкметна кіўнуў галавой.

– Чаму звязаў?

– Бачыце, – няпэўна пачаў Антон, але затым даволі бадзёра вытлумачыў: – Мы былі на заданні, ну і яна рашыла перабегчы да немцаў.

– Ілжэш! – уся скаланулася Зоська. – Ілжэ ён!

Яна зноў гатова была заплакаць ад бязмежнае крыўды і гэтага новага вераломства Антона. Але той, ніколечкі не сумеўшыся ад яе крыку, цепнуў плячом і кіўнуў на гаспадара.

– Вунь сведка.

– Во як?! – чырванатвары ўважліва паглядзеў на Зоську.

– Пастой! – раптам іншым тонам сказаў таўстунок Пашка. – Я ж яе ведаю. Яна сапраўды з «Сувораўскага». Зося, здаецца.

Зоська, не адказаўшы, толькі спыніла свой ціхенькі плач, выцерла аб плюшавае плячо мокрую шчаку і

ўважлівей паглядзела на свайго заступніка. Не, ён быў ёй не знаёмы, здаецца, яна бачыла яго першы раз, хоць магчыма, што недзе з ім сустракалася.

– Гэта не я, а ён рашыў перабегчы да немцаў, – сказала яна спакойна і ўстала з падлогі. – Во хай гаспадар скажа.

Усе разам павярнуліся да гаспадара, але той толькі паморшчыўся, пераступіў з нагі на нагу і затым загаварыў на сваёй мешаніне беларускай з польскай:

– Я, пан, мало розумем... Так, штось пан гаварыў. У Скідзель бытта ісці. Пані не хацела ісці. Чаму – не розумем.

– Ну, гэта чапуха! – з упэўненасцю сказаў таўстунок Пашка. – Таварыш сяржант, яй-Богу, гэта наша дзеўка. Я яе ведаю.

– Японскі гарадавы! – заклапочана вымавіў чырванатвары і скамандаваў: – Развязаць!

– Харошая дзеўка, яй-Богу, – запэўніў таўстунок і ступіў да Зоські.

Хвіліну пакалупаўшыся над яе вузлом, ён развязаў вяроўку, і Зоська з палёгкай апусціла набрынялыя рукі. Чорнабароды з вінтоўкай моўчкі стаяў ля дзвярэй. Гаспадар адсунуў стол да печы, і ў дзвярах паявілася напалоханая гаспадыня з Вацыкам. Яны моўчкі сталі назіраць, што адбывалася ў трысцене, на сценах якога няспынна варушыліся-мільгалі чорныя цені людзей. Стоячы трохі ўбаку, сяржант пільна сачыў за кожным рухам Зоські і Антона, штосьці глыбакадумна асэнсоўваючы і ўсё хмурачы тонкія броўкі на строгім маладым твары.

– Так! А таго звязаць! – паказаў ён на Антона, і таўстунок ступіў да яго з вяроўкай. Антон збянтэжана развёў рукамі.

– Ды што вы, рабяты? Я – свой!

– Гэта яшчэ мы пабачым, які ты свой. Ану рукі назад!

Рабіць не было чаго, Антон неахвотна заклаў рукі назад і трохі павярнуўся плячамі да таўстунка, які абматаў яму кісці вяроўкай.

– Во так. Спрытней будзе...

– Гэта безабразіе, сяржант! Мала што наган адабралі, дык яшчэ і вязаць! За што? Што гэта сказала? І вы ёй паверылі? Можа, у мяне з ёй асобныя шчоты?

– Гэта якія шчоты? – з’едліва пацікавіўся сяржант.

– А хоць бы палюбоўныя. А яна...

– Японскі гарадавы! Ты нам тут не цямні! Ану марш! Яны расступіліся, прапускаючы Антона наперад, да выхаду, і той завагаўся.

– Куды?

– Куды трэба. Ну? Марш!

– Дайце хоць паўшубак надзець! – прыкметна занерваваўся Антон, і таўстунок накінуў яму на плечы яго кажушок. Антон варухнуў плячыма і пасля нядоўгага роздуму рашуча ступіў да дзвярэй.

– Ты – тожа! – кінуў сяржант Зосьцы, і яна пайшла за Антонам.

На двары вісела перадсвітальная імгла, у якой ледзь шарэў снег і panіклі, згорбіліся цёмныя цені хлявоў. Сцюдзёны пранізлівы вецер нядобра дзьмухнуў Зосьцы ў твар, непрыемнай слатой астудзіў яе шчокі, і яна з апалым сэрцам падумала, што яе таксама вядуць, як арыштантку. Але куды яны павядуць яе, гэтыя ліпічанскія хлопцы? Ці не збіраюцца яны тут учыніць хуткі суд і расправу над Антонам, а заадно і над ёй таксама? Але, мабыць, суд-расправа пакуль што адкладваліся, для таго трэба было выйсці з небяспечнай зоны ці зашыцца глыбей у лес. Хаця, мяркуючы па змрочнай рашучасці гэтага сяржанта, ён мог лёгка

прыкончыць дзе хочаш.

Хуткім крокам яны прамінулі калодзеж і выйшлі ў начное поле. Злашчасны той хутар неўзабаве без следу растаў у шэрых прыцемках ночы, зліўся са змрочнай сцяной хваёвага лесу. Зоська, аднак, не азіралася, яна зноў ледзьве паспявала за Антонам. Пустыя рукавы ягонага кажушка матляліся на ветры, быццам крылы падстрэленай птушкі, і Зосьцы на хвіліну ўспомніўся яе нядаўні загадкавы сон. Сон, безумоўна, меў нейкі страшны для яе сэнс, у другі раз яна б доўга хадзіла пад яго ўражаннем, цяпер жа думаць аб ім не было часу. Рэчаіснасць была мала лепшая за сон, і зноў было невядома, чым усё скончыцца.

Яны хутка ішлі начным полем па неглыбокім, трошкі счарсцвелым пад ранак снезе. Антон старанна крочыў за чорнабародым з вінтоўкай, які вёў усю групу і якога сяржант называў Салеем. Зоська здагадалася, што ён з тутэйшых, яе землячок, значыць. Але разлічваць на яго дапамогу не было падставы, яна зразумела, што тут усім верхаводзіў гэты малады сяржант, да якога невядома як было падступіцца. Зрэшты, яна атрымала магчымасць перавесці дыханне, усё ж яна ўратавалася ад пагібелі, Антонавы планы, здаецца, рухнулі, і Зоська з цёплай удзячнасцю ўспомніла гаспадара хутара, гэтага паслугача сваёй жонкі, які не разгубіўся, уратаваў хутар і Зоську. Але, дзіўная справа, Зоська не адчувала ў сабе палёгкі, кепскія прадчуванні прадаўжалі ўладарыць над яе свядомасцю.

Яна ўсё ішла полем міма нейкіх кустоў, зверху з цёмнага неба падаў нябачны ў цемры рэдкі сняжок, асобныя сняжынкі раставалі на яе твары, і яна зусім не разумела, куды іх вядуць. Цяпер, калі небяспека трошкі аддалілася, Зоська стала думаць пра тое, што ёй усё ж трэба ў Скідзель. Усё ж заданне заставалася. І цяпер быццам бы адпала тое, што не давала магчымасці яго выканаць. Пра Антона Зосьцы не хацелася ўспамінаць нават, ён перастаў для яе існаваць, і, хаця ішоў праз тры крокі наперадзе, ён цяпер быў – нішто. Імкненне канчаткова вызваліцца ад усяго, што так ганебна

звязалася з ім, і рабіць сваю справу ўсё настойлівей аваладвала ёю, і яна не стрывала.

– Хлопцы, а куды гэта вы нас ведзіцё? – запыталася яна па магчымасці весялейшым голасам.

– Куды нада! – холадна кінуў сяржант, які крочыў апошні ў гэтым страі.

– Тут такая справа, – падумаўшы, сказала Зоська. – У мяне заданне...

– Якое заданне?

– Ну... Я ж не магу вам сказаць якое. Мне трэба ў Скідзель.

– Да немцаў?

– Ну чаму да немцаў? – гатова была пакрыўдзіцца Зоська. – У мяне заданне...

– У нас таксама заданне, японскі гарадавы! – зласліва крыкнуў сяржант. – А мы важдаемся з вамі, час трацім. Вось возьмем і шлёпнем абаіх к чортавай матары!

– За што? – азірнуўшыся, спрабавала ўсміхнуцца Зоська.

– За то! Вайна, заданне, а яны тут любоў круцяць. Ды марадзёрствам займаюцца па хутарах. А цяпер – заданне...

Не, ён быў невыносны, гэты малады задавака, і заслугоўваў таго, каб з ім пасварыцца. Але цяпер Зоська рашыла маўчаць, чорт з імі. Некуды ж яны ўрэшце іх прывядуць, не будуць жа яны ўдзень плясціся сярод снежнага поля, значыць, раніцай недзе схаваюцца. Сапраўды, было відавочна, што яны спяшаліся, сяржант некалькі разоў ціха, але зласліва пакрыкваў на пярэдняга: «Салей, шырай шаг!» – і той паскараў і без таго даволі таропкі свой крок. Зоська ўжо спатнела, але старалася не адставаць ад Антона, які, угнуўшы галаву, з адтапыраным на спіне кажушком спорна крочыў наперадзе. Там, у хаце, калі яна курчылася на падлозе

са звязанымі рукамі, а ён уладарна распараджаўся яе лёсам, яны былі раздзелены неадольнай варожасцю, і думалася, што памірыць іх можа хіба што смерць. Але, як толькі з'явіліся гэтыя хлопцы, становішча крута змянілася. Антону звязалі рукі, але і ёй быццам не развязалі, абое яны апынуліся пад канвоем у гэтым начным полі, лёсы абаіх завалакло туманам няпэўнасці, і гэтая няпэўнасць зноў нібы аб'яднала абаіх. Зоська падсвядома адчувала ўсё гэта, і гэта яе гняло. Горш за ўсё, аднак, што з імі амаль не размаўлялі, ніхто ні пра што іх больш не пытаўся, і Зоська не ведала, як усё растлумачыць гэтым суровым, незгаворлівым людзям. Яна проста не ведала, з чаго пачаць.

Падобна, аднак, яны кіравалі ў лес, які ўжо зацямнеўся воддаль у світальным сутонні, – зноў у бок Нёмана, далей ад Скідзеля. Зоська з самотнай паныласцю заўважыла тое, але што было ёй рабіць? Яе вялі, як арыштантку, і нават не хацелі сказаць куды. Праўда, усё ж яна адчувала, што кепскага ёй не зробяць. На яе баку была праўда, і, здаецца, з'явіўся заступнік, гэты во спрытны таўстунок Пашка, які яе недзе бачыў.

Тым часам амаль развіднела – з шэрай імглы выплыла такое ж шэрае зімовае поле – голая роўнядзь з недалёкім ляском наперадзе. Ад гэтага лесу ў поле ўразаўся неглыбокі равок з кустоўем, убачыўшы які, Салей збочыў насустрач, і хутка яны ўсе ўвайшлі ў равок. Сяржант з таўстунком, якія ішлі ззаду, пра нешта ціха перамаўляліся, Зоська, адрываючыся ад сваіх перажыванняў, разы два ўслухалася, але ўчуць нічога не ўчула, а Антон раптам смыгануў шыяй, быццам спаткнуўся нават. Зоська стрымала дыханне – падобна, ззаду размаўлялі пра нейкае наступленне, і Антон зацікаўлена запытаўся:

– Рабяты, а што на фронце чуваць?

– А табе нашто? Каб немцам перадаць?

– Не, праўда? Як Сталінград? – дабіваўся Антон, і Зоська заўважыла, як ён увесь сцяўся і прыціх.

– Сталінград даў фрыцам у зубы, – сказаў Пашка. – Паперлі немцаў пад Сталінградам.

– Ды ну? – з разяўленым ад здзіўлення ротам азірнуўся Антон.

– Ты давай топай! – прыкрыкнуў сяржант. – А то здзівіўся, японскі гарадавы!..

– Не, на самой справе! Немцы ж казалі, што Сталінград узялі.

– Узялі! Падавіліся там твае немцы. Вунь на шэсцьдзесят кіламетраў турнулі. Фронт прарваны, нашы наступаюць.

– Ай-яй! Глядзі ты! – зусім ужо збянтэжыўся Антон.

– Во, во! – сказаў сяржант. – Але табе чаго радавацца? Ты ж іншага чакаў?

Зоська не ўдзельнічала ў размове і ні пра што не пыталася – пасля нядоўгай збянтэжанасці ўсё ў ёй заззяла. Быццам нешта звалілася з яе плячэй, што ціснула іх доўгія месяцы, і яна выразна адчула, як ёй не хапала менавіта гэтае весткі з-пад Сталінграда. Хаця яна, можа, і не разумела ваеннай важнасці гэтага далёкага горада, але заўжды адчувала, як трэба там перамога. Калі толькі гэта не плёткі. Калі гэта на самой справе. Але хлопцы, мабыць, ведаюць пэўна, бо нават перадаюць падрабязнасці: прарваны фронт і нашы пасунуліся на шэсцьдзесят кіламетраў. І яна, заўважыўшы, як паныла змоўк Антон, зласліва падумала: цяпер хай суцешыцца. Ён жа так перажываў гэтую няўдачу пад Сталінградам, якая натхніла яго на здраду, няхай ён цяпер узрадуецца. Няўдачы няма, ёсць перамога. Дык чаго ж ён так апанурыўся, згорбіўся і апусціў плечы? Нічога ў яго не атрымалася з ягоных хітрых планаў і нічога не атрымаецца, думала Зоська амаль з прагавітым зларадствам.

Салей прывёў іх у ладны пакаты равок, мусіць, пачатак прырэчнага рова, яны дайшлі да рэдкага на схіле

хмызнячку, і сяржант ззаду скамандаваў:

– Стоп! Пасядзім тут. А ты, – кіўнуў ён Салею, – давай дуй! Дваццаці хвілін хопіць?

Салей патаптаўся ў сваім падперазаным шырокай афіцэрскаю дзягай армяку, выцер рукой мокрую чорную бараду. Непадвязаныя вушы яго чорнай шапкі тырчэлі ў бакі.

– Паспрабую...

– Ну і добра! Давай дуй! – распарадзіўся малады камандзір, які па гадах мог быць сынам гэтага Салея.

Слізгаючы па снезе, Салей палез угору па схіле, а яны засталіся стаяць унізе. Таўстунок Пашка пачаў поркацца па кішэнях – збіраць закурку. На яго паўнаватым, з выгляду дабрадушным твары не было ні клопату, ні нават якой сур’ёзнасці, у куточках вуснаў жыла мяккая ўсмешачка, нібыта ён займаўся чымсьці маласур’ёзным, хаця і цікавым увогуле. На свежасчырванелым, нібы абпаленым, твары сяржанта, наадварот, адбівалася строгая важнасць, нейкая ваўкаватая незадаволенасць сабой ці іншымі, і Зоська падумала, што з ім трэба паводзіць сябе асцярожна. Такія, раззлаваўшыся, здольны на ўсё, а раззлаваць іх заўжды нічога не варта, яны ўспыхваюць, нібы порах.

– Так. А цяпер падрубаем, а вы пагледзіцё, – без ценю гумару абвясціў сяржант, дастаючы з кішэні нешта, загорнутае ў паперку, і Зоська адвярнулася. Ежа яе мала цікавіла, яна ўсё думала, як бы ёй вызваліцца ад апекі ці арышту гэтых людзей.

**16**

Стоячы на снезе ў раўку, Антон не пазіраў ні на Зоську, ні на двух партызан, якія ўзяліся есці з паперкі, і пах варанага мяса пакутна дражніў яго нюх. У каторы раз за сённяшні ранак і ноч Антон быў аглушаны і збянтэжаны, амаль раздушаны тымі нечаканасцямі, што абрынуліся на яго галаву. Мала яму было нязломнай

упартасці Зоські, вераломнай выхадкі гаспадара хутара, які пайшоў па каня, а прывёў партызан, дык цяпер яшчэ і Сталінград. Горад, які, на ягоную думку, даўно павінен быў здацца, прынёсшы людзям канец гэтай праклятай вайны, гэты горад, аказваецца, не толькі ўтрымаўся, але яшчэ і даў у зубы немцам. Цяпер там наступленне, вайна доўжылася, перамога яшчэ невядома каму дастанецца. Ці не пра тое ж гаварылі ўчора і паліцаі, размову якіх так недарэчы недачуў Антон і з тае прычыны ледзьве не нарабіў глупства. Можа, цяпер ён павінен быў дзякаваць Зосьцы за яе выратавальную для абаіх цвёрдасць, дараваць яе выхадку з тапаром, наогул паспрабаваць памірыцца з ёю. Сапраўды, новая паваротка ў вайне вымушала Антона перагледзець некаторыя з сваіх ранейшых рашэнняў, перайначыцца ў адпаведнасці з новымі абставінамі.

Калі толькі дазволяць гэтыя абармоты з Ліпічанскай пушчы, якія звязалі ягоныя рукі і вядуць невядома куды. Ужо ці не на той бок Нёмана? У такім выглядзе ён не мог паявіцца ў партызанскай зоне, дзе яго адразу возьмуць пад арышт, ужо там яму не мінуць следства. Усякую магчымасць абвінавачвання трэба было пагасіць тут. Але як? З гэтым зласлівым недамеркам, якога яны называюць сяржантам, нават і паразмаўляць немагчыма, ён загадзя ўсё ведае і ўпэўнены, што Антон – вораг. Ды і Зоська таксама ашчэрылася супраць – не падысці. Але, разважыўшы, Антон падумаў, што ў ягоным становішчы, як ні дзіўна, выручыць яго можа менавіта адна толькі Зоська. Можа ўтапіць канчаткова, а можа і вызваліць – гэта ўжо будзе залежаць ад яе да яго адносін.

Сяржант з таўстуном тым часам, напэўна, даелі мяса і ляніва дажоўвалі хлеб, пазіраючы на абрыў, дзе павінен быў паявіцца некуды пасланы імі Салей. Зоська дэманстратыўна адвярнулася ад яго і засяроджана калупала ботам у снезе. У раўку было схоўна, не дужа ветрана, падаў рэдкі сняжок. Ногі ў непрасохлых ад ночы ботах пачалі хутка мёрзнуць на невялікім марозе, але Антон не спяшаўся выпраўляцца адсюль, ён

напружана меркаваў, што рабіць, як падступіцца да гэтага сяржанта ці хаця б да Зоські. Ён адчуваў, што пакуль была такая магчымасць, пасля яна можа знікнуць, і ён ні да каго ні з якога боку ўжо не падступіцца.

Ён не надумаў нічога, хаця мінула, мабыць, болей чым дваццаць хвілін, і Салей не вяртаўся. Гэтая яго затрымка пачала прыкметна трывожыць сяржанта, які, стоячы на дне раўка і засунуўшы рукі ў кішэні старога, з рудымі падпалінамі ад агню шыняля, усё пазіраў на абрыў і нецярпліва таптаўся ў снезе – ужо вытаптаў невялікую, з квадратны метр, пляцоўку. Нарэшце, мабыць, згубіўшы трыванне і нядобрым словам памянуўшы японскага гарадавога, палез на схіл. Там, над раўком, дзе пачыналася ворыва, было трохі раўней, і назіраць адтуль было болей зручна. Скамечыўшы ў руках снежку, ён шпурнуў ёю ў равок і скамандаваў:

– Ану давай усе сюды! Усе, усе! І вы таксама.

Зоська, за ёй таўстунок Пашка і апошні Антон пачалі лезці па схіле ўгору. Лезці па слізкай, засыпанай снегам траве было нязручна наогул, а са звязанымі рукамі дык і зусім немагчыма. На сярэдзіне схілу Антон паслізнуўся і бездапаможна выцяўся грудзямі аб зямлю, адразу пачуўшы на вуснах саленаваты прысмак крыві. Сяржант угары зласліва, коратка рагатнуў, і Антону спатрэбілася немалое намаганне, каб не паддацца шаленству, якое хлынула на яго. Ім смешна! Звязалі, абяззброілі, кудысьці вядуць сілай і яшчэ цешацца з яго немачы. Знарок не спяшаючыся, ён падняўся з каленяў, як-колечы стаў на расслізганым схіле; побач на снег упала некалькі ружовых кропляў крыві – няхай! Яны ўсе ўтраіх спакойна стаялі наверсе, на абрыве, і з насмешлівым здзекам пазіралі, як ён няспрытна караскаецца на схіл, і ён знарок прадэманстраваў ім сваё прыніжэнне – хай радуюцца. Гэты ўдар зубамі аб зямлю не шмат дадаваў да тых няўдач, якія спасцігалі яго сёння, і без таго ён адчуваў сябе абражаным. Пад іх зласлівымі позіркамі ён выбраўся з раўка, пакідаючы за сабой чырвоныя на

снезе кроплі, і пакорліва стаў перад канваірамі.

– Што раскрывяніўся?! – незадаволена сказаў сяржант, перастаючы ўсміхацца. – Ану вытрыся! Нечя тут крывёю смаркацца.

Антон стаяў моўчкі, з нямым дакорам у позірку і не варухнуўся нават, калі збоку да яго нечакана ступіла Зоська. Працягшы руку, яна рукавом сачка коратка выцерла яго бараду, зрабіўшы гэта моўчкі, двума кароткімі рухамі рукі, і Антон ледзьве ўтрымаўся, каб не скалануцца ад яе дотыку. Толькі калі яна адышлася з такім выглядам, быццам ёй няма больш да яго справы, штось унутры ў яго варухнулася – сум па страчанаму ці, можа, надзея.

– Так, так! – з’едліва ўхмыльнуўся сяржант. – Цяпер бачу, японскі гарадавы!..

Ён не скончыў, аднак, – усе разам павярнуліся да недалёкага грэбня пагорка, дзе трошкі ў баку ад ланцужка сваіх ранейшых слядоў паказаўся Салей. Ён хутка шыбаваў уніз да раўка, часам шырока слізгаючы па снезе, і сяржант з таўстуном, мабыць, штосьці ўчуўшы, прыціхлі. Антон, трошкі адвярнуўшыся, выцер аб каўнер кажушка кроў, што ўсё сачылася з драпіны на барадзе, і таксама глядзеў на Салея. Ён адчуваў, што той нясе вестку, якая і для яго можа аказацца важнай.

– Ну што? – нецярпліва крыкнуў сяржант, калі пасыльны падышоў крокаў на дваццаць. Але той толькі махнуў рукой.

– Што, не дайшоў? – запытаў таўстун Пашка.

– Дайшоў. Але што карысці...

– Чаму так?

– Сівага ўзялі! – аб’явіў Салей, падышоўшы, і скінуў вінтоўку прыкладам на снег, ссунуў на патыліцу шапку. Ад яго спатнелага лба ішла пара.

– А гэта... Баба яго? – напомніў сяржант.

– Баба асталася. Ад яе і дазнаўся. Цераз беразнячок не прайсці.

– Ды ну?

– Аблава там. Паліцыя і жандары. Акурат у бярозах заселі.

– А калі правей. Полем?

– А вёска там. З вёскі ўсё на віду. Не пусцяць.

– Дзяла, японскі гарадавы! – паныла сказаў сяржант і павярнуўся назад да раўка. Паўхвіліны ён звузелымі вачмі ўзіраўся ў прытуманеную шэрань прасторы.

– Што ж нам цяпер, дняваць тут? – ціха сказаў да яго Пашка.

– А хрэн яго знае...

– Я так думаю, – пасля паўзы запараным голасам сказаў Салей. – Можна паспрабаваць ля чыгункі. Насыпка там невысокая, але... Якіх паўвярсты.

– А цераз насып не бачна? – усумніўся Пашка.

– Не, не ўбачаць. Калі паўзком...

– Паўзком? З гэтымі во? – злосна кіўнуў сяржант на Антона.

– Калі толькі паўзком, – настойваў Салей.

– Ну і задача, японскі гарадавы! – вылаяўся сяржант і сеў задам у мяккі, неглыбокі тут снег.

Антон насцярожана слухаў, стараючыся нешта ўцяміць з іхняй размовы, але толькі і зразумеў, што прайсці дзесьці нельга, што недзе на іхнім шляху немцы. Цяпер ён нават не ведаў, як аднесціся да гэтай няўдачы. З аднаго боку, ён адчуў міжвольную радасць, што ў гэтых абармотаў штось не заладзілася, і хай – не толькі ж яго спасцігаць няўдачам. Але, разважыўшы, ён адчуў няпэўную яшчэ небяспеку, каб усё гэта не абярнулася

для яго яшчэ горшым чынам.

Нядоўга пасядзеўшы на снезе і ўсё хмурачы свае тонкія броўкі, сяржант кіўнуў Пашку, і той апусціўся насупраць на кукішкі, з увагаю ўставіўшыся ў яго востры, па-змоўніцку ажывелы твар. Неўзабаве таўстунок ужо згодна ківаў галавой. Салей, абапёршыся на вінтоўку і стоячы да іх бокам, услухоўваўся ў іхнюю размову. Антон здаля таксама спрабаваў што-небудзь пачуць, але сяржант заўважыў ягоную цікавасць і азірнуўся.

– Ну ты! Ану адыдзі! Адыдзі, адыдзі! На пятнаццаць шагоў марш!

Рабіць не было чаго, Антон паволі адышоўся крыху і спыніўся, коса пазіраючы на партызан. Невыразная трывога пачала ўсё болей тачыць яго і без таго неспакойныя пачуцці. Ён не ўчуў ніводнага слова са сказаных сяржантам дзвюх ці трох фраз, але ён заўважыў, як выпнуўся на хвіліну звычайна дабрадушны і мяккі твар таўстуна Пашкі, які, праўда, хутка зноў стаў ранейшы. Салей трохі паморшчыўся і ўпаўголаса пацвердзіў:

– А што, можна...

Не так зразумеўшы, як здагадаўшыся, Антон спярша амаль памярцвеў ад страху, а пасля ў ягоную свядомасць варам шыбануў спалох, і ён кінуўся да сяржанта.

– Што вы робіце? За што? Я партызан, я з немцамі ад вясны ваюю, а вы? Не маеце права!

– Ты што? Ты што? – марудна падняўся сяржант. – Ану ціха!

– Гэта безабразіе! Я чэсны! Я свой, савецкі, а вы...

– Ціха! – крыкнуў сяржант. – Японскі гарадавы! Ты чаго разышоўся? Ты ж вунь да немцаў дзёру даць збіраўся. Ты ж іхні агент.

– Я не агент! Я партызан з «Сувораўскага». Гэта яна па злосці, – кіўнуў ён на Зоську. – Там паміж намі праізашло... Хай яна пацвердзіць. Зося! – крыкнуў ён Зосьцы з такім роспачным сумам, што, здаецца, камень бы не стаў абыякавы. Зоська, аднак, паўзіралася ў яго, звузіўшы вочы, і прамаўчала.

– Што ж мы, на руках цябе панясём? – з’едліва расцягваючы словы, сказаў сяржант. – Там, можа, з боем прабівацца прыйдзецца. І паўзці трэба?

– Панятна, паўзці, – згодна пацвердзіў Салей.

– Ну што ж, я папаўзу! Я ўмею. Паверце, яй-Богу. Навошта ж губіць бязвіннага? Я ж нічога такога...

У ім усё напружылася і аж дрыжэла ад прадчування таго, што зараз, відаць, усё і рашыцца. Відаць, апошняе слова будзе за гэтым сяржантам. Але чаму б не заступіцца за яго Зосьцы? Чаму яна маўчыць, як набраўшы ў рот вады? Гэтыя ж яго бачаць упершыню і прымаюць за нейкага агента, але ж яна можа сказаць, што ён не агент. Ён партызан! З той самай Ліпічанскай пушчы, з таго ж атрада, што і Зоська. Чаму ж яна не заступіцца за яго? Няўжо яна не разумее, што яны ўдумалі з ім зрабіць?

– Зося, скажы ім: я ж не вораг. Ты ж ведаеш, я чэсна ваяваў і чэсна ваяваць буду. Ці мала што паміж намі здарылася! Пры чым жа тут яны? Скажы, Зося!

Стоячы трошкі наводдаль, Зоська абыякава пазірала кудысь у чысты, з рэдкім быльнягом снег, і сяржант раптам прыпамятаў:

– А што ёй казаць? Яна ўжо сказала. Там, на хутары. Што ты да немцаў перабегчы сабраўся.

– Няпраўда! – запальчыва перапыніў яго Антон. – Гэта памылка! Сплашное непаразуменне.

– А, здаецца, і ты казаў, быдта яна таксама рашыла перабегчы? Дык як жа вас разумець?

– Гэта няпраўда! Я памыляўся.

– Харошая памылачка, японскі гарадавы! А калі б мы яе шлёпнулі, паслухаўшы цябе?

– Ну што вы! Я гэта па злосці. Па крыўдзе. Таму што яна... Мы з ёй пасварыліся. Бо я... Мы палюбоўна. Зоея, скажы ім. Што ж ты маўчыш? Яны ж хочуць мяне застрэліць!

Зося, як здалося яму, трохі адмякчэлым позіркам павяла па ягонай расхрыстанай постаці, пасля зірнула на трох партызан зводдаль. Відаць, яна вагалася, і сяржант, якому, відаць, пачало дакучаць гэтае следства, прыкрыкнуў:

– Дык што? Ён праўду кажа? Ці дэмагогію разводзіць?

Цяпер яны ўсе ўставіліся ў пакутна напружаны твар Зоські, і Антон даўмеўся, што ад яе адказу будзе залежаць, жыць яму ці тут жа памерці. Але Зоська з акамянелым тварам прадаўжала маўчаць.

– Што ж, прадавай! – з роспаччу асуджанага працадзіў ён. – Няхай забіваюць. За маю любоў...

– О, ён ужо пра любоў! Спрытнюга, японскі гарадавы! – усміхнуўся сяржант і звыклым рухам скінуў з пляча аўтамат. Абсівераныя Зосьчыны вусны ўздрыгнулі, і, быццам баючыся, што не паспее, яна прамовіла:

– Ладна, не трэба. Ён свой...

– Дык якога ж д’ябла?! – ускіпеў сяржант, трымаючы ў руцэ аўтамат. – Якога ж д’ябла ты нам мазгі круціш? То крычала: перабягаць надумаў, а цяпер наадварот. А то – абодвух к чортавай матары!..

– Я па злосці, – ціха сказала Зоська.

– Таварыш сяржант! – узмаліўся Антон, адчуўшы, што, не зважаючы на паказны свой гнеў, сяржант завагаўся і трэба не даць яму зноў прыдбаць упэўненасць. – Таварыш сяржант, я ж казаў... Развяжыце мяне, я

дакажу. Яй-Богу! Я ж свой, савецкі...

– Вось бачыш! – сказаў сяржант Зосьцы. – Ён ужо і развязаць просіцца.

– Хай, развяжыце, – сказала Зоська.

– Развязаць? – Развяжыце.

– А не баішся?

– Не, не баюся.

– Ну і дзівосы! Стэфан казаў, на хутары з тапаром кідалася, а тут – развяжыце! Ну і жаночая логіка! Ладна, што ж, сапраўды... Пэцкацца тут аб яго. Пашка! – крыкнуў ён таўстунку. – Развяжы! Але май на ўвазе, калі што – адразу чаргой у спіну. Я цацкацца не люблю, японскі гарадавы!

– Ну што вы, таварыш сяржант...

Лёгкім рухам плячэй Антон скінуў з сябе незашпілены кажушок, і Пашка развязаў ззаду вяроўку. «Як здорава, аднак, мець рукі развязаныя, – падумаў Антон. – Быццам здабыць волю». Але да волі, мусіць, было далёка, хаця і бліснула надзея. Хутка спакайнеючы, Антон надзеў у рукавы кажушок, скалеўшы, старанна зашпіліў яго на ўсе гузікі.

– Аддалі б і наган, га, таварыш сяржант, – лагодна звярнуўся ён з новай просьбай.

– А шыш не хочаш! Яшчэ яму і наган! – раззлаваўся сяржант. – Во прыйдзем, разбяруцца, тады і палучыш.

«Значыць, яшчэ на падазрэнні. Яшчэ будуць трымаць на прыцэле, – думаў Антон. – Ну што ж, няхай так. Яшчэ невядома, галубочкі, як вам удасца прайсці каля немцаў. Гэта яшчэ мы пабачым...»

– Ну, шагам марш! – сказаў сяржант, закідваючы за плячо аўтамат. Салей з Пашкам ужо стаялі гатовыя рушыць, Антон таксама цяпер не марудзіў, адна Зоська

чамусь затрымалася.

– Пагадзіце, – сказала яна. – Мне трэба ў Скідзель.

– Ось табе і раз! – злосна азірнуўся сяржант. – Зноў ёй у Скідзель! А гэтага я куды павяду? Што я скажу там? Не, спярша дойдзем да Ліпічанкі, разбярэмся, а пасля – куды хочаш. Хоць у Берлін да Гітлера!

– Вы сарвеце заданне.

– Вы самі сарвалі сваё заданне. Чаго сталі? – крыкнуў ён на сваіх. – Ану марш! Салей – наперад!

Салей паслухмяна ступіў у снег і пакрочыў па схіле наўкось да вяршыні пагорка; за ім рушыў Антон. Сяржант пачакаў, прапусціў перад сабой Зоську, таўстунка Пашку і пайшоў ззаду за ўсімі.

**17**

«Вось жа паслаў Бог ратавальнікаў, як толькі ад іх адвязацца?» – думала Зоська, зноў ідучы па схіле за Антонам. ёй так не хацелася плясціся невядома куды, непакой за нявыкананае заданне ахапіў яе з новаю сілай, яна ледзьве перамагла ў сабе нецярплівасць, але што было рабіць?

Яна даўно прапусціла ўсе тэрміны, парушыла ўвесь парадак, наблытала і ўсё ўскладніла. Ведама, у яе не хапіла вопыту, спрыту, а болей за ўсё – характару, простай чалавечай настойлівасці. Яна ўжо шкадавала, што заступілася за Антона, напэўна, цяпер без яго было б тут лягчэй, напэўна, ён заслугоўваў таго, каб яго расстралялі. Але ў суддзі яму яна не гадзілася, яна наогул нікому не гадзілася ў суддзі, таму што сама адчувала сябе вінаватай. Зноў жа, у выпадку з гэтым Галубіным яна не была асобай староннявй, хутчэй зацікаўленай, і цяпер, калі трохі аціх боль ад таго, што здарылася ноччу на хутары, адчула, што лепш ухіліцца ад гэтай малапрыемнай справы. Вось прывядуць у атрад і няхай тады яго судзяць. На тое там ёсць начальства, таварышы, людзі болей разумныя, а галоўнае – болей

рашучыя, чым яна. Зоська больш не хацела быць звязанай з ім і ягоным лёсам. Хопіць з яе таго, што іх ужо звязвала. Хуткім крокам яны перайшлі раўніннае поле і ўвайшлі ў такі ж раўнінны хваёвы лясок. Ісці было лёгка. Яшчэ не старыя, рэдкія, без падлеску хвойкі хоць і кепска хавалі людзей, затое давалі добра бачыць вакол. Салей наперадзе ўсё круціў галавой, цікаваў, але, здаецца, у хвойніку было пуста. Яны ўсе маўчалі, толькі глядзелі і слухалі. Але хвойнічак хутка скончыўся, наперадзе зноў раскінуўся прытуманены прастор поля, і Салей, не дайшоўшы крокаў дваццаць да ўзлеску, спыніўся.

– Таварыш сяржант!..

Сяржант хутка прайшоў наперад, разам з Салеем прысеў за нізенькай бухматай хвойкай. Наперадзе ў полі штось адбывалася, здаецца, там былі людзі, але адсюль Зоська яшчэ нічога не магла ўгледзець і сачыла толькі за тым, як сяржант засцярожліва назірае з-за хвойкі. Каля яе, скінуўшы з рэменя нямецкі карабін з чорным ложам, стаяў таўстунок Пашка. Трывожны неспакой Зоські за невясёлыя свае справы трохі суняўся, выцеснены трывогай іншага роду. Цяпер, аднак, усё залежала ад гэтых людзей, яна ж была пазбаўлена ўсякай магчымасці, ініцыятывы і нічога зрабіць не магла.

– Ідзіце сюды! – ціха паклікаў іх да сябе сяржант, і яны ўсе падышлі да яго кучаравай хвойкі. – Вунь, бачыце?

Паўзіраўшыся цераз поле ў расцягнены далёкі ўзлесак, Зоська ўбачыла там людзей, коней з вазамі, мабыць, там пралягала дарога, і людзі па нейкай патрэбе спыніліся на ўзлеску. З гэтага боку, ад поля, дарогу і людзей трошкі затуляў рэдкі бярэзнічак, праз які, аднак, усё было відаць на дарозе. Аднекуль справа бег у той бок невысокі насып чыгункі з радком тэлеграфных слупоў і рэдзенькай паскай кустоўя. Напэўна, гэта і была тая чыгунка, пра якую гаварыў у раўку Салей.

– Бачылі? – азірнуўшыся, кіўнуў сяржант. – Паспрабуем за насыпам.

– Панятна, – сказаў Антон такім тонам, быццам ён быў тут раўнапраўны баец, а не чалавек пад арыштам. – Толькі перабежкамі трэба.

– Не перабежкамі, японскі гарадавы, а на пузе! Па-пластунску, ясна? – злосна паправіў яго сяржант.

– Можна і па-пластунску. Лепш за ўсё па канаве.

– Па канаве, вось іменна. Значыць, так! – азірнуўся сяржант. – Я іду наперадзе. За мной – ты! – паказаў ён на Антона. – Пасля Пашка і ты, – тыцнуў ён пальцам у Зоську. – Салей, будзеш апошнім. У выпадку чаго – агонь і рыўком у лес. Панятна?

– Ясна! – ранейшым тонам за ўсіх адказаў Антон. Яны павярнулі між соснаў управа і, не выходзячы на ўзлесак, накіраваліся да чыгункі. У хвойніку іх не было відаць, але хвойнік не дапяў да чыгункі, узлесак неўзабаве павярнуў убок, наперадзе быў голы кавалак поля, які трэба было пераходзіць у адкрытую. Сяржант раздражнёна памянуў японскага гарадавога, пачакаў, і Зоська падумала: пашле кагось наперад. Але не паслаў. Азірнуўшыся па баках і трошкі ўгнуўшы галаву памчаўся па полі сам. За ім, таксама ўвабраўшы галаву ў плечы, шырока засігаў па снезе Антон. Пашка-таўстунок памарудзіў, мабыць, болей, чым трэба было, і калі сяржант ужо дабег да чыгункі, па-бабску валюхаючы задам, патрухаў па свежых слядах. Зоська не стала чакаць, калі ён адбяжыць далёка, і пабегла за ім. Хаця і было далекавата, але яна ўжо згледзела за насыпам коней, калёсы, што стоўпіліся каля такога ж хвойнага ўзлеску, там жа відаць было некалькі чалавечых постацей, але адсюль зразумець, што яны рабілі, было немагчыма. Тым не менш з дарогі, здаецца, іх не заўважылі, яны ўсе перабеглі ад хвойніку да чыгункі, не пачуўшы ні крыку, ні стрэлу. Быццам пакуль усё абышлося… Здаецца, і сапраўды абышлося. Зоська зразумела гэта з палёгкай, калі сама дабегла да калючых кусцікаў прыдарожных прысадаў і калі туды ж, быццам і не надта гнучыся, толькі прыгорбіўшыся, прытрухаў Салей. Сяржант бокам ляжаў на снезе і жэстам паклаў ля сябе астатніх.

– Усё ціха? Так... Цяпер на кароткіх дыстанцыях...

Не шмат разважаючы, ён ускочыў на ногі і памчаўся ўздоўж па канаве, за ім памчаўся Антон. Зоська адчула, як мацней забілася сэрца ці то ад знямогі, ці, можа, таму, што небяспека ўсё павялічвалася – цяпер ім належала праслізнуць пад самым носам у немцаў. Ох, калі ды заўважаць! Сапраўды, была б хоць зброя, а то... Хіба што пакажа сваё ўмельства гэты занудны сяржант. Наколькі ён быў ёй несімпатычны раней, настолькі цяпер браў на сябе ўсю надзею.

Можа быць, які кіламетр яны, дужа ўгнуўшыся, беглі ўздоўж невысокага насыпу. Але вось насып нарэшце зраўняўся з полем, а галоўнае, скончыўся хмызнячок прысадаў, сяржант упаў грудзьмі на бераг канавы, і яны ўсе пападалі на яго. Яны не адважваліся зірнуць цераз насып і толькі слухалі, але быццам па той бок чыгункі іх яшчэ не заўважылі. Што ж, наперадзе было самае труднае – трэба было паўзці.

Рыхлы неглыбокі снег заняўся пад ранак тоненькай хрумсткай скарынкай, якая, аднак, балюча рэзала счырванелыя Зосьчыны рукі; яе спаднічка і калені вельмі хутка змакрэлі, але яна не адчувала сцюжы. Ёй нават зрабілася душна пад цёплаю хусткай, дзяўчына ссунула яе на патыліцу і ледзьве спраўлялася за порстка мільгаўшымі ў канаве Антонавымі ботамі, баючыся адстаць і тым парушыць парадак. Зноў жа ззаду ўвесь час на яе насядаў Пашка – яна разы два азірнулася, і яго потны твар аказаўся ля самых яе ног. Далей за ім, валюхаючы аснежаным, у армяку задам, варушыўся Салей.

Так, уткнуўшыся тварам у снег і нічога не бачачы навакол, яны прапаўзлі з паўкіламетра, і Зосьцы пачало ўжо здавацца, што яна болей не вытрывае. У грудзях яе гарэла ад стомы, спіна, плечы і жывот – усё аблівалася ліпкім гарачым потам. Збоку зноў пачаліся рэдзенькія кусцікі, здаецца, ужо недалёка быў хвойнік, калі яна ледзь не налезла ў канаве на нерухомы Антонаў бот і сама знерухомела таксама. Толькі яна ўзрадавалася нечаканаму перапынку, як сяржант, азірнуўшыся,

ярасным шэптам кінуў: «Хутка! Упярод!» – і боты Антона замільгалі з такой быстрынёй, што яна адразу адстала. З усяе сілы перабіраючы рукамі і размазваючы каленямі гразь пад снегам, яна кінулася за ім, балюча выцялася каленам аб нейкі камень у снезе, сцяла зубы ад болю. І ўсё ж яна адставала. Яна адчувала блізкую, затоеную да пары небяспеку і разумела, што трэба хутчэй. Але хутчэй яна не магла. Яна толькі закусіла вусны, калі, ткнуўшы ў яе нагой, з нейкай незразумелай паспешлівасцю цераз яе перакуліўся Пашка, яна думала: перакуліцца яшчэ і Салей, і падрыхтавалася застацца апошняй. Але Салей не абмінаў яе, ён упарта поўз ззаду. Антона яна ўжо і не бачыла, яна безнадзейна адставала і, каб пераканацца, што гіне, набралася рашучасці і зірнула з канавы.

Яна не магла бачыць управа – усё ж іх затуляў невысокі насып чыгункі, затое аднаго позірку ўлева было даволі, каб схаладнець ад страху. Зусім недалёка наперадзе з папярэчнай дарогі цягнуліся да чыгункі некалькі вазоў з седакамі. Пакуль яны, мабыць, нічога не прыкмячалі ў канаве, але, пад’ехаўшы бліжэй, бясспрэчна ўбачаць усё. Сяржант, напэўна, ірвануўся праскочыць раней, можа, пад носам у гэтых вазоў, але праскочыць ён ужо не паспее. На некалькі кароткіх секунд Зоська абмерла ад убачанага, не маючы сілы дагнаць пярэдніх і не ведаючы, што рабіць. Хапаючы ротам паветра, яна ніцма ляжала ў канаве, пакуль не адчула моцны штуршок у бот.

– Бягом! Бягом, ты, не бачыш?! – крыкнуў на яе Салей, і яна ўскочыла.

Нізка сагнуўшыся, яна пабегла ў канаве за трыма ўжо далекаватымі постацямі, што шыбавалі да хвойніку, – сяржанта, Пашкі і Антона. Самае страшнае было цяпер для яе адстаць, згубіць тых, ад каго яшчэ дзесяць хвілін назад яна гатова была ўцячы. Цяпер яна бачыла ў іх адзіную для сябе абарону, страціўшы якую, ужо не магла ўберагчыся ад пагібелі ў гэтым полі.

Аднак бегчы было не лягчэй, чым паўзці, яна зусім знемагла і немачна дыхала шырока разяўленым ротам.

Дужа гнучыся, яна не магла бачыць управа, адкуль неяк пагрозліва гучна бабахнуў першы вінтовачны стрэл. Яна не ведала, ці гэта стралялі па ёй, ці, можа, па тых, што беглі наперадзе, але яна адразу ўпала і тут жа ўскочыла ад злоснага крыку Салея:

– Бягом, ты, разява, туды-т тваю!..

Не ведаючы, каго болей баяцца – тых, што пачалі страляніну за насыпам, ці тых, што зусім блізка пад’ехалі па дарозе, яна, заплятаючыся нагамі, зноў пабегла па здратаванай слядамі канаве. Хлопцаў наперадзе яна ўжо не бачыла, перад яе тварам толькі мільгаў разварочаны нагамі снег, і яна, нізка схіліўшыся, бегла па гэтым снезе. Але стрэлы з-за насыпу загрукалі часта, адна куля, мабыць, трапіла ў рэйку, з шалёным трэскам абдала яе снегам. Праўда, Зоська не ўпала. Яна толькі здзівілася, убачыўшы недалёка ў канаве хлопцаў. Здаецца, аднак, усе былі цэлыя, і Пашка нават страляў цераз насып, астатнія проста ляжалі, знямогшыся. Зоська таксама ўпала каля знаёмых растаптаных ботаў Антона. Некалькі хвілін хапала ротам паветра і слухала. Сяржант усё лаяўся, астатнія маўчалі. Здаецца, наперад праходу ўжо не было, дарога ў лес была адрэзана. Выпусціўшы кудысь абойму, Пашка споўз задам з насыпу і пацягнуў за сабой вінтоўку.

– Сабакі! – сказаў ён, здрыгануўшыся ад кулі, якая блізка ўдарыла ў насып.

– Што? – запытаў сяржант з потным, зусім счырванелым тварам.

– Вунь да лесу бягуць.

Зоська зразумела, што гэта было самае горшае. Калі немцы бягуць да хвойніку, значыць, хочуць перахапіць іх на ўзлеску. Куды ж тады ім падацца?

– Ану дай! – працягнуў руку сяржант і выхапіў у Пашкі вінтоўку. – Салей! Жахні па тых, хай напалохаюцца! – кіўнуў ён за канаву, а сам успоўз да самае рэйкі і, хутка

прыцэліўшыся, стрэліў. Побач у другі бок з канавы стрэліў Салей; гарачая гільза з ягонай вінтоўкі апякла Зосьцы руку. Пашка з Антонам ляжалі, бы нежывыя, і толькі, павярнуўшы галовы, напружана ўслухоўваліся ў перастрэлку. Сяржант хутка выпусціў абойму і раптам крыкнуў да ўсіх:

– Бягом на той бок! Быстра!

Ускочыў і ашалела кінуўся па канале, за ім з незразумелым спрытам прыпусцілі Пашка і Антон. Зоська з Салеем зноў апынуліся ззаду за ўсімі. Але Зоська цяпер болей за ўсё на свеце баялася адстаць і, коўзаючы па адкосах канавы, бегла так, як, здавалася, не бегала ніколі ў жыцці.

Аднак праз якую сотню метраў яны зноў пападалі каля невялічкага пярэстага слупка з лічбай 7. Частая вінтовачная страляніна грымела, здавалася, па ўсім полі. На першым часе Зоська не чула куль, але калі на яе вачах ад слупка ўзляцеў угару бетонны асколак, яна выразна адчула іх злую сілу і цясней прыпала да снегу. Ратавала канава. Толькі доўга ляжаць у канаве, напэўна, не было магчымасці, яны і без таго змарнавалі шмат дарагога часу, іх ужо сціскалі з двух бакоў.

– Па адным! – сказаў, задыхнуўшыся, Антон. – Кароткімі перабежкамі...

Сяржант злосна азірнуўся на яго, пашукаў вачыма Салея.

– Салей, агонь!!

Салей зноў распачаў страляць з калена па тых, што насядалі з дарогі. Напэўна, яны там былі ўжо блізка, але Зоська не глядзела туды, яна адно скаланалася, калі блізкая куля біла ў насып, абсыпаючы яе жвірам і снегам. Але вось, выбраўшы, напэўна, момант, сяржант рыўком ускочыў на ногі, штосьці крыкнуў і кінуўся цераз рэйкі, адразу знікшы на тым баку аднапуткі. За ім, азірнуўшыся, з меншым спрытам перабег рэйкі Пашка. Зоська ляжала побач з Антонам. Цяпер, напэўна, чарга

была за ім, але Антон чамусь бавіў час, і яна, не зразумеўшы прычыны яго маруднасці і зноў баючыся адстаць, на руках і каленях выскачыла з канавы.

Яна ўдала перабегла наўкось абедзве рэйкі, ухапіўшы позіркам рухавыя постаці хлопцаў, якія ўжо ўбягалі ў сасоннік, і выпрасталася, каб пераскочыць неглыбокую з гэтага боку канаву. Але менавіта ў гэты момант нешта незразумелае з чыгунным звонам выцяла яе па галаве. Зоська хіснулася, але не ўпала, недаўменна схапілася рукой за галаву і, убачыўшы на далоні кроў, зразумела, што паранена. Яна аслабела перабегла канаву, улезла ў засыпаны снегам быльнёг і, заціскаючы далонню рану на скроні, пабегла да недалёкага ўжо сасонніку.

Яна баялася ўпасці і не азіралася. Толькі калі ззаду і блізка грымнуў вінтовачны стрэл, яна, бегучы, павярнулася – гэта страляў ззаду Антон. Салея не было відаць, і яна, хістаючыся і вельмі баючыся, каб не спатыкнуцца і не ўпасці, бегла па чыстым снезе. Правы бок галавы неяк недарэчна пухнуў ад глыбокага звонкага болю, кроў залівала вуха, шчаку і шыю пад хусткай, але Зоська бегла да выратавальнага ўзлеску, дзе ўжо схаваліся сяржант і Пашка.

Антон дагнаў яе перад самым узлескам і зноў, бегучы, стрэліў кудысь з вінтоўкі. Упершыню адным вокам (другое ўжо заплыло крывёю) яна зірнула ў той бок, куды ён страляў, і жахнулася: іх даганялі паліцаі. Двое з іх беглі з вінтоўкамі амаль па пятах, адзін, прыпыніўшыся, страляў у Антона. Сасоннік маўчаў, сяржант з Пашкам зніклі. Неяк ухінуўшыся ад кулі, Антон абмінуў Зоську і зараз жа схаваўся ў хвойніку. Зоська зноў апынулася апошняй, а паліцаі беглі праз сотню метраў за ёй. Боль пухнуў у галаве, ахапіўшы ўвесь правы бок, крыўда рвала яе сэрца, яна адчувала, што гіне – па-дурному і марна. Але яна ўсё ж згледзела тое месца, дзе схаваўся Антон, і пад стрэлы і крыкі ззаду таксама ўляцела ў сасоннік. Цяпер яе надзея была на Антона. Ён меў вінтоўку і быў бліжэй за іншых. І Зоська бегла, як толькі можна было бегчы ў гушчары, – раздзіраючы грудзі, плечы і рукі, аберагаючы толькі

галаву ад растапыранага з усіх бакоў суччa. Ззаду бахалі стрэлы і чуліся галасы, але, здаецца, паліцаі адсталі і не маглі яе бачыць. Яна пабегла цішэй і, выбіваючыся з сілы, паволі перайшла на крок.

На вузкай прагаліне ў сасонніку яна ўбачыла знаёмыя сляды на снезе і слепа пабрыла па іх. Каб не ўпасці, яна ўвесь час хапалася рукой за голле, другой заціскаючы рану. Цяпер ёй нічога не заставалася, як толькі дагнаць Антона, калі той не ўцёк далёка, каб з яго дапамогай перавязаць рану. Сама яна ўжо не магла гэта зрабіць і баялася страціць прытомнасць. Яна кепска бачыла ў гэтым гушчары сваім адным вокам і ўзрадавалася, калі пачула за хвояй трэск голля.

– Антон!..

– Ну што? Ідзі сюды...

З завалочанага хмарамі неба сыпаў дробны сняжок.

## 18

Антон чакаў Зоську – а што яму яшчэ заставалася, не бегчы ж наўздагон за гэтым баламутам-сяржантам. Вядома, і сяржант, і Зоська цяпер былі яму непатрэбны. Здаецца, ён выкруціўся з найбольшае бяды, адкараскаўся ад самасуду, уцалеў ад паліцэйскай кулі і нават займеў вінтоўку забітага на рэйках Салея. З Зоськай, напэўна, усё ўжо скончана – нашто яму Зоська? Хаця... Хто ведае, што будзе далей, але вось яна выбегла з-за хвоек з залітай крывёю шчакой, і нешта ў Антона хваравіта сцялася ад аднаго толькі выгляду яе прывабнага, а цяпер перакошанага балючай грымасай твару.

– Бінт ёсць?

Бінта, аднак, у яе не аказалася, у яго таксама не знайшлося ў кішэнях нічога здатнага для перавязкі. Трэба было разадраць што-небудзь з бялізны, але не распранацца ж тут, пад носам у паліцаяў. Перш за ўсё належала зашыцца ў лесе, калі пашчасціла ўжо

адарвацца ад даганятых: кожная хвіліна была дадзена Богам для паратунку.

– Во чорт! – вылаяўся Антон, услухоўваючыся ў недалёкія, на ўзлеску, галасы паліцаяў, – яшчэ, чаго добрага, кінуцца па слядах. Зоська ўсё заціскала далонню рану, трудна дыхала, і ён схапіў яе за руку.

– Як? Трываць можаш?

Яна нешта сказала, але ён не пачуў і павалок яе праз хвойны гушчар далей ад узлеску, у глыб гэтага маладога хвойніку, пакуль той не абклалі паліцаі. Абкладуць, тады зноў прабівайся з боем, што можа скончыцца новай крывёй, калі не пагібеллю абаіх.

Але неяк нечакана хутка хвойнічак скончыўся, яны выбеглі на рэдкаваты ўзлесак, і Антон дазволіў сабе спыніцца, каб перавесці дыханне. Зоська адразу ўпала на прысыпаны снегам мох, а ён спярша агледзеўся. Наперадзе ляжала нешырокае снежнае поле, зводдаль цямнелася паласа новага ўзлеску. Разглядзець яго здалёк было цяжка – густа сыпаў снег. Але снег цяпер, можа быць, дарэчы, падумаў Антон, ён схавае сляды, замгліць, дасць уцячы ад пагоні. Трохі аддыхаўшыся, Антон павярнуўся да Зоські, якая, схіліўшы галаву, бокам ляжала між хвоек.

– Ну, ты як?

Яна не адказвала, толькі, сціскаючы зубы, ціха стагнала. Плячо яе плюшавага сачка было ў крыві, хустка з правага боку таксама прамокла загусцелай плямай крыві, на якую наліпалі сняжынкі. Антон прысланіў да сухога сучка вінтоўку і рашуча расхінуў свой кажушок. Выцягнуўшы з-пад світэра падол сподняй кашулі, ададраў ад яе нешырокі шкумат і прысеў перад Зоськай.

– Ану дай!

Здаецца, усё ж дзяўчыне пашэнціла – куля трохі зачапіла галаву, а калі б узяла глыбей, дык перавязка

ўжо не спатрэбілася б. Моршчачыся ад крыві, якая ўсё сачылася з раны, Антон абматаў свой шкумат па залепленых снегам і крывёй валасах, як-колечы завязаў канцы, Зоська, дужа збялеўшы, ціхенька стагнала, яе правае вока, брыво і нават шчака заплывалі мяккай сінюшнай пухлінай. Перавязваючы яе, Антон увесь час адчуваў нейкае дзіўнае, непадуладнае яму пачуццё, перамешанае са спагадай і амаль неадольнай фізічнай гідлівасцю.

– Нічога! – слаба суцешыў ён, скончыўшы перавязку. – Галоўнае – ногі цэлыя! Куды-небудзь дойдзем.

Яна сама асцярожна завязала на ягоны ласкут сваю хустку, ад чаго яе галава стала нязграбна-вялікай. З Антонам яна не размаўляла, відаць, ледзьве адольваючы боль, і ён не даймаў яе роспытамі. Ён болей услухоўваўся ў невыразныя гукі лесу і аднастайны шум хвой, з трывогай ловячы галасы паліцаяў. Але тыя, мабыць, адсталі, лес быў спакойны, роўна шархацеў снег па кажушку на плячах.

– Як, ісці можаш?

Замест адказу Зоська зрабіла нямоглую спробу падняцца, і ён падаў ёй руку, памог стаць на ногі.

З кароткімі супынкамі яны перайшлі поле і ўперліся ў новую сцяну хвойніку, якая рабіла тут плаўны выгінасты паварот, як Зоська раптам спынілася, пераламалася ўся на сярэдзіне, і Антон, азірнуўшыся, зразумеў: яе бралі ваніты. Пакуль яна скаланалася ў сутаргах, ён разгублена стаяў насупраць, думаючы, што як бы не давялося несці яе на плячах. Але не давялося, Зоська пакрысе абціхла, выпрасталася, і яны пайшлі далей. Праўда, яна ўвесь час адставала, змушаючы Антона прытрымліваць свой крок, і ішла нібы п’яная, спатыкаючыся, гатовая на кожным кроку ўпасці. Руку не апускала ад галавы, глядзела адно сабе пад ногі, адставала, і Антон цярпліва чакаў яе ў часе супынак, калі яна дагоніць яго. Напэўна, ёй трэба было б адпачыць, але ён імкнуўся адысці як мага далей ад чыгункі, а пасля... Але ён і сам мала разумеў, што будзе

пасля.

Мінуўшы хвойнік, яны доўга брылі па голай снегавой роўнядзі невядома куды. Антон даўно ўжо не пазнаваў мясцовасці, напэўна, ён тут ніколі не быў, і ішоў абы-куды. Снег не пераставаў. Снегавая завея секла з абодвух бакоў, і ён думаў, што напрамак вытрымліваў правільна. Бачнасць вакол была кепская, а сярод раўніннага поля і зусім не стала нічога відаць – у густой белай імгле толькі мільгалі, скакалі, несліся сняжынкі. Але вось трошкі ў баку ад яго напрамку штось зашарэла цьмянай круглаватаю плямай – здалося, стажок ці, можа, сцірта саломы. Аднак спакваля Антон здагадаўся, што гэта адзінокае дрэва ў полі. Падумаўшы, што пара адпачыць, ён збочыў да гэтага дрэва і, трохі пратупаўшы, праз сетку завеі ўбачыў здаля і другое высокае дрэва, а за ім рад дрэў ніжэйшых, цені будынін, саламяную страху з комінам. Здаецца, яны прыбрылі да вёскі. Вёска цяпер была ім дарэчы, у ёй, мабыць, прыйдзецца пакінуць Зоську. Але – калі б ноччу. Удзень паяўляцца ў незнаёмай вёсцы – заўжды вялікая рызыка, тым болей пад носам у немцаў.

Шырока ступаючы ў неглыбокім снезе, Антон падышоў да дрэва і спыніўся. Гэта была старая раскошная груша-дзічка з цэлым воблакам калючага сучча, што раскінулася на мяжы двух зямельных надзелаў. Пад грушай напаўзамеценая снегам грувасцілася вялікая крушня камення, сабранага з поля. Калі сесці ніжэй, дык за крушняй можна было затуліцца ад ветру і старонняга вока, іншага прытулку паблізу нідзе не было відаць.

– Вунь вёска, бачыш? – кіўнуў Антон Зосьцы, калі тая прыплялася да грушы.

– Княжаводцы, – нейкім незнаёмым голасам ціха сказала Зоська. Антон уважліва зірнуў на яе і здагадаўся: гэта ад пухліны, якая скарэжыла ўвесь правы бок яе твару.

– Што, знаёмая вёска?

– Знаёмая. Улетку тут у сяброўкі была.

– Во і добра. Ёсць дзе прытуліцца. Пацямнее – пойдзем. А пакуль сядай, трэба чакаць.

Ён вывернуў з-пад снегу плоскі вялікі камень на краі крушні, і Зоська з гатоўнасцю апусцілася на яго, зноў, быццам ад зубнога болю, левай шчакой паклала галаву на далоні.

– Ляснула тваё заданне, – сказаў Антон, сядаючы на другі камень побач. – І маё таксама. Што рабіць?..

Ціха стогнучы, Зоська маўчала, і ён, павярнуўшы затвор, зірнуў у магазінную каробку вінтоўкі. Там было ўсяго два патроны і стрэленая гільза ў патронніку. Гільзу ён выкінуў на снег, патроны ўціснуў глыбей у каробку. Два патроны, вядома, мала, амаль нічога, хіба што на крытычны выпадак. Добра, аднак, што здабыў вінтоўку. Праўда, сам ледзьве не трапіў у паліцэйскія лапы, але вінтовачку ўсё ж падхапіў. Шкада, не паспеў памацаць у Салея ў кішэнях, мабыць, там знайшоў бы якую пару абоймаў. Але і так ледзьве дабег да хвойніку. Ва ўсякім выпадку з вінтоўкай ужо можна будзе вярнуцца ў атрад, вось толькі што ён скажа ў атрадзе аб сваёй трохдзённай адсутнасці? Чорт, як няскладна ўсё атрымалася! І трэба ж было яму выбраць такі недарэчны момант. Не, каб пачакаць пару дзён у лагеры і дачуцца аб тым, што здарылася пад Сталінградам. Але хто мог думаць, што справы ў Сталінградзе абернуцца такой нечаканасцю і ў такі менавіта час? Ды і Зоську ніколі раней не пасылалі ў Скідзель, як можна было ўпусціць такі здатны шанец? Эх, Зоська, Зоська! Гэта яна па-дурному парушыла ўсе ягоныя планы і ледзьве не загубіла яго і сябе таксама... А можа, яна ўратавала сябе і яго? – раптам падумаў Антон. Калі на ўвазе мець Сталінград, дык сапраўды ўтрымала ад згубнага апошняга кроку. Ведала роўна столькі, колькі ведаў і ён, а глядзі, здагадалася... Што значыць жаночае адчуванне! У яго ж такога адчування не аказалася, і ён ледзьве не сунуўся ў гэты паліцэйскі мурашнік у Скідзелі. Цяпер няцяжка было ўявіць, чым бы ўсё скончылася, калі б ён прывалокся да таго ж

Капыцкага. Вось і атрымліваецца, што Зоська была разумнейшая за Антона і хоць бы ўскосным чынам ратавала яго.

Адвярнуўшыся ад ветру, Антон цярпліва сядзеў на камені, падняўшы каўнер кажушка, вінтоўку паклаў на калені. У гэтай беганіне, мітусні і перастрэлцы ён не заўважыў, колькі мінула часу, і думаў, што неўзабаве пачне вечарэць. Але пакуль што было відна, усё сыпаў снег, і праз якія-небудзь паўвярсты ад грушы відаць былі голыя кроны дрэў і стрэхі хат у Княжаводцах. Трэба было яшчэ пачакаць. Ён не адчуваў сцюжы, і каб не вецер, дык у кажушку яму наогул было цярпіма сярод гэтага завейнага поля пад грушай.

Вось як толькі Зоська?

– Яна дзе жыве, сяброўка твая? – Антон павярнуўся да Зоські. – З якога канца?

Зоська марудна прыўзняла абсыпаную снегам галаву і коратка зірнула на яго з пакутным выразам на апухлым твары.

– А табе што?

– Ну, як падысці? Калі з гэтага канца, дык можна рызыкнуць і цяпер. Каб не цягнуць да ночы.

Яна зноў апусціла няўклюдна абвязаную галаву левым бокам на рукі і ледзь чутна спыталася:

– Спяшаешся?

– Спяшаюся, а як жа. Пагуляў, і годзе. Трэба за справу брацца.

– Скідзель недалёка. Пятнаццаць кіламетраў.

– А нашто Скідзель? Мне ў атрад трэба.

– Во як! Значыць, перадумаў?

– А хоць бы і перадумаў. Ты ж чула: замінка ў вайне

палучылася. Немцаў ад Сталінграда пагналі. А там у іх лепшыя сілы.

Зоська маўчала, і ён пачаў падцягваць самаробны рэмень на вінтоўцы. Відаць, гэты Салей быў такі партызан, як і яго вінтоўка з іржавым, забітым гразёй затворам і трэснутым пасяродку прыкладам, рэмень замест трэнчыка быў прывязаны да ложа матузом. Трэба будзе ўсё гэта прывесці ў належны выгляд, інакш які ж ён партызан з гэткаю зброяй. Цяпер, калі, на бяду ці на шчасце, у яго сарвалася з гэтым Скідзелем, Антон нават ажывеў неяк, нягледзячы на перажытае, – усё ж ён вяртаўся да труднага, але звыклага жыцця ў лесе, сярод сваіх, знаёмых людзей. Але як яны паставяцца да яго пасля такой доўгай самавольнай адлучкі – гэта пытанне, як стрэмка ў целе, сядзела ў яго трывожнай свядомасці. Ён яшчэ нічога да канца не дадумаў, але ўжо адчуваў, што ўсё будзе залежаць ад Зоські. Зоська можа яго ўратаваць, а можа і загубіць, калі ён вернецца ў атрад. Значыць, перш за ўсё трэба наладзіць адносіны з Зоськай.

– Зося, а Зося! Ты на мяне не сярдуй, – сказаў ён амаль з просьбай у голасе. – Я ж хацеў як лепей. Для цябе і для сябе.

– А я і не сярдую. Што на цябе сердаваць!

– Во маладзец! – сказаў ён узрадавана. – Прыйдзем да сваіх, паправішся... Мы яшчэ паладзім з табой, праўда?

– Не ўжо, мы не паладзім.

– Гэта чаму? Я ж цябе...

– Памаўчы лепш, – глуха перапыніла яна, і ён падумаў: няўжо так пакрыўдзілася? Ці вельмі баліць рана? Рана, вядома, кепская, як бы Зоська, калі нават і выжыве, не засталася трохі вар’яткай. Галава ўсё ж не мяккае месца ззаду. Галаву перш за ўсё берагчы трэба, таму, мабыць, салдатам на фронце выдаюць каскі. Разумныя людзі прыдумалі. Калі пашкоджаны чэрап, дык можна і памерці, гэта няважна, што пакуль стаіш на нагах і пры

памяці. Памёр жа вунь ад такой раны ў галаву партызан з першага ўзвода Сажнёў, хаця перад тым двое сутак быў на нагах і чуў сябе някепска.

– Слухай, Зоська, – сказаў ён мякчэй, амаль ласкава. – Ты ўчора казала, што можаш напісаць камандзіру. Ну пра мяне вобшчам...

– Што напісаць? – не зразумела яна.

– Ну ты гаварыла... Што я памагаў табе і так далей. Што прыкрыў групу там, на «жалезцы». Бо калі б не я, яны б там усіх, як Салея. Ты ж бачыла, так жа?..

– А нашто пісаць? – холадна сказала Зоська. – Ты што, мяне ўжо закапваеш?

– Я не закапваю. Але ж ты застанешся, – кіўнуў ён на вёску. – А мне ў атрад.

– Ужо як-небудзь і я дабяруся ў атрад.

– Але пакуль ты дабярэшся, мяне могуць... Як я там апраўдаюся?

– Пра што ж ты думаў раней?

– Раней пра іншае думаў. Пра цябе, між іншым, – пачаў злавацца Антон.

Ён і сапраўды адчуваў сябе бадай што пакрыўджаным яе незгаворлівасцю. Во ўжо даў Бог звязацца з гэтым упартым дзяўчом, з якім немагчыма нават дамовіцца. Проста дзіўна, адкуль бярэцца ў ёй гэтая казліная ўпартасць. Мяркуючы па яе знешнасці, ніколі не падумаеш, што характар яе такой каменнай цвёрдасці, – на выгляд такая лагодная, без грубага слова, заўжды з гатоўнасцю падтрымаць добры жарт. А тут... Скула зрабілася, а не дзеўка. Такія яму яшчэ не траплялiся. Заўжды ён умеў з імі ладзіць, калі не адразу, дык спакваля, і дамагчыся свайго праз лагоднае слова, вясёлы жарт. З жанчынамі яму заўжды шэнціла, і ён нярэдка звяртаўся да іх у цяжкі момант свайго жыцця. А тут сарвалася...

Снег усё сыпаўся з неба, але быццам цішэйшы стаў вецер, і, здаецца, пачало нарэшце цямнець. Поле хутка засцілалі прыцемкі, траціла скупое святло абкладзенае хмарамі неба. У Антона замерзлі ў сырых ботах ногі, і ён устаў з каменя, пачаў, тупаючы, грэцца пад грушай. Дрэвы і дахі ў Княжаводцах усё яшчэ віднеліся за полем, але ён ведаў, што праз гадзіну ці меней зробіцца цёмна. Ён адвядзе Зоську ў вёску, знойдзе яе сяброўку, можа, там будзе спакойна, і Зоська застанецца ў знаёмых. Яму ж трэба прабірацца ў атрад. Снег пакуль неглыбокі, за ноч ён адмахае кіламетраў трыццаць, мясцовасць па той бок Нёмана яму добра знаёмая. Але перш чым расстацца з Зоськай, трэба дамагчыся ад яе паперу, што ён памагаў ёй у разведцы, а не прападаў немаведама дзе трое сутак. Канешне, ён разумеў, што і з такой паперай не проста выкруціцца, але з дапамогай Зоські ўсё, можа, абыдзецца. Без яе ж яму поўны капут, самому яму не апраўдацца.

– Ужо цямнее, – спакутаваным голасам сказала Зоська, прыўзняўшы галаву.

Напэўна, ужо можна было, не баючыся, выходзіць са свайго сховішча ў поле. Пакуль яны дашкандыбаюць да вёскі, сцямнее і яшчэ болей, але Антон бавіў час: яму хацелася напаследак дамовіцца з Зоськай.

– Зараз пойдзем, – сказаў ён. – Давай руку, уставай, пагрэй ногі.

Ён памог ёй падняцца з каменя, і яна, хіснуўшыся, ледзьве ўтрымалася на нагах. Антон падхапіў яе пад руку, але, нецярпліва варухнуўшы локцем, яна адхіліла яго дапамогу.

– Я сама.

Што ж, калі ласка, давай сама, калі можаш. Толькі яна не спяшалася сама, звярнуўшы набок галаву, спярша нязручна ўгледзелася ў яшчэ прыкметныя абрысы Княжаводцаў.

– Я пайду ў вёску, – глуха сказала яна, адвярнуўшыся. –

А ты ідзі за Нёман.

– Нашто? – здзівіўся Антон. – Спярша давяду цябе, устрою...

– Гэта не трэба, – сказала яна.

– Чаму? – насцярожыўся ён. Упартае нежаданне ягонай дапамогі чымсьці азадачвала Антона, але ён яшчэ не здагадваўся, што было прычынай гэтага нежадання.

– Я пайду адна.

– Не, адну я цябе не пушчу.

Яна яшчэ пастаяла, згорбіўшыся і хваравіта трымаючы руку на павязцы, і раптам моўчкі апусцілася на ранейшы свой камень.

– Во яшчэ фокусы! – сказаў ён. – Ты што, начаваць тут збіраешся?

– Ідзі за Нёман! – ціха, але цвёрда сказал яна. – Пасля я пайду ў Княжаводцы.

– Ах, во як! – здагадаўся Антон. – Значыць, не давяраеш?

– Не давяраю.

– Да-а, – некалькі збянтэжана сказаў ён і таксама сеў на камень вышэй.

Аказваецца, магчыма і такое, падумаў Антон. Ён прыкрываў яе агнём на чыгунцы, не кінуў у хвойніку, убярог ад паліцэйскай пагоні. Ён, можна сказаць, ратаваў яе, рызыкуючы сваёй галавой, а яна не давярае яму. Яна не хоча паказаць, куды пойдзе ў Княжаводцах, каб ён не выдаў яе сяброўку, ці што? Але ён ужо не збіраўся ісці да немцаў, ён вяртаўся ў атрад – чаго ж ёй яшчэ трэба?

З намаганнем падаўляючы ў сабе злосць супраць дзяўчыны, якая сёння не пераставала здзіўляць яго

сваімі выхадкамі, ён раптам адчуў меру яе варожасці да сябе, і яму стала страшна. З такім пачуццём да яго яна раскажа ў атрадзе пра ўсё, што з імі сталася, і яму напэўна нездабраваць. Калі там дазнаюцца пра яго няздзейснены план адносна Скідзеля, пра намер наведаць Капыцкага, яго проста завядуць у роў, дзе ён назаўжды і застанецца. Менавіта цяпер, калі справы на фронце далі надзею, калі ён рашыў заставацца да канца партызанам, калі ён размежаваўся з немцамі і Капыцкім, ён можа загінуць ад рук сваіх жа таварышаў. І толькі таму, што недзе ўсумніўся, па маладосці захацеў выжыць і, можа, у цяжкі час не саўладаў з нервамі.

І пагубіць яго тая самая, з якой ён гатовы быў звязаць назаўжды свой лёс і праз якую, мабыць, ледзьве не зрабіў сваё самае вялікае глупства.

Але ж не зрабіў – во што, мабыць, галоўнае. Гаварыў, праўда. Але ці мала што можа нагаварыць чалавек, калі яму смажаны певень балюча ў зад клюне!

– Ну добра, – памякчэла сказаў Антон пасля доўгага пакутнага роздуму. – Добра... Я пайду за Нёман. Але ты абяцай мне памагчы.

– Чым? – адрывіста запыталася Зоська, не павяртаючы галавы. Аберуч яна абапіралася на каменне.

– Не кажы нікому, што я хацеў з табой... у Скідзель. Яна зрабіла спробу павярнуцца да яго на камені, але толькі павяла плячыма. Цяжкая яе галава немачна імкнулася долу.

– А што я замест скажу? Што праспала з табой ноч у аборы? Што не дайшла да Скідзеля, бо заначавала на хутары? Што правакіла гэта заданне, бо даверылася табе? Што я дурніца, ідыётка і прадажніца, якую трэба пад суд?

Здаецца, яна заплакала, угнуўшы галаву і калоцячыся, і ў гэты раз ён не пашкадаваў яе – настала чарга шкадаваць самога сябе. Сапраўды, перспектыва перад

ім вырастала зусім незайздросная, трэба было тэрміновa штосьці рабіць для свайго паратунку. Але ён не ведаў што і самотна сядзеў пад крушняй, тужлівым позіркам сноўдаючы па вечаровай прасторы поля. Наўкола амаль ужо сцямнелася, дрэвы і стрэхі ў Княжаводцах знікалі ў паўзмроку, вецер санлява шархацеў снегам у калючым голлі на грушы.

– Во ты, значыць, якая! – са стрыманай злосцю сказаў Антон. – За сябе дрэйфіш? Правaліла заданне! І хочаш правaліць маё жыццё?

– За сваё жыццё ты сам будзеш адказваць. Ты яго так скіраваў. Ці ж я мала цябе адгаворвала?

– Дапусцім, я памыліўся. Прызнаю. Але не памыляецца той, хто нічога не робіць. Хто на печы сядзіць. А мы на памылках вучымся. Хто гэта сказаў? Ты ж адукаваная, павінна ведаць. І яшчэ ты жанчына, ты павінна быць добрай. А не такой злосніцай.

– Мая дабрата мяне і загубіла, – ціха сказала Зоська.

– Ну во! – падхапіў Антон. – Сама прызнаеш. Дык чаму ж ты і мяне загубіць хочаш? Я ж табе не вораг!

– Бываюць свае горш за ворагаў, – ціха сказала Зоська. – Ворага можна забіць. А ў свайго не стрэліш.

– А, во як! Ты ўжо гатова і страляць! Гэта за што? За мой клопат? За тое, што я цябе ратаваў?

Антон ускочыў на ногі – яе бязглуздыя словы даводзілі яго да шаленства. Ён – горшы за ворага!.. Ён увесь калаціўся ад злосці пры адных толькі ўспамінах аб перажытым з ёй за апошнія суткі. Колькі разоў ён яе выручаў, колькі памагаў ёй, колькі напакутаваўся ад яе дурных выхадак! Канешне, ён не забыўся, што было і іншае, што ён прымяніў грубасць, і яна мела права пакрыўдзіцца. Але цяпер ён не хацеў памятаць гэта. Ён памятаў толькі зробленае ім дабро і абураўся ад думкі, што за гэта яго дабро яна імкнулася адплаціць яму злом. І яшчэ шкадуе, што не мела магчымасці стрэліць!

– Сучка ты подлая! – крыкнуў ён з ціхай ярасцю, і яна, адхіснуўшыся, знерухомела на камені.

Праз якую хвіліну, не сказаўшы ні слова ў адказ, Зоська з натугай паднялася на ногі і, падтрымліваючы рукой галаву, кудысьці пайшла вакол крушні. Антон з нянавісцю пазіраў на яе ззаду, яна была для яго агідная, і ён у думках сказаў сабе, што не пакліча яе нізашто. Няхай, як знае, ратуе сябе сама, а хоча – хай гіне, яго дзела малое. Хутчэй за ўсё і загіне. За першай жа хатай у вёсцы налезе на паліцая і заўтра са звязанымі рукамі апынецца ў Скідзелі. Але хай, ён бедаваць не будзе. З яго ўжо хопіць. Ад гэтага часу ён ёй не таварыш і знаць яе болей не хоча.

Прасачыўшы, як яна хісткім няпэўным крокам абышла крушню, беручы кірунак да вёскі, Антон са злосцю закінуў за плячо вінтоўку. Яму трэба было ў другі бок – да Нёмана, у лес. Іхнія шляхі назаўжды разміналіся, і ён не шкадаваў.

Ён прайшоў дзесятак крокаў ад грушы і разгублена спыніўся ад новае думкі: а раптам ёй пашанцуе? Яна знойдзе ў вёсцы знаёмую і раскажа ёй пра ўсё, што здарылася паміж імі. Рана ці позна пра гэта стане вядома ў атрадзе... Не, ён не мог дапусціць, каб яна прыйшла ў вёску. Для яго гэта было раўназначна самагубству.

– Зося! – не сваім голасам крыкнуў Антон. – Зося!!

Зоська быццам не чула і не азірнулася. Яе цёмная з нязграбнай галавой постаць паволі аддалялася ад грушы, і Антон ускінуў вінтоўку. Ён разумеў, што ў магазіне ўсяго два патроны, але вока яго заўжды было зоркае, а рука дастаткова цвёрдая. Баючыся ўпусціць яе ў прыцемках, ён таропка прыцэліўся ў чорную спіну, і плаўна націснуў на спуск.

Стрэл, блiснуўшы чырвоным агнём, на секунду асляпіў яго, Антон апусціў вінтоўку і ўглядзеўся ў змрок. Зоська цёмнаю плямаю нерухома ляжала на снезе, раскінуўшы рукі. Не адрываючы ад яе позірку, ён перазарадзіў

вінтоўку, але другога стрэлу, напэўна, ужо не спатрэбілася. Зноў жа апошні патрон трэба было пакінуць на які крайні выпадак.

– Во! Так будзе лепш, – са злосцю сказаў ён сабе, вылаяўся, плюнуў на снег і хутка пакрочыў цераз поле ў лес.

**19**

Ёй было кепска, вельмі балела ў баку і было цяжка дыхаць, яна ўвесь час імкнулася скінуць з сябе нейкі незразумелы цяжар, але ў яе не хапала сілы, і цяжар працягваў яе душыць – пакутна і няспынна. Слабыя прасветліны ў яе свядомасці хутка зацягваліся мутным наплывам беспрытомнасці, яна пераставала адчуваць сябе, забывалася пра немач і боль. У кароткія моманты прасвятлення невыноснейшым рабіўся боль, праз які ледзьве прабіваліся невыразныя праявы жыцця, і Зоська не магла зразумець, што з ёй здарылася.

Але нейкая работа свядомасці час ад часу ўсё ж змушала яе на новыя спробы ачнуцца, адна з іх амаль прынесла ўдачу, яна адчула, што памірае, і ўся схаладнела ад жаху. Страх смерці прымусіў яе на новы роспачны рывок свядомасці, яна раптам ачнулася, каб тут жа зноў страціць прытомнасць ад нясцерпнага, ахапіўшага ўсю яе болю.

Аднак галоўнае, мабыць, было ўжо зроблена, яна ўжо ўведала, што ёй пагражае, і набралася рашучасці супраціўляцца смерці. Яна вельмі баялася смерці і вельмі хацела жыць. Новым падсвядомым намаганнем яна прарвалася праз боль і вярнула сабе адчуванне навакольнага свету.

Яна яшчэ не магла расплюшчыць вачэй, але зразумела, што ляжыць на снезе і мерзне. У дадатак да болю сцюжа люта працінала яе параненае, знямоглае цела, яна ўся калацілася ў дрыжыках, і першым яе намаганнем было спыніць дрыжыкі. Але дрыжыкі сталі яшчэ болыпыя, разам з тым яна адчула свае рукі, ногі і

намаглася, каб павярнуцца, але толькі прастагнала ад болю ў баку. І без таго цьмяная свядомасць зусім абрывалася на гэтым болю, і яна не магла прыпомніць, чаму тут ляжыць. Напэўна, сцюжа і боль выбілі ўсё з яе памяці, і яна, нібы малое, пачынала пазнаваць свет з таго, што было да яе бліжэй.

Найперш гэта быў снег. Яна няўцямна зграбла кожнай рукой па жмені, адубелыя пальцы кепска слухаліся, але яна ўсё ж адчула ў іх сцюдзёную макрату снегу. Такая ж сцюдзёная золкая макрэдзь была ў яе пад бокам, і марозна дранцвела яе сцягно, на якім яна ляжала. Праз боль адчуўшы пад сабой мокрае, яна зноў намаглася, каб павярнуцца, і расплюшчыла вочы.

Вакол было цёмна, са змрочнага неба сыпаў дробны сняжок, побач матлялася ад ветру пахілая над снегам сцяблінка. Зоська перавяла позірк бліжэй і не пазнала ўласных рук – так густа іх засыпала снегам. Спалохаўшыся, што хутка яе зусім замяце ў гэтым полі, яна саўганула адначасна дзвюма нагамі і зноў страціла прытомнасць.

Яна не магла ведаць, колькі на гэты раз часу праляжала без памяці, але, калі свядомасць зноў вярнулася да яе, яна ўжо прыпамятала, дзе ляжыць. І яна адчула яшчэ, што асабліва пякельны боль, які абяссільваў цела, ідзе ад левага боку. Боль гэты не дае ёй дыхнуць, не дае рэзка варухнуць рукой, ён душыць яе непасільным цяжарам, распластаўшы на марозным снезе.

Але чаму яна адна? Чаму паранена ў гэтым начным снежным полі? Дзе людзі? Дзе партызаны і як яна тут апынулася?

Трэба было некалькі доўгіх хвілін і немалых намаганняў памяці, каб яна марудна аднавіла ў свядомасці разрозненыя ўрыўкі нядаўняга мінулага. Яна прыпомніла Антона і адчула, што побач яго няма. Памяць яе, ухапіўшыся за канец гэтай нітачкі, пацягнула яе далей, і праз некалькі няўцямных малюнкаў Зоська нагадала палявую грушу і крушню пад ёй, пасля – апошнюю размову з Антонам... Яна кудысьці

пайшла... Ага, яна ж скіравала ў Княжаводцы! Тут жа за полем, зусім блізка ад грушы, былі відаць княжаводскія дахі, і яна пайшла ў вёску, кінуўшы Антона... А пасля... Што ж было пасля?..

Пасля быў здрадніцкі стрэл ззаду.

Зоська не хацела плакаць, але слёзы самі сабою паліліся цурком па яе твары, і яна не выцірала іх. Яна зноў перастала што-небудзь бачыць у цемры і ледзьве трымала ў сабе свядомасць. Перасільваючы востры боль у баку, яна ўперлася правай нагой у зляжалы пад целам снег і паспрабавала зрушыць з месца. Цела яе на самой справе трохі пасунулася, але Зоська тут жа і знемагла, зноў і надоўга замёршы без руху. І ўсё ж яна ўрэшце ачнулася, сабрала ў сабе мізэрную рэшту сіл, намацала правым каленам ямку ў снезе і пасунулася яшчэ на паўметра.

Яна папаўзла – марудна, з доўгімі працяглымі супынкамі, ледзьве адольваючы прыступы слабасці, ад якіх мутнела свядомасць. Цяпер, калі яна прыпомніла, як блізка вёска, яна не хацела памерці ў полі, яна імкнулася да людзей. Але дзе яны, людзі? Які доўгі да іх шлях, і колькі яшчэ трэба сілы, якой у яе амаль не асталося.

Яна паўзла доўга, амаль цэлую вечнасць, раз-пораз губляючы памяць. Часам удары болю з такой лютай ярасцю працінальі яе бок і спіну, што яна знямогла замірала на месwы, доўга не адважваючыся варухнуць ні рукой, ні нагой. У галаве яе нешта балюча разломвалася – здавалася, там выдзіралі мазгі, але да болю ў галаве яна прывыкла ўжо. Горш было з болем у баку, які падпільноўваў яе кожную секунду біў пад дых, варта было неасцярожна варухнуць левай нагой. Гэта быў подлы і люты боль, і Зоська баялася, што ён не дасць ёй дапаўзці да вёскі.

Але яна павінна ўсё ж дапаўзці. Думка пра Антона мацней за ўсё іншае гнала яе ў Княжаводцы. Яна разумела, што можа хутка сканаць, але перш яна павінна папярэдзіць сваіх пра гэтага здрадніка. Інакш

ён вернецца ў Ліпічанку, улезе ў давер к камандзіру і зноў прадасць некага ў зручны для таго момант. Прадаць, ашукаць, наздзекавацца яму нічога не варта, бо для яго не існуе маральных законаў, ён заўжды будзе такі, якім яго павернуць абставіны. А абставіны на вайне – рэч дужа зменлівая, і такі ж зменлівы паміж іх будзе Галубін.

Але чаму ён такі? Ці, можа, такі ён нарадзіўся, пераняўшы характар продкаў? Або яго гэткім зрабіла жыццё? Але хіба ягонае жыццё было горшае, чым жыццё Зоські з яго паўсядзённаю працай дзеля кавалка чорнага хлеба, у малазямеллі, пры класавым і нацыянальным бяспраўі? Але так жыла тут большасць тутэйшых людзей, і кожны самы забіты бядак з Богам забытай вёскі ведаў, што нельга рабіць супраць сумлення, нельга ісці супраць сваіх. Чаму ж Галубін не засвоіў гэта?

Зоська нясцерпна пакутавала ад болю, душэўныя пакуты, аднак, дапякалі не менш. У яе не было ніякай упэўненасці, ці дапаўзе яна да ваколіцы, ці дачакаецца нарэшце людзей. Але ёй вельмі патрэбны цяпер былі людзі, толькі яны маглі памагчы ёй. Было б жахліва ў адносінах да сябе, маці, таварышаў, якія паслалі яе з лесу, пайсці і не вярнуцца, як не вярнуўся з задання іх першы камандзір Кузняцоў, не вярнулася, загадкава недзе прапаўшы, група Сураўца, ніколі не вернецца забіты на «жалезцы» Салей, ды і ці мала іншых. Не, яна павінна сабраць у сабе ўсе сілы, не паддацца смерці і вярнуцца ў лес. Хаця б для таго, каб расказаць, што з ёй здарылася і чаму яна не магла зрабіць тое, што павінна была зрабіць.

Яна памятала: вёска была зусім блізка ад грушы, але не ведала, колькі яна прапаўзла ў гэтым снезе. Вецер усё сыпаў і сыпаў снежнай драбнотай, замятаючы яе след у полі, але зусім замяце яго ён, напэўна, не хутка. А раптам сюды вернецца Антон? – жахнуўшыся, падумала Зоська. Вернецца, каб дабіць яе – гэта зусім лагічна. І так дзіўна, што ён не прыкончыў яе, можа, палічыў мёртвай? Ці спяшаўся ўцячы?

Зоська кепска бачыла адным левым вокам, ды і было цёмна. Боль у галаве не даў ёй павярнуцца, і яна толькі прыслухалася, прыціхшы на снезе. Але, апроч ветраных парываў і звыклага шуму завеі, побач, здаецца, нічога не было чуваць.

Часам яе цягнула ванітаваць, як пасля чаду, свядомасць зноў пачала цямнець, і яна падумала, што, мабыць, не дапаўзе. Мабыць, тут і застанецца. Але пакуль яна яшчэ нешта магла, яна з апошніх сіл пасунула сябе ў рыхлым снезе адзін, другі, трэці раз і знерухомела. Наперадзе ў завейным паўзмроку штосьці цямнела, але, трацячы прытомнасць, яна не паспела разгледзець што. Патрэбна была доўгая пакутная паўза, перш чым прытупіўся боль у баку, і, трохі збочыўшы галаву, яна ўбачыла перад сабой плот. Парныя калы з жэрдкамі-перакладзінамі ламанай лініяй беглі ад яе да вёскі. Гэта была летняя агародка ў канцы гародаў, значыць, хаты ўжо блізка. Зоська ўзрадавалася свайму адкрыццю, нібы прадвесцю яе паратунку, і, зрабіўшы вялізнае намаганне, дасягнула нарэшце крайніх калоў плота. Каб памагчы сабе прапаўзці яшчэ трохі, яна ўхапілася за тонкі канец ніжняй жэрдкі, і той з ціхім хрустам зламаўся. Болей сілы ў яе не засталося. Збянтэжаная няўдачай, яна паляжала трохі і, прыўзняўшы ў руцэ абломак, ударыла ім па жэрдцы вышэй. Яе ўдар глуха аддаўся ў начной цішы, і ў той час дзесьці зводдаль пачуўся ўстрывожаны брэх сабакі.

Зоська ўнутрана трапятнулася – гэта была ўдача, яна прыўзняла палку і пастукала некалькі разоў мацней. Сігнал яе, мабыць, перадаўся па плоце, і, здалося, брэх пачуўся бліжэй. «Брашы ж, брашы, мілы сабачка! – падумала Зоська. – Брашы. Можа, цябе пачуюць...»

У шчаслівай упэўненасці, што дапаўзла і што зараз да яе нехта выйдзе, яна ўся абвяла і надоўга страціла прытомнасць.

**20**

Назаўжды расквітаўшыся з Зоськай, Антон адчуў у сабе

палёгку, амаль душэўшы спакой, быццам скінуў са спіны цяжар, які доўга не даваў спакою. Цяпер сведак больш не было, ніхто не мог ведаць пра яго намеры, яго грэшную спробу ўцячы ад вайны. Ён зноў быў чысты, сумленны, бязгрэшны ў адносінах да радзімы, людзей і сваіх таварышаў. Падагрэты яшчэ не астылаю злосцю на Зоську, ён не адчуваў вялікіх згрызот сумлення – падумаеш, забіў дзеўку! На свеце, дзе ішла вайна і кожны дзень забівалі тысячы, дзе кожную хвіліну маглі забіць яго самога, гэта маленькае забойства зусім не здавалася яму злачынствам – забіў, бо іначай не мог. Загінула праз дурны свой характар, які ў такіх вось абставінах рана ці позна прывёў бы яе да магілы. Калі б не застрэліў Антон, яе ўсё роўна застрэлілі б немцы, вырваўшы ў дадатак сякія-такія партызанскія звесткі – каму было б лепш ад гэтага?

Хуткім крокам Антон перайшоў цёмнае поле і выйшаў да хвойнага ўзлеску. Невысокія густыя хвойкі шчыльна сціскалі свой рад, і ён з немалым намаганнем пралез паміж імі, стросшы на сябе белаватае ўначы воблака снегу. Нізка гнучыся, амаль навобмацак ён пачаў прабірацца ў глыб хвойніку. Ён думаў, што далей ад узлеску хвойнік стане радзейшы, але ўвесь гэты хвойнік аказаўся суцэльнай гушчэчай, прабрацца праз якую нават удзень было неверагодна цяжка, не кажучы ўжо пра ноч.

Доўга прадзіраючыся праз зараснікі, ён балюча разадраў руку, прадраў кажушок на плячы і стаў думаць ужо не пра тое, каб вытрымаць напрамак да Нёмана, а каб хоць вылезці з гэтай гушчэчы. Але, крута павярнуўшы ўбок, ён убіўся ў яшчэ горшы хвойны сушняк, які застаўся, напэўна, пасля аднаго з летніх пажараў, дзе і зусім немагчыма было ні прайсці, ні пралезці праз калючае і цвярдое, як сталёвы дрот, сучча. Зразумеўшы, што гэтае месца лепш абысці бокам, Антон павярнуў назад, пасля зноў пачаў браць улева. Але куды б ён ні падаўся, усюды яго пільнаваў гушчар з калючага галля і сучча, якія зласліва чапляліся за кажушок, абдзіралі твар, рукі, кожны раз здзіралі з галавы шапку. Ён умарыўся, змакрэў ад поту і

снегу, які налез у кожную прарэху ягонай апраткі.

Ужо згубіўшы надзею калі-небудзь выбрацца з гэтых д’ябальскіх нетраў, Антон, гнучыся ў тры пагібелі, адолеў чарговую дзялянку асабліва густога падросту і апынуўся нарэшце на ўзлеску. Наперадзе было поле, ён з палёгкай уздыхнуў: атрос з сябе снег, адчуваючы на разгарачаным твары пругкія ўдары ветру, які паранейшаму сыпаў у прыцемках снегавой драбязой. Ён пайшоў па полі, даўшы сабе слова болей не лезці ў зараснікі, дзе ў такую ноч і такое надвор’е можна хіба што хавацца ад ваўкоў. Яму ж трэба было як найхутчэй дабрысці да Астраўка ці, можа, пераправіцца цераз Нёман дзе ў іншай здатнай для таго мясціне. Цяпер гэта займала ягоныя думкі болей за ўсё іншае, таму што затрымка з пераправай пагражала заўтра новай бядой у гэтым малазнаёмым прырэчным раёне з яго паліцыяй, засадамі, патрулямі па вёсках, хутарах, на дарогах.

У полі стаяла начная цішыня, ісці было лёгка; Антон пакрысе душэўна аціх, амаль супакоіўся. Ён стараўся не думаць ні пра нядаўняе сваё забойства, ні пра тое, што яму давялося перажыць з Зоськай. Што было, тое мінулася, казаў ён сабе, у ягоным становішчы было разумней паклапаціцца пра будучае. Мабыць, давядзецца шукаць таго баламута-сяржанта і яго сябрука Пашку, хаця Антон нават не ведаў іх прозвішчаў і не меў уяўлення, з якога яны атрада. Але яны б, мусіць, пацвердзілі ягоны ўчынак пры пераходзе «жалезкі», усё ж ён прыкрыў іх агнём і тым даў магчымасць уцячы ад паліцаяў. Праўда, яны ж маглі расказаць і пра непрыемны выпадак з Зоськай на хутары. Можа, лепей не спасылацца на гэтых людзей, што хаця і ўскладніць яго апраўданне, затое дасць яму магчымасць адрачыся ад Зоські: яе ён не бачыў, не сустракаў, нічога пра яе не ведае. Пайшла і прапала, ці мала што магло здарыцца з партызанскай разведчыцай у варожай зоне. Наогул такая пазіцыя знешне выглядала даволі пераканаўчай і не павінна выклікаць падазрэнне, трэба толькі паводзіць сябе цвёрда і настойліва. Дзе быў трое сутак? Хадзіў па вёсках, хацеў разжыцца абуткам. Боты зусім разваліліся, колькі разоў

гаварыў камузвода, ніякай увагі. А які ж з яго партызан зімой без абутку? Чаму не далажыўся начальству, не папрасіўся адпусціць? Шыш бы яго адпусцілі, калі б папрасіўся.

Авось не застрэляць.

Пасля непралазнага гушчару хвойніку крочыць па полі была адна асалода. Заняты сваімі думкамі, ён адмахаў кіламетры са тры, калі не болей, як раптам адчуў, што перамяніўся вецер. Спярша дзьмуў злева, а пасля стаў заходзіць ззаду. Ці, можа, ён сам, а не вецер змяніў кірунак? Антон спыніўся, прыслухаўся. Але ў полі нічога не было чуваць, апроч звыклых парываў ветру і шорхату снегу. Тады ён угледзеўся ў снегавыя прыцемкі, у якіх знікаў раўнінны палявы прастор, і таксама не мог там убачыць нічога пэўнага. Усё ж ён узяў трохі ўправа, здалося, штосьці там высілася над краявідам, хаця гэта мог быць змрочны край неба, і хутка, на яго здзіўленне, з паўзмроку выплыла цёмная сцяна лесу. Але тут не павінна было быць ніякага лесу, падобна, што ён заблудзіўся.

Трохі азадачаны, ён спыніўся ў некалькіх кроках ад лесу, абапёрся на знятую з натруджанага пляча вінтоўку. Позіркам ён спрабаваў пранікнуць далей у ветраны змрок начы, але позірк меў сілы на якіх-небудзь сто метраў, не больш. На працягу гэтых ста метраў наперадзе і столькі ж ззаду была прыкметна толькі плаўная крывуляка ўзлеску, які чамусьці здаўся яму знаёмы. Ды яны ж сёння пляліся тут з Зоськай! Яна яшчэ тут ванітавала, і ён, не ў стане нічым памагчы, стаяў і глядзеў на скалечаную агнём сасну на ўзлеску. Вунь, здаецца, і пагарэліца, голае сучча якой чорнымі рагулямі тырчыць у прыцьмелае поле. Чорт ведае куды яго занесла!

Трэба было павяртаць назад, абысці хвойнік і выходзіцьда Нёмана, але Антон, яшчэ не разумеючы навошта, пайшоў да ўзлеску. Каля дрэў было зацішней ад настырнага ветру ў полі, ён падышоў да сасны і прысланіўся да яе чорнага шархоткага боку. Усё ж адчувалася стома, трохі кружылася ў галаве, цягучы

ветраны гул не спыняўся ў вушах. Даўшы сабе кароценькі адпачынак, Антон чамусьці перастаў думаць пра тое, як выйсці да Нёмана і дзе перабрацца на яго левы бераг. Яго думкі пайшлі іншым кірункам, і перад вачмі паўстала знаёмая крывуляка ўзлеску, за ёй – тое самае поле з шушай, дзе, напаўзавеянае снегам, ляжыць цяпер цела Зоські. Пад раніцу яго, мабыць, зусім замяце снегам..

Дзіўна, але ён ужо не адчуваў да яе нядаўняй варожасці, у глыбіні ягоных пачуццяў нарадзіліся новыя адносіны да яе, падобныя болей на шкадаванне і ціхі, невыразны сум. Ён гаротна ўздыхнуў, падумаўшы, што ўсё магло скончыцца інакш, калі б... Але надта шмат living рознага ўключала ў сябе гэтае калі б, каб тут пра яго думаць. Адно несумненна: вайна парушыла спрадвечныя адносіны паміж людзьмі, паставіла чалавека ва ўмовы, калі не падпарадкавацца яе злой волі не было ніякай магчымасці. Во і тут: хіба ён хацеў яе забіваць? Проста ён сам хацеў выжыць, а выжыць удваіх зрабілася немагчыма.

Ноч няспынна адмервала свае хвіліны, яму трэба было ісці, а ён усё стаяў пад сасной, хаваючыся ад сцюдзёных парываў ветру, які самотна шархацеў па кары дробным снегам. Штосьці не давала яму павярнуць у другі бок і пакінуць гэту мясціну. Трошкі прыплюшчыўшы вочы, ён усё бачыў у ветраным змроку знаёмую грушу з крушняй камення ў снезе... Гэта было зусім недалёка адсюль, адразу за хвойнікам. Калі ісці хуткім крокам, уся дарога туды зойме дваццаць хвілін. Нясмела напомніўшы аб сабе, дзіўнае гэта жаданне стала хутка набіраць сілу і ахапіла яго ўсяго. Ён разумеў усю недарэчнасць гэтай задумы і пытаўся: навошта туды ісці? Але нясмелы голас сумнення неўзабаве прымоўк, капітуліраваўшы перад уладай жадання. Антон яшчэ вагаўся, але ўжо ведаў, што доўга не вытрывае. Яму стала патрэбна яшчэ раз пабачыць мёртвае цела Зоські, пераканацца, што яна не пакутавала доўга, што наўкола ціха-спакойна, яго ніхто не шукае, і пасля з палягчэлай душой адпраўляцца за Нёман.

Нервова скалануўшыся ад нецярпення, ён зразумеў марнасць супраціўлення гэтаму жаданню і закінуў за плячо вінтоўку.

Далей увесь шлях па полі да грушы быў яму добра знаёмы, ды і лінія ўзлеску не дала згубіць напрамак, ён абышоў хвойнік і апынуўся на княжаводскім полі. Тут трэба было прайсці па прамой не болей як адзін кіламетр. Цёмная, без зорак, ноч, здаецца, і яшчэ пацямнела, няспынна сыпаўся снег, калючыя ягоныя крупінкі балюча сцябалі па настылых руках і твары. Мароз, мабыць, стаў болыны, Антон пільна ўгледзеўся ў паўзмрок і яшчэ зводдаль пазнаў раскідзістае суčча грушы, якім непрытульна пагойдваў вецер. На ранейшым месцы пад грушай грувасцілася знаёмая крушня. Але ён толькі зірнуў на грушу, камяні крушні і прабег каля іх у поле, дзе, аднак, чамусьці не ўбачыў таго, што хацеў убачыць. Вельмі добра памятаў, як Зоська ўпала, раскінуўшы на снезе чорныя рукі, і ляжала так, бачная здалёку. Цяпер жа прыблізна на тым самым месцы нічога не было відаць, і ён падумаў: як хутка яе замяло снегам. Але снег з самага вечара сыпаўся дробны, нават у ямках яго намяло не шмат, ля мяжы і крушні ён быў толькі па костачкі. Трохі занепакоены, Антон прабег далей, чым трэба было, павярнуў назад. Дзіўна, падумаў ён, няўжо ж ён так памыліўся ў адлегласці. Але ён памятаў добра, што Зоська адышлася перад яго стрэлам метраў на пяцьдзесят ад грушы, інакш у паўзмроку ён бы ў яе не пацэліў. Дык дзе ж яна магла быць? Шырокай васьмёркай Антон абабег поле, зноў зайшоўшы ад грушы, дакладней прыкінуў напрамак стрэлу.

Але на тым месцы, дзе яна ўпала, забітая яго куляй, цяпер яе не было.

Адчуўшы нядобрае, ён прыгнуўся, каб убачыць на снезе сляды, і ўбачыў невялічкую цёмную плямку, згроб яе ў жмені разам са снегам – несумненна, гэта была кроў. Але дзе ж тады сама Зоська?

Ён упаў на калені і аберуч пачаў мацаць снег, адразу наткнуўшыся пальцамі на ледзьве прыкметную для вока

шырокую баразну ў снезе з ямінамі ад калень, і зразумеў, што яна папаўзла. Гэтае адкрыццё збянтэжыла яго. З мешаным пачуццём спалоху і недаўмення ён ускочыў на ногі, пакінуўшы на ранейшым месцы вінтоўку, і пабег па няроўнай баразне – цераз быльнёг, міма паўзасыпанага палявога куста ў напрамку нябачнай адсюль, але недалёкай вёскі. Калі ж усё стала зразумела, Антон вяла выпрастаўся, сцішыў крок, спыніўся зусім і самотным разгубленым позіркам уставіўся ў змрок. Ён яе не забіў, толькі параніў, і яна папаўзла ў вёску, дзе ў яе знаёмыя, сувязныя, сяброўкі. Яму ж падацца туды было нельга. Спрабуючы як-колечы асэнсаваць новы паварот у сваім становішчы, ён вярнуўся назад, падабраў вінтоўку. Называецца, пашкадаваў патрон і – загубіў жыццё. Праклятая Зоська! Колькі ж гэта можа яшчэ цягнуцца? Палічыўшы яе забітай, ён хутка страціў свой гаеў супраць яе, ён нават гатовы быў палюбіць яе мёртвую, якая сваёй смерцю, несумненна, саслужыла б яму добрую службу. Але цяпер ён яе ненавідзеў як ніколі раней. Яна з’явілася пачварна непераадольнай перашкодай на яго і без таго заблытанай пуцявіне жыцця. Як яму вызваліцца ад яе?

Але вызваліцца, напэўна, было ўжо немагчыма: упусціўшы яе, ён траціў над ёю сваю ўладу. І наадварот, дабраўшыся да Княжаводцаў, яна займела грозную ўладу над ім і цяпер можа зрабіць з ім усё, што захоча. Напэўна, у гэты час, калі ён кідаецца па начным полі, яна ўжо расказвае некаму пра яго злачынства. Праз некалькі дзён аб гэтым стане вядома ў атрадзе.

Хісткім няроўным крокам Антон ішоў супраць ветру, не адчуваючы яго марозных парываў, панура апусціўшы галаву, засунуўшы ў кішэні рукі. Пляваць яму было на сцюжу, на гэты пракляты вецер у голым прамёрзлым полі. Вайна заганяла яго ў тупік, з якога не было выйсця. Куды ён цяпер мог падацца, дзе шукаць прытулак? Ён нават не меў дзе пераспаць, пад’есці, пагрэцца; небяспека пагражала яму з двух бакоў. Ён звыкла прадаўжаў баяцца паліцыі і немцаў, але і партызаны з сённяшняй ночы рабіліся яму ворагамі.

Цяпер не было сэнсу шукаць пераправу за Нёман – у Ліпічанку яму шлях закрыты.

Але куды ж тады не закрыты?

Усё выразней асэнсоўваючы безвыходнасць свайго становішча, ён бачыў нямала віноўнікаў сваіх няўдач, сярод каторых, аднак, не было яго самога. За трыццаць без малога гадоў свайго жыцця ён не прывык прызнавацца сабе ва ўласных грахах, і калі здараліся якія канфлікты, любую віну гатовы быў перакласці на іншых. Сам жа ён ва ўласных вачах заўжды заставаўся бязгрэшны, бо, маючы строгасць да іншых, быў велікадушны да сябе самога. Сябе ён любіў і песціў, хацеў толькі дабра, якое, здаралася, у яго адбіралі іншыя. У даным выпадку насуперак яму недарэчным чынам стала партызанская разведчыца Зося Нарэйка, віноўніца ўсіх яго бед.

Антон слепа брыў у начным полі, пазбаўлены мэты, душэўна спусцелы, раззлаваны на свае няўдачы і, ведама, перш за ўсё на Зоську. Праўда, цяпер ён дакараў сябе за памылку, за тое, што пашкадаваў патрон і не стрэліў другі раз. Нашто цяпер яму гэты патрон, нашто гэта вінтоўка? Хіба для таго, каб забіць сябе? Але дудкі – забіваць сябе ён не будзе. Ён яшчэ малады і яшчэ амаль што не жыў. Нягледзячы на вайну, хацеў пачаць жыць, як спрадвеку прынята ў людзей, але не ўдалося. Мабыць, нельга так усё адразу – жыць, ваяваць, кахаць і мець шчасце. Шкада, што позна ён пераканаўся ў гэтым. На крывавым уласным вопыце, за які ці не прыйдзецца яшчэ заплаціць усё тым жа ўласным жыццём. Але жыццё ў яго адно, чаму ён павінны ў маладыя гады з ім расставацца?

Атупеўшы ад няспыннага сустрэчнага ветру, снегу і знямогі, Антон набрыў уначы на невысокі чыгуначны насып, амаль без засцярогі перайшоў яго ў рост і пабрыў далей, стараючыся не згубіць напрамак, узяты ад Княжаводцаў. Не адразу ён зразумеў, што мае на мэце той польскі хутар, дзе так няўдала прабыў апошнюю ноч з Зоськай. Чаму менавіта той, а не які-небудзь іншы, ён не мог сабе адказаць. Можа быць, ён

ішоў туды толькі таму, што там усё ж былі знаёмыя яму людзі, і ён разлічваў перакусіць у іх і пагрэцца. Прытым яму было малаважна, як яны паставяцца да яго, злосці на іх ён не меў, хаця першы ўрок трэба было запомніць на будучае. Цяпер ён не выпусціць з хаты нікога, пакуль сам не выйдзе з яе. Але перш за ўсё ён пад’есць і трохі адпачне ў цяпле, а пасля будзе відаць. Пасля ён што-небудзь прыдумае.

Яму тэрмінова трэба было нешта прыдумаць дзеля свайго паратунку, але думкі яго не ішлі далей бліжняга клопату гэтай ночы і таго знаёмага хутара, а што рабіць далей, ён так і не мог даўмецца. Зразумела было толькі тое, што да партызанаў яму ісці нельга, да Капыцкага нельга таксама. Да Капыцкага быў нейкі сэнс прыйсці разам з Зоськай, без яе ж яго ў паліцыі не чакае нічога добрага. Ось жа д’ябальскае становішча, у якое яго загнала вайна!

Здаецца, аднак, ён усё ж аслабеў за гэтыя суткі няспыннай хады па снезе, без сну і без харчу. Некалькі разоў ён заўважаў, што пачынае драмаць на хаду, адчуванне небяспекі прытупілася ў ягонай свядомасці, ён не пазнаваў мясцовасці і быццам бы ішоў не туды. З намаганнем стросшы з сябе дрымоту, ён паазіраўся і зразумеў, што зноў зблытаў напрамак. Як і пазамінулай ноччу, перад ім пралегла на поплаве Котра. «Гэта ж трэба двойчы заблудзіць на адным месцы!» – думаў ён, гледзячы на крывуляку кустоўя ўздоўж рэчкі. Мяркуючы па ўсім, хутар застаўся справа, бліжэй да Скідзеля. Зноў жа, пачынала світаць. Нядаўна яшчэ густы, затканы снегападам змрок прыкметна радзеў, снегавыя прыцемкі разбавіліся празрыстай світальнай сінькай, доўгая зімовая ноч уступала свае правы дню. Антон не заўважыў нават, калі перастаў сыпаць снег, якога тут намяло амаль па калена. Ззаду за ім цягнуліся свежыя, бачныя нават у змроку сляды, і ён падумаў, што з такімі слядамі далёка не пройдзеш. Так яго хутка дагоняць у полі.

Як і пазамінулаю ноччу, яму нічога не заставалася, як павярнуць па рацэ направа. Праўда, ён мог бы

павярнуць і налева, але там на мыску пры ўпадзенні Котры ў Нёман была вялікая вёска, а ў вялікай вёсцы заўжды лютуе паліцыя. Антон палічыў за лепшае не выпрабоўваць свой лёс і трымацца ад вёсак далей. Але і да хутара было далекавата, па прыцемках ён проста мог не паспець. І тады ён з палёгкай прыпомніў, што недзе паблізу адгэтуль была тая самая развалюха абора. Іншага прытулку ў гэтай мясціне, мабыць, ужо не знайсці.

Недалёка адышоўшыся ад ракі, ён неўзабаве знайшоў гэтую абору, яшчэ здалёку ўбачыў над ёй старое, аблепленае вараннём дрэва. Ужо зусім развіднела, поле наўкола было пустое, дзьмуў марозны паўночны вецер. Антон асцярожна вылез з хмызняку, услухаўся. Было надта холадна. Нават вароны нерухома сядзелі на дрэве, без звычайнай сваёй валтузні. Людскіх слядоў каля аборы быццам не было відаць, і ён з невядома чаму задрыжэўшым сэрцам увайшоў у яе шырока расчыненыя вароты.

За ноч снегавая гурбіна ля дзвярэй куды пабольшала і даставала да наступнай сцяны, каля шула відаць былі напаўзамеценыя сляды ног, але, здаецца, гэта былі ягоныя з Зоськай сляды. Нізенькія дзверы ў кубавую былі расчынены, і ён нерашуча пераступіў высакаваты парог.

Тут было трохі зацішней ад ветру, але сцюдзёна, як і ў полі. Антон апусціўся на зляжалую гнілую салому, прысланіўся спіной да валуна ў сцяне. Настылыя рукі засунуў за пазуху, калені затуліў палой кажушка. Было б някепска трохі заснуць, дваццаці хвілін яму б, напэўна, хапіла, каб зняць атупеласць і займець патрэбную жвавасць. Большага ён не мог дазволіць сабе.

З пакорай аддаючыся прыемнай знямозе, якая адразу ахапіла яго, ён нейкі час яшчэ вастрыў слых, баючыся празяваць небяспеку. Але, апроч невыразнага шорхату саломы на даху, сюды не пранікала болей ніякіх гукаў, было спакойна, ціха і глуха. Рыхтуючыся задрамаць, Антон думаў, што не мінула яшчэ двух сутак, а як усё

катастрафічна змянілася ў ягоным лёсе. Два дні назад з ім была Зоська, і з ёй жыла ў ім надзея. Хай сабе марная, дурная надзея, але ёю цешылася яго ачарсцвелая ў лясных нетрах душа. Ды вось стала так, што яны разышліся ворагамі, абаім жыць на гэтай зямлі зрабілася нельга. Ён прыдбаў адзіноту, Зоська назаўжды знікла з яго жыцця, але ад таго яму не стала лягчэй. Па-ранейшаму ён пакутаваў ад безвыходнасці і перастаў разумець чаму. Няўжо ўся справа ў Зосьцы? Але як тады зразумець, што ён, здаровы, разумны мужчына, трапіў у такую залежнасць ад гэтай смаркачкі! Хіба Зоська мацнейшая за яго, разумнейшая ці болей падрыхтаваная да гэтай крывавай вайны? Пасля свайго ранення яна ледзьве ліпела на свеце, адной нагой стаяла ў магіле, і ён толькі ціхенька папіхнуў яе. І тым не менш яна выжыла, недзе схавалася і па-ранейшаму ўладарыла над ягоным лёсам.

Ён задрамаў, як здалося яму, не болей чым на пяць хвілін і тут жа прачнуўся ад блізкага голасу за сцяной. Хтосьці вялаю, без злосці лаянкай паганяў каня. Як і два дні назад, Антон спалохана выскачыў з кубавой і адразу ж у праёме варот убачыў на дарозе сані. У іх, стоячы на каленях, нейкі дзядзька ў ватоўцы глухім голасам паганяў рыжага, з аблезлымі бакамі коніка. Ехаў ён у напрамку да Скідзеля.

– Гэй, стой! – крыкнуў Антон, паяўляючыся ў варотах.

Дзядзька азірнуўся на абору і прытрымаў каня, не ведаючы, што рабіць далей. Антон таксама не ведаў, нашто ён спыніў яго, хіба каб разжыцца харчам. Ці распытаць пра абстаноўку на гэтай дарозе і прыняць нейкае рашэнне. Ён адчуваў, што без пэўнага рашэння доўга тут не прабудзе. Немагчыма жыць між зямлёй і небам, трэба хутчэй злазіць на зямлю. Дзе толькі драбіна на гэтую страчаную ім зямлю?

У полі і на дарозе быццам нікога больш не было, можна было выйсці з аборы, але Антон палічыў за лепшае паклікаць да сабе чалавека.

– Ты, давай сюды!

Ён не сумняваўся, што дзядзька зараз жа выканае ягоны загад, і для пераканаўчасці перахапіў у руцэ вінтоўку. І на самай справе, дзядзька зачапіў за капыл лейцы і, пакінуўшы на дарозе сані, нетаропка, з яўнаю бояззю пайшоў да аборы. Пакуль ён ішоў па снезе, Антон разгледзеў яго самаробную з аўчыны шапку на галаве, старую залапленую ватоўку і лапці-чуні з накручанымі на брудныя анучы вяроўкамі. Маленькія слязлівыя вочкі на зарослым шчаціннем твары яшчэ зводдаль насцярожана ўставіліся на ўзброенага чалавека ля аборы.

– Стой! – загадаў Антон, калі дзядзька крокаў на пяць не дайшоў да варот, і той паслухмяна спыніўся. – Хлеба няма?

– Не-е, – трохі здзіўлена сказаў чалавек. – Які ж хлеб? Дома...

– Ясна. І нічога болей? Каб пажраць?

– Нічога. Дарога ж нядальняя. Так што навошта ж...

– А куды едзеш?

– Дык у Скідаль, – махнуў ён рукой на дарогу і знерухомеў, чакаючы новых пытанняў.

– На базар?

– Не. Які ж базар у панядзелак? Па доктара еду.

– Захварэў?

– Ды не. Я не захварэў. Але...

– Баба, значыць? – вёў малацікавую гутарку Антон, маючы на ўвазе неўпрыкмет выпытаць у гэтага выпадковага праезджага што-колечы з таго, што яго найболей цікавіла.

– Не баба, – дзеўка.

– Ах, дзеўка... А там на дарозе, не бачыў, паліцаяў

няма?

– Не, не бачыў. Можа, дзе і ёсць, а на дарозе не бачыў.

– І партызанаў не чутна?

– Не-е. Не чуваць. У нас, ведаеце, не чуваць нічога. Глуха жывём.

– А ты з якой вёскі?

– Ды з Княжаводцаў, – сказаў дзядзька і махнуў у другі канец дарогі.

Антон спалохана змоўк. Упамінак пра Княжаводцы прымусіў яго забыцца на ўсе іншыя пытанні – здаецца, з’явілася магчымасць дазнацца, можа, пра самае для яго важнае, і ён, звузіўшы вочы, рэзка спытаў:

– Ах, па доктара едзеш?

– Ну.

– Да дзеўкі?

– Ну.

– Яна што, дачка?

Міргнуўшы слязлівымі вачмі, дзядзька раптам збянтэжыўся, быццам заікнуўся перад адказам, і Антон, не даючы адумацца, схапіў яго за куртаты каўнер ватоўкі.

– Кажы, да каго – доктара! Быстра!

– Дык да дзеўкі, сказаў.

– Якой дзеўкі? Да Зоські са Скідзеля? Ну? Раненай у галаву? Да? Кажы хутка!..

Але хутка казаць, мабыць, ужо не было патрэбы. Дзядзька бездапаможна заміргаў вачмі, здавалася, у адно імгненне згубіў здольнасць да мовы, рукі яго затрэсліся, разгубленым позіркам ён ліхаманкава

сноўдаў па раз’юшаным ад жахлівай здагадкі, аброслым калючай бародкай Антонавым твары. Антон таксама зайшоўся ў дзіўнай, ахапіўшай яго ліхаманцы, сцяміўшы ўвачавідкі, што лёс у апошні раз кідаў тапельцу свой выратоўчы круг, за які той павінен схапіцца або ісці на дно. І не разважаючы доўга, ён з апошняе сілы, што яшчэ заставалася ў яго, кінуўся да гэтага круга. Пакуль Зоська жывая, ён павінен злапаць яе ў лясных Княжаводцах. Тое, што яму не ўдалося на хутары, павінна ўдацца цяпер. Вядома, гэта не дужа прыгожа ў адносінах да дзяўчыны, якую ён нядаўна яшчэ кахаў, але ў гэтым яго паратунак. Што ж яму застаецца?

– Так, ясна! – сказаў Антон, рэзка піхнуўшы ад сябе дзядзьку– Ану ў Скідзель! У Скідзель хутчэй! – закрычаў ён. – Быстра!!!

Спалоханы і збянтэжаны дзядзька павярнуў на дарогу, але Антон абмінуў яго і, падбегшы да саней, ухапіў лейцы.

– Нэ-э! Хутчэй! Рыссю!

Сцебануўшы каня, ён скочыў у сані, дзядзька ледзьве паспеў ухапіцца за пяпярэчыну ззаду, конік натужна рвануўся па перамеценай за ноч дарозе, і Антон, стаўшы на калені, пачаў сцёбаць яго вераўчанымі лейцамі.

Яму вельмі трэба было паспець.

У гэтым быў яго паратунак.

## 21

Усё наступнае даходзіла да Зоські ў невыразных, часам страшна прывідных вобразах, няпэўных урыўках чужых размоў. Яна чула, як нехта паклікаў яе, як гучней забрахаў сабачка. Пасля яе асцярожна паднялі на рукі і доўга неслі кудысь.

Яна ўвесь час маўчала, не маючы сілы адказаць на

нечыя трывожныя пытанні, ды ёй і не дужа дакучалі пытаннямі, мабыць, сцяміўшы, што яна ледзьве жывая. Зосьцы нічога не заставалася, як спадзявацца на гэтых людзей, ведаючы наперад, што ў Княжаводцах кепскага ёй не зробяць. У Княжаводцах заўсёды памогуць, калі ёй не позна яшчэ памагчы. Яна ачнулася зноў ад вострага, нясцерпнага болю, які ўдарыў пад самае сэрца, праз боль расплюшчыла вочы і ўбачыла над сабой лямпу з надбітым закапцелым шклом. Святло лямпы спярша асляпіла яе, але ўсё ж яна паспела заўважыць нечы немалады, нахмураны твар побач. Сцюдзёныя рукі далікатна абмацвалі яе голы бок, і яна зразумела, што гэта – перавязваюць. Зоська нямогла застагнала, не могучы трываць свой боль, і пачула спачувальны жаночы голас.

– Баліць, дзяўчатка? Такая рана!.. Патрывай, дзяўчатка.

Ну, ведама, яна будзе трываць, яна стрывае ўсё, толькі б застацца жыць. Як ніколі раней, менавіта цяпер яна вельмі хацела жыць. Калі гэта яшчэ магчыма...

– І хто ж цябе так? – трохі гучней запытаў побач мужчына, але яна толькі прамычэла ў адказ. Размаўляць яна не магла. Нават сама здзіўлялася: чуць усё чула, а сказаць не магла нічога. Як у сне.

Новы прыступ болю кінуў яе ў непрытомнасць, доўгі прамежак часу яна нясцерпна пакутавала ў фантастычным свеце прывідаў. Напэўна, яна стагнала, магчыма, у яе паднімаўся жар, бо калі яна зноў ачнулася, усё той жа ласкавы голас казаў:

– На, дзяўчатка, малачка папі. Цёпленькае малачко, авось палягчэе...

Яна намаглася і трошкі прыўзняла галаву. Чужымі ссохлымі вуснамі не адразу намацала беражок шархоткай пасудзіны і таропка глытнула нешта нясмачнае.

– Ну, яшчэ трошкі папі... Малачко цё-ёплае... «Малачко цё-ёплае», – гучыць ужо мілым голасам мамы, якая

завіхаецца ля пяцігадовай дачушкі Зоські. Зоська даўно хварэе, уся гарыць жарам, нічога не есць, толькі п’е малачко. Яна пластом ляжыць у куце на ложку, пакрытая кажухом і шытай з кавалачкаў матчынай коўдрай, вельмі аслабела, але ёй нічога нідзе не баліць, толькі ўвесь час хочацца спаць. І яна спіць – удзень, ранкам, ноччу, прачынаючыся толькі затым, каб напіць малачка. Хварэць ёй, аднак, не цяжка, увогуле нават прыемна, таму што ўсе з ёй добрыя, ласкавыя, з радасцю выконваюць кожнае яе жаданне, галоўнае з якіх – каб не плакала мама. Але гэта жаданне рэдка збываецца, і кароценькі мамін усхліп рэзкай трывогай вырывае дзяўчынку з пакутліва ліпкага сну. Зоська палохаецца і таксама хоча заплакаць. Але яна так аслабела, што толькі ціхенька шэпча абсіверанымі вуснамі: «Не трэба, мамачка... Мамачка, не трэба...» І мама, пачуўшы яе, сціхае, прыходзіць за занавеску і шархоткімі, не па-жаночы вялікімі рукамі беражна гладзіць яе схуднелы завостраны тварык. Зоська спакайнее, хоча ўсміхнуцца ў адказ і нямоглым галаском слаба суцяшае маці:

«Мамачка, я не памру. Я не памру, мамачка...»

Але яе наіўнае суцяшэнне выклікае ў маці новы нястрымны плач. Уткнуўшыся ў ложак, маці аж захліпаецца, і Зоська з недзіцячай рашучасцю думае, што яна нізашто не памрэ, яна будзе жыць, бо як жа тады любая яе маці?

Маці – галоўная радасць яе жыцця, таксама як і яна для маці. Зоська добра ведае гэта і думае, што ніколі на свеце яны не разлучацца.

Але во разлучыліся...

Людзі казалі, што з твару яна – вылітая маці, што і характар у яе ўвесь матчын. Зоська слухала і не ведала, ці сапраўды гэта так, затое думала часам, што сваю дабрату і спагадлівасць пэўна ўзяла ад маці. Часта яна злавала на сябе з тае прычыны, бо час менш за ўсё стасаваўся з тымі пачуццямі, якія некаторыя прымалі за слабасць тады, як скрозь трэба была сіла. Але кожны

раз ёй быў непрыемны адзін выгляд чалавека, яўна пазбаўленага дабраты, заскарузлага ў зле і нянавісці, і яна адчувала, што лепей быць добрай. Значыць, быць справядлівай.

...Пасля ў паўсне яна чуе нечую ціхую размову побач, але там гучаць новыя галасы, падобна, мужчынскія, і да свядомасці яе даходзіць трывожнае слова доктар. Яна здагадваецца, што гэта значыць, і хоча сказаць, што не трэба яе везці да доктара, які ёй непрыемны з дзяцінства, бо доктар – чалавек з іншага, невядомага ёй свету, і з ім звязаны новыя, малапрыемныя для яе перажыванні. Праўда, цяпер у яе іншыя, але не меней важныя прычыны не хацець доктара, толькі ў яе не стае сілы сказаць пра тое, і яна ціхенька роспачна стогне.

– Папі малачка, дзяўчатка. Папі цёпленькага...

– Ну што ты прыстала да яе з малачком? Бачыш, не можа! – строга гудзе мужчынскі голас, у якім Зосьцы чуюцца знаёмыя ноты, і яна ўся напружваецца. Але не, гэта не бацька...

Бацьку яна меней любіла, напэўна, таму, што ён дужа быў строгі, маўклівы і часам крута абыходзіўся з маці. Але ў раннім далёкім дзяцінстве Зоська, можа, болей за ўсіх падабала менавіта бацьку, асабліва ў рэдкія для яго хвіліны адпачынку, калі ён быў вольны ад працы і знаходзіў магчымасць заняцца дзецьмі. З нейкіх глыбокіх куточкаў памяці выплывае даўні далёкі дзень напярэдадні Сёмухі ў пачатку лета, напаўзарослая мураўкай дарога ў цёплым і мяккім пыле за вёскай, і яны з сястрой, што бягуць поруч з бацькам. Выстаўленай убок рукой Зоська вядзе па шчыкотных сцяблінах густой сцяны жыта, зганяючы адтуль аселых на ноч матылёў, у ясным пагодным небе імкліва носяцца ластаўкі, і за бацькам плыве ў паветры гаркавы водар бярозавага вецця, цэлае бярэмя якога яны наламалі ў лесе. Дома іх чакаў перадсвяточны парадак у хаце, свежапамытая маці падлога была густа затрэсена духмянымі сцяблінкамі аеру, яны адразу пачалі ўпрыгожваць хату бярэзнічкам і густа наторкалі яго ўсюды, дзе толькі магла трымацца хоць самая

дробная галінка. Усю ноч у хаце панаваў дзіўны пах лугу і лесу. Зосьцы сніліся блакітныя сны, і ўсё яе ранняе маленства было зманлівай абяцанкай вялікага і хуткага шчасця.

...Яна зноў адчувае сябе ва ўладзе знаёмай з дзяцінства хваравіта-салодкай слабасці, калі хочацца толькі спакою, цішыні і забыцця, таму што ў целе – пакуты і боль. І разам з тым яна ва ўладзе сцішанай абыякавасці да сябе і ўласнага лёсу, які цяпер ад яе не залежыць.

З часам яна заўважае, што мерна пагойдваецца і плыве, плыве кудысьці, быццам у сне. Але сну няма, гэта ўжо рэчаіснасць. Зоська бачыць касматы беражок накінутага на яе кажушка і далей – яркую сінь світальнага неба. Мернае пагойдванне нясе і нясе яе быццам на хвалях, і ёй нават прыемна ад гэтага руху ў невядомае. Не адразу яна здагадваецца, што яе вязуць па палявой саннай дарозе, і не можа запытаць куды, але і не трывожыцца. Значыць, так трэба.

Яна толькі хоча зразумець, хто з ёй? Адчуваецца нечая прысутнасць побач, напэўна, ён кіруе канём, але хто гэта? Ёй бы толькі б зірнуць на свайго выратоўцу, і ўсё. Пра Антона яна ўжо не думае – хай ён згіне, забойца! Галоўнае, яна выратавана, дасць Бог – ачуняе, і тады яна з ім паквітаецца. Яна зірне ў подлыя яго вочы, яшчэ ён паваляецца ля яе ног.

– Нэ-нэ, шавяліся, мілая...

Але гэта ўсё тая ж знаёмая ёй цётачка, што паіла яе малачком, і Зосьцы робіцца сцішана і спакойна, яна прывыкла ўжо да яе падобнага на матчын голасу. Нявыказаная ўдзячнасць шчымлівай тугой сціскае нешта ўнутры, і з Зосьчыных вачэй коцяцца па шчоках дзве казытлівыя сцюдзёныя слязінкі.

– Нічога, дзяўчатка, усё будзе добра. Перахаваем цябе ў добрай мясціне, як-небудзь, дасць Бог, ачуняеш. Маладая яшчэ, жыць будзеш, дзетак народзіш. Не век жа гэтай праклятай вайне доўжыцца, – як са свежай крынічкі летнім поўднем, абнадзеена гучыць побач.

Зоська сцішваецца пад цёплым кажушком і думае: а можа, і праўда: страшнае ўжо мінулася і яна як-колечы выкараскаецца са сваёй бяды.

# Раман

## Кар'ер

### Раздзел першы

Агееў толькі прачнуўся, як сон ужо знік; ён зразумеў гэта, хвіліну паляжаў ціха, з заплюшчанымі вачмі, нібы баючыся прагнаць рэшту дрымоты.

Некалькі апошніх дзён ён стаў прачынацца рана, калі яшчэ не пачынала світаць і парусінавы верх палаткі чарнеўся па-начному глуха, а навокал ляжала цішыня, якая бывае глыбокай ноччу або перад світаннем. Было халаднавата, ён гэта адчуў шорсткай ад шчаціння скураю твару, схаладнелай макаўкай галавы. За лета ён так і не прывык залазіць у спальнік з галавой - вечарам у тым не было патрэбы, палатка доўга хавала назапашанае за дзень цяпло, толькі на зыходзе ночы, перад світаннем, калі выпадала раса і верх палаткі набрыняў стылай вільгаццю, рабілася халадней. Зноў жа, на галаве ў Агеева даўно ўжо не было таго жорсткага непакорнага чуба, што ўпрыгожваў яго ў маладосці. З гадамі валасы парадзелі, страцілі былую пышнасць, сталі даўжэйшымі залысіны, галава зрабілася чуйнай да сцюжы. Што ж, напэўна, усё як мае быць у жыцці.

Уставаць было ранавата, ды і не хацелася вылазіць з нагрэтай за ноч утульнай цеснаты спальніка, ён ляжаў так, з заплюшчанымі вачыма, дрымотна прыслухоўваўся да ледзь чутнага ў цішы пошуму голля на дрэвах паблізу. Пошум роўна плыў з-за каменнай

агароджы могілак. Гэты ціхі, калі спакойны, а калі трывожна-настырны пошум лісця суправаджаў яго сон кожную ноч, часам крыху сціхаючы, але пад ранак ён звычайна рабіўся мацнейшы, неспакойны ці нават трывожны. Агееў ужо прывык да таго за лета, амаль не заўважаў яго - шум стаў часткай яго цішыні і яго працяглай адзіноты каля гэтых могілак на пагорку ля закінутага кар'ера.

Воддаль, за дарогай, у крайніх дварах пасёлка віскліва забрахаў сабачка. Агееў ведаў яго, часам той прыбягаў да яго адзінокага стойбішча, спыняўся здалёк, назіраў за ім ля палаткі, яўна чакаючы пачастунку. Агееў сабак не любіў з дзяцінства, і, хоць адносіўся да іх без асаблівай злосці, тыя заўжды адчувалі яго нядобразычлівасць і дужа не набіваліся на знаёмства. Сабачка пабрахаў нядоўга, магчыма, на ката ці на птушку ў садку і сціх, а Агееў пачаў чакаць іншых гукаў, якія ўзнікалі сям-там на світанні. Звычайна раней за іншыя ў чуйнай ранішняй цішыні раздаваліся прыглушаныя далечынёй хрыплыя вокрыкі - гэта гаспадыня высокага, пафарбаванага ў канарэечны колер дома выпраўлялася даіць і, мабыць, помсціла карове за нейкія свае крыўды ў жыцці, нярэдка злосна лаялася, непрыкметна парушаючы тым лагодны спакой летняга ранку. Некалькі разоў Агееў бачыў яе ў двары за плотам, гэта была не старая яшчэ, таўставатая, з упэўненымі манерамі хатняй кіраўніцы, з басістым голасам цётка, апранутая раніцой у заношаную ватоўку. Сёння, аднак, голасу яе не было чуваць: пэўна, заспала гаспадыня гэтага расфарбаванага дома. Трошкі навастрыўшы слых, ён адплюшчыў вочы - нізкі верх маленькай яго палаткі ўжо яўна выступаў з прыцемкаў сваімі дробязямі: матузамі шнуроўкі на выхадзе, размытымі, невядома якога паходжання плямамі на парусіне; у самым каньку матава свяцілася невялікая, з грывеннік, дзірачка, нядаўна прапаленая вугальком з кастра. Гэта ўжо надыходзіла раніца.

Пэўна, трэба было ўставаць, брацца за справу. Але да таго, як пачаць выбірацца са спальніка, Агееў паспрабаваў вызначыць чысло і не адразу, з

намаганнем сцяміў, што сёння першае або нават другое жніўня. Дні тыдня ён памятаў добра, звыкла адчуваючы сутачную хаду часу, а чыслы... У гэтай справе звычайна памагалі газеты, але апошнія некалькі дзён, заняты работай у кар'еры, па газеты ён не хадзіў, транзістара не меў і вось зблытаў чыслы. «Маразм, маразм», - пабедаваў ён у думках. Не так каб яўны маразм, але памяць ужо не тая, што была ў маладыя гады, памяць часам здраджвала яму ў самыя нечаканыя моманты, і нярэдка трэба было намаганне, каб прыпомніць тое, што здавалася, немагчыма забыць. Асабліва імёны, назвы і чыслы. Нядаўна ён заўважыў, што не памятае імя камандзіра ўзвода, з якім яны выходзілі з акружэння ў сорак першым і так пасябравалі, што, здавалася, толькі смерць магла іх разлучыць. Смерць і разлучыла, але не тады, трохі пазней, і пры абставінах, якіх не дай бог нікому. І вось імя гэтага лейтэнанта выветрылася з памяці, засталося толькі прозвішча. І то добра.

Тым часам развіднела, у палатцы стала святлей. Ён убачыў у нагах скамечаную балонневую куртку; вопратку пад бакавой сцяной - яго запылены сіні фізкультурны гарнітур, майку; вялікі індыйскі тэрмас на белым раменьчыку, які ён звычайна ставіў ля сябе нанач; запыленыя кеды ля выхада. Уся яго астатняя маёмасць была на вуліцы, каля вогнішча і палаткі. Калісьці, пачаўшы свае тут раскопкі, ён усё збіраў нанач у гэтую цесную палатку, у якой і самому было недзе павярнуцца. Аднак неўзабаве пераканаўся, што пакінутае на двары нікому тут не патрэбна, ніхто не чапае нічога, і перастаў прыбіраць. Да яго тут мала хто прыходзіў, хіба што выпадковы прахожы з поля ды яшчэ Шурка з Артурам - два хлапчукі-аднагодкі, на выгляд спакойныя і маўклівыя, нібы насцярожаныя чымсьці. Яны рэдка аб чым пыталіся ў яго, звычайна сядалі на зямлю каля агароджы ля могілак і моўчкі назіралі здалёку за яго няхітрымі ранішнімі ці вечаровымі клопатамі ля вогнішча. Вогнішча, вядома, іх вабіла, але во тыдзень таму Агееў купіў у пасялковым хазмагу сухога гаручага, вельмі, дарэчы, зручнага ў яго невялікіх гаспадарскіх патрэбах: сасмажыць яечню,

разагрэць гуляш або згатаваць чай. Рэшту гарачай вады ён звычайна выліваў у тэрмас і наступны раз абыходзіўся зусім без агню. Калі-нікалі, у выхадныя або святочныя дні да кар'ера прыходзіў Сямён, высокі худы мужчына з адзінаю рукой-клюшнёй, якой ён няспынна даваў занятак: то скручваў цыгарку, то калупаў палкай у пяску, то проста размахваў ёю ў паветры, калі штосьці расказваў. Звычайна ён быў добра пад мухай, па крайняй меры, так часта здавалася, і амаль ні пра што не пытаўся, гаварыў і гаварыў пра сваё, што яго непакоіла ці што ўспаміналася. Непакоілі ж яго непарадкі ў свеце, а ўспаміналася вайна, на якой ён, мяркуючы па ўсім, хапіў ліха. Спярша Агееў слухаў яго з недаверам, штосьці ў ім пратэставала супраць блытанай Сямёнавай гаворкі, але памалу ён зразумеў, што ўсё так і ёсць, як кажа Сямён. Прынамсі, так было. Сямён не хлусіў нават трошкі, здаецца, ён не меў патрэбнага для таго ўяўлення, цалкам аддаючыся ўспамінам. Памяць жа ў яго была - дай бог кожнаму.

Калі Агееў выбраўся з палаткі, ужо скрозь развіднела; дзесьці, за магутнай сцяной дрэў на могілках, узыходзіла нябачнае адгэтуль сонца; нетаптаная трава ля абрыву матава серабрылася ў расе; не надта тугая парусіна яго палаткі правісла, набрыняўшы роснай вільгаццю. Агееў зябка насунуў на плечы мяккую балонневую куртку, падумаў, ці варта рабіць гімнастыку, можа, лепей пагрэцца чаем - у тэрмасе, мабыць, яшчэ не зусім астыў. З пачатку лета ён кожны ранак стараўся рабіць свае шаснаццаць спартыўных тактаў, але потым, калі ўцягнуўся ў працу, амаль што закінуў гімнастыку, для мускулаў і суставаў хапала нагрузкі ў кар'еры. Спярша тыдзень ці два ўначы ўсё цела ламала ад тупой стомы, вельмі балелі рукі, але вось пастунова прызвычаіўся да свае зямной работы, і боль знік. А галоўнае - перастаў звяртаць увагу на розныя там болі, разумеючы, што ў жыцці трэба ўмець не толькі песціць здароўе, але і трываць боль, асабліва такі - ад працы. Некалі давялося пература... пературываць больш - ад двух раненняў, адно з каторых ледзьве не скончылася для яго фіналам. Але ўсё ж, пэўна, ён быў моцнага складу, ды і малады арганізм тады быў здольны на цуд.

Пэўна, цуд яго і вярнуў да жыцця.

Агееў наліў з тэрмаса пластмасавы кубак моцнага, цеплаватага чаю, выпіў, стоячы ля палаткі. Есці раніцой не хацелася, і раней як у дзевяць-дзесяць гадзін ён стараўся не снедаць, узяўшы сабе за правіла есці толькі тады, як згаладнее. Праўда, згаладнеўшы, нярэдка не знаходзіў чаго паесці: то не было хлеба, то скончылася сала, якім ён запасаўся на некалькі дзён у сельпоўскім магазіне. Сала ён любіў здаўна, яно выдатна ўтаймоўвала голад; шкада, у магазіне скончылася леташняе, з кменам, а свежае, ружаватае на тоўстым зрэзе, нейкае было без смаку, і ён наразаў яго для яечні. Яйкі купляў у адзінокай сівенькай бабулі ў дамку за могілкамі. Гэтая бабуля трохі расказвала яму пра ваеннае, а то і даваеннае мінулае пасёлка. Шкада, што падчас вайны яна жыла не тут, а праз два кіламетры, на станцыі. За апошнія гады пасёлак надта разросся і самкнуўся са станцыяй, а раней, ведаў Агееў, іх раздзяляла жытняе поле з дарогай, якая вяла паміж двух радоў таполяў на пераезд і паварочвала да невялічкага вакзальчыка з некалькімі прыстанцыйнымі будынкамі побач.

З рыдлёўкай у руках Агееў прайшоў па траве да кар'ера і стаў на абрыве. Якраз ззаду з-за дрэў выкочвалася яшчэ нізкае сонца. Яно разаслала па росным узгорку шырокі цень і высвеціла верхні ўскраек абрыву, яго супрацьлеглы выгін. Глыбокае правалле кар'ера ўсё ляжала ў стылым цяні, на яго перакапаным дне горбілася куча зямлі, месяц назад ссунутая туды бульдозерам. Гэты бульдозер Агееў ледзь выстараўся на паўдня ў Сельгастэхніцы, хаця той і мала памог яму, толькі знявечыў гэты пакінуты кар'ер, які за шмат год пачаў ужо зарастаць пустазеллем. Пасля Агееў добра развярнуў яго за лета рыдлёўкай, зрэшты, без асаблівага для сябе выніку. Але ўсё ж яго тайная думка, як апошняя надзея, тлела ў ім слабай іскрай, і ён спадзяваўся: а раптам! Бульдозер быў мала прыдатны для такога роду раскопак, за якую гадзіну ён перавярнуў гару зямлі - шырока ссунуў з аднаго боку ў другі, і Агееў проста не мог добра ўгледзець за ўсім,

што мільгала пад яго бліскучым нажом. Цяпер ён спадзяваўся адно на рыдлёўку і кожны дзень чакаў, што вось-вось нарэшце з яе дапамогай адкрыецца тое галоўнае, што стала яго тайнай мэтай, галоўным сэнсам ягонага клопату.

Уздоўж па абрыве трэба было спусціцца ўніз, да дарогі, дзе быў уваход у кар'ер і чакала яго пакінутая ўчора работа - падкапаны, але яшчэ груввасткі бугор зямлі ўперамешку з будаўнічым смеццем, які трэба было перакідаць рудлёўкай пад высокі, абрывісты бераг кар'ера. Але ў кар'еры па-ранейшаму ляжаў ранішні цень, ад якога патыхала назапашанай за ноч стынню, і Агееў зябка перасмыкнуў плячыма. Ён стаяў на тым самым абрыве, дзе сорак гадоў назад, ледзь стрымліваючы дрыжыкі ў скрываўленым целе, развітваўся з жыццём, у роспачы і адчаі ад д'ябальскай несправядлівасці гэтай заўчаснай пагібелі, напаўраспрануты і, добра памятаў, - босы. Боты з яго знялі перад расстрэлам, і ён амаль не адчуваў - ступні да костачак адубянелі ў сцюдзёнай, узятай першым марозікам гразі, на якую з перадсвітальнай цемры паволі сыпаўся снег...

Агееў пачаў капаць і адкідваць пад абрыў мяккую, разрыхленую бульдозерам зямлю з розным гаспадарчым хламам у ёй: трухлявымі абломкамі дошак, рэштай закуранай цаглянай кладкі, ссыпанай у кар'ер, напэўна, пасля рамонту печаў. Але пераважна яго рыдлёўка са скрыгатам уразалася ў сухі шчэбень з пяском і гравіем. Хаця пяску тут было няшмат, пэўна, местачкоўцы выбралі яго яшчэ ў даваенныя гады для нейкага будаўніцтва, а болей на гаспадарчыя патрэбы - рамонт падмуркаў, печаў, тынкоўку сцен. У той страшны год, калі лёс упершыню прывёў Агеева ў гэта мястэчка, ён не выбіраўся з яго далей могілак і ўпершыню трапіў у кар'ер толькі праклятым тым ранкам, які ледзь не стаў для яго апошнім.

Але во праз сорак гадоў, аўдавеўшы і стаўшы пенсіянерам, Агееў у цёплы сонечны дзень на пачатку лета прыехаў сюды. Спярша ён нават спалохаўся, амаль

не пазнаўшы мястэчка, якое так разраслося за гэтыя гады і стала гарадскім пасёлкам. Прынамсі, цэнтр яго зусім страціў свой колішні выгляд - былая кірмашовая плошча расшырылася да самай царкоўнай агароджы, з другога боку яе вырас трохпавярховы будынак райкома, трошкі далей, у пачатку вуліцы, высіўся сілікатны гмах універмага, і побач прыткнуўся невялікі скверык - радок чэзлых дрэўцаў, яшчэ прывязаных да калкоў-падпорак, з нешырокай дарожкай, аблямаванай пастаўленымі на ражок цаглінамі. Кароткая гэтая дарожка вяла да помніка - бетоннага абеліска ў металічнай агароджы, з шырокай мармуровай плітой на пакатым баку. Маленькія дзверы ў агароджы былі не зачынены, мабыць, туды можна было ўвайсці, на вузкай бетоннай прыступцы ляжала некалькі абвялых гваздзікоў у разматляным ад ветру цэлафане. Але кветак у Агеева не было, ісці ў загародку не мела сэнсу. І ён учапіўся рукамі ў вострыя вяршкі агароджы і замітусіўся вачмі па цесненькіх слупках прозвішчаў. Ён ужо ведаў пра гэты абеліск у пасёлку, яму расказвалі людзі, якія прыязджалі сюды, неяк гадоў дзесяць таму ён пісаў у райком і атрымаў адказ, што падпольшчыкі таксама пахаваны тут. Цяпер ён хутка знайшоў іхнія прозвішчы, неглыбока высечаныя на камені ў самым канцы гэтага жалобнага спіса. У адрозненне ад іншых яны былі без воінскіх званняў, якіх, пэўна ж, не мелі, апроч хіба Малаковіча, што быў лейтэнантам. Але пра тое тут маглі і не ведаць.

Яе ж тут не было.

Але чаму яе не было? Хіба яна выжыла? Ці загінула яшчэ дзе ў канцлагеры, вывезеная з мястэчка? Канечне, тады ўсё магло быць, але чатыры дзесяткі гадоў Агееў пражыў з упэўненасцю, што яе таксама не мінуў агульны іх лёс. Урэшце, страшныя падзеі той восені нікому не пакідалі надзеі, усе яны былі асуджаны, і толькі ён шчаслівым выпадкам выкруціўся з учэпістых кіпцюроў смерці. Але два шчаслівыя выпадкі ў іхнім становішчы было б ужо занадта, у другі ён не мог паверыць. І яму здавалася, што тут надарылася непаразуменне, што проста яе не знайшлі, бо і не

шукалі. Ведаў жа пра яе адзін толькі ён. Ну, і паліцыя, канечне, якая ўрэшце ўсё і раскапала. Але ў паліцыі цяпер не спытаеш, а дакументаў не засталося. Паліцыя таксама ўмела хаваць канцы ў ваду.

Заставалася папытацца ў людзей.

Адышоўшыся ад помніка, ён агледзеўся. Плошча, вядома, змянілася так, што не адразу пазнаеш, але царква стаяла на ранейшым месцы, і яна памагла яму з'арыентавацца. Далей трэба было павярнуць у завулак. Прыглушыўшы зразумелую трывогу ў душы, Агееў хуткім крокам скіраваў ад цэнтра да ўскраіны, перш за ўсё на яго Зялёную - добра яму знаёмую вулічку, забудаваную звычайнымі, амаль вясковымі драўлянымі дамкамі з невялічкімі агародамі і садкамі, якія ўпіраліся канцамі ў шырачэзны глыбокі роў з ручаём і старымі дрэвамі на схілах. Да яго найвялікшай радасці, тут няшмат што змянілася, хіба некаторыя дамкі прыкметна абстарэлі, іншыя ж - наадварот - пасля рамонту прыгожа жаўцелі свежафарбаванай шалёўкай. У самым пачатку вуліцы на рагу высіўся вялікі дом з трыма вокнамі на фасадзе пад аграмадным, на нямецкі манер зрэзаным на каньках гонтавым дахам. Ледзьве стрымліваючы неспакойнае сэрца, Агееў прайшоў у канец гэтай кароценькай вулічкі, яшчэ здалёку пазнаўшы лапленую гонту на хаце Бараноўскай, у якой ён правёў некалі тры незабыўныя месяцы свайго жыцця.

Ягоная радасць, аднак, стала аціхаць па меры таго, як ён травяністай узбочынай набліжаўся да гэтае хаты і ягонаму позірку адкрываліся яўныя прыкметы закінутасці: гарбылі-аполкі на вокнах, што выходзілі ў вузенькі кветнічак каля вуліцы, бакавое акно з кухні чарнелася спрэс выбітымі шыбамі, веснічак тут, як і раней, не было і звання, і некалі ўтульны брукаваны дворык з вузенькімі канаўкамі для сцёку вады густа зарастаў муравой і быльнягом. Дом быў даўно апусцелы і, мяркуючы па ўсім, ціха паміраў на скасабочаным дзіравым падмурку. Можа быць, адзін толькі сад пры ім мала змяніўся за чатыры дзесяткі гадоў, хаця і

прыкметна дзічэў у недаглядзе, а старога сукаватага клёна перад уваходам у кухню зусім не было, як не было і альтанкі-паветкі ля вуліцы.

Не заходзячы ў двор, Агееў пастаяў ля пустога кветнічка, азірнуўся на вуліцу, пазнаючы і не пазнаючы яе малапрыкметныя драбніцы. На сваю бяду, ён забыўся, хто тут жыў у суседзях, памятаў толькі, што ў доме насупраць жыў дзядзька - маўклівы, не стары яшчэ мужчына; Бараноўская зрэдку звярталася да яго па якой дробнай патрэбе, ён нават даводзіўся ёй нейкай далёкай раднёй. Цяпер прыпомніўшы пра яго, Агееў перайшоў цераз вуліцу і піхнуў невысокія дашчаныя веснічкі, насупраць якіх з замызганай будкі ўзвіўся вяртлявы лахматы сабачка. І тут жа з прыбудовы-сянец выглянула тонкая маладая жанчына ў выцвілым стракатым сарафане.

- Дзень добры, - як мага прыязней сказаў Агееў, пазіраючы ў яе малады адчужана-насцярожаны тварык, і змоўк, не ведаючы, што сказаць далей. Вельмі не простая была ў яго размова, але жанчына не ўціхамірвала сабаку і не запрашала зайсці - чакала, што скажа захожы.

- Не скажаце, тут насупраць жыла Бараноўская...

Стоячы ў расчыненых дзвярах, жанчына цепнула загарэлымі плечукамі і нізкім, быццам заспаным, голасам гукнула ў хату:

- Віктар, выйдзі! Тут нейкую Бараноўскую пытаюцца.

- Хто пытаецца? - глуха данеслася з хаты.

- Ну выйдзі! Хто, хто...

З дзвярэй высунуўся малады чалавек у белай майцы з разагрэтым паяльнікам у руках, ад якога яшчэ струменіў у паветры смярдзючы дымок. Жанчына хуценька схавалася ў хаце, адкуль ужо чуўся нецярплівы дзіцячы плач.

- Хацеў запытацца, суседка ваша Бараноўская, што

напроціў жыла, - перасмяглым ад хвалявання голасам пачаў Агееў. - Яна... Які яе лёс?

- Бараноўская? Якая Бараноўская? Тут раней Валюкі жылі, выехалі на цаліну.

- Валюкі... А вы... Прабачце, а вам колькі гадоў?

- Мне? Ну, дваццаць васем. А што?

- Ды так, нічога, - усё ўраз зразумеўшы, сказаў Агееў. - Выбачайце, я тут, ведаеце... наблытаў.

- Да? Ну, бывае...

Ён прыкрыў за сабой веснічкі і пабрыў па вуліцы, выразна сцяміўшы, што дваццацівасьмігадовы Віктар нарадзіўся ў канцы пяцідзесятых гадоў і, пэўна ж, яшчэ да яго нараджэння ў дамку Бараноўскай перамянілася не адна сям'я кватарантаў. Во калі б напаткаць якога старажыла, даваеннага жыхара гэтай вуліцы, мабыць, ужо ад яго можна б даведацца болей. Агееў азірнуўся - белая майка Віктара яшчэ віднелася ў двары, і ён зноў вярнуўся да веснічак. - Прашу прабачэння, а тут, на вашай Зялёнай, ёсць які-небудзь стары? Што да вайны тут жыў?

- А хто яго ведае, - насупіўся Віктар і, раптам штосьці прыпомніўшы, трасянуў светлай валасатай галавой. - Супрунчук, можа...

- Ды што Супрунчук! - перапыніла яго жанчына, што з немаўлём на руках паявілася ў дзвярах. - Са свята не прасыхае твой Супрунчук. Лепш во Паддубскага спытайце, той павінен ведаць.

- А дзе гэта? - акрыяў надзеяй Агееў.

- Ды вунь трэці дом ад вугла. «Жыгуль» там сіні стаіць, - ахвотна растлумачыў Віктар.

Хуткім крокам Агееў прайшоў уздоўж па вуліцы і сапраўды ў трэцім дамку ад рога пад шаляванай сцяной убачыў сіні «жыгуль» з насцеж расчыненымі дзверцамі і

паднятым капотам. Каля яго калупаўся не стары яшчэ мужчына ў сінім спартыўным трыко.

- Дзень добры...

- Добры дзень, - падняў з-пад капота нахмураны твар мужчына і ўставіўся ў яго.

- Мне Паддубскага, - сказаў Агееў, ледзьве ўтаймоўваючы нецярпенне.

- Ну, я Паддубскі, - разагнуўся мужчына з гаечным ключом у руках.

- Не, ведаеце... Мне каб старэйшага.

- Старэйшага? Бацьку, ці што? Дык бацька на рыбалцы. Выхадны ўсё ж, забарону толькі знялі. Я во тожа сабраўся, ды гэта халера закапрызнічала.

- А бацьку колькі гадоў? - запытаўся Агееў, зноў насцярожваючыся. Успамінанне пра рыбалку неяк кепска вязалася з ягоным уяўленнем аб узросце бацькі.

- Гадоў? Гм... Пяцьдзесят пяць быццам.

- Да-а...

- А што, мала? Дык у нас тут ёсць і старэй. Дзед! - клікнуў Паддубскі, павярнуўшыся, але ў двары нікога больш не было. - Дзе ж ён, толькі тут быў...

Мужчына прайшоў за вугал дома, дзе пачыналіся радкі маладых яблынек са свежапабеленымі камлямі, між якіх ляжалі праполатыя, палітыя зранку грады.

- Дзед, табе колькі гадоў?

Адказу адтуль не было чуваць, і Агееў таксама прайшоў за вугал. З тыльнага боку дома пад бухматым кустом бэзу сядзеў нямоглы стары ў стаптаных валёнках на тонкіх нагах. Засяроджана ўставіўшыся перад сабой, ён, падобна было, цалкам аддаўся свайму роздуму і ніяк не азваўся на скіраваныя да яго словы.

- Добры дзень.

Дзед зноў не адказаў, толькі зірнуў на Агеева пільным праніклівым позіркам светлых вачэй, якія ледзьве паблісквалі сярод густога сівога шчаціння. На момант у ім прамільгнуў і прапаў пробліск здзіўлення або цікавасці да захожага чалавека.

- Во хачу запытацца, - бадзёра пачаў Агееў. - Вы даўно тут жывяцё?

- Ды ён тут усё жыццё. Тут і радзіўся, - ахвотна растлумачыў мужчына ў трыко.

- Можа, памятаеце, тут, на Зялёнай, Бараноўская жыла?

- Была Зялёная, - падказаў ззаду мужчына. - Цяпер Касмічная.

- Перайменавалі?

- Каторы раз. Пасля вайны была Танкістаў, пасля Пекінская, Усё пераймяноўваюць.

Дзед на лаўцы неяк дзіўнавата загойдаўся наперад-назад, паварушыў звешанымі між калень жылістымі кісцямі рук.

- Бараноўская Варвара... Застрэлілі немцы.

- Застрэлілі? Во як...

- Застрэлілі. Той начальнік паліцыі. Помню, якраз на зімняга Міколу. Я яшчэ дровы вазіў...

Гэтая навіна не была вялікай нечаканасцю для Агеева, ён даўно ўжо прадчуваў менавіта такі канец для яго гаспадыні і цяпер са спозненым шкадаваннем падумаў: за што? Ці не за яго? Шчымлівы боль спакваля авалодаў ім, і ён пастаяў моўчкі, нібы чакаючы, што яшчэ скажа гэты ссівелы дзед. Але дзед маўчаў, можа, думаў, а можа, чакаў ад яго новых пытанняў.

- А яшчэ, можа, ведаеце, тут недзе на суседняй вуліцы

жыў такі чалавек, жасцяншчык ці слесар, ён яшчэ ў вайну бляшаныя цёркі рабіў для зерня...

- Лукаш?

- Можа, і Лукаш, не памятаю. Дык у яго на кватэры настаўніца была, прыезджая, а з ёю сястра жыла...

Сказаўшы тое, Агееў адчуў, што наблізіўся да самае важнае мяжы, да якой ішоў столькі часу, і зараз, напэўна, пачуе прысуд, што панішчыць яго або ашчаслівіць. Трэба было сабраць сілы, каб спакойна стрываць яго, які б ён ні быў.

- Лукаш майстроўны быў, ага... Умеў па дрэву і па металу... Мне яшчэ рамы пасля вайны ставіў. Майстроўны быў...

Твар дзедаў ад успаміну на кароткі момант праяснеў, ён адарваў позірк ад долу і павёў ім на Агеева. Агееў расчаравана выдыхнуў, пераступіў з нагі на нагу - сесці тут не было на чым.

- Майстроўны... Памёр даўно ўжо.

- Дык настаўніца кватаравала ў яго.

- Што? Настаўніца... Можа, і была.

- А вы не памятаеце, дзед?

- Настаўніца, - паўтарыў дзед і падумаў. - Не, не помню.

Амаль панішчаны гэтай размовай, яе абнадзееным і такім нікчэмным вынікам, Агееў выйшаў на вуліцу. Разгублена пахадзіў па адным і па другім яе баку, зайшоў у пакінуты, зарослы быльнягом двор Бараноўскай, памалу пазнаючы струхлелыя сцены будынін, гнілаватыя, выкрышаныя вуглы, касабокія прасценкі. Ён абышоў хлеў, прыбудоўкі, за дрывотняй, густа парослай высокай, да калень, лебядой, зірнуў у гарод з тыльнага боку сядзібы і не ўбачыў там хлеўчука-застаронка, які даўно ўжо, напэўна, разабралі на дровы, - упрытык да самай сцяны хлява ішлі роўныя баразёнкі

маладога бульбоўніку. Ён прыкінуў прыблізна тое месца, дзе стаяў ягоны тапчанчык і дзе была дзірка ў сцяне, каля якой пад каменем ён схаваў свой ТТ. Хтосьці, напэўна, знайшоў, калі ў свой час яго не падабрала паліцыя.

Вярнуўшыся на двор, здалёку паўзіраўся ў садок, якога, аказваецца, таксама не абмінула жорсткая хада часу - старыя яблыні марудна, па адной, паміралі, губляючы ссохлыя сукі і голле; кусты парэчак, якія некалі аддзялялі садок ад двара, зусім зніклі. На агароднай мяжы над парканам чарнела голае суччо некалькі сухіх вішняў, добра памятных яму яшчэ з таго лета. Цяпер ён нават не падышоў да іх - усёй ягонай істотай авалодала роспачнае адчуванне няўдачы, і, каб справіцца з ім, ён яшчэ прайшоў у канец вуліцы паўз высокі дом з нямецкім дахам, перайшоў на другую. З нечаканай надзеяй спаткаў пажылую жанчыну, якая несла вялікую сумку, і запытаў, ці не памятае яна Лукаша-бляхара. Жанчына зморана апусціла долу нагружаную боханамі хлеба цяжкую сумку, паправіла хусцінку на галаве.

- Як жа, быў Лукаш. Ваньковіч ягонае празвішча. Памёр пасля вайны.

- А ў яго настаўніца перад вайной на кватэры жыла...

- Настаўніца? Была наўродзе, прыгожанькая такая. Толькі не помню, як звалі.

- Вера! - з абноўленай радасцю падказаў Агееў.

- Можа, і Вера. Не помню.

- А што з ёй пасля здарылася, не ўпомніце? Да яе яшчэ сястра перад вайной прыязджала - Марыя.

Жанчына паморшчыла і без таго зморшчанае пераноссе, угледзелася ў канец вуліцы, па якой ужо грукацела «Калхіда» з прычэпам.

- Не знаю. Помню, наўродзе была малодзенькая дзяўчынка. Нядоўга пажыла, а дзе дзелася?..

- Пасля вайны не аб'яўлялася?

- Дык не знаю.

Агееў яшчэ прайшоў некалькі разоў па гэтай і суседняй вуліцах і зусім ужо ў роспачы падышоў да двух мужчын ля веснічак. Адзін з іх стаяў па гэты бок іх, а другі - худы і высокі - па той, абодва курылі і пра нешта гарэзліва гутарылі. Калі ён звярнуўся, аднак, змоўклі, і худы з-за веснічак жвава падхапіў:

- Ведаю Марыю. У Мінску жыве. Скончыла іняз. Працуе ў школе.

- Во як! - збянтэжана сказаў Агееў. - І даўно скончыла?

- У семдзесят восьмым, добра памятаю. Я паступаў, ды зрэзаўся: конкурс! А яна скончыла.

Агееў адразу нахмурыўся, прыкідваючы сабе: колькі ж ёй магло быць у семдзесят восьмым? Не, штосьці пазнавата было ёй у пяцьдзесят гадоў канчаць інстытут. Наўрад ці гэта яна.

- Даруйце, а якога яна ўзросту?

- Узросту? Ды мая равесніца. Разам у школу хадзілі. Толькі я яшчэ армію адслужыў... А што, не тая, выходзіць?

- Не тая, - сказаў Агееў і паныла кіўнуў на развітанне.

Ён і яшчэ пытаўся: у выпадковых вулічных сустрэчных, што мелі на выгляд гадоў пад шэсцьдзесят ці болей, падыходзіў да сівой прадаўшчыцы кіёска «Саюздруку», некалькі разоў заходзіў у двары, калі бачыў кагонебудзь з вуліцы. Людзі старэйшыя лёгка ўспаміналі Лукаша, некаторыя памяталі Бараноўскую, вельмі нямногія ўспаміналі настаўніцу Веру Адамаўну, але ніхто нічога канкрэтнага не мог сказаць пра яе сястру. Быццам прыязджала, нядоўга пажыла тут, а куды падзелася - гэтага не ведаў ніхто.

Мяркуючы па ўсім, загінула. Але дзе? І калі?

Думаючы пра тое ў бяссонныя ночы, Агееў непазбежна апынаўся ў тупіку. Шматлікія спробы яго што-небудзь даведацца пра Марыю з дапамогай архіву, пісьмаў і запытанняў у афіцыйныя органы заўсёды заканчваліся тупіковымі адказамі накшталт «не чысліцца», «не значыцца», «звестак не маецца». Але ж ён разумеў, што пасля стольких гадоў, можа, адзінай магчымасцю ў ягоных пошуках сталі дакументы, спісы, архіўныя даведкі, у якіх было шмат чаго, але, на жаль, нічога не было пра яе. Зрэшты, калі падумаць, дык нічога і не магло быць. У тую жахлівую восень яны болей за ўсё на свеце баяліся дакументаў, спісаў, запісак, нават выпадкова згубленай паперкі, якая проста і нечакана магла зрабіцца ўлікай. А пра народную памяць або гісторыю хто тады думаў? Шлях у гісторыю для іх быў перакрыты штодзённай небяспекай, перабрацца цераз якую часта нельга было і думаць. Усе апошнія гады, рассылаючы пісьмы, звяртаючыся ў архівы і распытваючы людзей, Агееў разумеў, што не так прагне знайсці яе, колькі ашукаць сябе, утрымацца ў кволай уладзе ілюзій ад непазбежнасці апошняга, самага непажаданага адказу. Гэты апошні адказ мог мець для яго такі вынік, пасля якога не заставалася ўжо нічога, і Агееў адсоўваў яго як толькі мог, у роспачы хапаючыся за кожнае, нават малаважнае чалавечае сведчанне, цьмяны слых ці нават недарэчнае меркаванне.

Але вось, здаецца, прыйшоў канец усім яго ілюзіям, ніхто аб ёй нічога не ведаў, яна сапраўды без следу знікла той восенню сорак першага, быццам і не жыла на зямлі.

Заставалася апошняе.

Прыехаўшы ў гэты пасёлак, ён пасяліўся тады ў цеснай пасялковай гасцінічцы, каля лазні, дзе ў квадратным пакойчыку з ракавінай і рукамыйнікам пастаўленыя ў два рады стаялі шэсць ложкаў, на якіх амаль кожную ноч мяняліся жыхары - камандзіраваныя, упаўнаважаныя, шафёры. І толькі ён цэлы тыдзень займаў кутні, з гнуткаю сеткай ложак, і калі загадчыца запыталася, колькі яшчэ ён прабудзе, ён адказаў не

адразу. Ён проста не ведаў, колькі яму яшчэ давядзецца прабыць у гэтым пасёлку, канца яго справы яшчэ не было відаць, але ў раёне склікалася нейкая важная нарада, і ў гасцініцы спатрэбіліся вольныя месцы. Яго не высялялі, хаця і маглі зрабіць гэта, толькі пацікавіліся тэрмінам яго выезду, але ад гэтага пытання тоўстай, мусіць, ад нерухомай працы загадчыцы з залатымі пярсцёнкамі на ўсіх пальцах рук патыхнула нядобразычлівасцю, і ён, падумаўшы, сказаў: заўтра. У той жа дзень пасля абеду, хуценька перакусіўшы ў буфеце, зайшоў ва ўнівермаг, у аддзеле спорттавараў купіў невялічкую парусінавую палатку, спальнік, што-колечы з турысцкіх прылад, патраціўшы на пакупкі большую частку прыхопленых з сабой грошай, і перанёс усё за могілкі, на бераг кар'ера. Тут аказалася не горш, чым у той гасцініцы. Па крайняй меры, тут ён быў у абсалютным спакоі, на адзіноце, сам з сабой і сваімі невясёлымі думкамі - што магло быць лепш у ягоным становішчы?

Ранішняе сонца даўно вісела ўгары над раскапаным кар'ерам, набліжалася спякотная пара дня. Агееў скінуў на зямлю куртку, пачаў часта адцягваць мяккі разрэз трыко на грудзях, абдаючы распаранае цела застаялым паветрам. У кар'ер амаль што не задуваў вецер, ад нагрэтага глiністага абрыву дыхала сухой гарачынёй, як з печы. Агееў перакапаў рыдлёўкай амаль паўбугра зямлі, усё адкідваючы ўбок розныя абломкі, іржавыя бляшанкі, чарапкі, аднак без жаднай прыкметы таго, што можна б аднесці да больш-менш аддаленай даўнасці. Можа, і правільна сказалі яму ў выканкоме, што тут нічога не засталося, целы расстраляных перахавалі ўлетку сорак чацвёртага адразу пасля вызвалення і што іх было ўсяго трое. Усе мужчыны. Ніводнага жаночага цела там не было. Калі ж ён пацікавіўся, як адрознівалі целы пасля іх амаль трохгадовага ляжання ў зямлі, яму не адказалі. А цётка-прыбіральшчыца пры гасцініцы, з якой ён неяк завёў пра тое гаворку, сказала проста:

- Ды як адрознівалі? Сабралі костачкі ды расклалі ў тры дамавіны. Як там адрозніш...

Усё ж ён дазнаўся з дапамогай сведак, што не проста сабралі костачкі, што там быў доктар і што некаторыя целы нават пазналі родзічы. Ва ўсякім разе, з пэўнаю доляй верагоднасці на памылку целы расстраляных былі апазнаны, і сярод трох цела яе не было.

Але тады дзе ж яна?

Канечне, і без таго расстрэлу яна магла дзесяць разоў памерці падчас і пасля вайны, яе маглі адправіць у які-небудзь канцлагер, якіх было мноства ў немцаў. Але ўсё гэта толькі ў тым выпадку, калі яна не засталася тут, у гэтым кар'еры. Ён не мог меркаваць пра іншы вынік да таго часу, пакуль на свае вочы не пераканаецца, што яе костак тут не засталося, што іх не завалiла заходнім краем абрыву, які рухнуў у яму вясной сорак другога. Праклятая гэтая яма на паўсотню крокаў упоперак, якую толькі прыблізна можна было палічыць кар'ерам, тым не менш умела хаваць свае тайны, яна адабрала ў Агеева большую частку лета, столькі працы, поту, але да апошняга дня так нічога яму і не адкрыла.

І ўсё ж ён не думаў здавацца, капітуляваць перад гэтым бязладдзем зляжалага шчэбеню, ён перакапае яго па жменьцы, але ці знойдзе тое, што гэтак шукае, ці пераканаецца, што тут нічога няма.

Калі тут нічога няма, тады ў яго застанецца надзея - слабенькая, няпэўная павуцінка, якая, магчыма, павядзе да жыцця з гэтай ямы - у будучыню ці нават у вечнасць...

Тады было гэткае ж спякотнае лета...

Напорны паўднёва-заходні вецер, што ўвесь дзень разгоніста гойсаў па летніх абшарах палёў, надвячоркам трохі аціх, паніжэлае сонца ў рэдзенькай смузе неба страціла свой гарачы імпэт і не пякло, як раней. У караткаватым цяні раскідзістага куста шыпшыны на мяжы здратаванай каровамі жытняй нівы стала прахалодней і ўвогуле цярпіма, калі б не надакучная смага. Каторы ўжо раз Агееў перакуліў над вуснамі трафейную, абшытую лямцам біклагу, і толькі

адна кропля з яе ўпала на яго няголены падбародак, казытліва спаўзла за расшпілены каўнер гімнасцёркі. Ні ў біклажцы і нідзе паблізу вады не было. Напэўна, з паўдня ён ляжаў тут на разасланай, са слядамі засохлай крыві, ватоўцы і таміўся ў панылым чаканні, якому, здавалася, не будзе канца. Спярша намаганнем волі ён зацінаў нецярпенне, стараючыся думаць аб чымсьці далёкім, што не адносілася да яго чакання, але спакваля яго ўсё болей разбірала злосць на Малаковіча - ужо ці не забыўся той на яго, пакінутага пад кустом у жыце? Раздражнёнасць яго, аднак, хутка міналася, усё ж ён разумеў, што не, не забыўся, не затым той вёў яго столькі, каб пасля кінуць за які кіламетр ад мястэчка. Зрэшты, Агееў ведаў, што сам Малаковіч цяпер рызыкаваў куды больш за яго - не так проста было ўдзень паявіцца на местачковых вуліцах, каб не нарвацца на немцаў ці на паліцыю. Агееў яму казаў: не спяшайся, давай перасядзім у полі, дачакаемся вечара, а там, як сцямнее, прабрацца праз мястэчка, напэўна, будзе лягчэй. Малаковіч згаджаўся, але во зрабіў па-свойму, відаць, не хапіла трывання дачакацца вечара. Канечне, ён ведаў тут кожную сцежку, кожны закутак і пераход, якія выбегаў яшчэ падшыванцам, але, мабыць, і яго тут ведаў кожны местачковы сабака, які цяпер лёгка мог пазнаць лейтэнанта і выдаць паліцыі.

Час ад часу Агееў нецярпліва прыступаў на адну нагу і, абапёршыся на вінтоўку, пазіраў цераз паблытанае, нахіленае да зямліераспелае жыта. За жытам і шырокім бульбяным палеткам відаць былі ўскраінныя дамкі мястэчка, парканы і платы, месцамі атуленыя густой зелянінай садоў і кустоўя. Воддаль, у глыбіні гэтага паселішча, высіліся ў бясхмарным небе два жоўтыя царкоўныя купалы, каля іх бялела нейкая вузкая збудоўка з вастраверхім бляшаным дахам, падобная на пажарную каланчу, ці што. Збоч на ўскраіне зелянела цесная купа старых аграмадных дрэў - можа, на месцы былога маёнтка ці могілак. Адтуль па нябачнай за пасевамі дарозе выехала фурманка з двума седакамі, і порсткае гнядое жарабя то забягала наперад, то адставала, гарэзліва даганяючы затым матку. Малаковіча нідзе не было, і Агееў з прыкрасцю

апусціўся на ўляжалую ватоўку, зручней уладкоўваючы параненую нагу, якая пад вечар разбалелася аж занадта. Мінула ўжо шмат часу пасля ранення, а асколачная рана вышэй калена амаль не гаілася, вельмі дакучала на хадзе, асабліва балела ноччу, і Агееў з усё большым неспакоем думаў, ці не застаўся там і асколак. Калі застаўся асколак, дык ягоныя справы дрэнь, з асколкам рана наўрад ці загоіцца, будзе гніць, а то яшчэ падключыцца і гангрэна, тады яму зусім будуць кранты. Спусціўшы да калень сіняе галіфэ, ён абмацаў мокрую павязку, ад якой ішоў агідны гнілаваты смурод. Трэба было перабінтаваць нагу, але бінта ён не меў, учора разадраў на кавалкі апошнюю анучу з аблезлага, у белы гарошак паркалю. Гэта была жаночая блузка, мабыць, той вастравокай маладзіцы з леснічоўкі кіламетраў за трыццаць адсюль. Калі яны з Малаковічам падышлі да гэтай лясной збудоўкі, іх сустрэў ашалелы брэх рыжага калматага сабакі, доўга з хаты за тынам ніхто не паказваўся, пасля выйшаў змрочны сівабароды стары, і яны папрасілі напіцца. З гэтай просьбы яны пачыналі заўжды, калі наставаў час падумаць пра начлег і яду, і па тым, як гаспадары выносілі ваду, вырашалі астатняе. Ваўкаваты выгляд старога даваў мала надзеі, і Агееў кіўнуў Малаковічу раз і другі - маўляў, патупалі, чаго чакаць? Але тут на ганку паявілася маладая, нетутэйшага выгляду кабетка ў лёгкай блузцы і па-гарадскому, на патыліцы, завязанай хусцінцы, яна вынесла вялікую медную кварту сцюдзёнай вады, якую яны па чарзе выпілі ўсю да дна, і Агееў завёў з жанчынай гаворку на тэму «паесці». Маладзіца стрымана, хаця і добразычліва, запрасіла іх у хату, стары прытрымаў ашалелага ад брэху сабаку, і яны апынуліся ў прахалоднай абжытай святліцы са свежапамытай падлогай з новых хваёвых дошак. Пераступіўшы парог, Агееў прыемна здзівіўся ад мноства кветак, якія тут скрозь зеленелі і цвілі - на падаконніках, табурэтках, па вуглах і лаўках, густа застаўленых гаршкамі і вазонамі, нібы ў краме кветак, куды ён аднойчы забрыў у Беластоку. Іх накармілі ячменнай кашай на сале, напаілі малаком, Агееў не супраць быў заначаваць тут і пачаў ужо намякаць аб тым маладзіцы. Раптам у адказ на нейкі ягоны бязвінны

жарт яна заплакала, ды так няўцешна і роспачна, што яны знерухомелі. Калі яна выбегла з хаты, барадаты стары сказаў, памаўчаўшы: «Вот мужа яе, сына маво, убілі. А ана із Расеі...»

Начаваць там яны не засталіся, у Агеева знікла на тое жаданне, а Малаковіч ірваўся да сваіх - заставаліся апошнія тры дзесяткі кіламетраў, і яго цяжка было ўгаварыць затрымацца. Немцаў у гэтым балоціста-раўнінным краі нідзе не было чуваць, мабыць, фронт прайшоў стараной, і яны рушылі ў дарогу - да захаду сонца прайшлі яшчэ кіламетраў восем і заначавалі на полі, у невялікім бярэзнічку. Увогуле прайшлі няшмат, але на большае і не разлічвалі - яны ўжо змагліся. Спярша, калі прарываліся з акружэння і спрабавалі дагнаць лінію фронту, ішлі ўдзень і ўначы, адпачывалі па гадзіне ў суткі і проста падалі на хаду без сну і ад знямогі. Да пераходу цераз «жалезку» іх група налічвала пяцьдзесят сем чалавек, камандаваў ёю маёр з упраўлення арміі, на выгляд надта бравы ваяка з чорнымі касмылявымі брывамі, ён гнаў іх, як толькі было магчыма, каб дагнаць сваіх ці перайсці лінію фронту. Аднак лініі нідзе не было, тапаграфічная карта з двух аркушаў у маёра неўзабаве скончылася, і аднойчы ў змроку яны наткнуліся на нейкую матарызаваную нямецкую часць, якая сваімі амфібіямі, матацыкламі і грузавікамі забіла ўсе вёскі навокал. Мабыць, ім трэба было павярнуць назад ці ўзяць куды ўбок, у абход, але маёр папёр напралом, яны ўвязаліся ў няпэўны зацяжны бой на подступах да нейкае станцыі, немцы тым часам падцягнулі сілы і наладзілі ім такі тарарам, што з усяе групы, напэўна, толькі Малаковіч з Агеевым засталіся жывыя, і то толькі таму, што своечасова зразумелі промах і павярнулі з-пад нямецкага агню ўбок. Пад раніцу яны апынуліся на беразе шырокага, парослага лазняком балота наводдаль ад дарог, немцаў тут можна было не баяцца, і абодва пачалі лаяць маёра, які так па-дурному загубіў групу. Асабліва злосны быў Малаковіч, той ноччу паранены куляй у плячо. Праўда, рана была не цяжкая, куля толькі зачапіла плячо, але ўсё ж рука балела і перашкаджала ўпраўляцца са зброяй. Агееў са сваёй

распухлай нагой ледзь трываў пасля той калатнечы, ісці ледзьве мог, і тут яны канчаткова зразумелі, што фронту ім не дагнаць. Менавіта Малаковіч прапанаваў узяць крута на поўдзень і прабівацца ў знаёмыя мясціны, да роднага мястэчка, дзе ў яго заставалася маці з братам і дзьвюма сястрычкамі. А там будзе відаць. Агееў пагадзіўся не адразу. Не надта яму падабаўся такі паратунак, усё ж ішла вайна, а яны былі камандзіры, хаця і параненыя, і адбіліся ад сваёй разгромленай часці, але ўсё ж... «Глядзіце, як хочаце, - не вельмі і настойваў Малаковіч. - А то як бы ў палон не загрымець...» Палонных яны ўжо бачылі на шашы пад Лідай, самі адтуль ледзь вырваліся - неяк выкруціліся ад нямецкіх аўтаматчыкаў, якія прачэсвалі поле бою, і Агееў наважыўся. Выбіраць не было з чаго, а абодва яны былі маладыя і хацелі жыць. Падумаўшы, ён згадзіўся, і ў той дзень яны ўзялі напрамак на гэтае мястэчка.

Далёка над лясным краявідам, захутанае ў агнявы туман, заходзіла чырвонае сонца, на полі стала прахалодней, смага ўбавілася, а дрымота, з якой Агееў змагаўся ўвесь час пад калючым кустом, зусім знікла. Цяпер ён не баяўся заснуць, ён чуйна прыслухоўваўся да рэдкіх малазразумелых гукаў, якія даносіліся сюды з мястэчка. Малады жаночы голас некалькі разоў ласкава пагукаў штосьці, і ён здагадаўся: гэта клікалі на вячэру дзяцей. Аднойчы гучна кракнула качка, што нізка ляцела над полем, і ён страпянуўся ад спалоху - так змарнеў за дзень у маўклівай цішыні і чаканні. Блізкі каровін рык прымусіў яго асцярожна выглянуць з жыта - па дарозе ў мястэчка гналі невялікі статак, за якім узнімалася воблачка пылу. Гэтае воблачка дало Агееву зразумець, што там праходзіў гасцінец або гравійка, але ён за паўдня не ўбачыў на ёй ніводнай машыны і цяпер падумаў: а раптам немцы яшчэ не дабраліся да гэтых мясцін? Можа, тут іх яшчэ і няма? Гэта было б здорава, у такім выпадку ім, напэўна, пашэнціла б. Вось толькі куды прапаў Малаковіч?

З Малаковічам яны належалі да адной часці і перад самай вайной нядоўга служылі разам. Такая была

служба ў старшага лейтэнанта Агеева, асабліва ў трывожныя тыдні напярэдадні вайны, што ён мала знаходзіўся ў палку, хіба што наязджаючы на агульнапалкавыя нарады, а болей прападаў на складах боепрыпасаў - сваім і дывізійным, - забяспечваў полк боепрыпасамі. Работы ў начбоя было па горла - некалькі відаў патронаў да стралковай зброі, ручныя гранаты ўсіх марак, снарады да палкавых гармат, вінтоўкі, кулямёты, запчасткі і рамонтная тэхніка - усё гэта перайначвалася, рэарганізоўвалася па-новаму, паводле апошніх інструкцый і ўказанняў. Часу ж на ўсё было ў абрэз, штабы і камандзіры разумелі гэта і спяшаліся, не ведаючы ні сну, ні адпачынку. Кроў з носа, а было загадана назапасіць тры БК для ўсёй зброі і пяць БК для супрацьтанкавай артылерыі. Палкавыя склады не ўмяшчалі ўсю прорву штабялёў і скрынак, будаваліся часовыя сховішчы, Агееў вазіў за шмат кіламетраў будаўнічыя матэрыялы, людзей. Лейтэнант Малаковіч прыбыў у полк за тры дні да пачатку вайны пасля паскоранага выпуску з вайсковага вучылішча і быў прызначаны камандзірам батальённага ўзвода сувязі. Па службе ў палку Агееў з ім амаль не сустракаўся, хіба што некалькі разоў бачыў у час палкавых пастраенняў гэтага рослага, танкашыяга лейтэнанціка ў новым камандзірскім абмундзіраванні, з хрумсткай партупеяй цераз плячо. Не думаў тады начбой, што вайсковы лёс з'яднае іх разам на дарогах вайны, ды яшчэ ў такі горкі час. Вядома, Агееў разумеў, што ён - не надта вялікая радасць для гэтага імклівага хлопца, якому без яго, напэўна, пашэнціла б болей, ён мог бы прайсці і па шэсцьдзесят кіламетраў за суткі і, мабыць, даўно ўжо дабраўся б да фронту. Але ён не мог пакінуць параненага Агеева, памагаў яму і падтрымліваў у дарозе, клапаціўся пра начлег і яду, сам ледзьве стрымліваючы сваё маладое нецярпенне. Агееў бачыў гэта, маўчаў і ўвогуле быў удзячны свайму малодшаму сябру.

Малаковіч прыйшоў на змярканні. Агееў стаяў у жыце, абапёршыся на вінтоўку, і, пачуўшы паблізу таропкія крокі, спрабаваў прысесці. Але ў той жа момант, затулены аднізу жытам, аднекуль збоку з'явіўся сілуэт у

кепцы, з прыспушчанымі плячыма, па якім Агееў і пазнаў лейтэнанта.

- Фу ты! Думаў, не дачакаюся, - сказаў ён з выдыхам і адчуў, як адразу расслабіўся целам ад доўгага трывожнага напружання.

- Дык, разумееце, у прыцемках лепш.

Малаковіч спыніўся перад Агеевым, змарана ссунуў з потнага лба нязвыклую, з даўгім казырком кепку; на ім ужо быў нейкі куртаты паношаны пінжачок са зморшчанымі бартамі, няновыя, выпнутыя на каленях порткі і галошы на босых нагах. Заўважыўшы, што Агееў азірае яго, Малаковіч сказаў:

- Во пераадзеўся. Каб лішне не мазоліць вочы.

- А як немцы? - запытаў Агееў пра тое галоўнае, што цяпер турбавала іх.

- Ніякіх вам немцаў. Прыязджалі і паехалі. Праўда, паліцыю паставілі.

- Во як! І многа?

- А чорт іх ведае. Але ёсць. Школу і міліцыю занялі. Гэта каля царквы.

- А прайсці як?

- Ды ўжо пройдзем як-небудзь. І гэта... Разумееце, - Малаковіч адвёў позірк, агледзеўся, і Агееў зразумеў, што нешта ў яго не зладзілася. - Разумееце, у мяне не надта... Ну, сусед у паліцыі, каб яго разарвала. Дык мы вам, разумееце, другое месца насваталі. У цёткі адной...

Агееў з палёгкай уздыхнуў - хай сабе і ў цёткі, яму галоўнае, каб падлячыць рану, доўга ён тут не заседзіцца. Усё ж становішча іх было няпэўнае, з даволі туманнай будучыняй, і ён стараўся лішне не думаць аб ім. Галоўнае, каб дзе-небудзь зашыцца, запаўзці ў закапурак, залізаць раны, з якімі абодва яны - не ваякі! А пасля будзе відаць. Пасля яны пойдуць на фронт.

- Пра фронт не чуваць?

- Кажуць рознае. Немцы перадалі, што Маскву ўзялі, - неахвотна сказаў Малаковіч.

- Ого, куды хапілі!

- Рознае балтаюць. Але толкам ніхто не знае.

- Да-а... Ну што ж, пайшлі?

- Чакайце! - спыніў яго Малаковіч. - Панімаеце, з вінтоўкамі не гадзіцца. З вінтоўкамі спыняць і... самі разумееце.

Агееў маўчаў. Ды што ён мог сказаць? Ведама, падацца са зброяй яму не хацелася, але і расстацца з ёю ў такі час таксама было нязвыкла, амаль што боязна.

- Трэба схаваць, - сказаў Малаковіч. - Ось хоць бы і тут. А што, куст - прыкмета.

- У зямлі?

- У зямлі, канечне. У мяне во торба, загорнем...

Агееў змоўчаў, падумаў. Для яго, каторы ўсю службу дбаў пра чысціню і спраўнасць зброі, зараз закопваць у зямлю вінтоўку было злачынствам супраць яго сумлення. Але ён тут жа ўспомніў, колькі іх засталося на палях баёў, на складах і базах, захопленых немцамі, і толькі ўздыхнуў.

Шырокім нямецкім цесаком ён выкапаў вузкую канаўку на самым краёчку жыта каля мяжы, Малаковіч загарнуў у тарбіну дзве вінтоўкі - нашу, мадэлі 1891/30 года, і новенькую нямецкую з абшкрэбанай ложай, - яны ўладкавалі іх у ямку і ўжо ў цемры засыпалі зверху зямлёй. Пасля ўтапталі зямлю нагамі, закідалі травой.

- Ну, а пісталеты ўжо як-небудзь, - сказаў Малаковіч.

У іх былі два пісталеты - нашы варанёныя ТТ з пластмасавымі ручкамі. Днём, калі Малаковіч ішоў у

мястэчка, ён аддаў свой Агееву, а цяпер падняў з ватоўкі і сунуў у кішэню штаноў. Пацёртую скураную кабуру, размахнуўшыся, кінуў далей у бульбу.

- Пайшлі!

Агееў падхапіў ватоўку і, дужа кульгаючы, пайшоў за таварышам. Тым часам зусім сцямнелася, вакол у прытуманенай прасторы поля было поўна невыразных плям і ценяў, якія будзілі цьмяную трывогу ў душы. Але Малаковіч упэўнена ішоў па бульбяной баразне наперадзе, Агееў стараўся ад яго не адстаць. І ўсё ж ён адставаў, параненая нага вымагала часта спыняцца, ён увесь час чапляўся ёю за бухматыя калівы бульбоўніку, не трапляў у баразну, злаваўся на сябе, не хочучы спыняць таварыша.

Ужо ў глухой цемры яны падышлі да крайніх будынкаў мястэчка, павярнулі на сцежку. Дзесь у дварах паміж дрэў пабліскваў чырвоны агеньчык вогнішча, данёсся пах падгарэлай бульбы, які напомніў Агееву пра тое, як ён даўно хоча есці. Але да яды, пэўна, было не так блізка. Прыгнуўшыся ў цемры, яны навобмацак пралезлі паміж дзвюма ніткамі калючага дроту і пайшлі па зарослай травой сцяжыне паўз нейчую сядзібу з доўгай сцяной дашчанага плота, пасля прайшлі берагам ручая пад дрэвамі і выйшлі на дарогу; далей трэба было перабягаць на той бок. Будынкаў там больш не было, справа ляжала цёмнае поле, а наперадзе высіўся раскапаны пагорак, і Агееў не адразу разглядзеў у ім той самы кар'ер, які пасля адыграе такую фатальную ролю ў ягоным жыцці. Але гэта значна пазней, а той раз Агееў ледзьве заўважыў яго ў цемры, яны прайшлі ўздоўж цаглянай агароджы могілак, пад хмурна насцярожанымі ўначы дрэвамі і зноў спусціліся па гародах ў нізкую сыраватую, падобную на роў мясціну, зарослую альхой і ляшчыннікам.

- Асцярожна, трымайцеся за жэрдку, - папярэдзіў Малаковіч, сам з асцярогай ступіўшы на вузкую дошку кладкі. Агееў удала перайшоў за ім цераз чорнае правалле ручая або рэчкі, і вузкай, аброслай дзядоўнікам сцяжынкай на мяжы двух гародаў яны

ўвайшлі пад навіслае голле дрэў. Побач цямнеліся стрэхі будынін.

- Так... Пастойце тут.

Адчуўшы, што іх падарожжа, напэўна, канчаецца, Агееў уздыхнуў і з палёгкай расслабіў натруджаную нагу. Малаковіч ненадоўга знік, і неўзабаве воддаль пачуўся ціхенькі стук у акно, пасля некалькі незразумелых слоў. І вось лейтэнант ужо бярэ Агеева за руку і ў глухім цемрыве вядзе кудысь цераз двор. Падобна, аднак, яны хутка апынуліся ў хляве; наткнуўшыся на нешта груwасткае, пералезлі цераз высокі парог раскрытых дзвярэй. Па-ранейшаму навокал было зусім цёмна, стаяў пах засохлага гною і сена або, можа, нейкіх сушаных зёлак і яшчэ нечага, чым пахне звычайна ў затхлых старых будынках.

- Во, ідзіце сюды...

Наткнуўшыся на Малаковіча, Агееў намацаў каля сябе нешта падобнае на тапчан і зморана апусціўся на шархоткі, пакрыты груба тканай посцілкай сяннік.

- Ну, во і добра. Цётка Бараноўская накорміць.

- Ладна. Дзякуй...

- І не турбуйцеся. Усё добра будзе.

- Ну што ж...

Цётка, здаецца, таксама была тут, але яна не сказала ні слова, і Агееву стала ніякавата - усё ж хацелася ведаць, як яна паставіцца да такога кватаранта. Бо магла і не пагадзіцца, і запратэставаць або хоць бы затаіць нязгоду ў душы. Але цётка маўчала, і Малаковіч ціха гукнуў некуды ў цемру:

- Паесці што знойдзецца?

- А там стаіць, - пачуўся ціхманы немалады голас, які зусім не развеяў трывогі ў Агеева, нават пабольшыў яе - такі ён здаўся сухі і нават раздражнёны. - А, во дзе...

Хлеб, агуркі. Во перакусіце. І ляжыце. Днямі пабачымся, - ціха сказаў Малаковіч.

- Добра.

- Тады добрай ночы, начбой!

Неяк зусім нячутна, не стукнуўшы і не скрыпнуўшы нічым, абое яны зніклі, навокал зрабілася ціха і глуха, нібы ў пастцы, і Агееў упершыню падумаў: як бы гэтае сховішча сапраўды не стала ягонаю пасткай. Заўжды ён баяўся, каб сіла абставін не загнала яго ў кут без якой магчымасці выйсця або адступлення. Але во, здаецца, апынуўся менавіта ў такой сітуацыі. Варта той жа цётцы Бараноўскай паклікаць паліцаяў - і яго, кульгавага, хутка звяжуць вяроўкай і адвядуць у паліцыю. Могуць таксама застрэліць, могуць адправіць у лагер для ваеннапалонных. Праўда, цётка пра яго нічога не ведала, ён не зрабіў ёй ніякае шкоды, але ж свая кашуля кожнаму бліжэй да цела, асабліва ў такі час. Нашто рызыкаваць галавой гэтай маўклівай цётцы, якая, напэўна ж, ведае, што ёй пагражае ад немцаў, калі яна будзе хаваць гэтага чырвонаармейца.

Абсалютна заганным і бездапаможным адчуў ён сябе ў гэтую летнюю ноч з сваёй ранай, па добрай волі ці па дурноце даўшы сябе заперці ў гэты хляўчук. Праўда, у яго быў пісталет і два цэлыя магазіны патронаў; на якую бяду, можна было б застрэліць пару паліцаяў, а пасля прыстрэліць сябе. А калі да таго не дойдзе, як тады паводзіць сябе перад паліцаямі, за каго выдаваць? На ім была камандзірская форма - надта заношаная гімнасцёрка і сінія дыяганалевыя брыджы; партупею ён скінуў, як яны засталіся ўдвух з Малаковічам, але на чырвоных пятліцах былі ранейшыя тры кубікі - за каго ж ён мог сябе выдаваць? Малаковіч абачліва пераапрануўся, на нейкі час, напэўна, будзе дарэчы пераапрануцца і яму, але ці шмат паможа яму цывільнае адзенне? Напэўна, да цывільнага адзення патрэбны яшчэ і цывільныя дакументы, а дзе яму іх узяць?

Суцэльныя сумненні і турботы разам з цьмяным

прадчуваннем бяды авалодалі Агеевым у гэтым змрочным закутку перад грозным тварам пагрозы. Але якія б неадчэпныя ні былі яго душэўныя пакуты, адчуванне голаду ўзяло верх, на нізкім століку-скрынцы ён намацаў кавалак чорнага хлеба, некалькі агуркоў у місцы і пачаў есці, пакуль ад хлеба не застаўся маленькі кавалак - пэўна, яго трэба б пакінуць на заўтра, падумаў Агееў. Тым не менш ён не мог ужо спыніцца і непрыкметна для сябе зжаваў усё без рэшты.

Напэўна, тут жа і заснуў - забыўся ў трывожным цяжкім сне да світання.

Прачнуўшыся ранкам, Агееў убачыў над сабой нізкую, падбітую аполкамі столь, з такіх жа аполкаў былі тут і сцены, што свяціліся цяпер мноствам шчылін і высвечвалі шэрыя бярвёны сцяны насупраць. Агееў агледзеўся - гэта быў цесненькі хляўчук-застаронак, мабыць, прыбудаваны да старога хлява, куды вялі нізенькія дашчаныя дзверы, закрытыя на драўляную закрутку. У адным канцы застаронка стаяў тапчан, на якім ён пераспаў ноч, з пакрытай чыстай анучкаю скрынкай ля ног, у другім ляжала куча свежага сена, і пад ім ля сцяны сядзела ў гняздзе курыца, што адным вокам пільна і насцярожана сачыла за чалавекам. Праз шматлікія шчыліны ў сцяне білі сонечныя промні, і дзе-нідзе вытыркалася асветленае сонцам пустазелле, што буйна разраслося пад сцяной у гародзе. Было цёпла, спакойна, дзесьці наводдаль зычна прапяяў певень - на ўсё горла ад свае петушынай радасці. Агееў паспрабаваў устаць і ледзьве не крыкнуў ад болю ўназе - павязка спаўзла, штаніна прысохла да раны, да якой цяпер немагчыма было дакрануцца. Ён сеў на тапчане і, спусціўшы да калень штаны, агаліў нагу. З раны цёк гной, тканіна павязкі наскрозь прамокла, нага вышэй калена зрабілася тоўстай і счырванела, яўна распухала што дзень, то болей. Па бруднай, замурзанай скуры спаўзло некалькі мутных кропляў, ён сцёр іх даланёй і раптам спалохана знерухомеў: між набрынялых гніллю, даўно абяскроўленых тканак патрывожана варушыўся маленькі белы чарвяк, побач другі, а там яшчэ і яшчэ. Агееў боязна разняў пальцамі падсохлыя краёчкі раны і

ўбачыў многа гэтых дробненькіх неспакойных істот. Скалануўшыся, нібы ад дрыжыкі, ён падняў побач саломіну і таропка пачаў выкалупваць ёю чарвякоў з раны. Увесь час яго не пакідала палахлівае адчуванне брыдоты: гэта ж трэба - жывое цела яго тачылі і елі агідныя стварэнні. Але што можна было зрабіць - усе апошнія дні іх непрытульнага блукання ён не меў нават бінта перавязаць рану, так вось і шкандыбаў у спёку, нага з кожным днём налівалася ўсё большым цяжарам, пухла, не дзіва, што ў ране завяліся чэрві. Што яшчэ будзе?

Дрыготкімі рукамі Агееў збольшага ачысціў рану і паправіў павязку, павярнуўшы яе больш-менш сухім бокам, тужэй падцягнуў на балючай назе, усё разважаючы, як яму быць, як лячыць рану. Мабыць, без дапамогі Малаковіча ён нічога не зробіць, але ўчора аб тым не было гаворкі, яны нават не дамовіліся, калі Малаковіч прыйдзе да яго зноў. Не, не абысціся без доктара. Але ці знойдзецца тут які-небудзь здатны лекар, якога можна было б не баяцца?

Стараючыся паводзіць сябе як мага цішэй, увесь час услухоўваючыся, ён спрабаваў здагадацца, што ў той час рабілася на дварэ. І ўсё ж зусім нават знянацку для яго дзверы ў застаронак расчыніліся, і цераз высокі парог пераступіла маленькая стараватая жанчына ў доўгай спадніцы і цёмнай, нізка павязанай хусцінцы, сваім выглядам вельмі напомніўшы яму манашку. Абедзьве яе рукі былі заняты невялічкім чорным чыгунком, які яна трымала перад сабой у фартуху. У застаронку запахла свежай бульбаю з кропам. Агееў асцярожна падцягнуў нагу.

- Во снеданне, - сказала жанчына, суха павітаўшыся, і Агееў здагадаўся, што гэта яго гаспадыня.

- Дзякуй.

- Калі ласка. Малако ў стаўбунку.

- Дзякуй.

Ён думаў, што яна пачакае, запытае яго пра што-небудзь або што скажа, але цётка тут жа павярнулася да дзвярэй. Баючыся, што ён яе не хутка пабачыць, Агееў паспешна гукнуў:

- Адну хвілінку, калі можна!

Гаспадыня павярнулася, на яе зморшчаным маленькім тварыку з самкнутымі вуснамі былі смутак і ўвага, аднак вочы глядзелі з пэўнаю цвёрдасцю і нават разважнай суровасцю.

- Разумееце, мне б доктара... Рана ў мяне, панімаеце...

Бегла зірнуўшы на яго выцягнутую ўздоўж тапчана распухлую нагу з мокрай плямай на дзіравай ад асколка штаніне, яна ціхенька ўздыхнула і выслізнула за парог. Недаўменна счакаўшы хвіліну, Агееў пацягнуўся да скрынкі, дзе смачна пахла свежазвараная бульбачка.

Снедаючы, ён не мог пазбыцца агіднага пачуцця брыдоты, выкліканага нядаўнім аглядам раны. Неспакой яго не мінаўся, і думалася самае球 рознае, болей трывожнае, з сумным вынікам. Калі б хоць не гэтыя чарвякі, дык з болем ён бы саўладаў як-небудзь, боль страціў вастрыню, Агееў да яго прыцярпеўся, хадзіць было трудна, але можна - прайшоў жа ён кіламетраў сто дваццаць, пэўна, адолеў бы і яшчэ. Але калі б не пачалося заражэнне. Калі ўжо завяліся чэрві. Зноў жа, у ране мог застацца асколак, а з ім кепская справа, з асколкам будзе бяда. Як бы не засесці тут надоўга ці наогул не адкінуць капыты? Аддаючыся турботным думкам, ён увесь час прыслухоўваўся да разрозненых, часам невыразных, зманлівых гукаў знадворку - чакаў гаспадыню. Напэўна, павінна ж яна завітаць у гэты закутак, неяк дапамагчы яму. Пры гэтых думках ён крыва ўсміхнуўся - дажыўся, называецца, начбой Агееў да таго, што стаў залежны ад нейкай мястэчковай цёткі? Але сапраўды падобна было на тое, што лёс яго цяпер залежаў менавіта ад гэтай немаладой цёткі больш, чым ад каго б там ні было ў свеце. Пракляты вайсковы лёс, які ўсё ў ягоным жыцці перавярнуў дагары нагамі. Ды ці толькі ў ягоным

жыцці?

Запіваючы кіслым малаком з staўбуна, ён хутка з'еў усю бульбу, дажаваў хлеб, якога цяпер была ўсяго адна скіба. Увесь час ён чуйна прыслухоўваўся. Але, мабыць, вялікай небяспекі для яго цяпер тут не было, за сцяной ляжаў гарод, аброслы на межах дзядоўнікам і крапівой, вуліца была зводдаль, з другога канца сядзібы, і з яе амаль не даносілася ніякіх гукаў. Вакол было ціха, спакойна, і ў гэтай цішы ён адразу пачуў два-тры асцярожныя крокі ў хляве, дзверы застаронка нешырока расчыніліся.

- Во пераапранунцца вам.

Цётка Бараноўская з парога паклала на канец тапчана невялічкі скрутак, тут жа разгарнуўшы каторы ён знайшоў чорную сацінавую кашулю, прыгожа вышытую па каўняры сінімі шоўкавымі кветкамі. «Што ж, дзякуй!» - у думках спазнела сказаў Агееў, бо цётка ўжо схавалася за дзвярыма. Ён раскінуў кашулю на каленях, мабыць, яна была яму самы раз, гэтая прыгожая апратка з прыемнага навобмацак мяккага саціну, але ён памарудзіў знімаць сваю пацёртую прапацелую гімнасцёрку, якая разам з ім столькі стрывала за гэтае вар'яцкае лета. Гэта было звычайнае хэбэ з накладнымі кішэнямі і чырвонымі камандзірскімі пятліцамі, у якіх рубінавымі агеньчыкамі ззялі па тры эмалевыя кубікі. Трэці кубік ён прывінціў сюды за тры доўгія месяцы да пачатку вайны, а чакаў яго тры доўгія гады - на працягу ўсёй сваёй камандзірскай службы пасля вучылішча. На рукавах чырванелі галуны-нашыўкі, адпаведныя ягонаму званню, і вось ад усяго гэтага даводзілася па добрай волі адмаўляцца, мяняць на нейкую цывільную кашулю з кветачкамі на каўняры. Але, відаць, сапраўды прыйдзецца, інакш як яму выйсці адсюль у гэтым яго камандзірскім убранні? Першы прахожы з вуліцы зверне на яго ўвагу, і няцяжка ўявіць, чым усё можа скончыцца.

Цераз галаву ён рашуча сцягнуў гімнасцёрку, выбраў з кішэняў дакументы, падумаўшы, сунуў іх «на пакуль» пад сяннік. Пасля накінуў мяккую, прыемна аблеглую

на плячах кашулю, каўнер зашпільваць не стаў, падпяразвацца таксама. Гімнасцёрку разам з рамянём і пісталетам паклаў пад падушку. Цяпер ад вайсковага абмундзіравання на ім заставалася толькі цёмна-сіняе камандзірскае галіфэ. Разношаныя ялавыя боты былі падобныя на цывільныя, боты яго не турбавалі. А вось пра галіфэ яшчэ прыйдзецца, відаць, патурбавацца, галіфэ магло яго выдаць.

Яму даўно хацелася выйсці на двор, але ён марудзіў у нерашучасці, прыслухоўваўся. Было невядома: хто тут жыве ў суседзях, хто яшчэ ёсць у гэтай Бараноўскай? Каго яму трэба было асцерагацца найбольш? Усё ж нейкая яна негаваркая, гэтая яго гаспадыня, падумаў Агееў, не, каб расказаць што пра сябе, - відаць, трэба пытацца. Пытацца ён не любіў, асабліва ў малазнаёмых. Зрэшты, як і расказваць пра сябе таксама. Размова малазнаёмых, ды яшчэ без патрэбы, не была для яго асалодай, мабыць, падобнай да яго трапілася яму і гаспадыня.

Ён яшчэ не наважыўся выбрацца з застаронка, як за сцяной у хляве пачуліся галасы, дзверы шырока расчыніліся, і цераз высокі парог не дужа спрытна пераступіла пажылая паўнаватая жанчына ў чорным жакеце з сіваватым вузлом валасоў на патыліцы. Яна адразу намацала яго позіркам у цемнаватым пасля вуліцы куце, выпрабавальна зірнула толькі адзін раз і густа пыхнула махорачным дымам ад самакруткі, якую трымала ў зубах, пакуль адчыняла дзверы. Другая яе рука была занята невялічкім скураным саквояжам.

- О, дзе ён устроіўся! Харашо, свежае паветра! Ну, здароў, хлопец!

- Добры дзень, - трохі ніякавата сказаў Агееў, прыўстаючы на тапчане. Ён не адразу сцяміў, за каго яна яго прымае, але яе прастата ў гаворцы настройвала на лёгкі, амаль бесклапотны лад.

Жанчына перадала саквояж у рукі Бараноўскай, якая, прычыніўшы дзверы, сціпла спынілася ля парога, яшчэ раз таропка зацягнулася акуркам і, кінуўшы яго долу,

старанна зацерла чаравікам.

- Ну, дык што? Болечка?

- Ды во, трошкі! - сказаў Агееў, цямячы, што, пэўна, гэта прыйшла доктарка.

- Ну, трошкі - гэта ерунда. Цяпер трошкі і не лічыцца.

Падышоўшы бліжэй да тапчана, яна абхапіла яго нагу каля костачкі і рэзка заламіла ў калене. Агееў тузануўся ад болю.

- Да-а, - павярнулася да гаспадыні. - Нясіце вады.

- Зараз, Яўсееўна, - з гатоўнасцю азвалася Бараноўская. - Цёплай?

- Гарачай. І чысты ручнік.

Гаспадыня шмыганула за дзверы. Яўсееўна ў роздуме трохі счакала і, дапытліва ўставіўшыся ў яго, кінула:

- Ваенны?

- Ваенны, - сказаў Агееў, пазіраючы ў яе цёмныя настырныя вочы. Пад такім позіркам гаварыць няпраўду было немагчыма, ён гэта адчуваў адразу.

- Ох, хо-хо, хо-хо! - пабедавала Яўсееўна, хутчэй, аднак, у адказ на нейкія свае думкі. - Ну, знімай штаны.

- Зусім?

- Зусім... Чаго саромеешся? Ці надта сарамлівы?

- Ды я нічога, пажалуста, - сказаў ён і з перабольшанай рашучасцю сцягнуў цеснае, паношанае галіфэ.

Яўсееўна тым часам расчыніла на скрынцы саквояжык, пабразгаўшы інструментам, дастала вялікія нажніцы. Ён узяўся развязваць сваю мокрую ад гною павязку, але доктарка, спрытна падчапіўшы, разрэзала яе напалам і гідліва адкінула ў куток.

- Да-а... Карцінка!

- Карцінка, - згодна паўтарыў Агееў. - І ведаеце, чэрві!

Ён думаў, што гэтае паведамленне здзівіць ці нават спалохае Яўсееўну, але на поўным, нахмураным твары з чорнымі вусікамі не скаланулася ніводная жылка - відаць, цікавіла яе іншае.

- Чарвякі - гэта ерунда, - сказала яна, роздумна аглядаючы рану, і некалькі разоў калупнула ў ёй доўгім пінцэтам. - Чарвякі - гэта нават някепска...

«Што ж можа быць горш»? - раздражнёна падумаў Агееў.

- Але, ведаеце, я спалохаўся...

- Не трэба палохацца! У жыцці наогул шкодна палохацца. Шкодна для здароўя. Вось як, малады чалавек!

- Гэта так.

- Вось іменна. Асколак? - яна зноў запытальна зірнула на яго.

- Асколак.

- Гэта горш. Прыйдзецца рассячы.

- Што рассячы?

- Рану, вядома. Не нагу ж. Бараноўская! - хрыплым баском гукнула яна, павярнуўшыся да дзвярэй, і адтуль пачуўся ціхі голас гаспадыні:

- Іду, іду...

Усё гэтаксама, бадай нячутна, гаспадыня ўвайшла ў застаронак, паставіла на скрынку чыгунок з гарачай вадой, паклала ручнік і адступілася да дзвярэй, схаваўшы рукі пад фартушок. Яўсееўна намачыла ў чыгунку ручнік, старанна абцерла ім вакол раны. Агееў трохі паморшчыўся - дотык яе рук азваўся ўсё ж

немалым болем.

- Ану, ляж і адвярніся! - загадала доктарка. - Нечага глядзець, не маленькі.

Агееў выцягнуўся на тапчане, трохі адвярнуў галаву, утаропіўшы позірк у сук на сцяне. Яўсееўна рыхтавалася да аперацыі - востра запахла нашатырам, бразнулі металічныя інструменты.

- Зараз мы таго... Гэта дзела простае! Не паспееш адчуць...

Востры боль у ране да касці пранізаў нагу, Агееў тузануўся, скрыгатнуў зубамі.

- Што, баліць? - незадаволена перапыніла яго дактарка. - Не хлусі, то не баліць. То - ерунда, камарыны ўкус.

Ён і яшчэ тузануўся ад такога ж, амаль невыноснага, болю, але прымусіў сябе не застагнаць, закусіў вусны.

- Так, так... Гэта ерунда... Да, тут набралося... Пачысціць... Так, гэта туды, гэта сюды, - прыгаворвала Яўсееўна, калупаючыся ў ране, і Агееў сабраў у сабе ўсе сілы, каб стрываць без стогну. Балела па-зверску, усю нагу да кончыкаў пальцаў ахапіў глыбінны боль, хацелася ўскочыць, вырвацца і ўцячы з гэтага застаронка... Здаецца, аднак, ён стрываў.

- Во-о-т! - задаволена сказала Яўсееўна. - А цяпер будзе трошкі таго... Наўродзе камарынага ўкусу будзе. Можа, трошачкі больш...

Не адразу сцяміўшы, што яна мае на ўвазе, Агееў не секунду расслабіўся і ў тое ж імгненне адчуў рэзкі балявы ўдар, які аддаўся ў целе. У вачах ягоных сцямнела, ён напяўся, абедзвюма рукамі ўчапіўся ў дошкі тапчана, быццам баючыся сарвацца з яго. І новы ўдар паўтарыў ранейшы, пасля нешта ў назе пацягнулася, напружылася, і раптам усё адразу звальнела.

- Во, палюбуйся, якая жалязяка!..

Увесь мокры ад поту, Агееў падняў галаву - Яўсееўна трымала перад ім зацяты ў кончыках даўгога пінцэта невялікі прадаўгаваты асколак з няроўнымі зубрыстымі краямі, які ледзь не падкасіў некалі ўвесь яго франтавы лёс.

- Добра, што косць абышоў. Яшчэ б сантыметр - і кепская была б твая справа, сынок, - цяплейшым голасам сказала Яўсееўна і кінула асколак у кут сена.

Агееў ляжаў, на здзіўленне для яго, зусім пазбаўлены сілы, рукавом аціраў густы пот на твары, абедзве рукі яго дробна трэсліся, і ён ледзьве выціснуў з сябе «дзякуй». Гаспадыня яго, якая на працягу ўсёй аперацыі стаяла за спіной доктаркі, усё прыгаворвала нешта, што ён не мог чуць, і Яўсееўна абарвала яе:

- Ды перастаньце, Бараноўская! Баліць! Што гэта за боль для такога мужыка?!

- Што ж, што мужык? Усім баліць, - ціха запярэчыла Бараноўская.

Яўсееўна між тым завіхалася над ранай. Кідаючы долу скрываўленае клочча ваты, абцерла нагу, пасля засунула ў свежы разрэз раны мокры сцюдзёны тампон і, лёгка снуючы бінт дужымі рукамі, туга перавязала сцягно.

- Во! Хутка танцаваць будзеш.

Пакідаўшы ў саквояж інструменты, яна прысела ў нагах і пачала скручваць цыгарку. Бараноўская тым часам прыбрала чыгунок, ручнік і, хоць было цёпла, накінула на голыя ногі Агеева старэнькі выцерты кажушок.

- Гэта што за боль! - густым дымам дыхнула на гаспадыню Яўсееўна. - Вунь Султанішку маладую ратавала. Паўночы вазілася, сячэнне рабіла. З гэтымі во інструментамі! Хлопец на пяць кілоываліўся, а Султанішка, вы ж ведаеце, - муха! Саплёй пераб'еш.

- А жыць жа хоць будзе? - насцярожылася Бараноўская, хмурачы свой маршчыністы тварык.

- Нічарта ёй не зробіцца. Бабы жывучыя.

- Ну, не кажыце, Яўсееўна. Бабы таксама людзі.

- Людзі, канечне! - згадзілася доктарка. - Але цяпер во мужыкоў берагчы трэба. Вайна ідзе.

- Берагчы заўжды ўсіх трэба. Кожнаму адно жыццё адмерана, - сказала Бараноўская мякка, але з поўнай пераконанасцю, на якую доктарка ўжо не запярэчыла.

- Гэта так! Калі б вашыя словы ды богу ў вушы. Можа б, ён спыніў гэтых варвараў...

- Ён не спыніць. Гэта ўжо людзям трэба.

- Во і я кажу. Мужыкі павінны, - сказала доктарка і змоўкла.

Агееў пазіраў на поўную грудастую постаць Яўсееўны і не ведаў, здзіўляцца яму або дзякаваць гэтай жанчыне. Ён ужо зразумеў пэўна, што яна акушэрка, і калі б ён сцяміў гэта адразу, яшчэ невядома, ці даўся б ёй для аперацыі. Але цяпер так ці інакш справа была скончана, самы востры боль мінуў, а галоўнае - ён пазбавіўся ад асколка, які ледзь не зрабіў яго інвалідам. Пэўна, трэба было неяк аддзячыць за гэта бравай акушэрцы, ды пасля ператрыванага болю ён троста не знаходзіў у сабе сілы для патрэбнай удзячнасці і вяла сказаў:

- Дзякуй, доктар, вялікі...

- Няма за што. Бог аддзячыць. Ды во Бараноўская. Ану, панечка, ганіце дзесятак яек, - знарок грубавата сказала Яўсееўна і засмяялася.

- Няма яек, усяго адна курачка. Хіба пашукаю што-небудзь, - сказала гаспадыня, і Яўсееўна спыніла яе сваім грубым голасам:

- Ладна, не старайцеся, абыдуся без яек. Вунь у вас ёсць каго яйкамі карміць.

Апантана задыміўшы самакруткай, яна павярнулася да

дзвярэй, але, перш чым выйсці, выняла з рота цыгарку.

- Ну, папраўляйся. Днямі загляну. Перавязаць трэба будзе...

Ён кіўнуў на развітанне, і абедзве жанчыны выйшлі, наперадзе - самаўпэўненая, рашучая Яўсееўна, за ёй чорнай мышкай прашмыгнула яго гаспадыня. Агееў застаўся адзін. У застаронку цямнелася, шчыліны ўжо страцілі свой яркі сонечны бляск, сонца, напэўна, павярнула за вугал. Нага жахліва балела, але цяпер прыбыло надзеі, і ён думаў, што яшчэ, можа, як-небудзь абхітрыць лёс і вырвецца з крыважэрных кіпцюроў пагібелі, у якія яго загнала вайна.

Рэшту таго дня ён пакутліва змагаўся з болем, які марудна расцякаўся па ўсёй назе, ахапіўшы яе ўсю - ад ступні да клуба. Яго пачалі даймаць дрыжыкі - падобна, пачыналася гарачка. Здаецца, так не балела нават у першыя гадзіны пасля ранення, ці, можа, у калатнечы баёў і адступлення ён не заўважаў болю, бо ўвесь час быў сярод віхуры падзей, у ліхаманкавай змене абставін. Цяпер жа падзеі адышлі ў мінулае, ён знайшоў гнятлівы, трывожны, але адносна бяспечны спакой, і патрывожаная рана адгукнулася рэзкім злым болем. Пасля таго як пайшла доктарка, Агееў вышэй нацягнуў на сябе кажушок і ляжаў так у дрымоце, час ад часу скаланаючыся ад дрыжыкаў. Дзверы некалькі разоў ціхенька прыадчыняліся, але ён не расплюшчваў вачэй, і дзверы зноў зачыняліся - цётка Бараноўская не хацела яго трывожыць. Аднойчы, расплюшчыўшы вочы, ён убачыў на скрынцы ля ног прыкрытую чыстай анучкай міску, акрайчык хлеба каля яе, але паднімацца не стаў - было не да ежы. На некалькі хвілін ён забыўся ці, можа, заснуў прывідным, поўным гарачага туману сном і зноў прачнуўся - здалося, у застаронак нехта ўвайшоў. Ён узняў дзіўна цяжкія павекі і не адразу зразумеў, што гэта - яго гаспадыня, якая з сашчэпленымі на фартуху рукамі ціхенька пыталася:

- Можа, вам супчыку зварыць? Ці бульбачкі?

- Не, дзякуй. Вадзічкі...

- Вадзічкі? Я зараз...

Яна знікла з застаронка, і Агееў зноў заснуў ці праваліўся ў забыццё, калі рэчаіснасць тоне ў гарачым тумане ценяў, аднекуль з далёкіх закуткаў памяці выплывае мінулае, усё дзіўна пераблытваецца ў мутнай свядомасці. Невядома адкуль у гэтым тумане выплыў камандзір стралковага палка маёр Папоў, які немаведама куды знік у час іх начнога прарыву з-пад Ліды, - цяпер жа ён быў у поўнай камандзірскай форме з дзвюма кавалерыйскімі партупеямі на плячах, планшэткай, процівагазам на шырокай брызентавай почапцы цераз плячо, і рашуча камандаваў батальёнамі, стоячы па грудзі ў ровіку на пагорку з кустоўем. Агееў, які быў тут жа, усё імкнуўся далажыць маёру, што іх акружаюць немцы, але чамусьці не мог знайсці сілы вымавіць гэтыя некалькі слоў, а маёр злосна крычаў на кагосьці за перарасход боепрыпасаў, за тое, што стралялі чамусьці не па тых мішэнях. Між тым Агееву было бачна, як па полі перабягаюць нямецкія аўтаматчыкі, яны былі ўжо побач, а маёр усё не мог змоўкнуць, і ў Агеева быццам адняло язык - не мог вымавіць слова. Ён вельмі хваляваўся, пакутна перажываючы сваю незразумелую немач у прадбачанні таго, што немінуча павінна было здарыцца на КП. Каб не стаць сведкам катастрофы, намаганнем волі ён вырваў сябе са сну і з палёгкай адчуў, што ўсё тое было за мяжой рэчаіснасці, усё няпраўда, таму што - прыснілася.

За сценамі яго застаронка марудна дагараў летні дзень, мабыць, ужо цямнелася, у паўзмроку ледзьве відаць быў нізкі праём дзвярэй у сцяне, некалькі пасудзін на скрынцы ў канцы тапчана, сярод якіх ён убачыў стаўбунок і кварту. Вельмі хацелася піць, у роце ўсё высахла, але, здаецца, жар зменшыўся, і ён памкнуўся ўстаць, каб напіцца. Гэта яму ўдалося, хаця і не адразу. Стараючыся не патрывожыць нагу, ён дапяўся да скрынкі, напіўся са стаўбунка, знясілена адкінуўся на тапчане і заплюшчыў вочы.

З маёрам Паповым у яго былі няпростыя адносіны.

Часам Агееву здавалася, што больш злоснага чалавека, чым іх камандзір палка, цяжка знайсці на свеце; часам жа маёр рабіў такое мілае ўражанне, што, здавалася, больш ветлівых людзей не бывае. Ён увесь быў як на далоні, гэты маёр Папоў, і свае пачуцці заўжды выказваў з гранічнай натуральнасцю, хаця частая і рэзкая змена іх, асабліва ў баявой абстаноўцы, нярэдка бянтэжыла падначаленых. Зрэшты, у тыя дні, калі ён камандаваў палком, падначаленых куды болей бянтэжыла абстаноўка, у якой апынуўся полк, што двойчы займаў абарону і двойчы пакідаў яе пад канец дня. Нямецкая авіяцыя люта бамбіла тылы, дывізія страціла ўсякае забеспячэнне, і калі надвячоркам трэцяга дня стала зразумела, што яны ў акружэнні, усё перамяшалася і перад фронтам палка, і, што асабліва было кепска, у бліжніх тылах, забітых часцямі, якія адступалі, тылавымі падраздзяленнямі, цывільным насельніцтвам, што бегла ад немцаў. Полк меў патрэбу ў боепрыпасах, і пасля доўгіх пошукаў у бліжніх тылах Агееву пашэнціла наткнуцца на невядома чый артсклад, утульна размешчаны ў схоўным, мабыць, апусцелым фальварку, які, аднак, з раніцы бамбілі немцы, што, зрэшты, і навяло на яго Агеева. Збочыўшы на палутарцы з пыльный гравійкі, Агееў пад'ехаў да гэтага фальварка, калі там усё гарэла - гаспадарчыя і жылыя будынкі, канюшні, зводдаль у задымленых руінах ляжала цагляная дамоўка, і нямецкія самалёты, што ўчынілі гэты разгром, адзін за адным адляталі над лесам на захад. Спыніўшы ў пачатку ліпавай алеі сваю палутарку, Агееў пабег шукаць начальніка склада, але нікога нідзе не мог знайсці, даўгія штабялі боепрыпасаў на краі садка былі разбіты і раскіданы паміж дрэў, некаторыя гарэлі, і ўсюды слаўся горкі, удушлівы дым. Удвух з шафёрам аўтамашыны яны пачалі цягаць з абгарэлага штабеля скрынкі вінтовачных патронаў, прыхапілі яшчэ і некалькі скрынак гранат, якія ім трапілі пад рукі. Аднак не паспелі яны загрузіць і палавіну машыны, як самалёты наляцелі зноў. Пярэдні пікіроўшчык, уключыўшы сірэну, з шаталомным рэвам абрынуўся на фальварак і высыпаў долу серыю бомб, якія амаль усе разарваліся ў садку. Іншыя сыпанулі свой груз на алею, дзе пад ліпамі стаяла некалькі

пустых грузавікоў; дзве машыны загарэліся адразу, адна была адкінута выбухам з дарогі і завалілася на бок у канаве. Скаланаючы паветра, выбухі бомб, здавалася, на ўсю глыбіню праломвалі зямлю, у паветры несліся патокі пылу, падалі вялікія і малыя камякі зямлі, віхурай вымятала абпаленую лістоту ліп. Па сутнасці, гэта была першая сур'ёзная проба агнём, у якую трапіў Агееў; часам спалох у ім межаваў з жахам, блізкія выбухі бомб выклікалі амаль фізічны боль. Агееў пачаў забываць, дзе ён і што з ім робіцца, і толькі ў глыбіні ягонай збянтэжанай свядомасці жыло, не пакідаючы яго, адчуванне мэты, нявыкананай задачы, якую ён што б там ні стала павінен выканаць. І ён, то падаючы, то ўскокваючы, слепнучы ад пылу і выбухаў, усё ж загрузіў машыну бязладна накіданымі ў кузаў скрынкамі і пагнаў яе ў полк. На яго шчасце, шафёр трапіўся з вопытам - немалады ўжо чалавек, які прайшоў вайну з фінамі, - сцяўшы зубы, ён паслухмяна выконваў усе каманды Агеева і спрытна кіраваў машынай на разбітай дарозе. У полі іх абстралялі, некалькі мінных выбухаў па абодва бакі ад дарогі абсыпалі машыну камякамі зямлі, ды ўсё ж такі яны ўдала праскочылі адкрытую мясціну і прыкацілі ў вёску, якую абараняў полк. Каля мураванай, без даху аборы іх ужо чакалі падносчыкі боепрыпасаў з батальёнаў, якія тут жа абступілі машыну. Але не паспелі яны яе разгрузіць, як на вёску пачаўся артналёт - добра, што пад абшкрэбанай сцяной аборы былі недаўгія акопчыкі, у адным з якіх і знайшлі сховішча Агееў з шафёрам. Ён ужо не спадзяваўся тут уцалець. Два снарады трапілі ў вугал аборы, амаль разваліўшы будыніну, але ўсё ж яе каменныя сцены вытрымалі, прыкрылі байцоў у акопчыках і нават палутарку, якую ён падагнаў да самай будыніны. Калі ўсё патроху аціхла і байцы вылазілі ў двор, Агееў таксама выбраўся з акопчыка і пачаў атрасацца ад пяску, якім яго абсыпала з ног да галавы. У гэты час каля аборы паявіўся малады чырвонаармеец з вінтоўкай, у высока накручаных на худыя ногі абмотках - камандзір палка клікаў Агеева на КП. Камандны пункт маёра Папова размяшчаўся па той бок вёскі ў канцы гародаў, мінулай ноччу Агееў быў там і цяпер па стаптаных, перакапаных выбухамі градках пабег

наўпрасткі да знаёмага акопчыка пад дзвюма грушамі.

Камандзір палка стаяў у акопчыку ў новай, насунутай на вочы касцы, якая хавала верхнюю палову яго схуднелага твару, але па тым, як уся яго хударлявая постаць напружылася, калі ён згледзеў Агеева, той зразумеў, што гэты выклік дабром для яго не скончыцца. Ззаду ў вёсцы зноў загухалі выбухі, наперадзе чутны быў залівісты стук кулямёта ў полі, усчыналася частая страляніна, асабліва справа, дзе да жытняга поля блізка падступаў хваёвы ўзлесак. Агееў зваліўся ў акопчык насупраць камандзіра палка і не паспеў яшчэ далажыць аб прыбыцці, як маёр груба і злосна закрычаў:

- Ты - начбой ці тупая бабская ж...?

Ліхаманкава згадваючы, дзе ён дапусціў прамашку і ў чым правініўся, Агееў маўчаў, а камандзір палка з усё большым імпэтам паўтарыў сваё абразліва-грубае пытанне. І тады Агееву стала зразумела, што адказваць на яго не было патрэбы - належала моўчкі атрымаць спагнанне. Але за што? Начальнік штаба палка, адарваўшыся ад тэлефона на дне акопчыка, са стрыманай злосцю паведаміў:

- У другім батальёне таксама: дзве скрынкі з ручкамі і ніводнай - з галоўкамі.

Тады Агееў ураз зразумеў, дзе дапусціў промах, які, напэўна, яму дорага абыдзецца: не разабраўшыся, ён пагрузіў у машыну некалькі скрынак з ручкамі ад РГД, а скрынкі з баявымі галоўкамі, напэўна, засталіся на складзе, мабыць, у іншым ці разбомбленым штабелі. Пэўна, што так. Паводле правіл захоўвання боепрыпасаў у мірны час, абедзве часткі разборных гранат належала хаваць асобна - каб пазбегнуць магчымасці дыверсіі.

- Вы абяззброілі полк! Вы сарвалі абарону! Пойдзеце пад трыбунал! Я вас расстраляю!

Маёр схапіўся за кабуру дрыготкімі рукамі, спрабуючы

выняць з яе пісталет. Агееў, унутрана напяўшыся, стаяў насупраць, гатовы да ўсякага прыгавору, - ён і на самай справе не знаходзіў для сябе апраўдання. Але ў той самы момант начштаба нагнуўся да тэлефоннага апарата і ўстрывожаным голасам паклікаў камандзіра палка:

- Вас ноль-першы!

Агееў не ведаў, хто гэта быў ноль-першы, можа, камандзір дывізіі ці хто вышэй, але адразу пачуў, што гэта давала нейкі перадых, амаль палёгку. Маёр з пісталетам у адной руцэ пацягнуўся да трубкі, а начштаба выразным жэстам даў Агееву знак, каб той зараз жа знік. Не змусіўшы сябе ўгаворваць, начбой пераскочыў цераз схіленую спіну сувязіста і схаваўся за паваротам акопчыка. Пасля ён выскачыў на адкрытае поле і, прыгнуўшыся, па градах пабег да аборы. Ён ужо сцяміў, што павінен зрабіць, каб калі не апраўдацца зусім, дык хоць бы змякчыць прысуд камандзіра палка.

Абстрэл між тым прадаўжаўся, міны з прарэзлівым віскам праносіліся над галавой і рваліся між хат, на гародах і асабліва густа - на выездзе з вёскі, дзе засталася яго палутарка. На шчасце, яна была яшчэ цэлая, і Агееў, гукнуўшы шафёра, ускочыў у кабіну. Яны паспешліва развярнуліся на закіданым грудамі зямлі падворку і, ужо не зважаючы на абстрэл, панесліся па гравійцы да ахопленага полымем фальварка.

На гэты раз нямецкіх самалётаў тут не было, хаця амаль не было і фальварка, замест алеі грувасціліся завалы паламаных, пасечаных, вывернутых з каранямі ліп, увесь сад быў перакапаны варонкамі, уцалелыя дрэвы стаялі з голым, без лісця суччом; штабялі пад імі або згарэлі, або паўзрываліся ад дэтанацыі; раскіданыя навокал, валяліся снарады, латунныя гільзы, упакоўка, дошкі ад тары. Але ўсё ж нейкая частка боепрыпасаў уцалела, і Агееў, падбегшы да рэшты штабялёў, узрадаваўся: аказваецца, не так проста нават для авіяцыі знішчыць вялікі склад боепрыпасаў. Яны з

шафёрам пабеглі сярод раскіданых скрынак са снарадамі, супрацьтанкавымі і супрацьпяхотнымі мінамі, разматанымі стужкамі буйнакаліберных зенітных патронаў, якія ім былі без патрэбы. Агееў стараўся знайсці знаёмыя зялёныя скрынкі з галоўкамі ад РГД, але іх нідзе не было - можа, паўзрываліся, а можа, як і ён, іх прыхапілі, не разабраўшыся, шафёры з другіх палкоў. І тут на краі абгарэлага з вугла штабеля ён згледзеў знаёмую маркіроўку на драўляных скрынках - то былі гранаты Ф-1, або, як часцей іх называлі, «лімонкі». Узрадаваўшыся нечаканай знаходцы, ён крыкнуў шафёру і, падхапіўшы ў абедзве рукі па скрынцы, пабег да машыны.

Гэтымі гранатамі яны загрузілі амаль увесь кузаў палутаркі, яшчэ прыхапілі некалькі скрынак вінтовачных патронаў і зноў ірванулі па разбітай гравійцы да свайго палка.

Аднак дзень ужо быў на сконе, нізкае сонца зайшло за хмары, поле пачало засцілаць туманам. За лесам, у баку, дзе была вёска, грукатаў моцны бой, і, як здалося Агееву, на гэты раз чамусьці бліжэй, чым удзень. Кепская здагадка засмуціла яго, але, усё яшчэ баючыся цалкам паверыць у горшае, ён спыніў машыну на ўзбочыне ў маладым сасоннічку, дзе наводдаль ад дарогі акопваліся некалькі байцоў, і выскачыў з кабіны. На ягонае пытанне, з якой яны часці, першы баец не сказаў нічога, толькі, быццам нямко, паўзіраўся ў яго спадылба, другі сказаў, што гэта ваенная тайна, якую ён не можа паведаміць незнаёмаму камандзіру, і толькі трэці, стрыжаны, белабрысы баец, мабыць, пазнаўшы яго, растлумачыў:

- Ды з другога батальёна мы, таварыш начальнік боепітання.

- Як з другога? Другі ж батальён быў у вёсцы?

- Быў, ды адступіў. У акружэнні мы.

«Вось табе і на!» - паныла падумаў Агееў. Час ад часу не лепш. Ён пабег уздоўж ланцуга і хутка ад знаёмага

камандзіра роты даведаўся, што другі батальён па загаду адышоў з вёскі, а першы і трэці чамусьці прамарудзілі, не паспелі выканаць загад і цяпер чакаюць ночы, каб прарвацца з кальца. Камандзір са штабам палка таксама застаўся ў вёсцы, рыхтуе прарыў; другі батальён будзе падтрымліваць іх агнём з гэтага сасоннічку.

Агееў мог бы раздаць боепрыпасы байцам тутэйшага батальёна, у якіх таксама было іх нягуста, але пачуццё віны перад камандзірам палка за ранішні промах вымагала яго думаць, як прарвацца ў вёску. Было, аднак, зразумела, што, пакуль не змеркнецца, зрабіць гэта наўрад ці пашэнціць, значыць, трэба дачакацца ночы. Але і ў цемры яшчэ невядома, як ашукаць немцаў, якія, напэўна, перакрылі ўжо дарогу. А калі напралом, на авось? Авось быў пэўны вайсковы сродак, які памагаў там, дзе нічога ўжо не магло памагчы. І Агееў наважыўся. Трэба было толькі ўгаварыць шафёра, ад якога ў гэтай спробе залежала многае.

Яны стаялі на дарозе каля машыны, і калі ён сказаў аб сваім намеры шафёру, той нічога не адказаў, памаўчаў, паглядзеў у адзін бок, у другі, прыслухаўся. За лесам і полем, дзе была вёска, грукацеў бой, угары над сасоннічкам часам праносіліся агняныя трасы, ім заставалася праскочыць якія-небудзь кіламетры два, але на кожным метры іх магла напаткаць пагібель. Агееў падумаў ужо, што шафёр не згодзіцца, як той раптам спытаў:

- А што - цяпер ехаць? Ці пагадзя?

- Не, не цяпер. Трэба пачакаць, - узрадаваўся Агееў. - Яшчэ паўгадзіны, гадзіну, як сцямнее.

І вось нарэшце сцямнелася, мінула і яшчэ мінут з дваццаць. Страляніна ў вёсцы быццам бы пачала сціхаць, напэўна, хутка два батальёны пачнуць прарывацца з акружэння. Марудзіць далей было ўжо нельга, і, як-колечы супакоіўшы сябе, Агееў ускочыў у кабіну да шафёра, які там чакаў.

- Значыць, так! Спярша паціху, а затым поўны газ! Я скажу калі.

У начной цемені яны памалу рушылі па дарозе, не ўключаючы фар, выехалі з сасоннічку ў чыстае поле, дзе іх абстралялі ўдзень мінамёты і дзе цяпер ужо сядзелі немцы. Агееў высунуўся з кабіны і ўпіўся позіркам у цемру, але ў полі нічарта не было відаць. Зрэшты, не было відно і дарогі, і ён баяўся, каб шафёр незнарок не з'ехаў у канаву. Але шафёр з асаблівым, мабыць, уласцівым толькі шафёрам адчуваннем і ў цемры добра трымаў дарогу, цяжка нагружаная машына гойдалася па выбоінах, рухавік бязбожна гучна грымеў, і Агееў, сцяўшы пашчэнкі, чакаў першай чаргі ў бок, у лоб або ззаду. Але чэрг не было. Яны праехалі, можа, кіламетр ці нават болей, і тады іх нехта акрыкнуў у полі. Агееў не зразумеў, чый гэта быў голас - сваіх або немцаў, - ён толькі адчуў, што далей будзе чарга, і, бразнуўшы з размаху дзверцамі, крыкнуў шафёру: «Гані! Быстра!»

Машына рванулася, яго кінула ў адзін бок, затым у другі, здалося, што яны перакульваюцца, але неяк выраўняліся, і машына памчалася далей у цемру. Ззаду яшчэ некалькі разоў крыкнулі, а затым замільгалі бліщчастыя трасы - абганяючы машыну, далёка панесліся абапал дарогі. Агееў спалохана хіснуўся ў кабіне, дробныя шкляныя асколкі абсыпалі грудзі і твар, рэзка бразнула металічная абшыўка кабіны, але машына мчалася...

І толькі калі, скрыжаваўшыся перад машынай, з розных бакоў ударылі зіхоткія featnaкаляровыя трасы, машына рэзка збавіла ход і пачала хіліцца ўбок, да канавы. Агееў схапіўся за руль, намагаючыся вывернуць яго ўправа, але руль не паддаваўся, сціснуты ў руках шафёра, які наваліўся на яго грудзямі і маўчаў. І тут машына спынілася.

Агееў зваліўся з кабіны, ледзь не наскочыўшы на нейкага чалавека ў канаве, які са злосным мацюгом увярнуўся ад ягоных ботаў, і Агееў з палёгкай здагадаўся: свае!

Сапраўды, гэта былі свае, а чалавек, якога ён ледзь не стаптаў у канаве, быў начальнік штаба першага батальёна старшы лейтэнант Карбоўскі. Яны абодва тут жа кінуліся па той бок машыны, выцягнулі з кабіны грузнае цела шафёра і апусцілі яго на зямлю. Дапамога таму ўжо не спатрэбілася. Немцы ў полі запознена свяцілі ракетамі, але страляць перасталі. У цёмных прамежках паміж ракетамі байцы хутка разгрузілі нахіленую ў канаву машыну з двума прастрэленымі скатамі, старшыны размяркоўвалі гранаты паміж групамі прарыву. Калі ўсё было скончана, з цемры выйшла некалькі чалавек, яны ціха размаўлялі, і сярод іх Агееў пазнаў хрыплаваты голас камандзіра палка:

- Дзе Агееў? Паклічце Агеева!

Агееў скалануўся і сцяўся - ён не забыўся, што яму нядаўна яшчэ было абяцана гэтым чалавекам, і цяпер з абмерлым сэрцам ступіў да яго на вясковую вуліцу.

- Я тут, таварыш кампалка.

- Ты, Агееў? Малайчына, начбой! Ты нас здорава выручыў. Дзякуй табе, начбой!

- Дваццаць сем скрынак «лімонак», - ціха сказаў хтось з цемры.

- Дваццаць сем скрынак! Во як трэба ваяваць! І давёз! Прарваўся! Ну, а мы што ж - няўжо не прарвёмся адсюль? Байцы мы або гаўнюкі пасля таго? Начштаба! - цішэй сказаў камандзір палка. - Трэба яго ўзнагародзіць. Вырвемся - аформіце...

Яны перайшлі вуліцу і зніклі ў цемрыве - мабыць, пайшлі па ланцугу ў флангавы батальён. Агееў апусціўся ў пыльную канаву, раптам адчуўшы, як выматаўся за гэты пракляты дзень - без начнога спачыну, пасля такой калатнечы. Галава пачала міжвольна хіліцца на грудзі, і толькі ён на хвіліну забыўся, як тут грымнула, асляпіла - першы выбух падняў паблізу ашмоцце зямлі - немцы пачалі абстрэл вёскі. Ён упаў у канаву, у якой, аднак, доўга ляжаць не

далі - прыбег баец з загадам з'явіцца да камандзіра палка. Пад абстрэлам яны абодва пабеглі з вёскі ў поле, раз за разам падаючы ад блізкіх выбухаў, і ледзьве знайшлі маёра Папова, які сядзеў у свежай варонцы на ўзмежку жытняй нівы. З групай камандзіраў ён рыхтаваў прарыў, і як толькі Агееў уваліўся ў варонку, сустрэў яго злосным дакорам:

- Доўга вымушаеце чакаць вас, Агееў!

- Дык я бягом...

- Не бягом - куляй трэба! Во! Будзеш камандаваць флангавай групай прарыву. Зразумела?

Агееў памарудзіў з адказам, бо, хоць і трэба было адказваць, яму нічога не было зразумела. Хутчэй наадварот - усё было незразумела.

- Сорак чалавек, два кулямёты. Ваш намеснік - лейтэнант Рагоўцаў. Ён у курсе.

- Ёсць, - вяла сказаў Агееў.

- І напор! Напор, напор! - трохі больш супакоеным, чым раней, голасам настаўляў камандзір палка. - Адразу наваліцца, гранаты к бою, з ходу прарваць і - наперад! Збор на паўночнай ускраіне вёскі Хатулі. Панятна?

- Ясна, - зноў без належнага ўздыму сказаў Агееў, бо не меў уяўлення, дзе былі тыя Хатулі, дзе немцы. Хіба што пра гэта ведаў лейтэнант Рагоўцаў.

- А раз ясна, дык па мястах! У дзве ноль-ноль пачынаем брасок.

Снарады рваліся трохі ўбаку, на тым канцы вёскі. Хтосьці крануў Агеева за плячо, і ён здагадаўся, што гэта лейтэнант Рагоўцаў. Яны выскачылі з варонкі і, сцёбаючы ботамі ў рэдкай збажыне, пабеглі кудысь убок ад вёскі.

- Наогул сорак чалавек, - на бягу тлумачыў Рагоўцаў. - Але дванаццаць параненых. Чацвярых несці трэба -

яшчэ восем чалавек. Па двое на насілкі.

У Агеева разломвалася галава - ад стомы, перажытага, ад непамернага клопату, які зваліўся на яго так нечакана. Было цёмна, у небе гулялі водбліскі і цені ад ракет, якія пускалі немцы па той бок дарогі, гэтыя водбліскі хісткім няпэўным святлом, аднак, падсвятлялі наваколле - поле, нейкія пасевы, асобныя рэдкія кусцікі, а дзе тут заселі немцы - ён не меў уяўлення. Ён баяўся нечага не паспець, не распарадзіцца як трэба, бо часу, напэўна, засталося няшмат, вось-вось насунуцца дзве гадзіны ночы, калі трэба пачынаць прарыў. Прарыў з дванаццаццю параненымі...

Агееў не ведаў, як і з чаго пачынаць, каму і якую ставіць задачу. І калі яны дабраліся да сваёй групы і Агееў разгледзеў у цемры постаці байцоў, што сядзелі і ляжалі на зямлі, ён сказаў проста:

- Братцы! Вы ведаеце наша становішча?

- Ну, здагадваемся, - не адразу сказаў хтосьці з байцоў. Параненая рука яго бялела ў цемры свежым бінтам.

- Становішча ахавае. Трэба прарывацца. Дружна, усе разам, гранатамі, штыкамі і - наперад! Параненых несці па двое. Трэці для падстрахоўкі. Трэба размеркаваць.

- Параненыя размеркаваны, - сказаў лейтэнант Рагоўцаў.

- Тады падрыхтавацца. Па маёй камандзе...

Ён дастаў з кішаня свае «кіраўскія», нехта пасвяціў ліхтарком - было без дваццаці мінут дзве гадзіны. Хваляванне ахапіла Агеева з новаю сілай, праз некалькі хвілін у гэтым полі ён зноў счэпіцца з апантанаю сілай агню, можа, будзе забіты ці паранены, але галоўнае - яму трэба прарвацца з гэтаю групай байцоў, інакш... Інакш навошта яго прыслалі сюды? Як ён затым паявіцца перад камандзірам палка, які во паверыў, што ён можа, што ён лепшы за іншых. Бо даверылі камандаваць яму, а не каму іншаму. Не, загінуць цяпер

было не самае страшнае - страшней было не выканаць загад, зганьбіць сябе. Гэтага Агееў дазволіць сабе не мог.

Яшчэ двойчы ён зазіраў на гадзіннік і роўна ў дзве ўскочыў на дрыготкіх ад стомы нагах, здушана кінуў: «Наперад!» і пайшоў у цемру па стаптаным, зблытаным жыце. Справа і злева ад яго таксама ўсталі і пайшлі - няроўным загнутым ланцугом, трохі прыгінаючыся, часам спатыкаючыся нагамі ў недаспелым жыце. Спярша ішлі быццам няспешна, але спакваля тэмп хады пачаў нарастаць, мабыць, кожны баяўся адстаць, і вось ужо амаль усе беглі па жыце, і шум ад ног не на жарт стаў трывожыць Агеева. І ўсё ж некалькі хвілін немцы іх не заўважалі, тут, на флангу, нават не ўзляталі ракеты, і ён нясмела падумаў: можа, яшчэ ім пашанцуе прарвацца без бою. Але толькі ён гэтак падумаў, як аднекуль наўкось у полі сцёбнулі агняна-зіхоткія ў цемрыве трасы, побач хтось ціхенька войкнуў, хтосьці ўпаў - забіты ці, можа, ратуючыся ад куль. І ён, спалохаўшыся не гэтых трас, а таго, што зараз усе пападаюць пад агнём, ужо не тоячыся, люта закрычаў: «Наперад! Наперад!», стрэліў з пісталета і што было сілы пабег, заплятаючыся нагамі ў пругкіх жытніх сцяблах.

Мабыць, ім усё ж пашэнціла: спярша немцы іх праваронілі і заўважылі пазнавата. Аўтаматныя чэргі разарвалі цішыню ночы, грымнула некалькі гранатных выбухаў, яшчэ ўдарыў аўтамат, але гэта там - збоку. Наперадзе ж было ціха, падобна было на тое, што яны ўсё ж адольвалі лінію абароны немцаў ці нават ужо прарваліся ў іх тылы. Затое зводдаль, каля дарогі, пачаўся грымотны бой, дзесяткі кулямётных трас сцябалі адтуль ва ўсіх кірунках, грымелі гранатныя выбухі, угары заверашчалі нямецкія міны. Там жа амаль няспынна свяцілі гірлянды нямецкіх ракет, паласуючы начное неба пакручастымі слядамі дымоў, водсветы іх сполахамі гулялі ў начной прасторы, цьмяна асвятляючы поле і чалавечыя цені ў ім. У часе іхняга бліскання Агееў акідваў позіркам жыта і заўважыў у калоссі таропкія рухі ягоных байцоў. Усе беглі, брылі,

знікалі ў доле і паяўляліся зноў - хто як мог, з апошніх намаганняў, даўно ўжо расцягнуўшы і зблытаўшы баявы парадак, аднак цяпер было не да парадку. І ён нічым не мог памагчы тым, што адсталі, трэба было спяшацца, пакуль іх не накрылі агнём, прарвацца з гэтага поля, дасягнуць Хатулёў, якія, мяркуючы па ўсім, былі на ўсход ад спаленага нямецкай авіяцыяй фальварка.

Яны ўжо міналі поле, наперадзе цямнелася кустоўе ці, можа, той малады сасоннік, дзе акапваўся другі батальён, што надвячоркам вырваўся з вёскі. Агееў прымарудзіў хаду, каб даць магчымасць падцягнуцца астатнім. Ён ужо разы два з палёгкай уздыхнуў, тым больш што ашалелая ўпачатку страляніна ля вёскі быццам бы стала сціхаць - падобна было на тое, што галоўная група на чале з камандзірам палка таксама прарвалася. І калі да сасоннічку засталося падаць рукой, усяго якіх-небудзь сто крокаў, раптоўны кінжальны агонь адтуль па ўсёй яго расцягнутай групе змусіў іх кінуцца долу. Жыта тут ужо скончылася, пад нагамі блыталася-ляскацела густое бацвінне, здаецца, яны ішлі бурачным палеткам і пападалі, дзе каго застаў гэты пякельны агонь. Агонь быў такі шчыльны, што чэргі ішлі ў паветры суцэльным шматслойным патокам, гарачым подыхам абдаючы спіны і галовы байцоў, якія з усяе сілы ціснуліся ў цвёрдую, высушаную спёкай зямлю. Яны разгублена змоўклі, ды і чым яны маглі адказаць? Галоўнай іх сілай былі гранаты, але кідаць гранаты было яшчэ далёка. І тады, трохі паляжаўшы і аддыхаўшыся, Агееў зразумеў, што яшчэ некалькіх хвілін бяздзейнасці - і яны ўсё назаўжды застануцца тут, на гэтым бурачным полі. Ён сунуў за пазуху пісталет і схапіў у абедзве рукі па «лімонцы».

- Устаць! - закрычаў ён на ўсё горла, каб перакрычаць грукат бою. - Уперад!!

Гэта быў ашалелы рывок насустрач пагібелі. Уцалець пад такім агнём, напэўна, не было чаго і думаць, але ўсё ж і яшчэ нехта ўскочыў, кінуўся наперад, прыгнуўшыся, яны пабеглі ў мільгаценні трас да ўзлеску, на хаду

кідаючы перад сабой гранаты. Блізкія іх выбухі шыбанулі на Агеева пылам і дымам, аглушылі на правае вуха, але ён ужо быў на ўзлеску і яшчэ шпурлянуў у кустоўе гранату. Выбухі гранат скаланалі наваколле справа і злева, пасля чамусьці ззаду, здаецца, і немцы пачалі кідаць у іх свае булдавешкі-палкі - адна праляцела ля самай галавы Агеева, і ён ледзьве паспеў адхінуцца. У той жа момант яго дужа выцяла па назе вышэй калена, спярша ён нават падумаў, што наскочыў на якую патарчаку ў кустоўі, але не - удар быў занадта хлёсткі, нагу балюча скруціла, як ад сутаргі, і па штаніне ў бот паліліся гарачыя струмені крыві. Ён упаў - не ад болю, пры адной толькі думцы: ці не перабіта косць? Тут жа ўскочыў - не, нага не зламалася, значыць, косць уцалела, але кроў усё цякла - у боце ўжо ацяжала і захлюпала. Напэўна, трэба было спыніцца, перавязаць рану, ды момант для таго быў самы непрыдатны - уцалелыя байцы яго групы ўцягваліся ў кустоўе, якога тут аказалася зусім трохі - вузкі сагнуты клінок, пасля зноў ішло поле. І ён бег, асядаючы на левую нагу, з ім побач беглі два ці тры чалавекі, яшчэ беглі ззаду, але ў начной цемры нельга было зразумець, колькі іх выскачыла з кустоўя.

Здаецца, яны прарваліся, страляніна ззаду пачала аддаляцца. Ракеты густа падсвечвалі неба таксама наводдаль, за сасоннічкам ззаду, наперадзе была цемра і цішыня бязмесячнай летняй ночы. Агееў пайшоў цішэй, ён дужа кульгаў і зусім не мог бегчы. Усё болей балела нага, ды і не засталося ўжо сілы - байцы выдыхнуліся дарэшты і брылі па полі, куды іх вёў камандзір. Усе падаўлена, знямогла маўчалі.

Наткнуўшыся ў цемры на ледзьве прыкметную ў полі дарожку з бярозкамі абапал, Агееў спыніўся. Трэба было перавязаць нагу, аддыхацца, пачакаць задніх, параненых. У тую ноч пад бярозкамі іх сабралася семнаццаць, амаль усе былі паранены, траіх прынеслі на палатках.

Ужо добра развіднела, калі яны дабраліся ўрэшце да невялічкай лясной вёскі Хатулі, але нікога з палка там

не знайшлі. Некалькі гадзін счакаўшы, яны зразумелі, што апынуліся той адзінай групай, якой удалося прарвацца. Усе астатнія на чале з камандзірам палка, наткнуўшыся на значныя нямецкія сілы, паляглі на бурачным полі, не дасягшы сасонніку. Гэтую вестку прынеслі ў Хатулі некалькі апошніх параненых, што ўжо на світанку неяк уратаваліся ад немцаў.

Калі пачало змяркацца, Агееў пастроіў рэшту сваёй невялічкай групы і палявымі шляхамі павёў яе на ўсход, наўздагон за лініяй фронту.

Пад Лідай яны далучыліся да групы маёра са штарма, у якой апынулася некалькі чалавек з тылоў іх разгромленага палка і сярод іх - ягоны саслужывец лейтэнант Малаковіч.

**Раздзел другі**

У той дзень паліў дождж - сабраўся нарэшце ў пару спякотнага лета, калі настаў час уборкі. Пад вечар з-за могілак успаўзла ў неба сіне-чорная хмара, наляцеў вецер, дрэвы цягуча зашумелі, трапяткая лістота вывернулася пад вецер срабрыстай падкладкай. Агееў падумаў спярша: пярэйдзе, перагоніць хмару і зноў будзе сонца. Ён не хацеў вылазіць з кар'ера, на сёння засталося зусім мала - скапаць ля самага глыбокага месца пад заходнім абрывам. Але першыя буйныя, па гарошыне, кроплі, якія хлёстка сцебанулі яго па плячах, далі зразумець, што не пярэйдзе - памочыць як трэба, і ён, прыхапіўшы рыдлёўку, вылез з кар'ера. Пакуль бег да палаткі, дождж абрынуўся з апантанай, амаль ашалелай сілай, вецер ірваў з усіх бакоў, ён ледзьве дабег да палаткі і, пакуль развязваў матузы на ўваходзе, прамок да апошняй ніткі. Трэба было пераапранацца, выліваць ваду з кедаў.

Пасля пад густое лапатанне дажджу па парусіне да самага вечара сядзеў у палатцы, чакаючы, калі сціхне. Часам лівень быццам бы пачынаў слабець, вадзяныя патокі, якія ён назіраў праз выраз у палатцы, нібы радзелі, туманна праглядвала з могілак цёмная сцяна

старых дрэў, каменная сцяна ўнізе, але неўзабаве лівень усчынаўся з новаю сілай, і могілкі зусім знікалі ў мільготкай мітусні дажджу. Перад палаткай па ледзь бачнай у траве сцяжынцы імкліва бег уніз мутны ручай, які нёс на сабе клочча сухой травы, насякомых, markdown рознае смецце, і Агееў падумаў, што добра зрабіў, калі два дні таму абкапаў палатку - не так для патрэбы, як для парадку, прачытаўшы аб тым у маладзёжнай газеце. Зрэшты, мелкая канаўка нядоўга яго ратавала, недзе ўсё ж прарвала, і на доле ў палатцы паволі расплылася шырокая цёмная пляма. Накінуўшы на плечы куртку, Агееў вылез пад дождж.

Зноў добра намокшы і ўжо не зважаючы на дождж, ён пачаў капаць новую канаву, каб адвесці ў яе самы небяспечны паток вады, калі сярод мігацення дажджавых струменяў ля могілак згледзеў згорбленую, даўганогую постаць па накінутым на галаву празрыстым поліэтыленавым абрыўкам. Сігаючы цераз лужыны і патокі вады, што несліся з пагорка, чалавек кіраваў да ягонай палаткі, і Агееў хутка пазнаў у ім свайго тутэйшага знаёмца Сямёна.

- Го-го, прывет! Не змыла цябе тут?.. Во, надумаў праведаць хутаранца.

- Не змыла, але падмывае. Залазь, не мокні.

Сямён спрытна расхінуў адною рукой настылы на плячах поліэтылен, сагнуўшыся, на каленях залез у палатку. Следам улез і Агееў.

- Ну, паліло!.. Паліло што трэба. Во каб з вясны! Летам каб. А то цяпер, на ўборку. Совесці ў яго яўна няма, у бога таго.

- Бог ні пры чым.

- Ну, не бог, дык людзі. Раскалупалі космас. Парадку няма. То сушыць, то лье.

Госць, крэкчучы і сморкаючыся, уладкаваўся ў мокрай цеснаце палаткі, няўклюдна падабраў пад сябе доўгія

ногі ў брудных гумовых ботах; на ім была жоўтая макраватая тэніска, з левага рукава якой дзіўна, бы не ў лад, варушылася ссохлая кульця са зморшчанай на канцы скурай. Спрытна, аднак, упраўляючыся другой, здаецца, занадта доўгай, учэпістай рукой, Сямён выцяг з кішэні бліскучую паўлітроўку са збоўтанай малінавай вадкасцю.

- Во, гэта самае... З нагоды пагоды.

Нязручна прымасціўшыся ля ўвахода, Агееў унутрана паморшчыўся: пасля другога інфаркту, што здарыўся год назад, ён стараўся не піць ні віна, ні гарэлкі, але цяпер, адчуваючы лёгкія дрыжыкі ў мокрым целе, падумаў: «А, вып'ю! Будзь што будзе». Да таго ж гэтая прапанова малазнаёмага чалавека не здалася яму ні абразлівай, ні празмернай, хутчэй наадварот - настройвала на таварыскасць і ветлівасць.

- Тару якую, - азірнуўся Сямён.

Агееў знайшоў у куце палаткі невялікую пластмасавую шкляначку - для сябе, для госця ж зняў з тэрмаса кварту. Сямён спрытна падчапіў зубамі металічны каўпачок з бутэлькі.

- Зубы зламаеш, - сказаў Агееў.

- Нічога! Жалеза на жалеза. Вытрымае, - адказаў Сямён і засмяяўся - прастадушна, зусім па-дзіцячы, бліснуўшы металічнымі зубамі. Агееў глядзеў на яго немалады, у зморшчынах, з няголеным падбароддзем твар і думаў, што, мабыць, яны блізкія па ўзросту, мо нават аднагодкі.

- А ты родам адкуль? - запытаў ён, хаця ўжо ведаў, што Сямён прыезджы і жыве ў пасёлку некалькі апошніх гадоў.

- Я? А смаленскі, з-пад Ярцава. Чуў?

- Чуў. Блізка...

- Блізка, - ахвотна пагадзіўся Сямён. - Я так лічу: што

Смаленшчына, што Беларусь - адзін чорт. Бульбянікі. Ну, давай вып'ем. Ілья ж сёння.

- Во як!

- Ілья нарабіў гнілля. І я табе скажу: правільна заўважана.

Яны выпілі. Агееў не да канца, пакінуўшы ў сваёй шклянцы на другі раз. Сямён жа за тры глыткі ўвабраў усё да дна і страсянуў пад дождж апошнія кроплі з кварты. Агееў падумаў, што трэба было б пашукаць што на закусь, але госць адразу схапіўся сваёй учэпістаю рукой за туга напханую кішэню і выцяг адтуль скамечаны пачак «Прымы».

- Курыш? Не? Ну, дык я задымлю.

Неўзабаве цесная нізенькая палатка напоўнілася цыгарэтным дымам, Агееў няўзнак шырэй расхінуў брызент на ўваходзе. Ён быў трохі насцярожаны і пабойваўся, што Сямён пачне пытацца ў яго, навошта ён капае тут, у гэтай яміне. Але Сямён ні пра што не пытаўся ні пры іх нядаўнім знаёмстве, калі неяк ранічкай забег у кар'ер закурыць, ні пасля. Здаецца, гэты чалавек меў не часты ў ягоным узросце лёгкі, гаваркі нораў і ці то ад прыроднай ветлівасці, ці з-за адсутнасці цікавасці да чужых спраў не набіваўся з роспытамі. Агееву гэта ўвогуле было даспадобы.

- Руку дзе згубіў? - кіўнуў ён на яго кульцю.

- На вайне, дзе ж! Руку што - руку згубіў, жыць застаўся. Мог жызню згубіць.

- Гэта канечне, - пагадзіўся Агееў.

- Точна! Рука - яна перабіта была, а дзяржалася. Гэта ў шпіталі адцяпалі. А во тут горай!

Сунуўшы цыгарэту ў зубы, ён усё той жа рукой тузануў за ніз безрукаўкі, агаліўшы шырокія кашчаватыя грудзі са страшным сінім рубцом у правым баку.

- Во саданула. Мёртвым суткі ляжаў. Крывёй сплыў. Бушлат да зямлі прымёрз, ададраць не маглі. Ану яе!.. Давай яшчэ патрошку.

Ён падставіў шырокую кварту, Агееў наліў яму і сабе і, перш чым выпіць, падумаў, што, мабыць, болей не трэба. Гэтую яшчэ вып'е, і ўсё. Сямён жа з ранейшай ненасытнай прагнасцю выпіў да дна, глыбока зацягнуўся «Прымай».

- Гляджу, малавата бярэш. Ці мо апасаешся? - хітравата прыжмурыўшы праз дым адно вока, уставіўся ён у Агеева.

- Апасаюся, - сказаў Агееў. - Ужо, знаеш, званочак быў.

А, ерунда гэтыя званочкі! У мяне ўжо колькі было іх. І лічыць перастаў. А вып'ю калі - палягчэе. Дык во думаю: каб не піў, даўно б ужо зямлю парыў. - Ну, гэта як сказаць.

- Точна! Вунь Шумакоў Даніла Васільевіч: і званкоў не было, і ўжо як сцярогся. Выйшаў на пенсію, не піў, не курыў. Раніцой усё рукамі махаў, гімнасціку рабіў. Памёр! Вясной пахавалі. На сем гадоў маладзейшы.

- Каму як.

- Во, іменна. Каму так, а каму гэтак. Я табе скажу: каму чаго хочацца, таму бог таго і не дае. А каму пляваць на што-небудзь, таго ў таго навалам. У жыцці не трэба быць сквапным! - з націскам скончыў Сямён.

- Яно так...

Сямён прыкметна п'янеў, і Агееў адчуў невялікую прыкрасць, падумаўшы, што цяпер разгаворыцца і трэба будзе доўга слухаць яго балбатню, а ён даўно не любіў захмялелых балбатуноў. Аднак Сямён прымоўк, штосьці ў ягоным бесклапотным настроі пачало мяняцца, і ён, дакурыўшы цыгарэту, ціха запытаўся:

- Франтавік?

- Ды як сказаць, - трохі збянтэжыўся Агееў. - У сорак першым - на фронце, параніла. Пасля ваяваў у партызанах. Пасля зноў...

- У парцізанах тожа не мёд. Скажу табе, пад канец вайны ваяваць навучыліся, але што паявілася - хітрасць. Каб выжыць! Стала магчымым выжыць. Во некаторыя і ўхапіліся за гэтую магчымасць. Хітрыя каторыя... Давай разлівай рэшту, чаго там...

Агееў наліў - зноў сабе трошкі, астатняе выліў у кварту, якую з гатоўнасцю падставіў Сямён. За палаткай роўна і спорна ліў летні дождж, дым ад цыгарэты ляніва цягнуўся да выхада. Ад выпітага Агееву стала цяплей, з адвыкласці ад спіртнога паявілася лёгкае кружэнне ў галаве і нейкая міжвольная добразычлівасць да гэтага гаваркога госця.

- Я, знаеш, пад канец вайны ўжо быў нестраявы, - стрымана паведаміў Агееў, кранугы ягоным пытаннем. - Так што, як там было на перадавой у канцы, не ведаю. Не бачыў.

- А я паглядзеў. На некаторых палюбаваўся. Адзін такі ледзьве на той свет не справадзіў. Енакаеў фамілія, век не забуду.

Ён сядзеў у палатцы, трошкі прыгорбіўшыся, па-ўсходняму склаўшы перад сабой мокрыя, у ботах, ногі, са звыкла спушчанай на рассунутыя калені рукой. Гэтая рука, аднак, была ўся ў руху, памагала яму жэстамі, то складваючы пальцы рубам, то матляючы імі ў паветры.

- Енакаеў... Старшына разведроты. Нічога, старшына быў дзелавіты, умеў парадак трымаць. Кадравы служака, не які там з запасу. Далёкаўсходнік. Я ж таксама далёкаўсходнік, дзяйствіцельную ў Градэкове служыў, на Хасане быў, ага. Калі ў сорак чацвёртым з папаўненнем прыйшоў у дывізію, у гэтага Енакаева чатыры ордэны на гімнасцёрцы. Строгі такі, але не прыдзірлівы, не разявала па-дробнаму. І з хлопцамі мог ладзіць - ну, там па сто грамаў ці кімарнуць лішнюю

гадзіну. Ведама, старшына, у ягоных руках усё. Афіцэры, яны болей пра дзела пякліся: разведка там, языкі... Ах гэтыя языкі, каб ім прапасці! Папоўзаў я там па нейтралках, пацёр бруха. Іншым часам, як станем, бывала, у абарону, - кожную ноч. Поўзаеш, поўзаеш, на каленях скура аблезе, ну, прыцягнеш якога фрыца, думаеш: цяпер ужо хоць дадуць выспацца. Дзе там! Не той фрыц, мала знае. Сцямнее - зноў давай! А калі ў яго наладжаная абарона? Дрот, міннае поле, ракеты, кулямёты. На Вісле пяць начэй запар поўзалі - нізашто! Блізка падпусціць, асвеціць ракетамі - і з кулямётаў. Уціснешся ў зямлю, ляжыш, чакаеш: авось перастане. А ён і не думае пераставаць, што яму - патронаў шкада? Патронаў, ракет у яго навалам, не тое, што ў нас. Ну, і лупіць. А ў нас сховішча ніякага, ляжыш на роўнядзі, бы на стале. Адно што каскі на галовах. Во ляжыш і чуеш, як то справа, то злева хрась-хрась! Як шкарлупа на арэхах. І куля - наўздоўж цела да заду. Не знаю, як хто, а я на вайне болей за ўсё баяўся такой во кулі - наўздоўж цела. Упоперак чамусьці не дужа палохала: праб'е грудзі ці там руку, нагу, неяк звыклае дзела. А вот калі наўздоўж - ад макаўкі да заду - страшна падумаць. Праўда, яшчэ і за жывот баяўся...

- За жывот усе баяліся, - сказаў Агееў. - Уязвімае месца.

- Уязвімае, нічога не скажаш. Бачыў параненых, не дай бог. Галоўнае - нутраное даўленне называецца. Там, у кішках. Нават ад маленькай кулявой ранкі як пырхнуць з жывата. Клубком. Сінія, з крывёй і парок ідзе, калі на холадзе. Параненыя каторы ад страху іх назад у бруха піхае. Ды дзе там! Ужо кранты. Калі вылезлі, тваё дзела кончана, ужо і дактары не памогуць. Помню, адзін такі - малады, рослы хлапец - прыбег прама ў санбат. З поля бою вёрст пяць шыбаваў, каб хутчэй, значыць. Зрабілі аперацыю, зашылі. Пажыў тры дні і адкінуў капыты. Заражэнне, ніякі доктар не паратуе.

- Тады ж не было ні пеніцыліну, ні антыбіётыкаў.

- То-та і яно! Чым ратаваць? Доктар - ён жа таксама не бог. А пасля што ж, з ім адным валэндацца? Тут іх сотні ў чарзе, калі баі, усім трэба памагчы, асколкі

павыцягваць...

Першае ажыўленне ад віна, мабыць,міналася, Сямён некурыўся і быццам бы стаў спакайнец, рука на каленях трохі запаволіла жэсты. На рудым ад загару, у рэзкіх зморшчынах твары паявіўся прыкметны цень заклапочанасці, даўняга суму ад перажытага.

- Ага, Енакаеў па тым часе ўжо меў шэсць раненняў. Гэта не жарты. І з усіх выкараскаўся. Жылаваты мужык быў, нічога не скажаш...

Той раз мы ішлі па языка - трэцюю ноч запар. Толькі напярэдадні прыцягнулі двух фрыцаў, ну, думаем, цяпер хоць выспімся, падсохнем, накурымся. Чорта з два! Аказваецца, трэба ўжо новыя даныя, ужо ў баку ад абароны, на поплаве, каля рэчкі, балоцістай такой, чорт бы яе ўзяў! Ледзь яна мяне не ўгробіла, рэчка тая. Пастроілі групу - сем чалавек. Чацвёра ў групе захвату, трое ў прыкрыцці. Камандзір - старшына Енакаеў. А, нада сказаць, хлопцы ў нас усе маладыя, праўда, усе ўжо абстраляныя, некаторыя і з медалямі, але маладыя, што зробіш. Толькі я ды Енакаеў трохі старэйшыя - мне ішоў дваццаць шосты год, Енакаеву, мабыць, столькі ж. Ну, у маладых яшчэ дурноты поўна, форсу, такога, што во нам напляваць на фрыцаў - трэба, дык возьмем. А заб'юць каторага, тожа напляваць - не мы першыя.

Пайшлі апоўначы, цемра - як у ж..., вецер настырны, голае балота пад нагамі, трошкі прымарозіла, але ўсё правальваешся, пад нагамі чвякае, думаеш: хоць бы немцы не ўчулі. Там, канечне, міннае поле, наша і нямецкае, дык сапёры звечара пастараліся - зрабілі праход. (Які там чорта праход: знялі некалькі мін - і паўзі.) Добра, яшчэ прычакалі, паказалі вешку - пруцік такі паставілі. «Ой, думаю, добра адсюль - пруцік, а як назад? Дзе яго, гэты пруцік, знойдзеш у цемры?» Але маўчу, ведаю: пра такія думкі ды ў такі момант лепш памаўчаць. Папаўзлі адзін за адным. Наперадзе Енакаеў, група захвату, я быў старшы ў прыкрыцці. Паўзлі рыўкамі. Ён жа ракеты шпурляе адну за адной. Во ў кароткія прамежкі, па-цёмнаму, і паўзём. Як толькі пырхне ракета - галаву ў зямлю, адзін зад тырчыць, як

купіна. Маскіруе. Куп'я там шмат было, гэта і выручала.

Словам, дабраліся да першай траншэі, чуем, там гергетня - не спяць, значыць, і многа - некалькі галасоў. Трэба б пачакаць. Усё ж такі ноч, пэўна ж, прыціхнуць, паснуць, вось бы аднаго і ўзялі. Але ж не параіш у такі момант, усе маўчаць, а Енакаеў гэты забірае ўбок, далей ад гэтых гергетуноў, туды, дзе цішэй. Яно, ведама, так здалося зручней. Але... Нешта мне стукае ў галаву: кепска робім, не трэба ўбок, пачакаць лепш.

Папаўзлі. А тут яшчэ, чорт бы яе ўзяў, траншэя паварочвае кудысьці ў іх тыл, загагулінай у глыб іхняй абароны; бруствер хаця і замаскіраваны, але ўсё ж трошкі прыкметны на фоне неба. Значыць, уздоўж траншэі паўзём. Горш не прыдумаеш! Але пакуль што быццам усё спакойна, усё ж мы наводдаль метраў за сто ці за дзвесце ад іх. Пасля счакалі, прытаіўшыся, і чацвёра з захвату павярнулі да той траншэі. Мы прыкрываць засталіся. Чакаем. Карацей кажучы, праз гадзіну ці паўтары цягнуць на палатцы фрыца - аглушылі, заткнулі анучай рот і цягнуць. Цяпер трэба змывацца.

А часу, скажу табе, усё мінула процьма, час за такой справай наогул кепска заўважаецца, бяжыць ён або стаіць - чорт яго ведае. Як калі. Гадзінніка ў нас не было, мабыць, мы правалэндаліся занадта, прамарудзілі. Гляджу назад, святлее наўродзе краёчак неба, як бы світаць не пачало. Ну, хлопцаў з языком прапусцілі, цяпер мы ззаду, значыць, бліжэй да немцаў. Адкрыюць агонь - на сябе яго прыняць павінны. А немцы пад ранак таксама, відаць, прымарыліся, ракеты радзей узляталі, кулямёты, праўда, пастрэльвалі сюды-туды, але не па нас. Нас яшчэ не заўважылі. Увогуле ўсё чыста было зроблена. Калі б не адно але. А гэтае але там і аказалася, дзе я баяўся: Енакаеў-то праход цераз міннае поле згубіў. Яно нічога ў тым дзіўнага ў такім цемрыве ды на балоцістым поплаве - ніякіх табе арыенціраў. Вешка! Шукай цяпер гэтую вешку. Пасля такой крутні па нейтралцы.

Не ведаю, хто там у яго поўз наперадзе, тожа, напэўна,

такі ж самы лапух, як гэты Енакаеў, толькі раптам як шандарахне, аж зямля закалыхалася. Бліснула, асляпіла, і што тут пачалося! Як сталі лупіць па ўсім поплаве - уздоўж, упоперак, крыж-накрыж, трасы, ракеты, дзесятак зараз. Ляжым ні жывыя ні мёртвыя, стаіліся, маўчым. Добра яшчэ: мы на балоце і немцы на балоце, ім таксама на роўнядзі няшмат, відаць, ірванула, а дзе - толкам не ведаюць. Празявалі ўначы. Як трошку ўнялося, бачу - пярэднія пайшлі, завілялі задамі, папаўзлі, значыць. Думаю, а раптам вырвемся. Яшчэ, можа, метраў шэсцьсот засталося. І тут злева як шандарахне сцюдзёным ашмоццем па мордзе, вочы заляпіла, і зноў - агонь па ўсім поплаве. Тут ужо і нашы ўдарылі, мінамёты, па іх перадку - гудзіць і трашчыць, уся акруга хадуном ходзіць. Але што рабіць нам? Сядзім на мінным полі, гэта і дураку ясна. А дзе той праход? Не ўстанеш, не азірнешся. А тут, на бяду, край неба святлее ўсё болей - стала віднець. Во ўлезлі, дык улезлі! Улопаліся!

Паляжалі так, трошкі аклямаліся, паварочваецца Яшчарыцын, што перада мной поўз, баец з захвату, ківае: Енакаеў заве! Што яшчэ такое, пад агнём, думаю, перастрайвацца, выбраў час. Але што рабіць - папоўз. Енакаеў ляжыць ў балоце, сам у гразі ўвесь, побач на палатцы і язык. Енакаеў хрыпата так шэпча: «Сямёнаў, упярод! Даставай фінку і - упярод!» Кажу: «А прыкрыцце?» - «Упярод!» - сіпіць і фінкай трасе перад мордай, маўляў, пасмей адмовіцца! Ну што ж, думаю, усё панятна. Хаця па ўставу я цяпер далжон быць ззаду, але калі на міны налезці, то, канечне, Сямёнаў - упярод! Сямёнаў падрывайся, а Енакаеў языка даставіць. У цэласці і сахраннасці.

Аднак што зробіш - мусіў паўзці. Ад крыўды фінкай у купіны тыкаю да самай ручкі: быццам пакуль нічога - мяккая балацявіна. Прапоўз так, можа, метраў сто пяцьдзесят, як раптам пад нажом штосьці цвёрдае. Уваткнуў лязо і баюся выняць - чорт яе ведае, а раптам ірване. І што рабіць? Азірнуўся. «Міна», - шапчу. Енакаеў махае, прыгнуўшыся, - маўляў, адпаўзай убок. Раз уткнуў фінку, другі, а трэці ўжо не паспеў. Як у

прорву агняную... З усяго маху. Толькі звон пакаціўся кудысьці, усё далей, далей, і ўсё сціхла.

- Рванула, значыць?

- Рванула. І што дзіўна: болю ніякага не адчуў. Быццам прыдушыла чымсь. І расплюшчыла. Такое адчуванне. Слухай! - раптам сказаў Сямён, зганяючы з твару выраз невясёлага клопату. - Давай злётаю яшчэ па адну. А то што на сухую баіць?..

- А не хопіць? - усумніўся Агееў. - І дождж.

- Дождж перастае. Ну, глядзі, радзей стаў, - сказаў Сямён, адхінаючы парусіну на выхадзе.

Дождж яшчэ сыпаў, хаця, можа, і не такі, як раней, ручай на зямлі ля палаткі прыкметна вузеў, пакідаючы на траве намытыя космы смецця, травы, пяску. Агееў разумеў, што цяпер адгаворваць - марная справа. Сямёна ўжо не спыніш. Ён вылез з палаткі і даў вылезці госцю.

- Я счас. Айн мамент, як гаварылі! - кінуў Сямён на хаду, адной рукой накідваючы на плечы каляны, непаслухмяны на ветры лахман поліэтылену.

Чакаючы Сямёна, Агееў сядзеў у палатцы, праз нізкі трохкутны выраз глядзеў, як мітусяцца, снуюць па траве ледзь парадзелыя струмені дажджу, і думаў: добра гэта ці не, такая вось уласцівасць чалавека - проста і адкрыта расказваць пра сябе першаму сустрэчнаму - падрабязна, пра ўсё, па шчырасці. Нават калі-небудзь і сам выглядаеш не надта прыгожа, калі дзе і памыляўся. Канечне, праз столькі гадоў можна дазволіць не надта далікатнічаць са сваім мінулым, але ўсё ж... Ён так не мог. Яму каштавала немалых намаганняў над сабой, прыехаўшы ў гэты пасёлак, расказаць пры неабходнасці, чаму яго зацікавіў нейкі закінуты кар'ер, ды і наогул растлумачыць сваё дачыненне да гэтага пасёлка тых даўніх, ваенных гадоў. Заўжды ў падобнага роду тлумачэннях ёсць штось ад няпраўды або прэтэнзіі на штось амаль незаконнае.

Чужому і малазнаёмаму проста так не раскажаш. Але гэта ён, Агееў. А во Сямён, аказваецца, мог спавядацца з ахвотай і лёгкасцю, і, дзіўная справа, ягоная адкрытасць не шакіравала нават такога пераборлівага ў тым чалавека, якім лічыў сябе Агееў.

Ён думаў, што Сямён забавіцца, усё ж цэнтр пасёлка з магазінчыкам «Вино - водка» быў не надта блізка адсюль, але Сямён даволі-такі хутка паявіўся на рагу могілак пад коса накінутай на адно плячо плёнкай. І па тым, як ён без належнай жвавасці ступаў па мокрай траве даўгімі нагамі, Агееў здагадаўся: не дастаў.

- Пуста! - нібы прачытаўшы ў ягоных думках, сказаў, падышоўшы, Сямён і адкінуў плёнку. - Спазніўся, самі сажралі.

- Што ж, так пасядзім, - парадаваўся ў душы Агееў. - Пакуль дождж сыпле.

Сямён зноў улез у палатку. На гэты раз Агееў уступіў яму месца каля ўвахода, сам адсунуўся ўглыб, і госць адразу палез па цыгарэту ў скамечаным пачку.

- Ці не замнога курыш? - сказаў Агееў.

- А чорт з імі! Колькі будзе, буду курыць. Што ж, дактароў слухаць...

Ён зноў закурыў, і, хоць зацягнуўся з ранейшаю прагнасцю, цыгарэта не памагла яму ўтаіць лёгкую прыкрасць на змрачнаватым твары, мабыць, ад яго няўдалае вылазкі.

- Шкада, але і ў мяне нічога няма, - з вінаватасцю сказаў Агееў. Сямён буркнуў штосьці няпэўнае, і размова іх часова спынілася. Каб неяк узнавіць яе, Агееў запытаў, нібы між іншым:

- Ну, а пасля як? На тым поплаве? Ці, можа, разведчыкі выцягнулі?

- Чакай, як жа! - адразу азваўся Сямён. - Выцягнуць! Енакаеў языка цягнуў. Яшчэ аднаго свайго падарваў. А

ля самай траншэі і яго стрэльнулі. Свае. Бо не на тым участку выходзіў. Во як!

- Гэта панятна. Зблытаў кірунак! Гэта на вайне заўжды кепска.

- Не толькі на вайне, - стрымана буркнуў Сямён.

- Ну, а ты? Сам выпаўз?

- Я? А я ляжаў без памяці, колькі - не знаю. Помню толькі, неяк расплюшчыў вочы і не сцяміў нічога: твар як бы ватай абкладзены. А гэта пайшоў мокры снег. Сняжынкі на вусны падалі, і я іх лізаў языком, бо нутро ўсё гарэла. І такая пакута, як у ціфу. А пасля прымарозіла. Хацеў варухнуць рукой - чорта з два! Не кратаецца. І зад не кратаецца. Бушлат прымёрз, усё ад крыві там змерзлася. Во і ляжу. Хачу крыкнуць і не магу. Прапаў голас. Няма крыку. І не магу прыпомніць, што здарылася і дзе я. Памяць адняло дашчэнту. Свядомасць то вернецца на хвіліну, то зноў прападзе, відна, надоўга. Пасля здалося, быццам тузае нехта; прыслухаўся, сцяўшы зубы, праз боль, які ўжо ваўсю дацінаў. Не, гэта ж бой ідзе, снарады навокал ірвуцца, ну, мяне і кідае з боку на бок. Пасля ўсё знікла - ні болю, ні снегу. Мабыць, доўга ляжаў, а як ачнуўся, гляджу - цёмна і чую голас. Ціхі такі, быццам здалёку, гэта мне так здалося, а гэта ён нада мной. Вочы трошкі расплюшчыў - чалавек нахіляецца, усё ніжай, ніжай, зазірае наўродзе ў твар, а за ім з неба месяц свеціць, ды ярка так - поўня была. Я ўжо хацеў крыкнуць ад радасці, што знайшлі, не пакінулі, але во - паветра няма, у лёгкіх - пуста, нічога ў мяне з крыкам не выйшла. А ён, гэты, што нахіляецца, раптам ціха камусьці: «Іст айн рус!» Ось табе і парадаваўся! Добра, што не крыкнуў, замёр, ляжу. Другі побач таксама штосьці па-нямецку прагергетаў, і гэты лезе рукамі ка мне пад бушлат, у кішэні. А там пуста, махоркі паўпачка было, нават запалак не ўзяў - усё перад выхадам у роце пакінуў. Шарыць ён гэта, лежачы побач, а я думаю: пачуе, што жывы, і прыкончыць. А во не пачуў, яшчэ нешта прамовіў ціхенька другому, забралі мой аўтамат, яго воддаль адкінула выбухам, папаўзлі

кудысь. Можа, да нашых, мо да сваіх. А я пасля страху і болю зноў нырнуў у непрытомнасць. Можа, нават і памёр, не ўспомню.

- Кепская сітуацыя, - сказаў Агееў, калі Сямён змоўк. А той выглянуў з палаткі, быццам прыслухаўся да чагось знадворку, мабыць, больш да таго, што ішло ў яго знутры, з яго растрывожанай памяці, і зрабіў незразумелы жэст усё той жа сваёй адзінай рукой.

- Самае горшае яшчэ наперадзе. Ты слухай... Чорт яе ведае, во дагэтуль не сцямлю, колькі я там праляжаў. Некалькі дзён, напэўна. Пасля прыпамінаў, падлічваў і заблытаўся, не магу паверыць. Палучаецца ўродзе шэсць дзён і начэй. І як толькі не акалеў? Крывёй не сплыў? Не падох? Але во зноў ачнуўся, чую, галасы. Ды ўжо, пэўна, свае; гаворацць смялей і рускі мацюжок чуваць. І відна, ранак зачынаецца. Хачу павярнуцца, каб згледзець, дзе яны, мае паратоўцы, штосьці перада мной іх не відаць. І не магу павярнуцца - усё да зямлі прымерзла. І сняжок ляжыць на грудзях, на вуснах і не тае. Я крыкнуць хачу, і зноў нічарта, уздыхнуць не магу нават. Во дзяла! Ні тпру ні ну. А яны, чую, гамоняць: «Берднікаў, таго ў бушлаце сцягні!» - «Ну да, - кажа гэты Берднікаў. - На мінах ляжыць». - «Міна ўзарвалася. Вунь ямка за ім». - «Адна ўзарвалася, дык што, яна адна тут! Кошку давай!»

Бог ты мой, думаю, гэта ж яны мяне за мерцвяка лічаць і цяпер кошкай будуць цягнуць. Што ж гэта такое... Але боль такі і слабасць, і свет белы нямілы, і прытомнасць то паявіцца, то прападзе. І паветра ў грудзях няма - пуста. Што тут зробіш? Хай цягнуць, узрываюць, хутчэй бы. Каб доўга не мучыцца...

І што ты думаеш? Падпоўз гэты Берднікаў ці яшчэ хто, зачапіў кошкай - крук такі ў іх (гэта ж сапёры былі) на вяроўцы, і як ірвануць. Я як завыю - адкуль і голас узяўся. Хаця мне так здалося, што завыў, яны пасля казалі, што неслі на палатцы, што застагнаў, і яны пачулі. А мне здалося - завыў.

Ну, і адваяваўся на тым. Шэсць месяцаў у шпіталях,

апошнія тры месяцы пад Масквой ляжаў. Пасля па чыстай дамоў. А дому няма. І рукі няма. Інвалід у дваццаць шэсць год. Але жыць трэба, што зробіш... І во, глядзі ты, да шасцідзесяці чатырох дажыў. А Енакаева там за пагорачкам закапалі. Пасля лейтэнант расказаў з нашага палка. У шпіталі сустрэліся.

- Да-а... На вайне цяжка ўгадаць, дзе напорашся, а дзе пранясе, - сказаў Агееў.

- Таму і не ўгадывай. Не выгадывай. Не хітры. Усё роўна вайна хітрэй за цябе. Яе не перахітрыш.

Дождж усё не пераставаў, хаця ранейшы напор яго прыкметна слабеў, на дашчэнту прамоклую зямлю з неба густа сыпаліся дробныя кроплі, вецер быццам прыціх, і было ўвогуле не сцюдзёна. Слухаючы невясёлы Сямёнаў успамін, Агееў некалькі разоў з непакоем падумаў пра кар'ер: хаця б не заліло. Залье, што тады рабіць? Чакаць, пакуль высахне? Ці калі сыдзе куды вада? Сямён, чуўна ўлавіўшы прыхаваную трывогу Агеева, дакрануўся да яго пляча.

- Слыш? Хачу пацікавіцца? Чаго там капаеш? Ну, у кар'еры?

- Ды так. Што-колечы трэба паглядзець.

- Згубіў што?

- Бадай што. Жыццё ледзь не згубіў, - сказаў Агееў і пашкадаваў, што сказаў нешта многа.

- А-а, - нешта зразумеў Сямён. - Ну, ладна, больш не пытаюся. У кожнага чалавека павінны быць свае сакрэты.

Агееў вінавата зірнуў на яго хмурны твар, і яму зрабілася трохі ніякавата за сваю няшчырасць.

- Можа, і так. Ну, а ў цябе як - тожа сакрэты ёсць?

- Я сакрэтаў пры сабе не трымаю. Я іх усе растрапаў. Усе пра мяне ўсё ведаюць. Можа, і кепска гэта. Можа, я

таму і непуцёвы такі. Ну, ды годзе. Годзе балтаць.

Сямён стукнуў кулаком па калене і, зачапіўшы плячом стойку, ледзь не паваліўшы тым усю палатку, вылез на двор. Агееў здагадаўся, чаго яму не сядзелася тут, але пярэчыць не стаў. Няхай ідзе чалавек, можа, лаўка яшчэ не зачынілася, знойдзе чым спатоліць сваю мужчынскую прагу.

- Як-небудзь падыду. Раскажу яшчэ што-ніштo, - пачулася здалёку, і па мокрай зямлі, аддаляючыся, зашлёпалі размашыста яго даўгія ногі.

Агееў нядоўга пасядзеў у палатцы, пасля пераклаў мокрае адзенне ў правы, болей сухі бок - усё парусінавае дно было мокрае. Ад вопраткі, спальніка дужа патыхала сырасцю, парная волкасць вісела і ў паветры знадворку, калі ён вылез з палаткі, занепакоены думкай аб кар'еры.

Дожджык ціхенька сыпаўся на мокрую траву, сцежку, палатку, туман мяккай кісяёй заслаў наваколле, бліжні лясок, дальнія хаты пасёлка. Але могілкі і кар'ер паблізу бачны былі ва ўсіх драбніцах, і калі ён зірнуў з абрыву, дык ледзь не вылаяўся ад злосці: у самым глыбокім месцы на дне кар'ера цьмяна блішчэлі дзве аграмадныя лужыны. Якраз там, дзе ён капаў гэтыя дні і дзе, як здавалася яму, была найбольшая магчымасць нешта знайсці. Але самае горшае адкрылася яму пасля, калі ён ступіў на край абрыву, - з круцізны яго да самага нізу абрынуўся вялізны пласт гліны, дашчэнту пахаваўшы пад сабой сённяшняе месца яго раскопак.

Хвіліну Агееў разгублена пазіраў уніз, не ведаючы, што цяпер рабіць, што думаць. Ясна, што капаць тут ужо будзе нельга, ваду адвесці няма куды, вычарпаць яе немагчыма. Заставалася не самае лепшае - чакаць, пакуль высахне. Ну, а калі задажджыцца на некалькі дзён? Ілья сапраўды можа нарабіць гнілля да восені. Што тады рабіць? Чаго ён даб'ецца тут?

Каторы ўжо раз Агееў ставіў перад сабой гэтае пытанне і не знаходзіў на яго адказу. Сапраўды, што ён мог

зрабіць? Звярнуцца да кіраўніцтва? Але што ён ім скажа? Якія ў яго доказы, што яна там? Што яе расстралялі разам з усімі? Ён і сам нічога пэўна не ведаў. Ён і самому сабе найперш хацеў даказаць, што яе там няма. Што яна там не засталася. Што той раз, можа, яна ўцалела. Бо калі ў сорак чацвёртым адкапалі целы расстраляных, яе сярод іх не знайшлі. Ну, але ж яе і не шукалі. Яна ж не была ў іх тройцы і апынулася з імі выпадкам. Гэта ён і расстраляныя ведалі, за што яе ўзялі, а болей нікому пра тое не было вядома. Дык што ж бы ён мог растлумачыць на гэты конт, калі б звярнуўся па дапамогу? Дапамажыце, маўляў, пераканацца, што там нічога няма? У тым, што там нікога не засталося, і без яго ўсе былі ўпэўнены.

Не быў упэўнены толькі ён адзін.

Нямала апанураны, Агееў вярнуўся да свае палаткі, перасмыкнуў плячыма ад дажджлівай прахалоды. Дождж усё сыпаў, і ён, залезшы ў палатку, запаліў на парозе маленькі бляшаны вогнік на сухім спірце. Хацелася сагрэцца, абсохнуць, але, мабыць, абсохнуць да заўтра ўжо не ўдасца, прыйдзецца бавіць ноч сярод зябкай сырасці. Зрэшты, гэты невялікі дыскамфорт, прынесены нечаканым дажджом, не надта назаляў Агееву, у якім пад старасць усё настойлівей заяўляла аб сабе неўтаймаваная цяга да прымітыўнасці быту, мабыць, не задаволеная ў маладыя гады, усё болей вабіла да сябе прырода. Тое, ад чаго за доўгія гады вучобы, службы, работы адвыкла яго душа, пачало з усё большай уладай авалодваць ягонай свядомасцю. Гарадская кватэра, упарадкаванне якой некалі каштавала яму немалых намаганняў і шмат год прыносіла задавальненне не без прэтэнзій наладжаным утулкам, чамусьці цяпер перастала вабіць яго, у вольны час пачала цягнуць да сябе несамавітая прырода загарадных мясцін, які-небудзь бярозавы гаёк над ціхай рачулкай, палявая дарожка, яшчэ не разбітая коламі магутнай тэхнікі. Аўтамабіль Агееў сабе не купіў - у маладосці гэта не было прынята, ды і не было на тое магчымасці, а пасля стала позна. Сын часам падвозіў яго на прыроду, у выхадныя - на рыбу, якой захапляўся

з дзяцінства і адным часам захапіў бацьку. Але ад рыбы Агееў хутка адвык, а сынава машына, хоць ён і ўклаў у яе пакупку немалую суму, усё ж належала не бацьку-пасажыру, а шафёру-сыну. Зноў жа, ён не хацеў аказацца назойлівым, у маладых былі свае, маладыя інтарэсы, у кола якіх уваходзілі пясчаныя берагі рэк, пляжы, купанне, грыбныя і ягадныя мясціны. Дзе-небудзь на баравым узлеску пад соснамі ім было сумна і не было чым заняцца. Да таго ж яны захапляліся далёкімі паездкамі па райцэнтрах у пагоні за шырспажывам, якога не хапала ў горадзе. Для яго ж усякі набытак неяк неўпрыкмет з гадамі сышоў да мінімуму, і ў гэтым сэнсе ён задавальняў сябе тым, што было неабходна для жыцця на кожны дзень.

Глытаючы гарачы чай з алюмініевай кварты, Агееў падумаў пра Сямёна - той, канечне, недзе ўжо зноў адзначае святога Ілью, мабыць, апавядаючы пра свае прыгоды. Хаця гэтых прыгод не дай бог нікому, і ўспамінаць іх гэтак спакойна можна толькі перажыўшы дарэшты ў душы, захаваўшы былое хіба што ў памяці. Агееў ведаў нямала людзей, якія аб сваім ваенным мінулым, часта цяжкім і нават трагічным, мелі звычай расказваць з гумарам, пасмейваючыся з таго, ад чаго ў свой час станавіліся дыбам валасы на галаве, знаходзілі ў жахлівым вясёлае. Калі ў адносінах да самога сябе гэта яшчэ можна было зразумець, дык у адносінах да другіх, асабліва забітых, замучаных, расстраляных, усё гэта межавала з дурнотай, калі не са злачынствам.

Як гэта ні дзіўна, пра сваё ваеннае мінулае ён амаль не расказваў нікому - хіба што так, збольшага, у агульных рысах. Зрэшты, хваліцца яму асабліва не было чым. Пра страшны сорак першы год і ўсё, што звязана з гэтым мястэчкам, ён доўгія гады стараўся не прыпамінаць нават - міжвольныя ўспаміны не прыносілі радасці, толькі вярэдзілі душу цяжарам смерцяў, крыві і памылак. Жонка яго была родам з Волгі; вайны амаль што не бачыла і, пакуль была жывая, наогул адмахвалася ад яе жахаў. Пра яго ж яна ведала хіба, што ў пачатку вайны ён быў цяжка паранены, ваяваў у партызанах, пасля вучыўся і працаваў у народнай

гаспадарцы, пакуль не перайшоў на выкладчыцкую работу ў ВНУ. Сын неяк пацікавіўся яго ўзнагародамі і, калі бацька паказаў яму ордэн Чырвонай Зоркі, зняважліва хмыкнуў: у бацькі ягонага сябра, які праслужыў вайну ў высокім штабе, было пяць ордэнаў, куча медалёў за ўзяцце гарадоў і юбілейных. Агееў зразумеў, што ягоны вайсковы аўтарытэт назаўжды ўпаў у вачах сына, і ніколі не пачынаў з ім гаворкі аб вайне.

Ён прачнуўся ноччу ад беспрычыннага пачуцця трывогі, невыразнага адчування небяспекі, ці што. Паляжаўшы крыху, уцяміў, што ягоны неспакой ішоў болей знутры, з глыбіні свядомасці - навокал была ноч і стаяла глухая цішыня, якая была калісьці і ад якой ён адвык з пачатку вайны. Дрыжыкі яго, здаецца, мінулі, ён ляжаў мокры ад поту, але холадна яму не было - было нават душна, кажушок упаў з тапчана долу, і цяпер ён ляжаў не накрыты, у змакрэлай кашулі. Рана, калі ён незнарок варухнуў нагой, азвалася болем, але той боль быў ужо не такі востранясцерпны, як учора. У застаронку панавала цемра, ледзьве свяціліся дзве-тры шчыліны пад самым дахам, і ў адной з іх тонкім праменьчыкам мільгала дробная зорачка ў небе.

Агееў прыслухаўся, імкнучыся злавіць хоць які-небудзь рух жыцця за сценамі яго дашчанага сховішча, але, мабыць, ні адзін гук не патрывожыў застаялай цішыні ночы. Ён не адразу сцяміў, якія гукі шукаў у цішы яго ўстрывожаны слых, але тых гукаў, мабыць, даўно ўжо не было чуваць - з таго самага часу, як яны адбіліся ад групы і павярнулі на поўдзень. І тады ён падумаў: што ж гэта такое здарылася ў свеце, як адбылося, што вайна дакацілася ў такую глыбіню краіны? І чаму ён апынуўся ў гэтым застаронку, бездапаможны, бяззбройны, пераапрануты ў нейкую цывільную кашулю? Дзе яго армія? Дзе фронт? Колькі будзе доўжыцца гэтае адступленне і хто ў ім вінаваты? Чырвонаармейцы? Камандзіры? Наша баявая тэхніка? Ці, можа, усё вырашае перавага немцаў, нечаканасць іх магутнага ўдару, іхняе майстэрства і дасканаласць іх тактыкі на полі бою?

За некалькі дзён баёў, у якіх прыняў удзел Агееў, ён паспеў пераканацца, што ў войска хапала рашучасці супраціўляцца ворагу, што байцы і асабліва камандзіры без літасці да сябе, нярэдка звыш усялякай магчымасці, змагаліся з ворагам, часам здорава білі яго на малых участках, хаця і не маглі тым змяніць агульную абстаноўку на фронце, якая з таго самага брутальнага ранку заставалася разгромнай. Не зважаючы на свае страты, на стойкасць і супраціўленне нашых часцей, немцы ламалі абарону, абыходзілі, акружалі на шырокім фронце і няспынна ішлі на ўсход. Дзе яны зараз і дзе фронт, што чакае армію і краіну ў недалёкай будучыні? - во тыя пытанні, ад якіх ва ўчэпістым страху білася сэрца, і, калі над імі задумацца, здаецца, можна было звар'яцець. На ягоных вачах гінулі людзі, рушыліся шматгадовыя асновы дзяржаўнасці і ставілася пад пытанне будучыня ўсёй зямлі - як можна было заставацца спакойным, мірна спаць у гэтым ціхім кутку, куды яго загнала вайна?

Усе апошнія дні пасля разгрому, прабіраючыся да гэтага мястэчка, Агееў пакутаваў ад невядомасці, ад абсалютнай адсутнасці інфармацыі; людзі, што сустракаліся на іх шляху, таксама няшмат ведалі, болей абыходзіліся здагадкамі і чуткамі, якія былі занадта ўжо фантастычныя, - чуткам Агееў тараўся не верыць. Але якім бы ні быў ягоны недавер, адно заставалася несумненным - немцы перайшлі Дняпро. І ён думаў, што калі нават на Дняпры іх не змаглі спыніць, здалі Магілёў, Віцебск, Гомель, дык чаго чакаць далей? Там жа рукой падаць да Масквы.

Яшчэ тыдзень назад, прарываючыся з групай на ўсход, спакутаваны ад хранічнага недасыпу, трываючы боль раны, галодны і насцярожаны ад няспынных сутычак з немцамі, ён неяк не задумваўся аб такіх нечаканых паваротах вайны, імкнуўся толькі прабіцца да фронту, да сваіх, а там, здавалася, усё стане на месцы. Але во да сваіх так і не выйшаў, засеў немаведама дзе, у жахлівай далечы ад фронту, у баку ад вялікіх дарог, выспаўся, пазбавіўся ад асколка ў ране, і трывожныя думкі аб лёсе вайны і клопат за ўласны лёс сталёвымі абцугамі

сціснулі сэрца - было неспакойна, трывожна і пакутна. Але што мог ён зрабіць?..

Калі б не гэтае раненне...

Шмат што было загадкава ў яго вымушаным становішчы, але тое, што з такой ранай ён не баец, - гэта ён разумеў пэўна. Самае кепскае было ў тым, што ён зусім не мог бегчы, не мог пры патрэбе спадзявацца на ногі, кульгавага, яго мог лёгка дагнаць кожны паліцай. Значыць, выйсце для яго было ў адным - як мага хутчэй залячыць рану і што б там не стала прарвацца на ўсход, да фронту і сваіх.

Калі праз дашчаныя сцены застаронка пранік нясмелы світанак, ён падняўся і, адольваючы слабасць і кружэнне ў галаве, пачаў злазіць з тапчана. Ён падумаў, што лепш гэта зрабіць цяпер, пакуль вакол спяць і яго ніхто не ўбачыць. Накінуўшы на плечы сваю ватоўку, марудна апусціў ногі на зацярушаны сенам земляны дол. Усё ж рана балела, нагу проста курчыла ад болю пры кожным неасцярожным руху, і ён, сцяўшы зубы, ашчадна наступаў на левую пяту. Трымаючыся за шула, ціхенька адчыніў нізкія дзверы, выйшаў у хлеў. Аднекуль з-пад яго ног кінуўся прэч шэры вялізны кот, выскачыў з варот, засцярожліва паўзіраўся ў Агеева разумным позіркам касых вачэй на шчакастай мордзе і схаваўся ў дзядоўніку. У хляве дужа пахла сенам, перасохлым гноем, але за паламанай агародкай, здаецца, было пуста, каровы ў Бараноўскай не было. Не чутна было і якой іншай жывёлы, хлеў пуставаў. Праз трохі прычыненыя ад ветру вароты, усё хапаючыся за сцены, ён выбраўся ў двор. Рослы дзядоўнік і крапіва ля сцежкі стаялі ў халоднай расе, прыслоненыя да сцяны хаты, тырчалі нейкія жэрдкі ці, можа, дровы Бараноўскай, вузенькі дворык быў вымашчаны дробнымі каменьчыкамі, але хадзілі па ім, мабыць, няшмат: месцамі сярод камянёў ужо дружна лезла маладая траўка. Насупраць ад увахода ў хату стаяла пустая паветка, адным сваім бокам прымыкаючы да штакетніка-тыну, што адгароджваў двор ад вуліцы. Гэтая паветка, якая неўзабаве адыграе пэўную ролю ў

ягоным жыцці, цяпер не звярнула на сябе яго асаблівай увагі - ён болей прыглядаўся да таго, што мясцілася далей ад вуліцы, у глыбіні гэтага даўгога, са шматлікімі хлявамі і хлеўчукамі двара. Пад агульнай страхой з хлявом відаць былі і яшчэ нейкія старыя будыніны, паветкі, куткі з ламаччам, і ўсё заканчвалася дрывотняй з невялікаю клеццю дроў пад страхой, над якой угары, у змрочным світальным небе, цямнелася магутнае суччо некалькіх старых дрэў. Ад дрывотні ўздоўж саду бегла ўніз сцежка, што знікала ў канцы гародаў ля рова, дзе яны пераходзілі ручай. Толькі пачынаўся ранак, было сонна і спакойна, мястэчка спала, здавалася, не ведаючы ні вайны, ні бяды, ні смерцяў, якія абрынула на зямлю вайна. І каторы раз Агееў адчуў, што такая цішыня яго проста здзіўляе пасля ўсяго перажытога ім за некалькі тыдняў; ён адчуваў у ёй затоеную злую трывогу, невыразнае чаканне бяды.

Як-колечы даскакаўшы на адной назе да свае кануры, Агееў адразу паваліўся на тапчан; гэтая невялікая вылазка зусім знясіліла яго, і ён успомніў, што сёння абяцала прыйсці Яўсееўна, паглядзець рану. Павязка зноў стала мокрая, напэўна, яе трэба было пямяняць, але ў яго па-ранейшаму не было ні бінтоў, ні лякарства, трэба было чакаць доктарку.

Праз нейкі час ён зноў ненадоўга заснуў і прачнуўся ад ціхага стуку ў хляве, дзверы ў застаронках ціхенька прыадчыніліся, і Агееў адразу ўбачыў Малаковіча з казыркастай кепкай на галаве.

- Ну, добры дзень. Як вы тут?

Малаковіч быў не адзін, за ім у застаронак ступіў нізенькі хударлявы хлопец у акулярах, які сціпла спыніўся ля парога і са скаванай насцярожанасцю ўставіўся ў Агеева.

- Ляжу, - няпэўна сказаў Агееў, трохі здзіўлены гэтым паяўленнем незнаёмага хлопца. Малаковіч між тым нешта вымаў з тугіх кішанёў пінжака і клаў на скрынку ў нагах. Хударлявы хлопец бокам прыткнуўся да сена

каля парога; дзверы за гасцямі з таго боку клапатліва прычыніла Бараноўская.

- Доктарка была?

- Была, - сказаў Агееў. - Распаласавала нагу да клуба.

- Гэта яна ўмее.

- Яна што - хірург?

- Майстар на ўсе рукі, - сказаў Малаковіч. - А наогул яна акушэрка.

- Да-а...

- Ну, а як ваша адчуванне? - падышоў да яго Малаковіч. Ён звяртаўся да Агеева на «вы», у той час як той нядаўна стаў называць яго на «ты». Гэта, можа, было і не зусім па правілах, але ўвогуле не ўплывала на іх узаемаадносіны - усё ж Агееў па званні і па ўзросту быў крыху старэйшы.

- Ды што адчуванне! Ляжу во... Як там? Што чуваць? Дзе фронт?

- Фронт, мяркуючы па ўсім, за Смаленскам, - уздыхнуўшы, сказаў Малаковіч.

- Чорт пабяры!

Агееў паспрабаваў устаць, але ад неасцярожнага руху нагой боль працяў яго тупым магутным ударам, і ён у знямозе адкінуўся на падушку. Малаковіч прысеў на канец тапчана ў нагах.

- Прывёў сяброка пазнаёміцца, - кіўнуў ён на госця. - Харошы хлопец. Кіслякоў прозвішча. Разам у школе вучыліся. Ён эфір слухае.

- Прыёмнік? - трываючы боль, запытаў Агееў.

- Прыёмнік. Старэнькі, праўда, - ціха азваўся Кіслякоў.

- Гэта добра. Дык што там?

Сціпла месцячыся на краёчку сена, Кіслякоў сморкнуў кароценькім вострым носам і складна, як завучаны ўрок, паведаміў:

- Зводка за дваццаць сёмае. Нашы войскі пасля цяжкіх і ўпартых баёў пакінулі горад Талін. Адзін наш бамбардзіроўшчык тараніў нямецкі юнкерс Ю-88. Цяжкія баі на Смаленскім напрамку...

Агееў выслухаў яго моўчкі. Ён ужо ведаў, што калі ў зводцы Інфармбюро гаварылася пра баі на Смаленскім напрамку, дык Смаленск, напэўна, ужо застаўся ў немцаў, зводкі заўжды спазняліся. Мяркуючы па ўсім, наступленне немцаў працягвалася.

- Як усё абярнулася, усё пакацілася, хто б сказаў, хто б яшчэ нядаўна падумаў! - злосна забедаваў Малаковіч.

- Да, абярнулася, чорт бы яго пабраў! Ну, а што ў мястэчку?

- Ды што ў мястэчку? У мястэчку разбой. Немцаў, можна сказаць, яшчэ і не было, дык паліцыя свірэпствуе. Аднекуль з'явіўся ўжо і начальнік. Драздзенка нейкі. Бачыў яго ўчора, як вешаць гэтых вялі...

- Каго вешаць?

- Двое акружэнцаў павесілі каля базара. Аказалі супраціўленне пры затрыманні.

- Паліцаі, канечне, брэшуць, - ціха ўставіў Кіслякоў. - Узялі іх, сонных, у будачніка на пераездзе. Ноччу зайшлі, ну, і заснулі. А ранкам паліцай Стасевіч заскочыў на пераезд і пабраў іх сонных, як курапатак.

Агееў уважліва слухаў, узіраючыся ў невясёлыя твары маладых хлопцаў, жыхароў гэтага мястэчка. Напамінак пра павешаных акружэнцаў датычыў яго непасрэдна, бо і ён жа цяпер, па сутнасці, быў акружэнцам і яму пагражала тое ж. Праўда, ім быў і Малаковіч, хіба што з той розніцай, што жыў цяпер у сваёй хаце і тым не парушаў нямецкіх парадкаў, а беспрытульнага Агеева

чакаў палявы лагер ваеннапалонных. Гэта ў лепшым выпадку, калі без супраціўлення, з высока паднятымі рукамі.

Малаковіч між тым расказваў:

- Стасевіч гэты - сусед мой. Цераз агарод хата. У калектывізацыю з вёскі перабраўся да родзічаў жонкі. У прамкамбінаце майстрам рабіў, у бандарным цэху. Наўродзе і някепскі сусед быў, з ягоным Міколам у школу хадзілі, той годам пазней пайшоў, цяпер на Далёкім Усходзе служыць. А гэты ўчора прыпёрся, маўляў, праведаць франтавічка. Бутэльку прынёс. «Ваша песня скончылася, таварышы чырвоныя камандзіры, цяпер пад Гітлерам будзем». - «Ну, гэта яшчэ як паглядзець», - кажу. А ён: «Няма чаго глядзець, ідзі ў паліцыю, пакуль возьмуць, а то позна будзе. Во наш начальнік у Чырвонай Арміі капітанам быў, а цяпер на немцаў працуе, жыдам чоху дае!» Ну, вы разумееце? Як мне, лейтэнанту, слухаць такую агітацыю?

- Ну, і што ж ты яму адказаў? - стрымана спытаў Агееў.

- Я? Анічога. Я прамаўчаў. Але дужа мне хацелася ў яго мой ТТ разрадзіць.

- Во маладзец! - здзекліва сказаў Агееў. - Так бы яны і цябе разам з тымі двума. Трэцім.

Малаковіч, здавалася, без увагі да яго здзеклівасці трохі цішэй паведаміў як аб чымсь канчаткова вырашаным:

- Я яго ўсё роўна стрэльну. Ён жа маю настаўніцу арыштаваў. Адправілі ў горад. Во гэта і будзе мой асабісты ўклад у барацьбу з акупантамі. Шлёпну і змыюся. Нельга нам тут доўга заставацца.

Агееў змоўчаў, ён быў гэткай жа думкі, толькі не хацеў гаварыць пра тое пры гэтым старонні хлопцу. Хто ведае, кім стаў гэты Малаковічаў сябра за час вайны.

- Як тваё плячо? - спрабаваў Агееў перавесці размову на іншае.

- Плячо загоіцца. Яшчэ дзень-другі, і зніму павязку.

- Ну, дык вось. Пакуль не знімеш павязку, не рыпайся. А то сам па дурасці ўліпнеш і маці падставіш.

- Ну, матка як-небудзь абыдзецца. А брацельнік сам лезе супраць іх што-небудзь выкінуць. Вунь у Кісякова болей - чацвёра з маткай, і то не дрэйфіць, радыё слухае.

Мусіць, ніякавата паёрзаўшы на сваім мяккім сядзенні, Кісякоў вытлумачыў:

- Баяцца - не тое слова. Страшна, канечне. Але ж трэба. Калі паддацца страху...

- А ваш бацька дзе? - запытаўся Агееў.

- Бацьку мабілізавалі. У першы ж дзень.

- Самога не прызывалі?

- Не. Я ж нягодны па зроку.

- Ён жа студэнт, - ціха сказаў Малаковіч. - У Мінску ў дзяржуніверсітэце вучыўся. Скончыў два курсы...

- Ды што там, - махнуў рукой Кісякоў, і яго вастраносы тварык зрабіўся надта самотным. У ранішнім паўзмроку ён здаваўся цяпер заўчасна састарэлым хлопчыкам, гэткім сарамлівым, разумненькім гномікам.

- Да-а. Ну, а што людзі кажуць? Як настрой у народа?

Ад гэтага пытання Агеева Кісякоў заклапочана нахмурыў лобік і пачаў ахвотна тлумачыць:

- У асноўнай масе людзі настроены патрыятычна. Але ўсе чакаюць. Гэтыя поспехі немцаў, безумоўна, не маглі не выклікаць некаторай разгубленасці. Але гэта часова. Хутка пачнецца ўсеагульнае выступленне. Асабліва калі будуць працягвацца рэпрэсіі. А яны, несумненна, будуць працягвацца, таму што пашырыцца супраціўленне. Гэтыя рэчы ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены.

- А што ж кіраўніцтва раёна? Інтэлігенцыя?

- Тут, бачыце, якая сітуацыя: з парткіраўніцтва амаль нікога няма. Інтэлігенцыі таксама. Каго мабілізавалі ў першыя дні, хто ў іншыя месцы падаўся. Настаўнікі, напрыклад. Але, я так думаю, ёсць недзе арганізаванае падполле. Таксама як і партызанскія атрады.

- Гэта павінна быць. Гэта абавязкова! - з жарам падхапіў Малаковіч. - У нас тут у грамадзянскую славуты партызанскі атрад дзейнічаў. Атрад Макоўчыка. Недзе яны і цяпер ёсць. У Сырамятаўскім лесе, мабыць.

- Яны знаюць - дзе, - ціха сказаў Кісляков.

- Было б нядрэнна звязацца, - зазначыў Агееў. Але Малаковіч не пагадзіўся.

- Гэта нашто нам? Нам партызаны не трэба. Што, я ў партызанах ваяваць буду? Маё месца ў арміі. Я ж сярэдні камандзір усё-такі

- На ўсякі выпадак, - сказаў Агееў.

- Не, гэта не для нас. Гэта для вясковых дзядзькоў. Няхай яны ў лес ідуць, шалашы будуюць. Маё дзела на фронце. У полк нам трэба, я так думаю, - гарачыўся Малаковіч.

- Ты добра думаеш, - з уздыхам сказаў Агееў. - Але во заселі мы тут, і яшчэ пасядзець прыйдзецца. Фронт вунь дзе, а я пакуль не хадок, сам разумееш. Яшчэ з тыдзень, напэўна, праваляюся...

- А то і болей, - сказаў Малаковіч і з прыкрасцю ляпнуў сябе па калене. - Ну што ж, можа, за гэты час вайна не скончыцца...

Ён ускочыў з тапчана, захінуў на грудзях куртаты свой пінжачок, надзеты на аблезлую, у палоску, кашулю, - зусім не падобны на сябе нядаўняга, лейтэнанта - высокі, худы і тонкі, вясковага выгляду хлопец з рашучым выразам загарэлага твару.

- Да, забыўся сказаць: заўтра тут сабантуй намячаецца. Усім яўрэям загадана сабрацца каля царквы, кудысь перасяляць будуць.

- Куды перасяляць? - не зразумеў Агееў.

- А чорт іх ведае - куды.

- Загадана ўзяць ежы на трое сутак, каштоўныя рэчы, - дадаў Кіслякоў.

- Значыць, кудысь пагоняць. Можа, у канцлагер ці яшчэ куды. Іх хіба зразумееш, фашыстаў. Ну, дык папраўляйцеся, таварыш начбой. Я буду забягаць, калі што...

Калі іхнія крокі сціхлі на падворку, Агееў адкінуўся плячыма на падушку і доўга ляжаў так, стомлены невясёлай размовай, сваімі думкамі, цьмяным прадчуваннем горшага. Усё было трывожна і незразумела. Праўда, трывог хапала з самага пачатку вайны, ён пачаў ужо прывыкаць да іх, шмат у чым спадзяючыся на сябе, на сваю сілу і кемлівасць. Але да нядаўняга часу ён быў бадай што салдат, не надзелены правам прымаць вялікія рашэнні - рашэнні прымалі другія, яму ж належала іх выконваць. Тут жа ён апынуўся ў становішчы, калі сам стаў начальнікам і падначаленым у адной асобе, сам мусіў прымаць рашэнні і сам выконваць іх, што аказалася трудна і нязвыкла. Асабліва ў такіх вось абставінах, калі нічарта як след невядома і кожны промах можа абярнуцца пагібеллю. Добра яшчэ, калі б пагібеллю цябе аднаго. А то вось кола залежных ад яго людзей рабілася ўсё шырэйшым, быў адзін Малаковіч, цяпер за некалькі дзён да яго далучыліся Бараноўская, доктарка, Кіслякоў. У выпадку, калі ён дзе памыліцца, ім не паздаровіцца таксама.

Лежачы і думаючы так, Агееў усё паглядваў на пакінутыя Малаковічам гасцінцы - загорнуты ў старую газету добры кус сала, некалькі яек, лусту чорнага, мабыць, хатняй выпечкі хлеба. На душы ў яго было вельмі пагана, начны неспакой стаў яшчэ большы. Але

ён дацягнуўся рукой да скрынкі і, адламаўшы ад лусты кавалак хлеба, пачаў яго есці. Здаецца, апетыт да яго вяртаўся, і ён падумаў, што, можа, пойдзе цяпер на папраўку. Яшчэ пару дзён, і ён збярэ ў сабе сілы, каб вылезці з гэтага хлява, а там знойдуцца сілы і на большае. Штосьці ўсё ж трэба было рабіць. Ён выразна адчуваў, што бяздзейнічаць у такі час азначала амаль што злачынства. Калі вайна ўвачавідкі рабілася ўсенароднай бядой, ён не меў права сядзець склаўшы рукі. Хоць бы і паранены. У яго для таго не хапала вытрымкі, і ніякія меркаванні маральнага парадку не маглі апраўдаць таго, што ён выбыў з барацьбы. Ён выдатна разумеў нецярпенне Малаковіча, хаця і баяўся, каб той, пагарачыўшыся, не нарабіў глупства і не загубіў яго і сябе. Пагібель магла быць апраўдана толькі ў барацьбе, а да барацьбы ён быў яшчэ не гатовы. Яму трэба было справіцца з ранай.

Увесь гэты дзень мінуў для Агеева ў самотным, трывожным роздуме пра лёс вайны, народа, пра ягоны ўласны няўдалы лёс. Дужа прыгнятала думка, што ён не там, дзе ўсе, дзе фронт і армія, што ён гэтак недарэчна выбыў з барацьбы, якая люта грымела цяпер на прасторах Расіі. Народу было цяжка, цяжка было гарадам і вёскам, але, мабыць, трудней за ўсіх было арміі якая была абавязана і не магла спыніць ворага. З першых жа сутычак з немцамі Агееў зразумеў, што галоўная іх сіла ў агні. Як ні адпрацоўвала наша армія сваю агнявую вывучку, у немцаў яна была лепшая - іх мінамёты засыпалі поле бою асколкамі, кулямёты і аўтаматы палівалі яго свінцом, іх авіяцыя гаспадарыла ў небе з ранку да вечара, бурачы ўсё, што можна было разбурыць. Цяжка было стрымаць гэта агнянае страшыдла, яшчэ трудней адступаць у якім-небудзь парадку. Ягоныя танкі прарывалі, расстрэльвалі, абыходзілі і абганялі - ад іх не было паратунку ні на дарогах, ні ў полі, ні ў горадзе. Як і дзе пашэнціць спыніць іх, калі яны ўжо за Смаленскам?..

Агееў нерухома ляжаў на спіне, калі расчыніліся дзверы і цётка Бараноўская прынесла яму абед - чыгунок маладой бульбачкі, вялікую кварту малака.

Паставіла ўсё на скрынку, уздыхнула.

- Во паесці. Каб хутчэй паправіліся.

- Дзякуй, хазяюшка, - крануты яе клопатам, сказаў Агееў і, зірнуўшы на малако, запытаў: - А ў вас хіба ёсць карова?

- Няма каровы. Гэта суседка, дзякуй ёй, прынесла. Я ў мяне нічога няма. Апроч курачкі. Для разводу. Ды вунь яшчэ кот Гультай.

- Там мне прынеслі сала і гэта... Дык вазьміце, падзелімся.

- Не, што вы! - страпянулася гаспадыня. - Гэта вам. Вы хворыя, вам трэба папраўляцца.

- Скажыце, а яшчэ хто-небудзь ведае, што я ў вас? - запытаўся Агееў і насцярожыўся, чакаючы адказу. Бараноўская з-пад цёмнай, нізка завязанай хусцінкі здзіўлена зірнула на яго.

- Ну што вы! Як можна! Я нікому - нічога. У такі час, што вы...

- Ну, дзякуй, - з палёгкай сказаў Агееў. - Вы ўжо прабачце за мяне такога. Можа, хутка папраўлюся. Я вас пастараюся не падвесці, цётка.

- Ды я нічога, ляжыце. Я ж разумею. У мяне ж таксама сын быў, зрэшты, вельмі на вас падобны. Такі вось чубаценькі. Дваццаць шосты гадок...

- Быў?

Бараноўская журботна патупілася, ражкамі хусткі дакранулася да вачэй. Агееў сцяўся ў прадчуванні кепскага і пашкадаваў, што задаў гэтае пытанне.

- Быў. Загінуў Алежка.

Яна ўсхліпнула адзін толькі раз, тут жа, аднак, перасіліла сябе, уздыхнула і загаварыла спакайней, усё

стоячы ля парога:

- У Заходняй працаваў. Ён жа чыгуначны інжынер быў, інстытут скончыў. Толькі гадок папрацаваў у Вайкавыску, усё мяне клікаў, збіралася, праўда, хоць паглядзець, як ён там. У мяне ж, апроч яго, нікога не засталося. І во не паспела, усё гарод парадкавала. А як усчалася вайна - ні слуху ні духу. Тыя, каго не мабілізавалі ў армію, дадому вярталіся, а Алега ўсё няма і няма. Чакала, чакала яго, ужо прадчувала нядобрае. Аж і праўда, тыдзень назад жанчына адна прыйшла са станцыі, да маці вярнулася, тожа ў Заходняй рабіла, дык кажа: няма вашага Бараноўскага, на дарозе самалёт бомбамі накрыў, раніла яго ў грудзі і памёр у яе на руках. Партфель яго перадала, я адразу пазнала, той самы, з якім некалі дамоў прыязджаў, колькі разоў харчы туды пакавала. Адкрываю, а там яго сарочкі, - трохі збянтэжана Бараноўская зірнула на Агеева, і той ураз сцяміў, чыя гэта кашуля на ім. - Дзве сарочкі, ну, і бялізна там, кніжкі, дакументы. Аказваецца, разам яны ішлі, ад немцаў ратаваліся, і вось папаў пад бамбёжку.

- Да, шмат людзей пагінула, - памаўчаўшы сказаў Агееў, каб нейк парушыць тужлівую паўзу. - І ваенных, і цывільных.

- Пагінула. І яшчэ гінуць. Во ў нас у мястэчку... Ненасытная яна, гэтая вайна, мусіць, такой яшчэ не было.

Агееў маўчаў. Што ён мог сказаць ёй, чым памагчы яе гору? Страціць дарослага сына - што можа быць горай для маці? Нават уласную пагібель нельга параўнаць з такой стратай - ён ужо бачыў што-колечы на вайне, ды і да вайны ведаў, як гэта жахліва наогул. Цяпер ён зразумеў, чаму ў яе такі жалобны выгляд і такі спакутаваны голас. Сапраўды, нібы ў манашкі.

- Вось тут хачу вам паказаць, - сказала Бараноўская, трохі спакайнеючы, і палезла кудысь за сена. - Во, калі што, тут адна дошачка паднімаецца. Во, ад самага нізу. А там за сцяной маліннік, гарод і бульбоўнік да самага

рова. Раптам калі што... Час такі, самі разумееце. Вы ўжо прабачце...

- Усё зразумела. Дзякуй вам, цётачка, - амаль расчулена сказаў Агееў.

Яны ціхенька выйшла - выслізнула з ягонай нары, і ён з горкай усмешкай падумаў: сапраўды настала часіна! Замест таго каб ён, камандзір Чырвонай Арміі, бараніў ад ворага гэтую цётку, аберагаў яе спакой і жыццё, дык яна сама мусіць аберагаць ягонае жыццё і клапаціцца пра яго бяспеку. Цяпер ён цалкам пад яе ўладай і залежыць ад яе ласкі і клопату. Вядома, ён вельмі ўдзячны ёй, і ўсё ж... Не проста было яму прыняць як належнае яе клопат і адолець пачуццё ўласнай ніякаватасці, невыразнага сораму нават.

Ён адразу пазнаў гэтае добра знаёмае яму водгулле нямецкіх дызельных рухавікоў, якое аднекуль выплыла ў ранішняй цішыні над мястэчкам, прагырчэла здалёку і змоўкла, мабыць, у цэнтры, на плошчы. Зараз жа прагнаўшы рэшту дрымоты, Агееў напружыў слых - усё ж хата Бараноўскай была бліжэй да ўскраіны, і водгукі таго, што рабілася ў цэнтры мястэчка, не адразу дасягалі яе. А там сапраўды рабілася штось незвычайнае, данёсся якійсьці прыглушаны вокрык, можа, каманда, невыразная гамана людскіх галасоў, якую часам заглушаў рыклівы роў аўтамабіляў. І раптам рэзка і выразна ў цішыні прагучаў лямант жанчыны паблізу, можа, нават у канцы гэтай вуліцы. Ён яшчэ не заціх, гэты голас роспачны, як там жа раздаўся тоненькі дзіцячы крык: «Мама! Мама!! Мамачка!!!» Агееў павярнуўся на бок, сеў на тапчане, асцярожна, каб не прычыніць сабе болю, выцяг параненую нагу. Праз шчыліны сцен ледзьве прабіваўся сіняваты водбліск світанку, на дварэ стала ўжо віднець. І тады аднекуль справа, з дальняга канца мястэчка, пачаў наплываць шматгалосы трывожны гул - Агееў не адразу сцяміў, што гэта - плач, гоман ці, можа, суладная малітва сотняў людзей. Але тое, што гэты гул утварала мноства галасоў, не выклікала сумнення: глухое рознагалоссе, аб'яднанае рытмам і тонам, здалося,

злівалася ў адзін прыглушаны адлегласцю стогн, які то заціхаў трохі, то мацнеў, паволі сунучыся ў прасторы справа налева. Агееў, аднак, здагадаўся, што там адбывалася, гэта было падобна на жах — масавы здзекці забойства, калі сотні людзей, паднятых бязлітаснай злой воляй з наседжаных спрадвеку гнёздаў, некуды ішлі - куды іх гналі пад страхам, без веры і надзеі. Са скамянелым тварам ён слухаў, стараючыся не прамінуць ніводнага гуку, які далятаў да ягонага сховішча, каб зразумець і запомніць усё. У думках яго з глыбінь пачуцця з'явілася і пульсавала адно толькі слова: «Гады, ах гады!..» І ў гэтым слове-праклёне сканцэнтравалася яго нянавісць і яго разгубленасць перад злом, якое абрынулася на мястэчка.

Мінула, мабыць, не надта шмат часу, але ўжо добра развіднела, і мястэчка, чутна было, стала нібы растрывожаны пчэльнік. Ужо цяжка было вылучыць асобныя гукі ў гэтым жалобным працяжным хоры, які складаўся з ляманту і стогну, што быццам мацнеў, то часам цішэў, то рассыпаўся на асобныя гнёзды гора і роспачы. І тут зусім побач, мабыць, на гэтай вуліцы, прагучала чутна і выразна:

- Шнэль, шнэль...

- Не штурхай, гніда, сам пайду!..

- Ідзі быстра, шнэль, чаво стала?..

- Пан паліцэйскі, нельга ж так хутка, я стары чалавек...

- Шнэль, юда паршывая!..

- О божа, о святы заступнік...

Зноў паблізу ўсё сціхла, напэўна, людзі павалакліся на сваю апошнюю галгофу, змоўк і канваір. І раптам, як маланка ўначы, узляцеў да самага неба крык малення і роспачы:

- Мама! Мама!! Мамачка!!!

І - ціхла. Ні слова ў адказ, ні крыку. Агееў увесь сцяўся

на тапчане ў абсалютным зняменні - што там? Што там здарылася - гукі не вытлумачылі яму нічога. Але трагедыя навокал прадаўжалася, і ён быў яе нябачным сведкам, бяссільным яе ўдзельнікам. Або няўдзельнікам, што, зрэшты, азначала адно і тое ж, таму што было нясцерпна пакутна ўсё гэта чуць і не магчы нічога.

Тым часам тое, што чулася зводдаль, што даносілася да яго гулам і пошумам, памалу падкаціла бліжэй і рассыпалася на асобныя галасы, крыкі, плач. Успыхвалі і знікалі рэзкія словы каманд, сэнс якіх, аднак, цяжка было зразумець адсюль. Дзесьці, можа, на суседняй вуліцы, трывожна бляяла каза - па казлянятах, ці што. Некалькі разоў глуха прамычэла карова. Там жа пачуліся злосны вокрык і лаянка, падобна, гэта выганялі кудысь жывёлу. Агееў падумаў, што быццам яшчэ не забіваюць нікога, як тут жа за вуглом гулка ляснуў вінтовачны стрэл, і некалькі курэй з кудахтаннем кінуліся па вуліцы. Раздаўся здзеклівы мужчынскі рогат, і ён зразумеў: гэта завіхалася паліцыя. Ён і яшчэ чакаў стрэлаў, але іх не было болей, здаецца, пачаў ціхнуць шум здалёку, і ў гэтай паўзе цішыні раптам выразна пачулася характэрная, быццам картавая нямецкая гаворка. Прыемна сцішаны, амаль спакойны мужчынскі голас нешта сказаў па-нямецку, але Агееў зразумеў толькі некалькі слоў: «Дзі арганізацыон, абенд...» Несумненна, гэта былі немцы, яны прайшлі за дваццаць крокаў адгэтуль па вуліцы, ён бы мог зняць іх з пісталета, калі б мог згледзець. Трымаючыся за тапчан, ён зірнуў у адну шчыліну ў сцяне, у другую - за сцяной была гушчэча малінніку, бульбяныя барозны і далей вытыркаўся вугал суседскае хаты. Болей там нічога не было відаць.

Тым часам шум людскіх галасоў пакаціўся хвалямі з нейкага аднаго месца, наўкось цераз вуліцу, мабыць, з плошчы ў цэнтры мястэчка. Цяпер ён заставаўся ў аднолькавай сіле, не мацнеючы і не слабнучы болей. Агорнуты трывогай, Агееў чакаў і слухаў. Слухаць гэта так доўга было пакутна нават для яго, запёртага ў гэтай клетцы, а як жа там, на плошчы, падумаў Агееў. І тут

зусім не ў лад са сваім настроем ён адчуў у сабе злосць: як жа можна было дапусціць такое? Трэба ж было нешта зрабіць, можа, уцякаць ці хавацца, але напэўна не падпарадкавацца, зрабіць ўсё, каб сарваць немеры фашыстаў. «Вось толькі што можна зрабіць?» - падумаў ён. Заўжды зручна меркаваць збоку, здаля - там жа, пад рулямі аўтаматаў, мабыць, усё было болей трудна і страшна. Асабліва калі падумаць, колькі там малых і старых, дзяцей і жанчын. Той, хто мяркуе здалёку ці праз нейкі час, заўжды мяркуе болей разумна, але ці болей сумленна - во ў чым пытанне.

Калі людскі шум у мястэчку пачаў сціхаць, зніклі паасобныя крыкі і плач, паблізу пачуліся іншыя, звычайныя галасы, і ён зразумеў: гэта забіралі жывёлу. Насупраць цераз вуліцу нешта грузілі ці, быць можа, выносілі з хат барахло, сцягвалі ў адно месца, і ён чуў: «Стой, куды прэш?.. Пашла, пашла... Трымай... Паварочвай ты жывей... Што ў цябе, вочы павылазілі?.. Хведар, а Хведар, забярэш рэшту». Ішла гаспадарчая работа, збор і адпраўка маёмасці, і займаліся ёю, відаць па ўсім, паліцаі ці хто пад іхнім наглядам. Гэтая мітусня па дварах і хатах працягвалася ўсю раніцу, здаецца, не абяцаючы калі-небудзь скончыцца, водгукі яе даносіліся то з аднаго, то з другога боку, то чуліся паблізу, то здалёку.

Толькі, можа, у абед усё стала сціхаць; і нарэшце жахлівая, мёртвая цішыня агарнула мястэчка. Агееў нерухома сядзеў на тапчане і думаў: на колькі яшчэ дзён і гадзін хопіць ягонай вытрымкі, колькі прадоўжыцца яго пакутнае выпрабаванне? Ён адчуваў сябе на лязе нажа, на парахавой бочцы ў час пажару - у гнятлівым прадчуванні бяды не сёння, дык заўтра. А можа, і трэба разлічваць на менавіта такі канец, думаў ён. Але навошта тады сядзець тут, бавіць час і цешыць сябе дурнымі надзеямі? А калі не сядзець, дык што зрабіць у ягоным становішчы? Дачакацца, калі прыйдуць, і пусціць у ход пісталет? Ці самому выйсці з пісталетам на вуліцу і загінуць з музыкай?

Пакуль, аднак, мінаў час, а па яго ніхто не прыходзіў.

Не ішла нават цётка Бараноўская, і ён пачаў непакоіцца: ці не здарылася бяда і з ёю? Можа, і яе пагналі разам з яўрэямі?

Бараноўская прыйшла надвячоркам. Абвостраным слыхам Агееў яшчэ здалёку ўчуў яе таропкія крокі ў двары, дзверы застаронка нешырока прыадчыніліся, і яе маленькая цёмная постаць з'явілася на парозе.

- Фу! А я ўжо думала... Так непакоілася!..

Махнуўшы з палёгкай рукамі, яна апусцілася на высокі парог і заплакала, ледзь чутна хліпаючы і выціраючы вочы ражкамі цёмнай, у кропачкі хусцінкі. Агееў маўчаў, ён ужо здагадваўся аб прычыне яе плачу.

- Ой, што яны з людзьмі робяць! Яны ж усіх іх сабралі... Усіх, усіх... Нікога не пакінулі, усё іхняе пагрузілі... Гэта ж і мяне заставілі збожжа іх выграбаць... У каго якое засталося, усё выграблі.

- А куды іх пагналі? - панылым голасам запытаў Агееў.

- А хто ж іх ведае?! Кажуць, на станцыю. Кудысь адпраўляць будуць. А некаторыя кажуць: пастраляюць у Гарэлым балоце.

- І што - ніхто не ўцякаў?

- Як жа ўцячэш? Яны ж з вінтоўкамі на ўсіх вуліцах і гародах. Дваіх маладых застрэлілі за тое, што не падчыніліся, казалі. І Яўсееўну з імі...

- Яўсееўну? - амаль спалохана перапытаў Агееў.

- Яўсееўну таксама. У яе ж маці старэнькая. Так з маці і пагналі.

Агееў пра сябе ціха вылаяўся. З учарашняга дня ён чакаў акушэрку - трэба было зрабіць перавязку, з-пад бінта пачало падцякаць на штаніну, і, горш за ўсё, яму ўвесь час здавалася, што ў ране варушацца, ядуць яго цела белыя чарвякі, адна думка аб якіх вымушала яго скаланацца. Але ён нічога не мог зрабіць, каб памагчы

сабе, у яго не было ні ваты, ні бінта, ні лякарства. Будзе клопату, калі зноў не заладзіцца з ранай, падумаў ён. Бараноўскай, аднак, ён не сказаў нічога, той за сённяшні дзень і без яго хапіла трывогі, і ціха сядзеў на тапчане, выцягшы на сеннічку сваю бедалагу-нагу. Трохі супакоіўшыся, гаспадыня выцерла вочы і ўздыхнула.

- Пайду. Бульбачкі ж трэба зварыць на вячэру.

- Ці да вячэры тут, - сказаў ён грубавата.

- Ну як жа! Трэба ж вам скарэй на ногі ўстаць.

- Яно б не шкодзіла.

Бараноўская выйшла з застаронка, а ён пачаў думаць, як выбрацца з гэтае пасткі, у якой яго цяпер пэўна ўжо не чакала нішто добрае. Перш была хоць якая-небедзь надзея на доктара, яго дапамогу і лякарства, а цяпер вось і гэтая спадзяванка прапала. Нешта трэба было рабіць, штосьці прыдумаць. Але што? Ён увесь час напружана думаў, ламаў галаву ў пошуках выйсця, але выйсця не было, параненая нага скавала яго магчымасці і працягвала трымаць у тупіку безвыходнасці. Яму нават пачало здавацца, што ён адгэтуль не выберацца, бо недзе прамінуў адзіны свой шанец, прамарудзіў ці зрабіў не так, як трэба было зрабіць у яго няпростым становішчы, і цяпер заставалася адно - чакаць расплаты.

Праўда, у яго быў Малаковіч.

Не дачакаўшыся доктаркі, Агееў пачаў чакаць Малаковіча, усё ж той меў большыя, чым ён, магчымасці ў гэтым мястэчку, лепш ведаў абставіны і мог яму памагчы. Мінулы раз яны не дамовіліся аб сустрэчы, і цяпер Агееў пачаў спадзявацца, што той хутка прыйдзе, яны параяцца аб іх становічшы і нешта прыдумаюць. Калі ў хляве за сцяной пачуліся асцярожныя крокі, ён так і падумаў, што гэта ідзе Малаковіч, таму што з кім жа яшчэ магла там ціхенька гаманіць яго Бараноўская? У гэтую пару на дварэ яшчэ,

можа, толькі змяркалася, а ў застаронку стала амаль ужо цёмна. Агееў ледзьве бачыў квадрат нізкіх дзьвярэй, якія ціхенька адчыніліся, аднак шырэй, чым калі іх адчыняла гаспадыня, і ў застаронак нехта ўвайшоў, яўна не Малаковіч, хтосьці груваскі і незнаёмы. Агееў насцярожана ўскінуўся, але з-за шырокіх плячэй чалавека пачуўся спакойны голас яго гаспадыні:

- Дык вы ўжо ўдвух тут. Я на двары пабуду.

- Да, паглядзіце там...

Сказаўшы гэта, чалавек тым жа густым, нізкім голасам стрымана павітаўся і, зрабіўшы некалькі няпэўных крокаў між тапчаном і сенам, усеўся на высокім парозе. Курыца, што ўвесь дзень спакойна сядзела ў кутку на пакладзе, трывожна пракудахтала і сціхла. Агееў патроху спакайнеў, зразумеўшы, што чалавек гэты - не вораг, ворага Бараноўская не прывяла б сюды. Але хто гэта быў, аб тым ён не меў уяўлення. Яны нядоўга памаўчалі, Агееў чакаў, госць, падобна было, услухоўваўся ў гнятлівую цішыню, якая ўладкоўвалася пад ноч у мястэчку.

- Даўно вы тут... адпачываеце? - запытаў нарэшце чалавек.

Агееў умеў з першых слоў па тэмбры і гуках голасу вызначаць характар чалавека. У арміі звычайна імкнуліся паказаць у голасе цвёрдасць і энергічнасць, незалежна ад таго, ці былі яны на самой справе, ці таму, хто гаварыў, хацелася, каб былі. Так ці інакш, але ў голасе шмат значылася, трэба было толькі ўмець слухаць яго. Голас жа гэтага госця, несумненна, выдаваў у ім чалавека цывільнага, не надта маладога, які, можа, перажыў нават нешта труднае, і Агееў скупа азваўся:

- Тры дні... адпачываю.

- Да, адпачынак, канечне... Не дай бог!

- Вот іменна.

Яны зноў памаўчалі. Агееў чакаў, а госць, мабыць, усё не наважваўся пачаць размову, дзеля якой ён, несумненна, і прыйшоў сюды.

- Я тожа на гэтым тапчане тыдзень праваляўся. Да вас.

- Во як!

Агеева гэта здзівіла: тут ужо яўна праглядвала нейкая агульнасць іх лёсаў, якая, аднак, патрабавала некаторага ўдакладнення.

- Што, па раненні?

- Прадстаўце сабе. Хаця і не ваенны, але вось нарваўся на кулю.

- Ах, во што! - трохі расчаравана сказаў Агееў.

- На станцыі, ведаеце, пры эвакуацыі. І мусіў застацца. Але вось у чым праблема - у райкоме рабіў. Усе тут мяне ведаюць. І паліцыя тожа. Дзякуй вось Бараноўскай: прыюціла, выхадзіла.

- Мяне тожа выхаджвае.

- Яна такая. А вы - у баі?

- Пры прарыве з акружэння. У нагу.

- Да-а. Акружэнцаў цяпер ідзе ой колькі. Усе - на ўсход.

- На ўсход, куды ж яшчэ. За фронтам. Я тожа, калі б во не нага...

- З раненай нагой, канечне, далёка не пойдзеш.

- Зноў жа, быў і асколак. Дзякуй - выцягнулі.

- Яўсееўна? - жыва здагадаўся госць.

Агееў памаўчаў, не ведаючы, ці можна назваць імя яго доктаркі. Але госць, пэўна, зразумеў усё і так.

- Яўсееўна, яна тут шмат каго на ногі паставіла, - сказаў ён у цемры. - Але на тым кропка. Забралі сёння разам з яўрэямі.

- Іх што - панішчаць?

- Падобна на тое.

- Жах!..

- Жах - мала сказаць. Злачынства! Палова мястэчка як вымерла. А яны ж тут жылі стагоддзямі. Тут на могілках дзесяткі іх пакаленняў...

- І нічога нельга было зрабіць?

- А што ж зробіш? Не гатовы мы былі да таго. Ды і сілы пакуль не тыя. Барацьба ж толькі разгортваецца.

- Партызаны? - жыва здагадаўся Агееў.

- І партызаны, і яшчэ нехта. Асвойваем розныя метады, - трохі няпэўна адказаў госць і запытаўся: - Вы - бальшавік?

Агееў неяк сумеўся, аднак ужо разумеючы, што трэба адказваць праўдзіва і адкрыта. Здаецца, настаў менавіта такі момант, калі ўхіляцца ад прамога адказу ці тым болей хлусіць было недарэчы.

- Кандыдат, - сказаў ён проста і змоўк.

- Што ж, гэта добра, гэта амаль што член. Тады будзем знаёмы. Я Волкаў, сакратар райкома.

Госць падаў руку, Агееў трошкі пацiснуў яе - моўчкі замацаваў поўны невядомага, але, мабыць, значнага сэнсу іх тайны саюз. Агееў яшчэ не мог уявіць сабе, але ўжо цьмяна адчуў, што менавіта з гэтага знаёмства пачынаецца новая паласа ягонага жыцця, наўрад ці спакойная, але ўжо з зародкам менавіта таго, чаго яму дасюль не хапала. Ва ўсякім выпадку, было зразумела, што ён пазбываўся адзіноты і няпэўнасці, далучаўся да арганізаванай сілы, адсутнасць якой ён так хваравіта

адчуваў усе апошнія дні іх блукання па нямецкіх тылах ды і ў гэтым мястэчку таксама.

- А вы што ж, жывяце тут? - запытаў ён трохі здзіўлены тым, што сакратар райкома знаходзіцца ў мястэчку.

- Не, жыву я не тут. Вось прыйшоў спецыяльна каго-нікаго праведаць. Ды ў нас ёсць да вас прапанова. Ці просьба. Разумейце, як хочаце. Як вам спадручней.

Агееў насцярожыўся. Увогуле было няцяжка ўявіць характар гэтай прапановы-просьбы, хоць і без падрабязнасцей. Праўда, ён хацеў спачатку давесці, што ягоныя магчымасці абмежаваны, таму што ён пакуль не хадок і можа быць карысны хіба праз тыдзень-другі, у залежнасці ад таго, як павядзе сябе рана. Але Волкаў, нібы зразумеўшы ягоныя думкі, сказаў:

- Яно зразумела, у вас рана, і мы вас пакуль з месца не рушым. Лячыцеся... Але перш за ўсё трэба легалізавацца.

- Як - легалізавацца? - не зразумеў Агееў.

- Гэта проста. Бараноўская дасць вам дакументы свайго сына. Ён загінуў, і яго тут мала хто ведае. Але гэта болей фармальна, для паліцыі. Вы вярнуліся дадому, не зусім здаровы, працуеце ў гаспадарцы.

- Да, але... Як - у гаспадарцы?

- Ну, у двары, у гародзе. Дровы там... Разумееце, нам трэба мець свайго чалавека ў мястэчку. Нашых, разумееце, усе тут ведаюць, нашых адразу раскрыюць. Вы ж па дакументах інжынер, беспартыйны спецыяліст. Зноў жа - сын папа.

- Якога яшчэ папа?

- Папа. Бараноўскага. Цётка ж Бараноўская - былая пападдзя. Яна на поўным даверы ў паліцыі.

- Во як!

- А чаму гэта вас здзіўляе? Пападдзя, ага. Але яна сумленная жанчына, яна нас не выдасць. А вы ж камандзір, зброю ведаеце...

- Як не ведаць - начальнік боепітання.

- Тым больш. Нам менавіта такі і патрэбны. Зноў жа тут, разумееце... Подступы да хаты Бараноўскай надта зручныя. З рова і ў двор.

- Подступы сапраўды...

Далей Агееў кепска слухаў гэтага вячэрняга госця. Хаця ён і быў гатовы выканаць усё, што яму даручалася, але не чакаў для сябе такога даручэння і цяпер таропка абдумваў яго, не цямячы яшчэ, як спалучыць гэта з яго армейскім становішчам. Усё ж ён быў кадравы камандзір з арміі, ніхто яго не звальняў, і ён не мог не адчуваць на сабе няпросты цяжар вайсковага абавязку, перапыненага хіба што няўдачамі на фронце і яго раненнем.

- Мы вельмі разлічваем на вас, - націснуў тым часам сакратар райкома.

- Ну што ж! Хіба што да прыходу нашых. Я ж павінен пайсці ў армію. На фронт.

- Ох, фронт, фронт! - гаротна прамовіў Волкаў. - З фронтам бяда, таварыш. Здаецца, нашы Смаленск здалі.

Сапраўды, чорт ведае, што рабілася на фронце, што вытваралася ў акупацыі! Канечне, у такі час было б злачынствам спакойна ляжаць на гэтым тапчане і чакаць, калі цябе вызваляць ад нямецкай улады. Барацьба з гэтымі вылюдкамі не спынялася, тут, можа, толькі яшчэ наладжвалася, значыць, ён быў абавязаны і не меў права ўхіляцца ад удзелу ў ёй. Але гэта калі абстрактна, амаль тэарэтычна. Тэарэтычна ўсё было проста і ясна і, несумненна, лягчэй, чым на справе. На справе ж яму трэба было перастаць быць старшым лейтэнантам Агеевым, а зрабіцца сынам пападдзі Бараноўскай, жыць па чужых дакументах ды яшчэ

легалізавацца перад паліцыяй. Чорт ведае, што такое!..

- Пакуль што фронт коціцца на ўсход, - змораным голасам заклапочанага чалавека гаварыў Волкаў. - Да Масквы коціцца. Але, я так думаю, нядоўга яшчэ будзе каціцца. Недзе павінен адбыцца пералом. Недзе ім дадуць у зубы.

- Трэба б!

- А тут ідзе фармальны разбой. Павылазілі розныя гады. Ды і нашы некаторыя. Начальнік паліцыі - армейскі камандзір. Сам прыйшоў, добраахвотна.

- Такіх свалачэй страляць трэба, - сказаў Агееў.

- А вам прыйдзецца мець з ім справу.

- Гэта горш.

- Горш, але трэба. Неяк трэба паладзіць, на гэта мы і разлічваем. Будзеце трымаць сувязь толькі са мной. Волкаў, канечне, мой псеўданім. Прыйдзе хто, мужчына ці жанчына, скажа: ад Волкава. Значыць, ад мяне. Ваш сябар Малаковіч будзе працаваць на станцыі.

- Гэтак? - узрадаваўся Агееў. - Вы з ім гаварылі?

- Ну, ведама. Рабацёнка ў яго не надта прыемная - у качагарцы. Але нам так і трэба. Ён як чалавек? Надзейны?

- Харошы хлопец.

- Мы таксама думаем. Будзеце працаваць парай. Бараноўская паможа. Яна ў курсе.

- Ну, дзякуй, - трохі заклапочана сказаў Агееў. Ён ужо думаў пра тое, што яму рыхтуе гэты паварот у ягоным жыцці.

Усё ў ім разварушылася ад гэтай размовы, нечаканыя клопаты і апасенні абрушыліся на яго патокам, выклікаючы лавіну неспакойных думак, усё крута

мяняючы ў ягоным становішчы. Ранейшаю заставалася хіба што яго рана, якая ўладарна напаміналa пра сябе пры кожным неасцярожным руху.

Яны падрабязна абмеркавалі сваё супрацоўніцтва, дамовіліся пра галоўнае і, калі Бараноўская прынесла вячэру, сядзелі моўчкі, поўныя сваіх невясёлых думак. Агееў без ранейшага смаку паеў бульбы з гуркамі - цяпер усе яго клопаты былі скіраваныя ў будучае, у сферу новых для яго і нязвыклых адносін з Волкавым і, што асабліва непакоіла яго, - з ворагам, у дачыненні з якім ён павінен адмовіцца ад сябе ранейшага і прыняць новае імя і новае аблічча. Як гэта ў яго атрымаецца? І чым можа скончыцца? Зрэшты, чым можа скончыцца пры няўдачы, ён разумеў выдатна, але ходу назад ужо не было, трэба было рыхтавацца да ўсякай нечаканасці. Усе гэтыя тыдні пасля разгрому палка ён не мог пазбыцца ліпкага адчування вінаватасці, што так недарэчна выпаў з вайны, выбыў з часці, якая, магчыма, перастала існаваць наогул. Але ж існавала армія, а з ёй заставаўся ў сіле ягоны абавязак, вызначаны калісь дадзенай ім прысягай. Праўда, ён быў паранены, і гэтая акалічнасць апраўдвала ў яго лёсе многае, хоць далёка не ўсё. Нават будучы параненым ён не меў права на спакойнае жыццё пад немцам, бяздзейнасць і чаканне перамены да лепшага на бязлітасным фронце барацьбы. Ён адчуваў, што, калі яму суджана будзе прабіцца да фронту, там прыйдзецца нешта тлумачыць і ў чымсьці апраўдвацца - усё ж у яго заставалася зброя, якую ён павінен скарыстаць супраць фашызму. Зразумела, тое, што яму прапаноўваў цяпер Волкаў, толькі прыблізна было падобна да ўзброенай вайны з захопнікамі, але што рабіць: мабыць, іншая вайна апынулася за межамі яго рэальных магчымасцей.

Пасля таго як вячэрні госць развітаўся і пайшоў, Агееў ляжаў з расплюшчанымі вачмі і думаў. Як заўжды, яго насцярожаны слых быў надта чуйны, пранікаючы ў зманлівую цішыню ночы, у якой таілася рознае. Малаковіч так і не прыйшоў сёння, і Агееў думаў: ці не здарылася ўжо з ім што кепскае? У такім ягоным становішчы страціць Малаковіча было б болей чым

кепска. Хаця ў гэты момант ён ужо і не адчуваў сябе надта адзінокім, як раней, усё ж Малаковіч заставаўся яго галоўнай апорай - юны лейтэнант звязваў яго з іх нядаўнім вайсковым мінулым, няшчасным палком, цяжкімі баямі і стратамі, мінулым, якое хаця і не стала прадметам іх гонару, але і не давала прычыны саромецца. Свой баявы абавязак яны выканалі як толькі маглі, і не іх віна, што ўсё абярнулася такім драматычным чынам.

Пад ноч зноў разбалелася рана, у глыбіні якой стала калюча тузаць; боль аддаваўся ў клубе, і ён, каб зручней уладкаваць на сенніку нагу, круціўся на тапчане і так, і гэтак. Напэўна, Бараноўская пачула з падворка яго валтузню і прыйшла ў застаронак.

- Як вы тут? Можа, прынесці чаго?

- Не, дзякуй. Нічога не трэба.

- І я во спаць не магу. Пасля ўсяго, на што наглядзелася, чаго начулася...

- Жахліва! Што і сказаць.

Мабыць, яна не спяшалася нікуды, у цемры ён амаль не бачыў яе, толькі адчуваў яе далікатную прысутнасць і сказаў без асаблівай настойлівасці:

- А вы пабудзьце са мной.

- Пабуду, ага. Знаеце, адной цяпер немагчыма. Проста не хапае вытрымкі.

- Сапраўды, у такі час трэба процьма вытрымкі. Скажыце, гэты Волкаў... Ён гаварыў з вамі?

- Антон Сцяпанавіч? А як жа, гаварыў. Вы не бойцеся, я ж вам расказвала, што сын мой быў дужа падобны на вас. І ўзростам такі ж.

- Як яго звалі? Алег?

- Алег. Алег Кірылавіч Бараноўскі. Так што вы цяпер

Бараноўскім будзеце. Замест сына.

- Ну, дзякуй. А што, муж ваш быў папом? - раптам без усякага пераходу запытаў Агееў і адчуў у цемры, як гаспадыня трохі напружылася, уздыхнула і адказала не адразу:

- Муж быў святарам святадухаўскай царквы. Той, местачковай, што ля базарнай плошчы. Хаця вы ж не ведаеце...

- Не ведаю, не бачыў.

- А я ў народным вучылішчы служыла. Даўно гэта было, - гаротна сказала яна і змоўкла.

- Ну, як даўно? Да рэвалюцыі?

- І пасля рэвалюцыі. Айцец Кірыл быў настаяцелем да самага закрыцця царквы ў трыццаць другім годзе. Я перастала служыць гадоў за дзесяць да таго. Ужо нельга было. Самі разумееце - пападдзя, якая ж настаўніца.

- Вы і родам адсюль?

- Не, я родам з Дзвінска, нейкі час жыла ў Вільні, там скончыла Марыінскае вучылішча. Бацька быў банкаўскі служачы, служыў у Вільні, у Полацку, у Дзвінску. А сюды я прыехала з айцом Кірылам, тут жа ў яго радня. А, гэта даўняя гісторыя, як і даўгое жыццё. Расказваць усё падрабязна - не хопіць каляднай ночы, не тое што жнівеньскай.

- Труднае было жыццё?

- У наш час лёгкага наогул не было. І не магло быць. Але нам дасталося асабліва катаржнае. І цяпер вось... Быў адзін сын, усё маё спадзяванне, здавалася, жыву для яго толькі, ды во і яго не засталося. Адна! Вось думаю: навошта жыла? Які сэнс жыць далей? Ды яшчэ ў такую вайну. Усё страшна, трудна, скалечана. Думаю часам: можа, дзе няўдала зрабіла выбар, памылілася ў чым? Не, быццам нідзе. Заўжды імкнулася жыць у

згодзе з сумленнем, з дабром, нават з перадавымі ідэямі веку. Але, як назло, менавіта мяне век і не прыняў. Можа быць, запозна ці рана ў яго з'явілася, у гэты шалёны наш век. Сяброўка ў мяне была, Любачка Чарнова, слаўная дзяўчынка, разам музыкай займаліся, талент у яе не бог ведае які, але кансерваторыю скончыла, у Маскве някепска прыжылася, выйшла замуж за саўработніка. А мне музыкі было мала - я рвалася ў народ, каб несці яму разумнае, добрае, вечнае, аблегчыць ягоны лёс, прасвяціць, адкрыць светлы шлях ведаў. Бацька мой не адабраў усё гэта, ён шмат што з таго, што тады лунала ў паветры веку, не адабраў, меў старыя погляды, быў падазроны да новага чыноўнік. Але мая мама, мілая наіўная мамачка, яна горача падтрымала мой выбар прафесіі народнай настаўніцы, яна сама ўсё жыццё прагнула вучыць, прасвяшчаць: да прыслугі ставілася заўжды як да мілых родзічаў, заўжды песціла і задарвала яе на кожнае свята. Толку ад таго было няшмат, яны толькі грубелі, гэтыя Фрузы, Архіпкі, Ганкі, ляніліся, апускаліся, а пры выпадку маглі і ўкрасці, што дрэнна ляжала. Але ў мацеры гэта не лічылася хібам, яна ўсё тлумачыла іх цемнатой, неадукаванасцю, і яна іх прасвяшчала, чытала ўвечары на кухні Талстога, Някрасава, вучыла грамаце. Скончыўшы вучылішча, і я пайшла вучыць грамаце вясковых хлопчыкаў у глухім павеце Віцебскай губерні. Не скажу, што тыя гады былі самыя горшыя ў маім жыцці, можа, наадварот: хлопчыкі мяне любілі, ды і я прывязалася да іх - нічога не шкадавала, ні сілы, ні працы, далучала да культуры і элементарных ведаў, сама перабівалася з хлеба на квас, наймала куткі ў местачковых яўрэяў. Але ў тым я бачыла свой абавязак перад народам і выконвала яго з захапленнем. Самі разумееце, у маладыя гады гэтага захаплення бывае праз меру.

- І вы тут, у мястэчку, работалі? - запытаўся Агееў.

- Не, не тут, у розных месцах. Але больш за ўсё ў Дрысенскім павеце. Адзін год пад Дзвінскам, за дзесяць кіламетраў ад горада. Там і сустрэлася з айцом Кірылам.

- А ён што - ужо і тады быў сьвяшчэннікам?

- Толькі што канчаў духоўную семінарыю, збіраўся атрымаць прыход, можа, не самы горшы ў епархіі. Але, ведама, народ, як і ўсюды, быў бедны, жыў у цемры і невуцтве, і айцец Кірыл з не меншым імпэтам, чым я, узяўся за яго духоўнае выхаванне. Гэта цяпер так кажуць, што рэлігія - опіум для народа, а тады так не думалі, большасць лічыла наадварот, што вера ўзвышае, далучае да ісціны і святла. Праўда, і тады былі атэісты, такія, што лічылі яе далёка не самым важным у жыцці грамадства, на першае месца ставілі асвету, патрэбу ў ведах. Я таксама належала да гэтых апошніх.

- Як жа вы тады замуж выйшлі? За папа? - усміхнуўшыся ў цемры, запытаўся Агееў.

Неяк наперакор настрою ён слухаў Бараноўскую з усё большай для сябе цікавасцю, спакваля адкрываючы ў гаспадыні зусім іншага чалавека, чым той, які яму здаўся ўпачатку. Гэта было нечакана і нават здзіўляла. А ён яе прыняў за звычайную вясковую кабету, гэтую выпускніцу віленскага Марыінскага вучылішча, жонку прыходскага свяшчэнніка.

- У тым і справа, і я збіралася расказаць вам, як гэта сталася ў маім жыцці - усё насуперак перакананням, схільнасцям. Розныя мы мелі перакананні, а вось палюбіліся, не ведаю нават - чаму. Хаця закахацца ў айца Кірыла было няцяжка, ён быў такі відны, высокі, з русявай бародкай, вочы сінія-сінія, пагляд быццам наіўны, змройлівы, а голас... З голасу ўсё і пачалося. Першы раз пачула яго ў царкве, зайшла другі раз, а пасля сустрэліся з ім у ісправніка на калядах, а на масленую ён ужо прасіў маёй рукі. Бацькі былі побач, у Полацку, але я ўсё рашыла сама, і павянчаліся ў той жа ягонай царкве. Бацька мой, даведаўшыся, нічога не сказаў, а мамаша закаціла істэрыку - такога яна не чакала. Але гнеў яе хутка мінуў: варта было ёй пабачыць майго сінявокага свяшчэнніка, як гнеў змяніўся на міласць - Кірыл чараваў кожнага перш за ўсё сваім пакорлівым выглядам, пасля асанкай, ну, і розумам, канечне. Апроч святых канонаў ён някепска

ведаў літаратуру, разбіраўся ў мастацтве - сучасным, заходнім і візантыйскім, ды і да праваслаўнай царквы адносіўся ўмерана крытычна, бачыў у ёй не толькі плюсы, але і рад мінусаў. Аднак ён не хацеў асабліва ганьбіць руку, «хлеб дающую», і абавязкі свае выконваў старанна.

У пятнаццатым годзе ў нас нарадзіўся Алежка. Я жыла тады ў бацькоў у Полацку, Кірыл быў на фронце, ён служыў палкавым свяшчэннікам у Галіцыі, часта пісаў пра пакуты рускага салдата-акопніка ў той вайне. Праз год улетку прыехаў на пабыўку, падарыў на кароценькае шчасце і паехаў. І тут я, ведаеце, неяк бы падрасла ці пасталела, можа, пад ягоным уплывам ці таму, што стала маці, але менавіта з таго лета ў мяне мала што засталося ад дэмакратызму маёй маладосці і ўпершыню прыадкрылася вялікая таямніца бога. А можа, таму, што час перамяніўся - насталі доўгія гады разрухі ў тыле, няўдач на фронце, людскіх трагедый. Якраз улетку таго года загінуў у баі пад Рыгай мой стрыечны брат Юра, каторага я так любіла. Слаўны быў, чысты хлопчык, пайшоў з патрыятычных перакананняў вольнаапрадзяляюшчымся ў артылерыю, але паступова расчараваўся ў вайне, незадоўга да пагібелі пісаў поўныя ўпадку пісьмы і загінуў, ратуючы батарэю ад непрыяцеля. Помню, мяне тады ўразіла гэта - зненавідзеў вайну, франтавыя парадкі, начальства, а калі настаў час - праявіў геройства і загінуў, да канца выканаўшы свой абавязак. І я думала: што гэта - вышэйшая доблесць ці хлапечае глупства? Я ўсё прымервалася да характару брата і не магла зразумець, ці здольна я на такое...

- Ну, а вам нашто было прымервацца? Вы ж жанчына. Ды яшчэ маладая мамаша, - сказаў Агееў.

- Напэўна, у тым і ўся справа, што стала маці. Гэта, ці ведаеце, заўжды мяняе псіхалогію жанчыны, асабліва ў трудны час, прывязвае да дзіцяці, ведаеце, да мужа таксама. Я гэта зразумела, калі дачакалася нарэшце Кірыла - прыйшоў неяк пад восень у семнаццатым, зморана, абвашыўлены, душэўна надламаны.

Кастрычніцкі пераварот ён сустрэў спакойна, без асаблівай радасці, але і без гора - сам ён паходзіў з сялян, ведаў жыццё бяднейшых класаў, блізка прымаў іх інтарэсы і клопаты. Многае ў старым рушылася, бурылася, перайначвалася, але, здавалася, усё гэта рабілася дзеля выгады працоўных мас, для карысці народа. А калі для народа, дык якія маглі быць сумненні - народ мы паважалі з дзён нашай маладосці, для народа мы гатовы былі на ўсё. І калі ў нас разбурылі маёнтак Бротберга, спалілі бібліятэку, паламалі дарагую мэблю, скульптуру, Кірыл абурыўся - усё гэта дужа б спатрэбілася для новай народнай улады. Але маёнтак няхай, маёнтак, урэшце, дзела нажыўное, а вось тое, што расстралялі дырэктара народнага вучылішча, які ўсім сэрцам і справамі служыў менавіта народу, гэта ўжо было чорт ведае што! А расстралялі толькі таму, што той спрабаваў не даць рабаваць маёнтак, маючы на ўвазе перанесці туды вучылішча, дык яго расстралялі як абаронцу буржуазіі, а маёнтак спалілі. І хто? Тыя самыя цёмныя, паднявольныя мужыкі, дзеці якіх вучыліся ў народным вучылішчы ў гэтага самага дырэктара Івана Іванавіча Посных. Можа быць, гэты выпадак упершыню, а пасля і многія да яго падобныя вымусілі мяне зразумець, што людзі дзеляцца не па саслоўнай ці класавай прыналежнасці, не па прафесія і пасадах, а на добрых і злосных і што на аднаго добрага ў жыцці трапляе дзесяць злосных. І што дабрата немагчымая без бога, а са злом у чалавеку абавязкова пасяляецца д'ябал, якому ўжо ніхто не дасць рады.

Пасля грамадзянскай вайны Кірыл атрымаў прыход у родным мястэчку. Да нас тут доўгія гады раскашаваў айцец Піліп Заяц, гэта, я вам скажу, быў далёка не лепшы са служак боскіх, ды і з сыноў чалавечых таксама. Тыповы поп-абірала, абібок і п'яніца, якіх тады нямала развялося ў правінцыі. Гэты ўмеў прыладзіць рэлігію да свае асобы, ды так спрытна, нібы яна была для яго і створана богам. Пападдзя таксама папалася ў пару да бацюшкі, такая ж прагная і карыслівая, зрэшты, яна і кіравала папом і прыходам - цёмная, злосная баба. Да рэвалюцыі прыхаджане штогод падавалі скаргі,

ездзілі ў сінод нават, але Заяц, дзе трэба, умеў прыкінуцца ягнём, а тым, хто паскардзіўся, пасля люта помсціў. Апошні раз скаргу на яго склала маладая фельчарка, дык ён давёў яе да самагубства - атруцілася морфіем. І мёртвай яшчэ помсціў - не даў пахаваць на могілках, закапалі за плотам каля дарогі. Але ўсё ж не скаргай, дык смерцю сваёй яна дамаглася, што Зайца знялі з прыхода, замест прызначылі айца Кірыла. Пераехалі мы ў гэтую во хату. Некалі тут мінула дзяцінства мужа, пасля прайшло дзяцінства нашага Алежкі. Я ў школе ўжо не рабіла, была простай хатняй гаспадыняй, пападдзёй, жылі мы пераважна з гарода ды з таго нямногага, што ахвяравалі прыхаджане. Трудна жылося. Але тады ўсім трудна жылося. Я палюбіла гэты дворык, і дом, і суседзяў на вуліцы - усе яны былі працавітыя, бясхітрасныя людзі. Я старалася з усімі жыць у міры і згодзе, чым магла памагала мнагадзетным, вулічным рабятам, у нас паявіліся сябры з простанароддзя. Інтэлігенцыя - настаўнікі, саўработнікі неяк з намі не надта вадзіліся, але бог і імі, я іх разумела. Пасля стала горш, айцец Кірыл захварэў, стаў кепска спаць, часта нерваваўся, хаця спраўна адбываў службу, ездзіў на трэбы, сумленна рабіў усё, што належала рабіць прыходскаму свяшчэнніку. Але разгортвалася барацьба з рэлігіяй, і, як гэта нярэдка бывае, гэтая барацьба стала персаніфікавацца, набываць канкрэтны характар. Панятна, што айцец Кірыл стаў першым аб'ектам гэтай барацьбы. Часта сталі парушаць парадкі абедні - то выкрыкі, то п'яная свара. Пасля сталі яго выклікаць - пераважна ноччу - у ГПУ, у сельсавет, а то на дыспуты з народам. Ён не працівіўся, паслухмяна хадзіў, удзельнічаў у дыспутах, дзе, канечне ж, верх браў не ён. Верх заўжды быў за Коськам Брытым - не ведаю дагэтуль, дзе тут ад мянушкі, а дзе ад прозвішча. Але аднойчы, калі айцец Кірыл расказваў аб паходжанні святога Евангелля, гэты Коська Брыты сразіў яго воклічам: «А ты сам бога бачыў?» Айцец Кірыл узяўся тлумачыць, што бога немагчыма ўбачыць, што гэта хутчэй нраўственнае паняцце, чым персона, але гэты Брыты дабіў яго рэплікай аб тым, што «нраўственнасць ці наравітасць - гэта ад кабылы, якая не хоча ісці ў аглоблі, а мы,

маўляў, людзі свабодныя, цяпер нам воля, і пляваць мы хацелі на бога».

Усё гэта было даволі прымітыўна, груба і абурала, але Кірыл умеў сцішваць свой гнеў і яшчэ спрабаваў растлумачыць нешта, можа быць, больш папулярна, пакуль двое сябрукоў гэтага Брытага не ўзлезлі на сцэну і не насунулі на вочы святару шапку, тым закрываючы дыспут. Пасля было шмат рознага, болей кепскага: зламалі веснічкі ў царкоўнай агароджы, гадзілі на паперці, мазалі гноем вароты нашай сядзібы. А пра выкрыкі, крыўдныя рэплікі на вуліцы, у крамах за спіной айца Кірыла і за мной я ўжо не кажу, я да іх прывыкла і старалася не заўважаць. Горш стала, калі малы Алежка пачаў прыходзіць з вуліцы са скаргамі на таварышаў - то абазвалі, то пакрыўдзілі, а то і пабілі. Памучыліся мы, пагаварылі, ды і адвезла я сына да бабкі ў Полацк. Там ён быў проста Алег Бараноўскі, пайшоў у школу, вучыўся, як усе, і толькі ўлетку прыязджаў на некалькі тыдняў да маці з бацькам. Што тады рабілася ў маёй душы, гэтага не зразумець нікому. Нават муж не ведаў пра ўсе мае пакуты, тым болей што яму хапала сваіх...

Бараноўская гаварыла з набалеласцю ў голасе, часта спынялася, быццам прыслухоўваючыся між думак да невыразнага водгулля пражытых гадоў, і Агееў зразумеў, што гэта - не проста расказ, гэта споведзь спакутаванага чалавека, рэквіем па жыцці. І ён уважліва слухаў, стараючыся зразумець у многім загадкавы сэнс чужога лёсу. Ніякіх асабістых адносін да гэтага лёсу ў яго спярша не было, як не было ні спачування, ні асуджэння, была толькі ціхая чалавечая цікаўнасць. Сам ён належаў да іншага часу і ішоў зусім іншай сцяжынай жыцця. Часам слухаючы яе голас, ён пераставаў бачыць яе цяперашнюю і ўяўляў у цьмяным аблічча мінулага - то дарэвалюцыйнага, то настаўніцкага, пасля мястэчковага, папоўскага быту. Хацелася ведаць, як усё было далей і што сталася з яе сінявокім свяшчэннікам.

- Айцу Кірылу зусім кепска стала, калі ў начальства над

мястэчкам выбіўся гэты Коська Брыты. Ужо як толькі ён не здзекаваўся з нас! Ніводнага сходу, пасяджэння або спектакля ў нардоме не праходзіла, каб ён не аблаяў бога, царкву і свяшчэнніка айца Кірыла. І мяне нямала здзіўляла цярпенне айца Кірыла, ён не азлобіўся, ні разу не закрычаў нават, трываў усё, часам уступаў у дыспут, а часцей маўчаў, бо размаўляць з Брытым сур'ёзна было немагчыма, ён толькі пагражаў і лаяўся. І вось справа скончылася тым, што неяк вясной царкву закрылі - якраз перад вялікаднем. Канечне, гэта выклікала крыўду сялян, некаторыя пісалі скаргі нават Калініну. Але ўсе скаргі вярталіся для разбору ўсё таму ж Коську Брытаму, які пасля гэтага лютаваў яшчэ болей. Аднойчы, калі ўжо арганізавалася МТС, ён падагнаў да царквы два трактары, наш верхалаз у прамым і пераносным сэнсе Лёкса Семашонак узлез на купалы, зачапіў за крыжы канаты. Напэўна, сабралася паўмястэчка паглядзець, як трактары, тузаючыся, выламалі з купалоў крыжы і сцягнулі іх з даху. У непагадзь царкву пачало заліваць дажджом, убранства стала псавацца, так прадаўжалася з год, пакуль аднойчы камісія сельсавета не рэквізавала царкоўную маёмасць. Кнігі пацягалі хлапчукі і доўга яшчэ з рукапісных пергаментаў рабілі змеяў, пускалі з пагорка на вецер. А з папоўскіх рыз прамарцель шыла цюбецейкі, і ўвесь раён шмат гадоў хадзіў улетку ў гэтых шытых золатам і срэбрам мусульманскіх уборах.

Айцец Кірыл ледзьве перажаў закрыццё царквы, аднойчы зусім заняпаў душой. Ніякай іншай работы ён не меў, ды ніякай яму і не давалі, і тады ён надумаў: папрасіў родзіча з Ленінграда прыслаць яму шавецкі інструмент, ну, там розныя калодкі, абцугі, малаткі, і пачаў рамантаваць абутак. Неяк трэба было жыць, сродкаў жа ў нас не было ніякіх. Канечне, шавец з яго атрымаўся няўмелы, зарабляў калі пяць яек у дзень, калі вядро бульбы ці капеек пяцьдзесят грашыма. З таго і жылі. Але і тое працягвалася нядоўга, рамеснікаў-адзіночак абкладвалі вялікімі падаткамі, нельга было займацца прыватным прадпрымальніцтвам. А ў шавецкую арцель яго не прымалі - шкодзіла сацпаходжанне. Што мы маглі зрабіць.

Бараноўская сціхла, пераживаючы штосьці недасказанае ці недадуманае, можа, і Агееў запытаўся, імкнучыся, каб цішэй і далікатней:

- Ну, а як жа вы жылі?

- Дрэнна жылі, што і казаць. Парой здавалася, лёс замкнуў на нас сваю пастку, з якой не было выйсця. Рознае думалася, болей кепскае. Але людскі гонар і вера ўтрымлівалі нас ад апошняга кроку, а галоўнае - трымаў у жыцці Алег. Калі аднойчы ноччу не стала бацькі, а хутка зламаў сабе галаву і наш мучыцель Коська Бриты, у мястэчка прыехаў Антон Сцяпанавіч.

- Гэты самы Волкаў?

- Гэты самы. Несумненна, ён паходзіў з добрых людзей, як бы ні называўся і чым бы ні займаўся на свеце. Алег скончыў школу, але, самі ведаеце, куды было яму падацца з такімі яго бацькамі? І вось я аднойчы пайшла ў райком, расказала Антону Сцяпанавічу пра ўсё, па шчырасці, як во цяпер вам. Ён выслухаў, не варухнуўшыся за сваім сталом, не перапытаўшы ні разу, і сказаў: «Я вам памагу». І, ведаеце, ён даў такую паперу, што Бараноўскі Алег, будучы паходжаннем з сям'і святара, парваў з бацькамі, адмовіўся ад рэпрэсіраванага бацькі і сумленна жадае будаваць бяскласавае сацыялістычнае грамадства. Прызнацца, прачытаўшы такую паперу з пячаткай, я заплакала, а ён кажа: «Не плачце, так трэба. Для вас гэта самае прыдатнае выйсце». І праўда, аказалася прыдатным тое выйсце - Кірыл прапаў, а Алег паступіў у інстытут, скончыў яго і стаў спецыялістам. З'явілася ўжо надзея, што для яго пачынаецца новае жыццё, не тое, што пражылі мы, - але во ўсё рухнула.

Здаецца, яна ўрэшце паспавядалася і змоўкла, можа, трохі заплакала, і Агееў неспакойна заварушыўся на тапчане.

- Да-а... Аднак... - не мог ён зразумець чагосьці. Драматычны сэнс гэтага лёсу не адразу, паступова, нібы штуршкамі, з перашкодамі даходзіў да ягонай

свядомасці. - Рэлігія, яна, канечне, таго... Несумясціма...

- Справа не ў рэлігіі, - перапыніла яго Бараноўская. - Справа ў сумленні, якое далёка не з усім у нашым жыцці сумясціць можна было.

- Ведаеце, калі ішла класавая барацьба...

- Вось вы кажаце: барацьба! Але барацьба, калі двое адзін з адным боруцца. А мы хіба бароліся? Мы ж прынялі яе, новую ўладу. А вось яна нас не прыняла. Змагаліся з намі. І гэта хіба не крыўдна?

Чорт ведае, як было адказаць гэтай былой пападдзі: усё, што адбывалася тады ў краіне, было яму добра знаёма і тэарэтычна някепска абгрунтавана ў друку - канечне, калі глядзець збоку. Але варта было вось хоць краем вока зазірнуць у душы гэтых дваіх служыцеляў культу, як рабілася незразумела і крыўдна, гэта ён адчуў пэўна.

Бараноўская тым часам сказала:

- Ведаеце, мы былі абдзелены ў нашым жыцці дабрынёй, можа быць, таму так даражылі яе малаю рэштай, якая нам дасталася. І якой мы стараліся надзяліць іншых. Што ж яшчэ магло быць даражэй? Золата? Багацце? Іх у нас не было ніколі, а дабрыня была, да яе мяне далучыў муж, вечная яму памяць за гэта. Для сябе ўжо не трэба, мне што... Для іншых. Тым больш для харошых людзей. Каторым яна патрэбна.

Каторым яна патрэбна...

Калі яна выйшла, было, мабыць, ужо за поўнач, і ён усё думаў, што сталася б з ім, калі б не людская дабрыня, не хрысціянская, чалавечая ці якая яшчэ там міласэрнасць гэтай цёткі-пападдзі? Колькі ўжо тыдняў ён жыў пад ворагам, карыстаючыся менавіта гэтай дабрынёй людзей - з харчаваннем, сховішчам, а цяпер яшчэ і з даглядам яго, параненага, не плоцячы за гэта нічым, усё беручы па праву... Па праву абаронцы, ці што? Але які ж з яго абаронца, калі немцы адхапілі ўсю

Беларусь і дайшлі да Смаленска? Кепскі з яго атрымаўся абаронца. А во і не сорамна, нават у чымсьці адчуваецца перавага перад гэтай былой пападдзёй, якая корміць яго, даглядае, пільнуе.

Чым ён ёй адплоціць?

Ён верыў Бараноўскай і не сумняваўся ў шчырасці яе споведзі, і ўсё ж недзе ў глыбіні душы часам торгала паганае адчуванне: як бы яна не падвяла яго, гэтая пападдзя. Усё ж яна належала да чужога класа, а рознасць класавах інтарэсаў - ёсць вечная перадумова для барацьбы, гэта ён засвоіў яшчэ ў школе ды і з кароткага курсу таксама. Столькі нацярпеўшыся ў жыцці, страціўшы мужа і сына, як можна адказваць за сваё гора нейкай там дабрынёй? Але, мабыць, можна, нездарма ж ёй даверыўся сакратар райкома, цяпер даверылі яго, Агеева. Значыць, ёсць у яе нешта вышэй за яе класавыя крыўды, а можа быць, і вышэй за прыроджанае імкненне да справядлівасці. «Штосьці дабрэйшае за дабрыню», - паўтарыў ён у думках, не знаходзячы адказу і адчуваючы, што засынае...

## Раздзел трэці

Прачнуўшыся, як заўжды, на світанні, Агееў бавіў час ў спальніку, думаў. Дажджу, мабыць, ужо не было, ветру таксама. Верх палаткі спакваля сох, набрынялыя вільгаццю плямы вузелі і знікалі. Ён разгублена глядзеў на крывыя абрысы гэтых плямаў, якія ранкам усё болей выяўляліся на парусіне, і ўспамінаў недарэчны сённяшні сон, імкнуўся разгадаць яго сэнс. Ён даўно ўжо навучыўся адгадваць блытанае прароцтва сваіх сноў, якія звычайна адносіліся да новага дня. Наогул гэта магло здацца смешным для кандыдата навук, і ён нікому не гаварыў пра тое, баючыся насмешак і кпінаў, але ў яго даўно ўжо склалася свая сістэма разгадак, глыбока асабістая, хутчэй эмпірычная, чым калькі-небудзь навуковая. Але, кіруючыся ёю, ён мог нават сказаць, што з яго сноў збудзецца ў першай палове дня, а што ў другой. Усё ў яго снах мела дакладныя суадносіны з часам будучых сутак. Канечне, было ў іх і

нямала невыразных, загадкавых сімвалаў, не да канца зразумелых значэнняў, але адно заставалася нязменным - кепскія сны заўжды азначалі кепскую яву і, наадварот, радасныя сны прадказвалі радасныя падзеі ў нейкі час наступнага дня.

На гэты раз усё было проста і коратка, але даволі брыдотна: ён убачыў сябе неапранутым, нават без бялізны, у мітуслівым натоўпе людзей, які бывае ля стадыёнаў перад пачаткам матча, на прывакзальнай плошчы пасля прыбыцця цягніка, на базары. Усе ішлі насустрач, а ён нічым не мог прыкрыцца і вельмі саромеўся, хоць і не разумеў, чаму так сталася. Сон доўжыўся, можа, некалькі хвілін ночы, але сапсаваў настрой надоўга, і ён думаў: якую яшчэ гідоту рыхтуе яму гэты дзень? Ён зусім не сумняваўся, што гэтая гідота здзейсніцца, цяжка было толькі вызначыць яе сэнс і значэнне. Зрэшты, пра тое ён думаў не доўга, з учарашняга дня яго чакала звыклая праца, ён і так страціў процьму часу, які хуткаплынна мінаў, нічога не праясняючы з таго, што ён прагнуў для сябе зразумець. Скаланаючыся ад вільготнай стыласці ранку, ён надзеў сваю сінюю куртку і, узяўшы рыдлёўку, пайшоў да абрыву.

Нярадасны выгляд кар'ера, які пасля ліўню адкрыўся яму ўчора, амаль не змяніўся за ноч: вялізныя лужыны на дне кар'ера па-ранейшаму былі поўныя жоўтай вады; гара глею і пяску, што рухнула з краю абрыву, разваліласся сярод адной з іх шырокай гаццю, па-ранейшаму палохаючы яго сваім аб'ёмам. Гэта колькі спатрэбіцца дзён, каб перакідаць яе ўбок. Ці, можа, зноў папрасіць бульдозер, падумаў Агееў. Але цяпер бульдозер сюды, мабыць, не сунецца, бульдазерыст не стане рызыкаваць машынай. Ды і што карысці з бульдозера, які можа перагарнуць сотні кубоў, але нічога не зрабіць там, дзе ўсё трэба перабраць рукамі.

Агееў з пагорка сышоў на дарогу і пратаптанай ім у бульнягу сцежкай, месцамі слізгаючы нагамі па мокрай зямлі, спусціўся ў самую глыб кар'ера. Зляжалы пясчана-гравійны грунт тут не надта паддаўся дажджу і

там, дзе не было лужын, добра трымаў чалавека. Вада ў лужынах стаяла густая і жоўтая, бы апельсінавы сок, і ў глыбокіх мясцінах, мабыць, дасягала яму да пояса. Крыўднае было ў тым, што лівень амаль цалкам затапіў самае патрэбнае яму месца пад навіслым абрывам, на якое ў дадатак да ўсяго яшчэ і рухнула глыба грунту. Агееў нерашуча ступіў на край гэтай глыбы і на яе беражку ля вады зледзеў нешта такое, што змусіла яго ўпусціць з рук рыдлёўку.

Гэта быў абмыты дажджом, зморшчаны і пагнуты жаночы туфель няпэўнага колеру на высокім абцасе, з адкрытым наском і вузенькім раменьчыкам на гузічку - зусім такі, якія перад вайной звалі лодачкамі. Ён амаль сатлеў, доўга праляжаўшы ў зямлі, раскіс ад вільгаці, ледзьве захаваўшы сваю перашапчатковую форму, але ўсім сваім выглядам прымусіў Агеева адчуць нечаканае хваляванне, амаль разгубленасць. Праўда, па меры таго, як ён узрушана круціў знаходку ў руках, мацаючы слізкую скуру, напаўадарваны абцас з рэштаю ржавых цвікоў, хваляванне яго стала марнець пад напорам цвярозых думак: ці мала тут магло знайсціся кінутага абутку, яму ўжо трапляліся і кірзавыя халявы ад ботаў, і дзіравыя дзіцячыя галошыкі, цяпер гэты туфель... Але ж туфель! Ён не запомніў тады, які ў яе быў памер, але іх знаёмства ў тым далёкім годзе пачалося менавіта з туфляў, здаецца, светла-бежавага колеру, якія яна прынесла яму, самазванаму местачковаму шаўцу. Ён яшчэ не ўмеў як трэба падбіць абцасы да мужчынскіх ботаў, а яна папрасіла залапіць насок, і ён нямала папрацаваў тады - у вузкі насок пралазілі толькі два яго пальцы, паспрабуй далезці туды з іголкай! Можа, каму іншаму ён бы адмовіў у гэтым нязручным рамонце, але ёй адмовіць не мог: гэтая дзяўчына прыглянулася яму з першага погляду.

Мабыць, туфель - чыстая тут выпадковасць, трапіў у кар'ер, можа, некалькі гадоў таму, наўрад ці ён мог захавацца тут з сорак першага года, з мешаным пацуццём расчаравання і палёгкі падумаў Агееў і, адклаўшы знаходку, узяўся капаць. Ён капаў і адкідаў прэч вільготны шчэбень, пільна акідваючы позіркам

кожны камяк зямлі. Але нічога болей там не было - усё той жа шчэбень, пясок без прыкмет чаго-небудзь іншага, нават звычайнага смецця цяпер там не было. Накапаўшы немалую кучу, прытаміўшыся і спатнеўшы, ён убіў у зямлю рыдлёўку і, адышоўшыся на сухое, прысеў адпачыць.

Неяк вяла і нерашуча пачынаўся дзень, з ночы не было дажджу, але ранак наступіў хмарны, у небе над кар'ерам вісела мяккая малочная смуга, праз якую нідзе не прабівалася сонца. Цяжка было згадаць, якім выдасца дзень - ці прасвятлее да абеду, ці зноў пойдзе дождж і зусім затопіць кар'ер. Тады будзе зусім кепска. Можа, упершыню за праведзены тут час у яго прамільгнула здрадлівая думка: колькі ж можна? Ну, зразумела, яму стала неабходна гэта, спярша цікаўнасць, а пасля і неадольная патрэба паднялі яго з дому і пагналі за сотні кіламетраў у гэты закінуты кар'ер, але ж колькі можна выкладвацца? Ён патраціў тут большую частку лета, змарнаваў столькі сваіх немаладых сіл, напаткаў столькі расчараванняў і столькі перахваляваўся дарма, а чаго ён дамогся? Ранейшая загадка, якая гадамі трывожыла яго свядомасць, ні на сантыметр не наблізілася да сваёй разгадкі, нарадзіла новыя сумненні і новыя праблемы. Ён перавярнуў тут гару зямлі, усё чакаючы ўбачыць хоць штосьці, што магло зберагчыся ў зямлі за чатыры дзесяцігоддзі і што з пэўнаю доляй дакладнасці можна было б аднесці да яе: гузік, грабеньчык, спражку ад паяска, косць, нарэшце. Але нічога такога яму не траплялася, апроч во гэтага туфля, які мог належаць ёй з такой жа падставай, як і тысячам іншых жанчын. У глыбіні душы гэта нават радавала, бо прадоўжыла няпэўнасць і тым самым давала надзею. З самага пачатку надзея была для яго жаданым працягам, яна давала магчымасць жыць, працаваць, пакідаючы хоць маленькую шчылінку для выйсця ў будучыню. Але павінна ж яна ўрэшце набыць хоць маленькае, але пераканаўчае абгрунтаванне, гэтая надзея. Менавіта для надзеі трэба было выключыць з сумнення гэты кар'ер, на якім замкнулася для яго самае важнае, не пераадолеўшы якое немагчыма было разлічваць ні на

якую пэўнасць.

Не, не зважаючы ні на што, ён мусіў капаць.

Галоўнае ён ужо зрабіў: ён перакапаў вялізны завал, перацёр у пальцах кубаметры зямлі, засталося меней. Мабыць, ён бы скончыў усё праз тыдзень або дзён праз дзесяць, калі б не гэты нечаканы лівень. Лівень яму сапсаваў усё. Што цяпер рабіць?

Аднак стала падобна на тое, што сёння ён прытаміўся заўчасна, пачало калаціцца сэрца: можа, прычынай таго была не праца, а яго хваляванне ад гэтай знаходкі? Падобна, аднак, ён стаў расклейвацца, магчыма, ад доўгага напружання пачалі здаваць нервы, што ўжо нікуды не варта. Можа, не трэба было так выматваць сябе працай, адпачыць сёння, расслабіцца, думаў ён, седзячы на яшчэ сыраватым адвале зямлі. Усё седзячы так, ён неўзабаве пачуў галасы і, падняўшы галаву, паглядзеў на дарогу. Да сярэдзіны заслоненыя зараснікам дзядоўніку на ўваходзе ў кар'ер, нягучна размаўляючы між сабой, стаялі тры чалавекі, позіркамі шукаючы штось у глыбіні кар'ера. Агееў паволі падняўся, імкнучыся зразумець, што ім тут магло спатрэбіцца. Гэта былі двое мужчын і жанчына. Пярэдні ўрэшце згледзеў яго ў кар'еры, кіўнуў астатнім, і яны адно за адным, асцярожна, баючыся паслізнуцца на мокрай зямлі, павалакліся ў глыбіню кар'ера.

Пакуль яны прабіраліся да яго, Агееў паспеў разгледзець кожнага, але так і не зразумеў, што гэта былі за людзі. Пярэдні, хударлявы мужчына ў кепцы і шэрым пакамечаным пінжачку са зморшчаным каўняром, дробнымі крокамі тупаў па сцежцы, здаля пазіраючы на яго маленькімі, з вясёлым прыжмурам вачмі. Трохі адстаўшы ад яго, цяжка пыхкаў немалады таўстун у чорным расхінутым плашчы і ў летнім капронавым капелюшы. Левай рукой ён часам узмахваў у паветры на слізкай мясціне, а правай прыціскаў пад пахай тонкую кардонную папку з матузамі-завязкамі. Апошняй ішла таксама немаладая цётка ў стракатай сукенцы, якая туга абцягвала яе аб'ёмістыя грудзі і круглыя плечы. Яна амаль нерухома несла на іх

сіваватую галаву з сабранымі на патыліцы рэдкімі валасамі і ні на каго не пазірала.

- Во, як тут наліло! - сказаў пярэдні, згледзеўшы пад абрывам лужыны. - Хоць карасёў запускай.

- Для карасёў не падыдзе, - каб не маўчаць, сказаў Агееў. - Высахне, напэўна.

Ён ужо зразумеў, што гэта - да яго, магчыма, ад якой арганізацыі ці пассавета, і стрымана адказаў на прывітанне таго, што быў у капелюшы.

- Не, хутка не высахне, - сказаў худзейшы. - Цяпер да восені. А ўвосень тут будзе возера. Летась, як замерзла, мае тут на каньках каталіся, - паведаміў ён, звяртаючыся, аднак, да свайго спадарожніка, які моўчкі, усё пыхкаючы і хакаючы ад знямогі, разглядваў кар'ер. Стоячы на невялікім узлобку, ён паварочваўся ўсім целам то ў адзін, то ў другі бок, усё вывучаючы грунтоўна і тоячы загадкава-надзьмуты выраз на азызлым твары.

- Вы раскапалі? - нарэшце ва ўпор запытаў ён у Агеева. Полы яго калянага плашча шырока расхінуліся, і Агееў убачыў на левым лацкане пінжака рад каляровых планак узнагарод. Здаецца, для яго нешта стала праясніваццa.

- Я, - сказаў Агееў нягучна.

- Дазвольце запытаць: з якой цэллю вы робіце тут раскопкі?

Цяпер ужо ўсе ўтраіх уставіліся на Агеева: гэты з камандзірскай строгасцю ў сцюдзёных вачах, худы - з некаторай нават цікаўнасцю. Жанчына, бокам павярнуўшыся да яго, пазірала ваўкавата і падазрона, і Агееў сказаў жартоўна:

- Ды во паглядзець, якая зямля. Парадак залягання пластоў і так далей.

Уважліва выслухаўшы яго, госці крыху памаўчалі.

- Гэта з навучнай цэллю ці як? - пацікавіўся хударлявы.

- Чакай, Шабуня, - начальніцкім тонам перапыніў яго тоўсты. - Няхай гражданін аб'ясніць членараздзельна. Калі з навучнай, то павінен прад'явіць дакумент. Ад якой арганізацыі?

- Хаця б ад НДІ Белгаспрома, - падпусціў туману Агееў. - Навукова-даследчы інстытут, - растлумачыў ён. Гэтае тлумачэнне, аднак, зусім не спадабалася тоўстаму, які амаль увачавідкі пакрыўдзіўся.

- Панімаем, што такое НДІ, граматныя. У мяне ў самога ўнук у НДІ пад Масквой працуе. У Дубне. Так што не сумнявайцеся. Прад'явіце дакумент!

- Які дакумент?

- Дакумент на права раскопак, - удакладніў ён, і ўсё ўтраіх зноў уставіліся на Агеева.

Агееў у думках вылаяўся - прыгнала ж іх гэтым раннем на яго галаву - як цяпер ад іх адчапіцца?

- А вы хто будзеце? Каб патрабаваць дакументы, спярша трэба прад'явіць свае, - сказаў ён, пераймаючы строгую важнасць іхняга тону.

- Мы ўпаўнаважаныя. Падпалкоўнік у адстаўцы Еўсцігнееў, таварыш Шабуня з гаркамгаса і во таварыш Казлова, прадстаўнік абшчэственнасці, - важна адрэкамендаваў калег падпалкоўнік у адстаўцы.

- Вельмі прыемна. Дацэнт Агееў, - сказаў Агееў і рашуча працягнуў руку, якую падпалкоўнік з яўнай неахвотай трохі пацісну ў потнымі пальцамі. Пасля ён падаў руку Шабуню і крыўдліва насупленай Казловай. - Бачу, ад вас проста не адчэпішся, - сказаў ён, усё яшчэ не ведаючы, як быць. Усе трое з насцярожаным чаканнем у позірках глядзелі на яго, і Агееў, уздыхнуўшы, кіўнуў угору, у бок могілак. - Пайшлі да палаткі.

Лезучы па адхоне да свайго стойбішча, ён ўсё не мог даўмецца, што сказаць ім, як растлумачыць свае

раскопкі ў гэтым кар'еры. Вясной, прыехаўшы ў пасёлак, ён ненадоўга зайшоў у выканком пассавета і не так, як хацелася, таропка хвіліну пагутарыў са старшынёй, які кудысьці спяшаўся: ля ганка яго чакала «Волга» з прадстаўнікамі ад вобласці. Але, мабыць, старшыня ўсё ж зразумеў сутнасць ягонай справы і не запярэчыў. Зрэшты, ён яму і не казаў пра раскопкі, ён сказаў толькі, што трэба нешта паглядзець у кар'еры. І вось цяпер гэтыя ўпаўнаважаныя. Відаць, нехта ўжо наскардзіўся ў пассавет або вышэй. Цяпер вось апраўдвайся.

Падышоўшы да палаткі, ён развязаў уваход і, пакуль падпалкоўнік з астатнімі выбіраўся з кар'ера, выцягнуў з-пад адзення рукзак і разгарнуў празрысты пакет з дакументамі. З паўтузіна кніжачак і корак ён выбраў зялёнае пасведчанне ветэрана вайны і дыплом кандыдата тэхнічных навук, падумаў, што гэтыя дакументы, мабыць, павінны зрабіць нейкае ўражанне на прыдзірлівага адстаўніка. Ён сунуў іх у рукі падпалкоўніку, які затым нетаропка адшукаў у шматлікіх кішэнях акуляры ў тонкай аправе, зачапіў дужкі за вушы. Пасля ён абмахнуў спатнелы азызлы твар капелюшом і толькі тады пачаў вывучаць дакументы. Гэтае вывучэнне доўжылася некалькі хвілін, Шабуня таксама спрабаваў нешта там разгледзець, аднак хутка адвярнуўся, буркнуўшы: «Халера, без акуляраў не бачу», і хітравата падмігнуў Агееву. Казлова, стоячы наводдаль, засяроджана пазірала кудысьці яму пад ногі, усім сваімваўкаватым выглядам выказваючы маўклівае асуджэнне.

- Дакументы ў парадку! - нарэшце рашуча аб'явіў падпалкоўнік. - Удзельнік ВАВ, кандыдат навук. Але што вы шукаеце ў гэтым кар'еры, дазвольце ўзнаць? І чаму без разрашэння ўлады?

- З уладай дамоўлена, - трохі ўзбадзёрана сказаў Агееў. - Была размова з таварышам Безбародзькам.

Падпалкоўнік з Шабунем неяк загадкава пераглянуліся.

- Безбародзька месяц як не работае ў выканкоме. Зняты

за нарушэнія, - аб'явіў падпалкоўнік.

- Можа быць, - пагадзіўся Агееў. - Але гэта нічога не мяняе.

- Абсалютна нічога. Так што трэбуецца пісьмовае разрашэнне.

- Пісьмовае разрашэнне на што?

- На вядзенне земляных раскопак.

- Якіх жа раскопак? - трохі фальшыва здзівіўся Агееў. - Хіба гэта раскопкі?

- А што ж, дазвольце ўзнаць? - тэатральна махнуўшы тонкаю папкай, падпалкоўнік развязаў матузы. - Вось, калі ласка. Пачаў з восьмага іюня. Дзевятнаццатага іюня з прымяненнем бульдозера. З васьмі трыццаці ўтра да дванаццаці дваццаці. Ітаго тры часа пяцьдзесят мінут механізаваных раскопак.

«Аднак усё правільна. Менавіта столькі працаваў бульдозер, - здзіўлена адзначыў сабе Агееў. - Правільна падлічылі. З хранометрам...» Вельмі яму не хацелася тлумачыць з сапраўдных прычын ягонай цікавасці да кар'ера, але ён ужо зразумеў, што жартамі адгаварыцца, мабыць, не ўдасца. Гэта адстаўнік хапаў трэніраванай хваткай бульдога, ухіліцца ад якой было не проста.

- Ну, вось што! - сказаў ён трохі мякчэй. - Справа ў тым... Справа ў тым, што ў гэтым кар'еры восенню сорак першага расстралялі групу падпольшчыкаў...

- Гэта нам ізвесна. У цэнтры пасёлка ім памятнік.

- Ну. Хавалі. Памятаю, як асвабадзілі... такая духата стаяла, - успомніў Шабуня і чамусьці махнуў рукой.

- Дык вось, ведаеце, колькі там пахавана? - холадна запытаў Агееў.

- Ну, трое.

- А тут, - ён паказаў на кар'ер, - тут расстраляна пяцёра.

- Ну да? - усумніўся Шабуня. - Было трое, я сам бачыў. Не пахаванні тады, як я з лесу прыйшоў. Тры грабы стаялі.

Яго ўвогуле дабрадушны, у дробных зморшчынах твар зрабіўся недаверліва пакрыўджаным, здавалася, Шабуня гатовы быў абурыцца ад пачутай яўнай бязглуздзіцы.

- Згодны. Сапраўды, там пахавана трое. Але... Вось перад вамі чацвёрты...

- Ха! - няпэна выдыхнуў падпалкоўнік.

- Ну да? - здзівіўся Шабуня, а Казлова зводдаль прамармытала нешта ад здзіўлення ці недаверу - было не зразумець. Агееў жа не стаў болей нічога тлумачыць, ён і так сказаў надта многа.

- Во дзіва! - збянтэжыўся Шабуня і ссунуў на патыліцу кепку, агаліўшы белы, зусім не загарэлы лоб. - А дзе ж пяты?

- А во пятага я і шукаю, - сказаў Агееў.

Ён зноў пачаў хвалявацца, як там, у кар'еы, і, пакуль хаваў у мяшэчак дакументы, яго агрубелыя, у свежых мазалях пальцы па-здрадніцку прыкметна трэсліся. Падпалкоўнік тым часам штось напружана думаў з яўнай пакутай на азызлым, спатнелым твары. Але вось ён нарэшце ажывеў і выцяў яго нечаканым пытаннем:

- Чым вы дакажаце?

- Што - дакажу? - не зразумеў Агееў.

- Што былі чацвёртым? І што быў пяты?

- А я і не збіраюся даказваць. Я ж ні на што не прэтэндую. Нічога не прашу.

- А раскопкі?

- Даліся вам гэтыя раскопкі! - пачаў нервавацца Агееў. - Вам што, шкада гэтага смецця? Ці гэтай гразі ў кар'еры?

- Нам не шкада, таварыш Агееў. Але калі кажды пачне капаць дзе захоча, што будзе? Форменны непарадак будзе. А задача абшчэственнасці падтрымліваць парадак. На кожнае дзействіе далжно быць разрашэнне. А ў вас яго няма. Таму мы абавязаны саставіць акт. На факт нарушэння.

- Ваша справа! Можаце складаць, - сказаў Агееў і, адышоўшыся ўбок, сеў на перакуленае пластмасавае вядзерца. Гасцям тут сесці не было на што, але ён не стаў іх рассаджваць - хай уладкоўваюцца самі. У яго зноў закалацілася сэрца, краявід непрыемна паплыў у вачах, і ён на хвіліну прыжмурыўся, каб саўладаць з сабой, стрываць пры гасцях без таблеткі. Прыступ быў, аднак, не доўгі, і калі ён зноў зірнуў на гасцей, тыя, адышоўшыся да могілак і расклаўшы на камянях агароджы кардонную папку, узяліся складаць акт. Прадстаўніца грамадскасці Казлова стаяла зводдаль, насуплена пазіраючы на яго.

- Імя, вотчаства ваша? - гучна запытаў здаля падпалкоўнік, па-над акулярамі зірнуўшы на Агеева.

- Павел Пятровіч.

- Дзе пражываеце?

- У Мінску.

- Адрас. Вуліца? Дом?

Ну во, толькі гэтага і не хапала! Як на злачынцу. Яму вельмі хацелася зрэзаць гэтага барацьбіта за парадак якой-небудзь калючай рэплікай, але ён ужо ведаў з практыкі, што ў такіх выпадках лепш не пачынаць сваркі, змаўчаць. Сабе ж дзешавей абыдзецца, як казаў калісь Валерка Сініцын, ягоны саслужывец па інстытуце.

Складанне акта цягнулася даволі доўга, падпалкоўніка

некалькі разоў перапыняў працу. Ён яўна пакутаваў ад задышкі і патлівасці і раз за разам скідаў капялюш, абмахваўся ім, ціха бубніў сам сабе:

- Ведзёт... ведзёт раскопкі... Нет! Праізводзіт раскопкі, так лепш, а, таварыш Шабуня?

- Ага, так лепей, - не надта ўпэўнена пагаджаўся Шабуня.

- ...Саставілі гэты акт... Нет! Настаяшчы акт... - папраўляў сябе падпалкоўнік, і Шабуня згаджаўся:

- Настаяшчы, ага.

- Ну вот. Цяпер падпісаць. Прадлагаем вам падпісаць, - угнуўшы галаву, са спушчанымі на носе акулярамі звярнуўся ён да Агеева.

- Няма вам чаго рабіць, - з прыкрасцю сказаў Агееў, усё яшчэ не могучы зладзіць з сэрцам. Але сапраўды рабіць яму не было чаго, ён падняўся і, з натугай перастаўляючы ногі, падышоў да агароджы. - Каму пашкодзілі мае раскопкі?

Пры гэтых ягоных словах раптам неспакойна заварушылася апатычная да таго Казлова і ўпершыню загаманіла грубым мужчынскім голасам, які здаўся Агееву надта знаёмы. І ён тут жа здагадаўся, што гэта - гаспадыня жоўтага дома за дарогай насупраць. Як ён не пазнаў яе адразу?

- А вот і пашкодзілі! - працяжна загаманіла яна. - Заняў тут выган, распалажыўся... А гусі ў патраву ходзюць. Тут не ходзюць, пугаюцца... У патраву ходзюць.

- Ах, гусі!..

Цяпер усё стала зразумела. Неяк ранічкай, неўзабаве пасля таго, як ён паставіў тут палатку, з боку ад дарогі паявілася чарада гусей, і магутны прыгажун-гусак, які вёў чараду, здзіўлена спыніўся перад яго палаткай. Агееў лагодна паклікаў гусака, але той абурана засіпеў, выгнуў шыю і павярнуў назад. За ім у абход кар'ера

павярнула ўся чарада, дзе, мабыць, і зрабіла нейкую патраву. Цяпер давядзецца яму адказваць і за гэта.

Агееў узяў папку з густа і няроўна спісаным аркушам паперы. Мабыць, трэба было прачытаць, што там сачыніў гэта адстаўнік-падпалкоўнік, але без акуляраў ён таксама няшмат што бачыў, а вяртацца па іх у палатку не захацеў і абы-як распісаўся ўнізу пад птушкай, клапатліва пастаўленай складальнікам акта.

- Калі ласка, - сказаў ён, з націскам прыстукнуўшы шарыкавай ручкай.

Падпалкоўнік схаваў акт у папку, зняў з носа акуляры, сунуў іх у нагрудную кішэньку пінжака і раптам запытаўся ў Агеева ціха, амаль па-сяброўску:

- У шахматы гуляеце?

- Што? - не зразумеў Агееў.

- У шахматы, кажу, гуляеце?

Агееў пакруціў галавой - якія там шахматы! Ужо ці не прапануе гэты законнік пасля ўсяго, што здарылася, згуляць з ім партыю? Але падпалкоўнік не прапанаваў, ён толькі клапотна ўздыхнуў і сказаў:

- Вы гэта... Не крыўдуйце, таварыш Агееў. Парадак ёсць парадак, і ўсё трэба рабіць як паложана.

- Гэта канечне, - паспяшаўся згадзіцца Агееў, бо спрачацца з ім не было ніякай ахвоты.

Упаўнаважаныя грамадскасці чамусьці падышлі да абрыву, зазірнулі ў кар'ер. Рухавы Шабуня абабег яго зверху да палавіны, усё нешта тлумачачы і паказваючы. Але Агееў не слухаў і не стаў іх праводзіць да дарогі, ён зноў апусціўся на сваё вядро, на якім часам сядзеў надвячоркам ля касцярка, і, трываючы сардэчныя перабоі, думаў. Думкі яго былі адпаведныя яго настрою. Як мала трэба, думаў ён, каб збэсціць гэты настрой, і як цяжка наладзіць яго нанова. Во і тут, нічога ж асаблівага не адбылося, што яму недарэчныя прэтэнзіі

гэтых настырных прадстаўнікоў грамадскасці, ён іх не баяўся, бо не бачыў у сваіх дзеяннях нічога колькі-небудзь ганебнага ці недазволенага. А вось на душы стала кепска. Ён зусім не апасаўся, што іх дурному акту можа быць дадзены нейкі ход, ды і заставалася яму тут яшчэ некалькі дзён пакалупацца ў гэтым кар'еры, і ён паедзе, хутчэй за ўсё так нічога і не праясніўшы для сябе, не знайшоўшы нічога. (Марная справа, мусіць, знайсці што-небудзь праз сорак гадоў.) Але во ён расказаў ім пра тое, пра што не меў звычаю нікому расказваць - чаму ж не ўтрымаўся? Тое, што з ім тут здарылася, датычыла толькі яго аднаго, ну, і яе, канечне, таксама. Вось перад ёй ён абавязаны быў даць адказ, але ні перад кім болей. Ды яе даўно не было, не было нават яе белых костачак, якія, магчыма, даўным-даўно сталі попелам дзе-небудзь у крэматорыях Дахаў або Асвенціма, а ён шукае іх тут. Але, каб дапусціць штосьці іншае, перш трэба было ўпэўніцца, што яна ў тую восень не засталася ў кар'еры. Пасля можна меркаваць усё, што хочаш, але толькі выключыўшы з меркавання кар'ер. Калі ж яму гэта не ўдасца і выявіцца, што яна ўсё ж апынулася тут, тады ўсё. Тады поўны глухі тупік. Тады для яго поўная фініта ля камедыя і нічога больш, як любіў паўтараць усё той жа Валера Сініцын.

Калі трохі адпусціла сэрца, ён усё ж сышоў у кар'ер, узяў рыдлёўку. Але капаць сёння ён, мабыць, не мог, дрогкая слабасць у грудзях упарта не хацела выпускаць яго са сваіх ватных абдымкаў. Пастаяўшы трохі, ён падняў знойдзены раніцай туфель, абчысціў яго ад гразі, спаласнуў у вадзе. Усё ж гэта не яе туфель, рашыў ён. Там, дзе скура захавалася лепей, было прыкметна, што ён афарбаваны ў чорны колер - яе ж лодачкі былі светлыя, гэта ён запомніў выдатна. Туфель ён, аднак жа, не кінуў, падняўшыся да палаткі, зачапіў абцасам за вяроўку расцяжкі - хай сушыцца.

Тым часам ранак непрыкметна перайшоў у дзень, і, хоць сонца так і не паказалася ў небе, стала цёпла, ад волкай зямлі ўзнімалася душная пара. Дыхалася трудна, атмасферны ціск, мабыць, упаў, Агееў адчуваў

гэта па вялай рабоце сэрца, якое ледзьве варушылася ў грудзях, часта губляючы рытм. Ён чакаў, што слабасць мінецца, раней для таго варта было пасядзець у спакоі, можа, залезці ў палатку, адлежацца. Але ён усё сядзеў ля яе, думаў. Успомніў свой сон і журботна ўсміхнуўся: усё так і ёсць, як наваражыла ноч, дзень пацвердзіў, брыдота адбылася. Трэба было схадзіць па ваду ў другі ад канца вуліцы двор, дзе быў калодзеж, але не хацелася ўставаць, напружвацца, здавалася, ён страціў сёння здольнасць нават да невялікага намагання, і расслаблена бавіў час ла палаткі. У поўдзень з-за кар'ера, з поля павеяла лёгкім ветрам, які разагнаў парнасць і патрывожыў лісцвяны спакой велічных дрэў на могілках. Агееў з натугай падняўся і ўзяў пластмасавы бітончык, каб схадзіць па ваду. Але толькі адышоўся ад палаткі, як убачыў на рагу каменнай агароджы ля могілак знаёмую постаць Сямёна - здаровая рука таго размашыста адлятала ўбок у такт шырокаму кроку, за ёй дзіўнаватым палавінным рухам варушылася яго кульця. Сямён быў усё ў той жа жоўтай трыкатажнай тэнісцы, якая непаслухмяна вылазіла з-пад дзягі, што слаба сядзела на яго таліі.

- Прывет! Што не капаеш? Ці перакур? - бадзёра загаманіў Сямён.

- Перакур.

- Во і добра! У мяне тожа. Зранку пайку зграбаў, а тут баба пагнала па хлеб. Ды чорта з два: пацалаваў замок. Кажуць, прывязуць пасля абеду. Во прагуляюся, думаю.

- Ну і добра, - стрымана сказаў Агееў і нагой пасунуў госцю вядзерца. - Сядай, адпачні.

- Ты сядай. А я - там, дзе стаю.

Ён няспрытна ўзмахнуў кульцёй і, не выбіраючы месца, апусціўся на дробную, ужо сухую пасля дажджу траўку, звыкла склаўшы пад сабой доўгія, у растаптаных сандалетах ногі. Здаровай рукой адразу палез у кішэню па курыва.

- Камісія прыходзіла, - ціха сказаў Агееў.

- Якая камісія?

- Падпалкоўнік у адстаўцы, пасля адзін з райкамгаса і вунь суседка Казлова.

- Якога ражна ім трэба? - прыкурваючы ад запальніцы, здзівіўся Сямён.

- Склалі акт на раскопкі без дазволу.

- А, дык гэта Еўсцігнееў! Ён заўжды акты складае. З папкай такі, ага?

- З папкай.

- Гэты заўсёды - акты. Ля забягалаўкі хто паскандаліць - акт. Хто вуліцу перад хатай не падмяце - акт. У яго такіх актаў дома шэсць папак.

- Навошта яму яны?

- А каб па начальству хадзіць. Во складзе і - у райком. Пасля ў выканком. У міліцыю. У таварыскі суд. За парадак ваюе. Заўжды пры дзеле. На віду. Без дзела не можа. У шахматы гуляць клікаў?

- Клікаў! - прыпомніўшы, здзівіўся Агееў.

- Во, трэба было згуляць. І прайграць. Дужа любіць выігрываць. Бяда, аднак, яму рэдка праігрываюць. Хіба што Скараход. Але той з разлікам - дужа хітры. Ёсць тут адзін такі... ваяка, - злавіўшы недаўменны позірк Агеева, растлумачыў Сямён.

- І яшчэ Казлова з імі.

- Казлова? А гэтай што трэба? - у сваю чаргу здзівіўся Сямён.

- Ды во гусям яе перашкодзіў.

- Во-во! Такім усё на свеце шкодзіць. Таму што шмат хочуць. Цераз край. Скажу табе, з глузду з'ехалі людзі.

Як перад канцом свету. Усё чагосьць дамагаюцца, пра нешта хлапочуць, дастаюць. Ужо чаго не хапае толькі! Як тое золата. Год таму такія чэргі былі, натоўпы! І ў пасёлку, і ў горадзе. Быў, бачыў. У кожнай бабы і тут, і тут паначэплена. Нашто? І во - мінуў год - як адрэзала. Вунь у магазіне ляжыць, бяры хоць кіло. Дык нікому не трэба. Што гэта? Не сквапнасць? - абурана гаварыў Сямён, быццам выгаворваючы за тое Агееву. - Скажу табе, шмат бяды з тае прычыны, што баб распусцілі. Шмат ім дазволена.

- Ты тожа сваёй дазваляеш?

- Дазволіш, куды дзенешся.

- Строгая?

- Язва! - коратка кінуў Сямён і зацягнуўся «Прымай».

- Бачыш, напэўна, дазваляем таму, што самі не без граху. У сям'і ці на службе. Во яны і карыстаюцца гэтым, крытыкуюць нас, - паспрабаваў усміхнуцца Агееў.

- Ох крытыкуюць! - сур'ёзна падхапіў Сямён. - Калі крытыка ў адзін бок, чаму не крытыкаваць? Здачы ж не дасі. Ого, паспрабуй! Яна адразу ў мясцком, у партком, у міліцыю. К суседзям, к сяброўкам, да родзічаў. І ёй вераць. А ты куды пабяжыш? Табе бегчы няма куды. Калі ледзь што - крычыць: выпівае! А калі выпівае, дык і ніякай размовы. А я хоць і выпіваю, але, можа, болей сумлення маю, чым яны ўсе разам. Куркулі гэтыя хітрапопістыя.

- Гэта магчыма, - уздыхнуў Агееў.

Ён таропка прысеў на вядро, зноў адчуўшы подступ слабасці ў грудзях, баючыся ўпасці на зямлю, напалохаць госця. Але слабасць не міналася, і ён выняў з задняй кішэні трыко металічны пенальчык з таблеткамі.

- Што - сціснула? - насцярожыўся Сямён.

- Трошкі...

- Можа, доктара паклікаць? Калі што - гавары. Я - мігам. У бальніцы мяне ведаюць.

Агееў запіхаў пад язык невыносна смярдзючую таблетку валідолу, хвіліну падумаў.

- Абыдзецца, можа. Лепш вадзіцы прынясі, калі ласка. Вунь у тым доме.

- Ды ведаю...

Сямён падхапіў пластмасавы бітончык і без лішніх слоў прыпусціў уніз, на дарогу. Агееў, ледзьве адольваючы слабасць, глядзеў перад сабой і амаль спалохана думаў, што, здаецца, не пашэнціла яму грунтоўна. З вопыту ведаў, што такое мінае не хутка, прыйдзецца залегчы або ісці ў бальніцу. Але і тое, і другое было яму зусім недарэчы, і ён не ведаў, як быць, што рабіць...

Неяк ранкам, на пяты ці шосты дзень свайго жыцця ў Бараноўскай, Агееў не стрываў, зняў павязку. Зрэшты, яна сама знялася - ноччу спаўзла да калена, адкрыўшы рану, якая хоць і не крывяніла, але ваўсю смуродна гнаілася. Разматаўшы мокры, у гнойных плямінах бінт, Агееў сядзеў на тапчане, не ведаючы, што рабіць, калі ў застаронак увайшла Бараноўская. Ён памкнуўся прыкрыць нагу кажушком, але гаспадыня адразу пра ўсё здагадалася і, адкінуўшы палу кажушка, зірнула на рану.

- Гнаіцца? Гэта дрэнна. І баліць?

- Не вельмі. Унутры толькі тузае.

- Трэба перавязаць. Я пашукаю што-небудзь. А вось лякарства няма ніякага. І Яўсееўны няма. У тарфяніках усіх пастралялі.

- У тарфяніках?

- У старых распрацоўках. Усіх да аднаго.

- Гэтага і трэба было чакаць! - паныла сказаў Агееў. - На што было спадзявацца?

- Чалавек заўжды спадзяецца. Нават наперакор розуму. Што ж яшчэ застаецца асуджанаму? - сказала гаспадыня і выйшла.

Хутка яна вярнулася з белаю анучкай у руках, стрэсшы якую пачала рваць на палосы.

- Знаеце, я во думаю... У вас сала засталося?

- Засталося, - сказаў ён, зірнуўшы на стол-скрынку, дзе, прынесены Малаковічам, ляжаў загорнуты ў газетку кавалак сала.

- Яно салёнае?

- Салёнае быццам.

- Некалі, памятаю, пасля той вайны, салёнае сала прыкладвалі да скулля. Памагала. Сама пераканалася.

Што ж, сала дык сала, ён быў гатовы на ўсё, толькі б хутчэй саўладаць з гэтай праклятай ранай, якая так недарэчы падкасіла яго. Бараноўская нарэзала на паперцы тоненькія пласцікі сала і пачала абкладваць імі набрынялую ад гною рану са счырванелымі краямі, у куточках якой бялелі малюсенькія чарвякі, што змусілі Агеева гідліва паморшчыцца.

- Што, баліць?

- Чэрві.

- Чэрві - гэта не страшна, казала Яўсееўна.

Агееў недаверліва хмыкнуў: мабыць, гэтая Яўсееўна была тут вышэйшым медыцынскім аўтарытэтам, і ён падумаў, што аспрэчваць яе будзе недарэчы. Ён даўся гаспадыні абкласці ўсю рану салам, пасля яна туга абвязала нагу мяккімі кужэльнымі паскамі. Было балюча, але кратаць нагой стала зручней, востры боль мінуўся, і ён сабраўся выйсці на двор. Тым больш што

яго там чакала праца, нелегальнае яго жыхарства ў гэтым застаронку скончылася. Учора Бараноўская хадзіла ў паліцыю прасіць за сына Алега, які быццам вярнуўся дадому і хадайнічае перад паліцыяй аб адкрыцці майстэрні па рамонту абутку. Каб легалізавацца, Агееву трэба было ўладкавацца на нейкую працу, інакш яму пагражала прымусовае ўладкаванне праз паліцыю. Зноў жа, ён павінен быў нешта есці, бо харчовыя магчымасці яго гаспадыні былі надта мізэрныя: апроч гуркоў і бульбы з гарода, яна нічога болей не мела. Агееў заўважаў, як кожны раз, каб накарміць яго, яна аддавала апошняе, часам бегла цераз вуліцу пазычыць акраец хлеба, і гэта пазычаны ёю кавалак кепска лез яму ў горла. Яму было дужа няёмка за сябе, няпрошанага яе нахлебніка, і ён усё думаў, як памагчы ёй і сабе пракарміцца. Так пaступова выспеў у яго галаве гэты, можа, і дурнаваты, план пра майстэрню. Бараноўская, падумаўшы, з ім пагадзілася, заставалася атрымаць дазвол у паліцыі. І вось начальнік Драздзенка, са скептычнай ухмылкай выслухаўшы жыхарку мястэчка, прыкінуў штось і дазволіў. Толькі ў канцы размовы дадаў, што прыйдзе сам пазнаёміцца з новым шаўцом. Канечне, ён мог бы выклікаць яго ў паліцыю, але Бараноўская сказала, што сын хворы і не можа хадзіць, пашкодзіў нагу па дарозе з Ваўкавыска. Начальнік паліцыі крыва ўсміхнуўся, але не сказаў нічога, і яна з лёгкім сэрцам пабегла дадому.

Хуткую перамену ў сваім лёсе Агееў успрыняў, аднак, без асаблівае радасці, калі не сказаць болей - у думках ён ужо праклінаў той час, калі пагадзіўся завярнуць у гэтае мястэчка. Але ўся бяда ў тым, што нічога больш прыдатнага яму не выпадала, вельмі проста ён мог апынуцца ў палоне ці загінуць дзе-небудзь у сутычцы з немцамі. Так што з самага пачатку выбар у яго быў невялікі, і ён мусіў пагадзіцца на тое, што прапанаваў начны госць Волкаў і нарыхтаваў яму яго недарэчны ваенны лёс.

Зрэшты, гэты варыянт, можа, быў не самы найгоршы. Агееў меў даволі ўмелыя рукі, з ранніх гадоў прывучаныя да дрэва і няхітрых сялянскіх

інструментаў, да армейскай службы яму даводзілася мець справу і з абуткам, праўда, далей дробнага рамонту ягонае майстэрства не ўзнялося, і пра тое, як пашыць боты, ён меў цьмянае ўяўленне. Але тут шыць боты, мусіць, не давядзецца, трэба будзе рабіць якую-небудзь драбноту - падбіць абцасы ці прышыць лапік, на большае ён і не замахваўся. Ля самага выхада з падворка касабока мясцілася старая, крытая гонтам альтанка, некалі прыстасаваная для сушкі агародніны; тры яе бакі былі абшыты аполкамі, а чацвёрты, што выходзіў у двор, заставаўся адкрыты. Менавіта гэтую альтанку-паветку Агееў і абраў для майстэрні; учора яны з Бараноўскай зацягнулі туды невялічкі кухонны столік, адну табурэтку. Інструменты айца Кірыла захаваліся ўсе цэлыя, і былая пападдзя ледзь звалакла з гарышча цяжкую скрынку з чыгуннай лапай, абцугамі, малаткамі, калодкамі - усё гэта Агееў расклаў і развесіў у альтанцы. Заставалася, аднак, галоўнае - змайстраваць шыльду, бо якая ж майстэрня без шыльды? І ўвесь гэты дзень да вечара Агееў вырэзваў нажом з фанеры вялікія літары. Вядома, літары лепш было б напісаць, але ў Бараноўскай не знайшлося ні фарбы, ні патрэбнай для таго тканіны. Тады ён успомніў падобныя шыльды, што бачыў да вайны ў Беластоку, і падумаў, што можна зрабіць не горш. Праўда, літары атрымаліся надта крывыя, тупы нож дрэнна рэзаў старую фанеру, якая месцамі расслаілася і ламалася. За час, пакуль ён завіхаўся ў альтанцы, па вуліцы прайшло, можа, чалавек пяць, кожны з якіх уважліва прыглядаўся да яго, мабыць, не разумеючы, хто гэта калупаецца ў двары былой папоўскай сядзібы. І ён з неспакоем думаў: ці прызнаюць яго тут за папоўскага сына, ці ён хутка засыплецца тут з недарэчнай сваёй легалізацыяй. Але так ці інакш, адступаць не было куды, даводзілася іграць ролю, на якую змусіла яго вайна.

Сонца пайшло на захад, калі ён прымацаваў гэтую дошку-шыльду да вулічнага боку альтанкі. Атрымалася, канечне, даволі прымітыўна, літары цяжка было размясціць у адну лінію, і яны трохі сваволілі, стаўшы на дошцы як каторай захочацца. Але ўвогуле з вуліцы

можна было прачытаць, што тут «Рамонт абутку», у альтанцы ляжалі раскладзены на століку інструмент, клубок тоўстых нітак і ўсохлая бярозавая калодка для драўляных цвікоў - падбіваць падэшвы. Скончыўшы з уладкаваннем, Агееў усеўся на табурэтцы з кінутай на яе ватоўкай, хваравіта выцягнуў пад сталом сваю бедалагу-нагу.

Аднак вуліца была пустая, за якую-небудзь гадзіну ніводны чалавек не прайшоў каля хаты, толькі за плотам у суседнім двары паказалася і знікла жаночая галава ў белай хусцінцы. Бараноўская, якая ўвесь дзень завіхалася ў двары, некуды знікла - мабыць, пайшла на гарод накапаць бульбы, і ён, прытаміўшыся, сіратліва сядзеў на табурэтцы, адчуваючы, што ў такі пазнаваты час яго сядзенне будзе без карысці. І калі ён наважыўся ўжо вылезці з-за стала, што з хворай нагой аказалася не дужа лёгка, у канцы гэтай кароценькай вуліцы пачулася размова і паказаліся дзве дзяўчыны. Адна была худзенькая, сярэдняга росту, у светлым, аблезлым сарафане з голымі да плячэй рукамі і кароткай стрыжкай светлых валасоў. Яна ціхенька засмяялася, звяртаючыся да сяброўкі - таго ж узросту, але трохі ніжэйшай і таўсцейшай дзяўчыны, на галаве якой свежа бялелася касынка, завязаная па-гарадскому - вузельчыкам на патыліцы. Абедзве яны роздумна памахвалі на хаду невялічкімі кошыкамі ў руках і пра штосьці гутарылі, пакуль не згледзелі яго ў альтанцы. Відаць, ягонае з'яўленне тут здзівіла іх, дзяўчаты прымоўклі і памалу ішлі, азіраючы перарobленую за дзень альтанку. Трохі не дайшоўшы да яе, меншая ціхенька, але так, што ўсё ж данеслася да яго, сказала сяброўцы:

- Ой, Марыя, не глядзі на яго так пільна.

Вышэйшая неўпрыцям піхнула локцем сяброўку, вымушаючы яе змоўкнуць, а сама, не адрываючы позірку, ўсё ўглядалася ў яго, і ў гэтым яе позірку яму здалося штось хоць і няпэўнае яшчэ, але ўжо значнае, змястоўна-прарочыстае, ці што. Быццам яна, радуючыся, паволі пазнавала яго. Ён, аднак, не

пазнаваў іх - гэтых дзяўчат ён бачыў упершыню і толькі праводзіў іх паглядам - паўз альтанку да суседняй хаты на вуліцы. Аднак ля суседняга падворка дзяўчыты нерашуча спыніліся, нядоўга параіліся аб чымсьці, і адна рашучым крокам вярнулася да альтанкі.

- Вы і сапраўды рамантуеце абутак? - запыталася яна ў Агеева, сарамліва ўсміхнуўшыся.

- І сапраўды рамантую, - з прытоенай усмешкай сказаў Агееў.

- І нядорага бераце?

- Нядорага, Марыя.

- Ой, адкуль вы ведаеце маё імя? - здзівілася дзяўчына.

- Я ўсё ведаю, - сказаў ён, ужо адкрыта і шырока заўсміхаўшыся.

- Не, праўда! Я тут раней вас не бачыла.

- А я тут нядаўна.

Яна памаўчала трохі, штосьці абдумваючы і ўспамінаючы.

- Дык можна прынесці туфлі? У мяне, ведаеце, ад падэшвы неяк адарвалася...

- Прыносьце, пабачым.

- А плаціць рублямі ці як?

- Як хочаце. Можна рублямі, а можна прадуктамі.

- Во добра! - узрадавалася Марыя і, павярнуўшыся, паклікала сяброўку: - Вера, ідзі сюды!

Сяброўка неахвотна, быццам з недаверам нават, прайшла ля штакетніка і спынілася ля ўвахода ў двор.

- За прадукты рамантуе. Я ўжо дамовілася, можа, прынясём нашы туфлі?

- Мне не трэба, - махнула рукой Вера і з яўнай насцярогай паглядзела на Агеева.

- Дык я свае прынясу. Заўтра? Ці можна сёння?

- А калі хочаце. Можна і сёння.

- Не, лепш заўтра, - рашыла Марыя. - А пакуль што - вось вам...

Сунуўшы руку ў прыкрыты анучкай кошык, яна дастала адтуль жменю чарніц.

- Во вам задатак. Частуйцеся.

У падстаўленыя прыгаршчы Агееў прыняў маленькую жменьку ягад, ніякавата падзякаваў; яна міла ўсміхнулася на развітанне і хуценька выйшла праз незагароджаны, без веснічак, выхад на вуліцу. Трохі пасядзеўшы ў роздуме, ён пачаў есці па адной чорныя, з шызым налётам ягады. Аб гэтай сваёй першай заказчыцы ён стараўся не думаць. Падумаеш, пачаставала чарніцамі і адарыла ласкавым позіркам у дадатак - ці да ласкавых яму позіркаў? Знайшоў пра што думаць...

Стараўся не думаць, але ўсё ж наперакор жаданню думаў, бо яна ўсё стаяла перад вачыма такой, якой толькі што з'явілася - імклівы гнуткі стан з загарэлымі нагамі, абутымі ў старэнькія разношаныя басаножкі. Страсянуўшы капешкай густых валасоў, яна падхапіла тады пад руку сяброўку, і яны, памахваючы кошыкамі, схаваліся за вуглом суседскае хаты.

Агееў праседзеў яшчэ паўгадзіны ў пустой сяк-так абсталяванай майстэрні і нікога не дачакаўся. Ніхто да яго не ішоў з абуткам, прахожых на вуліцы паяўлялася няшмат, і тыя, напэўна, былі суседзі з гэтай або бліжніх вуліц. Пачатак яго новай, шавецкай кар'еры яўна атрымаўся комам, без адзінага намёку на ўдачу. Калі чакаць далей не было сэнсу, ён вылез з-за стала і, абапіраючыся на выразаны ўчора ляшчынавы кіёк, пашкандыбаў у двор.

Двор быў прыгожы, амаль маляўнічы ў сваёй даўняй і мілай занядбанасці ва ўсім. Закрыты з аднаго боку цесным радам будынкаў, зверху ён амаль увесь захаваўся пад разложыстым голлем старога клёна, таўшчэзны камель якога трохі крывабока мясціўся каля альтанкі. За клёнам на гародзе за кустоўем парэчак расло некалькі старых сукаватых аблынь і стаяў радок маладых вішань па-над сцяжынай, дзе неўзабаве і паявілася яго гаспадыня з вядром свежай бульбы. Не дайшоўшы да дзвярэй у хлеў, яна паставіла вядро на сцежку і азірнулася.

- Тут нікога? Там гэта... Каля раўка вас чакаюць.

- Хто чакае? - вырвалася ў Агеева.

Але гаспадыня не адказала, толькі заклапочана паглядзела на вуліцу, і ён здагадаўся: не трэба пытацца. Ён звыкла тузануў пад вузкім раменьчыкам падол сацінавай кашулі і з дрыготкім сэрцам патупаў па сцежцы паўз хлявы на зады гародаў.

Тупаючы, ён углядаўся ў кустоўе ўзлеску не краі ўзроўка, што гублялася ў паўзмроку пад вольнай і высокай сцяной старых вязаў, але там нікога не было бачна. Не было нікога і на скошанай палосцы пожні за плотам, у адным канцы якой скасабочана цямнелася невялікая капешка сена. Менавіта з-за гэтай капешкі хтосьці махнуў рукой, даючы яму знак падысці, і Агееў збочыў са сцежкі. Ён ужо спадзяваўся ўбачыць тут Малаковіча або Волкава, але пад капешкай ціха сядзеў хударлявы хлопчык у сіняй трыкатажнай кашулі з акулярамі на кароценькім носе. Гэта быў яго нядаўні знаёмец, студэнт Кіслякоў, і Агееў стрымана павітаўся.

- Ну, як вы? Як нага? - пацікавіўся Кіслякоў.

Агееў не спяшаўся адказаць, добра разумеючы, што не нага ў першую чаргу цікавіла гэтага хлопца.

- Я ад Волкава. Волкаў гаварыў з вамі?

- Гаварыў, - не адразу сказаў Агееў.

Дык ён перадаў, каб вы былі ў двары, днямі прывязуць груз.

- Які груз? - насцярожыўся Агееў.

- Не ведаю - які. Трэба схаваць. А пасля мы забярэм.

- Вы?

- Я і тыя, хто будзе са мной. Больш каб нікому, - сказаў Кісьлякоў, узіраючыся кудысь на сцяжынку, якая бегла ў роў. На Агеева, здаецца, ён і не зірнуў ні разу.

- Панятна, што ж, - сказаў Агееў.

Ён, канечне, зробіць усё як трэба, толькі яму было крыху няёмка падпарадкоўвацца гэтаму хлопчыку, яго самалюбства было ўсё ж прыніжана такім падначаленнем. Але, мабыць, так трэба. Або інакш нельга, падумаў ён і запытаўся:

- А як Малаковіч?

- Малаковіч на станцыі. Але тут справа такая: вы не павінны з ім бачыцца. Калі што трэба, я перадам.

- Во як! А калі што... Дзе мне цябе шукаць?

- Савецкая, трынаццаць. Толькі гэта на крайні выпадак. А наогул мы незнаёмыя.

- Што ж, будзем незнаёмыя.

- І гэты, што прыйдзе, скажа: ад Волкава. І дадасць: Ігната.

- Панятна.

- Вот такія справы, - сказаў Кісьлякоў і ўпершыню адкрыта, быццам па-сяброўску, зірнуў на Агеева.

- Што там на фронце? - запытаў Агееў.

- Перамога пад Ельняй, гэта за Смаленскам, - сказаў Кісьлякоў. - Нашы разграмілі восем нямецкіх дывізій.

- Ого! Во добра. Можа, цяпер пачнецца, - узрадаваўся Агееў.

Сапраўды гэта было вялікаю і нечаканай радасцю для яго, які ўсё лета сохнуў нутром з-за няўдач на фронце, і цяпер гэты хударлявы, вастраносы студэнцік з яго навіной здаўся яму найлепшым, самым жаданым сябрам.

- Ты ўсё слухаеш? - запытаў ён з нечаканай цеплынёй у голасе, і Кісляковў знізу ўгору сарамліва ўсміхнуўся.

- Слухаю. Кожную ноч.

- Ну, і што там яшчэ?

- Яшчэ кепска. Цяжкія баі пад Кіевам.

- А Кіеў не здалі?

- А хто яго... Незразумела неяк.

Агееў не супраць быў і яшчэ пагутарыць з Кісляковым, але той, мабыць, сказаў усё і ўскочыў з-пад капешкі на ногі.

- Дык мы незнаёмыя. Не забудзьце, - напомніў ён перад развітаннем.

- Ну як жа! Запомню.

- Дык я пайшоў.

Прама ад капешкі ён павярнуў у равок і хутка знік у алешнікавым хмызняку пад вязамі. Агееў, дужа кульгаючы і штораз азіраючыся, пайшоў па сцежцы ў двор.

Растрывожаная за дзень нага востра балела пры кожным руху, але цяпер ён мала прыслухоўваўся да болю, можа, упершыню за некалькі дзён аддаўшыся радасці - усё ж восем разбітых дывізій - гэта была хоць і невялікая перамога на фронце, але, можа, яе прадвесце. Па крайняй меры, вельмі хацелася, каб было менавіта

так, і недзе ў глыбіні душы адчувалася, што так яно і будзе. Фронт пакоціцца на захад, нашы нарэшце збяруць сілы, і ваенны лёс пераменіцца па справядлівасці. І тут перад ім зноў паўстала Марыя - яе ўсмешыста-ўважлівы позірк, які ласкай і дабром пранікаў у душу, спакутаваную ад няўдач і адзіноты, у няспраўджаных надзеях, сумненнях, бязлітасных выпрабаваннях вайны. І зусім незразумелай для яго была сувязь гэтай франтавой весткі з маленькай сустрэчай на зыходзе дня. Хіба шчаслівым абяцаннем таго, што ўсё неўзабаве пераменіцца да вялікай, сапраўднай радасці.

Вячэралі таго дня на цесненькай кухні Бараноўскай. У якасці сына гаспадыні Агееў мог не хавацца, хаця і лішні раз вылазіць на людзі таксама было недарэчы. Маленькая, абклееная шэрымі шпалерамі кухня рабіла прыемнае ўражанне чысцінёй, нейкай ненатуральнай у такі час акуратнасцю: падлога, два гнутыя крэслы і падаконнік былі чыста выскрабены нажом, цёмны буфет засланы вязанай белай сурвэткай, акно да палавіны завешана марляй. На дварэ змяркалася, і яны ў цьмяным вечаровым святле, з адзінага акенца ў двор, сядзелі за вялікім круглым сталом з толькі што зваранай і перасыпанай у гліняную міску бульбай. Побач ляжалі свежыя агуркі на талерцы, хлеба быў адзін чэрствы акрайчык, ад якога Бараноўская ашчадна адкроіла тры тонкія лустачкі. Нізкія дзверы на двор гаспадыня зашчапіла на кручок, двое другіх дзвярэй, адны з якіх вялі ў святліцу, а другія, абклееныя шпалерамі, - у цесненькую кладоўку-баковачку, былі таксама зачынены. На сцяне ў жоўтай бегетавай раме вісеў нейкі зімовы пейзаж, ад гарачай пліты ішло прыемнае хатняе цяпло. Уся гэтая спакойная вечаровая абстаноўка спрыяла роздуму або ціхай размове, і Агееў сказаў:

- Варвара Мікалаеўна, скажыце па шчырасці... Вось вы мяне тут корміце, аберагаеце... Гэта як - па сваёй волі ці таму, што гэты... Волкаў загадаў? - запытаўся Агееў, разразаючы напалам агурок. Ён даўно збіраўся запытаць аб гэтым у гаспадыні, каб даведацца аб

сутнасці яе да яго адносін.

- А чаму вы думаеце, што мне загадаў Волкаў? З якой нагоды ён мне будзе загадваць? - здзівіліся Бараноўская.

- Ну, аднак жа вось вы мяне прытулілі. І нават болей - далі дакументы сына. А хіба вы мяне ведаеце?

- Чаму ж не ведаю? Ведаю. Вы - камандзір Чырвонай Арміі. Паранены ў баі з немцамі. Вы ж загінеце, калі вам не памагчы. Хіба не так?

- Можа, і так...

- Дык як жа я магу адмовіць вам у дапамозе? Гэта ж было б не па-людску, не па-боску. А я ж хрысціянка.

- Скажыце, вы дужа ў бога верыце?

- А ў што ж мне яшчэ верыць?

- І моліцеся? Ну, там і другія абрады выконваеце?

- Абрады тут ні пры чым. Верыць у бога - зусім не значыць старанна маліцца ці рэгулярна выконваць абрады. Гэта хутчэй - мець бога ў душы. І паступаць адпаведна. Адпаведна сумленню, гэта знычыць па-боску.

Яна змоўкла, седзячы за сталом насупраць, і ён падумаў, што ўсё ж, мабыць, не надта разбіраецца ў гэтай рэлігіі, аб якой пачаў гутарку. Сапраўды, што ён пра яе ведаў? Хіба тое, што яна - опіум для народа.

- Вы святое Евангелле чыталі? - запытала Бараноўская, уставіўшыся ў яго ўважлівым паглядам нябачных у прыцемку вачэй.

- Не, не чытаў. Таму што...

- Ну зразумела. А, напрыклад, хоць бы Дастаеўскага чыталі?

- Дастаеўскага? Чуў. Але ў школе не праходзілі.

- Не праходзілі, канечне. А гэта ж вялікі рускі пісьменнік. Нароўні з Талстым.

- Ну, пра Талстога я ведаю, у Талстога было шмат памылак, - сказаў ён, узрадаваўшыся, што ўжо тут трохі ведае. - Напрыклад, непраціўленне злу.

- Далося вам гэтае непраціўленне. Толькі гэта і запомнілі ў Талстога. Хаця і непраціўленне ў многім справядлівае, але спрэчнае, дапусцім. А вось калі б вы прачыталі Дастаеўскага, дык бы ведалі, што калі ў душу не пусціць бога, дык у ёй абавязкова паселіцца д'ябал.

- Д'ябла мы не баімся, - усміхнуўся Агееў.

- Д'ябла мы не баімся, гэта канечне. Але вось немцаў мусім баяцца. А яны для нас і ёсць увасабленнем д'ябла. Гэта значыць злой, разбуральнай сілы.

- З сілай нельга не лічыцца.

- Во! А як процістаяць гэтай сіле?

- Супраць сілы - толькі сілай, зразумела.

- Ну, дык гэта армія - супраць арміі. Там, канечне, дзве сілы. І хто - каго. Гэта вайна. А вось нам, мірнаму насельніцтву, як? Мы што можам? Дзе наша сіла?

Яна задавала яму нялёгкія пытанні, блытана адказваючы на якія ён адчуваў недастатковасць сваіх ведаў і напружваў думку, каб знайсці і найлепш выказаць сваю праўду, у якой быў упэўнены. Хаця гэта было няпроста.

- Трэба не падчыніцца акупантам.

- Не падчыніцца, канечне! Але як? Вунь усіх яўрэяў знішчылі. Як яны маглі не падчыніцца? Для непадчынення патрэбна хаця зброя, а дзе яе ўзяць?

- Ну, і што ж рабіць, па-вашаму? - запытаўся ён, сам не знайшоўшы адказу на яе пытанне.

- Калі нічога немагчыма зрабіць, трэба сабраць сілы, каб застацца сабой. Не мітусіцца душой, як некаторыя - з разліку ці ад страху. Вось я хачу застацца сабой, няхай сабе ў адпаведнасці з хрысціянскай мараллю, каб памагчы бліжняму. Вам ці Волкаву, бо вы маеце патрэбу ў дапамозе і ваша, вам богам дадзенае жыццё знаходзіцца пад пагрозай. Зноў жа, я не магу не памятаць, да якога народа належу сама, якія пакуты стрываў на фронце мой муж у тую, мікалаеўскую, вайну. Ад чыёй рукі загінуў мой брат. І я бачу, што робіцца цяпер. Як жа я магу сядзець склаўшы рукі.

- Але ж вы разумееце, што пагражае за гэта?

- Слава богу - не маленькая. І тут я ўжо нічога не магу зрабіць. Што будзе, тое і будзе. Ад лёсу не ўцячэш. Не надта разумна, але суцяшальна ўсё ж. А чалавек заўжды мае патрэбу ў суцяшэнні.

- Гэта вядома, - пагадзіўся ён. - А я, прызнацца, апасаўся...

- Гэта чаго? Мабыць, таго, што я пападдзя?

Ён прамаўчаў, але яна ўсё зразумела і з уздыхам ціха сказала:

- Гэта, вядома, мне непрыемна. Тым больш што даўно ўжо не пападдзя. Але бог вам суддзя. Я разумею вас.

- Вы ўжо даруйце, што я загаварыў пра тое, - сказаў Агееў, сапраўды пашкадаваўшы, што ўсчаў гэтую размову. Але, можа, і добра, што ўсчаў, яны высветлілі штосьці важнае паміж імі, і хоць Агееў не ва ўсім разабраўся, але, здаецца, вызваліўся ад сваіх сумненняў наконт гаспадыні - мабыць, ёй можна верыць. Чалавек з такой цвёрдасцю поглядаў заўжды што-небудзь значыць і міжволі выклікае давер. Можа, яму яшчэ і пашэнціла на гаспадыню, падумаў ён, хаця і без асаблівай упэўненасці. Але - час пакажа.

Ён даеў бульбу, і яна першай узнялася з-за стала, пачала прыбіраць посуд. Памаўчаўшы, сказала:

- Мне трэба будзе адлучыцца дні на тры. З'ездзіць у адно месца. Думаю, вы тут без мяне ўправіцеся.

Сказала яна гэта ціха, амаль спакойна, але за гэтым яе спакоем Агееў адчуў ледзьве прытоенае напружанне і насцярожыўся.

- Думаю, управіцеся. Цяпер, калі вы ўжо шавец, з голаду не памраце. Айцец Кірыл паўтара года з ботаў карміўся.

- Ды я што... Я калі ласка. Калі трэба, дык трэба, - паспешліва сказаў ён, аднак чакаючы, што яна растлумачыць прычыну яе нечаканай адлучкі. Яна ж, нічога больш не тлумачачы, сказала толькі:

- Спаць можаце ў хаце. Калі там холадна стане.

- Дзякуй.

- Бульбы капайце, колькі вам трэба. Хлеб я ў Казловічавых купляла. Гэта во цераз дарогу насупраць. Яны могуць і пазычыць. Я ім сказала.

- Добра. Дзякуй.

Агееў асцярожна вылез з-за стала, пашукаў у прыцемках ля парога свой ляшчынавы кіёк. Усё ж нага балела, і ён падумаў, што заўтра перавяжа рану. У застаронку яшчэ заставаўся чысты ласкут - можа, хопіць на адну перавязку.

- Дык мы яшчэ ўбачымся? - спыніўся ён ля парога. Бараноўская з ручніком у руках выцірала талеркі і жвава павярнулася да яго ў прыцемках кухні.

- А як жа! Абавязкова. Бог дасць - пабачымся.

Ён пастаяў трохі, зразумеўшы, што яна надала іншы сэнс ягонаму пытанню, і хацеў перапытаць, ці ўбачацца яны да яе адлучкі на тры дні, але стрымаўся. Усё ж нязручна было набівацца з пытаннямі, калі чалавек не хоча нешта сказаць адразу. Пасля ён неаднойчы пашкадуе аб тым, але што ўпушчана, таго ўжо не

вернеш. Пажадаўшы ёй добрай ночы, Агееў выйшаў на двор, пастаяў трохі ў звечарэлым цемрыве і пашкандыбаў у свой застаронак. З наступнага дня для яго пачыналася новае жыццё - яго шавецтва дзеля кавалка хлеба ці для маскіроўкі - для чаго больш, ён сам толкам не ведаў. Адно ён адчуваў, што вайна заганяе яго ўсё далей у кут, з якога ці знойдзецца хоць калі выйсце - хто скажа?

Назаўтра, прачнуўшыся ранкам, ён трохі паляжаў з расплюшчанымі вачмі, прыслухоўваючыся да рэдкіх гукаў знадворку, але не злавіў нічога трывожнага ці колькі-небудзь вартага ўвагі. Дзесь побач у дзядоўніку за сцяной варушыліся суседскія куры, ціхенька закудахталі, мабыць, патрывожаныя Гультаём; пачуліся прыглушаныя галасы людзей - з суседскіх двароў, а ўвогуле было ціха. Пасля нядаўна перажытага мястэчка бы вымерла, затаілася ў страху перад невядомасцю, якая не абяцала нічога добрага, удзень і ўначы гразілася нямецкімі строгасцю і карай за кожнае парушэнне, рэпрэсіямі за непаслухмянства. Агееў чакаў, як заўжды, адзнак таго, што Бараноўская паднялася ўжо, яна звычайна зранку пачынала калупацца ў гародзе, бразгала ланцугом у калодзежы, ціха пастуквала палкамі на дрывотні. Пасля яе паднімаўся ён, бо не хацеў раней часу непакоіць гаспадыню дома. У гэты ранак, апроч усяго, ён меў намер папрасіць яе паглядзець нагу, каб удваіх перавязаць рану, бо ён проста не ведаў, як быць з гэтым яе лякарствам - салам: ці прыкладваць яго зноў, ці можна абысціся без сала? Але замест звыклых і сцішаных знакаў ранішняга гаспадарання на падворку ён пачуў нецярплівы голас, ад якога ў яго сцялася сэрца:

- Ёсць тут хто - у канцы-та канцоў?!

Двойчы прагучаўшы, гэты нецярплівы мужчынскі вокліч даў Агееву зразумець, хто сюды з'явіўся. З такой патрабавальнасцю маглі паявіцца толькі прадстаўнікі моцнай, упэўненай, несумненна нямецкай улады.

Дужа патрывожыўшы рану, Агееў падхапіўся з тапчана,

не адразу трапляючы здаровай нагой у штаніну, надзеў штаны. Недаравальна прамарудзіўшы некалькі хвілін і на хаду зашпільваючыся, без кійка вышкандыбаў з варот хлява. На дварэ ўжо развіднела, і каля альтанкі, шырока расставіўшы ногі ў бліскучых хромавых ботах і такіх жа, як і ў яго, камандзірскіх дыяганалевых брыджах з чырвонымі кантамі, стаяў нейкі высокі мужчына з дубчыкам у руцэ. На яго шырокіх плячах шчыльна сядзеў цёмна-сіні танкісцкі фрэнч са слядамі ад спаратых пятліц на кароткіх бартах. За ім на выхадзе з двара застыў, мабыць, чакаючы, невялічкі худаваты чалавек у шызым расшпіленым плашчы, з паголенымі, прыкметна старэчымі шчокамі і тонкай зморшчанай шыяй, што вытыркалася з надта шырокага для яе каўняра мундзіра; на галаве яго ганарліва сядзела высокая афіцэрская фуражка. Агееў толькі зірнуў на яго, звыклым позіркам вайскоўца перш азіраючы пагоны, і нібы апёкся аб іх вітое срэбра, што цьмяна і страхавіта бялела на абодвух плячах. Гэты стары немец быў, аднак, высокага чыну, і сэрца ў Агеева трапятнулася ў кепскім прадчуванні. Ззаду на вуліцы стаялі, не заходзячы ў двор, чалавек пяць немцаў і трое паліцэйскіх з белымі павязкамі на рукавах пінжакоў. Бліжні паліцэйскі, нецярпліва паляскваючы дубчыкам па халяве бота, сказаў:

- Ты, сапожнік, ану, пасабі оберсту! Там у боце нешта...

Адчуўшы, як спакваля сплыве з яго вачэй гарачы туман, Агееў дашкандыбаў да альтанкі і сеў на табурэтку. Оберст прысеў побач на лаўку пад клёнам, і мардаты немец у кароценькім, з разрэзам мундзіры, валюхаючы тоўстым задам, лёгка і ашчадна здзеў бот з яго тонкай нагі, перадаў Агееву. Бот быў шыкоўны, амаль новы, з цвёрдай бліскучай халявай і высокім заднікам; з жоўтага нутра яго яшчэ пахла свежавырабленай скурай. Цвік быў у самым наску, ледзь выступаў з падэшвы, і Агееў падумаў з палёгкай, што забіць яго - раз плюнуць. Пакуль ён даставаў лапу, на якую надзяваў бот, стары оберст, паліцай у танкісцкім фрэнчы ды і ўсе, колькі іх было, немцы пільна назіралі за яго таропкімі рухамі. Не ў лад са

сваімі пачуццямі ён раптам зласліва падумаў: во цяпер бы гранату на ўсіх вас! Але толькі падумаў так, не паднімаючы ад бота позірку і баючыся, каб тыя не адгадалі ягоныя думкі.

Некалькіх удараў малатка сапраўды хапіла, каб забіць цвік, і ён падаў оберсту яго бот, які, аднак, тут жа падхапіў тоўсты немец, мабыць, дзяншчык, з мноствам пярсцёнкаў на пальцах. Недаверліва памацаўшы рукой у боце, ён буркнуў «гут» і кінуўся абуваць оберста. Той напружана адхінуўся на лаўцы, выцяг перад сабой нагу, на якую дзяншчык ашчадна нацягнуў бот. Пасля оберст слаба прытупнуў ім па зямлі і картава штосьці сказаў па-нямецку.

- Устань! Ты! Слыш! - падхапіўся паліцэйскі ў фрэнчы, і Агееў марудна ўстаў з табурэткі. - Сюды, сюды! Перад панам оберстам...

Стараючыся не кульгаць, Агееў няспрытна ступіў тры крокі з альтанкі і выпрастаўся, падумаўшы, што оберст, мабыць, хоча яму падзякаваць. Той і на самай справе картава сказаў нешта, старэчы твар яго з пачырванелымі, бы ад бяссоння, вачмі паспрабаваў усміхнуцца, але раптам сцюдзёна знерухомеў, і немец строгім голасам загаманіў да паліцая. Той, скалануўшыся, выцягся і нешта скупа адказаў таксама па-нямецку, што нават здзівіла Агеева: глядзі ты - умее! Але ён ужо адчуў, што размова зайшла пра яго, і зноў насцярожыўся.

- Пан оберст пытаецца: ты - ваеннаслужачы Чырвонай Арміі?

- Я? Не. Я чыгуначнік, - панылым і агідным для самога сябе голасам сказаў Агееў, падумаўшы: здаецца, уліп!

- Ён пытаецца: чаму кульгаеш? Паранены?

- Няшчасны выпадак. На чыгунцы, - адолеўшы першую збянтэжанасць, знарок бадзёра сказаў Агееў і міжволі напяўся, нібы па стойцы «смірна» перад начальнікам. Але тут жа заўважыў гэта і расслабіўся, адну руку сунуў

за дзяжку на вышытай кашулі - так, нібы ніколі ў жыцці не меў справы з арміяй і яе парадкамі. Вось толькі яго дыяганалевыя брыджы з кантамі выдавалі ў ім вайскоўца, і Агееў унутрана сцяўся, стараўся ўгадаць: зразумее што оберст ці не?

Оберст, аднак, ужо не глядзеў на яго - усё больш злуючыся, ён строга гергетаў нешта паліцаю ў фрэнчы, і той, ляскаючы абцасамі, таропіў у яго пагляд вузка пасаджаных вачэй, раз за разам паўтараючы адно толькі слова «яволь!». Агееў не разумеў, што раззлавала гэтага дзеда-оберста, але адчуваў, што гаворка ішла пра яго, і ў напружанай увазе чакаў развязкі. Нарэшце немец, здаецца, выгаварыўся, ягоны гнеўны напор пачаў слабнуць, ён выцяг з кішаня блішчасты, з мудрагелістым упрыгожаннем партсігар і тонкімі худымі пальцамі выбраў з яго цыгарэтку. Як толькі ён ступіў да выхада з двара, усе, што стаялі побач, расступіліся, даючы начальству дарогу і дружна кіруючы следам. Каля суседняга дома на вуліцы іх чакала легкавая машына з шэрым парусінавым верхам. Застаўшыся каля альтанкі, Агееў глядзеў, як яны там рассаджваліся, падумаўшы - няўжо абышлося? Але поўнай упэўненасці ў тым яшчэ не было, оберст яшчэ пагрозліва памахаў пальцам перад паліцаем у танкісцкім фрэнчы, штосьці вымаўляючы яму, і той, мабыць, дзеля свайго апраўдання зрэдзьчасу ўстаўляў кароткія словы па-нямецку. Здавалася, гэта доўжылася бясконца. Пакуль немцы не паехалі, Агееў не мог адчуваць сябе ў бяспецы, цьмяная трывога не міналася, і ён, можа, упершыню зразумеў, на які цяжкі шлях ступіў з гэтым сваім шавецтвам. Ён уздыхнуў толькі, як згледзеў, што ззаду за машынай падняўся пыл і яна порстка пакацілася па вуліцы, але тут жа і вылаяўся ад прыкрасці: тры паліцаі засталіся і, счакаўшы, пакуль машына схавалася за паваротам вуліцы, усе павярнулі назад. Яны зноў кіравалі на яго падворак.

Першы ўвайшоў усё той жа паліцай у фрэнчы, стомлена сагнаў з твару выраз нядаўняй заклапочанасці.

- Ну, паняў? - рэзка, ва ўпор запытаў ён Агеева. Той

адмоўна пакруціў галавой. - Не паняў? Які непанятлівы! У лагер цябе загадаў справадзіць! Як ваеннапалоннага.

Вымашчаны дол у двары хіснуўся перад вачамі Агеева, ён зірнуў у бок вуліцы, выхад на якую, аднак, перагарадзілі ўжо два паліцаі з вінтоўкамі.

- Скажы мне - дзякуй! Паручыўся за цябе, ясна? - кінуў паліцэйскі і, быццам у роздуме, моўчкі пакрочыў у глыб падворка.

- Што ж, дзякуй, - выціснуў з сябе Агееў, не ведаючы, што яшчэ сказаць. І нават што падумаць з гэтага поваду.

- Во так! Што ж, думаеш, гэта проста? Думаеш, ён адразу і паверыў? - павярнуўшыся, сказаў паліцэйскі.

Мабыць, усё яшчэ перажываючы непрыемную размову з немцам, той хвіліну пахадзіў сюды-туды па двары. Агееў стаяў на адным месцы, адчуваючы, што сённяшнія выпрабаванні, мабыць, яшчэ не скончыліся. Яшчэ нешта яму рыхтуеца. Нарэшце паліцэйскі кінуў свой дубчык і рашуча сеў на лаўку пад клёнам.

- Ладна, чорт з ім! Ты гэта... Паглядзі заадно мае боты.

Рэзка тузануўшы, ён садраў з нагі, мабыць, цеснаваты хромавы бот, сунуў яго Агееву, і той падаўся на сваё месца ў альтанцы. Паклаўшы нагу на нагу, паліцэйскі ўважліва паглядзеў на яго.

- Ты - даўно?

- Што? - павярнуўся Агееў.

- Што, што... Ранены, кажу, даўно? - гыркнуў паліцай. - Не панімаеш?..

«Чорт бы цябе ўзяў з тваёй панятлівасцю!» - злосна падумаў Агееў, не ведаючы, як лепш адказаць аб сваім раненні. Але, відаць, адказаць прыйдзецца папраўдзе, гэтага не ашукаеш. Сам, мабыць, адтуль жа...

- Ды нядаўна. Як адступалі... Чырвоныя.

Паліцэйскі коратка рагатнуў.

- Чырвоныя! А сам ты хто - белы хіба!

- Я? Ды так...

Адразу сагнаўшы з цвёрдага, валявога твару ўсмешку, паліцэйскі зірнуў на сваіх памочнікаў, якія цярпліва чакалі каля гародчыка, чуйна прыслухоўваючыся да іх размовы.

- Ладна цямніць! Не відаць па табе хіба! Думаеш, галіцца перастаў, дык ніхто не пазнае? Камандзір? - раптам рэзка запытаў ён, пранізваючы Агеева вострым прыдзірлівым паглядам. - Камандзір, канечне. Во па чубу відаць. Радавога б абстрыглі.

Выкладваючы са скрынкі інструмент, Агееў маўчаў, усё яшчэ прыкідваючы, як паводзіць сябе, за каго выдаваць. Па дакументах Бараноўскага ён - інжынер-чыгуначнік, такую і засвоіў версію, але ж гэты не пытаецца яго дакументы. Спрактыкаваным вокам ён, мабыць, адразу ўгадаў у ім вайскоўца, адмаўляцца ад чаго ў становішчы Агеева было рызыкоўна. Толькі болей заблытаешся ці выклічаш падазрэнне ў чым-небудзь яшчэ больш падазроным.

- Ладна, - памаўчаўшы, сказаў паліцэйскі. - Паглядзім, які ты шавец. Падбі касячкі. Як у немцаў. Каб ішоў і здалёку было чуваць: ідзе начальнік паліцыі, а не хрэн сабачы. Паняў?

- Ясна, - страмана сказаў Агееў, ужо разумеючы, што, мяркуючы па ўсім, перад ім сам Драздзенка, пра якога ён чуў ад Бараноўскай. І гэта яго першыя кліенты - фашыст і ягоны прыслужнік з іх ерундовым рамонтам. Калі толькі справа сапраўды ў гэтым рамонце...

- Во бяда - новых касячкоў няма, - сказаў ён, пакапаўшыся ў бляшанцы з цвікамі. Сярод іржавых цвікоў выбраў тры таксама іржавыя, відаць, адарваныя ад старых абцасаў, касячкі. - Во такія падыдуць?

- Ладна, пайдуць, - сказаў Драздзенка і зноў зблізку пільна зірнуў Агееву ў твар. Той, робячы выгляд, што не заўважае гэтага позірку, прымерваў касячок на трохі збіты абцас начальніка паліцыі.

- Дык хто па званні? - раптам сцішана запытаў той, абапёршыся локцем на калена разутай нагі. Абодва паліцаі з-за агароджы - адзін белабрысы, пажылы, у картузе і другі малады, плячысты, у нямецкай пілотцы - прыкметна навастрылі вушы, і начальнік паліцыі кінуў у іх бок строгі позірк.

- Эй, вы там! Расстарайцеся мне малачка папіць...

Застукаўшы ботамі, паліцаі кінуліся ў двор, але Драздзенка адразу спыніў іх зычным вокрыкам:

- Не сюды, абармоты! Тут няма нічарта. У суседзяў!..

Калі паліцаі выбеглі і ў суседзяў трывожна забразгалі веснічкі, ён нахіліўся да Агеева:

- Дык званне якое? Лейтэнант? Старшы?

- Старшы, - сказаў Агееў.

- Не палітрук часам?

- Не, не палітрук. Начальнік боепітання.

- Ага, спецыяліст па вааружэнню? А я вось з танкавых войск. Быў начштаба батальёна.

- Што ж, вялікае начальства, - прамармытаў Агееў, праклінаючы ў душы гэтага не ў меру праніклівага паліцая. Ён забіваў жалезныя цвікі ў абцас, бот скаланаўся разам з чыгуннай лапай, на якую быў надзеты, і кожны ўдар балюча аддаваўся ў яго распухлай назе. Начальнік паліцыі закурыў «Беламор», пускаючы дым у альтанку, і Агееў прагна ўдыхнуў знаёмы пах папярос, хоць сам не курыў ніколі.

- Было! - з уздыхам сказаў Драздзенка. - Было начальства і сплыло. Як дым, як утранні туман. Цяпер

другое начальства, нямецкае. Хто б калі падумаў, га? Сказалі б год назад, што я стану начальнікам паліцыі, я б таму ў морду плюнуў. А стаў жа. Чаму? Ды таму, што за другіх гінуць не схацеў. Слухай, ты адкуль родам?

- Я? Ды тут, недалёка, - страмана сказаў Агееў. - А вы?

- А я тутэйшы. З мястэчка. Ну, і якія планы?

- Ды якія планы. Нага вось... - варухнуў збалелым каленам Агееў.

- Што, здорава саданула?

- Здорава, - сказаў Агееў, аддаючы бот. - Вось паглядзіце. Так добра?

Драздзенка ўзяў бот, агледзеў абцас і раптам сказаў са сцішанай злосцю:

- Гаўно ты, а не шавец. Хто ж так падбівае? Трэба ж было падкласці кавалачак скуры. А то ж крыва!

- Была б яна ў мяне, скура, - развёў рукамі Агееў. Ён і сапраўды не знайшоў у папоўскай скрынцы ні кавалачка падэшвеннай скуры - чым было падбіваць абцасы?

- Да-а... Ну, ладна, падбівай другі. Не хадзіць жа так.

За агароджай на вуліцы паказаліся абодва паліцаі, адзін застаўся з вінтоўкай на выхадзе, а другі ў выстаўленых руках нёс гарлач малака, які асцярожна падаў начальніку.

- Во, толькі падаілі. Сырадой, - белабрысы твар паліцая ўгодліва расплыўся ва ўсмешцы. Драздзенка аберуч аблапіў гарлач.

- Што ж, пап'ём сырадою. Кажуць, палезна для здароўя.

- Ага, дужа палезна, - яшчэ больш заўсміхаўся паліцай, закідваючы за плячо рамень вінтоўкі, і Драздзенка раптам скіраваў на яго пагрозлівы позірк.

- Паспытаў ужо? Хоць бы пысу выцер, скаціна!

Са спазнелай паспешнасцю паліцай пачаў выціраць тоўстыя вусны, а ягоны начальнік гідліва апусціў гарлач.

- Во з кім працую, - паскардзіўся ён Агееву. - З такімі во курашчупамі. Ён жа ў войску і дня не служыў. Не служыў, га?

- Дык забракавалі па здароўі, - сказаў паліцай і пачухаў пад пахай.

- Бо крэцін. А ў паліцыю ўзялі. Бо - няма каму службу несці. Адказнасці гара, а магчымасцей крошкі. Ладна! Марш на вуліцу. І глядзець в оба, як інструкціраваў!

Патрымаўшы гарлач у руках, ён усё ж трохі адпіў малака і паставіў яго на зямлю каля лаўкі. Тым часам Агееў неяк прыбіў да абцаса і другі касяк, і начальнік паліцыі з натугай уздзеў бот на нагу.

- Во, іншая справа. Цвярдзейшы крок будзе.

Ён спружыніста пратупаў сюды-туды па падворку, звонка цокаючы абцасамі па камянях бруку. Агееў пазіраў на ягоныя боты - першую сваю работу ў новай прафесіі, і складаныя пачуцці авалодалі ім. Ён амаль ненавідзеў сябе за гэтую ўгодлівую паслугу нямецкаму халую, ад якога, аднак, залежаў сам цалкам, тым больш што той раскрыў яго з першага погляду, можна сказаць, распрануў дагала. Менавіта гэтая яго распранутасць рабіла Агеева амаль безабаронным перад паліцыяй і перш за ўсё перад яе начальнікам у асобе гэтага былога танкіста. Як было з ім паладзіць, каб не наклікаць ягонае злосці і не загубіць сябе? Без жаднай патрэбы Агееў перакладваў інструмент на сваім хісткім століку, коса пазіраючы, як Драздзенка шпацыруе па яго падворку. І раптам той рэзка спыніўся насупраць:

- Як завуць?

Агееў увесь напяўся, думаючы, як лепш адказаць паліцаю - па сваёй чыгуначнай версіі ці як ёсць на

справе.

- Ну, па дакументах я Бараноўскі...

- Хрэн з табой, хай Бараноўскі. Нам усё роўна. Пойдзеш працаваць у паліцыю.

З няўтоенай трывогай у вачах Агееў зірнуў у заклапочана-рашучы твар начальніка паліцыі, які, сказаўшы гэта цвёрда тонам загаду, аднак жа чакаў яго адказу - згоды або адмовы. І Агееў варухнуў каленам хворай нагі.

- Якая паліцыя! Нага во. Ледзьве шкандыбаю па двары каля дома...

- Загоіцца!

- Калі гэта будзе? - сказаў ён амаль раздражнёна.

Драздзенка ссунуў набок сваю казыркастую шапку, азірнуўся ў глыб падворка.

- Ладна. Ану, зойдзем у дом.

Агееў не ведаў, дзе Бараноўская (зранку яна не з'яўлялася на двары), і, марудна ўстаўшы з-за стала, скіраваў да дзвярэй. Дзверы на кухню былі не зашчэплены, пад чыстым ручніком на прыбраным стале стаялі міска, гарлач, побач ляжаў учарашні акраец хлеба - пэўна, яго сняданак. Гаспадыні нідзе не было чуваць.

- Тут што - нікога няма? - сказаў Драздзенка і расчыніў дзверы ў святліцу. - Нікога. Вось якая справа, - ён ушчыльную ступіў да Агеева. - Жыць хочаш? Агееў ніякавата змоўчаў, не ведаючы, як адказаць на гэтае ідыёцкае пытанне, і не разумеючы, чаго ад яго хоча гэты няпрошаны заступнік.

- Ну як жа... Панятна...

- Я табе памагу! - жвава падхапіў начальнік паліцыі. - Памог раз, памагу і другі. Усё ж мы абодва вайскоўцы і

павінны памагаць друг другу. Інакш... Сам панімаеш! Немцы ў бірулькі не гуляюць. Так што - лады?

- Ну, дзякуй, - няпэўна прамармытаў Агееў, адчуўшы, аднак, што гэта - толькі частка размовы. Галоўнае, мабыць, яшчэ наперадзе.

- Але і ты павінен нам пасабіць.

- Што ж, канечне, - панылым голасам сказаў Агееў.

- Во і добра! - ажывіўся Драздзенка. - Тады гэта самае... Небальшая фармальнасць. Сядай!

Схапіўшы за гнуткую спінку адно крэсла, ён шырокім гаспадарскім жэстам падставіў яго Агееву, які, усё яшчэ няшмат што разумеючы, няўпэўнена сеў за стол. Драздзенка выцяг з кішаня фрэнча пацёрты, мабыць, яшчэ даваенны блакнот з малюнкам паруснай яхты на вокладцы.

- Так, небальшая фармальнасць. Немцы, яны, ведаеш, бюракраты болей за нашых. Ім каб было ўсё аформлена. Во чыстая старонка, во табе аловак... Пішы!

Не адразу, яўна збянтэжана Агееў узяў з яго рук тупаваты аловак, пакруціў у пальцах. Ён ужо разумеў, што гэтае яго пісанне не прынясе яму радасці, але і не ведаў, як было адмовіцца. Усё тое адбылося так нечакана, што ніякай прыдатнай прычыны для адмовы не знайшлося ў яго галаве.

- Пішы: я, Бараноўскі... як там цябе? Алег? Хай будзе Алег... Значыць, Алег Бацькавіч, настаяшчым абавязуюся сакрэтна супрацоўнічаць па ўсіх патрэбных пытаннях. Напісаў? Што - не згодны? - настырчыўся ён, угледзеўшы, што Агееў знерухомеў з алоўкам у пальцах. - Ты кінь дурыць! Інакшага выйсця ў цябе няма. Фронт пад Масквой, а немцы на суседняй вуліцы... Калі што - загрыміш у шталаг.

Амаль не слухаючы яго, Агееў ліхаманкава думаў, што рабіць. Вядома, ён не мог не разумець усёй згубы ад гэтай падпіскі, якая проста магла скалечыць ягонае

жыццё. Але і адмовіўшыся цяпер падпісацца, ён рызыкаваў не менш проста развітацца з гэтам сваім жыццём. Драздзенка, абеуруч упёршыся ў стол і навісшы над ім, дыктаваў з напорам, не даючы перадыху, каб падумаць ці перадумаць.

- Пішы, пішы: сакрэтна супрацоўнічаць з паліцыяй, а таксама службай бяспекі і эсдэ. Во і ўсё! Напісаў? Цяпер подпіс і дату!

Ужо яўна ненавідзячы гэтага нямецкага халуя, надзеленага, аднак, уладай, яго запэцканы, са слядамі пальцаў блакнот, а таксама і сябе самога, Агееў паставіў у канцы нейкі кручок замест прозвішча і вывеў дату.

- Во і добра! - усміхнуўся Драздзенка. - Ты нам, а мы вам. У даўгу не застанемся. Толькі... Э-э, так не пойдзе. Фамілію пішы разборчыва. Ба-ра-ноў-скі! Во так. Цяпер другое дзела. Ну, а клічка? Якую клічку возьмеш?

- Якую яшчэ клічку?

- Ах ты, святая прастата! Не разумееш? Для канспірацыі, каб староннія не адгадалі. Ну, дык як назавемся?

Агееў паціснуў плячыма. Ён ужо кепска стаў цяміць - мабыць, за гэты ранак пачаў ператварацца ў ідыёта.

- Не панімаеш? Дурны? Скора паразумнееш. А пакуль што так і назавем: Непанятлівы.

- Так, але... У чым я магу вам памагчы? - імкнучыся захаваць рэшткі спакою і заўважыўшы дрыжыкі ў руках, сказаў Агееў. - Я тут нікога не ведаю, нідзе не бываю...

- Не мае значэння! - парыраваў Драздзенка, таропка запіхваючы блакнот у кішэнь сіняга фрэнча. - Ты шавец! У цябе будуць людзі. І яны будуць шукаць з табой сувязь.

- Хто - яны? - амаль шчыра здзівіўся Агееў.

- Бальшавікі, хто ж! Тыя, што з лесу. Цяпер яны ў лес перабазіраваліся. Во ты вечарком нам і стукнеш. Я буду наведвацца. Паняў?

- Але, разумееце...

Усё ў ягоным нутры пратэставала супраць гэтага здрадніцкага зняволення, вынікі якога было лёгка прадбачыць у будучым, але ён не знаходзіў слоў, каб адвесці бяду. Ды, мабыць, было ўжо і позна што-небудзь адводзіць. Блізка да пераносся пасаджаныя вочы Драздзенкі бязлітасна пранізвалі яго, бы імкнучыся пранікнуць у самую глыбіню яго растрывожаных думак.

- Што, дрэйфіш? Бальшавікоў баішся? Не дрэйф! У цябе абарона. Паліцыя ўсёй акругі. Эсдэ. Нямецкая армія. А бальшавікам усё роўна крышка. У самым хуткім часе.

- Але...

- Не але, а точна! Немцы акружаюць Маскву. Да зімы вайна скончыцца.

- Да-а-а, - уздыхнуў Агееў, каб толькі парушыць гнятлівую паўзу ў гэтай не менш гнятлівай размове, і падумаў, што калі гэты чалавек не пакіне яго праз пяць хвілін, дык, мабыць, усё для абодвух і скончыцца на гэтай кухні. Ён ужо зірнуў у парог, дзе былі цяжкія рэчы - вілачнікі, качарга, ды згледзеў за рамай кухоннага акна белабрысую морду ўгодлівага паліцая, які бесцырымонна заглядваў на кухню.

Драздзенка, аднак, хутка вымеўся, паабяцаўшы неўзабаве наведацца, і нават зусім па-сяброўску патрос ягоную руку. Застаўшыся адзін, Агееў сеў на ўкапаную пад клёнам лаўку і падумаў, што, здаецца, улез у гразь, з якой невядома як будзе вылезці. Праклятая рана, як яна звязала яго! Быў бы здаровы, ён бы цяпер апынуўся далёка ад гэтага злашчаснага мястэчка з яго паліцыяй, ад гэтага падонка з танкавых войск. Можа б, назаўжды лёг у сырую зямлю, затое ў яго было б чыстае сумленне і сумленнае імя, якое цяпер невядома як будзе адмыць ад фашысцкай гразі. Каторы раз ён з непрыязню

ўспомніў Малаковіча, які прапанаваў яму такі паратунак. Уратаваўся, называецца! Ад чаго толькі? Як бы гэта паратунак не стаў для яго горш за пагібель...

Мабыць, ён доўга прасядзеў пад клёнам, panyла перажываючы агідныя падзеі гэтага злашчаснага ранку. Ранак, між тым, непрыкметна ператварыўся ў дзень, з-за дахаў суседніх дамоў выглянула і стала прыграваць сонца, хаця двор яшчэ ўвесь ляжаў у густым цяні ад дрэў. Бараноўская нідзе не паяўлялася, і ён падумаў, што, мабыць, яна паехала. Куды толькі? Але гэта яе справа, ён не меў ні магчымасці, ні вялікага жадання ўлазіць у яе, відаць, таксама няпростыя клопаты - яму хапала ўласных. І калі на выхадзе з двара ціха паявілася дзяўчына ў вязаным зялёным жакеце, ахоплены роздумнай самотай Агееў недаўменна зірнуў на яе, не разумеючы, што ад яго трэба.

- Во туфлі прынесла...

Толькі ўбачыўшы ў яе руках пару светла-бежавых туфляў, ён пазнаў сваю ўчарашнюю знаёмую і ўспомніў, кім ён нядаўна назваўся ў гэтым мястэчку. Ён - шавец, і гэта накладвала на яго пэўныя абавязкі, якія, мяркуючы па ўсім, трэба было выконваць.

Яшчэ ўвесь растрывожаны апошняй падзеяй, ён дашкандыбаў да альтанкі, моўчкі залез за стол. Ён нават не зірнуў на дзяўчыну, якая таксама моўчкі стаяла насупраць, і, усеўшыся на табурэтцы, працягнуў руку.

- Дайце, што там?

- Ды во, бачыце, трошкі прадралася...

Заклапочаны сваімі непрыемнасцямі, Агееў бегла азірнуў туфель: у наску каля падэшвы была невялічкая дзірка, на якую трэба было накласці лапік. Ён пакорпаўся ў скрынцы айца Кірыла, знайшоў мяккі шматок скуры, з якога касым шавецкім нажом адкроіў невялікі, з бярозавы лісцік, кавалак. Увесь гэты час дзяўчына стаяла насупраць, і ён сказаў:

- Ды вы сядайце. Зараз паспрабуем залапіць.

- З дапамогай шыла і нятоўстай дратвы ён прышываў лапік, а Марыя моўчкі сядзела побач, пільна назіраючы за яго працай. Праца, аднак, не дужа ладзілася, у вузкі насок туфлі пралазілі толькі два яго пальцы, якімі было нязручна ўхапіць іголку. Хутка ён балюча ўкалоўся, і Марыя сказала:

- Напарстак трэба.

- Які напарстак?

- Напарстак. З каторым жанчыны шыюць тоўстую тканіну.

Агееў з цікаўнасцю паглядзеў на яе лагодны, амаль не загарэлы твар з дробненькімі завушнічкамі ў вушах і раптам зразумеў, што яна нетутэйшая, зусім можа быць, як і ён, закінутая сюды жахлівымі шляхамі вайны.

- Даўно тут? - запытаў ён ціха.

- Я? З чэрвеня. Ужо трэці месяц. А чаму вы пытаецеся?

- Ды так. Бачу, нетутэйшая быццам.

- Ды і вы ж нетутэйшы. Адкуль пра мяне ведаеце?

- А адкуль вы ведаеце, што я нетутэйшы? - запытаў ён, не паднімаючы галавы ад туфля.

- А мне Вера сказала. Тая, што ўчора са мной прыходзіла.

- Вера тутэйшая?

- Амаль тутэйшая, - уздыхнула Марыя, абцягваючы на каленях падол сарафаніка. - Настаўніца, у школе рабіла. А я з Мінска. Прыехала на сваю галаву, а цяпер як выбрацца?

- Да родных прыехала?

- Да сястры. Вера ж мая стрыечная сястра. Тут жыве ў

бляхара Лукаша, вунь на суседняй вуліцы. Мужа на вайну ўзялі, цяпер яна з дваіма дзецьмі...

- Да, гэта нялёгка. У такі час ды з дзецьмі, - ціха сказаў Агееў, засяроджана калупаючыся ў туфлі. Ён хацеў зрабіць усё акуратна, але акуратна ў яго не атрымлівалася - сцяжкі выходзілі няроўныя, скура лапіка моршчылася, а галоўнае - прадзець у насок іголку было вельмі нязручна, і ён пакалоў усе пальцы. Марыя, мабыць, заўважыўшы тое, вінавата сказала:

- Кепска атрымліваецца? Нарабіла я вам клопату...

- Нічога, як-небудзь.

- Канечне, вы яшчэ толькі вучыцеся. Калі-небудзь і атрымаецца.

Ён з міжвольным здзіўленнем паглядзеў на дзяўчыну.

- Гэта чаму вы так думаеце?

- А што ж, хіба не відно? Які з вас шавец? Камандзір, напэўна...

Во табе і раз, падумаў Агееў з раптоўнай непрыемнасцю ад тых яе слоў. Другі кліент запар сумняваецца ў яго шавецкім умельстве, з першага позірку бачыць у ім камандзіра - куды гэта варта? Трэба было штосьці прыдумаць, адпусціць даўжэйшую бараду, ці што? Ці ўдасканаліць гэтае праклятае рамяство, якое яму чамусьці нечакана трудна давалася.

- А ты ў Мінску чым займалася? - грубавата запытаўся ён, трохі раззлаваўшы ад яе праніклівасці. Марыя, аднак, не пакрыўдзілася.

- Я ў педагагічным вучылася. Думала матэматыку выкладаць. Ды во, мабыць, не прыйдзецца, - сказала яна і нахмурыла светлыя броўкі.

- Нічога, як-небудзь. Галоўнае - спыніць яго, - сказаў ён даверліва, і яна горача падхапіла:

- Да? Вы так лічыце? Кажуць, за Смаленскам ужо спынілі. Нейкі горад вызвалілі. А тут што робіцца!..

- Яўрэяў пабілі?

- Расстралялі ўсіх да аднаго. Спярша сказалі, у горад пагоняць, загадалі золата ўзяць, пярсцёнкі, грошы і на трое сутак прадуктаў. А саміх у той жа дзень у тарфяніках пастралялі. Нашто было браць прадукты?

- А каб не здагадаліся, куды гоняць, - сказаў ён, адразу зразумеўшы гэтую нямецкую хітрасць. Марыя здзівілася:

- Ой, як вы разгадалі! А я вось не магла. Усё думала: ну, яны ж не дурныя, рацыяналісты, усё ў іх прадумана да дробязей - нашто прадукты? Бо ўсё ж з забітымі пакідалі ў ямы.

- Дурное дзела няхітрае, - сказаў ён і, можа, упершыню за ранак уважліва паглядзеў на дзяўчыну. На яе далікатным твары паявіўся і прапаў выраз шчырага захаплення, у глыбіні шэрых, шырока раскрытых вачэй цямнелася нейкае перажыванне, мабыць, ужо дасталося і ёй у гэтам мястэчку.

- Бацькі ёсць?

- Мама была. Семнаццатага чэрвеня паехала ў Стаўрапаль. Не ведаю цяпер, ці паспела вярнуцца.

- Наўрад ці паспела.

- Не паспела. Хто думаў, што фронт так хутка адкоціцца.

- Да, на фронце цяпер крывавая каша.

- А вас - на фронце? - кіўнула яна ў яго бок з раптоўнай цікаўнасцю ў позірку.

- Што - на фронце?

- Ну, параніла - на фронце?

- А адкуль ты ведаеш, што паранены?

- А з палкай. Учора бачыла. З вуліцы падглядзела.

- Во як! Ты ўжо і падглядваеш?

- Ды незнарок. Проста ішла па вуліцы, а вы - з палачкай. Так кульгалі, так кульгалі, што мне шкада вас зрабілася.

Агееў азадачана прамаўчаў. Сёння пасля ўсяго, што адбылося ў яго з гэтым начальнікам паліцыі, яму самому было шкада сябе, і нечаканае спачуванне Марыі амаль кранула яго.

- Нічога, нічога. Як-небудзь, - грубавата суцешыў ён дзяўчыну, але болей - самога сябе. Лапік ён ужо дашываў, на паношаныя абцасікі трэба было б набіць і набойкі, але ў яго не было чым набіць, і ён анучай старанна нацёр гладкія наскі туфляў.

- Ужо гатова? - узрадавалася Марыя і ўскочыла з лаўкі. - Ой, як добра!

- Не надта добра, - прызнаўся ён, сапраўды мала задаволены сваёй працай, і ўсміхнуўся - упершыню за сённяшні дзень. - Можа, як-небудзь навучуся. Не пройдзе і месяца...

Стоячы насупраць і прыціскаючы да грудзей адрамантаваныя туфлі, Марыя ціха сказала з прыкметным жалем у голасе:

- Напэўна, пакуль загоіцца рана?

- Іменна, - сказаў ён з націскам. - Пакуль загоіцца.

- А пасля?

- А пасля будзе відаць.

З нечаканым сумам у вачах яна перавяла позірк на вуліцу.

- Зайздрошчу вам. Калі б я ведала, куды... Ні дня б тут не засталася. Я б на фронт пайшла, я б іх забівала...

Гэта было ўжо сур'ёзна, і ён прамаўчаў. Штось зразумеўшы, яна змоўкла таксама, аднак не ідучы з падворка і ўсё прыціскаючы адрамантаваныя туфлі да маленькіх, ледзьве прыкметных пад тоўстым жакетам грудзей.

- На фронце ёсць каму біць. А для вас і тут знойдзецца справа...

- Якая? - хуценька запытала яна.

- А гэта трэба падумаць. Адпаведна абставінам.

Яна яшчэ нядоўга пастаяла моўчкі, пра нешта думаючы ці, можа, чакаючы пачуць што ад яго. Але Агееў падумаў, што і так выдаў занадта, што яму трэба цяпер сцерагчыся, хто ведае, ці не значыцца і яе подпіс у блакноце начальніка паліцыі Драздзенкі?

Напэўна, яна зразумела яго маўчанне па-свойму.

- Як вам заплаціць?

- А як хочаце. Можна хлебам ці бульбай. Ці яблыкамі.

- Ну, яблык у вас сваіх - вунь колькі!

- Тады пацалункам.

- Ну, скажаце!..

Трохі падумаўшы, яна без развітання павярнулася і выбегла на вуліцу. Ён яшчэ пасядзеў, яўна чакаючы яе. Вельмі хацелася яе бачыць, чуць яе то радасны, то сумны голас: чымсьці яна зачапіла яго панылую душу, нейкая душэўная еднасць стала паволі ды яўна зблiжаць іх, гэтых дваіх розных людзей, воляю выпадку зведзеных разам. Калі праз чвэрць гадзіны Марыя вярнулася з туга накладзенай сеткай, твар яе ўжо без ценю нядаўняй заклапочанасці свяціўся лёгкай прыязнасцю, яна таропка стала класці на стол нейкія кавалкі і скруткі, загорнутыя ў клочча старых газет.

- Во, гэта вам за працу. Гэта - каб зажывалі раны... Гэта

варэнне, грыбы сушаныя...

- Нашто столькі! - запратэставаў ён. - Вы што на самай справе! За адзін лапік?..

- Во гэта масла. У цёткі ж каровы няма, дык спатрэбіцца...

- За адзін лапік! - ледзь не стагнаў Агееў.

- Не за лапік. За тое, што вы... Што вы ёсць такі...

Яна выклала ўсё на стол, на яго інструменты, і кінулася прэч, радасна азадачыўшы яго сваёй мілай удзячнасцю за дробязную, па сутнасці, паслугу. Але, мабыць, у гэтай паслузе яна бачыла штосьці большае, чым залаплены туфель, і гэтая яе абачлівасць міжволі адгукнулася ў ім зачаткам ціхай удзячнасці.

Нядоўга пасядзеўшы ў альтанцы, ён пашкандыбаў у застаронак і заняўся ранай, якая тупым болем увесь час непакоіла яго з ночы. Асабліва калі ён пачынаў хадзіць. Агееў разматаў абмяклую, са слядамі гнойных плям павязку, канец якой, аднак, надта прысох да раны, і ён аж спатнеў, пакуль з болем аддзіраў яго. На здзіўленне, аднак, пухліна пад каленам паменшала, балючыя тканкі абапал раны страцілі пухлаватую набрыняласць. Агееў выкінуў азызлыя лусты сала, падумаў, што цяпер, можа, абыдзецца і так, туга абкруціў нагу старой павязкай, падклаўшы пад яе кавалак чыстай анучы. Далей трэба было перакусіць, ён даўно ўжо адчуваў згаладнеласць і выйшаў з хлява.

Каля ягонай альтанкі на лаўцы сядзела бабка ў цёмнай таўстой хусціне, з такім жа, як і ў яго, кійком у руках. Яна яўна чакала некага, і Агееў дашкандыбаў да яе ззаду.

- Вам каго, бабка?

Бабка нетаропка павярнулася, паўзіралася ў яго пільным позіркам старэчых, глыбока запалых вачэй.

- Мне во чаравічкі ўнучцы... Каб пачыніць... Адна

ўнучка засталася, ні бацькі, ні маткі. Дык сказалі, тут чыняць, у папоўскай хаце.

- Чыняць, ага. А што, чаравічкі дужа разбітыя?

- Ды разбітыя... Во! Новых жа няма, дзе я вазьму. Цяпер жа не купіш.

- Цяпер не купіш.

Ён узяў з яе рук звязаныя вузлаватымі шнуркамі дзіцячыя чаравічкі, надта разбітыя, з дзіравымі падэшвамі і скрыўленымі заднікамі, з дзіркамі ў насках, і яму зрабілася сумна: як адрамантаваць іх? Але бабка, нібы прысуду, поўная ўвагі, чакала ягонага слова, і ён, уздыхнуўшы, не знайшоў сілы адмовіць.

- Ладна, як-небудзь зробім. Сёння пад вечар.

- Дзякуй жа табе, сынок, дзякуй. Я ж ў даўгу не застануся, аддзячу. Хай цябе бог ратуе...

Ён правёў бабку і вярнуўся ў альтанку. Трэба было брацца за працу, але хацелася есці і было агідна і боязна ў душы - усё ад таго ранішняга прыходу паліцыі. Што яна рыхтуе яму, тая подлая яго падпіска? Канечне ж, працаваць на іх ён не меў намеру, але балюча адчуваў, у якое ярмо трапіў і як трудна будзе выкручвацца ў ім, у гэтам фашысцкім ярме. Абавязкова трэба будзе папярэдзіць пра тое Волкава ці хоць бы Кіслякова, расказаць, у якую справу ўцягвае яго паліцыя, і сумесна рашыць, як яму быць. Таму што... Таму што гэты фальшывы сэнс ягонага становішча можа хутка вылезці бокам для гэтых людзей ды і ці мала яшчэ для каго, але перш - для яго самога. Ён выразна ўсведамляў усю складанасць свайго становішча, але што ён мог зрабіць? Хіба праклінаць вайну ці гэтага нягодніка Драздзенку. Але і праклінаючы яго, вайну і сваю злашчасную долю, мабыць, прыйдзецца жыць і нешта рабіць у адпаведнасці з сваім сумленнем, абавязкамі камандзіра арміі, каторая цяпер сплывае крывёю на вялізным фронце ад поўначы да поўдня. Напэўна, тым, што цяпер

пад Масквой ці Смаленскам, куды цяжэй, тысячамі кладуцца яны ў брацкія магілы - ці гожа яму наракаць на свой лёс? Трэба трываць і, пакуль ёсць магчымасць, рабіць нейкую справу. Але толькі б не пашкодзіць сваім.

Таропка перакусіўшы на кухні, ён успомніў Бараноўскую і пашкадаваў, што ў такі час яе не было дома. Ён пачаў ужо прывыкаць да гэтай своеасаблівай жанчыны - сваёй гаспадыні, напэўна, у такой справе яна б яму штосьці параіла ці хоць бы паведаміла штось. Яна ж, як мясцовая жыхарка, ведала тут усіх і, здаецца, умела разбірацца ў людзях. А людзі яму, мабыць, хутка спатрэбяцца. Без людзей у ягонай справе - пагібель.

Рэшту таго дня ён патраціў на бабчыны чаравічкі і трохі прывёў іх да ладу. Для больш грунтоўнага рамонту патрэбны былі матэрыялы - скура, падэшвы, якіх ён не меў, і думаў, што з такім мізэрным запасам ягоная рамонтная справа хутка ўвапрэцца ў тупік. Чым тады ён будзе карміцца? Сядзець на ўтрыманні гаспадыні? Дажыўся бравы начбой Агееў, ці інжынер Бараноўскі Алег Кірылавіч. Ён зусім ужо стаў блытацца ў сваіх імёнах і не ведаў, якое з іх будзе для яго шчаслівейшым.

Бабка прыйшла надвячоркам, калі ён, паставіўшы на краі стала чаравічкі, сукаў на запас дратву - для новага рамонту. Але больш заказаў у яго не было, ніхто да яго не ішоў, і ён, назапасіўшы дратвы, збіраўся вылазіць з-за стала. Мацаючы кіёчкам дарогу, бабка, нібы сляпая, збочыла з вуліцы і спынілася перад альтанкай.

- Во, бабка, гатовы.

- Гатовы? Дзякуй табе, галубок, дзякуй божаньку. Во за труды твае з беднай бабы.

Яна беражна паклала на ражок стала складзены амаль да памеру паштовае маркі рубель і ўзяла чаравічкі.

- Хай носіць на здароўе, - сказаў Агееў.

- Ой дзякуй жа табе! Хай бог дасць здароўечка...

Усё мармычучы словы падзякі яму і богу, яна выйшла

на вуліцу, і Агееў узяў са стала рубель, разгарнуў яго. Во і яго першы грашовы заробак, падумаў ён іранічна. Калі так справа пойдзе і далей, прыйдзецца трымаць зубы на паліцы. Яму наўрад ці яны спатрэбяцца.

Той дзень ён нічога не рабіў болей, нават не паеў у полудзень, хаця перад ім на стале ляжалі прынесеныя Марыяй гасцінцы, да якіх ён зрэдзьчасу вяртаўся ў думках. Ён прасядзеў на кухні да вечара, усё пазіраючы ў акно - ці не завітае хто ў двор. Сам ён не хацеў лішні раз без патрэбы вытыркацца на людзі: заказчыкі яго не надта цікавілі - будуць дык будуць, а не, дык, можа, і лепей. У яго быў клопат больш пільны - ён чакаў каго-небудзь з лесу, ад Волкава ці Кіслякова, яму трэба было паведаміць пра новы паварот у ягоным лёсе. Але, як назло, да вечара ў двары ніхто не з'явіўся, не з'явіўся і ўвечары.

Калі ўжо цалкам сцямнелася і над мястэчкам усталявалася ноч, ён паблукаў па двары ў цемры, паслухаў і маркотна патупаў у свой застаронак.

## Раздзел чацверты

З самага ранку Агееў сядзеў ля палаткі і чакаў.

Учора ўвечары яго ўсё ж даняло сэрца, і, як толькі трошкі палегчала, ён схадзіў у пасёлак і даў тэлеграму сыну, каб той прыехаў. Ён даўно ўжо не званіў у Мінск і не ведаў, ці застане тэлеграма сына, які часта адлучаўся ў камандзіроўкі - у Маскву, на Ўрал, у Закаўказзе; працуючы ў праектным інстытуце, той быў звязаны з радам прадпрыемстваў па ўсёй краіне. І вось Агееў чакаў, цярпліва і самотна, бо стала відаць, што праца ў кар'еры - не для яго і, каб неяк давяршыць гэтую задоўжаную справу, яму трэба падмога.

З раніцы ён чакаў ля палаткі, але калі ў поўдзень стала прыпякаць сонца, узяўшы вядро, перайшоў у цень пад агароджай могілак. Тут было не так горача, уздоўж невысокай, па грудзі чалавеку, каменнай сцяны часам павяваў ветрык, ціхенька шумела лісце таполяў угары, і

наогул было добра ў спакоі, калі б толькі лепш працавала сэрца. Але сэрца працавала па-ранейшаму кепска. Прыступы арытміі з невялікімі прамежкамі адбіралі сілу, часам выклікаючы страх смерці, і ён палохаўся ад думкі, што можа не дачакацца сына і наогул нічога не дачакацца. Так мінула багата часу, сонца павярнула на захад, шырокі з раніцы цень ад дрэў звузіўся да няроўнай паласы пад сцяной, і ён ужо думаў, што прыйдзецца перабірацца адсюль, калі на дарогу з-за могілак выскачыў «жыгулёнак» - чырвоны, нібы вугольчык з жару, трэцяй мадэлі выпуску. Агееў адразу пазнаў машыну і, спалохаўшыся, што яна праскочыць далей, замахаў рукой. Машына прытармазіла, быццам нават спынілася, а затым крута павярнула на пагорак і падкаціла да ягонай палаткі.

- Баця!

Сын быў вялікі, барадаты, як і належыць сучасным маладым мужчынам, ён далікатна абняў паўнаватае, нейк ненетуральна абмяклае цела бацькі, паляпаў яго па плячах.

- Ну, што ты? Ну, як? Прыціснула, ага?

- Нічога, нічога, - сказаў Агееў. - Знаеш, так вось... Дзякуй, Аркадзь, што прыехаў.

- Атрымаў тэлеграму, якраз з Худзяковым сядзелі. Ну, кажа, едзь. Два дні назад квартальную справаздачу здалі, так што...

- Ну, дзякуй...

- А я думаў, што ты ў гасцініцы. Прыехаў, кажуць: не значыцца, - ажыўлена расказваў сын, памахваючы ланцужком ад ключа. - А ты, значыць, на свежае паветра перабраўся? Ці выселілі?

- Не, чаму? Проста бліжэй... - сказаў Агееў і змоўк: пра сваю працу ў гэтам пасёлку ён нічога не расказваў сыну, проста сказаў неяк па тэлефоне, што затрымліваецца, ёсць старыя, з вайны, справы. Сын

ведаў, што ў сорак першым ён нядоўга жыў тут, удзельнічаў у падполлі.

- Хіба адсюль бліжэй? - здзівіўся Аркадзь і павярнуўся да бацькі - рослы, шыракаплечы, у імпартнай, на кнопках, кашулі з кішанямі на грудзях і выцертых да белых плям джынсах, якія туга сядзелі на яго худым задзе. - Можа, кіламетр ад цэнтра.

- Ну, каму як, - няпэўна сказаў Агееў. Сэрца яго білася трохі часцей, па-ранейшаму, аднак, са збоем рытму, але цяпер ён не зважаў на сэрца, не прыслухоўваўся да сябе. Ён думаў, чым частаваць сына, які, напэўна, згаладнеў у дарозе, ды той адразу ступіў да машыны.

- Я тут табе адно лякарства дастаў. Імпартнае. Выдатна памагае пры сардэчнай недастатковасці.

Выхапіўшы з салона маленькую скураную сумачку з пятлёй-ручкай, ён расшпіліў маланку.

- Вось: дзі-гак-сін. Учора ў Ермалаева дастаў. Спецыяльна для цябе.

- Ну, дзякуй, - сказаў Агееў, беручы невялікую каробачку з сінім лацінскім надпісам. - Калі паможа.

- Паможа, паможа! Наш дырэктар толькі ім і ратуецца. Выдатнае лякарства. І яшчэ што-нішто паесці. Думаю, ты тут не галадаеш, канечне, не сельскіх харчах, ды ўсё ж...

Ён расчыніў багажнік і пачаў вымаць з яго глыбіні акуратныя магазінныя скруткі, кулькі і пакеты, бохан чорнага барадзінскага хлеба; падкінуў угару і спрытна падхапіў бутэльку грузінскага каньяку з сіняй наклейкай.

- Гэта не трэба, - сказаў Агееў.

- Нічога, спатрэбіцца. Я пытаўся, сказалі, каньячок табе можна. Для расшырэння сасудаў.

Што ж, мабыць, самая пара была перакусіць, і, каб не

сядзець на сонцы, яны перайшлі пад сцяну - у засень. Праўда, сын неўпрыкмет паморшчыўся, мабыць, ад такога суседства, але перанёс туды два невялікія складаныя крэслы з машыны, хутка раскінуў дзюралевыя ножкі партатыўнага століка, які на такі выпадак вазіў у машыне. Агееў прынёс з палаткі свой паляўнічы нож, тэрмас, у якім яшчэ штосьці пляскалася, і яны прыселі па абодва бакі століка, адзін перад адным.

- Ну, дык вып'ем трохі? - запытаўся сын, выкалупваючы пальцамі капронавы корак.

- Не, не буду.

- А я, знаеш, вып'ю. Сёння за руль болей не сяду. Уездзіўся.

- Выпі, што ж, - сказаў бацька.

- Для расслабкі нерваў. Дык за цябе, баця! - падняў ён да паловы наліты пластмасавы каўпачок, і Агееў кіўнуў галавой. Сын асабліва не захапляўся алкаголем, і ў гэтым сэнсе бацька мог быць спакойны.

Відаць, згаладаўшыся за доўгую дарогу, ён выпіў і з зайздросным апетытам закусваў вэнджанай грудзінкай і сырам, накладваючы вось такі, з дзіцячых гадоў звыклы для сябе бутэрброд, і Агееў прыпомніў, што яны з маці не мелі вялікага клопату з кармленнем сына - той еў усё і заўжды, будучы, як і бацька, зусім непатрабавальным да ежы. Наогул, пакуль жыў з бацькамі, клопату з ім было няшмат: добра скончыў школу і з першай спробы паступіў у інстытут - не спатрэбілася ніякай падстрахоўкі, някепска вучыўся, цяпер працуе над кандыдацкай - разумны, энергічны спецыяліст, някепскі знаўца сваёй справы. Хіба што ў сямейным жыцці не пашэнціла адразу, год таму развёўся, пакінуўшы малое дзіця ў жонкі.

- Як унучак? - успомніўшы аб тым, запытаўся Агееў.

- Расце, што яму. На тым тыдні бачыў... У двары.

Праўда, усяго хвіліну, не было часу.

- А Света?

- Што Света? Якая мая справа, - паўзіраўся ўбок Аркадзь і перавёў размову на іншае: - Ну, а як ты? Дабіў свае справы?

- Не, не дабіў, - сказаў Агееў, уздыхнуўшы, і паглядзеў удалячынь на патанулыя ў садках дамы за дарогай. У адным з двароў былі расчынены веснічкі, і таўстая жанчына заганяла ў іх гагаткую чараду гусей з велічным гусаком наперадзе. У гэтай жанчыне ён лёгка пазнаў Казлову.

- Слухай, во не разумею, - сказаў сын. - Якая тут у цябе справа? Расследаванне якое? Што ў цябе тут здарылася, у вайну?

- Ды штосьці здарылася, - няпэўна сказаў Агееў.

- Помніцца, ты нешта расказваў. Маці казала, быццам цябе расстрэльвалі. Гэта тут хіба?

- Тут, - сказаў ён, зірнуўшы ў ажыўлены ад выпітага ці, можа, ад цікаўнасці сынаў твар, і сціх, чакаючы новых пытанняў, адказаць на якія не быў гатовы. Сын, аднак, кінуўшы вакол хуткім позіркам, спыніў яго на стале.

- Я сабе яшчэ трошкі плясну. Калі ты не супраць?

- Я не супраць.

Ён і яшчэ трохі выпіў, пасля ўзяўся закусваць, а Агееў наліў з тэрмаса цеплаватага чаю, роздумна памяшаў лыжкай у кварце.

- Во на гэтым абрыве, - чамусь дрыготкім голасам сказаў ён, кінуўшы ў бок кар'ера.

- Як?

Здаецца, гэта здзівіла сына, які, папярхнуўшыся, з кавалкам хлеба ў руцэ ўскочыў з крэсла і выцяг шыю.

- У гэтай яме?

- У гэтай.

Сын пабег да абрыву, а Агееў застаўся сядзець з квартай цёплага чаю і на ўстрывожаны голас сына ціха сказаў:

- На тым самым месцы.

Хвіліну разгублена пастаяўшы над кар'ерам, Аркадзь энергічным крокам вярнуўся да бацькі.

- Гэта ты капаеш?

- Я.

- Навошта?

- Ну, разумееш, хачу знайсці некаторыя сляды. Штосьці рэканструяваць. Таму што не ўсё зразумела ў гэтай гісторыі з расстрэлам.

- А што незразумела?

- Ну, хаця б тое - колькі тут расстраляна.

- А нашто табе гэта? Ты што - следчы па асабліва важных справах?

Агееў марудна ўзняў галаву, узіраючыся ў нечакана пасуравелы твар яго дваццацівасьмігадовага сына. Гэтая суровасць скіраванага да бацькі пагляду магла б абурыць Агеева, але ўсё ж ён адчуў, што сын не ад злосці, а з прычыны неспакою за бацьку, за яго здароўе.

- Я - для сябе, - сказаў ён пасля паўзы. - Для ачысткі сумлення.

- А, сумленне... Тады іншая справа, - стрымана сказаў Аркадзь, сядаючы на нізкае крэсла. Жуючы бутэрброд, ён хвіліну напружана згадваў нешта. - Вось часам думаю: многа ўсё ж вы нахамуталі з гэтай вайной, - холадна сказаў ён.

- Гэта чаму - нахамуталі?

- А во ўсё капаеце, шукаеце, разбіраецеся. Пішаце яшчэ. Некаторыя сорак гадоў ваююць, спыніцца не могуць.

- Значыцца, ёсць прычыны.

- Прычыны! А жыць калі будзеце? У другім сваім жыцці, пра якое тыбецкія мудрацы пішуць?

- Другога жыцця не будзе.

- Вось іменна. Ды і гэтае дай бог пражыць па-людску. Калі ядзерны грыб не паставіць кропку на ўсім.

Сын папракаў, амаль выгаворваў, не так словам, як тонам, якім былі вымаўлены тыя словы. Менавіта ў ягоным тоне Агееву пачулася штосьці знаёмае, што ён не ўпершыню чуў, хаця, можа, і не заўсёды адказваў на тое. Аднак цяпер гэта яго пачынала злаваць.

- Ну, во скажы мне, - трохі з намаганнем, каб гаварыць спакайней, пачаў ён. - Што значыць, па-твойму, жыць ці дажыць па-людску? Зрабіць кар'еру? Атрымаць ступень? Заслужыць прэміі? З'ездзіць у загранку?

- Ну, бог з табой, чаму ты так думаеш? Не ўскладняць жыццё псеўдапраблемамі, так я думаю. У нашым жыцці рэальных праблем процьма...

- Гэта якіх праблем?

- А то сам не ведаеш?! Ці мала ў вас у інстытуце было праблем? Успомні, калі забыўся. Ды і ў жыцці, у быце. Вунь ехаў, нідзе заправіцца не мог. То для дзяржтранспарту, то па талонах. А талоны немаведама дзе. Кажуць, у горадзе.

- Праблема гаручага - глабальная праблема.

- Ды ніякая яна не глабальная. Якія ў нас пры такіх запасах нафты могуць быць праблемы з гаручым? Безгаловая арганізацыя, во што! Пралікі планавання. І

гэта ў эпоху НТР, калі ўсё на камп'ютэрах лічаць.

- Справа не ў камп'ютэрах...

- Не ў камп'тэрах, вядома. Для таго, каб ведаць, колькі трэба паветраных фільтраў для «жыгулёўскага» парка, не трэба лічыць на камп'ютэрах апошняга пакалення. Дастаткова пасадзіць цёцю Машу з арыфмометрам. А то вунь аўтапарк падвоіўся, а фільтр пяць гадоў замяніць немагчыма. Мусіць, справа ў тых, хто лічыць.

- Вось іменна. А лічаць людзі. Значыць, праблема ў людзях. Чалавечая праблема. Вунь яшчэ адна «праблема» ідзе, - сказаў Агееў, зірнуўшы па-над галавой сына. - Давай сюды, Сямён!

На дарозе з-за магілак паявіўся ў сваёй жоўтай безрукаўцы Сямён, які, мабыць, згледзеўшы, што Агееў тут не адзін, запаволіў крок, ці не мяркуючы павярнуць назад. Агееву тым часам расхацелася прадаўжаць пачатую размову з сынам, і ён амаль узрадаваўся нечаканаму прыходу новага госця.

- Здрасце, - падышоўшы, ветліва павітаўся Сямён, звяртаючыся да Аркадзя.

- Гэта мой сын, - кіўнуў Агееў. - А гэта Сямён Сямёнаў, ветэран, як бачыш. Во цяпер мы і пагамонім. Вазьмі там вядзерца і сядай. Самы раз будзеш.

Для прыліку трохі патаптаўшыся, Сямён перакуліў вядзерца і прысеў збоч ад стала. Ценю там ужо не было, і руды, маршчыністы твар яго хутка пакрыўся дробнымі кроплямі поту, але ён не выціраў яго, звыкла трываючы санцапёк.

- Бацьку праведаць, так сказаць? Гэта добра, гэта бацьку заўжды прыемна, - загаварыў ён, азіраючы стол, і затрымаўся паглядам на бутэльцы.

- Во, налі госцю, - сказаў Агееў. - Мабыць жа, не адмовішся, як я, напрыклад?

Сямён знарок паморшчыўся.

- Мы тут болей да віна прывыклі.

- А чаму іменна да віна? - запытаўся Агееў-малодшы, наліваючы каўпачок. - Што дзешавей, напэўна?

- Не-а. Што болей вып'еш, - заўсміхаўся Сямён.

- Гэта рэзон! - адобрыў Аркадзь. - Ну, выпіце!

- А вы?

- А я ўжо ўсё. Выпіў, болей не п'ю.

- Дык аднаму неяк нязручна...

Закарузлымі пальцамі правай рукі Сямён няспрытна падабраў з паперкі скрылёк грудзінкі, уладкаваў яе на кавалак хлеба, пакрахтаў. Спаважна і нетаропка ён рыхтаваўся да самага важнага ў гэтым пачастунку, прымерваўся, уздыхаў. Агееў амаль з дзіцячай любасцю сачыў за яго свяшчэннадзействам, яўным захапленнем, якое адбілася на яго прасветленым зараз твары, загарэлым ілбе з белымі дугамі злінялых за лета броваў. Нарэшце, закінуўшы галаву, Сямён важна выпіў - худы кадык на яго доўгай, зморшчанай шыі саўгануўся знізу ўгару і апусціўся.

- Харашо, аднак жа!..

- Закусвайце чым ёсць.

- Дзякуй.

- Дзякуем ліманад закусваюць, - трохі павучальна заўважыў Аркадзь, і бацька зноў злавіў у яго тоне непрыемную ганарыстую нотку, якая нядаўна стала раздражняць яго ў характары сына.

- Сямёнаў сапраўдны трудзяга вайны, - сказаў ён, звяртаючыся да сына. - У разведцы ваяваў. Май гэта на ўвазе.

- Разведчык - цяпер герой! Разведчыкаў паважаюць. Шцірліц і так далей, - тут жа падхапіў Аркадзь.

- Не Шцірліц! - павысіў голас Агееў. - Вайсковы разведчык. І гэта, будзь упэўнены, болей, чым Шцірліц.

Сын хлёсткім ударам забіў капронавы корак у рыльца бутэлькі.

- Канечне, канечне.

- Ветэран, інвалід і так далей, - ужо раздражнёна сказаў Агееў. - Не выгадваў, як некаторыя. Тыя, што на печы адседжваліся. Ці адразу пабеглі ў паліцыю.

Сямён спакойна слухаў трохі нервовую размову Агеевых, пабліскваючы металічнымі зубамі, нетаропка жаваў закуску. Выбраўшы прыдатны момант, разважна сказаў:

- Але не ўсе і ў паліцыю ішлі па сваёй ахвоце. Былі і такія, што па прымусу. Каторых заставілі. Або па глупасці...

- Як можна па глупасці? На такую справу - і па глупасці? - здзівіўся Аркадзь.

- А здаралася. Як я, напрыклад.

- А вы што - і ў паліцыі былі? - здзівіўся Агееў-малодшы. Агееў-старэйшы недаўменна ўставіўся ў Сямёна, а той як ні ў чым не бывала спакойна дажаваў закусь.

- Быў. Дзе я толькі не быў! У паліцыі, у парцізанах. У палоне быў. І ў арміі. Да Віслы дайшоў і вось, - ён сутаргава варухнуў кульцёй. - Шчытай, на тым свеце пабыў. Ды я расказваў...

Аркадзь перавёў недаўменны пагляд на бацьку, але той зрабіў выгляд, што не заўважае ягонага пагляду, і сядзеў раздражнёны і пахмурны. Такога абароту ў іхняй размове ён не прадбачыў.

- Я пра ўсё расказваю. А што? Падумаеш, сакрэт! Знаеш, налі ты мне яшчэ трохі... А то... Малюпашка такая...

- Гэта калі ласка.

Аркадзь з гатоўнасцю адкаркаваў бутэльку і наліў поўны, па берагі, каўпачок. На гэты раз Сямён выпіў залпам і, не закусваючы, дастаў з кінэні, як заўжды, пакамечаны пачак «Прымы».

- Гэта ўпачатку, мабыць? У сорак першым? - насуплена запытаўся Агееў.

- У сорак другім, вясной.

- У сорак другім болей у партызаны ішлі. Масавы прыход пасля зімы. Па чорнай трапе.

- Во, па чорнай трапе. Мы з Віцькам Бекешам тожа так саабразілі. Зіму пракантаваліся на печы, а вясной сцямілі: трэба ў лес. Тым больш пра парцізан ужо загаварылі. Праўда, далекавата яны ад нас паявіліся - у Сіняўскім лесе, і я кажу Віцьку: чакай, узарэм гарод і рванём. Ён: «Не, цягнуць нельга, сябе ж пакараем, кожны дзень важны». Ну, ведама, пабрахаліся, і ён ранічкай ірвануў адзін. Я б, ведаеце, таксама пайшоў, але маці шкада было: што яна без гарода, старуха, чым пракорміцца? Карову зімой забралі, каня не вярнулі, празявала мамаша, пакуль я ў палоне загібаўся аж у Белай Падлясцы, можа, чулі - агромністы шталаг быў. Увосень адтуль уцёк. Уцякло многа, а мала ўцалела, немцы сабакамі пацкавалі, пастралялі. Мне ж пашэнціла: на пакроў прывалокся дадому - галодны, вашывы, увесь у скуллі ад прастуды. Зноў жа, дызенцерыю падхапіў. А дома што? Маці старая ў сцюдзёнай хаце - ні хлеба, ні дроў, ні бульбіны. Ледзьве неяк да вясны дацягнулі, ад хваробы аклямаўся - трэба зноў ісці біць ворага. Біць яно, канечне, патрэбна, злосці ў мяне на іх да вушэй, але і маці шкада.

- А што, дома болей нікога не заставалася? - запытаўся Агееў, які пачаў ужо ўслухоўвацца ў Сямёнаў расказ.

- Апроч мяне была ў маці яшчэ дачка, мая сястра старшая. Замужам у суседнім раёне. Але ў сястры чацвёра дзяцей, мужа забілі ў першыя дні акупацыі, са

свёкрам жыве. Ну, як туды маці? Сядзіць у сваёй хаце старая.

Дык вось гэты Бекеш напакаваў сідар і падаўся з сяла. Я застаўся, укалываю на гародзе, бульбу саджаю. Аж дні праз тры вяртаецца мой дружбак: парцізаны назад адправілі. Зброя трэба! Без зброі не прымаюць. А дзе возьмеш зброю? Гэта там, дзе ішлі баі, яе процьма на полі засталося, а ў нашай мясцовасці ніякіх баёў не было, фронт стараной прайшоў, нічога нідзе не знойдзеш. З чым ісці ў парцізаны?

А трэба вам сказаць, тут другая бяда насела - у мястэчку гарнізон устанавілі, паліцыю набіраюць. Ну, канечне, добраахвотнікаў, каторыя на Савецкую ўласць зуб мелі, тых усіх падабралі, і - мала. Сталі браць розных. Прысылаюць павестку з'явіцца - і забіраюць. Добра, калі хто можа адмовіцца, ну, інвалід, хворы, даведку мае. Я таксама даведку меў, што дызенцерыя, але даведцы той паўгода ўжо споўнілася. Праўда, падпраўляў раз і другі, ужо дзірка на тым самым месцы, дзе чысло, трэці раз падправіць ужо няма як. Худое дзела! І вось неяк пад вечар сышліся мы з Бекешам за лазняй, рашаем: як быць? А трэба сказаць вам, Бекеш гэты быў хлопец граматны, дзевяць класаў скончыў, але малады, гарачы і дужа перажываў тую няўдачу з парцізанамі. Вось ён і кажа: «А што, калі запішамся ў паліцыю? Дадуць вінтоўкі - і ў Сіняўскі лес!» Думаю, можа, і правільна! А то даседзішся, што сілай возьмуць ці яшчэ лепш - застрэляць. Боязна, канечне, і пагана неяк, але што зробіш? Ужо горш, мабыць, не будзе, чым у тым шталагу пад Белай Падляскай. Усё ж у паліцыі ўжо знаёмыя аб'явіліся - каторых узялі, каторыя самі пайшлі. Канечне, служыць ім мы не будзем, нам абы вінтоўкі займець.

Ну вось, узараў я гарод, пасадзіў бульбу, думаю: заб'юць, дык маці хоць на першым часе будзе як перабіцца. Намякнуў старой, а тая плакаць: «Лепш бы ты, - кажа, - на вайне ўлетку пагіб, чым цяпер у паліцыю ісці». - «Нічога, мамаша, - кажу. - Я ім паслужу. Я ў парцізаны перабягу, мне б толькі зброю

займецъ». Ну, трохі супакоіў старую, і ранічкай мы з Бекешам падаліся ў мястэчка.

Я ўжо казаў, што там знаёмыя былі, двое з нашай вёскі, з мястэчка некалькі. Скажу вам - розныя людзі. Каторыя сволачы, а каторыя і нішто, толькі застрашаныя, асабліва сямейныя. Куды ім? Калі што - немцы дзяцей пахапаюць, баб, пакараюць люта. Ну, паслалі нас з Бекешам у трэці ўзвод, пачалі муштраваць на пляцу - страявой, прывітанню, як у арміі. Формы яшчэ не было, у сваім хадзілі, хто ў чым. Я ў гімнасцёрцы, шэрым шыняльку, ботах кірзавых. Вінтовак пакуль на давалі, усё без зброі мурыжылі. Паліцыя ў школе размяшчалася, цагляная будыніна такая на адзін паверх у цэнтры мястэчка, ля мосціка. Начальнікам быў звер адзін, хадзіў увесь у рамянях, з маўзерам на баку, лютаваў - не дай бог. Калі якое падазрэнне ці парушэнне - біў кулаком у морду, а то перадаваў у эсдэ на станцыю, там нямецкі гарнізон асталяваўся. Два ўзводы, каторыя ўжо ўзброеныя былі, часта па трывозе паднімалі - то на арышты, аблавы, то проці патцізан. І вось неяк раз - у маі гэта было, ужо лес распусціўся - ноччу трывога! Усе высыпалі строіцца, а я ў нарадзе днявальным стаяў. Гэты раз усіх пагналі на падводах і вярхамі, недзе парцізаны напалі, на выручку, значыць, сваіх. І трэці ўзвод тожа пагналі, толькі два хворыя засталіся і трое нас з нарада. Як усе вымеліся, я казарму падмёў, стаю ля тумбачкі ў калідоры, другі днявальны толькі змяніўся, закімарыў пад шынялём на нарах. А дзяжурны, старшы паліцэйскі Сурвіла, з вінтоўкай на ганку ходзіць. З усіх нас толькі ён са зброяй. Вось, думаю, лёг бы і ён адпачыць, я б яго вінтовачкай і разжыўся б. Але не кладзецца, зараза. Пад ранак на світанні чуем - страляніна за лесам у баку Слабады, густая такая страляніна ўсчалася, можа, з гадзіну доўжылася. Сурвіла гэты нервуецца - то ў калідор увойдзе, то выйдзе - баіцца, сволач, каб парцізаны не наляцелі. Падлюга быў добры, раней у РДК гаспадарыў, рашка - во, плечы - во, дужы, сабака, а баягуз. Бачу, мандражэ ваўсю яго водзіць. Злосць мяне бярэ, але выгляду не падаю, стаю ў калідоры. На рамяні ў мяне штык, звычайны трохграннік, ад нашай драгункі.

Канечне, гэта не зброя, з такім у парцізаны не прымуць. А дзе ўзяць лепшую? Усё думаю аб тым, ламаю галаву.

І вось толькі развіднела, вяртаюцца з аперацыі, спярша конныя, а пасля на падводах, параненых прывезлі чалавек пяць і двое забітых. На палатках нясуць у казарму. Гляджу - і раптам ледзь не закрычаў ля тумбачкі - Бекеш! Галаву звесіў, лоб белы, у валасах кроў. Не так многа крыві, ад кулі, а ўсё! Забіты. Вось табе і раздабыў зброю. Нават у руках не патрымаў, пры возе быў, коней пільнаваў. Сляпы ён, ваенны лёс, нічарта не выбірае. Каго папала косіць, часцей добрых людзей, а свалату якую не зачэпіць і куля.

Значыць, згрузілі забітых, паклалі параненых, і два паліцаі пад рукі вядуць яшчэ аднаго. Тожа паранены ў нагу, нага трохі перавязана, без бота, скача на адной. Гляджу, быццам не наш, у паліцыі такога не было. Пытаюся ў Чарняўскага, паліцая з мястэчка, з якім некалі разам у школе вучыліся, кажа: парцізан, параненым падабралі. Малады такі, у чорнай кубанцы, пахожа, камандзір нейкі з лесу.

Павалаклі яго ў канцылярыю на допыт, а канцылярыя якраз насупраць, праз два крокі ад мяне, я стаю ля тумбачкі і ўсё чую, як там яго мардасяць. Начальнік з маўзерам, ад эсдэ нейкі граміла ў жоўтых ботах, некалькі паліцаяў. Спярша яго па-добраму, але, відаць, не хоча гаварыць парцізан, дык крычаць сталі. Ну, і дубасіць. Ён таксама крычыць і лаецца. Але ўсё ж нешта і скажа. Чую, прозвішча сваё назваў, а яны ўсё пра Сіняўскі лес дабіваюцца. Пачалі болей дубасіць. Во ён ужо і самлеў, выбеглі па ваду, адлілі. І зноў біць. Пасля перапынак. І зноў. Гэты допыт, мабыць, гадзіны са тры цягнуўся, мяне ўжо змянілі ля тумбачкі. Толькі прылёг, Сурвіла будзіць. Кажа: «Запрагай цялегу, паедзем на заданне». - «Куды?» - пытаюся. «На станцыю, палоннага бандзіта павязём, немцы трэбуюць». Надта мне не спадабалася гэтае заданне: па-першае, парцізана немцам аддаць - гэта ж для яго пэўная смерць; па-другое, я зноў без зброі застаюся. Кажу: «Няхай вінтоўку якую дадуць, як мне з голымі

рукамі ехаць?» Кажа Сурвіла: «Не трусь, я са зброяй. Калі пабяжыць. Ды і не пабяжыць ён, ледзьве дыхае».

Ну, запрог я коней, вынеслі на цялегу парцізана, паклалі на саломе. Гляджу, і праўда, ледзьве жывы, так адматузілі. Твар увесь у крыві, на свет божы адным толькі вокам глядзіць. «Куды вы мяне везяце?» - пытаецца. А Сурвіла яму: «Ці не ўсё роўна табе, бандзіцкая морда! Вот шлёпнем на мосце - і ў ваду». Парцізан лаецца, мацюгае і паліцыю і Гітлера. У мяне на душы пагана, думаю: няўжо і я свае рукі да ягонай пагібелі прыкладу? А што зробіш? Не адмовішся ж. Тыя, што ноччу па трывозе ездзілі, цяпер паклаліся, будуць спаць да абеду, а нам, значыцца, такое дзела...

Выехалі з мястэчка, бальшаком кацім. Парцізан, не зважаючы, што паранены і скалечаны, дык яшчэ і звязаны па руках, а да здаровай нагі вяроўка прапушчана. Я сяджу ў перадку з лейцамі, Сурвіла ззаду, назірае за абодвума. Бальшаком насустрач праехалі дзве падводы, прайшлі тры бабы з кашолкамі. А так пуставата. І тут пачалі ў мяне розныя мыслі паяўляцца. Стаў я прыглядацца да меснасці. Станцыя гэтая была вярсты праз чатыры, дарога ўвесь час палявая, але ў адным месцы, за мастком, пачыналіся кусцікі, а ў тых кусціках развілачка такая малапрыкметная: бальшак на станцыю, а бакавая дарожка цераз лужок - прама ў дзярэўню Смаляны каля хваёвага бору. Думаю, вось бы туды павярнуць. Але як павернеш, калі гэта жывадзёр ззаду, у руках вінтоўка. Калі што, хутка кулю між лапатак палучыш.

І ўсё ж я наважыўся. Як уехалі ў гэтае кустоўе, я і кажу Сурвілу: «Слыш, вазьмі лейцы, а я на мінутку. Жывот нешта...» Ён падумаў, азірнуўся, ды, праўда, злез, перайшоў к перадку, узяў лейцы. Перад тым, канечне, вінтоўку закінуў за плячо, а мне толькі гэта і патрэбна. Выхапіў я штык з-за дзягі і, бы дзіку, ззаду яму пад лапатку. Толькі застагнуў, як кабан, ды і асеў мне пад ногі. Я за вінтоўку, сабе на плячо, яго за ногі ды ў канаву. Пасля сам у цялегу ды па конях! Коні някепскія былі, як урэзаў ім, як ірванулі цераз лужок! Парцізан

спярша аж заенчыў, запрасіўся нават, а пасля сцяміў, відаць, у чым справа, і змоўк. А затым і падказаў, куды ехаць. «У Качаны, - кажа, - да каваля. Там скажуць». Я і прымчаў яго ў Качаны, там перахавалі, пераначавалі ў стажку, а назаўтра з атрада прыехалі. Адразу чацвёра конных, і мой парцізан кажа: «Вось ён мяне спас, рабяты. Спасіба, паліцай». Аказваецца, парцізан гэты не радавы быў, а начштаба атрада. Во якая штука, думаю. Аднак жа і пашанцавала мне. Толькі вось Бекеша шкада...

Прызначылі мяне пакуль што ў рэзерв. Прыгледзеўся я, што тут за людзі. Аказваецца, і тут ёсць знаёмыя. Каторыя з раёна, мяне не надта ведаюць - што я, да вайны ў брыгадзе рабіў, малады быў. Пасля служыў дзяйсцвіцельную на ДВК. Затое я іх помню. Загадчык райза наш, начальнік міліцыі. А раз каля кухні гляджу - настаўнік з местачковай школы Багіраў, нас у чацвёртым класе вучыў. Пастарэў толькі, амаль увесь сівы стаў. Але - камандзір атрада.

Пачалася мая парцізанская жызня, і пачалося ўродзе някепска. Мяне хоць і няшмат хто ведаў, але заўважылі адразу - як жа, начальніка штаба ад гібелі спас. Праўда, некаторыя і касіліся: з паліцыі ўсё ж, як бы падасланым не аказаўся.

- Ну, гэта вам пашанцавала сапраўды, - сказаў Аркадзь. - Што трапіў начальнік штаба. Як у кіно. А калі б радавы, напрыклад. Ці па дарозе памёр...

- Вось гэтага я болей за ўсё баяўся, - зусім па-дзіцячы адкрыта заўсміхаўся Сямён. - І па дарозе, і пасля ў стажку ноччу. Кепска чуўся начштаба, парой памяць траціў. Вось, думаю, аддасць канцы, што мне тады? Куды падацца? Парцізаны скажуць: забіў. І ў паліцыю нельга, не паверацць. Ды і Сурвілу знойдуць з маім штыком пад лапаткай. А начштаба ў атрадзе не было месяцы два, схавалі недзе ў ціхім месцы, лячыўся. За той час я ўжо зусім асвойтаўся, колькі разоў у засадах удзельнічаў, на зброю разжыўся. То пра адну вінтоўку марыў, а тут у мяне ўжо і парабел завёўся - выцягнуў на шасейцы ў забітага афіцэра, кінжал харошы такі, з

прыгожымі ножнамі. Словам, настаяшчы парцізан. І вось неяк увечары, толькі мы павячэралі на кухні, выходзім - насустрач незнаёмы мужык у скуранцы, з палачкай, кульгае трохі, гляджу: хто такі? А Колька Смірноў (масквіч быў, пасля, як гарнізон грамілі, смярцельную рану палучыў, у мяне на руках сканаў), дык гэты Колька штурхае мяне ў бок: маўляў, што вочы разявіў, аддавай чэсць, гэта ж твой хрэснік - начштаба. Ну, я руку пад казырок, так і так. «Дзень добры, таварыш начштаба, як здароўечка?» Праўда, падаў ён руку. «Дзякуй, - кажа, - табе за спасенне». Кажу: «Нічога не варта, абодвух спасаў - і вас, і сябе». - «А адкуль ты, - пытаецца, - дазнаўся, каго спасаць нада?» - «Дык я ж, - кажу, - ля тумбачкі стаяў, як вас там мутузілі, чуў што-ніштo». Нічога мне не сказаў той раз, але неяк спахмурнеў тварам. Я не звярнуў увагі - ці мала чалавек перажыў. Не надта гэта вясёлае дзела - у іхніх руках пабываць.

І вось лета канчаецца, ваюем мы ў парцізанах, аж трэск ідзе па лясах. То мы іх б'ём у хвост і грыву, то яны нам даюць прыкурыць. Ранейшага камандзіра нашага пераводзяць у камбрыгі, а замест яго ставяць Навікоўскага. Хлопцы да мяне часам чапляюцца, жартуюць: «Сямёнаў, схадзі да свайго дружбака, папрасі, каб аўтаматчыкам мяса падбавілі». Або: «Закінь слоўца, хай пасля аперацыі пад'ём на пару гадзін пазней зробяць». Або: «Што ты ў драных ботах тупаеш, папрасі камандзіра, хай трафейныя выдасць». Я, канечне, адбіваюся, нікуды не хаджу, не звяртаюся. Я ўжо сцяміў, што мой камандзір на мяне быццам злуе, нават пазбягае мяне. І не тое каб чым задобрыць, ну, там даць лішнюю гадзіну паспаць, дык яшчэ наадварот, усё кудысь адаслаць мяне хоча. Другія камандзіры да мяне ўсе нармальна, камісар дык у прыклад перад хлопцамі ставіць. Ды і на самай справе, хіба я дрэнна ваяваў? Падрыволі мост у Шонцах, я паліцая-вартавога зняў. Ды так спрытна, што, пакуль у бліндажы ачухаліся, мы ўсю ўзрыўчатку да свай папрывязвалі. Узарвалі, каравул увесь знішчылі і нікога свайго не страцілі. Камісар падзяку аб'явіў перад строем, гляджу, Навікоўскі моршчыцца. Не па сэрцы я яму, што ты

будзеш рабіць! Перад Кастрычнікам пачалі да ўзнагарод прадстаўляць, камісар кажа: ордэн Сямёнаву, а камандзір пярэчыць: медаля хопіць. Ну, «За бэзэ», значыць. А калі толькі дзе пыхне дохлая справа, як у Трасцянскім балоце, дзе немцы абоз наш перахапілі, туды - Сямёнава. Ідзі - памры ці вярні абоз. Пайшоў і вярнуў, не памёр. Дзякуй, канечне, перад строем і так далей. Але, адчуваю, яму было б лепш, каб не вярнуўся, памёр. Штосьці ён падазраваў за мной, а што - доўга не мог дакумекаць.

- Мабыць, гэтую вашу службу ў паліцыі, - сказаў Аркадзь.

- Ды не службу. Не ў службе справа, - перапыніў свой расказ Сямён, ужо не першы раз пакасіўшыся на бутэльку. Аркадзь, канечне, прыкмячаў тыя яго красамоўныя пагляды, але рабіў выгляд, што не разумее іх. Агееў маўчаў, ён ужо зразумеў усё, да чаго з такімі падрабязнасцямі падводзіў Сямён. Але слухаў. Не сказаць каб з вялікай цікавасцю - хутчэй з ціхім пачуццём чагось знаёмага, толькі, можа, апошнім часам трохі забытага.

- Не службу. Хаця і я гэтак спачатку думаў. Што не давярае. Ці выпрабоўвае. А пасля паняў: сам вінаваты. Праз свой доўгі язык пакутую.

Неяк я яму каня сядлаў, ну, так выпала, падвёў, значыць, к зямлянцы (у Краснай пушчы стаялі, у сосніку), аддаў павады. Паблізу быццам нікога не аказалася, ён павады ўзяў, патрымаў страмяно і, перш чым скочыць у сядло, пытаецца: «Скажы, Сямёнаў, ты тады да канца дадняваліў?» я адразу сцяміў, калі гэта тады, але прыкінуўся, што не паняў, пытаюся: «Гэта калі?» - «Ну, як мяне там дубасілі?» - Кажу: «Дняваліў, але хутка змяніўся, у казарме спаў». Схлусіў я і бачу: вочы ў яго павесялелі, штось у іх адпусціла, ускочыў ён на каня, а я і пытаюся, бы не разумею: «А што, таварыш канмандзір?» - «Ды не, нічога», - кажа і дубцом каня па шыі - паскакаў. Во як, схлусіў, а чалавеку палягчэла, ды і мне таксама. Неяк раз пры пастраенні падышоў, пажартаваў, пачаставаў папяросай нават. Ну, думаю,

трымайся, Сямён, справы твае быццам пайшлі ўгару, не балбачы толькі. Кароткі, аднак, быў мой шацунак, праз тыдзень пахавалі Навікоўскага - забілі, як пераходзілі жалезку.

Сямён змоўк, задумліва трымаючы ў пракураных пальцах патухлую цыгарэту, абодва Агеевы таксама маўчалі. Бацька - пагрузіўшыся ў тое даўняе і невясёлае мінулае, якое, не зважаючы на гады, часам прачыналася ў ім і востра драпала душу. Аркадзь быццам штосьці абдумваў і неўзабаве прызнаўся:

- Не дужа зразумеў: у чым соль? Ён што - па заданні ці як?

- Што - па заданні? - не зразумеў Сямён. - Чаму па заданні? Так проста.

- То есць?

- Ды ўсё ясна, - сказаў Агееў. - Што тлумачыць. Тут і малому панятна.

- Ну, - коратка пацвердзіў Сямён.

- А во мне непанятна, - усумніўся Аркадзь.

Сямён з хітрым прыжмурам вачэй пазіраў то на сына, то на бацьку, але што-небудзь тлумачыць ён, відаць, не хацеў, і Агееў-старэйшы сказаў сыну:

- Можа, табе і не зразумець. Бо вы - пакаленне, далёкае ад таго часу. Не, не па аб'ёму ведаў. Ведаў пра вайну ў вас хапае. Але вось атмасфера часу - гэта тая тонкасць, якую немагчыма спасцігнуць лагічна. Гэта спасцігаецца скурай. Крывёй. Жыццём. Вам жа гэта не дадзена. Зрэшты, можа, і не трэба, каб было дадзена. У вас сваё. А што да вайны, дык, можа, вам хопіць вярхоў, таго, што дае масавая інфармацыя. Там усё стройна і лагічна. Проста і нават прыгожа. Асабліва калі пастаўленыя ў рад гарматы лупяць па ворагу.

- Ну, чаму ж! - выцягся барадаты твар у Аркадзя. - Мы павінны ведаць.

- Каб што-небудзь ведаць як след, трэба ўлезці ў яго па вушы. Як у навуцы. Або ў мастацтве. Або калі гэтае што-небудзь стане лёсам. Але не прадметам кароткай цікаўнасці.

- А чорт яго! Лепей менш ведаць, - прымірэнча сказаў Сямён. - Спакайней спаць будзеш. Я вось, калі пачну прыпамінаць, ноч не сплю - думаю. Тады столькі не думаў, а цяпер на роздум пацягнула.

- Значыць, старэем, - сказаў Аркадзь. - Роздум, як і сумненне, - справа старых дзядоў.

- А я не стары! Знаеш, я сябе адчуваю ўсё тым жа, як і ў дваццаць шэсць год. Хаця во ўжо хутка семдзесят. Але семдзесят быццам не мне. Нейкаму дзеду Сямёнаву. А я Сямён і ўсё-такі, як быў у вайну.

- Гэта толькі здаецца.

- Канечне, здаецца. Але во так чуюся. Збоку яно інакш відаць.

- Збоку ўсё інакш.

Агееў час ад часу пазіраў на сына і бачыў, як на працягу расказу госця мяняўся выраз зарослага твару Аркадзя - ад халаднаватай насцярожанасці да непрыкметнай слабой цікаўнасці. Здаецца, штось ён стаў разумець. І бацька думаў: вялікая гэта справа - чалавечая адкрытасць, праўдзівая споведзь без грама разліку, жадання падаць сябе лепшым, чым ёсць на самай справе, - якасць, якая сустракаецца цяпер не так часта. Ён не раз прыкмячаў, як у кампаніях маладых, ды і старэйшых, кожны імкнуўся выскачыць са сваім «а я...», прагнучы толькі аднаго - зрабіць уражанне. Няважна чым: рэчамі ці ўчынкамі, адносінамі да сябе начальства, тым, як табой захапляліся ці як ты спадабаўся камусьці. Сямён жа ні на што не разлічваў - паўставаў без прэтэнзій у сваёй голай чалавечай сутнасці. Агееў адчуў гэта ў ім і ацаніў больш, чым калі б ён пахваляўся сумленнем, умельствам, розумам ці заслугамі. Сямён не лічыў за сабой ні вялікага розуму,

ні якіх там заслуг і тым вабіў да сябе болей за многіх дужа разумных і надта заслужаных.

- Вып'еце яшчэ? - ужо зусім па-сяброўску запытаўся ў госця Аркадзь.

- А не адмоўлюся, - лёгка пагадзіўся Сямён. - Загаварыў я вас, аж сам захваляваўся.

Аркадзь хутка наліў яму поўны, да берагоў, каўпачок, сабе наліваць не стаў, і Агееў раптам працягнуў руку:

- Плясні і мне тожа.

Сын зрабіў здзіўлены твар, але наліў - ледзь, на самае донца, і Агееў павярнуўся да Сямёна:

- Давай, брат! За нашы пакуты!

- Ага! Я, знаеце, канечне, звіняюся. Часам на мяне находзіць.

- Ну і добра, што находзіць, - амаль расчулена сказаў Агееў.

- Не, чаму ж, цікава. Так што дзякуй вам, - зусім па-сяброўску сказаў Аркадзь.

- Гэта што! Вось я як-небудзь не такое яшчэ раскажу. Яшчэ цікавей будзе. Як мне Героя ледзь не далі.

- Што ж, будзем рады, - сказаў Агееў, усё трымаючы ў руках чарку.

Ён выпіў і, амаль не закусваючы, сядзеў, прыслухоўваўся да сябе, адчуваючы нязвыклае ап'яненне, якое хутка авалодала ім. Ён баяўся за сэрца, але ці, можа, ад таблеткі кардэрону, ці ад выпітага каньяку сэрца працавала роўна, хаця і з нагрузкай, але пакуль не збівалася з рытму. І то слава богу.

У бутэльцы ўжо не засталося нічога, і яна валялася на траве пад сталом. Сямён неяк прыкметна абвяў пасля свайго даўгога ўспаміну, пасядзеў трохі і падняўся.

Развітаўся ён коратка, быццам спяшаўся куды, і, не азірнуўшыся, пакрочыў пад агароджай к дарозе. Сонца ішло на захад, ярка асвятліла велічную купу таполяў на могілках, частку каменнай сцяны з праломам на рагу; схіл жа з палаткай і кар'ерам пакрыўся вечаровым ценем, з поля павеяў вецер, і Аркадзь лёгка падняўся са свайго хісткага складнога крэсла.

- Ну, будзем уладкоўвацца, баця. Ты начуеш у палатцы? Я, мабыць, лягу ў машыне.

- А не коратка будзе?

- Усё прадугледжана, рассоўваецца, не першы раз.

Ён пачаў завіхацца ў машыне, рассоўваць сядзенні, доўга надзімаў чырвоны, як і «жыгуль», гумовы матрац. Агееў сядзеў за сталом, думаў. Адчуванне яго, аднак, не пагоршылася, сэрца без асаблівых перабояў спраўна стукала ў грудзях, першая п'янасць хутка мінулася, і ён думаў, што яму прынясе заўтра. Ён хацеў прасіць сына застацца дні на два, каб памагчы скапаць абрушаную ліўнем глыбу і трохі пад ёй. Калі там нічога не знойдзецца, дык можна на тым і скончыць яго задоўжаны пошук.

Мінула тры, пяць і сем дзён, а Бараноўская не вярталася, і Агееў не ведаў, што думаць, калі яе чакаць. Пытацца пра яе ў суседзяў не мела сэнсу, ён не ведаў нават, куды яна выправілася. Па-ранейшаму начаваў у застаронку; ночы яшчэ былі цёплыя, на свежым паветры пад кажушком спалася ўвогуле добра. Нага яго быццам пайшла на папраўку, пухліна паменшала, ён разы два перавязаў рану, эканомна камбінуючы старую павязку з чыстым ласкутом, але хадзіў усё кульгаючы, абапіраўся на кіёк. Зрэшты, хадзіў няшмат, з двара нікуды не высоўваўся, нават на бліжэйшыя вуліцы - толькі выглядваў часам з падворка ў абодва канцы сваёй кароценькай, на дзесятак двароў, Зялёнай, якая адным канцом упіралася ў аўражныя зараснікі. Там быў тупік, далей у роў ішла сцежка. Карміўся Агееў мізэрна, расцягваючы тое, што пакінула гаспадыня, часам варыў бульбу, да якой прыносіў з градкі жоўтыя, пераспелыя

гуркі. Вельмі прыгадзіліся Марыіны гасцінцы - масла, сала, варэнне. Горш, аднак, было з хлебам - хлеб у яго скончыўся, а вельмі хацелася менавіта хлеба, без якога не лезла ў рот нішто іншае. Але ісці да незнаёмых суседзяў ён не рашаўся і расцягваў акрайчык, як яго толькі можна было расцягнуць, пакуль аднойчы не з'еў астатні кавалак.

Неяк глухой ветранай ноччу ён раптам прачнуўся ад стрэлаў, што яўна прагучалі ў цішы дзесь непадалёк, можа, на краі мястэчка ці ў бліжнім полі. Стрэлаў было няшмат, каля дзесятка, і ўсё з вінтовак - ужо гэта ён вызначыў пэўна. Хто мог страляць, канечне, засталося загадкай, можа, хто з лесу, а хутчэй за ўсё - паліцаі. Стрэлы тыя ўзварушылі яго душу, той ноччу ён больш не заснуў да світання. Ён усё чакаў, ці не паўторыцца страліна ў іншым месцы, але да раніцы стрэлаў больш не было. І ён думаў: як было б добра хутчэй залячыць рану, пачаць нармальна хадзіць і вынесці ногі з гэтага мястэчка. Туды, дзе вакол - свае, глядзець у нармальныя людскія твары, не чакаючы бяды ад кожнага сустрэчнага, не баючыся за кожную гадзіну жыцця. А рызыка? Рызыка, канечне, была ўсюды - ішла вайна і гінулі людзі. Але адна справа рызыкаваць разам з усімі, і зусім іншая - сярод ворагаў, штодзённа і заўжды, зусім не падазраючы, дзе цябе спасцігне найгоршае. Не, толькі б загаілася рана, і яго тут больш не ўбачаць. Гэта ўсё яму агоркла, ён - вайсковы камандзір, ягоная справа змагацца з ворагам у адкрытую, са зброяй у руках.

Устаўшы рана, ён абышоў двор, з глухога боку хлявоў далез да абраслага маліннікам закутка ля застаронка, дзе ён днямі схаваў пісталет. Пісталет спакойна ляжаў сабе на тым самым месцы - пад каменем, які ён адкаціў ад падмурка. Разгарнуўшы анучку, Агееў сцёр даланёй слабы налёт іржы на затворы - хай ляжыць, можа, яшчэ спатрэбіцца. Паклаўшы пісталет у ямку, зноў прыціснуў яго каменем. Месца ўвогуле было прыдатнае, і гэта яго супакоіла. У двары ён пачаў думаць, чым сёння паснедаць, - зварыць бульбы ці паесці яблыкаў-малінавак, якія ён знайшоў на дальняй каля паркана

яблыні. Кот Гультай перастаў ужо баяцца яго і хадзіў следам, зрэдзьчасу патрабавальна мяўкаючы - прасіў есці. Але для ката ў яго не было нічога.

- Ладна, Гультай. Ідзі лаві мышэй.

Кот пільна ўзіраўся ў яго рудымі, з касым разрэзам вачмі і настойліва цягнуў сваё «мя-у-у».

Агееў хацеў пайсці на кухню, як раптам убачыў на вуліцы фурманку, што ціха пад'ехала да яго хаты, і нейкі дзядзька ў рудой паддзёўцы нацягнуў лейцы.

- Бараноўская тут жыве? - запытаўся ён, не злазячы з фурманкі.

- Тут, - сказаў Агееў.

Ён падумаў ужо, што дзядзька - ад гаспадыні, што, можа, ён скажа што пра яе. Але той моўчкі закінуў лейцы на слуп гародчыка і выцягнуў з фурманкі вялікі, чымсьці накладзены мех. Агееў, стоячы ў двары, здзівіўся:

- Што гэта?

- Куды тут вам? - замест адказу запытаўся дзядзька, несучы перад сабой мех. Толькі ў двары азірнуўшыся, шапнуў: - Ад Волкава я.

Агееў таропка расчыніў дзверы на кухню, і дзядзька гэпнуў мех на падлогу.

- Ух!

- Што гэта?

- А гэта вам работа. Па рамонту. Сказалі, каторыя ўжо нельга пачыніць - на мацяр'ял.

Агееў развязаў вяровачную завязку - у мяху быў розны абутак, але ўсё болей вайсковы - паношаныя кірзачы, гамашы, сярод якіх тырчалі падкаваныя абцасы некалькіх пар нямецкіх ботаў. Во гэта прываліла працы,

падумаў Агееў. Як бы з ёй не засыпацца.

- А пасля што? - запытаўся ён у дзядзькі. Той пацiснуў плячыма.

- А гэта не ведаю. Сказалi адвезцi, я i адвёз.

Ён трохi аддыхаўся, папрасiў вады, напiўся i паехаў, пакiнуўшы Агеева ў недаўменнi - што рабiць? Як рамантаваць гэта абутак перад усёй вулiцай, па якой швэндаюцца палiцаi, ездзяць немцы? Хiба што перайсцi ў хату? Цi ў застаронак? Для каго гэты абутак, ён ужо мог здагадацца, але з такiм жа поспехам, мабыць, аб тым маглi здагадацца i немцы. Во становiшча, чорт бы яго ўзяў! Пакуль што, аднак, ён зацягнуў мех у застаронак, запiхаў яго пад тапчан - хай паляжыць, пакуль ён што-небудзь прыдумае. А сам пайшоў зноў на кухню - хацелася есцi.

Пад няспынным позiркам Гультая, якi ўсеўся на падлозе насупраць, Агееў еў учарашнюю бульбу i думаў, што, напэўна, усё ж трэба схадзiць да Казловiчавых папрасiць хлеба, таму што без хлеба - не яда. Асаблiва калi затрымаецца Бараноўская, ён сапраўды выцягне ногi. I яшчэ ён думаў, што трэба неяк пабачыць Кiслякова, папярэдзiць аб сваiх бедах Волкава. Усе гэтыя днi ён чакаў, што хто-небудзь прыйдзе да яго з лесу, але во прыехаў гэта дзядзька з абуткам, не будзеш жа яму расказваць аб падкопах палiцыi i яго падпiсцы. Праўда, увесь тыдзень не аб'яўляўся i Драздзенка, быццам забыўся на яго цi, хутчэй за ўсё, пакуль не меў да яго патрэбы. А як займее гэтую сваю патрэбу, як тады быць?

Толькi ён так падумаў, даядаючы з чыгунка бульбу, як у кухонныя дзверы цiхенька пастукалi, i ён здзiвiўся - нiхто быццам не паяўляўся нi ў двары, нi перад кухонным акном - адкуль хто ўзяўся? Ён ужо хацеў адчынiць дзверы, як тыя самi адчынiлiся, i на парозе паявiўся не надта ўжо малады чалавек з нiякаватай усмешкай на хударлявым твары, пры гальштуку i ў цёмным капелюшы на галаве. Усё сарамлiва ўсмiхаючыся, павiтаўся i здзеў капялюш, агалiўшы

шырокую, да самай патыліцы, залысіну.

- Я не перашкодзіў? Можна да вас, пан... пан Бараноўскі? - ціхім, амаль ліслівым голасам загаварыў ён, трохі кланяючыся.

Агееў са здзіўленнем пазіраў на яго, мала што разумеючы, пасля кіўнуў на крэсла.

- Сядайце, калі ласка!

- Дзякуй, пан... пан Бараноўскі. Я, ведаеце, не дужа патрывожу вас па адной невялікай справе... Хаця справа, ведаеце, пачакае, таму што... Таму... Вунь, здаецца, збіраецца на дождж, неяк вецер быццам павярнуўся к захаду...

- Да, вецер заходні, - сказаў Агееў і змоўк, ледзьве адольваючы раптоўную непрыязь да гэтага пана. «Што яшчэ за пан? - падумаў ён. - Паляк? Беларус? Рускі?»

Госць, аднак, зручней уладкаваўся на скрыпучым крэсле, закінуў нагу за нагу. Яго маленькія вочкі падазрона абмацвалі Агеева, бяскроўныя вусны крывіліся ва ўгодлівай усмешцы.

- Значыць, снедаеце? Скудны заўтрак старыка, як пісаў паэт. Хаця вы не стары, канечне. А заўтрак, пагляджу, скудны... Гэта відавочны факт, - ён гаротна ўздыхнуў, паглядзеў у столь. - Да, цяжкія часы, пане. Цяжкія, але не безнадзейныя. Што рабіць? - развёў ён рукамі і зноў уставіўся ў Агеева ліслівым позіркам. Агееў, слухаючы яго, не мог зразумець, што яму трэба і як рэагаваць на яго лямантацыю.

- Вы, напэўна, наконт абутку? - запытаўся ён суха.

Госць махнуў рукой.

- Не, не. Я не наконт абутку. Абутак мне, слава богу, не надта патрэбны. Абыдуся. Ды і куды хадзіць? Няма куды зараз хадзіць, - аб'явіў ён і запытаўся: - Пан нетутэйшы?

Агееў ніякавата знерухомеў. Зноў ён не ведаў, як

адказаць гэтаму прышламу, які невядома адкуль - з гэтага мястэчка або прыехаў адкуль. Прыезджаму можна было схлусіць. А калі гэты чалавек тутэйшы?

- Як вам сказаць, - няпэўна пачаў Агееў. - З аднаго боку - тутэйшы, а з другога - не.

- Да, канечне, панятна. Калі, скажам, нарадзіліся тут, а жылі ў другім месцы. Як я, скажам. Родам са Слуцка, жыў... Дзе толькі я не жыў.

- І цяпер што ж - вярнуліся? - запытаўся Агееў.

- Цяпер, ведаеце, вярнуўся. Радзіма ўсё ж, яна вабіць... Як... як першае каханне. А вот айцец Кірыл не вярнуўся...

- Не вярнуўся, - пацвердзіў Агееў і ўважліва паглядзеў у маленькія вочкі госця, каб зразумець, ці ён сказаў гэта выпадкам, ці з пэўным намерам. Аднак нічога не ўбачыў у гэтых вачах.

- Дастойны, скажу вам, быў служка гасподзен. Такімі людскі род багацее. Але - увы! Прапаў, як рыцар без страху і дакору.

Яны на момант сустрэліся паглядамі, і Агееў нарэшце сцяміў: «Усё ведае! Ведае, што я не сын - самазванец. Чорт пабяры гэтую яго таямнічую дасведчанасць. Што яму ад мяне трэба?»

- Вот дык час! Страшны час! Стогны і пакуты на роднай зямлі. Сакрушаюся, бязмерна сакрушаюся.

- Што ж сакрушацца! - не стрываў Агееў, падумаўшы, што гэта звычайны гаротнік, мабыць, прыйшоў пагаварыць, можа, суцешыцца тым у трудны час. Але чым ён мог суцешыць яго? Расказаць пра Ельню? Усё ж спярша ён рашыў што-нішто пра яго дазнацца.

- А да вайны чым займаліся? Працавалі кім?

- Э, якое гэта мае значэнне! Працаваў на розных работах. Але заўжды гараваў па радзіме. Як і кожны

беларусін за яе прадзеламі. Назіраў здаля і гараваў.

- Здаецца, Агееў што-колечы стаў разумець.

- Значыць, прыехалі. Пасля доўгай адсутнасці?

- Абсалютна правільна: прыехаў! Покліч бацькаўшчыны ў цяжкі час, ці ведаеце, грэх ігнараваць. Народ не даруе. Асабліва такі народ, як беларускі. Беларусіны ж - боскія людзі, напраўду!

- Ну, як каторыя. Розныя ёсць, - мякка запярэчыў Агееў.

- Не, не кажыце! Харошыя людзі, прастадышныя, шчырыя. Яно і зразумела - дзеці прыроды. Бо здаўна наш храм - гэта наша прырода! Дзе вы знойдзеце гэткія пушчы, такія баравіны? У Эўропе ўсё не такое. А тут... Прыпомніце пачатак лета: толькі пачынае абуджацца прырода!.. Такая благадаць у кожным лісціку - сэрца спявае. Ангельскія гімны ў душы! А навокал рэкі, поўныя рыбы, лясы, поўныя дзічыны. Не, у Эўропе даўно не тое. Акультурана і абязлічана. Я б нават сказаў: абяздушана! А ў нас... О, я на чыжыне за столькі гадоў намаркоціўся, ведаеце... Па простай рэчы сумаваў, нават хварэў. Сказаць, не паверыце...

- Чаму ж, можна паверыць.

- Не, вы не паверыце. А мне які-небудзь гародчык каля хаты начамі сніўся. Во гэтыя вяргіні. Ды што вяргіні - крапіва пад плота снілася, і ў ёй куры квохчуць. Бывала, прачнуся і слязьмі абліваюся. Што значыць бацькаўшчына!

Агееў маўчаў. Яму стала трохі шкада гэтага чалавека, які, відаць, сапраўды нямала папакутаваў на чужыне, калі нават успамін пра курэй пад плотам выклікаў у яго слёзы.

- Не, шаноўны пане, вы не можаце гэтага ўразумець. Трэба павандраваць, пашвэндацца па свеце і адчуць, што ўсё гэта значыць. Бацькаўшчына! Але мы можам ганарыцца - дастойная ў нас бацькаўшчына, шаноўны пан!

- Хто пярэчыць, - сказаў Агееў, паддаючыся, здалося, шчыраму перажыванню гэтага чалавека, які між тым працягваў з захапленнем:

- А наша гісторыя! Цяпер, канечне... Але ў мінулым, успомніце, яна ведала і бліскучыя моманты. Нават велічныя! Праўда, пад чужымі сцягамі, затое ад мора да мора. На яе гербе была пагоня! Заўважце, не ўцёкі, не паратунак, а пагоня! На ворага - з узнятым мячом!

Веліч Беларусі ад мора да мора, герб з нейкаю там пагоняй... У школе таго не праходзілі, Агееў аб тым нідзе не чытаў і цяпер з некаторым здзіўленнем слухаў поўную захаплення прамову даволі, мабыць, адукаванага госця.

- У гісторыі я не надта, - сказаў Агееў. - А наконт прыроды сапраўды: прырода ў нас прыгожая. Скажам, азёры...

- О, азёры - гэта бажэсцвенная казка! Ангельская сюіта! - зноў загарэліся цемнаватыя вочы госця. - Гэта дзіва дзівос у люстэрку быція!..

- І лясы. Лясы ў нас...

- Дзіва, цудоўнае дзіва! У свеце такога болей няма, паверце мне! - госць даволі адчувальна выцяў сябе ў худыя грудзі.

- Малым я любіў пабегаць па лесе. Ну, калі пасвілі жывёлу...

- У начлезе! - са стогнам падхапіў госць. - Вогнішча, коні, рыба ў возеры пляскае, салаўі пяюць...

- Даруйце, не ведаю вашага прозвішча, - з нечаканай цеплынёй сказаў Агееў, і прышлы, здаецца, схамянуўся ад здзіўлення.

- Ах, я не прадставіўся! Во якое бяспамяцтва. Тожа, заўважце, спецыфічная рыса сціплых беларусінаў. Задумаўся, захваляваўся і забыў. Кавешка маё прозвішча. Даруйце, вы хацелі штосьці сказаць, -

далікатна напомніў ён, і Агееў памарудзіў: ён ужо нічога не хацеў сказаць.

- Ды не, я так. Падумаў, што вось вы вярнуліся, ды ў нядобры час.

- Праўда ваша! - з жарам пагадзіўся Кавешка. - Ды што рабіць? Мусіш ахвяраваць. Для бацькаўшчыны ды ў трудны час чым ні ахвяруеш! Праўда, і ахвяраваць не проста: абставіны часам мацней за нас.

- А вы... дзе зараз працуеце? Ці без працы пакуль? - асцярожна запытаўся Агееў.

- Ну, як жа без працы? - здзівіўся Кавешка. - Трэба ж неяк зарабляць на кавалак хлеба. Канечне, у поце ліца свайго. Дарма карміць нікога не будуць. Я ва ў праве служу, - сціпла паведаміў госць.

Успамін аб управе зноў насцярожыў Агеева, які ўжо ўнутрана расслабіўся і хацеў быў думаць, што мае справу з няшчасным чалавекам, які па сваёй віне ці, можа, бязвінна заблудзіўся на дарогах жыцця.

- Вось пагаманіў з добрым чалавекам, і на душы палягчэла, - нездаровы, з запалымі шчокамі твар госця растаў у добрай усмешцы. - Адабраў час, вы ўжо прабачце.

- Ну, не даўгі час, - усміхнуўся Агееў, чакаючы, што Кавешка зараз устане з-за стала. Падобна, той і на самой справе пачаў уставаць, скрыпнуў крэслам, але раптам, сагнаўшы з твару ўсмешку, сказаў:

- Я, ведаеце, яшчэ па адным пытанні... Вы ж Непанятлівы будзеце, так мне сказалі?

- Хто сказаў?

Агееў збянтэжана ўстаў і зноў апусціўся на крэсла, не зводзячы вачэй з гэтага чалавека, які так па-здрадніцку нечакана ашаломіў яго. Той, аднак, паныла ўздыхнуў і развёў рукамі.

- Ды во прыходзіцца. Вы ўжо не здзіўляйцеся...

Але Агееў ужо не здзіўляўся, бо зразумеў, з кім мае справу. І ён маўчаў, імкнучыся ўгадаць, што сапраўды трэба ад яго Кавешку.

- Тут такая справа. Павінен паявіцца адзін мужык з Беразянкі... Вёска такая за шэсць вёрст. Будзе пытацца Бараноўскую, пападдзю, то есць гаспадыню вашу. Дык каб яго затрымаць.

- Як затрымаць?

- Затрымае паліцыя. Ваша справа - прасігналіць. Што рабіць?.. - зноў развёў ён рукамі. - Непрыемна ўсё гэта, я разумею. Але - неабходна. Масы, яны, ведаеце, разбэшчаны бальшавікамі...

- Значыць, прасігналіць?

- Толькі прасігналіць, ага. А то часам знікаюць не злоўленыя. Вось тут днямі бандыт паявіўся і знік. Усіх, ведаеце, хто яго прымаў, немцы таго... Ліквідавалі.

- Што ж, дзякуй, што падказалі, - падумаўшы, сказаў Агееў.

З зусім іншым тварам, без ценю нядаўняга захаплення і ліслівасці, Кавешка ўстаў з крэсла, зашпіліў свой чорны паношаны пінжачок, узяў са стала капялюш.

- Дык, значыць, я буду наведвацца. Надта я вас не патурбую. Толькі па справе. А пакуль - да відзэння.

- Усяго добрага, - сказаў Агееў, надта абураны ў душы і хочучы толькі аднаго - як мага хутчэй адкараскацца ад гэтага пана. Даючы Драздзенку падпіску за гэтым сталом, ён думаў: ну, навошта ён мог ім спатрэбіцца? А вось, аказваецца, знайшлі і яму працу. Мужык з Беразянкі...

Ён моўчкі праводзіў Кавешку, які на развітанне прыўзняў над лысаю галавой капялюш, стрымана пакланіўся і, дробненька перабіраючы нагамі, пайшоў

на вуліцу. Агееў застаўся ў двары - стаяў і думаў. Было ўжо зразумела, што марудлівасць у яго становішчы можа перарасці ў злачынства, так яны ўцягнуць яго ў такое, што век не адмыешся. Трэба было зараз жа звязацца з Волкавым, пра ўсё папярэдзіць. А там хай рашаюць. Можа, заставацца яму тут ужо немагчыма, трэба шукаць другое ўкрыцце. Але дзе ён цяпер знойдзе Волкава, калі дачакаецца яго? Праўда, у мястэчку быў Кіслякоў, які, аднак, больш за тыдзень сюды не паказваўся. Можа, не было справы, а можа... Але ж ён сказаў: у крайнім выпадку можна зайсці - і даў адрас. Савецкая... Дзе яна, гэтая Савецкая?

Была б дома Бараноўская, паслаў бы яе. А так трэба самому. Удзень? Ці дачакацца ночы? Але ж ноччу - каменданцкі час, на вуліцах ходзяць патрулі, возьмуць, як тады апраўдацца перад Драздзенкам - куды хадзіў?

Становішча яго ўскладнялася найгоршым чынам, зацягвалася ў тугі вузел - і хто б падумаў? Ён ішоў сюды з адзінаю мэтай: адляжацца, залячыць рану і зноў ірвануць на ўсход, дагнаць фронт. І вось - ірвануў, называецца. Так ублытаўся ў гэтыя местачковыя справы, што невядома, як выблытацца. Чым усё можа скончыцца, ён лёгка ўяўляў сабе. Але ж ён хацеў жыць і змагацца з фашызмам, які прынёс яму столькі пакут. Ды і ці яму аднаму...

Быў, мабыць, поўдзень, калі Агееў канчаткова наважыўся ісці да Кislякова. Ён накінуў на сябе ватоўку, узяў ляшчынавы кій, старанна зачыніў дзверы на кухню. Напэўна, трэба было б замкнуць іх, але замка ён нідзе не знайшоў, падумаў, што хутка вернецца. Упершыню ён выбіраўся з падворка ў мястэчка і не ведаў, дзе шукаць тую Савецкую. Праўда, гэтая назва паказвала некуды ў цэнтр, напрамак, які ён прыблізна ведаў, і, абапіраючыся на кій, пашкандыбаў у канец вуліцы.

Неўзабаве Зялёная яго скончылася, прымкнуўшы да іншай, болей наезджанай вуліцы з вузенькімі тратуарамі абапал. Дамы ўсюды былі несамавітыя, сельскага аблічча - звычайныя вясковыя хаты,

некаторыя з фарбаванымі аканіцамі на фасадах, поўнымі кветак гародчыкамі, навіслым над платамі голлем дрэў. Многія аканіцы былі цяпер зачынены, веснічкі - наадварот - расчынены ці паламаны, скрозь у падворках віднеліся сляды нядаўняга разгрому: выкінутае з хат ламачча, старыя транты, клочча паперы. Адзін двор за нізкім штакетнікам быў густа засыпаны пер'ем з пярын і падушак, кучы якога вецер сагнаў пад заваліны, у канаву, усыпаў ім траву ля плота. Шыбіны ў двух вокнах з вуліцы былі ўсе выбітыя. Агееў зазірнуў у адно, у цьмяны паўзмрок хаты з абдзёртымі шпалерамі, з чорнаю дзіркай лаза ў падлозе, і на яго самотна дыхнула страшнай трагедыяй, якая так нядаўна тут адбылася. А колькі такіх трагедый у мястэчку!..

Стараючыся як мага меней кульгаць, ён дайшоў да канца гэтай вуліцы і спыніўся ля высокага дома з зарослым бэзам гародчыкам. Агледзеўшыся, заўважыў у кусце белагаловага гадоў дзесяці хлопчыка і запытаўся, у які бок будзе Савецкая. Хлопчык ткнуў локцем направа і, калі ён ужо саступіў з тратуара, каб перайсці вуліцу, наўздагон крыкнуў:

- А вам каго трэба?

Агееў спыніўся, падумаў, што ў хлопчыка, мабыць, можна і спытацца, і вярнуўся да бэзу.

- Мне Кіслякова. Не ведаеш?

- А вунь! - хлопчык пераклаў з правай рукі ў левую ножык, якім стругаў палачку, і паказаў цераз плот. - Вунь, дзе страха з тонкай трубой. Там Кісляковы.

Прыкмеціўшы патрэбны дом па той бок вуліцы, Агееў таропка перайшоў пыльную маставую і хутка ўвайшоў у прасторны, нічым не абгароджаны падворак з маладой бярозкай ля ганка. Двор быў пусты і зарастаў травой. На старых, абшкрэбаных дошках дзявярэй коса вісеў іржавы замок; з хаты, аднак, чуліся вясёлыя галасы, і ён падышоў да нізенькага, без фіранак акенца. У той жа час знутры паявіўся мурзаты дзіцячы тварык, за ім

другі, трэці - дзеці з неспатольнай цікавасцю ўставіліся ў яго, нібы чагосьці чакаючы, і, Агееў сказаў:

- А дзе старшы брат?

- Нямашака, - адказаў, смешна скрывіўшыся, мурзаты хлопчык.

- Нямашака, нямашака, - паўтарылі за ім астатнія двое.

- Вось дык загвоздка! - ціха сказаў Агееў, і дзеці, нібы дражнячы яго, паўтарылі за акном на розныя галасы:

- Вось дык загвоздка!

- Загвоздка!

- Загвоздка!

- Ах, вы, дразнілкі! - сказаў ён без злосці, не ведаючы, аднак, як быць, дзе шукаць Кіслякова. Ці, можа, прыйсці сюды другім разам?

- Скажыце брату, што прыходзіў кульгавы дзядзька. Хацеў яго бачыць, - сказаў ён праз акно гэтай старой хаты, і дзятва адказала хорам:

- Добра, скажам!..

З прыкрасцю азірнуўшыся на пусты двор, Агееў выйшаў на вуліцу і, прыпадаючы на хворую нагу, пайшоў на сваю Зялёную. Мястэчка выглядала апусцелым, на вуліцы зусім не было праезджых, рэдкія прахожыя, мабыць, з бліжніх дамоў, паяўляліся і зараз жа знікалі ў дварах. Увесь час баючыся з кім-небудзь сустрэцца, асабліва з паліцыяй, ён, аднак, спакойна дабраўся да сваёй хаты з альтанкай у двары і трохі расслабіўся. Усё ж такі дом! Якое-ніякое прыстанішча, сховішча ад нядобрага вока. Праўда, кепска яно хавала, гэтае сховішча, спакою тут не было, яго адразу раскрыла паліцыя, добра яшчэ, што не адрэзала ўсе яго сувязі. Але што рабіць? Без гэтага паараслага травой падворка яму і зусім было б кепска, дзе б ён пражыў гэтую пару тыдняў са сваёй бедалагай нагой, з асколкам у ране?

На падворку ён адчуў сябе ў адноснай бяспецы і, каб абысціся без непатрэбных цяпер кліентаў, прывалок з хлява даўгую жардзіну, загарадзіў ёю ўваход з вуліцы. Сёння ён нікога не прыме, у яго другая работа. Узяўшы з альтанкі скрынку з інструментамі, пайшоў у застаронак. Трэба было брацца за прывезены з лесу абутак. Ён выцяг з меха дзве пары кірзавых ботаў з адарванымі падэшвамі і, уладкаваўшыся каля тапчана, пачаў падбіваць іх на лапе.

Не надта гучна стукаючы малатком па гумовай падэшве, ён увесь час быў насцярожаны, слухаў, чакаў, ці не паявіцца хто на двары. Канечне, яму вельмі патрэбны быў Кіслякоў, але магла наскочыць і паліцыя, гэты Кавешка ці яшчэ горш - Драздзенка. Тады трэба было ўсё борзда хаваць і, знарок збянтэжана падцягваючы штаны, выходзіць з хлява. Ён працаваў, не разгінаючыся, гадзін пяць запар. Удзень у застаронку было відна і спакойна, але надвячоркам стала цямнець, асабліва ў той хмарны дзень: ён паспеў падбіць тры пары ботаў і пачаў зашываць доўгі асколачны ці штыкавы разрэз упоперак халявы, ды не паспеў. Зрабілася зусім цёмна, і ён, запіхаўшы ў мех боты, выйшаў на двор. Тут усё было па-ранейшаму. Дзверы на кухню заставаліся старанна зачыненыя зранку, значыць, Бараноўская не паявілася і сёння. Калі ж яна ўрэшце вернецца, з прыкрасцю думаў Агееў. І наогул ці вернецца? Можа, яму трэба было што рабіць? Можа, заявіць у паліцыю? Ці наадварот - утаіць ад паліцыі факт яе адлучкі? Як лепш зрабіць, каб не нашкодзіць сабе, сваёй гаспадыні? Тым, хто да яе прыходзіў?

Ціхі шолах галля ў садку прыпыніў яго роздум, і, азірнуўшыся, ён згледзеў у паўзмроку пад вішнямі невялічкі хлапечы сілуэт. Узрадаваўшыся, Агееў кінуўся насустрач і ледзьве не крыкнуў ад болю ў назе. Усё ж з ягонай нагой трэба было асцерагацца.

- Прыйшоў? Ну, ідзі сюды, - ціха паклікаў ён, павяртаючы ў хлеў.

- Я на хвіліну, - сказаў Кіслякоў. - Што здарылася?

- Пойдзем, усё раскажу.

Ён прапусціў Кіслякова наперад і, яшчэ паазіраўшыся, прычыніў дзверы хлява. Лапаючы па верхніх жэрдках перагародкі, яны ў цемры дабраліся да нізенькіх дзвярэй яго застаронка.

- Стой, сядай во сюды. А я тут... Перадалі, значыць, рабяты?

- Перадалі. А я на станцыі быў. Учора ж пакгаўз згарэў. Ну, трэба было ўдакладніць. Дык што здарылася?

Адчувалася па голасе, што Кіслякоў насцярожыўся, чакаючы яго тлумачэння, ды Агееў усё не наважваўся прыступіць да галоўнага, паведаміў:

- Нейкі дзядзька мех абутку прывёз. У рамонт. Сказаў, што ад Волкава.

- Ага, была такая размова, - не адразу сказаў Кіслякоў. - Ужо што-небудзь гатова?

- Тры пары. Больш не паспеў. Усё ж трэба асцерагацца.

- Гэта канечне. За вайсковую маёмасць у іх расстрэл. Хаця ў іх за ўсё расстрэл. Учора на мосце павесілі трох мужыкоў за марадзёрства. З разбітай машыны колы знялі. Хоць бы з нямецкай, а то з савецкай. Наогул патрэбны яны былі, тыя колы...

- Ну, немцы на ўсё глядзяць, як на сваё. Як на ваенную здабычу. Па праву заваёўнікаў, - сказаў Агееў. - Слухай, а хто такі Кавешка, не ведаеш?

- Працуе нейкі тып у раённай управе. З паперкамі бегае.

- Не толькі з паперкамі... Ён што - тутэйшы?

- Ды не. Быццам да вайны яго тут не было. А чаму вы пра яго пытаецеся?

- Прыходзіў, - сказаў Агееў і змоўк. Мабыць, трэба было сказаць пра галоўнае, ды ён усё марудзіў, набіраўся

рашучасці. Але Кіслякоў, мабыць, ужо адчуў нешта і сцішыўся ў цемры.

- Панімаеш, чаму я прыбягаў да цябе? Тут штось зацяваецца, - сказаў Агееў. - Начальнік паліцыі прымусіў мяне даць падпіску...

Кіслякоў скалануўся, Агееў адчуў гэта нават у цемры.

- Якую падпіску?

- Падпіску на супрацоўніцтва. І гэты Кавешка ўжо прыходзіў з заданнем - затрымаць кагось з Беразянкі, хто прыйдзе пытацца пра Бараноўскую. А Бараноўская мая тыдзень назад як паехала, дык дагэтуль няма. Не ведаю, што і думаць.

Здаецца, ён сказаў надта многа і змоўк, чакаючы, што скажа госць. Але Кіслякоў толькі соп побач, напэўна, думаў, і Агееў падказаў:

- Мне думаецца, трэба далажыць Волкаву.

- Канечне, далажыць, - скупа пагадзіўся Кіслякоў.

- І рашыць, як мне быць.

- Гэта канечне.

- Наогул, я ўжо магу патроху хадзіць і мог бы перабрацца ў іншае месца. Можа, куды ў лес. Таму што... Таму што тут...

- Я перадам, - холадна перапыніў яго Кіслякоў і падняўся. - Давайце, што адрамантавана, я забяру.

- Тры пары ботаў.

- Давайце.

Агееў памацаў пад тапчаном і выцяг звязаныя парамі боты. Кіслякоў закінуў іх за плячо.

- Дык мне што - чакаць? - запытаўся на развітанне Агееў.

- Ну. Я звяжуся, перадам.

У цемры навобмацак ён праводзіў Кіслякова праз хлеў, і той, кінуўшы на развітанне «пака», пайшоў тым жа шляхам - сцежкай ля гарода да рова, пакуль не схаваўся ў вечаровых прыцемках. Агееў пастаяў яшчэ на двары, услухаўся ў ветраную ціш вечара. Усё ж дождж так і не сабраўся за дзень, але на ноч прыкметна пахаладнела, ён скалануўся ад ветранай сцюжы і патупаў у свой застаронак.

Жаданая размова з Кісляковым яго не супакоіла і нічога не праясніла, зноў трэба было чакаць, і колькі - хто скажа? За гэты час магло здарыцца рознае, і вельмі магчыма - кепскае. А самае кепскае было ў тым, як Кіслякоў насцярожыўся пры яго паведамленні, нібы перамяніўся ў размове і далей трымаў сябе суха, быццам з недаверам нават. Зрэшты, яно і панятна. Напэўна, Агееў і сам бы ў такім становішчы не надта даверыўся чалавеку, які даў паліцыі падпіску аб супрацоўніцтве. Але ж ён не збіраўся супрацоўнічаць і шчыра пра ўсё расказаў. Праўда, можна было падумаць, што ён прызнаўся па заданні паліцыі, каб сваёй фальшывай шчырасцю выклікаць абсалютны да сябе давер. Таму не надта проста паверыць такому чалавеку. Напэўна, падазрэнне тут натуральнае і правамернае, думаў ён, апраўдваючы то сябе, то Кіслякова. Але на душы ад таго не рабілася лепш.

Той ноччу ён спаў дужа кепска - часта прачынаўся пад кажушком, прыслухоўваўся да неспакойнага пошуму ветру за дзіравымі сценамі. Яму ўсё здаваліся асцярожныя, зладзейскія крокі і незразумелыя шолахі ў шуме ветру, і ён думаў: прыйшлі ад Волкава або вярнулася гаспадыня. Але яго ніхто не трывожыў, і, паляжаўшы, ён засынаў зноў. Устаўшы на світанні, перш за ўсё тузануў кухонныя дзверы ў хату - тыя лёгка адчыніліся, значыць, гаспадыня не паявілася. Трохі падрыгваючы ад ранішняй сцюды, ён захінуў ватоўку і, узяўшы дзіравае вядро, пайшоў на гарод накапаць сабе бульбы.

Бульба ў Бараноўскай урадзіла някепская - буйная, па

кулаку, і смачная, калі б да яе было трохі хлеба. Але хлеб у яго скончыўся, ён ужо некалькі дзён еў без хлеба. Накапаўшы паўвядра, падумаў, што, мабыць, пакуль што яму хопіць. Бульбу таксама трэба было ашчаджаць, яе ў Бараноўскай засталося ўсяго соткі тры на гародзе: з'есць усю, чым тады гаспадыня будзе харчавацца зімой? Калі толькі настане для яе тая зіма...

Пакінуўшы ў баразне рыдлёўку, з вядром у руках ён выбіраўся па быльнягу на сцежку, як краем вока заўважыў, што нібы варухнуліся дзверы на кухню - зачыніліся ў яго на вачах. Радасна падумаўшы, што гэта гаспадыня, Агееў хуткім крокам, кульгаючы, падышоў да дзвярэй і, паставіўшы вядро, увайшоў на кухню.

На лаўцы ля парога, захінуўшыся ў знаёмы вязаны жакет, сядзела Марыя. Яна не павярнулася на яго ўваход, паныла пазірала ў падлогу, і ён моўчкі спыніўся збоку, не ведаючы, што сказаць.

- Што-небудзь здарылася? - нарэшце запытаўся ён, не тоячы сваёй трывогі.

- Не, не. Я - да цёткі, - ціха сказала Марыя, хаваючы, аднак, вочы, і ён зразумеў: здарылася кепскае.

- Цёткі няма.

Дзяўчына ўзняла заплаканыя вочы.

- А дзе... яна?

- Панімаеш, няма. Дзесьці прапала, - прызнаўся Агееў. - Адзін жыву.

Марыя апусціла твар у далоні і бязгучна заплакала.

- Дык што здарылася? - азадачана пытаўся Агееў. - Што-небудзь кепскае?

Хутка, аднак, авалодаўшы сабой, Марыя кончыкамі пальцаў выцерла слёзы, перламутравым грабеньчыкам прычасала кароткія валасы, але прадаўжала маўчаць, і ён, чакаючы, ціха прысеў насупраць. Усё ж яму трэба

было ведаць, што здарылася.

- Панімаеце... Панімаеце, я думала, што дома цётка Бараноўская, я трохі ведаю яе. Летась пазнаёміліся, - усё ўздыхаючы, памалу спакайнела Марыя.

- Так, так. Ну, а далей?

- А далей?.. Што далей? Жыць мне ў сястры няможна. Не магу я... Панімаеце? Я туды не вярнуся.

«Вось дык дзялы, - падумаў Агееў. - Яшчэ чаго не хапала! Туды не вернешся - дзе ж ты застанешся?»

- Тут, бачыш, пакуль я адзін. Што сталася з Бараноўскай, проста не ведаю. Пайшла на тры дні і знікла.

- Схавайце мяне ў яе хаце, - раптам папрасіла Марыя і вельмі аддана паглядзела на яго.

- Схаваць? - здаецца, ён пачаў пра нешта здагадвацца. - Што - немцы? Паліцыя?

- Паліцыя, - ціха сказала Марыя.

Тут трэба было падумаць. Канечне, яе трэба схаваць, калі па следзе ідзе паліцыя, але толькі - дзе? Калі схаваць у яго, дык ці не падставіць ён тым пад пагрозу ўсю іх канспірацыю? Паліцыя ж можа пайсці па яе слядах і выйсці на яго самога. Ды і ці на яго толькі?

- Так. Хто ведае, што ты пабегла сюды?

- Ніхто.

- А сястра?

- Вера не ведае. Праз яе ўсё і выйшла. Паліцай гэты, Драздзенка, пачаў заходзіць...

- Драздзенка? Начальнік паліцыі?

- Начальнік, ага. Да яе больш, да Веры. Разы чатыры начаваў... А затым і да мяне стаў чапляцца, - зябка

хутаючыся ў свой жакет, сказала Марыя і сціхла.

- Так, так, - сказаў Агееў, зразумеўшы ўжо нямала, але, мабыць, яшчэ не ўсё. Але і ад таго, што зразумеў, радасць яго не пабольшала. - Ну, а ты што ж? - запытаўся ён і нахмурыўся.

Марыя праз слёзы ўсміхнулася.

- Во ўцякла.

Ён ускочыў з крэсла, прайшоў тры крокі ў парог і павярнуўся:

- Ну, што мне з табой рабіць?

- Я туды не вярнуся, - сказала яна ціха, але з такой рашучасцю, што і ён пэўна сцяміў: не вернецца. Але як жа ёй заставацца тут?

- А што ж сястра? - запытаўся ён, ужо з раздражненнем павышаючы голас.

- А сястра дура, вось што! У яе ж муж быў, харошы чалавек, настаўнік, але ведаеце... Нявідны такі. Дык яна ўсё перажывала: як жа, сама прыгажуня, а муж... І во, знайшла віднага. Паліцая прадажнага.

Марыя сціхнула на лаўцы, выцерлася насоўкай, гаротна ўздыхнула і зноў кораценька, бы крадком, зірнула на яго. Агееў унутрана вылаяўся.

Аднак трэба было штось прыдумаць. Праганяць яе ў такой сітуацыі ў яго не хапала рашучасці, і ён думаў: дзе б яе схаваць? Хоць бы ненадоўга, вядома. А там будзе відаць - ці яна пярэйдзе ў іншае месца, ці ён змыецца адсюль. Наогул куткоў-закуткаў на гэтай сядзібе было нямала: хата, кухня, два хлявы, застаронак, свіран і некалькі парожніх ці немаведама чым занятых прыбудоў, у якія Агееў яшчэ не заглядваў. Трэба што пашукаць.

- Ты пасядзі, - сказаў ён. - Я пагляджу.

Ён выйшаў на двор і агледзеўся. Напэўна, спярша трэба было паглядзець у той, што за хлявом, свіронак з замком на высокіх дзвярах. Але дзе ключ ад таго замка, Агееў, канечне, не ведаў. Падышоўшы, ён пакратаў цяжкі замок, які нечакана сам расчыніўся, павісшы на кароткай дужцы. Агееў расчыніў дзверы і зазірнуў у прыцемак, поўны затхлых мешаных пахаў. Аднак не паспеў ён падняцца туды, як спалохана адхіснуўся - з вуліцы ў двор ішлі людзі. Наперадзе, адкінуўшы прэч жардзіну, крочыў Драздзенка, за ім таропка трухалі тры паліцаі з вінтоўкамі на плячах.

- Ну, здарова! - суха павітаўся начальнік паліцыі. Душачы спалох, Агееў, здаецца, не адказаў. Рашучы, амаль злосны тон Драздзенкі не пакідаў сумнення адносна ягоных намераў, і Агееў спазнела падумаў, што пісталет яму трэба было схаваць дзе-небудзь пад рукой, у двары.

- Як справы?

Шырока расставіўшы даўгія ногі ў высока напятых сініх брыджах, начальнік паліцыі спыніўся перад Агеевым, як заўжды, свідруючы яго вострым позіркам і тонкім лазовым дубчыкам сцябаючы сябе па халяве.

- Ды так, - адказаў Агееў, напружана думаючы: няўжо ён пойдзе ў хату? Няўжо?..

- Мой загад атрымаў? - сцішаным голасам запытаў Драздзенка.

- Які загад?

- Затрымаць Калюту!

- Якога Калюту? Я не бачыў ніякага Калюты.

Агееў гаварыў праўду і таму смела пазіраў у свірэпыя вочы начальніка паліцыі, які, памаўчаўшы, кінуў:

- А ноччу не заходзіў?

- Ніхто не заходзіў.

Драздзенка павярнуўся да маладога плячыстага паліцая ў нямецкай пілотцы, які з ухмылкай на мардатым твары слухаў размову.

- Пахом! Калі яго стрэльнулі?

- Ды цямнела ўжо, начальнік.

- Ну ў колькі, прымерна, гадзін?

- Гадзін, можа, у дзевяць.

- Значыць, ён толькі яшчэ ішоў, - спакойней паведаміў Драздзенка. - Ішоў да сяброў на сувязь, ды напароўся. Бараноўскай што - яшчэ няма? - раптам запытаўся ён у Агеева. Агееў збянтэжыўся ад здзіўлення, што гэтаму ўжо вядома і пра Бараноўскую.

- Не, яшчэ не прыходзіла, - сказаў ён проста, нібы Бараноўская выйшла куды на гарод ці па ваду. Драздзенка моўчкі, нібы ў роздуме, прайшоў пяць крокаў па двары, зазірнуў у акно на кухню. У Агеева ёкнула сэрца - хоць бы не згледзеў Марыю. Але ад акна той спакойна павярнуў назад.

- Вось што, начбой! Прыйдзе - зараз жа паведамі мне! Зараз жа! Паняў?

Агееў паморшчыўся. Гэтае заданне нібы памыямі пляснула на яго, і, мабыць, ён не здолеў утаіць сваіх да таго адносін, што тут жа прыкмеціў Драздзенка.

- Што моршчышся? Я ж во не моршчуся! А мне не з такім г... трэба вазіцца. А то - чысцюля, моршчыцца! Паймей на ўвазе: станеш хітрыць - закачаешся на вяроўчыне. Паняў?

Агееў, аднак, дрэнна слухаў яго, ён толькі напружана сачыў за кожным крокам начальніка і дужа баяўся, каб той зноў не скіраваў да дзвярэй. Але быццам бы прамінула - начальнік паліцыі злосна ляснуў сябе дубчыкам па халяве і пайшоў на вуліцу. За ім паспяшаліся паліцаі. Агееў моўчкі праводзіў іх да альтанкі і, калі яны схаваліся за павароткай вуліцы,

хуткім крокам, амаль подбегам, накіраваўся на кухню.

- Марыя, Марыя! - ціха паклікаў ён, прычыніўшы кухонныя дзверы.

Аднак на кухні Марыі не было, не было яе і ў святліцы, куды ён зазірнуў з парога. Тады ён расчыніў рыпучыя дзверы ў кладоўку, з цёмнай цеснаты якой аднекуль пачулася ціхае: «Я тут».

Марыя сядзела ўгары на драбіне, прыстаўленай да чорнага лазу на гарышча, і дробна калацілася ад страху і напружання. Ён шапнуў ёй: «Не бойся, яны пайшлі», - і апусціўся на запылены ўслон пад сцяной. У самога падкошваліся ногі - ад перажытага, але болей, мабыць, ад радасці, што на гэты раз абышлося.

Надвор'е яўна пачало псавацца. Пасля спякотнага лета павярнула на сцюжу - неба спрэс пакрылі цяжкія шызыя хмары, якія аднекуль з паўночнага захаду несліся над мястэчкам. Дзьмуў імклівы сцюдзёны вецер, бязлітасна рваў яшчэ зялёнае лісце з дрэў, мёў яго па зямлі, па траве, пад платы, у пажухлы, абвялы бульбоўнік. Увесь дзень было холадна і няўтульна, у хлявах гудзела ад скразнякоў; здавалася, вось-вось палье дождж. Заняты рамонтам абутку, Агееў амаль скалеў за некалькі гадзін, што прасядзеў у застаронку, устаў, надзеў у рукавы ватоўку. Яшчэ з раніцы ён пазатыкаў шырокія шчыліны ў сценах, дробныя ж усе засталіся, і дашчаныя сцены па-ранейшаму свяціліся, бы рэшата. У яго не было гадзінніка, але час, мабыць, пераваліў за поўдзень, і захацелася есці. Увесь ранак, седзячы за рамонтам, ён не пераставаў думаць пра Марыю і не мог даўмецца, як яму быць. Добра, што ёй пашэнціла ашукаць паліцыю і ўцячы ад сястры, але калі паліцыя што западозрыць, дык і на гэтай сядзібе не сховы. Яна перавярне ўсё дагары нагамі і знойдзе, што трэба. Хіба што ў паліцыі былі справы больш пільныя, але раптам Драздзенка зацікавіцца Марыяй і нападзе на яе след? Дзе яму схаваць дзяўчыну? Зноў жа, як быць з харчаваннем, чым ён пракорміць яе, калі Бараноўская доўга не вернецца? Мабыць, прыйдзецца ўзяцца за рамонт абутку для местачкоўцаў, гэта дасць нейкі

кавалак хлеба, але ён яшчэ не адрамантаваў прывезены з лесу, які, напэўна ж, быў там патрэбны. І ён дбаў, спяшаўся, хаця за паўдня давёў да ладу толькі тры боты - як-колечы падбіў падэшвы, адзін абцас, наклаў лапік на падраную галоўку кірзача. Больш ён не паспеў. І без таго ламіла ў паясніцы і ныла параненая нага - ад клуба да калена. Падумаўшы, што трэба, мабыць, згатаваць што-небудзь на абед, ён кінуў пад тапчан боты, інструмент і пайшоў на кухню. Бульба ў яго была накапана, заставалася зварыць, - во і ўвесь іх абед. Праўда, яшчэ трэба было пашукаць у зжаўцелым агурэчніку, дзе сярод пераспелых насеннікаў прапляліся маленькія скручаныя гурочкі. Некаторыя з іх былі бязбожна горкія, але, пасаліўшы, ён усё роўна іх еў з бульбай. Добра, што соль яшчэ не звялася, у буфеце на кухні стаяў яе двухлітровы слоік. Солі павінна яму хапіць.

Ён асцярожна пацягнуў да сябе кухонныя дзверы, але тыя былі запёрты знутры і адчыніліся толькі пасля другога яго рыўка. Перад ім ля парога, сарамліва ўсміхаючыся і трошкі прыўзняўшы запэцканыя чымсь рукі, стаяла Марыя. У пліце весела гарэлі сухія паленцы, на канфорцы штось верашчэла, поўнячы кухню пахамі чагось надзвычай смачнага. Гледзячы на ўсмешысты твар Марыі, Агееў таксама не стрымаў усмешкі, унутрана падзівіўшыся той перамене, якая адбылася ў ёй за час яго нядоўгай адсутнасці.

- А я думаў бульбу варыць, - сказаў ён, зазіраючы на пліту. Марыя таксама падалася да яе, штось перавярнула на скаварадзе, што апантана верашчэла ў тлушчы, неміласэрна дражнячы ягоны нюх.

- Што гэта?

- Дранікі.

Яна зноў кінула на яго ўсмешысты позірк - быццам чакала пахвалы ці дакору.

- Ого! Во гэта гаспадыня! - пахваліў ён. - А я бедаваў, чым буду цябе карміць.

- Пракормімся як-небудзь, - Марыя бесклапотна махнула рукой. - Бульба ёсць?

- Бульба ёсць.

- Ну, дык з голаду не памрэм.

Ён паглядзеў на пліту, на ражку якой ужо стаяла талерка насмажаных дранікаў і бялеў паўлітровы слоік, мабыць, з якімсьці тлушчам.

- А дзе тлушч узяла?

- А ў цёткі ў буфеце. Гусіны.

- Гусіны?

- Гусіны. Для дранікаў пойдзе. Наце паспытайце!

Яна падчапіла відэльцам верхні падсмажаны дранік, падала Агееву.

- Ну як?

- Пытаешся! Смаката! - сказаў ён, згаладнела жуючы хрумсткі, сапраўды надта ўжо смачны дранік. - І дзе ты навучылася?

- Ну, гэта проста. У Беларусі гэта ў кожнай хаце ўмеюць.

- Дык гэта ў вёсцы, - сказаў ён і сеў на крэсла. - А ты ж гараджанка.

- Гараджанка. Але гэтая гараджанка, каб вы ведалі, па два-тры месяцы за год жыла самым цыганскім спосабам. У паездках і паходах па ўсёй Беларусі. - З якой патрэбай?

- За песнямі.

- Якімі песнямі? - не зразумеў Агееў.

- Ну, збіралі фальклор. Бацька мой спецыяліст па фальклоры, усё лета ў экспедыцыях. І я, як падрасла, з

ім разам кожнае лета.

- Цікава, - сказаў ён, разважаючы і нібы іншымі вачмі ўзіраючыся ў Марыю.

- Вельмі нават цікава, - пацвердзіла яна. - Столькі песень наслухалася, столькі людзей пабачыла! А прырода... Што і казаць! А вы адкуль родам?

- Ды я здалёку. Расонскі раён, чула?

- А як жа! З Расон мы некалі прывезлі сабачку. Беспародны цюцька, а такі разумны! Разумнейшы за ўсіх сабак, якія ў мяне былі.

- Сабакі гэта добра, - сказаў ён, думаючы, аднак, пра іншае. - Нам бы сюды сабачку. А то прыйдзецца дзверы зачыняць на крук.

Устаўшы, ён закінуў у прабой кручок і ў шчыліну каля фіранкі паглядзеў у акно.

- У выпадку чаго як цябе хаваць будзем?

- А я - на гарышча! - адразу сагнаўшы ўсмешку, сказала Марыя.

- На гарышча? Але там...

- Анічога. Там можна схавацца. А ў выпадку чаго - праз слухавое акно і па даху - на гарод.

- Во як?

Пакуль яна завіхалася ля пліты, Агееў адчыніў дзверы ў кладоўку, зазірнуў угору, дзе цьмяна свіціўся квадратны лаз на гарышча. Па скрыпучай драбіне ён асцярожна ўзлез туды, удыхаючы застаялыя, незразумелага паходжання пахі. На гарышчы было пуста, прасторна і цемнавата; пасярод мясціўся шырокі цагляны комін і ў бакавым схіле даху блішчэла невялікае акенца, з якога і пранікала сюды скупое святло хмарнага дня. У бліжнім канцы каля лаза валяліся розныя транты і ламачча, вісеў на крокве аблезлы стары кажух, пад ім стаяў

бляклы, некалі распісаны чырвонымі кветкамі куфар з выдраным унутраным замком. Пад акном на мякіне ляжала сшытая з каляровых кавалкаў ватная коўдра з падушкай - пэўна, пакінуты кімсьці прытулак у гэтым гасцінным доме. Маленькае, заснаванае павуціннем слухавое акенца выходзіла на сярэдзіну ската пачарнелага даху з гонты, унізе пад якім ляжаў парослы асотам бульбоўнік і наводдаль чарнеў стары касабокі плот суседскай сядзібы. У выпадку чаго акно, канечне, было б паратункам, - але хіба што ўначы. Удзень гэты бок хаты быў увесь відаць з вуліцы.

Агееў спусціўся на кухню; пах дранікаў даўно ўжо вабіў яго, і цяпер другі раз ён прыемна здзівіўся. Пасярод круглага кухоннага стала бялела чыстая сурвэтка, на якой высілася ў талерцы цэлая куча гарачых дранікаў. Побач чакалі едакоў дзве невялікія талеркі з сінімі васількамі на беражках, абапал ляжала па пары тоўстых стардаўніх нажоў і відэльцаў. Марыя стаяла да яго спіной ля сцяны і, выціраючы штосьці ручніком, засяроджана разглядвала пейзаж у жоўтай раме.

- Што, харошая карціна? - запытаў Агееў.

- «Снег» Вайсенгофа - мой любімы пейзаж. У нас у Мінску такі самы вісеў над камодам. Бацькаў падарунак на дзень нараджэння.

Агееў не надта разумеў у жывапісе, яму больш даспадобы была музыка, ён нават некалі вучыўся іграць на гармоніку і цяпер з нечаканай цікавасцю паглядзеў на пейзаж. Зрэшты, нічога асаблівага - балота, стагі сена, куп'ё, асветленыя сонцам, але сапраўды ўсё такое падобнае, нібы жывое, а не намаляванае на паперы.

- І рэпрадукцыя ўдалая, - сказала, прыгледзеўшыся, Марыя. - Некалі любіла зімовыя пейзажы... Ну, ды ладна, давайце за стол, будзем есці.

- Ну і ну! - сказаў Агееў, здзіўлены і азадачаны. - Во гэта гаспадыня! Што толькі скажа нам цётка Бараноўская?

- Анічога не скажа! - лёгка кінула Марыя, таксама

сядаючы за стол насупраць. - У мяне з цёткай Бараноўскай лады. Яна слаўная жанчына.

- Пападдзя, - жартам сказаў Агееў.

- Ну і што ж! - акругліла Марыя жвавыя вочы. - Ну і што ж, што пападдзя? Пападдзя па мужу, а так яна народная настаўніца. Дарэчы, як і мой бацька.

- А ён што, таксама настаўнічаў?

- Некалі. Даўно. Да таго, як стаў працаваць у акадэміі.

- Акадэмік, значыць?

- Не, не акадэмік. Проста навуковы супрацоўнік, - сказала Марыя і, уздыхнуўшы, загаварыла аб іншым. - Дзе цяпер мая бедная мамачка? Загінула, напэўна.

- Усё можа быць, - сказаў ён. - А бацька што - на фронце?

- Бацькі ўжо няма жывога.

- Памёр?

- Напэўна. У трыццаць сёмым.

Яны ненадоўга змоўклі. Агееў еў хутка, па-салдацку, болей працуючы відэльцам, чым нажом. Дранікі сапраўды былі смакатой. Ён бы з'еў і яшчэ столькі і не ведаў, як быць, калі яна паклала ў яго талерку яшчэ два ў дадатак.

- Не, не! - сказаў ён. - Я ўжо.

- Так і ўжо? З'ешце яшчэ два.

- Ну добра. Дарэчы, будзем на «ты». Згодна?

- Ну, ведаеце... Я неяк не прывыкла. Скажыце лепш, як ваша імя? Калі не ваенная тайна?

Агееў старанна дажаваў дранік, думаючы, як усё ж назвацца Марыі. Напэўна, трэба было ёй штось

растлумачыць, але не цяпер жа тлумачыць, і, падумаўшы, ён сказаў:

- Алег.

- Алег? Добрае імя. К хазарам собрался наш вещий Олег, - прадэкламавала яна і ўсміхнулася, пачырванеўшы поўненькімі, з ямачкамі, шчочкамі. Ад яго не схавалася гэтая яе кароценькая збянтэжанасць, і ён раптам нечакана для сябе запытаўся:

- А колькі табе гадоў, Марыя?

- О, многа! - махнула яна рукой і ўскочыла ад стала. - Ужо дваццаць адзін. Старая.

- Да, - сказаў ён. - Дзяўчынка. На шэсць гадоў маладзейшая за мяне.

- Праўда? Гэта вы такі стары?

- Такі стары.

Штосьці лёгкае і дураслівае гатова было ўвайсці ў іх адносіны, калі на пэўны час забываецца рэальнасць і даецца воля ўласцівым іхняму ўзросту звычайным чалавечым пачуццям. Але толькі было гатова, ды не ўвайшло. Агееў змусіў сябе вярнуцца з неба на зямлю - страшную зямлю вайны, на якой іх пільнавала нялёгкае і трэба было ўвесь час сцерагчыся горшага. Тут ужо не да гуляў з гэтай мілай, але ўвогуле, мабыць, даволі бесклапотнай дзяўчынай.

- А вы ўсё рамантуеце? - запытала яна, таропка прыбіраючы посуд.

- Ты, - паправіў ён.

- Ну, так. Ты.

- Рамантую.

- Там многа нанеслі. Багатым будзеце.

- Будзеш.

- Ну, будзеш.

- Багатым не буду, - сказаў ён. - Таму што бясплатна.

- А вы што - сапраўды...

- Ты, - паправіў ён.

- Ты сапраўды шавец?

- У сілу неабходнасці.

- Я так і думала. Камандзір, напэўна? - сказала яна і, прыслухоўваючыся да чагось на двары, што зусім не пачуў ён, заціхла ля расчыненых дзверцаў буфета.

- Што такое?

- Быццам... Ходзіць нехта...

Агееў скочыў ад стала, кіўнуў ёй, і яна, усё зразумеўшы без слоў, кінулася ў кладоўку. Сам ён адшчапіў кручок і нетаропка выйшаў на двор.

На двары, аднак, нідзе не было нікога, толькі шумеў у кляновым голлі напорны вецер; жардзіна, якой ён перагарадзіў уваход у двор, была на сваім месцы. Ён зірнуў цераз яе на вуліцу, але там было пуста, ля паркана насупраць спакойна хадзілі па траве дзве белыя курыцы. Агееў, кульгаючы, вярнуўся на двор і раптам згледзеў у гародзе пад яблыняй чалавека ў чорным паношаным пінжаку. Нагінаючы галаву ад нізкіх сукоў і прытрымліваючы рукой капялюш, той нетаропка выбраўся на двор, надкусіў яблык. Убачыўшы Агеева, салодка заўсміхаўся абвялым зморшчаным тварам.

- А я вось, ведаеце, спакусіўся яблычкам. Яно грэх, канечне, але яблык, ведаеце, грэх не вялікі. Упаўне даравальны, пан Бараноўскі, - лёгка загаварыў яго нядаўні знаёмы Кавешка.

Агееў моўчкі глядзеў на дзікаватага госця, не ведаючы, як размаўляць з ім: жартам, сур'ёзна, запрашаць у хату

ці затрымаць тут. Непрыемнае адчуванне ўжо авалодала ім, ён зразумеў, што гэты прыход - не па яблыкі, вядома. І ён прысеў на лаўку пад клёнам, зрабіўшы выгляд, што забалела нага. Кавешка, жуючы яблык, спыніўся насупраць.

- Пагутарыць прыйшоў, - сказаў ён проста і кінуў агрызак. - Няхай пан запросіць у дом.

- Зараз, - сказаў Агееў, бавячы час, каб даць магчымасць Марыі схавацца. - Нага, ведаеце...

- А, панятна. Баліць? Канечне, будзе балець. Калі цяжкое раненне...

Яны ўвайшлі на кухню, Агееў пасунуў Кавешку крэсла, сам сеў па той бок насупраць.

- О, тут у вас цеплыня. І пахне! - храшчавым носам Кавешка прагна ўцягнуў у сябе паветра. - Пахне, бы ў харошай кухаркі. Цікава - самі гатуеце?

- Сам, - сказаў Агееў, у душы праклінаючы яго чуйны нюх. Яшчэ палезе шукаць кухарку.

- Гаспадыня не паявілася? - ціхенька запытаў Кавешка і насцярожыўся. Па гэтай яго насцярожанасці Агееў зразумеў, што гаспадыня - не марная яго цікаўнасць.

- Не, яшчэ не, - сказаў Агееў. - А што, вас гаспадыня цікавіць?

- Зусім не. Запытаў проста так. Зусім не цікавіць. Яна ж вам не радзіцельніца? - запытаўся ён і зноў звузіў вострыя вочкі.

- Ну, дапусцім, - сказаў Агееў, раптам прыпамятаўшы сваю першую гутарку з начальнікам паліцыі. Д'ябал іх ведае, як з імі трымацца, з гэтымі служкамі новай улады? Працуюць яны разам ці паасобку? І ў якой меры інфармацыя аднаго даступная другому?..

Кавешка трудна ўздыхнуў, задуменна пастукаў пальцамі па гладкай дошцы стала. Добра, што Марыя

паспела прыбраць з яго посуд.

- Бачыце, пан Бараноўскі... - ён трохі памарудзіў, але хутка нешта прыпомніў і працягваў: - Будзем называць вас так. Нам вядома, канечне, што вы не Бараноўскі, але не будзем прыдзірацца. Галоўнае - вы беларусін, і я гэта адчуў адразу...

- Гэта якім чынам? - па-ранейшаму трымаючыся на пэўнай адлегласці ў адносінах, запытаўся Агееў.

- Э, што пытацца. Я, пане, земляка-беларусіна за вярсту чую. Нюхам чую. А вы, выбачайце, хоць і па-расейску гаворыце, але ў кожным вашым слове гучыць беларусін. Старажытная мова, ведаеце, з панскіх часоў, з часоў Вялікага княства. Яе не так проста вынішчыць. Калі расійцы за стагоддзі не вынішчылі...

- А як жа немцы?

- Прабачце - што немцы? Не зразумеў, - адразу наморшчыў абвялы тварык Кавешка.

- Як немцы паставяцца да гэтай мовы?

- Хе-хе, бацэнька, гэта надта праблематычна, - захіхікаў Кавешка. - Вельмі праблематычна, хе-хе. Але мы выжывем, - раптам цішэй, але са стоеным запалам загаманіў госць. - Мы выжывем. Галоўнае, вынішчыць зло нумар адзін. А пасля...

- Як бы нас саміх не вынішчылі, - не стрымаўся Агееў.

- Не, гэтага не можа быць. Гэтага не павінна быць, - пацягнуўся да яго цераз стол Кавешка. - Немцы культурная нацыя. Зноў жа - сіла хрысціянскай традыцыі. Я доўга жыў сярод іх, ведаю. Я вельмі спадзяюся...

- На іх культуру?

- Так, і на іх культуру.

- Культуру забіваць. Жанчын і дзяцей. І клапоцяцца, каб

ежу з сабой узялі. На трое сутак! - раптам гнеўна прарвалася ў Агеева, і ён зараз жа пашкадаваў: знайшоў перад кім выкладацца. Але сказанага не вернеш. Ён думаў, што Кавешка раззлуецца і пачне пагражаць, а той раптам зазначыў з папрокам:

- Дык гэта ж яўрэяў. Трэба разумець.

- А яўрэі не людзі?

- Непаўнацэнная раса, - з націскам сказаў Кавешка. - Яно, можа, і не па-хрысціянску, але... Калі разабрацца, яны нам чужынцы. Яны сапсавалі нашу гісторыю. Яны стагоддзямі расслаблялі дух беларусінаў. Не будзем шкадаваць іх...

- Не будзем шкадаваць мы, не пашкадуюць і нас.

- І не трэба. Не трэба, пан Бараноўскі, нікога шкадаваць! Шкадаванне - патрэбна слабым. Гэта хаця і хрысціянскае пачуццё, але, несумненна, з ліку атавістычных. Не трэба шкадавання! Зараз нам трэба сіла і згуртаванасць. Вядома, пад германскімі сцягамі. Фюрар, ён правадыр арыйцаў, а беларусіны напалову арыйцы. Крывічы, напрыклад. Праўда, некаторая частка надта папсута інародцамі, асабліва татарамі і жыдамі. Але мы людзі сціплыя, радыя і таму, што засталося. Ёсць, ёсць здаровае ядро, з якога разаўецца раса. Трэба толькі спадзявацца на сілу.

- На германскую сілу? - іранічна ўдакладніў Агееў.

Кавешка іроніі не прыняў і, здаецца, нібы ўзрадаваўся падказцы.

- Вось іменна - на германскую. Іншае сілы на зямной кулі цяпер, на жаль, не існуе.

- А раптам знойдзецца, - з упартым пачуццём пратэсту сказаў Агееў і зірнуў у бляклыя вочы госця. У глыбіні іх тлеў, аднак, даволі злосны агеньчык, і Агееў сказаў сабе ў думках: хопіць, так можна дастукацца. Напэўна, штосьці зразумеў і госць - можа, сцяміў, што надта далёка зайшоў у сваёй размове з малазнаёмым

чалавекам.

- Ну што ж, прыемна, ведаеце, пагутарыць з разумным і... перакананым чалавекам. Цвёрдасць перакананняў, яна заўжды нешта значыць. Нават і памылковых. Цяпер гэта не часта бывае. Вось і гэта... Ваша гаспадыня, значыць... Бараноўская. Яна ж жанчына цвёрдага погляду?

- Не ведаю, - знарок абыякава сказаў Агееў. - Не цікавіўся.

- Не цікавіліся? І дарма. Вось вы пагутарыце як-небудзь.

- Як жа пагутарыш, калі яе няма? Ужо другі тыдзень.

- Гэта кепска. Нам яна таксама патрэбна. Нам яна нават неабходна. Але куды яна прапала? Вам не казала? - запытаў Кавешка і зноў знерухомеў, поўны ўвагі.

- Не, не казала.

- Да, вось дык праблема, - госць зноў задуменна пастукаў па стале худымі косткамі пальцаў. - Ведаеце што? Яна павінна азвацца. Не можа таго быць, каб не азвалася. Так што вы неадкладна паведаміце.

- Гэта куды? - запытаў Агееў. - Ва ўправу ці ў паліцыю?

Кавешка хітра прыжмурыўся.

- Не ведаеце? Які вы, аднак, непанятлівы, на самай справе. Пры чым тут управа?

- Дык вы ж ва ўправе робіце?

- Гэта, баценька, няважна, дзе я раблю. А паведаміць трэба ў эсдэ. У памяшканні былой міліцыі.

- А Драздзенка? - не мог чагосьці зразумець Агееў

- Не турбуйцеся, пане. Драздзенку мы растлумачым.

- Во як! - здзівіўся Агееў, падумаўшы: чорта лысага вы ад мяне дачакаецеся. І вы з вашай эсдэ, і Драздзенка

таксама.

Ён моўчкі праводзіў госця з падворка і той, відаць, апануранны ад нейкай няўдачы (можа, адсутнасцю Бараноўскай), суха кіўнуў на развітанне і борздзенька патупаў па вуліцы. Агееў яшчэ пастаяў нядоўга, адчуваючы, як дзесь унутры ў ім узнімаецца злосная хваля - ад яго бяссілля, міжвольнай пакорлівасці, вымушанай падначаленасці. І каму? Яны ўжо звязалі яго і з СД - паліцыі ім аказалася мала. І вось змушаюць - упарта і настойліва - на пэўную здраду цяпер ужо ў адносінах да Бараноўскай. Хаця з Бараноўскай ён не мог ім ні памагчы, ні нашкодзіць, ён сам нічога пра яе не ведаў. Але як бы не пранюхалі пра Марыю! Праўда, падобна было на тое, што Марыя іх пакуль не цікавіла, можа, не зацікавіць і далей? Знікла, ну, і бог з ёй, мабыць, у іх ёсць справы больш пільныя. Хіба што выпадкам, пільнуючы Бараноўскую, могуць наткнуцца на Марыю, тады пэўна ўжо ім не паздаровіцца абедзвюм. Агееў прайшоў па сцежцы ў гарод, агледзеў сад, быццам там мог хавацца другі Кавешка, і нетаропка вярнуўся на кухню. Марыі, вядома, тут прастыў ужо і след, напэўна, забілася на гарышча, і ён, накінуўшы на прабой кручок, таксама палез туды. Устрывожаная, Марыя сядзела на кукішках у цёмным кутку за куфрам.

- Пайшоў, не бойся...

Яна з палёгкаю выбралася на больш вольнае месца, страсянула ад пылу падол сарафаніка. Сляды страху і трывогі ўсё тлелі ў яе насцярожаным позірку, увага была скіравана на слых. Але, здаецца, навокал было ціха.

- Што ён - пра мяне пытаўся?

- Пра Бараноўскую, - ціха сказаў Агееў. - Чамусьці ім Бараноўская спатрэбілася.

- Вярбуюць, напэўна, - проста сказала Марыя, і ён насцярожыўся.

- Вярбуюць? А навошта ім яе вербаваць?

- А яны цяпер усіх вярбуюць. Амаль пагалоўна. Каб пасля выбіраць. Хто патрэбны.

Абое яны спыніліся абапал дахавага акна, пазіраючы ў яго цьмянае, з павуціннем шкло і слухаючы несціханы шум ветру над дахам. Марыя з гідлівай грымасай на няўсмешлівым цяпер твары няўцямна круціла вялікі гузік свайго жакета.

- Гэты Драздзенка і мяне хацеў... Падпісачку трэбаваў...

- Во як! - вырвалася ў Агеева.

- А вы думалі! - Марыя вінавата ўсміхнулася.

- Ну і што ж ты?

- А я во яму! - паказала яна маленькі, туга сціснуты кулачок. - Каб на сваіх даносіць? Аўчаркай нямецкай стаць! Не, гэтага яны ад мяне не даб'юцца.

Агееў адышоўся ад акна і прысеў на куфар - доўга стаяць не давала нага, якая сёння зранку ныла рупным застарэлым болем. З ціхай зайздрасцю падумаў ён пра Марыю: вось жа пашэнціла неяк выкруціцца з ярма, што не дадзена было яму, - не сумеў, не змог, пабаяўся, можа. Праўда, становішча ў іх было markednae, яна як дзяўчына магла тут дзе хочаш схавацца, а дзе б мог схавацца ён? Напэўна, хуценька апынуўся б у шталагу для палонных, што было для яго аднолькава роўна з пагібеллю.

- Што ж мы будзем рабіць, Марыя? - запытаўся ён бадай што разгублена. Становішча іх усё ўскладнялася, а выйсця не было па-ранейшаму. Заставалася чакаць, але ж дачакацца можна было і горшага. Патраціць час, прамарудзіць, згубіць апошні свой шанц, калі ўжо цяжка будзе што-небудзь паправіць.

- Не ведаю, - ціха сказала Марыя.

Цепнуўшы худым плечуком, яна прыслanілася да падаконніка дахавага акна, сумна паглядзела праз мутнае шкло. Яна, вядома, не ведала. Зрэшты, ён і не

чакаў ад яе іншага адказу, выдатна разумеючы, што ў такой справе павінен шукаць выйсця сам - як старэйшы, больш вопытны і, напэўна, з большымі ў гэтым сэнсе магчымасцямі. Але бяда ў тым, што ён таксама не ведаў.

- Ладна, пабачым. Толькі сядзі тут, нікуды не вытыркайся. Калі што, я буду ўнізе.

- Там, у хлеўчуку?

Яна імкліва падалася да яго, твар яе ўспыхнуў і апанурыўся, боль і пакуты адбіліся ў яе светлых вачах.

- Ага, у застаронку. Трэба працаваць. Зарабляць... Вось накінь, каб не зябнуць...

Агееў аддаў ёй ватоўку, ціха спусціўся па драбіне на кухню, прыслухаўся. Бараноўскай усё не было, і ніякіх вестак ад яе - таксама. Мабыць, з гаспадыняй у хаце яму было б лепш, асабліва цяпер, калі тут паявілася Марыя. Але во гаспадыня спатрэбілася і гэтым, што ўжо само па сабе выклікала трывогу - навошта?

Надвячоркам і без таго моцны вецер і яшчэ памацнеў, кляновае голле пад дахам, нібы ахопленае роспаччу, кідалася з боку ў бок, магутнае дрэва гуло і стагнала, здавалася, ледзьве вытрымліваючы азвярэлы напор ветру. Агееў прыйшоў у свой застаронак, які, на шчасце, быў з другога боку ад ветру і трохі хаваў у сабе зацішак. Трэба было брацца за абутак з меха - не сёння, дык заўтра па яго прыйдуць - Кіслякоў ці яшчэ хто, трэба ўсё прывесці да ладу. Можа, за гэты час што-небудзь перакруціцца ў лепшы бок ці хоць бы праясніцца, думаў ён. Таму што ўсё ўжо так зацягвалася мёртвым вузлом, што як бы не давялося рваць яго па жывому, з мясам-крывёю. А то і паплаціцца жыццём...

Да самага вечара, пакуль было відна, ён стукаў малатком па скураных і гумовых падэшвах кірзачоў, чаравікаў, нямецкіх нашпігованых жалезнымі шыпамі ботаў. Усё зрабіць не паспеў. Засталося яшчэ дзве пары,

калі наплыў змрок і за дзіравай сцяной застаронка паліў дождж. Агееў думаў схадзіць у хату, каб наведаць Марыю, але ў такі лівень яму не было ў чым высунуцца з хлява, каб не прамокнуць дашчэнту. І ён, пасядзеўшы на табурэтцы і расслаблена выцягнуўшы хворую нагу, перабраўся пад кажушок на тапчан.

Над сядзібай між тым лютавала восеньская непагадзь, з неба ліліся патокі дажджу, якія пагражалі здзерці страху з яго несамавітай будыніны. Але дождж ліў ужо больш за гадзіну, а ў застаронку было суха, нават, здаецца, нідзе не капала. І ён так утульна прыгрэўся пад свойскім цяплом кажушка, што падумаў: у хату сёння не пойдзе, хай ужо Марыя як-небудзь уладзіцца там сама. Слава богу, не беларучка, умее дастасавацца да абставін, можа, нават не горш, чым гэта зрабіў бы ён сам. З паўвядра бульбы напякла такіх дранікаў, што ён быў сыты да вечара і толькі цяпер, прыпамятаўшы пра абед, праглынуў слінкі. Дзяўчына спрытная, ладная і, здаецца, занадта шчырая, што ў такі час як бы не пагубіла яе. Не спалохалася вось жывадзёра Драздзенку, адшыла паліцыю і прыбегла да яго. Але чаму да яго? Ці ён спадабаўся ёй напачатку, ці яна ўбачыла ў ім кагосьці, хто выклікаў давер, а можа, і даваў спадзяванак на апору? Але што яна ведала пра яго? І што скажа Кіслякоў ці, яшчэ лепш, Волкаў, калі даведаюцца, што разам з ім жыве тут нейкае дзяўчо з Мінска? Адна справа, калі тут была гаспадыня, няхай пападдзя, але чалавек, якога яны ведалі многа гадоў, і зусім іншая, калі з'явілася гэтая нікому не вядомая студэнтка. А можа, яна падасланая? Завярбована і падаслана? Не, гэтага не можа быць. У такім выпадку ўсё, мабыць, адбывалася б хітрэй, болей лагічна, ці што. А то вельмі ўжо атрымалася наіўна, дзёрзка і неразумна нават.

Агееў доўга не мог заснуць, занепакоены блытанымі паваротамі свайго лёсу, пошумам начной непагадзі, няспыннымі парывалі ветру. Здаецца, вецер часам мяняў накірунак і пачаў ужо бубніць дажджом на тарцовай сцяне яго застаронка, ля якой было складзена сена. Ён падумаў, што трэба б устаць, адкінуць сена ад

сцяны. Але ўставаць не хацелася, так добра і ўтульна было пад кажушком, і ён супакоена думаў: а можа і не залье? Ён ужо збіраўся заснуць, невясёлыя яго думкі пачалі блытацца ў галаве, і раптам спалохана прахапіўся - у дзверы пастукалі. Агееў скінуў з сябе кажушок, стук паўтарыўся - нясмелы, ціхенькі стук быццам бы дзіцячай рукі, - і ён, ступіўшы да дзвярэй, ціха запытаў:

- Хто там?

- Гэта я, адчыніце.

Ён здагадаўся адразу, што гэта Марыя, скінуў з прабоя тонкі драцяны кручок.

- Ну, што?.. Асцярожна, тут парог высокі... Што-небудзь здарылася?

Яна перабралася цераз парог і замерла ў цемры, уся дрыжучы ад сцюжы ці, можа, ад спалоху.

- Я баюся...

Голас яе таксама дрыжаў, уся яна, сцяўшыся, стаяла каля парога, не ведаючы, куды ступіць. Агееў зачыніў за ёй дзверы.

- Чаго... баішся?

- Вецер!.. Так вые. У коміне і... Ходзіць нехта... па даху.

- Ходзіць? Па даху?

- Ну, здаецца, ходзіць, - сказада яна, ледзьве не хліпаючы, і ён ціха вылаяўся: «Ну і ну! Здаецца!»

- Калі здаецца, трэба хрысціцца, - сказаў ён раздражнёна, і яна змоўкла.

- Я тут пасяджу... да ранку. Можна? - запыталася яна, памаўчаўшы.

- Што ж, сядзі...

«Дзіўна!» - падумаў Агееў, не пазнаючы дзяўчыну. Быццам гэта была не тая Марыя, якую ён бачыў удзень за абедам на кухні, калі яна храбра адмахвалася ад небяспекі, пра якую папярэджваў ён; якая так ліха адвадзіла Драздзенку, уцякла ад паліцыі. Там яна здавалася такой баявой дзяўчынай, што гэтая яе баявітасць выклікала ў яго страх за яе бяспеку. Тут жа была зусім іншая - азяблая, напалоханая страхам ночы і таго, што... здаецца, хтосьці ходзіць па даху. Звычайныя дзіцячыя страхі... А ён думаў, што яна зусім ужо дарослая і ў чымсь нават мацнейшая за яго.

- Сядай во на парог. Ці во на сена. Сена там. Сухое.

- Дзякуй.

Ён змоўк, услухоўваючыся, як яна ў цемры месцілася на шархоткім сене і неўзабаве сцішылася, быццам яе і не было тут зусім. Знадворку ад дошкі сцяны ўсё біўся дождж, ірваў страху вецер. Агееў пачаў грэцца пад кажушком, як пачуў яе неспакойнае дыханне на сене - мабыць, яна скалаланалася ад сцюжы.

- Што - халадна? - запытаўся ён.

- Халадна, - ціхенька адказала яна.

- А ватоўка?

- Мокрая...

Агееў паляжаў трохі, у думках злым словам памінаючы гэтую дзяўчыну, і нарэшце падняўся на тапчане.

- Ану, ідзі сюды!

- Не, не, - спалохана азвалася яна з цемры.

- Ідзі во на тапчан, пад кажушок сагрэешся... Ну!! Хуценька...

- Не, не...

- Прасіць цябе трэба, у канцы канцоў? - раззлаваўся

Агееў.

Рашуча ўстаўшы з тапчана, ён намацаў у цемры яе плячо і, схапіўшы за руку, падняў з сена.

- Кладзіся там. Я - на сене.

Яна пакорліва сцішылася на тапчане, і ён накінуў на яе кажушок. Сам падумаўшы, узяў пласт зляжалага сена, падлез пад яго, пасля закапаў у сена ногі. Тут ён хутка стаў грэцца і, калі побач сціхла шархаценне сена, запытаўся ў Марыі:

- Ну як - сагрэлася?

- Грэюся. Дзякуй табе. Вялікі дзякуй...

- Ладна. Спі. Ранкам падніму. Удзень тут заставацца нельга.

- Добра. Я ўстану. Ты прабач мяне, Алег.

- Ладна ўжо... Прабачу.

## Раздзел пяты

Праз два-тры дні пасля ліўню зямля ў кар'еры падсохла. Лужыны яшчэ заставаліся на сваіх месцах, але вады ў іх прыкметна паменшала, на глiністых берагах засталіся крывулястыя паралельныя рысы - сутачныя адмеціны ўзроўняў. Дажджу больш не было, стаяла сухое і ветранае надвор'е, аднак на поўнае высыханне лужын можна было разлічваць хіба ў канцы месяца, што было, вядома, занадта. Агееў не мог затрымлівацца тут да канца лета, хаця пачуванне яго пасля сынавага прыезду патроху выраўнялася - усё ж, мабыць, імпартныя таблеткі яму памаглі. Наступным днём, праводзіўшы Аркадзя, ён нядоўга пасядзеў на абрыве і спусціўся ў кар'ер - трэба было неяк скапаць гэты чортаў абвал.

Канечне, у душы ён разлічваў на дапамогу сына, мабыць, для таго і выклікаў яго тэлеграмай, але ў той вечар так яму і не сказаў нічога: думаў, здагадаецца

сам. Аднак сын не здагадаўся, раніцай адразу ж пачаў збірацца ў дарогу. Размова ў іх не клеілася, і хоць Агееў за лета нямала перадумаў пра сына і збіраўся пра што-колечы з ім пагутарыць, цяпер таксама не знаходзіў ні слоў, ні патрэбнага для таго настрою. І калі ён усё ж сказаў Аркадзю, што аднаму труднавата ў кар'ры, той, крута павярнуўшыся ад узнятага капота, кінуў:

- Вось што! Хопіць! Збірайся, паедзем!

У яго штосьці не ладзілася з рухавіком, зранку сын злаваўся, і ўсё ж Агееў сказаў, што не можа ўсё кінуць пасля таго, як перакапаў тут гару зямлі і засталася дробязь. Удвух бы яны за пару дзён усё скончылі. Сын з прыкрасцю сказаў, усё калупаючыся пад капотам:

- Знаеш, я не землякоп, я - электроншчык. Хочаш, дамоўлюся ў райкоме, прыгоняць бульдозер. За паўгадзіны ўсё раскапае.

- Мне не трэба бульдозер.

Больш пра кар'ер яны не размаўлялі. Пускаючы дым з глушыцеля, машына паўгадзіны трэслася ад вялікіх абаротаў рухавіка - сын рэгуляваў карбюратар. Пасля было няёмкае, паспешнае развітанне, ляснулі дзверцы, і чырвоны «жыгуль», апісаўшы па роснай траве даўгую дугу, пакаціў на дарогу. Агееў пайшоў да кар'ера.

Ён працаваў без імпэту, не спяшаючыся, імкнучыся браць неглыбока - на паўштыка, не болей, і кідаў недалёка, сочачы позіркам за кожным камяком вільготнага, яшчэ не прасохлага суглінку. Нічога, аднак, яму не траплялася - відаць па ўсім, гэты куток кар'ера быў менш за іншыя асвойтаны людзьмі - на паверхні і ў глыбіні ўсюды ляжаў некрануты, дзікі суглінак. Агееў думаў пра сына, які цяпер каціў дзесь па новай, нядаўна пракладзенай бетонцы на Мінск. Канечне, у сына хапала ўласных клопатаў і сваіх няпростых праблем, ці варта крыўдаваць на недахоп увагі або ветлівасці - у кожнага свой нораў і свой чалавечы лёс. Бацькам нярэдка здаецца, што дзеці недадаюць ім, што ім як старэйшым у родзе належаць

нейкія правы ў адносінах да малодшых, якіх яны нарадзілі, выхавалі, выпусцілі ў вялікі складаны свет і таму могуць разлічваць на ўдзячнасць, што рэдка маюць у жыцці. Але па спрадвечных законах жыцця ўвесь дынамізм дзяцей скіраваны ў будучыню, туды, дзе пралягае іх нязведаны шлях, і бацькам на гэтым шляху месца ўжо няма, ён цалкам заняты ўнукамі. Што ж, усё правільна, усё ў поўнай адпаведнасці з законамі жыцця і жывой прыроды, але чаму чалавечая натура так неахвотна мірыцца з такой відавочнай данасцю? Уся яе духоўная сутнасць бунтуе супраць гэтай завядзёнкі прыроды, чаму тут такая дысгармонія - таксама ад прыроды?

Хіба таму, што мы - людзі. У жывёлы ўсё прасцей і больш гарманічна.

Незразумелая, складаная, супярэчлівая істота - чалавек!

Сын ажаніўся з харошай, любімай дзяўчынай з суседняга дома, калі тая стала студэнткай - жывой, мілавіднай, выхаванай дзяўчынкай, якая падабалася ўсім без выключэння - і родзічам, і суседзям. Жаніховы бацькі прыглядаліся да яе яшчэ з таго даўняга часу, калі яна сярод іншай дваровай дзятвы гуляла пад грыбком у пясочніцы, і яшчэ больш - калі вырасла ў бойкую, спрытную дзяўчынку, якая з заўсёднай мілай ветлівасцю на твары віталася з дарослымі і лёгка праскоквала насустрач у цесным пад'ездзе. Сын таксама любіў яе, гатовы быў на ўсё дзеля яе, пасля ў іх паявілася малое, што зусім ужо аб'яднала ў адно дзве ўвогуле малазнаёмыя да таго сям'і. Агееў нечакана лёгка сышоўся з яе бацькам, палкоўнікам у адстаўцы, былым ваенным лётчыкам, з якім яны ўвечары любілі гуляць у шахматы. Сваццi таксама знайшлі адна ў адной сардэчных і адданых сяброўак з безліччу агульнага ў характарах; суседзі, не перастаючы любавацца знойдзеным на схоне гадоў сямейным саюзам, нават нібы раўніва адасобіліся ад іх. Але вось мінуў год ці болей, і ўсё рассыпалася дашчэнту, ператварыўшыся ў поўную сваю процілегласць, і тады яны з недаўменнем

убачалі, як шмат у гэтых іх адносінах трымалася на ўзаемным пачуцці двух юных сэрцаў, са знікненнем якога разбурылася і ўсё астатняе. Мабыць, занадта шмат нагрузілі яны на эфемерныя крылы гэтага кахання людзей, якія, можа, былі і някепскія паасобку, але так і не сталі сям'ёй. І хто вінават? Тых, хто пацярпелі, шмат, вінаватага ж не знайшлося нікога.

Нябожчыца-маці вінаваціла ва ўсім нявестку, другі бок дружна бэсціў сына, Агееў жа звычайна маўчаў. Ён ужо ведаў, што здольнасць да самаадданага кахання ці дружбы - не частая якасць у людзей, што яна рэдка выяўляецца ў выпадковых ці пэўных камбінацыях, што тут трэба абавязковыя даныя, якімі ў гэтай гісторыі не валодалі ні бацькі, ні іх дзеці. З самага пачатку іхняга сямейнага жыцця Агееў адчуў, што надта яны розныя ў іх духоўнай аснове, з чаго, аднак, зусім не вынікала нічога. Гэтая іх рознасць магла стаць асновай гармоніі, але магла быць і асновай разладу, чым нарэшце і стала. Таксама як і аднолькавасць у пэўных выпадках прыводзіць да краху. Сын валодаў выразна пастаўленым інстынктам мэты, мабыць, занадта сучасным інстынктам, які, аднак, быў трохі чужы «абкатанаму жыццём» Агееву-бацьку, але які той увогуле не мог не цаніць у людзях. Аркадзь з малых гадоў ведаў, што яму трэба, і заўжды ўпарта ішоў да ажыццяўлення свайго імкнення, што наогул было і някепска, калі б не адна асаблівасць - ён меркаваў, што ягонаму руху да мэты павінны спрыяць усе астатнія, тым больш родзічы, жонка, бацькі. Быстравокая худышка Светачка, таксама адзінае дзіця ў бацькоў, была надзелена ад прыроды надта развітым пачуццём годнасці і нікому не даравала крыўды - міжвольнай ці тым больш знарочыстай. Кожная мэта для яе была другараднай у параўнанні са сродкамі, якія азначалі для гэтай дзяўчыны ўсё.

Першае іх непаразуменне, непрыметная спярша шчылінка, якая неўзабаве з грукатам расшчапіла небасхіл іхняга кахання, здарылася на вачах у Агеева і ўжо тады непрыемна ўразіла яго.

Пасля вяселля маладыя нейкі час жылі ў сям'і

палкоўніка, які меў больш-менш неблагую кватэру на тры пакоі, у адным з якіх мясцілася старая бабуля, істота бесславесная, як і бяскрыўдная. Аднак бабуля не спадабалася Аркадзю, які неўзабаве пасля нараджэння сына перавёз жонку на кватэру да бацькі. Тут стала цеснавата; зноў жа, кватэра ўсімі вокнамі выходзіла на ажыўленую вуліцу, форткі заўсёды былі зачынены, і вельмі хутка ўсе зразумелі, што такое жыццё не прынясе радасці. Агееў яшчэ працаваў на паўстаўкі, чытаў у інстытуце лекцыі, і вось маці з сынам пачалі заводзіць гаворку пра тое, што трэба паклапаціцца аб пашырэнні жылплошчы - перагаварыць на рабоце, сустрэцца з некаторымі гарадскімі начальнікамі, з якімі былі старыя сувязі. Настаў жахлівы для Агеева-бацькі час, пачуццё абавязку прыгнятала яго, але ўсё было вышэй за яго магчымасці - не хапала ні настойлівасці, ні ўмельства, ні проста чалавечага шацунку. Ды і было сорамна - столькі яшчэ супрацоўнікаў у інстытуце мелі патрэбу хоць у якім-небудзь жыллі, а ў яго была ўтульная, хоць і невялікая кватэра ў цэнтры, якая яшчэ гадоў дзесяць назад лічылася амаль раскошай. А галоўнае, ён так і не мог зразумець, якія мае перавагі перад іншымі, асабліва перад зусім бескватэрнымі, каб хадайнічаць пра сябе, аббягаючы астатніх?

Калі стала зразумела, што справа палепшання жыллёвых умоў дацэнта Агеева зацягвалася на няпэўны час, за яе ўзяўся Аркадзь. І пачаў ён не з сядзення ў прыёмных начальства, якое прымала раз ці два ў месяц, ветліва слухала наведвальніка, але прыктычна нічога не рабіла для яго просьбы, а са збору розных папер, дакументаў, абследаванняў, характарыстык, пісьмаў-адносін адміністрацыі і грамадскіх арганізацый. На здзіўленне бацькі, нарэшце ён атрымаў ордэр на маленькую, але вясёлую кватэру ў новым квартале Зялёнага Луга. Калі ж бацька пацікавіўся, на якой падставе, аказалася: па-першае, як малады спецыяліст, а па-другое, як член сям'і ветэрана і падпольшчыка, што ледзьве не быў расстраляны ў гады акупацыі.

- Ну, што скажаш? - урачыста пытаўся сын, памахваючы перад бацькам свежанькім ордэрам.

- Далёка пойдзеш! - са злым захапленнем сказаў бацька.

- Цудоўна! Калі б не так подла, - кінула нявестка.

- Ну вы даёце! - здзівіўся Аркадзь. - Я вас не пайму.

Мяркуючы па ўсім, ён і сапраўды не зразумеў нічога, і Агееў-бацька не стаў тлумачыць, тым больш што маці тут жа атэставала яго з уласцівай ёй лаканічнай катэгарычнасцю: «Дурань!» Ён толькі прыпамятаў недзе пачуты ім каламбур на кватэрную тэму: «Партызаны хай пачакаюць, яшчэ партызанскія дзеці не ўсе забяспечаны».

...Агееў нетаропка працаваў у кар'ры, акуратна сачыў за часам і роўна праз сорак пяць хвілін даваў сабе адпачынак. Тры чвэрці гадзіны мернай, без асаблівага напружання працы і пятнаццаць хвілін адпачынку, якія ён скарыстоўваў тут жа, прысеўшы на кінуты кружок фанеркі - сядзенне ад старога крэсла. У небе плылі разрозненыя кучавыя аблокі, часам закрываючы гарачае сонца, і голы абрыў насупраць то нікнуў у цяні, то ярка і горача ззяў сваім вымытым, глiністым бокам. Агееў працаваў усё ў тым жа сінім трыко, якое дужа аблезла за лета. Было душна, грудзі і плечы надта пацелі, хацелася піць, але да перапынку ён наважыўся ўстрымацца ад вады, каб не перагружаць сэрца. У поўдзень смага пабольшала, і ён рашыў даць сабе перапынак на абед, а галоўнае, прынесці свежай вады і напіцца. Тая, што заставалася ў бітончыку ля палаткі, мабыць, ужо нагрэлася і гадзілася хіба што памыцца.

Уваткнуўшы ў зямлю рыдлёўку, ён выйшаў з кар'ера, і ягоную ўвагу чымсьці прыцягнулі могілкі. Паміж чорных каравых камлёў дрэў, драўляных і металічных надмагільных крыжоў, да паловы схаваных ад пагляду каменнай агароджай, у зяляніне бухматага кустоўя мільганулі непакрытыя галовы людзей, цёмныя хусцінкі некалькіх жанчын, хтось прайшоў з букетам кветак, чуліся нягучныя галасы - там кагосьці хавалі. Могілкі былі старыя і здаваліся Агееву даўно закінутымі, за лета ён ні разу не схадзіў за сцяну-агароджу і думаў, што там ужо і не хаваюць. Аднак вось хавалі.

Падышоўшы да агароджы, ён з цікаўнасцю зазірнуў у іх глыбіню - невялікая кучка пажылых людзей сабралася ля свежавыкапанай магілы, труны, аднак, там не было відаць, наогул там няшмат чаго было відаць адсюль, могілкі надта зараслі кустоўем. Недзе ў купцы людзей, аднак, мільганула знаёмая постаць - адстаўнога падпалкоўніка, які нядаўна пісаў на яго акт, і Агееў адразу, неяк без дай прычыны падумаў: хаваюць ветэрана.

Палатка яго хаця і стаяла наводшыбе, але была навідавоку; ён спаласнуў рот цёплай вадой з бітончыка, паліў на рукі і падумаў, што ў такую хвіліну заставацца тут будзе няёмка, мабыць, трэба схадзіць на пахаванне. Нетаропка, адольваючы стому, пераадзеўся ў непрасаваную, але трохі чысцейшую кашулю ў дробную клетачку і пайшоў уніз на дарогу. Цераз пралом у каменнай агароджы, затулены з дарогі дзядоўнікам і крапівой, на могілкі прашмыгнулі знаёмыя яго хлапчукі Шурка з Артурам, ён хацеў іх гукнуць, каб запытацца, каго хаваюць, але не паспеў. Праз высокі арачны праём увайшоў у густы прахалодны цень ад старых вязаў, якія зусім самкнуліся ў вышыні, дарожкай прайшоў да блізкае павароткі паміж магіл. Самотная кучка людзей цесна стоўпілася каля свежага землянога насыпу, мабыць, ужо ў апошнія хвіліны развітання, данесліся асобныя галасы, апошнія словы пахвалы нябожчыку:

- А які ж чулы быў...

- Заслужаны быў, усю вайну прайшоў...

- Не ганарысты, не... Мяккую душу меў...

- Царства яму нябеснае, - выдыхнуў немалады жаночы голас, і Агееў пашукаў вачыма, каб знайсці каго-небудзь знаёмага, лепш бы, вядома, Сямёна. Ужо ён павінен тут быць. Мяркуючы па ўсім, хавалі чалавека сталых гадоў, можа, якога адстаўніка ці настаўніка-пенсіянера - на пахаванне кіраўніка раённага звяна гэта было мала падобна - не той маштаб, не такі характар гаворкі.

Трохі не дайшоўшы да магілы, Агееў спыніўся - два мужчыны ўжо апускалі на вяроўках труну ў вузкую шчыліну магілы, здушана заплакала жынчына ў цёмнай касынцы, астатнія стаялі моўчкі, з панылай засяроджанасцю на немаладых, аднолькава журботных тварах. Ён не стаў падыходзіць бліжэй, пазіраючы збоку, і да яго не падышоў ніхто. Знаёмых тут не было відаць, ні Сямёна, ні нават таго падпалкоўніка, якога ён згледзеў з-за агароджы. Раптам усе ў гэтым натоўпе заварушыліся, па адным і па два пачалі кідаць жменькі зямлі ў магілу, і Агееву прыпомнілася такая вось сцэна на могілках у яго даўнім маленстве, як хавалі цётку. Тады гэта было ўвосень, парой лістападу, усе магілы і чорныя помнікі гарадскіх могілак былі ўсыпаны чырвона-жоўтым разлапістым лісцем клёнаў, цётчын твар у белых карунках прыгожа вылучаўся васковай схуднеласцю ў чорнай труне, і было падобна, што цётка толькі прылегла і ўсё чуе, што адбываецца навокал. Нябожчыца ўсё жыццё пражыла ў горадзе, ён яе бачыў усяго разы два да таго і цяпер вось бачыў у труне. Тады яму было ўсяго гадоў пяць, і ён упершыню прысутнічаў на такой важнай падзеі, як пахаванне, дзе ўсё здавалася такім страхавіта цікавым і значным. Толькі калі цётку накрылі ў труне чорным векам і пачалі забіваць па краях даўгімі цвікамі, ён раптам заплакаў, спалохаўшыся, што цётка цяпер не вылезе з забітай труны. Маці, што трымала яго за руку, скаланулася і таксама заплакала, пакуль астатнія, як вось зараз, не пачалі кідаць жмені зямлі ў магілу. Тады яна пацягнула яго за руку - ён таксама павінен быў кінуць свае тры жменькі - каб не хварэць і жыць доўга, як цётка Вольга. Тое пахаванне было для яго першай і самай памятнай падзеяй у раннім дзяцінстве; пасля ён і хварэў, і ваяваў, сам забіваў ворагаў і яго хацелі забіць, і вось ён стаў дзедам. Колькі разоў даводзілася яму хаваць ці ўдзельнічаць у пахаванні, але заўжды ў апошні момант ён стараўся кінуць у магілу тры свае жменькі зямлі - так моцна ўвайшоў у яго свядомасць гэты старажытны звычай, які валодаў нейкаю незразумелай чароўнаю сілай.

Магілу закопвалі ў тры ці чатыры рыдлёўкі. Спярша там

гулка аддаваліся цяжкія ўдары зямлі аб века труны, пасля гэтыя ўдары пачалі глухнуць і сціхлі зусім, калі магіла напоўнілася зямлёй. На тым баку нехта ўжо трымаў чырвоную пірамідку з чорнай таблічкай на баку, і Агееў раптам ірвануўся наперад. Ён нічога яшчэ не разабраў на гэтай таблічцы, здалёку яшчэ нельга было згледзець ніводнай там літары, але, адчуўшы знянацку ўдар пад сэрцам, сцяміў - гэта ж ён! Бог мой!.. Як жа так?.. Як жа?..

Ад магілы адступіліся, двое мужчын падбіралі рыдлёўкамі зямлю, трэці раўняў яе на магілцы. Штурхануўшы худога мужчыну з рудой ад загару шыяй, Агееў праціснуўся наперад і блізарука нагнуўся да пірамідкі. Зрэшты, ён ужо ведаў, што там напісана, і хвіліну пазіраў недаўменна, не ў стане засвоіць дзікі сэнс трох слоў, не надта прыгожа выведзеных белаю фарбай на чорным фоне:

**СЯМЁНАЎ**
**Сямён Іванавіч**
**1916-1983 гг.**

Ашаломлена замёршы каля магілы, ён не адчуваў, як з-пад ног выграбалі рэшту зямлі і ён яўна замінаў рабочым. На хвіліну страціў сілы і - падобна - розум, так яго збянтэжыла гэтая нечаканая смерць. «Толькі ж яшчэ заўчора... Толькі тут сядзелі... Заўчора...» - праносілася ў яго збянтэжанай свядомасці.

Гэтыя ці падобныя да іх думкі авалодвалі ім не ўпершыню. Многа разоў, калі ён чуў пра нечаканую смерць знаёмага чалавека, разам з міжвольным пратэстам супраць таго паяўлялася адчуванне недарэчнасці, непаразумення, і ў глыбіні свядомасці бліскала надзея, што вось-вось нешта зменіцца, справядлівасць пераможа і вестка пра смерць акажацца фальшывай. Трохі пазней і паступова розум прывыкаў і мірыўся, але спярша, як цяпер вось, гэтае пачуццё-пратэст было такім моцным, што смерць здавалася нерэальнай, нібы яна толькі прыснілася.

Але і на гэты раз смерць не прыснілася, усе дробязі

гэтага пахавання былі надта рэальныя і зусім паслядоўныя. Магілу закапалі, усё зараўнялі, падчысцілі, зверху паклалі кветкі з пасялковых гародчыкаў. Ля пірамідкі барвова чырванела плюшавая падушачка з узнагародамі - адна на ўсе, заслужаныя нябожчыкам: сярод тузіна старых медалёў на заношаных стужках вылучаліся два ордэны Чырвонай Зоркі. Побач у журботна знямелых паставах стаялі два высокія маладыя яшчэ чалавекі, зірнуўшы на аднаго з якіх - у вайсковым, з пагонамі прапаршчыка, - Агееў зразумеў, што гэта - сын. Напэўна, такім жа калісьці быў Сямёнаў-бацька: хударлявы, шырокай касці, даўганогі і даўгарукі малады чалавек з трошкі плоскімі грудзямі і шырокім разваротам плячэй.

Людзі з пахавання пачалі разыходзіцца, па адным і групамі пакідаючы магілу, засталося некалькі чалавек, можа, самых блізкіх нябожчыку, і сярод іх той самы адстаўны падпалкоўнік, якога ён убачыў здаля. Спатнелы, не зважаючы на засень, у цёмным пінжаку з многімі радамі ордэнскіх планак на грудзях, ён і тут па-начальніцку распараджаўся, тупаючы каля магілы.

- А ўзнагароды чаму аставілі? Не палагаецца. Таварыш Хаміч, вазьміце! - загадаў ён нізенькаму пажылому ўжо чалавеку ў ботах, і той узяў падушку, перакінуў яе пад паху - медалі ціхенька забразгалі на яго баку. Усе з палёгкай накіраваліся да выхада. На могілках засталіся толькі дзве жанчыны, якія заканчвалі прыбіраць магілу: стараватая ў цёмнай хусцінцы і маладзейшая з тонкай, туга сцятай джынсамі таліяй. Усё пакутуючы ад нечаканасці гэтае смерці, Агееў запытаўся:

- Як гэта здарылася?

Маладая зірнула на яго і не адказала, ставячы букеты ў шкляныя слоікі, а стараватая, не адразу, памаўчаўшы, сказала, тоячы пэўнае значэнне:

- Здарылася! Даўно павінна было здарыцца...

Агееў не адчуў у яе словах ні жальбы да нябожчыка, ні належнай добразычлівасці да сябе і падумаў: жонка.

Жанчыны яшчэ заставаліся, а ён пайшоў па дарожцы з могілак, выйшаў на дарогу, падняўся па адхоне да сваёй палаткі. Рабіць тут не было чаго, блізкасць свежай магілы, а галоўнае, гэтая нечаканая смерць прыгняталі яго, і ён задуменна пабрыў далей, да самага абрыву. За тыдні ягонай працы ў гэтым кар'еры ён неяк неўпрыкмет прывык да Сямёна, яго бясхітраснай прастадушнай натуры, якой, можа, не хапала яму для дружбы ці проста прыяцельскіх узаемаадносін у яго гарадскім жыцці. Сярод саслужыўцаў па інстытуце такіх, пэўна, не было ніводнага, мабыць, такія па адным ужо выводзіліся, уступаючы месца іншым характарам з яўна выяўленым імкненнем да лідэрства, рознага роду пераваг, напоўненых клопатамі аб дабрабыце і дробязнай прэстыжнасці. Сямён жа не прэтэндаваў ні на што, апроч хіба шклянкі віна ды кароценькай увагі да яго апавяданняў пра пражытое мінулае. І трэба ж - такая раптоўная смерць! А яму нават не прыснілася ноччу нічога такога, што б прадказала гэты канец, проста ноч выдалася на рэдкасць глухой, без сноў. Ці, можа, ён забыў усё да світання?

Па той бок кар'ера ад поля расло некалькі чэзлых, абгрызеных козамі дрэўцаў, якія кідалі вузкія цені ад абрыву. Ён падышоў да іх, стомлена апусціўся на траву і пачаў задумліва азіраць зверху свой злашчасны кар'ер, могілкі, магутны заслон старых дрэў на іх, зяляніну садкоў і дахі ўскраінных хат пасялковай вуліцы. За аброслым крапівой і дзядоўнікам плотам насупраць ярка ззяла насустрач нізкаму сонцу некалькі жоўтых галовак сланечніку, і Агееў прыпомніў, як Сямён некалькі дзён таму абяцаў расказаць, што калісь ледзьве не атрымаў Героя. Аркадзь, мабыць, усумніўся, палічыўшы тыя словы пахвальбой, але Агееў быў гатовы паверыць. Шкада, цяпер ужо ніколі ён не раскажа пра свае ваенныя подзвігі і пра свае пакуты, што, зрэшты, на вайне адно і тое ж.

Агееў сядзеў і думаў, што нябожчык і на самай справе мог заслужыць Героя, такія характары здольныя на самыя высокія, часта нават не зусім усвядомленыя імі подзвігі, бо ім не ўласцівы разлік, хітрасць - як дзеці,

яны дзейнічаюць па першым клічы натуры. Натура ж іх недалёка адышлася ад прыроды, дзе ўсё рашаюць, эмоцыі, і істота цалкам належыць віду, наследуючы ўсе яго характэрныя рысы і падпарадкуючыся яго спрадвечнае логіцы. Напэўна, таму такія рэдкія і нехарактэрныя выпадкі ўзаемазнішчэння ўнутры віду, які ўвасабляе сваю відавую мудрасць у паводзінах сваіх істот.

Героя ён зусім мог заслужаць у баі ці разведцы, пры фарсіраванні ракі, у абароне ці акружэнні. Але гэта зусім не значыла, што заслужанае аўтаматычна ператвараецца ў зробленае і як зробленае аплачваецца. Будучы з'явай выключнай, подзвіг, можа, болей за ўсё падлеглы элементу суб'ектыўнасці ў яго ацэнцы, якая залежыць ад многіх людзей і абставін. Агееў памятаў выпадак у іх стралковым палку, калі ўзнагароджвалі групу аўтаматчыкаў за фарсіраванне Нёмана ўлетку сорак чацвёртага года. Група была невялікая, каля дванаццаці чалавек, яна першая перабралася на другі бераг і на працягу сутак абараняла плацдарм. Жывымі засталіся толькі пяць чалавек і сярод іх сяржант Белаброўцаў, што з ручнога кулямёта адбіў восем нямецкіх атак. Усе яны былі ўзнагароджаны ордэнамі, апроч Белаброўцава, які, аказалася, год назад быў у палоне, чаго было даволі, каб узнагароду яму панізілі да медаля «За адвагу». Сямёнаў быў у палоне таксама і нават служыў у паліцыі...

Мог ён і страціць Залатую Зорку, як знаёмы Агеева малодшы лейтэнант Мількоў, удалы разведчык, чалавек незвычайнай адвагі. З якой толькі калатнечы не выбіраўся ён на фронце, плоцячы за тое хіба што лёгкімі раненнямі, адно з якіх, па сутнасці, і загубіла яго маладое жыццё. Трапіўшы з прастрэленай рукой у армейскі ГЛР, размешчаны ў недалёкім тыле, Мількоў, напэўна, рашыў, што тут ужо можна расслабіцца - немцы і начальства далёка. Набраўшыся польскага бімберу, ён учыніў п'яную бойку з прымяненнем зброі, не паслухаў старшых афіцэраў, быў арыштаваны камендантам гарнізона, аддадзены пад суд ваеннага

трыбунала, пазбаўлены звання Героя і адпраўлены радавым у штрафную роту без ніводнай з заслужаных ім дзевяці ўзнагарод.

Трохі менш сумны лёс праўдалюбца старшыны Ступакова, артылерыста-супрацьтанкіста, які, застаўшыся адзін ля гарматы, падбіў з яе восем танкаў. Праўда, спярша артылерыстаў было два, ён і ягоны зямляк, які загінуў у разгар паядынку, Ступакоў быў паранены, усе падбітыя танкі залічылі яму і прадставілі яго да звання Героя Савецкага Саюза. Аднак прэтэндэнт на Героя, любячы праўду больш, чым узнагароды, пачаў усюды пісаць, што да гэтага звання трэба прадставіць і ягонага забітага сябра, бо той падбіў пяць з васьмі танкаў і таму заслужыў яго з яшчэ большым правам. Скончылася, аднак, тым, што начальства адклікала прадстаўленне, і Героя не атрымаў ніхто. Праўда, праз месяц Ступакова ўзнагародзілі ордэнам Айчыннай вайны другой ступені.

І вось цяпер яшчэ адзін неардынарны ваенны лёс, які пакінуў без адказу шэраг пытанняў, не праясніў многіх загадкавых абставін.

А дзе разгадка яго шматгадовай загадкі? Разгадаецца яна калі-небудзь ці і яму наканавана, як Сямёну Сямёнаву, пакінуць яе жывым? Або цалкам узяць у магілу?

Зусім трохі заставалася яму працы - на дзень, не болей, і ён з чыстым сумленнем мог палічыць, што перавярнуў увесь кар'ер і не знайшоў нічога. Яе тут няма, значыць, яна магла выжыць. І з ёй магло выжыць новае, невядомае яму жыццё, якое цяпер зрабілася для яго важней за ўсё на свеце. Чамусьці на гэтым нязнаным жыцці сышоўся няскладны ягоны лёс - пралёг у будучыню. Гэта была тоненькая саломінка ў полі, маленькая іскрынка на ветры, але яна давала надзею. Агееў ужо выразна адчуваў, што яго існаванне без яе траціла ўсякі сэнс. З ёй жа - неспазнанай і загадкавай - усё рабілася інакшым, жыццё набывала сэнс, змест, а галоўнае - яно прадаўжалася. Няхай у іншых формах, у іншым аб'ёме і часе, але яно суцяшала. Іншага

суцяшэння для Агеева ўжо не заставалася на гэтай зямлі, і ён вельмі шкадаваў, што надта позна зразумеў гэта.

Тое, што павінна было стацца паміж маладымі людзьмі, сталася на трэцюю ноч іх начлегу ў застаронку, і яны апынуліся нарэшце пад адным кажушком на тапчане. Дождж на падворку ўжо не ішоў, але над сядзібай па-ранейшаму гуляў сцюдзёны восеньскі вецер, які, павярнуўшы з поўначы, наскрозь прадзімаў застаронак. І ўсё ж тут было зацішней, чым на вялізным гарышчы, а галоўнае - тут здавалася болей бяспечна. Побач быў непрыкметны ход на гарод, дзе пад каменем ляжаў пісталет. Той ноччу яны доўга не маглі заснуць і ціхенька гутарылі пра ўсё. Марыя хутка пазбылася сваіх беспадстаўных страхаў і смяшліва хіхікала пад кажушком у адказ на стрыманыя жарты Агеева, якімі той адгукаўся з сена. Абое яны быццам забыліся, дзе знаходзіліся, забыліся, што ў свеце грымела вайна і небяспека пагражала кожнаму. Ім было добра разам, і ў пачуццях Агеева тлела-расла рашучасць, якую нарэшце немагчыма стрымаць. Скінуўшы з сябе ахапак сена, ён падышоў да тапчана і прыўзняў палу кажушка. Марыя, наперакор яго спадзяванню і свайму палахліваму «не», пасунулася да сцяны.

Тая ноч для абаіх мінула без сну, у мешаніне пачуццяў, неадольнай пяшчоце, якая нечакана авалодала імі, і толькі пад ранак яны ўсё ж забыліся ў кароткім сне. На світанні Марыя прачнулася першая, саскочыла з тапчана. Следам прахапіўся Агееў і, нібы з пахмелля, мала што разумеючы, скіраваў на яе недаўменны позірк.

- Куды ты?

Спярша яна ўся заўсміхалася, а пасля, насцярожаная і зваблівая ў сваёй цнатлівай збянтэжанасці, асцярожна ступіла да яго і з недзяўчачай, хутчэй мяцярынскай пяшчотай пацалавала яго каля вуснаў. Прыгадаўшы ўсё, што здарылася паміж імі ў гэтую непагодную ноч, ён паморшчыўся, падумаўшы, што, мабыць, Марыя пачне папракаць яго, можа, нават заплача. Ён не

трываў папрокаў, тым болей жаночых слёз, але яна толькі гаротна ўздыхнула і сказала шэптам, поўным захаплення і ўдзячнасці:

- Алег! Алежка... Дзякуй табе...

- За што ж дзякуй, дзівачка?..

Ён абняў яе за вузкія плечы, далікатна прыцягнуў да сябе.

- За ўсё, усё дзякуй.

Аднак ужо развіднелася, і яны спяшаліся пакінуць застаронак, удзень бяспечней было хавацца ў вялікім доме з яго кухняй, кладоўкай, гарышчам. Звычайна, пакуль Марыя гатавала што-небудзь паесці, ён хадзў па падворку, пільнаваў яе ад вуліцы, каб пры выпадку, калі хто зойдзе, затрымаць яго і даць ёй магчымасць схавацца. Дранікаў яна ўжо не пякла, скончыўся тлушч у слоіку, і Марыя варыла бульбу, якую яны елі, макаючы ў соль на талерцы. Хутаючыся ў ватоўку, Агееў стаяў ля клёнаў і пазіраў угару на дах дома, чакаў, калі з коміна пойдзе дым - значыць, Марыя запаліла ў пліце, трэба было прычакаць, калі зварыцца бульба. Усё, што здарылася ноччу, цяпер прыпаміналася з прыкрасцю ў яго неспакойных пачуццях, і на цвярозую галаву ён пачаў дакараць сябе за тое, што ў адносінах з ёю дайшоў да таго. Канечне, з гэтай дзяўчынай цяжка было ўстрымацца ад граха, але ўсё ж ён павінен быў праявіць волю і ўтрымаць сябе ад апошняга кроку. Але во не знайшоў у сабе гэтай волі, паплыў па хвалях пачуццяў ды яшчэ ў такі самы непрыдатны для таго час. На свеце грымела вайна, ягоныя таварышы гінулі на фронце, а ён чым заняўся? Ды і яна вінавата - прыйшла, падпусціла... Што цяпер будзе? Нічога, вядома, добрага - гэта ён ведаў напэўна, будзе абаім кепска. Але гэта ён думаў зараз, разважаючы халоднай галавой, а на сэрцы ў яго наперакор усяму журчэла ціхая пяшчота да гэтай мілай дзяўчыны, якая так безаглядна і даверліва аддалася яму. І ён гатовы быў яе апекаваць, дапамагаць ёй у той пастцы, куды яе загнала вайна, нават гатовы быў

пацярпець за яе - ён не адчуваў у тым гнятлівасці - хутчэй рашучасць і нявыказанаю ціхую радасць.

Праўда, радасць яго хутка міналася.

У такія вось ціхія хвіліны, калі ён заставаўся сам-насам, у ім узнікаў і ахопліваў яго ўсё большы неспакой з тае прычыны, што ішоў час, а яго пражыванню тут не відаць канца. Нага яго спакваля ўваходзіла ў норму, рана гаілася, і ён, трохі кульгаючы, ужо без кія мог хадзіць па падворку, выходзіць на вуліцу. Яму здавалася, што ён ужо здолеў бы паціху пусціцца на ўсход, да сваіх. Але во бяда, фронт усё не спыняўся, нашы адступалі, і, мяркуючы па ўсім, баі шлі дзесь за Смаленскам, можа, пад Масквой нават. Зрэшты, дакладна ён нічога не ведаў, усе сувязі яго парваліся, з лесу ніхто не прыходзіў. Ужо быў адрамантаваны ўвесь абутак, поўны мех якога ён запіхаў пад сена ў застаронку, каб аддаць таму, хто па яго прыйдзе. Але па абутак ніхто не прыходзіў, недзе прапаў Кіслякоў, і Агеевым усё болей авалодвала трывога ад сваёй адасобленасці, такой доўгай адзіноты. Ён пачаў ужо шкадаваць, што расказаў Кіслякову аб сваіх адносінах з паліцыяй, пра што той, вядома ж, перадаў Волкаву, і вось у выніку крыўдны недавер да яго. Вельмі падобна было на тое. Але гэта было б жахліва, гэта знішчыла б яго маральна, зусім не даўшы магчымасці што-колечы растлумачыць, у чымсь апраўдацца. Для сканчэння гэтай недарэчнасці не хапала хіба, каб яны пакаралі яго. Якая ў такіх умовах магла быць кара, ён ужо здагадваўся.

Зашчапіўшы дзверы на кухні, яны моўчкі паелі бульбы, якая, аднак, толькі ненадоўга спатоліла голад, і Марыя штось прыкмеціла ў яго позірку ці, можа, адчула ў яго настроі. Яна з'ела ўсяго тры бульбіны, рэшту ў талерцы падсунула яму, і ён даеў усё.

- Не наеўся? Не? - запыталася Марыя.

Ён адвёў свой позірк - прыкідвацца далей, што сыты, вылазячы з-за стала, у яго ўжо не ставала сілы.

- Бульбай хіба наясіся?

Марыя ненадоўга задумалася.

- Алежка, можа, я выбегу? Ну, на пятнаццаць хвілін? Тут во к суседзям.

Агееў зразумеў адразу, што яна мае на ўвазе, і сказаў строга:

- І не думай! Сядзі, нікуды не вытыркайся!

Ён быў галодны, але думаў цяпер не пра хлеб - ён думаў, як яму звязацца з Малаковічам. З Малаковічам бы ён пагутарыў па шчырасці, ужо хто, а Малаковіч павінен яго зразумець і, можа, памагчы. Але лейтэнант быў далёка, здаецца, за два кіламетры, на станцыі; зноў жа, сустракацца з ім Агееву забаранілі ў самым пачатку. Агееў пачакаў, пакуль Марыя прыбярэ са стала, і абняў яе, з маўклівай пяшчотай пацалаваў у лоб і выйшаў на двор.

У той дзень зранку надвор'е быццам пачало лепшаць. Усюды яшчэ было мокра, каля вугла дома стаяла лужына мутнай вады, на вуліцы холадна блішчэла мокрая гразь, з кляновага голля падалі долу буйныя кроплі. Але неба яснела, у разрывах аблокаў ненадоўга паяўлялася сонца. Агееў захінуў ватоўку, прайшоў у сваю апусцелую майстэрню-альтанку. Рабіць тут не было чаго, ён прысеў на табурэтку за набрынялыя вільгаццю дошкі стала, пачаў чакаць. Ён думаў, што хто-небудзь паявіцца на вуліцы, можа, з тых, хто патрэбны яму, ці, можа, каму-небудзь спатрэбіцца ён. Ён сядзеў доўга, але на вуліцы ніхто не з'яўляўся. Толькі захутаная ў тоўстую хустку жанчына правяла пярэстую карову - мабыць, на пашу, аднекуль з гародаў выскачыў бяздомны сабака, спыніўся, з цікаўнасцю паўзіраўся ў яго і пабег сваёю дарогай.

Праз гадзіну на тым баку вуліцы паявіўся гадоў дзесяці хлопчык у вялікай, насунутай на вочы кепцы, з дубчыкам у руках. Роздумна сцябаючы дубчыкам па галовах малачаю, які буйна разросся пад плотам, ён

паглядваў у бакі. Калі ён затрымаў свой позірк на Агееве, той, раптам узрадаваўшыся, махнуў рукой:

- Ідзі сюды!

Хлопчык нетаропка падышоў, саўгануўшы ўгору кепку, пільна ўставіўся ў яго светлымі вачыма.

- Цябе як завуць?

- Віця.

- Яблыкаў хочаш?

Віця згодна кіўнуў галавой і зноў саўгануў сваю кепку, якая ўсё з'язджала на вочы.

- Ану, ідзі сюды.

Агееў прывёў яго на гарод да смачнай малінаўкі, на якой яшчэ можна было дастаць знізу некалькі пераспелых яблыкаў. Ухапіўшыся за галінку, падцягнуў сук, які абдаў яго сцюдзёнымі кроплямі.

- Ты дзе жывеш? На гэтай вуліцы?

- Не, я - на Бялінскага. Во тут блізка.

- У школу хадзіў?

- Хадзіў. У трэці клас. Цяпер не хаджу.

- Будзеш хадзіць. Як немцаў прагоняць. Пойдзеш у чацьвёрты.

- Хутчэй бы, - сказаў Віця і зусім па-даросламу ўздыхнуў - працягла і трудна.

- У цябе татка ёсць?

- Ёсць. На вайне толькі. А можа, ужо і няма.

- З мамай жывеш?

- З мамай.

Агееў сарваў некалькі яблыкаў, Віця распіхаў іх па тугіх кішэнях, за пазуху і сказаў, калі Агееў пацягнуўся да новай галіны:

- Мне ўжо хопіць.

- Ну, хопіць, дык хопіць, - сказаў Агееў і вылез з-пад нізкіх галін. - Слухай, Віця, а ты на станцыі быў?

- Быў. Толькі даўно ўжо. Там у мяне цётка жыве.

- А дзе качагарка, ведаеш?

- Гэта што за семафорам?

- Ну, - пацвердзіў Агееў, хаця сам, канечне, не ведаў, дзе тая качагарка. - Ты не мог бы збегаць туды?

У светлых вачах Віці паявілася стрыманая цікаўнасць, і ён з гатоўнасцю кіўнуў галавой.

- Збегаю. А што зрабіць?

Яны выйшлі з гарода. Агееў абтупаў на сцежцы мокрыя ад расы боты, Віця босы стаяў на мокрай траве.

- Панімаеш, там працуе твой цёзка, дзядзя Віця. Знойдзеш яго і скажаш, што яго чакае кульгавы дзядзя. Паняў?

Віця моўчкі кіўнуў і паправіў кепку, гатовы бегчы, выконваць даручэнне.

- Але каб нікому болей ні слова! Перадасі дзядзю Віцю і адразу дадому. А заўтра прыйдзеш, я табе яшчэ яблыкаў дам.

Боўтаючы цяжкімі кішэнямі, Віця пабег на вуліцу, а Агееў зноў заняў свой пост у майстэрні-альтанцы. Можа, ён зрабіў і няправільна, можа, не трэба было давяраць тое хлопцу, тым болей выклікаць сюды Малаковіча. Але ў яго ўжо не хапала вытрымкі, гэтая няпэўнасць прыгнятала яго горш за якую небяспеку.

Ён праседзеў у альтанцы яшчэ з гадзіну і нікога не

дачакаўся. Местачкоўцы, падобна на тое, у ім не мелі патрэбы і паводзлі сябе так, быццам увесь іх абутак быў у парадку. А можа, яны рамантавалі яго ў іншым месцы, дзе-небудзь бліжэй да цэнтра? Ці, можа, несамавіты выгляд яго майстэрні не даваў ёй даверу? Агееў нарэшце раззлаваўся, пайшоў дадому і, зашчапіўшы дзверы на кухні, палез на гарышча. Марыя чакала яго наверсе і, толькі ён ступіў з драбіны, абхапіла яго ззаду рукамі, ціхенька засмяяўшыся над вухам.

- Марыя!

- А я цябе бачыла, вось! Як ты ў альтанцы сядзеў - незадаволены такі, злосны. Во зірні.

Яна падвяла яго да скошанага даху за куфрам, дзе каля кроквы свяцілася невялікая, з паўдалоні, дзірка, з якой былі бачны альтанка і частка двара ад вуліцы.

- А што гэта такое? - запытаўся ён, убачыўшы расчынены куфар з грудай кніжак у цёмных пераплётах, падшыўкі старых пажоўклых часопісаў, нейкіх папер, купкі іншых выданняў у мяккіх вокладках з неразрэзанымі старонкамі.

- Кнігі, разумееш!

Апусціўшыся ля куфра, Марыя выцягнула адтуль тоўсты том у прыгожай, з царскім гербам, вокладцы.

- Вось: «Россия, полное географическое описание нашего отечества под редакцией Семенова». Гэткая кніга і ў нас была, бацця яе ў экспедыцыі браў. А во тры тамы Шэлер-Міхайлава з дваранскага быту, некалі я ім зачытвалася. Во «Бесы» Дастаеўскага. А часопісаў колькі!

Следам за Марыяй ён таксама пачаў перабіраць у куфры бязладна наваленыя туды тамы старых выданняў і сярод іх патрапаныя падшыўкі часопісаў «Будильник», «Осколки», «Стрекозы », цяжкі камплект «Нивы» за 1916 год. На першай старонцы камплекта быў змешчаны малюнак маладой прыгажуні ў святочным

убранні з пацеркамі на грудзях і крылатымі херувімамі, што пырхалі навокал з часопісам у руках. Унізе значылася імя выдаўца А. Ф. Маркса - сорак сёмы год выдання. Агееў з цікавасцю пагартаў багата ілюстраваную падшыўку, і зноў на яго дыхнула вайной: карта ваенных дзеянняў з лініяй фронту ад Рыгі да Кішынёва і ў Закаўказзі каля Тэгерана, пасля ішлі здымкі нейкай «Северопомощи» з натоўпамі мужыкоў і салдатак, артбатарэя на пазіцыі. Пад прыгожа намаляваным загалоўкам «Вечная память» стракацелі рады афіцэрскіх здымкаў, і ён угледзеўся: палкоўнік Крабэ з ліха падкручанымі вусамі, палкоўнік Баркоўскі, падпалкоўнік Ленц у модным тады пенснэ, капітан Гусакоў з суровым паглядам з-пад навіслых броваў, самотна-задуменны штабс-капітан Кібаленка і яшчэ некалькі радоў невялікіх, з паштовую марку, здымкаў.

- Гэта што - забітыя? - схілілася да яго Марыя.

- Забітыя...

Хвіліну ён прыглядаўся да іх твараў і думаў: вось мінула столькі гадоў - і зноў тое ж самае. Зноў гінуць рускія камандзіры, палкоўнікі і капітаны, усё ад рук тых жа немцаў і амаль у тых жа самых месцах, што і чвэрць стагоддзя назад. Толькі ў адрозненне ад гэтых вусатых чыноў у пагонах і эпалетах іх фатаграфіі не друкуюцца ў газетах, на тое, мусіць, не хапіла б усіх газет у краіне. Што і казаць, жыццё чалавечае не падаражэла цаной і, мабыць, ужо не падаражэе ніколі. Вайна стала бязлітаснай, ахвяр будзе куды больш, чым раней. Хіба можна яе параўнаць з той маларухомай соннай вайной, якая некалькі гадоў ішла амаль на адным і тым месцы.

- Вось гэта прыгожы хлопчык! - з жалем сказала Марыя, паказваючы на фота. - На цябе падобны.

«Паручнік Ольгін», - прачытаў Агееў, пазіраючы на малады, бязвуся твар дабрадушнага хлопца ў пагонах, з крыжам на грудзях і прытоенай усмешкай на мяккіх хлапечых вуснах. Што ён думаў, пра што клапаціўся, гэты паручнік, перад сваёй пагібеллю дваццаць пяць год назад? Але пра гэта ўжо не скажа ніхто, як ніхто,

мабыць, ужо не прыпамятае маладога паручніка.

А ці прыпамятае хто пра іх праз дваццаць пяць год?

Выпадковы гэты часопіс выклікаў у Агеева самотныя думкі, і, можа, упершыню за сваё жыццё ў мястэчку ён падумаў пра непазбежнасць сваёй пагібелі на гэтай вайне. Можа, і перажыве яе хто-небудзь, і дачакаецца перамогі, але наўрад ці гэта наканавана яму. Надта яна блізка ад яго ходзіць, гэтая яго пагібель, надта часта даводзіцца заглядаць у яе чорную пашчу, каб песціць надзею застацца жывым.

- А во паглядзі, смешны часопіс «Осколки», - зусім у іншым настроі, жвавым і бесклапотным, сказала Марыя. - Пазнаеш?

- Чэхаў?

- Чэхаў. Антон Паўлавіч, мой самы любімы пісьменнік. Во на фурманцы, як смешна. Сяброўскі шарж.

Пры цьмяным святле з слухавога акна яны доўга перабіралі ў куфры, глядзелі кніжкі, гарталі старыя часопісы, змест якіх у многіх адносінах проста яго здзіўляў. З розных старонак на іх пазіралі ўвешаныя ўзнагародамі генералы, гафмайстры двара і сенатары ў расшытых мундзірах, франтаватыя свецкія дамы, губернатары, вусатыя афіцэры і ніжнія чыны даўняй, мала яму знаёмай вайны. Ад старой паперы ішоў непрыемны, магільны пах, які вымушаў іх чхаць. З неба тым часам усё часцей пачало выглядваць сонца, праз слухавое акенца ў паўзмрок гарышча звесіўся пук промняў, паклаўшы ў доле светлы косы квадрат. Стала цяплей. Навокал драмала цішыня, і, зноў забыўшыся пра ўсё на свеце, яны прылеглі на коўдры. Марыя шаптала штосьць, горача і аддана, але Агееў не надта ўнікаў у блытаны сэнс яе слоў, ён зноў аддаўся пачуццям, пакуль не забыўся ў знямозе. Сон яго, аднак, быў не доўгі, і, калі ён прачнуўся, Марыя, падкурчыўшы ногі, ляжала на баку побач. Сонца з акна ўжо знікла, і тое ледзьве свяцілася, мабыць, на склоне дня. Агееў падумаў, што так можна празяваць прыход Малаковіча,

і ціхенька, каб не пабудзіць Марыю, устаў. Аднак падхапілася і Марыя.

- Куды ты?

- Ціха, ціха. Спі. Я гэта... Тут павінен адзін чалавек прыйсці.

- Які чалавек?

- Ну, панімаеш, знаёмы.

- З мястэчка знаёмы?

- З мястэчка.

Быстрымі рухамі маленькіх рук яна паправіла на сабе падол сарафаніка, маленькім перламутравым грабеньчыкам трохі прычасала на патыліцы кароткія валасы. Здаецца, яна нічога не падазравала і ні пра што не здагадвалася.

- А мне... Тут быць?

- Ага. Ты сядзі тут. Як толькі я яго адпраўлю, дык і прыйду.

Ён пацалаваў яе мяккія пакорлівыя вусны і злез па драбіне ўніз. Гультай, які драмаў ля парога на кухні, неахвотна падняўся, пацягнуўся, патрабавальна прамяўкаў. Агееў падхапіў яго ўпоперак цела і ў кладоўцы падсадзіў на драбіну.

- Во сябрука табе. Каб не сумавала.

Агееў выйшаў на двор. У небе ўжо плылі груваасткія кучаравыя аблокі - пэўна, на лепшае надвор'е, і ён падумаў: як утаіць яго справы ад Марыі? Утаіць, канечне, было неабходна, ён не меў права самавольна давяраць ёй тое, што не было ягоным сакрэтам, але і ўтаіць што-небудзь пры такіх з ёю адносінах было няпроста. Хоць бы таго ж Малаковіча. Яна магла яго ўбачыць, падслухаць іх гутарку - што яна магла падумаць пра іх? Вядома, лепш за ўсё, каб яна была ў

курсе іх спраў, але яшчэ без прычыны, амаль падсвядома, ён баяўся ўцягваць яе ў гэтыя іх няпростыя справы, якія штодня маглі кепска скончыцца. Навошта рызыкаваць яшчэ і ёю?

Тупаючы па двары, Агееў чакаў Малаковіча, пасля выйшаў на мокрую сцежку ў гародзе. Ён узіраўся ў бок рова, але Малаковіча не было. Пачало ўжо змяркацца, з садкоў і гародаў пацягнула золкай вільгаццю, зрабілася халадней, і ён падумаў, што, мабыць, трэба ісці ў застаронак. Малаковіч ведае, дзе гэта, ён павінен знайсці. Толькі Агееў падумаў так, стоячы каля расчыненых дзвярэй хлява, як за домам, дзесьці ў баку местачковага цэнтра, раздаліся стрэлы - два вінтовачныя і некалькі разрозненых аўтаматных чэрг. Агееў знерухомеў, прыслухаўся, але стрэлы на тым і спыніліся, крыкаў быццам не было чутна, і ён занепакоена падумаў: ці не па Малаковічу гэта? Усё ж пачынаўся камендацкі час, немцы і паліцыя лютавалі па вуліцах і дарогах, спыняючы кожнага, хто там паяўляўся. Увесь местачкавы люд імкнуўся ў гэтую пару быць дома і не вытыркаць носа з сваіх двароў. Але Малаковіч мог прыйсці да яго толькі ўначы, калі ніхто яго не мог пазнаць у мястэчку.

Агееў пазіраў у абодва канцы двара, але часцей - на межавую сцяжыну паўз гарод, думаў, што Малаковіч паявіцца з рова. А той раптам выслізнуў з-за вугла хлеўчука і апынуўся перад Агеевым.

- Добры дзень!

- Ну, напалохаў!.. Там стрэлы, чуў? Гэта не па табе?

- Я хаджу там, дзе стрэлаў не бывае, - пахваліўся Малаковіч, аднак цяжка дыхаючы ад хуткай хады. Яны прайшлі праз хлеў у застаронак, дзе ўжо было амаль цёмна. Агееў апусціўся на тапчан, Малаковіч, як і ў мінулы раз, прысеў на парозе.

- Што-небудзь здарылася? - запытаўся ён ціха.

- Нічога такога, - супакоіў яго Агееў. - Проста

некаторыя пытанні.

Мне ж забаронена сустракацца з вамі. Але тут хлопец сказаў...

- Я ведаю. Але ў мяне не было выйсця. Я страціў сувязь з Кісляковым.

- Гэта горш, - памаўчаўшы, сказаў Малаковіч. - Я таксама не маю з ім сувязі.

- Можа, яго ўзялі?

- Не, бытта. Калі б узялі, было б вядома. У паліцыі яго няма. Можа, якая накладка? Або эсдэ сцапала?

- Можа, і накладка. У мяне вось гаспадыня прапала. Ужо два тыдні. Сказала: адлучуся дні на тры - і знікла.

- Ну, цяпер усё можа быць. Дзе-небудзь напаролася. Схапілі. Або застрэлілі дзе-небудзь. Як ваша нага?

- Нага больш-менш. Хаджу ўжо. А як плячо?

- Ды што плячо? Зарасло як на сабаку.

- Значыць, можна ўжо дзейнічаць, калі тут сядзець. Што-небудзь плануецца? - запытаў Агееў і сціх, увесь поўны ўвагі.

Малаковіч прыслухаўся да цішыні ночы і адказаў на адразу.

- Нешта задумалі. Днямі правернем. Толькі са ўзрыўчаткай кепска.

- А якая трэба ўзрыўчатка?

- Ды хоць якая. На харошы выбух.

- На харошы выбух трэба харошы зарад. А як сувязь з лесам?

- Цяжка з сувяззю. Усё пад наглядам. Усе дарогі, вуліцы. Ні праехаць, ні правезці.

- Што чуваць на фронце?

- Ерунда на фронце, - паныла сказаў Малаковіч. - Немцы пад Масквой.

- Да-а, - расчаравана працягнуў Агееў, непрыемна ўражаны гэтай невясёлай навіной.

- Але ўсё роўна хутка падавяцца. Ужо Маскву ім не аддадуць.

- Ну, а мы што ж, тут і будзем сядзець? У гэтай нары? - з прыкрасцю запытаўся Агееў.

- А што ж нам рабіць? Дагнаць фронт? Далекавата, напэўна?

- Далекавата, канечне. Але ж мы вайскоўцы. Камандзіры ўсё ж. З дзеючай арміі.

- Дзейнічаць і тут можна. А там відаць будзе.

Можа, Малаковіч казаў і праўду, яны абавязаны былі дзейнічаць, вось толькі тыя дзеянні, што выпалі на долю Агеева, былі не надта яму па натуры. Нават супраць яго натуры. Ужо лепш які бой, адкрытая агнявая сутычка з ворагам, чым гэтая незразумелая гульня, спрэс няпэўнасць, маркотнае чаканне невядома чаго. Ён думаў цяпер, як сказаць Малаковічу пра паліцыю і Кавешку. Як зрабіць, каб выбрацца з мястэчка куды далей, можа, у лес, у партызанскі лагер, бо яму тут не месца. Але зноў жа, што карысці гаварыць аб тым Малаковічу, у якога таксама няма ні з кім сувязі. Толькі выклікаць падазрэнне ў апошняга, які пакуль што яму верыць.

- Але куды ж прапаў Кіслякоў? - зноў сказаў ён у роздуме.

- Кіслякоў знойдзецца. Можа, пайшоў у лес. А на яго месца другі прыйдзе.

- Прыйшоў бы хутчэй.

- А ў вас што - тэрміновыя справы? Ці паведамленні?

- І тое, і другое... Панімаеш, тыдзень назад прывезлі мех абутку. Ну, пачыніў. І ніхто не забірае.

- Забяруць. Спатрэбіцца - і забяруць, - супакоіў Малаковіч.

- А можа, чакаюць, не давяраюць?

- Ды ну? З якой прычыны?

- Прычына ёсць. Начальнік паліцыі панадзіўся. Угаворвае на супрацоўніцтва.

- У даносчыкі? - напружана выпаліў Малаковіч.

- У даносчыкі. Раз ледзьве ў шталаг не адправіў. Нямецкі оберст загадаў адправіць, - сказаў Агееў і пачакаў, што на гэта скажа Малаковіч. Малаковіч, аднак, прыціх, і Агееў зразумеў адразу: дарма сказаў. Паўтарылася ранейшая гісторыя з Кісляковым - яго паведамленне толькі насцярожыла, нічога не праясніўшы, ускладніла і без таго іх няпростыя адносіны.

- Да-а-а... Што ж, кепскія справы, - няпэўна сказаў Малаковіч. - А выкруціцца нельга?

- Я, канечне, супрацоўнічаць з імі не стану, але зразумей і маё становішча: прама адмовіцца я не магу. Яны ж мяне адразу возьмуць, - хвалюючыся, сказаў Агееў.

- Гэта канечне.

- Таму мне тут болей нельга. Трэба ў лес.

- Мабыць, так, - вяла пагадзіўся Малаковіч. Ён не пярэчыў і не спрачаўся, ён быццам разумеў Агеева, але па тым, як ён адразу абвяў у размове, Агееў зразумеў, што гэтая іх сустрэча не палепшыць яго становішча. Як бы не пагоршыла.

- Пры выпадку ты там скажы каму... Каб перадалі Волкаву. Бо я тут - кругом на падазрэнні.

- Але ж і там патрэбны... давер. З падазрэннем як жа ў атрад?

- Гэта правільна, - памаўчаўшы, сказаў Агееў, устаў і зноў сеў на тапчан.

Вось пра гэта ён не падумаў. Яму здавалася: толькі б вырвацца адсюль у лес, у партызанскі атрад, дзе вакол будуць свае, і ён вызваліцца ад гнятлівай няпэўнасці, ад зняважлівай падазронасці з боку сваіх жа. Але ж і там з падазрэнне немагчыма - такі ён там проста непатрэбны.

Дык што ж яму рабіць?

Што рабіць, не параіў і Малаковіч, які, мабыць, сам ведаў не больш за яго. Агееў разумеў тое і звяртаўся да яго толькі таму, што лейтэнант быў мясцовы, ведаў большую колькасць людзей і, думалася, - сувязь у яго павінна быць болей надзейная. Аказваецца, са знікненнем Кіслякова ў яго таксама шмат што абарвалася.

Агееў праводзіў Малаковіча да канца гародаў, і яны стрымана развіталіся. Калі б ведалі абодва, што ім так нядоўга засталося быць на волі, што гэта ў іх апошняя магчымасць адкрыта і па шчырасці пагутарыць пра ўсё... Але - не ведалі. І лёгка рассталіся. Малаковіч, як здалося Агееву, - з палёгкай нават, і Агееў, пастаяўшы хвіліну, праводзіў яго невясёлам позіркам, пакуль той не схаваўся ў цемры. Застаўшыся адзін, ён пачаў думаць, чаму так заведзена ў людзей, што вось паявілася маленькае непаразуменне - і ўжо гатовы ўсумніцца, гатовы паверыць некалькім невыразным фактам і не верыць доўгім гадам сяброўства, знаёмства, сумеснай работы, нарэшце, выпрабаванням пагібеллю, якія яны нядаўна стрывалі. Але няўжо Малаковіч таксама ўсумніўся ў ягонай шчырасці, няўжо падумаў хоць на хвіліну, што ён двурушнічае і можа ім здрадзіць? Здрадзіць дзеля каго? Дзеля вось гэтых шакалаў, сабак, якія самі некалі здрадзілі самаму

святому ў жыцці - радзіме і народу - дзеля ўратавання ўласнай шкуры? І ён пойдзе да іх служыць? Трэба было зусім не ведаць яго, старшага лейтэнанта Агеева, ці мець самому курыныя мазгі ў галаве, каб падумаць такое. Але ж, напэўна, падумалі. Мабыць, думаць так было болей звыкла? Ці прасцей? Ці, магчыма, болей практычна, дальнабачна? Але калі дальнабачней, як жа тады яго чалавечы лёс? Ці ў такіх абставінах адзін лёс нічога не варты? Дык колькі ж тады лёсаў могуць што-небудзь значыць? Сто? Тысяча? Дзесяць тысяч?

Не, мабыць, калі нічога не варты адзін, дык мала чаго варта і дзесяць тасяч. Такі ўжо элементарны закон арыфметыкі. Арыфметыкі, але не вайны. У вайны свае, далёка не людскія законы, і яны будуць правіць людзьмі, пакуль будуць войны.

Ну што ж, што будзе, тое будзе. Галоўнае - не мітусіцца, не вукручвацца, думаў Агееў, застацца чалавекам, якім ён быў дваццаць шэсць пражытых гадоў. Тыя чатыры гады, што ён праслужыў у арміі, ён імкнуўся быць спраўным камандзірам і, мабыць, такім быў. Па крайняй меры, у яго асабовай справе, якая некалі была ў страявой часці палка, значылася восем падзяк і ніводнага спагнання, хаця сутычкі з начальствам не былі для яго рэдкасцю, здараліся і заслужаныя ім наганяі. Але, апроч службовых адносін з начальствам, былі яшчэ рознага роду адносіны з роўнымі сабе, сярэднімі камандзірамі, сябрамі, былі, нарэшце, адносіны з падначаленымі сяржантамі і чырвонаармейцамі. І для Агеева, можа, даражэй за думку начальства была дзе-небудзь бегла прамоўленая фраза: «А ён быццам някепскі мужык, гэты наш начбой!» Да іншых водгукаў пра сябе ён не прывык за жыццё, і тое, што цяпер закручвалася вакол яго ў гэтым мястэчку, проста кідала яго ў роспач.

Растрывожаны і апанураны, ён пайшоў на кухню і толькі ў цемры зашчапіў дзверы, як трапіў у абдымкі цёплых дзявочых рук. Марыя падвяла яго да стала і зашаптала, падсоўваючы крэсла:

- Ну, зараз я цябе накармлю... Зараз, зараз...

Перш чым ён што-небудзь паспеў зразумець, яна сунула яму ў рукі вялізную скібіну хлеба, ад якой апетытна запахла кменам, у другую - вялікую кварту з малаком.

- Еш! Ну? Смачна?

Сапраўды, гэта было надта смачна, здавалася, ніколі не еў ён такога смачнага хлеба і такога малака, ён знемагаў у асалодзе, моўчкі праглынуў усё, запіў рэштаю малака.

- Ну, пад'еў? Хочаш яшчэ?

Агееў больш не хацеў - ён ужо зразумеў, што яна выбягала кудысь, можа, да сястры ці суседзяў, і яму зрабілася страшна. Марыя была тут адзінаю яго ўцехай і, напэўна, адзінай апорай, на якую можна было спадзявацца. Небяспека страціць яе азвалася ў ім спалохам, якога ён не ведаў нават перад пагрозай уласнай пагібелі.

- Дзякуй! - сказаў ён, цалуючы ў цемры мяккія яе далонькі. - Але я цябе папрашу: не хадзі болей нікуды! Не трэба! Як-небудзь. Пойдзем разам...

- Куды? - з наіўнай паспешнасцю запытала яна, быццам гатовая зараз жа бегчы разам з ім.

- Куды? Пойдзем куды-небудзь. Настане час - і пойдзем.

- Настане час! Я веру, што настане часю павінен настаць. І скончыцца гэтая ноч. І ніхто не будзе нам пагражаць. Ой, як я хачу дажыць да таго часу... Мілы, Алежка мой!..

Яна апусцілася долу каля яго калень, абедзьвюма рукамі абняла іх, і яны лашчыліся так, ледзьве стрымліваючыся, каб не плакаць. І ён моўчкі выціраў яе мокрыя шчокі, напружана думаючы, як уратаваць яе і сябе ад бязлітаснай калясніцы знішчэння. Можа быць, менавіта ў той вечар ён адчуў тое, што раней неяк не даходзіла да яго свядомасці - што ён кахае яе, - насуперак сваім намерам, насуперак вайне і нават здароваму сэнсу. Напэўна, яму трэба было сказаць ёй

пра тое, але хіба і без слоў не было зразумела ўсё...

Надвор'е рэзка павярнула на восень, зачасцілі нудныя слотныя дажджы, а калі яны пераставалі, асабліва ўранні, напаўзалі туманы, у якіх патаналі дамы, гароды, платы і дрэвы. Аднаго разу, устаўшы на світанні, Агееў не пазнаў двара - усё, што было перад варотамі, знікла ў стылай шэра-малочнай навалачы. Сядзіба сціхла, неяк дзіўна, затоена, вуліца нібы вымерла, змоўкла і ўсё мястэчка.

Той ноччу Агееў з Марыяй заснулі толькі перад світаннем, усю ноч праседзеўшы ў застаронку ад незразумелай трывогі, якая падняла на ногі местачковыя ўлады і паліцыю. Пачалося ўсё са здзічэлага крыку дзесь на ўскраіне, у раёне могілак, пасля раздаліся стрэлы ў ваколіцы, і па іх Зялёнай вуліцы прабегла некалькі чалавек - усё туды ж, у бок могілак. Тупаценне іх ног глуха аддалося ў начы, але галасоў не было чуваць, быццам гэта прабег строй салдат ці паліцыі. Пасля на суседняй, болей наезджанай вуліцы застукалі фурманкі, там жа пачуліся галасы, нават крыкі, а недзе ля цэнтра і царквы прагырчэлі цяжкія машыны, і святло ад іх фар жоўтымі плямамі мільганула ў тумане над дахамі местачковых хат. Сцяўшы дыханне, Агееў слухаў, спрабуючы зразумець, што адбываецца ў мястэчку, але зразумець было не так лёгка. Марыя, прыпаўшы да яго і абхапіўшы ягоныя плечы рукамі, дробна дрыжала, нібы ў гарачцы, ён хутаў яе ў кажушок і думаў, як бы не давялося ратаваць яе ў гэтую трывожную ноч. Ніжнюю адарваную дошку ў сцяне застаронка ён паказаў ёй даўно, дзяўчына магла пралезці ў гарод, але што далей? Куды ратавацца з гарода, яны так і не вырашылі.

Яны не вырашылі шмат чаго ды так і занулі пад ранак у пяшчотных абдымках, калі гэтая малазразумелая трывога неяк сама па сабе ўляглася і ўсё навокал паступова заціхла.

У волглым застойным тумане ўсё на падворку было настылае, золкае і няўтульнае. На змакрэлым голлі віселі празрыстыя кроплі, сцякалі па мокрых камлях

дрэў; туман ціха ахутваў рыжае лісце клёна і, чапляючыся ў суках, ціха клубіўся там, марудна спаўзаючы на чорны, набрынялы вільгаццю дах хаты. Агееў схамянуўся ад сцюжы і перш за ўсё падышоў да дзвярэй на кухню - клямка звечара некранутай ляжала на прабоі, значыць, Бараноўскай усё не было. Ён перастаў ужо лічыць дні і тыдні, што мінулі пасля яе ад'езду; мабыць, сапраўды ягоная гаспадыня прапала назаўжды і без знаку. Яны з Марыяй ужо з'елі паўагарода бульбы, падабралі, што можна было падабраць з ежы ў кладоўцы, але з маёмасці нічога не чапалі, абыходзіліся пакуль кажушком ды стракатаю ватнай коўдрай, што была на гарышчы. Кожны раз, прачынаючыся ў застаронку, Агееў чакаў, што хто-небудзь з'явіцца ў двары і скажа: «Ад Волкава». Але ішлі дні, а ніхто не прыходзіў, мех з адрамантаваным абуткам па-ранейшаму ляжаў пад сенам. Не паявіўся і Кіслякоў. Агееў адчуваў сябе абсалютна закінутым і забытым, і адзінаю ягонай уцехай была Марыя.

Ён не мог даўмецца чаму, але Марыя ўжо ўладарна і без рэшты захапіла яго пачуцці, запоўніла сабой ягоную істоту - яго памяць, увагу, думкі - і, здаецца, ужо стала яго каханнем. Не перастаючы, ён думаў пра яе і пра іхні няўдалы лёс. Наяве ці ў марах яна штодзень была з ім, і ён заўжды бачыў перад сабой яе мілае аблічча, слухаў яе асаблівую, парывістую манеру гаварыць, гатовы быў глядзець і глядзець, як яна ў размове адкідвае з ілба светлую пасмачку валасоў ці, трошкі схіліўшы галаву, прычэсваецца маленькім празрыстым грабеньчыкам, які заўжды блішчэў у яе на патыліцы. Яе тонкія трапяткія рукі былі ўвасабленнем клопату і руху, калі яна гаварыла пра што і нават калі маўчала, папраўляючы кароткі сарафанік на каленях, ці парывіста абдымала яго за плечы, прыціскаючы маленькія далонькі да яго лапатак, ці лахмаціла яго валасы. Асаблівае задавальненне для яе рабіла барада, якую ён разы два падстрыгаў нажніцамі, але пагаліць якую ў яго не было чым. Марыя лахмаціла яе рукамі, цалавала і цёрлася шчокамі, гарэзліва прыгаворваючы: «Якая ў цябе барада! Якая калючая! А ты адпусці яе, як у дзеда, во здорава будзе!»

- Што - да твару?

- Пытаешся! І кашуля гэтая дужа табе да твару. Вышытая! Ну, проста былінны герой! Ілья Мурамец!..

- Які Мурамец! Можа Салавей-разбойнік...

- Не, не... Ты такі... Праўда! Адразу відаць - камандзір.

- Во гэта і кепска, што адразу відаць.

- Ну і нічога, ну і нічога... Ну і добра! - горача пераконвала яна, цалуючы яго ў бараду, у шчокі, у вусны...

У такія хвіліны ён чуўся расслабленым, размораным, але амаль шчаслівым, калі б тролькі не яго турботныя думкі, якія не пакідалі яго ні на імгненне, і ён усё думаў і думаў бясконца - лежачы з ёю пад кажушком, седзячы побач на коўдры, калі яна спала, на адзіноце ў двары, слухаючы гукі з вуліцы, імкнучыся заўважыць сярод іх тыя, што былі яму так патрэбны. Гаротная думка тачыла ягоную душу ўдзень і ўначы - дабром гэта не скончыцца! Не можа гэта скончыцца дабра ў такі бязлітасны час, на краі прадоння, за два крокі ад паліцыі, немцаў, СД. Будзе бяда! Але ён нічога не мог зрабіць з сабой і сваім непаслухмяным пачуццём, нібы ведаючы, што іншага часу для іх не будзе - што такое не паўторыцца болей. Сапраўды, цудоўнае не доўжыцца і не здараецца часта, яно - шчаслівая рэдкасць, што выпадае чалавеку як узнагарода. Вось іх узнагародзіў лёс - добры жартаўнік ці крывадушны д'ябал, як бы ён хутка не паздзекаваўся з іх.

Яны стараліся не марыць пра будучае, не меркаваць нават, што чакае іх заўтра, а то і сёння, увечары, ноччу. Яны жылі кожным імгненнем зараз, бо толькі гэтае імгненне належала ім. Заўтра магло для іх не наступіць ніколі, учора было даўно і таксама належала не ім, хаця яны і ўспаміналі пра яго. Абуткам Агееў больш не займаўся, мястэчка, падобна, ігнаравала яго няпэўнае шавецкае майстэрства, і ён, некалькі разоў нядоўга пастаяўшы ў альтанцы, болей там не паказваўся.

Харчаваліся бульбай. Апошнім часам налаўчыліся пячы яе ў прыску - печаная бульба здавалася смачнейшай, а галоўнае, была больш сытная, чым звараная. Неяк Марыя напарыла буракоў з градкі, і яны елі іх два дні - спярша гарачыя, а пасля астылыя. Удзень звычайна сядзелі на гарышчы пад дахавым акенцам, даючы волю неспатольным абдымкам і пацалункам. Размаўлялі шэптам ці напаўголасу. Зрэшты, ён болей маўчаў, Марыя ж здольная была шчабятаць, не перастаючы, і ён зрэдзьчасу перапыняў яе: «Ціха!» Рана ў Агеева амаль загаілася, толькі з ніжняга канца разрэзу сачылася брудная сукровіца, павязка трохі макрэла. Ён даўно ўжо ўпэўнена ступаў на левую нагу, хаця, калі спяшаўся, трохі кульгаў, што было прыкметна, і ён стараўся ісці цішэй; часам браў кій.

У той дзень, як заўжды ранкам, яны перабеглі з застаронка на гарышча, паелі ўчарашняй бульбы. Можа, з прычыны бяссоннай ночы Марыя была менш разгаворлівая, чым заўжды, бульбу амаль не ела, болей падкладвала яму і часта ўздыхала. Яны сядзелі на разасланай пад дахавым акном коўдры, ражком якой яна прыкрывала азяблыя ногі, і раптам запыталася ў яго без усялякай сувязі з тым, пра што яны размаўлялі:

- Алежка, а мы загінем?

Ён здзіўлена зірнуў на яе, у яе вялікія вочы, у якіх застылі боль і надзея.

- Чаго ты? Чаму ты так?

- Я хачу ведаць, што нас чакае.

- Што нас чакае - хто ж табе скажа? Я хіба ведаю? Але мы будзем жыць. Інакш і быць не можа.

- А немцы?

- Што немцы?

- Немцы нас перамогуць?

Во дзівачка, падумаў ён, пра што яна непакоіцца!

Зрэшты, хіба не тым самым быў занепакоены і ён? Але ён нават на хвіліну не мог дазволіць сабе пагадзіцца, што іхняе існаванне безнадзейнае, што перамога будзе за Гітлерам. Ён адганяў ад сябе гэтыя чорныя думкі - незалежна ад таго, як яно будзе далей, ён павінен быў верыць у нашу перамогу. Канечне, абое яны могуць не дажыць да перамогі, але гэта ўжо другое пытанне, і на яго павінен быць інакшы адказ.

- Вось што, Марыя, - сказаў ён рашуча. - Ніколі немцы нас не перамогуць...

- Чаму?

- Хоць бы таму, што... Што Расію ніхто і ніколі не перамагаў. Гэта немагчыма.

- А ты ўпэўнены?

- Абсалютна.

- Ну, дзякуй, - сказала яна, падумаўшы, і адхінулася на локаць. - А то... Ты ведаеш... Здаецца, я зацяжарала.

- Во як!

Не ведаючы яшчэ, узрадавацца яму ці апанурыцца, ён абняў яе за плечы, прыцягнуў да сябе, ціхенька пагладзіў яе па валасах. Пачуццё яго не было гатовае да такога павароту справы, але цвярозы, заўжды напружаны розум ужо вынес свой хуткі прысуд, які быў падобны на трудны і сумны ўздых - ох, не на добрае гэта. Яно і сапраўды не на добрае, але што ў гэтае лета і восень было на добрае? Усё на бяду, на пагібель у горы і роспачы...

- Ладна, - сказала яна, далікатна вызваляючыся з ягоных абдымкаў. - Ты толькі не перажывай. Калі што - я сама вінаватая. Лепш раскажы пра сябе.

- Што расказаць?

- Ну, як ты жыў. Раскажы пра сваю маму. Дзе яна? Жывая?

- Была жывая. І бацька таксама жывы быў. Але што расказваць - калгаснікі.

- А як ты камандзірам стаў? Напэўна, вучылішча скончыў?

- Вучылішча, вядома. Але гэта проста. У мяне, бачыш, дзядзька вайскоўцам быў. Зрэдзьчасу прыязджаў у вёску. Во я нагледзеўся на яго і падаўся ў вучылішча. Вайсковая служба цяжкая, але падабалася. Ды што там... Лепш ты раскажы пра сябе. Ты ў Мінску і нарадзілася?

- У Мінску. Панімаеш, я расла паміж бацькам і маці - можаш сабе ўявіць такое? Справа ў тым... Справа ў тым, што болей нясхожых людзей, чым мае бацькі, цяжка сабе і ўявіць. Бацька паходжаннем з сялян, некалі скончыў настаўніцкую семінарыю, доўга настаўнічаў, пасля перайшоў у Інбелкульт - быў такі ў Мінску. Бацька заўжды жыў у народнай стыхіі - фальклоры, гісторыі Беларусі. Заўжды даследаванні, летапісы, старая літаратура, пасля пайшлі экспедыцыі. Размаўляў дома ці там на вуліцы, у трамваі, у магазіне толькі па-беларуску. Некаторыя на яго азіраліся, у горадзе ж яно не прынята, каб так, па-вясковаму. А ён прынцыпова. А вось мама мая, хоць таксама паходзіла з вёскі, але пажыла ў горадзе, і так, ведаеш, палюбілася ёй усё гарадское, што ўсё ранейшае, вясковае, зненавідзела. Яна таксама прынцыпова не магла прыняць нічагусенькі, што хоць бы трохі нагадвала вёску. Не прызнавала ні песняў, ні казак, ніякага фальклору, не любіла мужыкоў, вясковай гразі ў разводдзе, нават вясковай жывёлы. Ну, а ўжо як яна здзекавалася з мовы, з гутаркі па-белпруску, тут у яе проста талент быў сатырычны. У бацькі было шмат знаёмых - вяскоўцаў - ну, там як ездзілі ў экспедыцыі, дык ён усім даваў наш мінскі адрас, і вось калі зімой пад'язджаюць сані, прыходзіць мужык ці двое адразу - у кажухах, лапцях, ды яшчэ мокрыя, у снезе. Бацька іх распранае, вядзе ў кабінет, у лапцях, вядома, там доўгая размова, ну, і чарку калі возьмуць. Але мама туды ні нагой - бацька сам іх частуе. Малую маці мяне яшчэ пускала туды

паглядзець-паслухаць, а як падрасла, забараніла і заходзіць. Але, мабыць, позна. У мяне такая цікавасць з'явілася, што я гэтых дзядзькоў дагэтуль усіх памятаю. Ну, і неяк пасля шостага класа паехала з бацькам у экспедыцыю. Помню, на Палессе, да камунараў. Мама сабралася ў Сочы, мяне з сабой брала, а я ўпёрлася: хачу на Палессе. Столькі аб ім чула з размоў, ад бацькі. Скандал быў, плакала, але дабілася свайго - паехала з бацькам. А мама пакаціла на мора з сяброўкай, жонкай аднаго адказнага работніка з ЦВК.

- А як вы там жылі, у экспедыцыі?

- О, там быў рай! Дзе-небудзь у лясной вёсачцы, кватэра ў якой-небудзь цёткі Лушы або цёткі Альбіны, а ў той карова з цялушкай, конь, сабака, авечак з ягняткамі штук восем, парасяты, піскаляты. Страх як цікава было! Пасябрую, бывала, з рабятамі, на начлег ездзім, коней пасвім. У рэчцы купаемся, ракаў ловім, ну, і рыбу, вядома. А кветак колькі ў полі, на лузе. А лес! Якія лясы там - ягад, грыбоў процьма. Не, я і цяпер не магу спакойна прыпамінаць усё тое. Я ж і сюды во да стрыечнай сястры прыехала - па ягады хадзіць. Так ягады люблю збіраць... І вось пазбірала...

Марыя змоўкла і трошкі ўсхліпнула - ціхенька і адзін толькі раз. Агееў далікатна правёў рукой па яе плячы, яна праглынула слёзы і хутка супакоілася, усміхнулася яму з ціхай самотнай радасцю.

- Ну ўсё, нічога... І вось, разумееш, апроч таго, бацька мяне далучыў да сваёй стыхіі - збору народнай мудрасці, розных там фразеалагізмаў, прымавак. І песень. Жніўныя, калядныя, вясельныя, абрадавыя і яшчэ бог ведае якія. Ён ведаў. Ну, і я старалася, нават некалькі песень сама запісала ад цётак і бабак на Любаншчыне. Вось, напрыклад, паслухай:

Мая матуля забедавала:

*Дзе мая дочка заначавала?*
*Заначавала ў цёмным бору*
*Пад каліною,*

*Пад калiною,*
*Белыя ручкi пад галавою.*

Праспявала яна цiхенька, амаль шэптам, гаротна i меладычна.

- I яшчэ памятаю... Хочаш паслухаць?

- Не, ведаеш, усё ж чутна, мабыць. А наогул добра ты гэта - па-беларуску.

- Ага, за лета так прывыкну да беларускай мовы, што, калi вярнуся ў Мiнск, доўга яшчэ не магу перайсцi на рускую. Мама здзiўляецца, нават сварыцца на мяне i бацьку. А я тады знарок. Мне - пажалуста, а я - калi ласка. Мне - да свiдання, а я - да пабачэння. Мне - плацце, а я - сукенка. А што? Хiба горш? Такая ж славянская мова, як руская цi ўкраiнская, - не лепшая i не горшая - раўназначная.

- Гэта ты малайчына, - сказаў Агееў. - А мне, ведаеш, дзеравенцу, у армii давялося... памучыцца. Пакуль адвык ад сваёй, рускай авалодаў. I пасля яшчэ дражнiлi «трапка, братка».

- Ну, у армii, там, можа, i трэба, каб усё па-руску. А ў Мiнску чаго мне саромецца? У сваёй рэспублiцы. Але ў горадзе таго не разумеюць, затое ў вёсцы было раздолле. Так любiла, як бабы спяваюць. Во як увечары з поля iдуць - чутно i тут, i там, за гарою i пад лесам, песнi працяжныя такiя, прыгожыя, ды так слаўненька цягнуць на два галасы.

Агееў слухаў i трохi здзiўляўся ў душы - усё тое было для яго новым i нязвыклым нават. Васемнаццаць гадоў свайго жыцця ён правёў у вёсцы ў той самай стыхii, пра якую з такiм захапленнем апавядала Марыя, але ў яго не было i ў думках захапляцца тагачасным жыццём, ён проста яго не заўважаў, як не заўважаюць паветра, якiм дыхаюць. Ну, спявалi, ну, размаўлялi па-беларуску, цi, як казалi ў iх, па-тутэйшаму; але хiба ў тым была якая культура? Культура здавалася тады ў горадзе, дзе тэатры, кiно, дзе спяваюць расфранчаныя актрысы i

розныя вучоныя людзі размаўляюць чыста па-гарадскому, а то і на замежных мовах. У арміі ж яму каштавала клопату пазбыцца звыклага акцэнту ў вымаўленні, якое адразу выдавала ў ім беларуса і часам рабілася прадметам насмешак сяброў. А яна - глядзі ты! Гараджанка, а з такой цікавасцю і нават захапленнем да ўсяго, такога для яго звычайнага, вясковага.

Ласкава абняўшы Марыю, Агееў слухаў яе ціхенькі, журботны голас, пранікаючыся яе настальгічным пачуццём да нядаўна перажытага, а ў свядомасці яго гучалі яе словы, сказаныя без усялякай сувязі з успамінамі. Гэта ж трэба, дажыў да чаго, думаў Агееў, ён будзе бацькам - аднак выбраў жа час! А як ёй у такі час стаць маці? Гэта чорт ведае што, як яно ўсё ўскладняла, заблытвала, пагражала новымі бедамі. Але што рабіць? Калі так, дык, напэўна, нічога ўжо не зробіш, застаецца адно - чакаць.

Чаго дачакаешся толькі?

Ён і так чакаў увесь час у мястэчку, чакаў рознага. Спярша - калі загоіцца рана, калі вернецца яго Бараноўская, чакаў прыходу Кіслякова ці каго-небудзь ад Волкава, са страхам і непрыязню чакаў паяўлення Кавешкі або Драздзенкі, налёту паліцыі, выкрыцця, арышту. Увесь яго час тут мінуў у трывожным чаканні - лепшага або горшага. Але ўсё ў гэтай сядзібе нібы стаілася, сціхла, ішоў час, а ў ягоным становішчы нішто не мянялася. Можа, накоплівалася, ці што? А пасля як бы не выбухнула бядой, няшчасцем - цяпер ужо для дваіх, вось што горш за ўсё. Зрэшты, мабыць, ужо і для траіх...

Калі Марыя ненадоўга сціхла, прыслухоўваючыся да невыразных гукаў унізе, ён падхапіўся і ўстаў.

- Ты пасядзі. Я спушчуся, зірну.

Трэба было паглядзець, хоць бы дзеля перастрахоўкі, для ўпэўненасці, што ў двары ўсё ціха і няма ніякіх падстаў для трывогі, а таксама ў выпадку, калі да яго хто прыйшоў ад патрэбных людзей. Па крутой драбіне

ён спусціўся ў цёмную кладоўку, выйшаў на кухню. Пасярод стала прыкрыты чыстай анучкай бялеў састаўлены Марыяй посуд - талерка, лыжка і кубак, строга на аднаго чалавека, нішто тут не павінна было навесці на думку, што ў доме яшчэ хто-небудзь жыве, за гэтым ён сачыў строга. Можа, усё было занадта старанна прыбрана, ён бы так прыбіраць не стаў, але гэта ўжо Марыя. Трохі кульгаючы, Агееў выйшаў на двор, пашукаў позіркам Гультая, ды ката паблізу нідзе не было, напэўна, згаладнеўшы дома, пайшоў кудысьці на промысел. Туман патроху радзеў, сплываў за гароды, у роў, росным дываном асядаючы на дробнай траве, брукаваным доле, на гонтавым даху дома і саламяных стрэхах хлявоў. Усё навокал набрыняла гэтым туманам, яго стылай вільгаццю; было сцюдзёна, і, можа, упершыню Агееў адчуў подых блізкае восені, хуткае сцюжы і непагадзі.

Ён хацеў ужо быў вярнуцца на гарышча, як рашыў для пэўнасці зазірнуць з падворка на вуліцу, адтуль звычайна насоўвалася небяспека. І, зірнуўшы з-за вугла, мімаволі адхіснуўся - з веснічак другога ці трэцяга адсюль дома выходзіла група мужчын - тры чалавекі, іх, відаць, праводзіў гаспадар, барадаты чалавек у картузе; пярэдні, адвярнуўшыся, нешта строга выгаворваў яму, і ў гэтым пярэднім Агееў лёгка пазнаў начальніка паліцыі Драздзенку. Затаіўшыся за вуглом, ён пачакаў, услухоўваючыся і стараючыся вызначыць, куды павернуць паліцаі - па вуліцы ў мястэчка ці... Але, канечне, тры паліцэйскія хуткім крокам паўз агароджу скіравалі да сядзібы Бараноўскай, і Агееў, вылаяўшыся ў думках, выйшаў на сярэдзіну падворка.

- Здарова, сапожнік! - бадзёра і нібы нават па-свойску павітаўся Драздзенка, павяртаючы ў двор. - Ну, аброс, як дзед. Брытвы няма, ці што?

- Ды так, ведаеце... Лень галіцца, - прабурчэў Агееў.

Начальнік паліцыі быў усё ў тым жа танкісцкім фрэнчы, падпяразаным шырокім камандзірскім рамянём з латуннай, без зоркі, спражкай, у шызай нямецкай

пілотцы. У руках у яго замест заўсёднага дубчыка была прыгожая, аздобленая разьбой палачка, якой ён лёганька памахваў у паветры.

- Бараноўская прыбыла?

Спыніўшыся насупраць Агеева, ён настырчыў у яго выпрабавальны позірк, і Агееў заклапочана выдыхнуў.

- Не, не прыбыла. Не ведаю, што і думаць.

- Ах, сцерва! - з горыччу вылаяўся начальнік паліцыі. - Дрэнь гульню з намі зацеяла. Але дагуляецца пападдзя! Ужо я ёй прыпомню!.. Як нага? - раптам без усялякага пераходу запытаўся ён і зноў застыў, поўны ўвагі.

- Гоіцца, - не адразу сказаў Агееў. - Але марудна. Лякарства, ведаеце, ніякага. Нават перавязаць няма чым.

- Не прыбядняйся! Вунь без палкі бегаеш, у арміі даўно б на перадавую выпхнулі. Ану, зойдзем у хату, - раптам прапанаваў Драздзенка і рвануў дзверы на кухню. - Вы пастойце! - азірнуўся ён на двух паліцаяў з белымі павязкамі на рукавах, і тыя знялі з плячэй вінтоўкі.

Імкнучыся трымаць сябе як мага спакайней, Агееў прайшоў за ім на кухню, трохі з празмернай гасціннасцю саўгануў крэсла каля стала - каб хутчэй пасадзіць і адцягнуць яго позірк ад дзвярэй у кладоўку. Аднак, перш чым сесці, Драздзенка бегла азірнуў пліту, посуд на стале, паглядзеў у акно.

- Курыш, не?

- Не, не куру.

- А я куру. Раней курыў «Беламор», а цяпер вось гэтую дрэнь, - сказаў ён, сядаючы на крэсла і дастаючы партсігар і нямецкімі цыгарэткамі. - «Беламору» няма.

- Гэта дрэнна, - чужым голасам фальшыва паспачуваў Агееў. Драздзенка грэбліва хмыкнуў.

- Калі б толькі гэта і было дрэнна! А то ўсё дрэнь! Беспарадкі, грабяжы! А на чыгунцы што робіцца!

- А што робіцца? - прастадушна пацікавіўся Агееў.

- Рухомы састаў ірвуць! Немцы ўжо трох начальнікаў станцыі расстралялі - не памагае. Думаеш, на тым яны абмяжуюцца? Яны нічым не абмяжуюцца, пакуль будуць дыверсіі. І ні перад чым не спыняцца. Сёння расстралялі сто, заўтра расстраляюць дзвесце. Пакуль не спыняцца безабразія. А не спыняюцца. Тым, мабыць, сваіх не шкада. Нікога не шкада...

«Во як! - падумаў Агееў. - Аказваецца, вінаваты тыя. Не немцы, якія расстрэльваюць, а тыя, што недзе далёка адсюль».

- А куды глядзіць паліцыя?

- Драздзенка рэзка крутнуўся - усім сваім мажным целам на слабенькім хісткім крэсле.

- Паліцыя разрываецца! Але паліцыі мала. Мы не можам усё ўпільнаваць. Нам патрэбны памочнікі, людзі з мястэчка, са станцыі, з вёсак. Але тыя запалоханы бальшавікамі і не хочуць дапамагаць. І каму ад таго горш? Насельніцтву перш за ўсё. Ну, насыплюць пяску ў буксы, развінцяць рэйкавы стык - хіба гэта ўшчэрб для Германіі? Ды ў іх гэтых вагонаў з усёй Эўропы. А вось той вёсцы, дзе крушэнне, капец! Спаляць і пастраляюць. Учці - нявінных людзей. І ніхто іх не абароніць. У мяне на ўсё сілы не хопіць.

Агееў маўчаў. Такі паварот у размове быў для яго нечаканым. Ён лічыў паліцыю карным органам акупантаў, а яна, як кажа гэты начальнік, гатова абараняць нявінных людзей, берагчы іх ад дыверсій і непазбежных затым рэпрэсій.

Скрыпнуўшы крэслам, Драздзенка ўскочыў, з цыгарэтай у зубах жвава падбег да акна, паглядзеў на двор, відаць, шукаючы позіркам сваіх паліцаяў. Але паліцаі стаялі каля дзвярэй, і начальнік вярнуўся да

стала, грузна абапёрся на яго рукамі.

- Слухай, уступай у паліцыю, хопіць табе сачкаваць. У такі час трэба не толькі пра сябе думаць. Падумай пра людзей. Трэба наводзіць парадак, а то немцы ўсіх панішчаць. Вунь як яўрэяў. Але яўрэі - чорт з імі, а сваіх шкада. Хто за іх заступіцца? Чырвоная Армія кінула - жывіце, як хочаце. Адзіная свая сіла - паліцыя. Але паліцыі патрэбны парадак. Пры ўмове парадку паліцыя яшчэ што-колечы можа. Для сваіх, вядома. Дык як? Згодны?

Агееў на момант збянтэжыўся. Ён не быў гатовы да такой размовы і толькі прамармытаў разгублена:

- Нага, ведаеце... Баліць яшчэ.

- Нагу далечыш у нас. У нас і доктар ёсць. Лякарствы таксама. Пакажаш сябе - папрашу немцаў, зробяць намеснікам. Мне намеснік патрэбны, талковы мужык. А то вунь гэтыя, - кіўнуў ён на акно, - як калуны. Тупыя і лянівыя. А ты ўсё ж сярэдні камандзір.

- Ды ўжо які там камандзір, - сціпла заўважыў Агееў. - Цяпер акружэнец.

Драздзенка моўчкі з хвіліну ўзіраўся ў ягоны твар, нібы хацеў штосьці ўбачыць на ім.

- Ты мне глядзі! Я цябе магу і сілай. У парадку мабілізацыі. Але мне сілай не трэба. Ты ж не дзеўка. Мне каб дабраахвотна. Каб работа была. А ты ж мужык дзелавы. І з галавой. Ты павінен разумець, што можна спазніцца. Вайна ж канчаецца...

- Няўжо канчаецца? - холадна перапытаў Агееў.

- Усё! Асталося нямнога, немцы акружаюць Маскву, хутка прыдушаць. Глядзі, спознішся.

- А я нікуды і не спяшаюся.

- І дарма. Як бы не давялося трымаць адказ перад немцамі пасля перамогі: чым займаўся? Калі што - па

галаве яны не пагладзяць. Яны наогул па галаве не гладзяць. Строгая нацыя!

- Гэта я ведаю.

- Во і добра, што ведаеш. Дык падумай. Болей я гаварыць не буду. Сам прыйдзеш. Паняў?

- Што не паняць, - сказаў Агееў.

Драздзенка рэзка адхіснуўся ад стала, кінуў пад ногі недакурак і павярнуўся да Агеева ўсім тулавам.

- Ну во! А цяпер твая галоўная задача - Бараноўская. Як толькі паявіцца, стукні. Зараз жа. Удзень ці ўначы. Упусціш - пяняй на сябе. Ёю СД цікавіцца. Тут ужо я цябе не прыкрыю.

- І чым яна так зацікавіла СД? - не стрываў Агееў.

- А гэтага не ведаю. Чымсьці насаліла, значыць. Паліцыя тут ні пры чым.

- Што ж, панятна, - сказаў Агееў, падумаўшы, што таго ўжо ад яго не дачакаюцца. Але як бы не пазяваць, папярэдзіць гаспадыню адразу, як толькі тая вернецца дадому.

Як і мінулыя разы, Драздзенка, не развітаўшыся і раптам спыніўшы размову, сігануў да дзвярэй і выскачыў на двор. Агееў з палёгкай праводзіў яго да вуліцы, і трое паліцаяў, не азіраючыся, пакрочылі ў мястэчка. Трохі пастаяўшы ля дзвярэй і пераканаўшыся, што небяспека мінулася, Агееў пайшоў у кладоўку. Марыя чакала яго на гарышчы, забіўшыся за куфар з кніжкамі, і, як толькі ён ускарабкаўся па драбіне, падхапілася насустрач. Ён расчулена абняў дзяўчыну за плечы.

- Ну што ты! Не бойся. Я ж цябе не пакіну...

- Я ўсё чула, - сказала яна, дрыготка скаланаючыся ў ягоных абдымках, і запыталася: - У цябе зброя ёсць?

- Зброя? Якая зброя?

- Ну рэвальвер, ці вінтоўка, ці яшчэ што-небудзь...

- Нашто табе?

- Ты не знаеш нашто? - яна зірнула на яго з дакорам, вачмі, поўнымі слёз.

- Не, не, - сказаў ён таропка. - Да гэтага не дойдзе. Думаю, што не дойдзе. Нам галоўнае - каб перабіцца... А там...

- А што там?

- А там... Перамога будзе за намі! - сказаў ён, натужна ўсміхаючыся.

- Ой, баюся, не будзе, Алежка! Баюся, не будзе за намі. За кімсьці, можа, і будзе, але не за намі. Як бы нам хутка не прыйшлося легчы ў сырую зямельку...

- Ну што ты! Ну што ты!.. Нашто так страшна? Ты супакойся... Яшчэ ж нічога не здарылася.

Па мяккай засыпцы гарышча ён прывёў яе да ўлежанай пасцелі, пасадзіў на ватную коўдру. Сам апусціўся побач і абняў яе дрыготкія худыя плечы.

- Ну, нічога, нічога. Пакуль што мы жывыя і разам - гэта галоўнае. Яшчэ мы пазмагаемся з імі. Яшчэ паваюем...

Марыя, моўчкі і ціхенька хліпаючы, патроху спакайнела, паддаючыся яго ласкавым абдымкам, усё цясней прыпадаючы да яго, нібы аддаючы яму свой боль і набіраючыся ягонай рашучасці. І ён сабраў у сабе ўсю рэшту тае рашучасці, слабой упэўненасці ў шчаслівым зыходзе іх задоўжаных выпрабаванняў, каб толькі пабольшыць яе сілы. Сам ён гатовы быў да ўсяго. Але з ёю ўсё рабілася болей складаным, заблытаным, і ён яўна адчуваў, што павінен патроіць свае сілы і сваю вытрымку.

Выдаўся слотны, сцюдзёны дзень, зранку церусіў

дробны дожджык - нудна шапацеў па набрынялым вільгаццю даху. Марыя драмала - ціхенька ляжала пад кажушком на гарышчы. Агееў сядзеў побач на ражку коўдры і пры святле з дахавага акна гартаў зжаўцелыя старонкі «Нівы», кіпу якой прынёс з куфра. У кожным нумары гэтага густа ілюстраванага часопіса была вайна - даўняя вайна 1916 года, фатаграфіі яе ахвяр і яе герояў, генералаў і царскіх саноўнікаў, апавяданні пра вайну, вершы, агляды ваенных падзей, падрабязныя малюнкі акадэміка Самокіша - коні, казакі з пікамі, кавалерыйскія атакі на разгубленых, у паніцы немцаў, што шалёна ўцякалі, губляючы дзіўныя вастраверхія каскі. Агееў, аднак, шукаў іншае - шукаў што-небудзь пра здраднікаў, пра тагачасных прадажнікаў тыпу цяперашніх паліцаяў, перабежчыкаў, такіх, як Драздзенка. Тады ж таксама ў гэтах самых мясцінах праходзіла лінія фронту, ішлі баі, палавіна Беларусі была пад немцамі - мабыць жа, былі і тады нямецкія прыслужнікі, пра якіх напісала б ці хоць бы памянула «Нива». Але «Нива» пра тое маўчала, нібы іх не было зусім.

А можа, і сапраўды не было?

Але чаму тады іх развялося столькі ў гэтую вайну, чыя ў тым віна ці якая ў тым прычына? У саміх гэтых людзях ці, можа, у немцах-фашыстах з іх лютай палітыкай татальнага запалохвання ці татальнага знішчэння? Ці таго і другога разам?

Пачало змяркацца. Агееў усё ніжэй схіляўся над старонкамі часопіса, ледзьве чытаючы шрыфт тэксту і асабліва дробныя радкі подпісаў, калі яго слых злавіў ціхі, перарывісты стук унізе, які змусіў яго трывожна напяцца. Побач трывожна падхапілася Марыя, спалохана акругліла вочы. Стук выразна паўтарыўся ў цішы пустой хаты, і ўжо не было сумнення, што стукалі ў акно на кухні. Марыя, як заўжды, нячутна шмыганула ў цёмны паддошак за куфрам, а ён таропка спусціўся ў кладоўку, старанна прычыніў за сабой дзверы. За светлаватымі шыбінамі кухоннага акна цямнелася нейчая постаць. Агееў угледзеўся - не, то была не

Бараноўская і не хто-небудзь знаёмы. Тады ён ступіў да дзвярэй і выняў з прабоя крук.

Па той бок парога зважліва стаяў немалады ўжо чалавек з густым шчаціннем на шчоках, у мокрым картузе і мокрым, у плямах брызентавым плашчы, з якога сцякалі долу кроплі дажджу. У апушчанай руцэ чалавек трымаў да палавіны накладзеную чымсьці торбу.

- Вам каго? - цераз парог запытаўся Агееў.

- Я ад Волкава, - ціха сказаў мужчына і змоўк, чакаючы адказу.

Унутры ў Агеева штосьці радасна страпянулася, ён шырэй адчыніў дзверы і ўпусціў чалавека на кухню.

- Я так чакаў вас... Праходзьце... Можа, распранецеся.

- Не, - змораным голасам сказаў чалавек. - Няма калі. Тут вось вам... мыла. Перадаць на станцыю сказалі. Ведаеце - каму?

- Да? На станцыю? Мыла?..

Агееў памкнуўся сцяміць усё адразу, каб выразна зразумець сваю задачу, але, мабыць, чагосьці зразумець не мог. Можна было здагадацца, што перадаць трэба Малаковічу, але - мыла?.. Нашто таму мыла?

- Ну, я пайду, - тым часам сказаў чалавек, тупаючы ля парога ў шархоткім плашчы. - Чакаюць мяне.

- Што ж, дзякуй, - амаль расчулена сказаў Агееў, поўнячыся сваёй тайнай радасцю, што вось нарэшце ўспомнілі, даверылі, значыць, прэч падазронасць, сумненні, усё добра. А ён столькі перадумаў, перажыў, перахваляваўся...

Усё поўнячыся радасным ажыўленнем, ён праводзіў госця на двор, зірнуў на пустую вуліцу, якая патанала ўжо ў непагадзі вечаровага змроку. Госць накінуў на картуз капюшон і хутка пакрочыў па двары, цераз гарод

да ўзроўка. Напэўна, недзе яго там чакалі. Агееў ні пра што не пытаўся болей (не было для таго ні часу, ні магчымасці), цяпер ён думаў, што наўрад ці мог гэты чалавек яму што сказаць. Відаць, быў ён проста сувязны, якому даручылі перадаць нешта, і ён перадаў. Пра што было гаварыць? Зрэшты, і без размовы сам факт гэтай перадачы сведчыў пра многае, і перш за ўсё пра давер да яго, Агеева. Вось толькі - мыла! Той раз дзіравы абутак, цяпер - мыла... Хаця магло так быць, што і абутак, і мыла былі ў адным ланцугу нейкай складанай залежнасці, пра якую яму не сказалі. Але, можа, так трэба. Ва ўсякім выпадку, цяпер ён быў рады, што доўгая няпэўнасць чакання засталася ззаду, яго жыццё тут зноў набывала сэнс, толькі б пашэнціла, не сарвацца на якой драбязе. Не ведаў ён і нават не думаў, што менавіта з гэтай сустрэчы і з гэтага мыла пачнецца для яго ланцуг самага цяжкога і самага страшнага, што будзе каштаваць яму крыві, здароўя, а ягоным сябрукам жыцця. Але што можа ведаць чалавек пра сваё будучае? Ён не часта задумваецца нават аб перажытым, і трэба час, каб зразумець мінулае, разабрацца, што ў ім на карысць, а што на шкоду. Усё тое нярэдка праяўляецца толькі праз гады ў сваіх няпэўных заблытаных сувязях і не заўжды зразумелых выніках.

Пакідаць торбу з мылам на кухні было рызыкоўна, і ён усцягнуў яе на гарышча. Гэты раз Марыя не спалохалася, яна ўжо сцяміла з размовы на кухні, хто да іх завітаў, і цяпер з цікаўнасцю пазірала, як ён нецярпліва разблытвае завязку на торбе. Развязаўшы яе, Агееў і сапраўды знайшоў там бязладна наваленыя брускі гаспадарчага мыла, ад якога, аднак, ішоў трохі іншы, чым ад мыла, пах, і ён выняў адзін брусок.

- Што гэта? Гэта мыла? - нецярпліва пыталася Марыя.

- Мыла, - сказаў ён проста, ужо зразумеўшы, якое гэта «мыла». У торбе ляжала дзесяткі два брыкетаў прасаванага толу, і ён сцяміў тады, навошта гэта спатрэбілася перадаць на станцыю.

- А навошта мыла? - дапытвалася Марыя. - Гэта на абмен? На продаж?

- Гэта трэба перадаць на станцыю, - скупа адказаў Агееў, не хочучы нічога болей тлумачыць Марыі. Ён паранейшаму не меў права адкрываць ёй свае падпольныя сакрэты, тым больш уцягваць яе ў свае нелегальныя справы.

Як толькі сцямнелася, яны перабеглі ў застаронак, куды ён перанёс і торбу з паклажай. Марыя адразу стулілася пад кажушком на тапчане, а ён падумаў, што трэба пачакаць. Напэўна ж, цяпер да яго прыйдуць - Кісякоў, Малаковіч ці яшчэ хто, трэба іх сустрэць у двары і перадаць торбу. Ці, можа, завесці на кухню, там пагутарыць пра што-колечы, але без Марыі. Вось настаў час хаваць яе і ад ягоных знаёмых, інакш як ён растлумачыць ім яе тут знаходжанне.

Агееў вынес вынес цяжкаватую торбіну ў хлеў і пакуль што затуліў яе за шулам, прыхінуў нейкаю дошкай. Сам, усё яшчэ не ў стане саўладаць з радасным хваляваннем, прайшоў па двары, пасля, каб не мокнуць на дробным дажджы, стаў пад страху, шчыльней зашпіліў ватоўку. Канечне, цяпер стаяць тут, можа, і не мела сэнсу, да яго маглі завітаць і апоўначы, і пад ранак, але ён проста не меў сілы спакойна чакаць, тым болей з такой перадачай пад бокам. Зноў жа, кожнай гадзіны магла наляцець і паліцыя, той жа Драздзенка, і Агееў павінен быў дбаць, каб яго не засталі знянацку.

Ён прастаяў пад страхой гадзіну ці болей, навокал ужо зусім усё сціхла, замерла; садок, двор і гароды схаваліся ў прытуманенай цемры. Настала ноч. Дождж то сыпаў, налятаючы з парывамі ветру, то нібы пераставаў. На падворку, аднак, ніхто не з'яўляўся, нікога за ўвесь вечар не чутна было і на вуліцы - ні прахожага, ні фурманкі, ні нават якога сабакі. Хаця Агееў больш слухаў і ўзіраўся ў бок гародаў і рова, хутчэй за ўсё нехта павінен прыйсці адтуль. Але мінаў час, а ніхто ніадкуль не паяўляўся. Мабыць, за поўнач ён ціхенька пратупаў праз хлеў да застаронка. Ён думаў, што Марыя даўно ўжо спіць, а яна, ахінуўшыся кажушком, сіратліва сядзела на сенніку, прыпёршыся плячмі да сцяны.

- Ну што? Прыйшоў хто?

- Спі. Чаму не спіш? Прыйдуць. Можа, пасля.

- Ён прысеў побач, не знімаючы мокрай ватоўкі, і яна ў кажушку падалася да яго.

- Ой, якія ў цябе рукі! Дай я пагрэю. Дай во сюды...

- Сцюдзёныя. Спалохаешся...

- Як лёд! Во я іх пагрэю, - ціхенька сказала яна, уся сціскаючыся ад дотыку ягоных халодных рук і далей засоўваючы іх сабе пад пахі. - А хто да цябе павінен прыйсці, ты ведаеш?

- У тым-та і справа, што не ведаю. Але хтосьці прыйдзе.

- А калі паліцыя?

- Паліцыя ўжо прыходзіла. Болей не прыйдзе, - сказаў ён ціха, без асаблівай, аднак, упэўненасці.

- А калі тыя, твае, не прыйдуць?

- Ну, як не прыйдуць? Мыла ж патрэбна...

«Мыла», вядома, патрэбна, думаў ён, але во Кіслякова няма ўжо другі тыдзень, а Малаковіч не ведае нават, што з ім здарылася. А раптам сапраўды з іх наладжанага ланцужка сувязі выпала нейкае звяно, што тады? Як тады звязацца? І што яму рабіць? Чакаць ці праявіць ініцыятыву самому?

Трохі сагрэўшы каля Марыі свае азяблыя рукі, Агееў усё ж паклаў яе дасыпаць, старанна ўкрыў кажушком, а сам зноў выйшаў у двор. Дажджу цяпер быццам ужо не было, але вецер дзьмуў з большай сілай, стала сцюдзёней, чым увечары. Мокраю слізкай сцяжынай Агееў пайшоў у гарод, спыніўся, паслухаў. У глухім начным цемрыве чуваць былі бязладныя парывы ветру і неспакойны, захлёбісты пошум вязаў, што чорнай сцяной высіліся на ўзроўку. Нікога вакол быццам не было, і ён вярнуўся на двор. Усё ж тут было зацішней, і

можна было чакаць далей.

І ён чакаў, то захінаючыся ад ветру за варотамі ў хляве, то выходзячы на падворак, то спыняючыся пад дахам, - увесь у напружанай увазе, насцярожаны і чуйны да кожнага гуку ўначы. Але ноч выдалася надзвычай скупой на гукі, з мястэчка амаль нічога не было чуваць, а з рова ад могілак нядоўга даносіўся далёкі сабачы брэх, які неяк непрыкметна сам сабою змарнеў. І зноў ветраная цішыня запанавала ўначы.

Пад ранак ад доўгага стаяння пачала ныць параненая нага - набрыняла хваравітым цяжарам, і ён, намацаўшы ў хляве пустую дзежку, перакуліў яе на праходзе і сеў. Спаць яму не хацелася, цярплівае чаканне на зыходзе начы стала перапыняцца пакутнымі хвілінамі неспакою, цьмянай трывогай - чаму ж да яго не ідуць? Апроч таго, што ўзрыўчатка, мабыць жа, патрэбна была там, на станцыі, яна была немалой небяспекаю тут, на сядзібе. У выпадку, калі тут што западозраць, канечне ж, усё перавернуць і знойдуць; такую паклажу схаваць не проста. Хіба што закапаць на гародзе. Але гэта калі надоўга. А прыйсці маглі кожнай гадзіны дня і начы. Асабліва начы. Але во не ішлі. А можа, усё ж трэба было яе аднесці самому? Можа, цяпер там Малаковіч, як і ён тут, чакае ягонага прыходу і таксама не спіць усю ноч? Але як ён туды пойдзе? Ён нават не ведае, дзе тая станцыя, у якім баку. Ды і ці дойдзе ён з ношай, кульгавы, мала каму тут вядомы і таму для ўсіх чужы і падазроны...

Чорт ведае, што рабіць?

Калі пачаўся позні нясмелы світанак, ён зразумеў, што ноч мінулася марна, і пабудзіў Марыю.

- Пара. Пайшлі на гарышча.

- Што? Ужо раніца?.. А я так добра заснула, - гаварыла яна, падхопліваючыся на тапчане, і, уся разамлелая, яшчэ санлівая, абхапіла яго за шыю.

- Пойдзем на гарышча. Там даспіш, - сказаў ён шэптам,

цалуючы яе рассыпаныя валасы.

- Ну, прыходзілі? Ты аддаў?

- Панімаеш, не прыйшоў ніхто. Не ведаю, што рабіць...

Яго трывожны клопат адразу перадаўся Марыі, тая прагнала з вачэй рэшту сну і, ускінуўшы тонкія рукі, хуценька прычасала кароткія валасы маленькім перламутравым грабяньком.

- Калі перадалі, дык, мабыць, прыйдуць, - спрабавала супакоіць яго Марыя.

Ён думаў таксама і хацеў верыць, што неўзабаве павінен нехта прыйсці. Праўда, як пачаўся світанак, упэўненасць яго аслабла, пачала мацней дапякаць трывога: напэўна, нешта там не зладзілася. Яны перайшлі на гарышча, паелі ўчарашняй бульбы. Зрэшты, Агееў амаль не еў, пасядзеў ля Марыі і зноў злез на кухню, выйшаў на двор.

Увесь той дзень да самага вечара ён не мог знайсці сабе месца і ўсё швэндаўся па падворку, стаяў пад страхой, сядзеў на кухні. Разы два ён схадзіў па сцежцы да рова, паўзіраўся ў яго мокрыя, непрытульныя зараснікі з рэштаю рудой лістоты на дрэвах. Але ў рове было глуха і пуста, як толькі там можа быць глыбокаю восенню, нідзе не было нікога, як не было нікога і на вуліцы, нават у суседзяў у дварах і гародах - пазнікалі ўсе, нібы ў прадчуванні хуткай бяды. Марыя, захінуўшыся ў кажушок, сядзела на коўдры і, як ён узлазіў на гарышча, трывожна ўзіралася ў яго. Агееў паныла кідаў:

- Няма нікога...

Тады яна пачынала пытацца, хто там, на станцыі, і нашто мыла, але ён ужо не мог трываць тыя яе роспыты, яны яго пачыналі злаваць, і трэба было намаганне, каб схаваць тую яго злосць. Хвіліну пасядзеўшы на гарышчы, ён зноў злазіў уніз, паныла стаяў ля акна на кухні, зноў выходзіў на двор.

Так мінуў дзень, і зноў прыйшла ноч. Яны перабраліся ў застаронак. На гэты раз, спакутаваная ягонай трывогай, Марыя таксама не прылягла ні на хвіліну - стаяла на праходзе ў хляве, пакуль ён атупела хадзіў па двары. Калі ж ён паяўляўся ў варотах, пыталася: «Ну што? Няма нікога? Што ж нам рабіць?»

Што рабіць - ён таксама не ведаў, але па меры таго, як мiналі цёмныя хвіліны ночы, усё мацнела яго нядобрая ўпэўненасць, што гэта - не выпадкова, штосьці там здарылася. Можа, якая мітрэнга, можа, схапілі каго, а можа... А можа, там, на станцыі, ужо адмовілі яму ў даверы і чакаюць. Чакаюць, як зробіць ён з толам, каму перадасць...

Як пачало днець, азяблы і спакутаваны сумненнямі ды марным чаканнем, ён увайшоў у хлеў і на праходзе сутыкнуўся з Марыяй. Тая нерухома ўгледзелася ў яго і нічога ўжо не пыталася - мусіць, сама разумела ўсё.

- Вось такія дзяла, - паныла сказаў ён, абы сказаць што-небудзь.

- А можа, трэба туды аднесці? Перадаць каму? - загаманіла Марыя.

- На станцыю?

- Ну, - сказала яна. - Гэта ж недалёка. Адразу за мястэчкам.

- Панімаеш, я нават не ведаю... Я ж там ніколі не быў.

- Давай я збегаю. Каму там аддаць, ты знаеш?

- Знаю. Толькі... панімаеш...

Ён абсалютна не ведаў, як аднесціся да гэтай яе гатоўнасці. Канечне, у нейкай ступені гэта было для яго выйсце, якое, аднак, нараджала і некалькі новых, таксама няпростых праблем, галоўнай з якіх была рызыка, што цяпер перакідвалася і на Марыю.

- А калі паліцыя? - сказаў ён.

- Ну і што - паліцыя? Толькі б на Драздзенку не нарвацца. А іншыя, што яны мне?

- Ой, ой, Марыя... Не, яшчэ пачакаем. Можа, хто ранкам прыйдзе. Усё ж ноччу каменданцкі час...

У халодным світальным тумане яны перабеглі мокрым дваром на кухню, Марыя палезла на гарышча, а Агееў застаўся ўнізе. У галаве яго ўсё гуло ад бяссоннай ночы, цела аслабла, думкі вяла і бязладна варушыліся вакол аднаго і таго ж у пошуках выйсця. Усе ягоныя намеры зблыталіся, ён не ведаў, як зрабіць лепей. Чакаць? Даверыцца часу? Выпадку? Ці ўзяць у дапамогу Марыю? Але ж Марыя - чалавек староннi, хіба ён мае права ўцягваць яе ў такую сур'ёзную і рызыкоўную справу? Але і самому брысці на станцыю?.. Усё ж на ім замыкалася некалькі ланцугоў сувязі, ці мог ён так легкадумна рызыкаваць сабой? І тым самым ставіць пад пагрозу гэтую не ім наладжаную сувязь? Разумней было б рызыкнуць кім-небудзь іншым - іншым заўжды рызыкаваць зручней, са зласцівай іроніяй падумаў Агееў. Але - Марыя... І ці разумее яна, ці здагадваецца, якое «мыла» ў гэтай торбіне? І ці можна яму ўсё ёй патлумачыць, ці не лепш, каб у такой сітуацыі яна нічога не ведала.

А калі яе схопяць?

Не, рашыў ён, калі пасылаць Марыю, дык трэба ёй усё растлумачыць, ён не мог гуляць з ёю ў хованкі. Усё ж гэта гульня са смерцю, дзе стаўка - жыццё. Той, хто робіць гэтую стаўку, павінен выразна сабе ўяўляць, чым рызыкуе, інакш гэта будзе ашуканствам, подласцю з ягонага боку. Так ён не мог. Усё ж ён чакаў увесь гэты ляніва-світальны ранак, прыслухоўваючыся да глухіх гукаў знадворку - выпадковых галасоў з суседніх двароў, кудахтання курыцы за плотам. З кухоннага акна было відаць, як па вуліцы ў мястэчка пратупала немаладая цётка ў вялікай, напятай на плечы хустцы, яна несла ў абедзьвюх руках чымсьці накладзеныя кашолкі, і ён здагадаўся: відаць, на кірмаш? Здаецца, сёння была нядзеля, каля царквы збіраўся кірмаш, штось прадавалі там, штосьці куплялі. Зрэшты, Агееў там ні разу не быў,

чуў толькі, расказвала Марыя.

- А што, калі вось гэтак - у кашолцы?

Ён пашукаў позіркам па кутках кухні, па сценах, зірнуў пад стол. Не, прыдатнай пасудзіны тут не было, бульбу звычайна капалі ў старое бляшанае вядро з дзвюма дзіркамі ў дне... І ён раптам прыпомніў, што на гарышчы за комінам сярод іншага ламачча валялася нейкая кашолка. Тая, мабыць, згадзілася б... Ён таропка ўзлез на гарышча, перш чым пралезці ў лаз, зірнуў пад акно на пасцель, позіркам сустрэўся з Марыяй. Тая не спала, ляжала на баку, захінуўшыся ў стракатую коўдру, і ў яе вачах свяцілася штосьці далёкае адсюль і ад ягоных клопатаў. Але трывогі ў іх нібыта не было, дзяўчына неяк хуценька супакоілася, адышлася ад сваіх нядаўніх яўных і надуманых страхаў. Неспакой цяпер цалкам перайшоў да яго, і Агееву было нялёгка ўтаіць яго ад Марыі.

- Ну што? Няма? - заклапочана спытала ў яго дзяўчына.

- Няма.

- А ты што?.. Ідзі сюды. Прыйдуць - пастукаюць.

- Баюся, не прыйдуць.

Ён адразу згледзеў тую кашолку, што адзінока ляжала на смецці сярод непатрэбнага рыззя і ламачча. Гэта была старая, прадаўгаватая пляцёнка з рысавай саломы, пляскатая, з прадраным дном. Але дно можна было чымсьці закласці, а ручкі былі добрыя - дзве тугія почапкі, мабыць для зручнасці абматаныя чырвоным матузом. Сумка была самы раз - звычайная гаспадарчая рэч, у якой можна было насіць што хочаш: рэчы і прадукты, з кірмаша і на кірмаш. Нядоўга памацаўшы яе, Агееў рашуча страсянуў з яе смецце.

- Во для мыла.

- Правільна! Вось я і аднясу, - рашыла Марыя і падхапілася з-пад коўдры. - Калі, зараз аднесці?

Агееў разгубіўся. Яна проста здіўляла яго гэтай легкадумнай гатоўнасцю, хоць і разам вырашала галоўнае ў ягоным клопаце - нічога ёй не трэба было тлумачыць ці тым болей прасіць. Можа, так будзе і лепей, падумаў ён. Аднак усё марудзіў, бавіў час, адсоўваючы той самы апошні момант, калі перадумаць ужо будзе позна. Доўга цягнуць, аднак, было нельга, трэба было карыстацца ранкам, калі на кірмаш і назад ішлі людзі.

- Марыя, тут такая справа, - нерашуча пачаў ён, апусціўшы кашолку. - Мабыць, ты здагадваешся, што гэта такое?

Яна, падобна, здзівілася - не гэтак ягоным словам, як голасу, якім яны былі сказаны - з пакутным пераадоленнем сябе, няпэўным намёкам на штосьці. - А што? - наіўна запытала яна.

- Гэта не мыла. Гэта - узрыўчатка.

- Узрыўчатка?..

Па яе мілым, такім дарагім цяпер яму твары мільгануў цень кароценькага недаўмення ці нават спалоху, але Марыя хутка авалодала сабой і прасветлена, лёгка ўсміхнулася.

- Ну што ж, я паняла. Каму перадаць?

- Марыя, ты ж разумееш, калі пападзешся...

- Усё разумею, не маленькая, - сказала яна і, стаўшы на пальчыкі, пацягнулася да яго, пацалавала тры разы - у абедзьве шчакі і ў лоб. Пасля ўраз адхінулася, узялася за чырвоныя почапкі кошолкі, якую ён усё яшчэ трымаў у сваіх руках. - Дык каму перадаць?

Гэтая кароткая і пакутная размова кінула яго ў жар. Пасля ён марудна змакрэў ад сцюдзёнага поту. Каб толькі ён ведаў, куды пасылаў яе і што будзе за тым... Пасля сотні разоў ён прыпамінаў гэтае расставанне і паспешлівую размову з ёй, яе пацалункі і пагляды, шукаў, што зрабіў не так, што не растлумачыў, забыўся

сказаць галоўнае. Ён ужо адчуў, як штосьці ў ягоных намерах пайшло наўкось, нібы пад адхон, незразумелай фатальнай хадой, але змяніць нічога не мог. Падганялі няўмольны час, хваляванне, і ён аддаўся на волю выпадку, на лёс і... на Марыю.

- Ведаеш, дзе качагарка?

- Ну, за пакгаўзам, здаецца?

- Во там працуе такі Малаковіч. Паклічаш яго.

- Добра. Гэта я мігам. За якую гадзіну, мабыць, упраўлюся. Ты пачакай.

Трошкі дрыготкімі рукамі ён наладзіў кашолку, вокладкай ад старой кніжкі з куфра затуліў дзіравае дно. Пасля пераклаў туды тол. Атрымалася амаль даверху, і Марыя акуратна прыкрыла яго нейкай знойдзенай на гарышчы клятчастай анучкай. Агееў падняў кашолку, паважыў у руцэ - было цяжкавата, але несці можна. Яны злезлі на кухню, трэба было расставацца. Усё ўнутры ў Агеева дробна трэслася, нібы ў гарачцы, душа яго заходзілася ў нямым плачы, і ён ледзьве стрымліваў сябе. Марыя ж, наадварот, знешне была спакойная, трошкі заклапочаная, але жвавая і поўная так нечакана знойдзенай рашучасці.

- Ты як - па вуліцы? - глухім, перацятым голасам запытаўся ён.

- Не, цераз роў. А там у поле і - на станцыю.

- А паліцаяў не стрэнеш?

- Яны больш у мястэчку. Зноў жа, кірмаш сёння.

- Ну, глядзі. Перадасі і адразу сюды. Я чакаю.

- Дзякуй, мілы!

- Чуеш, я цябе чакаю!

Яна зноў пацалавала яго - у куточкі вуснаў - і падхапіла

кашолку. Агееў адразу ўбачыў: цяжкаватая ўсё ж была ёй тая кашолка, але ўжо нічога мяняць не стаў, амаль разгублены выпусціў яе з кухні на двор. Хуткім дробненькім крокам яна пайшла ўздоўж хлява, ля прыбудовак, каля дрывотні азірнулася, махнула яму незанятай рукой і кораценька ўсміхнулася - развітальна-самотнай усмешкай, якую ён запомніў да скону сваіх дзён.

Калі яна схавалася за вуглом хлеўчука, ён марудна, губляючы рэшту адабраных бяссоннем сіл, пратупаў да вуліцы, агледзеўся. Нікога быццам паблізу нідзе не было. Тады, трохі счакаўшы, вярнуўся на кухню і цяжка ўсеўся на скрыпучае крэсла каля стала. Ягоны позірк слізгануў па карціне на сцяне насупраць, якую любіла Марыя, спыніўся на вымытым ёю і прыбраным посудзе акрай стала, што, здавалася, яшчэ хаваў цеплыню трапяткіх яе рук, і яму зрабілася невыносна горка. Ён сядзеў так доўга, невідушчым позіркам тупа ўставіўшыся ў чыста падмеценую Марыяй падлогу, слухаў. Час адмерваў свае хвіліны - апошнія яго хвіліны спакою ў гэтым доме, у якіх было чаканне і - надзея. Аднак чаканне яго стала непамерна расцягвацца, нібы пухнуць у часе, запаўняючы сабою свядомасць, паралізуючы волю, і, па меры яго разрастання, меншала, вузела надзея. Мабыць, мінула ўжо абяцаная Марыяй гадзіна, затым скончылася і другая. Аднекуль з-пад стала вылез ягоны Гультай, выйшаў на сярэдзіну кухні, пацягнуўся і сеў, выпрабавальна пазіраючы на Агеева. Што ён хацеў сказаць, гэты стары і мудры кот? І што ён разумеў з таго, што рабілася на душы ў Агеева? Яшчэ праз гадзіну Агееў пачаў ужо думаць, што зрабіў недаравальную памылку, што не трэба было пасылаць Марыю, што ён проста не меў права на тое - ні боскага, ні чалавечага, што трэба было пачакаць або ісці самому. Калі ўжо рызыкаваць, дык рызыкаваць сабой і нікім іншым - гэта была самая сумленная рызыка. А так... Але даўно сказана, што чалавек заўсёды багаты на свой задні розум, калі справа зроблена і дапушчаную памылку ўжо не паправіць, і застаецца адно - прымаць на сябе заўжды суровы і не заўжды справядлівы ўдар лёсу. Часам, калі чаканне Агеева перапынялася

асабліва вострым прыступам нецярпення, ён ускокваў з крэсла і пачынаў хадзіць па кухні - ад парога да дзвярэй у кладоўку - пяць крокаў туды і пяць назад. Балела нага - у сцягне і калене, мабыць, трэба было папраавіць павязку, але ён ужо не звяртаў увагі на боль і на рану - ён хадзіў да знямогі, не перастаючы ўслухоўвацца ў гнятлівую цішыню сядзібы. Часам яму здавалася: ідзе, быццам бы чутныя рабіліся крокі ў двары, але дзверы не адчыняліся, і ён разумеў, што памыліўся. І зноў пачынаў чакаць - напружана, нервова, насуперак прадчуванням, а затым і наперакор усякаму сэнсу. Ён не заўважыў, як мінуўся ранак і хмарны восеньскі дзень неўпрыкмет перайшоў у яшчэ болей пахмурны вечар, і чакаць чаго добрага ўжо было недарэчы. Але ён чакаў. Яшчэ ён мог бы, напэўна, уцячы з сядзібы, схавацца ў рове, наогул пакінуць мястэчка, але ж ён сказаў ёй, што будзе чакаць тут. І ён чакаў. Ён перадумаў рознае: і спадзяваўся, і развітваўся з ёю, і зноў аддаваўся надзеі, і сам ужо расставаўся з усім белым светам. Але - чакаў.

Дзіўная справа, калі яна была побач усе гэтыя дні, тыдні і нават апошнюю ноч, праведзеную разам, ён больш перажываў за свае шматпакутныя справы, сувязь, заданні. Цяпер жа, з тае хвіліны, як разлучыўся з ёю, ён ні пра што іншае, як пра яе, не мог і падумаць, падобна, ён толькі цяпер і зразумеў, якую бяду наклікаў на яе галаву, а ўсё астатняе, што тыднямі дапякала яму, адышлося на другі, задні план. Не тое каб стала другарадным, але адсунулася, здрабнела ў сваёй значнасці, затуленае яе мілым аблічччам, яе развітальнай усмешкай - яе бядой.

Надвячоркам ён ужо выразна адчуў, што прайграў, што дапусціў фатальную памылку, і толькі той факт, што ўсё ж да скону дня да яго ніхто не з'явіўся, даваў яму нейкае апраўданне - не перад Марыяй - перад сэнсам барацьбы, у якую ён быў уцягнуты. Усё ж, мабыць, трэба было праявіць ініцыятыву, паклапаціцца даставіць тол куды было трэба, дзе чакалі яго. Тут сваю задачу ён зразумеў правільна і пастараўся яе выканаць.

Вось толькі якімі сродкамі?

Калі ў кухні нарэшце зусім запанавала вечаровае цемрыва, хваляванне яго дасягнула мяжы. Ён ужо з рашучасцю прыкідваў, куды падацца - на станцыю па яе слядах ці яшчэ раз паспрабаваць знайсці Кіслякова. Можа, трэба было ўзяць пісталет? Усё ж са зброяй было зручней, а галоўнае, болей звыкла. Але ён яшчэ не рашыў, куды ісці, як раптам ад вуліцы пачуліся крокі - тупаценне многіх мужчынскіх ног па камянях падворка, пад клёнам матлянуўся доўгі і вузкі, бы нямецкі цясак, прамень з ліхтара. Гэты прамень затым ударыў праз аконнае шкло на кухню, рэзка высвеціў стол і прыкрыты на ім посуд, чорны цень ад яго лёг на аблезлую шпалеру сцяны. Агееў інстынктыўна падаўся да кладоўкі, але спыніўся і стаў. Дзверы ўжо расчыняліся, дыхнуўшы на яго вулічнай сцюжай, і два пукі электрычных прамянёў зусім асляпілі яго з парога.

- Во ён! І не хаваецца, сука!..

Па голасе ён пазнаў адразу: то быў Драздзенка. Аднак, зусім аслеплены скіраваным у вочы святлом, Агееў нічога не бачыў там, і люты знянацкі ўдар у левае вуха змусіў яго адляцець убок. Ён наткнуўся на паваленае крэсла, але паспеў ухапіцца рукой за рог пліты і ўстаяў на нагах.

- Ах ты б...! Здраднік! Ану, перавярнуць усё дагары нагамі! Абшукаць кожную дзірку! Пахом, дзействуйце! - з лютасцю распараджаўся Драздзенка. - А гэтага - марш у падвал! Ужо я пагавару з ім!..

Усё слепячы яго промнямі з двух ліхтароў, яны таропка аблапалі яго ватоўку, кішані брыджаў, пад пахамі, пасля злосна піхнулі ў насцеж расчыненыя дзверы, і ён з амаль заплюшчанымі ад святла вачамі слепа патупаў знаёмым падворкам да вуліцы...

## Раздзел шосты

Пасля пахавання Агееў у сумнай адзіноце сядзеў над сваім абрывам, аддаваўся малавясёлым думкам, як раптам згледзеў на дарозе ля могілак Шурку з Артурам.

Апранутыя ў летнія безрукаўкі з моднымі лацінскімі надпісамі на грудзях, у кароткіх штанах, хлапчукі, яўна спяшаючыся, кіравалі да яго на пагорак, і Агееў зразумеў: на гэты раз у іх была справа. Яно так і сталася.

- Вас там просяць прыйсці, - яшчэ здалёку задыхана паведаміў Шурка.

- Хто просіць? - здзівіўся Агееў.

- Ну там, на памінкі.

- Ага. Дзядзька Еўсцігнееў сказаў, - пацвердзіў Артур.

«Во як!» - трохі здзіўлена падумаў Агееў. Гэты адстаўнік, які нядаўна яшчэ на цэлы дзень сапсаваў ягоны настрой, цяпер запрашаў яго на памінкі. Канечне, лішні раз сустракацца з ім у Агеева не было вялікага жадання, але ўсё ж памінкі былі па Сямёну, і ён падумаў, што трэба пайсці.

- А дзе гэта?

- Ды тут, недалёка. Мы пакажам, - прыжмурыўся пад нізкае сонца Шурка. - Ідзёмце...

Што ж, надта збірацца не было патрэбы, наогул Агееў быў унутрана гатовы да таго і, цяжка падняўшыся, пайшоў па адхоне за хлопцамі. Капаць сёння ўсё роўна ўжо не было настрою, і ён падумаў, што, можа, лепш будзе пасядзець з людзьмі за агульным сталом, памянуць чалавека. Аднагодкі ўсё ж.

Хлопчыкі хутка беглі ўзбочынай вуліцы, зрэдзьчасу азіраючыся на цяжкаватага такі ў хадзе Агеева, за мастком павярнулі ў зарослы дзядоўнікам завулак, пералезлі самі і пачакалі, пакуль пералезе ён цераз жэрдку невысокага плота, затым сцежкай па краі бульбы выйшлі на незнаёмую вулічку паблізу ад узроўка. Зады тутэйшых сядзіб, як і на яго Зялёнай, упіраліся ў аўражныя зараснікі, над якімі велічна ўзвышалася некалькі вязаў - гэтаксама, як некалі па-над сядзібаю Бараноўскай. Тут, у новым, нядаўна

зрубленым дамку са стромкім вільчыкам і насцеж расчыненымі вокнамі, чуўся стрыманы гоман; у двары стаяла некалькі мужчын і жанчын, гэтыя або маўчалі з журбою на тварах, або скупа перамаўляліся каля паркана. З хаты якраз насустрач Агееву выйшаў разамлелы ад духаты Еўсцігнееў у сваім нязменным цёмна-сінім гарнітуры, пачаў абмахваць счырванелы твар жорсткім капелюшом з капрону.

- Духата, як у лазні, - проста паведаміў ён. - Ведаеце, пойдзем куды на паветра. Вецер каб...

- А вунь бугарок, - ступіўшы ад паркана, сказаў немалады мужчына ў кірзавых ботах. Еўсцігнееў падумаў, па-начальніцку агледзеўся.

- Правільна, Хаміч! Паклічце там каго… Вунь Скарахода з Панамарэнкам, - кіўнуў ён на двух мужчын, што ціха курылі на траве пад плотам. - Усё-такі ветэраны.

- І гэтага прыхапіць, ага? - з намёкам запытаў Хаміч, і Агееў пазнаў у ім чалавека, які на могілках нёс падушку з Сямёнавымі ўзнагародамі.

- Як хочаце, - махнуў Еўсцігнееў. - Пайшлі, таварыш Агееў.

Усё махаючы на сябе капелюшом, ён гаспадарскім крокам нетаропка пайшоў па падворку, каля хлявоў і дрывотні, гучна крэкнуўшы, падлез пад жардзіну ў гарод. Утаптаная сцежка між градак бегла ўніз, да рова, Агееў спаважна ішоў следам.

- Вы гэта, таварыш Агееў, думаю, не пакрыўдзіліся на нас? - не паварочваючы да яго галавы, запытаў Еўсцігнееў. - Ну, за праверачку! Ведаеце, сігнал быў, а сігналы мы далжны правяраць.

- Ды не, я нічога, - сказаў Агееў. - Яно панятна.

- Ну і добра. А то некаторыя, ведаеце, крыўдуюць. Крытыка, яна, ведаеце, асабліва для маласвядомых...

Агееў змоўчаў, іранічна падумаўшы, што ўсё ж вось не

трапіў у разрад маласвядомых. І то добра.

- А нябожчык і да вас наведваўся? - між тым прадаўжаў Еўсцігнееў. - Наўродзе сябры былі...

- Ды так, знаеце...

- Ну, а мы тут з ім дзесяць гадоў... Яшчэ як я ваенкомам быў.

- Тут - ваенкомам? - перапытаў Агееў.

- На працягу раду гадоў, - з важнасцю ўдакладніў Еўсцігнееў. - Да выхаду ў адстаўку.

Яны перайшлі праз гарод і яшчэ раз адолелі плот - не дужа спрытна пераваліліся цераз яго верхнюю жардзіну - і апынуліся на ўзроўку. Невялічкі прыгорак-палянка з дробнай травой у цяні бухматага маладога дубка быў трохі ўтаптаны людскімі нагамі, але яшчэ меў выгляд наогул утульнага месца, адкуль адкрываўся нешырокі маляўнічы від на аўражныя зараснікі і другі, таксама густа парослы хмызняком схіл.

- Во і прысядзем. Цяпер тут добра. І нябожчык, кажысь, любіў сюды забягаць. З дружкамі, канечне, - з нязлосным папрокам гаварыў Еўсцігнееў, усаджваючыся на прытаптанай траве і з палёгкай выпростваючы караткаватыя, мабыць, не дужа здаровыя ногі ў туга забэрсаных чорных гамашах. Агееў прымасціўся праз тры крокі на ўзмежку.

- Я, ці ведаеце, чалавек прамы. Як і паложана вайскоўцу. Не буду таіць - люблю парадак. А як жа інакш? Ва ўсім павінны быць дысцыпліна і арганізаванасць.

Акругліўшы белаватыя, трохі выпуклыя вочы, ён быццам з некаторым здзіўленнем агледзеў Агеева, і той паспяшаўся згадзіцца:

- Канечне, канечне...

- А ў нас яшчэ непарадкаў вялікае мноства. Асабліва на

перыферыі. Во і нябожчык!.. Нядрэнны чалавек, ветэран і так далей... А парадку не прызнаваў.

- Во як?! - трохі фальшыва здзівіўся Агееў.

- Іменна! Піў.

- Але, ведаеце, цяпер гэта...

- Не, я не супраць. Не падумайце, што я адмаўляю наогул. Атнюдзь! Але і ў выпіўцы павінен быць нейкі парадак. Калі ў суботу, нядзелю... Калі свята якое або дзень нараджэння... Але калі пачаць кожны дзень...

- А ён што - кожны дзень?

- Іменна! І ніякай увагі на грамадскасць. Я ўжо не кажу пра гэты бандарны цэх, дзе ён працаваў. Там яны ўсе такія... Але я сам з ім бяседаваў, можа, разоў з дзесяць...

- І які ж вынік?

- А ніякага! - рашуча махнуў капелюшом Еўсцігнееў.

Цераз плот пералазіў ужо Хаміч з дзвюма бутэлькамі ў адцягнутых кішэнях штаноў. Лісліва ці, можа, вінавата ўхмыляючыся, ён паставіў бутэлькі на траву перад Еўсцігнеевым.

- Хаця вы і проціў, Еўсцігнеевіч, але...

- Я не проціў, - насупіўся адстаўны падпалкоўнік. - Цяпер ёсць прычына, значыць, палагаецца...

- Канечне, канечне, - таропка пагадзіўся Хаміч і звярнуўся да Агеева: - Нябожчык таксама не проціў быў. Колькі мы з ім тут прабяседавалі!..

- Ды і ты недалёка ад яго адышоўся, - строга перапыніў яго Еўсцігнееў.

- Што зробіш! Такая наша судзьба!

Усё таямніча ўсміхаючыся, Хаміч нецярпліва

ашчаперыў бутэльку, вялікімі плоскімі пальцамі пачаў калупаць з рыльца бліскучы металічны каўпачок.

- Што яны перасталі са свінымі вушкамі выпускаць? - паскардзіўся ён. - А то пакуль скалупнеш гэтую бесказырку...

- Нічога, скалупнеш. Калі выпіць захочаш...

- Ды ўжо як-небудзь.

Тым часам праз гарод ужо рупна тупалі нізенькі вяртлявы брунет у сіняй з белымі палосамі на рукавах спартыўнай куртцы і даўгалыгі бландзін у шэрым гарнітуры і дзіўнаватым выразам хударлявага твару. Калі яны падышлі бліжэй, Агееў убачыў, што твар у бландзіна - на адзін бок, левая шчака была ўся зморшчаная, скура на падбароддзі туга напятая, і ўвесь твар нёс выраз спалоху або здзіўлення. Мужчыны прыйшлі пад дубок і селі побач з астатнімі - брунет каля Еўсцігнеева, а бландзін ля Агеева - выцяг у роў свае доўгія, у сандалетах, ногі і выняў з кішэні цыгарэты.

- Курыце?

- Не, дзякуй, - кіўнуў галавой Агееў.

- Ну, а мы закурым, - сказаў ён густым басам і азірнуўся. - Пакуль Жалудкоў закусь нясе.

Цераз плот пералазіў з выгляду худы і невялічкі, але цвёрды, бы ядловец, жвавы чалавек з папяровымі скруткамі ў абедзвюх руках. Ён быў у зялёнай вайсковай сарочцы з цёмным гальштукам, кароценькі хвосцік якога матляўся на яго кастлявых грудзях.

- Во і закусон!

- Ну што ж, сядайце, Жалудкоў. Хаміч, налі патроху, - звыкла распараджаўся Еўсцігнееў, спатнелы мясісты твар якога ўжо трохі астыў у засені. Пакуль Хаміч разліваў, усе глядзелі на дзве скасабочаныя ў траве шклянкі, а Жалудкоў, седзячы на кукішках, разгортваў жоўтую паперу з кавалкамі селядца.

- Значыць, за старшага сяржанта Сямёнава. За ягоную памяць! - абвясціў Еўсцігнееў, падняў шклянку і моўчкі перадаў яе Агееву. Другую шклянку ўзяў Жалудкоў.

- Знаеце, я не магу, - сумеўся Агееў.

- Ну, колькі можаце.

Ён паднёс шклянку да рота, гарэлка ўдарыла ў нос амаль што агідным пахам, і ён апусціў руку. Жалудкоў спаважна, мернымі глыткамі дапіў сваю да канца. Агееў аддаў шклянку Хамічу, які без слоў узяў яе, наліў з бутэлькі спярша суседу Агеева - бландзіну з абпаленым тварам, пасля даліў троху сабе.

- Ну, каб яму там было чым пахмяліцца!

Еўсцігнееў незадаволена хмыкнуў.

- Хаміч, няўжо ты думаеш, што і там гэта самае... як тут. Ніякага парадку. Усё б вам адно і тое ж...

- Не, там парадак! - зыркнуўшы яршыстым позіркам, запярэчыў Жалудкоў. - Там не тое, што тут. Там як у войску!

- Тожа найшоў парадак! - усумніўся Хаміч.

- А ты адкуль ведаеш, як у войску? Ты што, доўга служыў? - настырчыўся Еўсцігнееў.

- У мяне зяць прапаршчык. Начуўся...

- Не гаварыце пра тое, чаго не ведаеце! - адрэзаў Еўсцігнееў. - У войску парадак. А во на гражданцы далёка не заўсёды.

- Ён ведае, - падміргнуў Агееву Жалудкоў. - Дваццаць пяць год адбахаў.

- Дваццаць восем, да вашага ведама. Год вайны лічыцца за два.

- На тваім месцы, Еўсцігнеіч, можна было і трыццаць. Ты ж у штабе сядзеў?

- Ну, у штабе! - падабраўся Еўсцігнееў. - А што думаеш, у штабе лёгка?

- Дужа цяжка, - з'едліва пацвердзіў Жалудкоў і нагнуўся па кавалак сялёдкі. - Паперы заелі.

- А думаеш, не? Колькі мне весці належала? Улік асабовага складу па пяці формах. Перамяшчэнне і перастаноўкі. Журнал беззваротных страт. Страявыя ведамасці. Загады! А матэрыял да ўзнагарод?

- Ага, спіна не разгіналася, - ранейшым тонам сказаў Жалудкоў, жуючы хлеб з селядцом.

- І што ж ты думаеш: было, тыднямі не разгінаўся, - усё гучней сказаў Еўсцігнееў. - У добрага работніка, які хоча выконваць усё, што паложана, заўжды плечы мокрыя. А я ніколі разгільдзяем не быў, можаш быць упэўнены.

Ён абвёў усіх запытальна-насцярожаным позіркам, трохі затрымаўся на Агееве, які з некаторай нават цікавасцю слухаў грубаватую размову гэтых, відаць, даўно і добра знаёмых між сабою людзей. Ён жа тут быў чалавек выпадковы і не спяшаўся судзіць каго ці апраўдваць - хацеў толькі паслухаць, каб зразумець кожнага. Яны выпілі і яшчэ, хаця на гэты раз Агееву ўжо не прапаноўвалі, і ён быў удзячны за тое: піць ён і сапраўды не мог, тым болей гарэлку. Мабыць, пакрыўджаны чымсь Еўсцігнееў расхваляваўся і гаварыў, ні да каго не звяртаючыся:

- Некаторыя думаюць, што толькі яны і ваявалі. Калі ён там лётчык, дык ужо і герой! Але ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны чорным па белым напісана, што перамога здабыта сумеснымі высілкамі ўсіх радоў войск...

- Гэта мы чулі, - адмахнуўся Жалудкоў.

- Не, Еўсцігнеіч кажа праўду, - раптам уставіў паўнаваты брунет. - Мы гэта недаацэньваем.

- Што недаацэньваем? - раптам напяўся Жалудкоў. - Ты,

Скараход, кім на вайне быў?

- Ну ваенным журналістам. А што?

- Журналістам? У якім гэта ты журнале тады пісаў?

- Не ў журнале, а ў газеце гвардзейскай паветранай арміі.

- А ты што - лётчык? - не сціхаў Жалудкоў.

- Я не лётчык. Але я пісаў пра ўсё, у тым ліку і пра лётчыкаў.

- Дык як жа ты пра іх пісаў, калі сам не лятаў?

- З зямлі лепей відаць, - хітра падміргнуў Хаміч.

- А што ж, бывае і лепей, - сур'ёзна адказаў Скараход. - Знаеш, каб ацаніць яечню, не абавязкова самому несці яйкі.

- Яйкі! - усхапіўся Жалудкоў і нават прыўстаў на каленях. - Вось бы цябе ў стралковы ланцуг. Ды пад кулямётны агонь! Ты ведаеш, што такое кулямётны агонь? Ты не ведаеш...

- Навошта мне ведаць? Ты ж усё ведаеш...

- Я-та ведаю. Я ж камандзір кулямётнай роты. Кулямётны агонь - гэта агняны тайфун! Гэта канец свету! Во што такое кулямётны агонь! - выпаліў Жалудкоў і павёў над галовамі слухачоў нейкім дзіўнаватым, амаль адсутным позіркам.

Нязгодна паёрзаўшы на сваім месцы, Еўсцігнееў сказаў:

- Ну, дапусцім, ёсць рэчы, страшнейшыя за твой кульагонь.

- Няма нічога страшней. Я заяўляю!

- Ёсць.

- Напрыклад?

- Напрыклад, бамбёжка.

Жалудкоў амаль па-дзіцячы свіснуў.

- Я думаў, ты скажаш - начальства! Для штабнікоў, мабыць, самы вялікі страх на вайне - начальства.

- Не! - рашуча махнуў рукой Еўсцігнееў. - Калі афіцэр дысцыплінаваны і дбае пра сваю службу, яму няма чаго баяцца начальства. А во бамбёжка - сапраўды...

Утаропіўшы позірк у Еўсцігнеева, Жалудкоў зноў прыўстаў на каленях.

- А што, апроч бамбёжкі, ты бачыў там, у сваіх штабах? Артылерыя да вас не даставала, мінамёты таксама. Снайперы вас не турбавалі. Шасціствольныя не дакідвалі. Адно што - бамбёжка.

- Ты гэтак кажаш, нібы сам вайну выйграў, - знарок расцягваючы словы, загаварыў Скараход. - Падумаеш, герой!

- А я і герой! - з прастадушным здзіўленнем сказаў Жалудкоў. - Я ж пехацінец. А вы ўсе - і ты, і ты, і вунь ён, вы ж усе толькі забяспечвалі. І скажу вам - кепска забяспечылі...

- Гэта чаму кепска? - настырчыўся Еўсцігнееў.

- Ды таму, што я шэсць разоў паранены! Вы дапусцілі. Не падавілі, не забяспечылі. А павінны былі забяспечыць. Як у статутах запісана.

Стаяць на каленях яму было, мусіць, нязручна, і ён сеў бокам, падкурчыў кароценькія ногі. Прыкметны цень нязгоды прабег па і без таго маларадасных тварах ветэранаў, і першы на яго адрэагаваў, як і трэба было чакаць, Еўсцігнееў:

- Таварыш Жалудкоў, у арміі кожнаму палагаецца выконваць ускладзеныя на яго абавязкі. Я выконваў свае. Таварыш Скараход свае. І выконвалі нядрэнна. Інакш бы не атрымалі баявыя нагрnative.

- Гэта яму так здаецца, што дасталося болей за ўсіх, - яўна пакрыўджана гаварыў Скараход. - Я хоць не ранены, затое я ў дзеючай арміі прабыў ад званка да званка. Іншы раз наматаешся да знямогі і думаеш: хаця б параніла ці кантузіла, каб паваляцца з тыдзень у санчасці. Дзе там! Працаваць трэба. Трэба рыхтаваць матэрыял, пісаць, правіць. Ды і па матэрыял часцяком трэба было самому ехаць. У акопы, на перадок, у баявыя парадкі. На розныя аэрадромы. А дарогі!.. Не, знаеш, Жалудкоў, калі шэсць раненняў, дык гэта колькі ж месяцаў ты ад перадавой сачкануў?

- А я табе зараз скажу, колькі. Два цяжкія раненні па тры месяцы і чатыры лёгкія па паўтара-два месяцы. Ітаго прыкладна чатырнаццаць месяцаў.

- О, бачылі! - нечакана ўзрадаваўся Скараход. - Чатырнаццаць месяцаў у тыле, калі на фронце кровапралітныя баі! Мне б палову твайго хапіла за ўсю вайну. Ужо выспаўся б!..

- Во, во, - без ранейшага, аднак, запалу сказаў Жалудкоў. - Ды табе б трох месяцаў маіх хапіла. Тых, што я ў гнойным аддзяленні праваляўся. Калі лёгкія выгнівалі ад асколачнага ранення, павесіцца на спінцы койкі хацеў.

Бландзін з абгарэлым тварам, які дагэтуль моўчкі сядзеў ля Агеева, працягнуў руку да паваленай у траве шклянкі і сказаў з папрокам:

- Ды хопіць вам! Знайшлі з-за чаго сварыцца. Давайце яшчэ нальём. Хаміч, чаго спіш?

- Я заўжды, калі ласка, - страпянуўся Хаміч.

- Не адны мы ваявалі. Во і таварыш, напэўна, тожа. Прабачце, не ведаю вашага імя па бацьку, - ветліва сказаў сусед Агееву, і левая шчака яго скасабочана нацягнулася скурай.

- Ды проста - Агееў.

- Былі на фронце ці ў партызанах?

- І на фронце, і ў партызанах, - сказаў Агееў. - Усюды патроху.

- На гэтай вайне і патроху можна было добра ўхапіць. Я вунь за паўгода чатыры танкі змяніў. Пасля чацвёртага ўжо не паспеў: вайна скончылася.

- Гарэлі?

- І гарэў, і падрываўся. Усё было.

- Камандзірам ці механікам? - пацікавіўся Агееў.

- Ён у нас па мехчасці, - сказаў Жалудкоў. - І цяпер шафёрыць у Сельгастэхніцы.

- Значыць, пайшла на карысць франтавая вывучка, - сказаў Агееў.

Жалудкоў падхапіў:

- І Скараходу вунь таксама прыгадзілася. Ды яшчэ як! Да рэдактара газеты дайшоў. І цяпер яшчэ нягштатны ў абласной нашай.

- А табе зайздросна? - зыркнуў на яго Скараход.

- А мне што! Мая спецыяльнасць пасля вайны кату пад хвост. Я - куды пашлюць. Дзе толькі не быў...

- А цяпер дзе? - запытаўся Агееў.

- Цяпер бандарным цэхам камандую. У прамкамбінаце. У мяне ж і Сямёнаў рабіў. Да апошняга свайго дня. За станком і сканаў - клёпкі спушчаў.

- Знаю, - сказаў Агееў. - Тожа чалавек нялёгкага лёсу. Трохі расказваў.

- Мабыць, не ўсё расказваў. А як восем гадоў белых мядзведзяў пасвіў, не расказваў?

- Гэтага не.

- Гэтага ўжо не раскажа... Панёс з сабой.

- Кожны чалавек нешта ўносіць з сабой, - глыбакадумна зазначыў Скараход. - Чалавек - гэта цэлы свет, пісаў Хемінгуэй.

- Можа, і добра, што ўносіць, - буркнуў Жалудкоў.

Побач незадаволена заварушыўся Еўсцігнееў.

- Не, я не згодны. Няма чаго ўнасіць. Калі ты чалавек чэсны, прыйдзі і раскажы. Калектыў зразумее. І паможа.

- А што, калі на душы такое, што не зразумее? І не паможа? - упарціўся Жалудкоў.

- Тады пракурор зразумее, - заўсміхаўся Хаміч. - Гэты самы панятлівы.

Еўсцігнееў надзьмуўся і раздражнёна загаманіў:

- Ты не скалься, Хаміч! Я дзела кажу, а ты свае жарцікі. Харошы калектыў заўжды зразумее. Нават калі ў чым і памыліўся. І паможа выправіцца.

- Вунь як Сямёну, - ціха кінуў Хаміч.

- А што - Сямёну? Сямён і не думаў спраўляцца. Ён знаў сваю соску сасаць.

- Во таму і сасаў, - сказаў Жалудкоў, - што ніхто не памог, калі трэба было. Ён жа ў цябе рэкамендацыю прасіў? Прасіў. Ты яму даў?

Еўсцігнееў, здавалася, шчыра здзівіўся.

- Як я мог яму даць? Ён з забягалаўкі не вылазіў, скандаліў з жонкай. На грамадскасць не рэагаваў, а яму - рэкамендацыю?

- Э, гэта пасля ўжо - забягалаўка і ўсё іншае, - сказаў Жалудкоў. - А тады ж ён яшчэ і не піў. Тады ён хату стаўляў, во гэтую самую. І ты не даў таму, што ў яго там, у дзеле, нешта значылася. З вайны.

- Ну, хоць бы і так. Хоць бы і значылася. Тым болей я не

мог даць.

- Надта пільны!

- А як жа! Як жа інакш? Гэта мой абавязак.

- Аднак жа Шараваравy даў. Мальады, актыўны. Пад судом і следствам не быў, на акупіраванай тэрыторыі не пражываў. Не п'е, не курыць. Ліха камандуе райзагам. А што ён ужо тады спекуляцыяй займаўся - пра гэта ж у дзеле не напісана. Во ты і даў. А праз год яго выключылі і судзілі. І што ты? Счырванеўся?

- Ведаеце, таварыш Жалудкоў, вам болей піць сёння нельга. Я забараняю, - падумаўшы, холадна сказаў Еўсцігнееў і рашуча згроб бутэльку з рэштай гарэлкі. - Хопіць! Вы шальмуеце старшага афіцэра. Усё ж я падпалкоўнік, а вы - капітан.

- Ужо зняты з уліку, - нечакана ўсміхнуўся Жалудкоў. - Так што спазніўся.

- З чым спазніўся?

- З павучаннем!

- Во дае! - шчыра рагатнуў Хаміч. - Во дае!

- Нічога падобнага! Гэта ўжо п'янка. Вы забыліся, нашто сышліся.

Сказаўшы тое, Еўсцігнееў з натугай падняўся на ногі і з бутэлькай у руках патупаў да плота.

- Пакінь хоць бутэльку, будзь чалавек! - крыкнуў Жалудкоў, але Еўсцігнееў не азірнуўся нават. Трохі пасядзеўшы, моўчкі ўскочыў і Скараход, пабег за падпалкоўнікам. Жалудкоў паморшчыўся і перасеў на яго, мабыць, болей зручнае месца.

- Ну, і чорт з імі! Пакурым на прыродзе. Прахарэнка, дай цыгарэту, - сказаў ён амаль спакойна.

Яны закурылі ўтрох, памаўчалі. Хаваючы ў кішэню

цыгарэты, Прахарэнка памяркоўна заўважыў:

- Не трэба было яго чапаць. Даваў, не даваў, каму даваў - якое нам дзела.

- Яму ж да ўсяго ёсць дзела. Надта актыўны.

- Ды ён няшкодны, - уставіў дабрадушна Хаміч. - Шабуршыць, ды ўсё без толку. Цяпер сядуць са Скараходам у шахмацікі.

- Ды ну іх, гэтых шчалкапёраў, - зноў нервова загаманіў Жалудкоў. - Не паважаю такіх! І на вайне не паважаў. За што іх паважаць? Бывала, калі якая аперацыя намячаецца, тэрміны ж заўсёды малыя, дык гэтыя штабы ўвесь час на сябе і сцягнуць. Месяц з паперамі возяцца, графікі малююць, перарабляюць, утрасаюць і ўзгадняюць. Пасля ніжэй спускаюць, зноў чэрцяць і малююць, дакладваюць і ўзгадняюць. А прыйдзе нарэшце такі план да таго, каму яго крывёю выконваць - у полк, батальён, - тэрмін і скончыўся. Камбату няма калі на мясцовасць зірнуць, дзе наступаць будзе, - да атакі гадзіна засталася. Ну, гэта правільна?

- Паперы, яны і на вайне - немалаважнае дзела, - задумліва сказаў Прахарэнка.

- Яны, аднак, супакойваліся. Жалудкоў ужо не зыркаў вакол напружаным паглядам. Прахарэнка быў наогул спакойны, а на старэчым, у зморшчынах твары Хаміча раз за разам з'яўлялася амаль дураслівая дзіцячая ўсмешка.

- І гэты Скараход, ужо два гады на пенсіі, а глядзі ты, гонару колькі! У паветранай арміі ваяваў! - успомніў Жалудкоў.

Прахарэнка сказаў:

- Цяпер што! А во паглядзеў бы ты на яго, як ён дэмабілізаваўся ў пяцьдзесят пятым! Блакітны кант, фуражка з крабам над казырком, усё лётчыкам называўся. Аўтарытэт быў, ого! На ўсё мястэчка адзін лётчык. Уладкаваўся ў абласную газету сабкорам. Усё

пра дасягненні пісаў. І загалоўкі якія: «На фронце ўборачнай страды», «Бітва за ўраджай», «Атака на безгаспадарчасць»... Ці бачыў ён хоць раз за вайну атаку...

- Ладна, ну іх! - махнуў рукою Хаміч.

Але цяпер, хоць і спазнела, мабыць, захацелася выказацца і Прахарэнку.

- На фронце пад Сандамірам адзін такі прыехаў у брыгаду. Далі яму ў штабе спісы перадавікоў, і ён кажа: «Хачу сам у танку паехаць». У атаку, значыць. Ну, камбат кажа: «Прахарэнка, возьмеш карэспандэнта». А ў нас быў некамплект, радыста параніла. Праўда, і рацыя не працавала, толькі кулямёт. Так што вольнае месца. Надзеў ён шлем, усеўся, паехалі. Немцы як пачалі балванкамі лупіць, толькі акаліна ад сцен ляціць, пасажыр наш сцяўся, разгубіўся, бадай што «мамачка» закрычыць. А пасля нас падбілі на мінным полі, каля першай траншэі. Добра, не загарэліся, але маторную групу раскурочыла здорава. І гэты друг першы - у ніжні люк. Лейтэнант Агурцоў крычыць: «Стой, сядзі!» Бо куды ж лезці, з траншэі адразу падстрэляць. А так, можа, яшчэ што-небудзь і выседзім... Яшчэ па нас некалькі разоў балванкамі ўрэзалі, праламалі браню, здорава брашнёра ранілі. Брашнёр крывёю сплывае, а мы сядзім. Таму што няма куды лезці - верная смерць пад такім агнём, ды і гэтага друга ледзь стрымліваем. Башнёр надвячоркам памёр. Дасядзелі да ночы, па адным выбраліся, з горам напалам дапаўзлі да сваіх, і пасажыр наш наўпрасткі ў санбат - нервовае патрасенне. А мяне ранічкай у другую «трыццацьчацвёрку» перасадзілі, зноў рычагі ў рукі і - упярод, за Радзіму.

- Гэта што, танк - усё ж браня, - паказваючы нездаровыя зубы і зганяючы з твару наіўную ўсмешку, пачаў Хаміч. - А во як у нас, у партызанах... Вясной сорак чацвёртага, як прарыў быў, ага... Вырваліся, ды на ўсе. Некаторыя не паспелі - захлопнуў ён той калідор. І ўзяў у кальцо. Ды як пачаў па пушчы ганяць, разрыўнымі хрысціць, толькі трэск стаіць. Ну, адстрэльваліся, бегалі, кідаліся

сюды-туды, і засталося нас з гулькін нос, два дзесяткі хлопцаў, амаль усе параненыя. Ноччу, як трохі ўціхла, перасядзелі ў балоце, раніцай вылезлі - куды дзявацца? А ён ланцугамі пушчу прачэсвае, усё абстрэльвае, куды не дастане - аганьком! Ну, знайшліся ў нас некаторыя, кажуць: на елку ўзлезці. Елкі густыя, знізу нічарта не відаць, во хлопцы і паўзлазілі, дзягамі да ствалоў папрывязваліся, каб не зваліцца, значыць, - доўга сядзець сабраліся. Я тожа ўзлез высока, прывязаўся, сяджу, гойдаюся на ветры - любата! Але чую: ужо затрашчала, ідзе ланцуг, значыць. І тут чую - аўчаркі! Э не, думаю, ад гэтых не схаваешся. Каменем уніз, яшчэ бок да крыві абадраў, і - дай бог ногі! Бегаў ад тых ланцугоў і так і сяк, зноў ноч на балоце адседзеў, пад вываратінай хаваўся, ля дарогі ў пыльнай канаве паўдня праляжаў, усё ж неяк выкараскаўся. Калі ачапленне знялі. Затым на фронт трапіў, ва Ўсходняй Прусіі адваяваўся. Восенню сорак пятага па першай дэмабілізацыі прыходжу дамоў (я ж з Ушацкага раёна), чую, нехта расказвае: у Селіцкай пушчы шкілеты на елках вісяць. Неяк выпадкам заехаў. Сапраўды, вараннё каркае, кружыць, прыгледзеўся, знаёмыя мясціны. А на елках белыя костачкі праз голле блішчаць, рамянямі папрывязваныя, некаторыя з вінтоўкамі нават. Знімалі пасля, хавалі...

- Ну, а як жа ён іх усё ж згледзеў - на елках? - запытаўся Агееў.

- У тым-та і справа, што ён нічарта не згледзеў - аўчаркі! Тая сцерва ўчуе, падбягае да елкі і брэша. Ну, аўтаматчык падыходзіць і - чаргой угару, па голлі. Ну, і крышка! Каторыя адразу забітыя, каторыя параненыя, самі пасля даходзяць. Але ж прывязаны, не ўпадуць. За паўтара года вараннё абгладала...

- Да-а, - сказаў Жалудкоў. - Было дзела! Ды ну яго к д'яблу! Во нахлынула праз Сямёна гэтага. А так я і ўспамінаць не хачу... Харошае надвор'е, рыбалка. Хутка грыбы пачнуцца.

- А па грыбы туды і дагэтуль не ходзяць - усё замініравана. Колькі пасля вайны пападрываліся! - не

мог спыніць успаміны Хаміч.

Агееў ціха сядзеў на траве, пакорліва слухаючы то ўсхвалявана-зласлівыя, то ўціхаміраныя і невясёлыя, аднак, размовы ветэранаў, і ўнутры ў яго ўзнімалася трошкі нават зайздроснае пачуццё да іх - яму такой вайны не дасталося. Яму выпала іншая, пра якую і расказаць гэтак вось шчыра, як расказвалі гэтыя людзі, не адразу наважышся. Ён і не расказваў нікому, доўгія гады насіў усё ў сабе. Хіба што-колечы сказаў жонцы пра сваё нядоўгае партызанскае жыццё, у якім для яго было мала цікавага, бо на заданні ён не хадзіў - плавіў на базе пол, рыхтаваў узрыўчатку. Пасля вызвалення ў сорак чацвёртым яго як спецыяліста паслалі ў артзабеспячэнне, дзе ён свету не бачыў за штабелямі мін, снарадаў, патронаў, гранат, пагрузкай і выгрузкай, справаздачамі і ўлікам. А колькі клопату было з транспартам, якога заўжды не ставала. Але гэта звычайныя клопаты, якіх процьма ў кожнага забеспячэнца або гаспадарніка. Хоць бы і на вайне.

- Вы ўжо на пенсіі? - запытаўся Агееў у Хаміча, які тут здаўся яму самым старым, апроч хіба Еўсцігнеева. Хаміч нязгодна смыкнуў рэдкімі брывамі.

- Раблю. Ваабшчэ мог бы ісці, але, ведаеце... Грошы трэба.

- Ён у нас многасямейны, - сказаў Прахарэнка. - Бацька-герой!

- Ну. Пяць дачок, восем унукаў. Мусіш рабіць, памагаць трэба.

- А што, у дачок мужыкоў нама? - запытаўся Агееў.

- Ёсць, чаму! Адна толькі ў разводзе. А так зяці, усё як мае быць. Калі ўлетку наедуць - цэлы ўзвод. Аж гул у хаце стаіць. Ну, і трэба даць кожнай: сальца, кілбас, вясковага масліца - гарадскія цяпер падабаюць. Гародніны таксама. Ну, яблыкаў, грыбкоў, варэння. А затым трэба і паслаць! Адна каапературыўную кватэру будуе, другая машыну купляе. Трэцяя прадаўшчыцай у

Мінску рабіла, недастача выйшла, трэба пакрыць, бо ў турму сядзе. Усё трэба.

- Панятна, - задуменна сказаў Агееў, а Жалудкоў растлумачыў проста:

- Паразіты яны ў цябе, Хаміч. І дочкі, і зяці твае.

Цень заклапочанае нязгоды прабег па добразычлівым Хамічовым твары.

- Ну, чаму - паразіты? Цяпер ва ўсіх так. Валакуць з вёскі ў горад. Што толькі можна. Во ў Прахарэнкі адзін сын, а што - ён меней за маіх дачок цягне?

- Не меней, - трасянуў сівой галавой Прахарэнка. - Трэцяя жонка, аліменты, што ж застаецца. Прыходзіцца.

- Нам хто калі так дапамагаў?

- Ну, мы - іншая справа, - адразу пазмрачнеў Прахарэнка. - У нас іншае жыццё было. Можна сказаць - не было ніякага. Адна пагібель! Хай цяпер гэтыя жывуць. Пакуль вайны няма.

- Во-во! Пакуль няма вайны, - падхапіў Хаміч. - А то як лясне гэты атамны грыб, дык нічога і не застанецца. Кажуць, што адны мурашы толькі выжывуць. І то яшчэ невядома, навука сумняваецца.

- Ну, лясне, дык лясне, тут ужо нічога ад нас не залежыць, - загаварыў Прахарэнка. - Але я так думаю, пакуль мы таго дачакаемся, палавіна з глузду з'едзе. Хаця б ад гэтага жывадзёрства ў эфіры. І яшчэ ад гарэлкі. Вы чулі, учора Грыбанаў сына з ружжа застрэліў - шафёра з нашай аўтабазы.

- Гэты пенсіянер? Што ў райфо працаваў?

- Той самы. Сын выпіць не даў, без апахмелкі пакінуў, бо сам выпіў. Ну, і той у яго - з ружжа. А затым і сябе з другога ствала.

Яны ўсе змоўклі, уражаныя гэтай навіной, і Агееў хвіліну самотна пазіраў на аўражныя зараснікі. Роў быў развалісты, глыбокі і маляўнічы, як і сорак гадоў назад, а можа, і яшчэ больш, чым тады, - густое, ужо кранутае восеньскай жаўцізной голле кашлатых дрэў знерухомела ў вечаровай цішы - кожнае дрэва асобна ад іншых, сярод маладняку і драбналесся; сонца свяціла збоку і ярка высвечвала той, другі схіл рова да абрывістай крутой павароткі; гэты ж, аўражны бок - высокі і стромкі - амаль увесь цямнеўся ў засені. Угары, у дубовым суччы над імі, шорхнуўшы жорсткай, бы бляшанай, лістотай, пырхнула нейкая пташка, піскнула раз-другі і паляцела ў роў. Нядоўга падумаўшы, Прахарэнка сказаў:

- Я так мяркую, не дажывём мы да гэтага грыба, і на тым вялікае дзякуй. Вось лёг у зямлю Сямён, там жа хутка ляжам і мы. Усе гэтыя жахі будуць без нас. Яшчэ нам пазайздросцяць.

- Яно-та так, - журботна ўздыхнуў Хаміч. - Унукаў шкада!

- Гэта праўда, гэта канечне...

Жалудкоў раптам падхапіўся, далоняй абтрос на каленях штаны.

- Ладна! Ну вас з вашымі размовамі. Паслухаеш - ужо цяпер гатоў пазайздросціць Сямёну. Трэба яшчэ выпіць.

Ні з кім не развітаўшыся, ён палез цераз плот у гарод, і Прахарэнка з Хамічом пераглянуліся.

- А, знаеш, праўду кажа, што знычыць - кулямётчык! - падміргнуў Хаміч і таксама падняўся. За ім устаў даўганогі Прахарэнка, мякка сказаў Агееву:

- Можа, пойдзем? Шчэ прымем па адной за Сямёнаву памяць.

Агееў развёў рукамі.

- Ды не... знаеце. Я не таго... Не ў каня корм.

- Ну, як хочаце.

- Дзякуй, - сказаў ён. - І дай бог вам здароўя, добрыя людзі. І трошкі яшчэ пажыць на гэтым свеце. Я тут, ведаеце, па ўзроўку прайдуся. Надвор'е харошае...

- Ну што ж, яно можна, - пагадзіўся Хаміч.

Пасялкоўцы развіталіся, таропка падаўшы Агееву шурокія рукі з цвёрдымі вузлаватымі пальцамі, і палезлі ў гарод. Агееў праводзіў іх раптам затуманеным паглядам і нетаропка пабрыў па ўзроўку пад суцэльнай сцяной драбналесся, шукаючы якой-небудзь сцежкі. Павінна ж яна недзе быць, гэтая сцежка, якая, думалася яму, яшчэ раз выведзе яго да пустога падворка Бараноўскай - застаронка, гарышча і Марыі - да яго даўняга страшнага мінулага...

Ляжаць было жахліва нязручна - мала, што цвёрда на няроўным каменным доле, дык яшчэ і не было куды выпрастаць ногі, якія ўвесь час упіраліся ў сцяну. Агееў не ведаў, што гэта было - карцэр, які ізалятар ці проста цесны закутак у царкоўным склепе, куды яго прывялі ноччу два маўклівыя канваіры з ліхтарыкам. Тут нікога болей не было чуваць, не далятала ніводнага гуку знадворку, і Агееў падумаў, што ён тут адзін. Спярша ён сядзеў, прыхінуўшыся спіной да сцюдзёных камянёў сцяны, потым устаў, пастаяў, зноў сеў. Пасля ўсяго перажытога за дзень уладарна даймала стома, хацелася легчы, ды ляжаць можна было хіба падкурчыўшы ногі. Але ў такім стане ногі нясцерпна нылі ў каленях, асабліва левая, хворая нага, ён увесь час варочаўся, вырушыў імі, хваравіта шукаючы лепшага месца, якога тут не было. Пакутуючы, ён чакаў, што яго павядуць на допыт або расправу - усё ж павінен Драздзенка спрабаваць з яго нешта выцягнуць перш, чым яго расстраляюць або павесяць. Але ішоў час, пакутна нылі на камянях яго косці, ад стомы звінела ўвушшу, а па яго ніхто не ішоў. І ён думаў, пакутаваў у неспакойным чаканні, шукаў прычыны свайго правалу, хоць шукаць ён мог, толькі мяркуючы і згадваючы без жаднае пэўнасці.

Галоўнае і самае жахлівае для яго было, аднак, зразумела: Марыя папалася. Яны яе ўзялі, мабыць, з яе ношай. Але як яны даведаліся пра яго? Выдала Марыя - прагаварылася, назвала? Канечне ж, магчымасцей дамагчыся, чаго ім хацелася, у іх хапала, тым больш ад такога нявопытнага, зялёнага дзяўчаці, напэўна ж, сілы для таго яны не шкадавалі. Але ўсё ж... Усё ж ён не хацеў верыць, што яна так хутка выдасць яго. Яна не магла яго выдаць, бо яна кахала яго, і такі ўдар з яе боку быў бы для яго страшней за правал, горш за пагібель.

Аднак і нічога іншага ён прыдумаць не мог - пра іхнія адносіны не ведала ніводная душа ў мястэчку - ні суседзі, ні паліцыя, ні нават свае. Як паліцыя магла звязаць яе з ім? Ды ўжо праз некалькі гадзін пасля яе арышту?

Напэўна, там, на сядзібе, яны рабілі вобыск - пераварочвалі ўсё дагары нагамі, як сказаў Драздзенка. Для таго, аднак, ім трэба пастарацца нямала - сядзіба вялікая. Але што яны знойдуць? Хіба парожнюю торбу ад толу, ягоныя дакументы... Ды яшчэ пісталет. Пісталет ён, канечне, дарма схаваў так блізка ад застаронка, усё роўна той не спатрэбіўся, а знойдуць - будзе ўліка. Хаця, як ні дзіўна, цяпер ён не надта перажываў за ўлікі, чамусьці ўсё зрабілася яму абыякавым, ён адчуваў, што галоўнае і самае страшнае ўжо адбылося і нічога паправіць нельга. Цяпер толькі б не дужа білі, толькі б хапіла сілы і волі па-людску скончыць жыццё.

Яшчэ яго турбаваў лёс Малаковіча, ці не праваліўся і ён на гэтай перадачы, калі, не дай бог, Марыю схапілі на станцыі, ля качагаркі. Тады маглі ўзяць абаіх. Можа, і яго зачапілі праз Малаковіча, усё ж пранюхаць аб іхняй сувязі было няцяжка. Маглі і здагадацца. Але дзе Малаковіч? Яшчэ на волі ці таксама сядзіць? Ці, можа, забілі? Усё ж у яго быў пісталет, і калі не пры сабе, дык, мабыць, бліжэй, чым у Агеева. А рашучасці ў гэтага лейтэнанта хапала, Агееў гэта ведаў даўно.

Неяк, аднак, неўпрыкмет для сябе задрамаў на падлозе

- знерухомеў у скурчанай, нязручнай паставе і тут жа прахапіўся, пачуўшы невыразны рух за дзвярыма. Не было сумнення - ішлі да яго, і ён сеў, асільваючы сутаргавы боль у нагах, з натугай расплюшчыў вочы. У камеры ўжо стала відней, аднекуль праз маленькае акенца пад столлю цадзілася цьмянае святло першага ранку. Дзверы рачыніліся, але ён усё сядзеў, яшчэ не разумеючы, што трэба рабіць.

- Ну!

Гэта прагучала спакойна і ў той жа час са стрыманай злой пагрозай, якая дала Агееву зразумець, што трэба ўставаць і ісці. Праз цёмны падземны праход яны выйшлі да замшэлых каменных прыступак, і ён аслабела і паволі стаў паднімацца са склепа.

Тут ужо было відна, мабыць, толькі што настаў ранак. У сцюдзёным небе хутка мчалася шызае клочча аблокаў, дзьмуў моцны вецер - дробна трымцела паверхня дзвюх лужын ля сцежкі. Воддаль, за чорнымі надмагільнымі крыжамі, высілася некалькі магутных клёнаў з парадзелай рудой лістотай; такой жа лістотай была абсыпана дробная зялёная траўка ў куце мураванай агароджы царквы. Хістаючыся ад слабасці, Агееў пратупаў крайком лужын да вузенькіх веснічак пад цаглянай стральчатай аркай. Праседзеў ноч у царкве, не без іроніі падумаў ён, і не памаліўся... Усё ж шкада, не ўмеў, не навучылі. А можа, было б дарэчы ў ягоным становішчы...

За варотцамі адкрывалася шырокая, уся ў дробных лужынах і гразі, мабыць, кірмашовая плошча з плямамі конскіх круглякоў і рэштаю натрэсенага пасля кірмашу сена. Насупраць ля тэлеграфнага слупа з падпорынай стаяла фурманка, у якой нерухома сядзела старая цётка, а побач, мабыць, месцячыся, каб зручней сесці, корпалася цёпла і тоўста апранутая чырванашчокая маладуха; яна ўбачыла іх у варотцах і пужліва знерухомела, разявіўшы рот. Агееў азірнуўся на канваіра - то быў, здаецца, той самы рупны, ціхманы паліцай, што прывёў яго сюды ноччу, - танклявы малады хлапец са смуглявым усходнім тварам і вусікамі,

апрануты ў паношаны чарвонаармейскі шынель са слядамі ад пятліц на каўняры, ён неяк загадкава - з затоеным страхам або трывогай - зірнуў на Агеева, і той ціха спытаў:

- Куды цяпер?

- Прама, - кіўнуў канваір, для пэўнасці ткнуўшы перад сабой ствалом рускай вінтоўкі.

Прама - значыць цераз плошчу і невялічкі сквер з маладых, амаль ужо голых тапалькоў да прысадзістай драўлянай будыніны - якой установы ці раённай бальніцы. Цяпер там, канечне, ужо не бальніца...

Сапраўды, гэта была не бальніца, да вайны тут хутчэй за ўсё размяшчалася школа, а цяпер, мяркуючы па мностве мужчын са зброяй, сталявалася паліцыя. На Агеева тут не звярнулі вялікай увагі, хаця ўсе, хто сустракаўся яму на двары ці з цыгаркаю ў зубах бавіў час у калідоры, з нядобрым халадком у вачах праводзілі яго, пакуль ён ішоў наперадзе канваіра, за рог калідора, дзе было цішэй і жаўцелі асобныя дзверы ў сцяне. Перш чым увайсці ў іх, канваір нямоцна пастукаў.

- Можна, начальнік?

- Давай сюды, Чарамісін, - пачулася з пакоя, калі дзверы адчыніліся. - А сам пачакай там...

Агееў ступіў у пакой і спыніўся. Мяркуючы па ўсім, тут быў кабінет дырэктара, мабыць, выкладчыка геаграфіі - з зашклёнай шафай у куце, глобусам на ёй. У прасценку паміж двума вокнамі вісела вялізная карта Эўропы, на фоне якой, грозна настырчыўшыся, стаяў начальнік паліцыі Драздзенка. Ён курыў і, як увайшоў Агееў, нервова пажаваўшы цыгарэту ў зубах, кінуў яе на падлогу.

- Ну, давай дамовімся. Будзем гуляць у жмуркі ці адразу папараўдзе? Падумай, што для цябе выгадней?

- Мне няма чаго думаць, - знарок пакрыўджана сказаў Агееў. Усё ж яму не было вядома, што яны дазналіся

пра яго, у чым падазраюць.

- Ах, няма чаго думаць? - злосна здзівіўся Драздзенка. - Вельмі нават дарма. Я б на тваім месцы моцна задумаўся. Ёсць над чым.

Ён узяўся за спінку крэсла, але перш чым падсунуць яго і сесці, са значэннем паглядзеў на канец вялікага стала, дзе сярод папак і розных папер ляжалі нейкія рэчы. Зірнуўшы туды, Агееў адразу сцяміў, што ноччу яны, мабыць, папрацавалі няблага, добра перавярнулі сядзібу Бараноўскай. На стале ляжала акуратна, па-вайсковаму складзеная яго гімнасцёрка з трыма кубікамі ў чырвоных пятліцах, зверху на ёй - шырокі рамень, дакументы, паперы, камандзірскае пасведчанне і кандыдацкая картка, нейкая кніга без вокладкі. Пісталета, аднак, там не было. Драздзенка кіўнуў галавой.

- Ну, пазнаеш? Твае рэчы?

Агееў спакойна цепнуў плячмі.

- Гімнасцёрка мая. Дакументы, напэўна, таксама.

Драздзенка пасунуў з-пад стала крэсла і дэманстратыўна прыпадняў з яго злашчасную кашолку з чырвонымі ручкамі.

- А сумачка во гэтая?

Агееў амаль шчыра здзівіўся:

- З якой нагоды? Упершыню бачу.

- Значыць, не прызнаеш?

- Не прызнаю, - сцята сказаў Агееў.

- Добра, добра. Прызнаеш! — лёгка паабяцаў Драздзенка і, схапіўшы сумку, выдраў з яе каляную чорную вокладку, якую Агееў учора паклаў на дно. - А вот гэтую абложку?

Цераз стол ён кінуў яму складзеныя кардонкі вокладкі, Агееў, пра нешта ўжо здагадваючыся, пакруціў іх у руках, разгарнуў, склаў зноў.

- Не!

- Сукін ты сын! - злосна аб'явіў Драздзенка. - Можы, ты і гэтую кнігу тады не прызнаеш? Вось гэтую! З ададраным пераплётам! Во!

Дрыготкімі ад злосці рукамі ён торкаў яму цераз стол трэці том Дзікенса, і Агееў зразумеў, што прапаў. Яны параўналі гэтую вокладку з кніжкамі на гарышчы, і, хоць на вокладцы не значылася ніякае назвы, падабраць да яе кнігу, мабыць, было няцяжка. Трэба было яе ўчора спаліць ці кінуць куды далей з падворка. Але во не дадумаўся. А цяпер...

- Дык што? Будзеш і далей адмаўляцца ці пачнём дзелавы разгавор?

Ён прамаўчаў, і Драздзенка, счакаўшы, уклаў кнігу ў вокладку, кінуў да кучы на гімнасцёрку.

- Чаго вы ад мяне хочаце? - нервова запытаўся Агееў. Здаецца, з кнігай адмаўляцца было бескарысна, але і не прызнавацца ж яму ва ўсім.

- Узрыўчатку Марыі ты даў? - запытаўся Драздзенка і ва ўпор пранізаў яго цяжкім злым позіркам.

- Якую ўзрыўчатку? Якой Марыі?

- Ах, ты не ведаеш, якой Марыі?! Чарамісін! - гаркнуў начальнік паліцыі і, калі дзверы з калідора адчыніліся, загадаў: - Прывядзі тую!

Сэрца ў Агеева па-здрадніцку страпянулася, у вачах прыцьмела, і ён увесь сцяўся ў прадчуванні найгоршага. Аднак Чарамісін марудзіў, мабыць, бегаў куды, і Драздзенка з непадробнаю асабістай крыўдай пачаў лаяць Агеева:

- Эх ты, сука! А я цябе пакрываў! Намеснікам хацеў

зрабіць. А цяпер ты здохнеш, і пашкадаваць не будзе каму.

- Гэта магчыма, - марудна авалодваючы сабой, сказаў Агееў. - Калі вы так... без разбору.

- Без разбору? Мы разбярэмся, не думай...

Дзверы ціха адчыніліся, і ў кабінет ціха ўвайшла мілая яго Марыя, адзін толькі позірк на якую прымусіў Агеева ўнутрана здрыгануцца. Цёплай вязанай кофты на ёй ужо не было, з-пад разадранага на спіне сарафаніка востра тырчалі голыя плечы, усе ў драпінах і сіняках ад пабояў, на левай шчацэ пад вокам цямнелася сіняя пляма, распухлыя вусны сачыліся крывёй. Хуткім позіркам яна слізганула па кабінеце, ледзь-ледзь затрымала позірк на Агееве, нічым, аднак, не адзначыўшы свайго да яго пачуцця, і ўставілася ў Драздзенку.

- Ну, пазнаеш? - запытаўся ў яго начальнік паліцыі.

- Не памятаю.

- Не памятаеш!.. А ты? - кіўнуў ён Марыі.

- Я памятаю. Гэта сапожнік, што ў Бараноўскай жыў, - слабым, з дрыготкай голасам сказала Марыя і змоўкла, уся ў насцярожанай пакутнай увазе.

- Сустракаліся?

- Аднойчы рамантавала туфлі. Во гэтыя, - Марыя варухнула запэцканымі ў гразь наскамі яму добра знаёмых лодачак.

- Ну, ці мала каму я рамантаваў! Усіх не прыпомню. Можа, і ёй рамантаваў, - з робленай лёгкасцю сказаў Агееў.

- Рамантаваў і завербаваў! Вот гэтую дуру! - вызверыўся на абаіх Драздзенка. - Толу ёй нагрузіў! Нясі на станцыю. Падумаў, куды пасылаў? На смерць пасылаў!..

- Я нікуды не пасылаў, - спрабаваў пакрыўдзіцца Агееў.

- А хто пасылаў? Хто?

- Я ж вам сказала, - хуценька ўставіла Марыя. - Дзядзька адзін папрасіў на базары аднесці, сказаў - мыла, што я ведала...

- Маўчаць! - зароў Драздзенка.

Але было позна. Агееў ужо зразумеў, да каго былі звернуты гэтыя словы Марыі, і радасна адзначыў сабе ў думках: малайчына, значыць, не выдала!.. Значыць, Марыя не выдала, цяпер гэта для яго было важней за ўсё іншае. Драздзенка тым часам падскочыў да Марыі, дужым вялікім кулаком памахаў перад разбітым тварам дзяўчыны.

- Ты мне памаўчы! З табой мы яшчэ разбярэмся, блядзюшка!

- А са мной няма чаго разбірацца! Будзеце біць, я вам не скажу нічога! - крыкнула яна з нянавісцю і такім гневам у вачах, што Агееў спалохаўся: будзе і горш.

- Скажаш! - проста паабяцаў Драздзенка. - Скажаш!

- Падонак! - толькі і крыкнула яна ў адказ.

- Чарамісін! - роўным голасам паклікаў Драздзенка. - Вядзі!

З дзвярэй выскачыў Чарамісін і ўхапіў Марыю за руку. Агееў бачыў, як яна пахіснулася і, ступіўшы два крокі, схавалася ў калідоры - назаўжды знікла з яго жыцця і, магчыма, з жыцця наогул. Агееў марудна, пакрысе ачуньваў, галоўнае ён ужо зразумеў: Марыя яго не выдала, сталася нешта іншае. Ці выдаў хтось іншы.

- Ну, прадоўжым размову, - нібы нічога не здарылася, спакойна сказаў Драздзенка і зайшоў за стол. - Як салдат з салдатам. Без нерваў і істэрыкі. Скажы, чаму ты мяне вадзіў за нос? Я ж хацеў для цябе дабра. Ці ты, дурная твая башка, не сцяміў! Ці ты прывык за Саветамі

адказваць подласцю на дабро? Што маўчыш, гавары!

Агееў маўчаў. Для таго, каб прадаўжаць гэтую размову, трэба было супакоіцца, а ўнутры ў яго ўсё хваравіта трымцела, яго душылі крыўда і гнеў - ад сваёй бездапаможнасці, ад немагчымасці абараніць Марыю. Яны яе білі, калечылі, зневажалі і ганьбілі амаль на яго вачах, а ён павінен быў напускаць на сябе абыякавасць, нічым не могучы памагчы ёй. Усё тое зневажала яго і было падобна на подласць. А гэты канавал яшчэ клікаў на дурную размову пра няўдзячнасць за ўсё добрае.

Драздзенка зноў закурыў сваю цыгарэту, плюхнуўся ў крэсла за сталом.

- Ты ўлічы, у мяне няшмат часу. У нас наогул мала часу. Пакуль у гэтую справу не ўмяшалася СД, мы яшчэ можам штосьці згладзіць. Але пры ўмове поўнага прызнання з вашага боку. А калі ўмяшаецца СД, дык ваша песня цю-цю! Будзе скончана. Тады вас ніхто не ўратуе.

«Панятна, - падумаў Агееў. - Закідвае кручок з надзеяй».

Не, мабыць, спадзявацца ўжо не было на што, з гэтай кніжкай яны яго злавілі грунтоўна. Тут ён спудлаваў грандыёзна і, здаецца, заплоціць за тое жыццём. Але і Марыя таксама. Хоць бы ўдалося як-небудзь працягнуць час...

- Такая справа... Ці нельга сесці? У мяне ж нага...

- Сядай. Вунь бяры стул і сядай.

Агееў прысеў на адно з двух крэслаў, што стаялі ля шафы збоч ад стала начальніка.

- Тут такая справа, - напружана згадваючы, пачаў ён. - У мяне аднаго разу начаваў чалавек. Я ж жыў у застаронку, мабыць жа, вы бачылі - на тапчане. А ён палез на гарышча. Сказаў, што знаёмы гаспадыні...

- Так, так... Ну? - прыспешыў яго Драздзенка. - Які

чалавек? Як прозвішча?

- Не назваўся. Сказаў, што з вёскі.

- З якой вёскі?

- Не сказаў. Я не пытаўся.

- Не пытаўся, а пусціў! Ды ты ведаеш, што ёсць загад палявога каменданта? За прадстаўленне начлегу без ведама ўлады - расстрэл!

- Не ведаю. Я ж нідзе не бываю. Загадаў не чытаў.

- Ну, а далей?

- Ну што далей... Ён раніцай пайшоў. Можа, ён і браў кнігу.

- Лжэш! - выцяў кулаком па стале Драздзенка. - Лжэш! - крыкнуў ён і ўскочыў з крэсла. - Дарослы мужчына, сярэдні камандзір, а выкручваешся, бы подлая сука! Сумлення ў цябе няма! Простай салдацкай мужнасці. Трусіш, як пёс! Ты ж звязаны з лесам, прымаў адтуль агентуру. Адтуль і тол. Для дыверсій на станцыі!

Агееў спакойна выслухаў усё тое і ўсміхнуўся. Гэты нягоднік папракае яго ў несумленнасці. Гэта ж трэба! Агееў нават здзівіўся. Ён пачаў быў ужо спакайнець і адчуў, што, не зважаючы на паказную злосць, усё ж у Драздзенкі не было грунтоўнай упэўненасці ў яго крыклівых словах, усё ж у ягонай душы, здаецца, стаілася сумненне. Для пачатку гэта было нядрэнна, і ён сказаў, усміхнуўшыся:

- Канечне, ты можаш думаць як хочаш. Як табе прасцей. Але наўрад ці так будзе лепш для справы.

Драздзенка, падобна было, здзівіўся.

- Для якой справы?

- Для вашай жа справы. У мяне якая справа? Я - шавец.

Драздзенка ўсеўся за стол, вялікай пяцярнёй нервова

ўскудлаціў цёмныя валасы на галаве.

- Скажы, дзе ты з ёй знюхаўся?

- З кім?

- З Марыяй.

- Нічога я з ёй не знюхаўся. Я нават не ведаю, што яе клічуць Марыя.

- А сумка? - зноў утаропіўся ў яго Драздзенка.

- Не ведаю я гэтай сумкі. Першы раз бачу.

- Тэ, тэ, тэ! - перадражніў начальнік паліцыі. - Во на гэтай сумачцы яна і пагарэла. І ты разам з ёй тожа. Адкруціцца вам не ўдасца.

- Што ж, - уздыхнуў Агееў. - Калі вы так рашылі...

Драздзенка з цыгарэтай у роце перабраў нейкія паперы на стале, знайшоў спісаны аркуш.

- Апішы знешнасць таго, хто начаваў.

«Ага! - радасна падумаў Агееў. - Усё ж клюнуў! Не мог не клюнуць...» І, напружваючы ўяўленне, ён пачаў апісваць:

- Значыць, так. Быў вечар, марасіў дожджык. Ён і пастукаў. Я адчыніў. Сказаў: ад Бараноўскай.

- Так і сказаў: ад Бараноўскай? - недаверліва, праз дым пакасіўся на яго Драздзенка.

- Так і сказаў. Я яшчэ запытаўся: як яна? Ён кажа: у парадку.

- А дзе - у парадку?

- Таго не сказаў.

- Якога прыкладна ўзросту?

- Ну, так, сярэдняга, - разважна гаварыў Агееў, раптам сцяміўшы, што, магчыма, яны пачнуць дабівацца ад Марыі звестак пра дзядзьку, што даў ёй кашолку з «мылам». Вось калі б яе паказанні супалі з ягонымі... Мабыць, для таго трэба апісваць начлежніка як мага няпэўна. - Ведаеш, было цёмна. Але, здаецца, сярэдняга.

- У што апрануты?

- Апрануты быў у нейкую куртку, можа, паддзёўку, ці, не выключана, - у плашч...

- Дык у плашч або куртку? - не стрываў Драздзенка. Той ужо ўзяўся запісваць яго паказанні і, мабыць, не ведаў, што запісаць.

- Чорт яго, цяжка было згледзець. Калі б ведаць...

- А абуты як?

- Абуты наўродзе ў боты. Ці, можа, у гамашы...

- Не ў лапці?

- Можа, і ў лапці... Хаця не, не ў лапці.

- Дык у боты, гамашы ці ў лапці? Што запісаць?

- Наўродзе ў бацінкі. Было кепска відаць.

Драздзенка шпурлянуў аловак на стол.

- Гаўно ты, а не сведка! Нічарта запомніць не мог. Ці сказаць не хочаш, выкручваешся?

- Я не выкручваюся.

- Ну, а гаварыў ён як? Па-руску, па-беларуску?

- Мешана, - падумаўшы, сказаў Агееў. - Слова так, слова гэтак.

- Май на ўвазе, - строга папярэдзіў Драздзенка. - Дапусцім, ты некага выгарадзіш, выручыш ад пятлі. Але

тым самым паставіш пад пятлю іншага. Можа, невінаватага. Ты думаў пра тое, даючы свае паказанні?

- Я нікога не выгароджваю. Мне няма каго выгароджваць, - сказаў Агееў і змоўк.

Тут, мабыць, Драздзенка гаварыў праўду: такая небяспека была. Сам таго не жадаючы, ён мог кагось і загубіць. Але як тады яму вывесці з-пад пятлі тую, на якой гэтая пятля павісла так блізка? Вось жа свалачная сітуацыя, думаў Агееў: не загубіўшы аднаго, не ўратуеш другога.

- Вось што! - памаўчаўшы, сказаў Драздзенка. - Мы будзем капаць. Але ты дужа не радуйся - на табе пятля! Толькі яшчэ не зашморгнутая. Яшчэ з яе можна выслізнуць, калі ва ўсім чэсна прызнацца. І ўсіх выдаць. Усіх вашых супольнікаў. Якіх ты пакрываеш. І якія цябе пакрываць не будуць, можаш быць упэўнены. Яны не дурні. Асабліва там, у СД. Там пераламаюць косці, і ўсё адкрыецца. Як на далоні. А пасля ўсіх - у яму.

- Што ж, дзякуй і за тое, - паныла ўздыхнуў Агееў. - Толькі я ні пры чым. Ды і Марыя тожа.

- Думаеш, і Марыя тожа?

- Канечне, ні пры чым! Абдурылі на базары, а яна што - дзяўчо!

- Дзяўчо?

- Дзяўчо, канечне! - сказаў ён і зірнуў у вочы Драздзенкі, якія раптам узгарэліся нядобрым агнём. Начальнік паліцыі жвава ўскочыў з крэсла.

- Ага! Во! Во! Во гэтага я і чакаў! Калі ты пачнеш яе выгароджваць. Значыць, яна з табой! І ты яе выдаў. І сябе таксама!

- Ды я нічога, - зразумеўшы, што дапусціў промах, з робленым спакоем сказаў Агееў. - Што мне Марыя...

- Не, не што! Ты з ёй быў звязаны. Ты спаў з ёй! Дзе,

скажы, яна месяц хавалася? - на ўсё горла крычаў перад ім Драздзенка, і Агееў чакаў: ударыць. Але не ўдарыў. Агееў сутаргава праглынуў сліну.

- Дарма разараешся, начальнік, - аднак цвёрда заўважыў ён. - Не там капаеш.

- Я ведаю, дзе капаць! Цяпер мне шмат што адкрылася. Астатняе сам скажаш. Мы з цябе выцягнем. Чарамісін! - закрычаў ён на ўвесь кабінет. - На качэлі!

Гэтыя яго словы пра качэлі Агееў успамінаў пасля доўга, некалькі дзён лежачы на баку ў сваім цёмным закутку і адхарквaючы згусцелае ашмоцце крыві. Здаецца, яны яго добра знявечылі ў школьным склепе, выбілі два верхнія зубы, падобна, адбілі печань - так тупа і моцна балела ў баку. Але дзе цяпер не балела? Усё яго цела было цяпер суцэльным увасабленнем болю, ён не мог без болю нават крануцца, уздыхнуць хоць бы на палову лёгкіх і дыхаў толькі ледзь-ледзь, аднымі іх верхавінамі. Твар яго быў разбіты ў кроў, левае вока заплыло пухлінай, і ён нічога не бачыў ім, з раны, якая адкрылася на назе, чутна было, плыла ў штаніну кроў. Вельмі балела ў другім баку, дзе селязёнка і куды яго дужа ўдарыў мардаты паліцай з пудовымі кулакамі. Лётаючы тады ў склепе на падвешаным да столі рамяні, ледзьве чапляючы за бетонны дол наскамі ботаў, Агееў хутка зразумеў, што самых балючых удараў трэба чакаць менавіта ад таго паліцая ў суконным саматканым фрэнчы з шырокімі накладнымі кішанямі. Пасля кожнага яго ўдару Агееў ляцеў далёка ў бок, дзе, стоячы ў цяні пад высокім акенцам, яго сустракаў наступны. Рукі Агеева былі звязаны ззаду, падвесіўшы да столі, паліцаі пусцілі яго, бы маятнік ці качэлі, з той толькі розніцай, што маятнік ці качэлі мелі нейкі парадак, рытм руху - яго ж кідалі, як валейбольны мяч - ад аднаго да другога. Паліцаяў там было ўсяго чацвёра - дбайных добраахвотнікаў з тых, што, чакаючы нейкае справы, сноўдалі ў калідоры, і іхні начальнік Драздзенка строгімі выкрыкамі кіраваў гэтай распраўай:

- Так, Равуноў, сільней! Сільней бей, чаго

далікатнічаеш, як з дзеўкай! Во, правільна! Прымай, Смутчык!.. Так! Ану, Пахом, развярніся!.. Ну, ты - так сцяну праламаеш!

Гэты мардаты Пахом магутным баксёрскім ударам пасылаў Агеева далёка наперад, і ён, бы рыбіна, хапаючы ротам паветра, выкручваўся на рамяні, з усяе сілы імкнучыся ўхіліцца ад udараў у жывот і паміж нагамі. У наступным куце яго сустракаў Сутчык, субціліны хлапчук, на выгляд яшчэ падлетак, той болей стараўся, аднак, выцяць у твар; два ці тры ўдары яго не зрабілі Агееву вялікае шкоды, затое наступны трапіў у вока, і тое адразу пачало заплываць балючай пухлінай. Перастаўшы ім бачыць, Агееў абвіслым мяхом зігзагамі лётаў па склепе і прагнуў толькі аднаго - каб усё хутчэй скончылася.

- Стоп! - раптам уладарна скамандаваў Драздзенка, і ён, абвяўшы, павіснуў на рамяні. - Маўчыш? Ці што-небудзь скажаш?

Паліцаі з увагаю замерлі на сваіх месцах, Драздзенка, гучна працокаўшы па бетоне калісь падбітымі ім касячкамі, падышоў да Агеева.

- Ну?

Рукі ў Агеева былі заламаны назад, сілы засталося няшмат, але ён сабраў у роце перамешаную з крывёю сліну і плюнуў у твар начальніка паліцыі. Тут жа, аднак, зразумеў, што няўдала, Драздзенка вёрстка адхінуўся, а ён у той жа момант загойдаўся на рамяні ад дужага ўдару ў сківіцу. З рота хлынула кроў, і ён праз разбітыя вусны выпхнуў языком калючыя абломкі зубоў.

Дайсці да царквы ён ужо не меў сілы, і два паліцаі пацягнулі яго пад пахі. Свядомасць яго нібы раставаралася ў туманным мроіве, і ён запомніў толькі свежы вецер на плошчы і трывожны варанячы вэрхал на дрэвах каля царквы. Ватоўку з яго садралі ў склепе, тонкая сацінавая кашуля была ўся падрана, правы рукаў адарваны зусім, усім сваім скрываўленым целам ён востра адчуваў сцюжу, яго біла дрыжака. Больш-

менш выразна ён стаў адчуваць, як яго валаклі ў царкву і ён слізгаў па каменных прыступках, але паліцаі не далі яму ўпасці і хутка піхнулі кудысь у цёмны, здаецца, пусты закутак. Па крайняй меры, ён тут вольна выпрастаўся і, здаецца, страціў прытомнасць.

Апрытомнеў ці не ад жудаснай пякельнай смагі, усё ў ім смылела ўнутры, паліла адбітыя вантробы, але вакол панавала цішыня, мабыць, ён быў тут адзін. Ён застагнаў, слаба паварушыў рукой, наткнуўся пальцамі на штось ліпкае - кроў, можа, ці што? Тонкая саламяная падсцілка, здавалася, уся набрыняла гэтаю ліпкасцю - сырызнаю ці крывёй, ён перавярнуўся на бок і спрабаваў падняцца на локці. З грудзей вырваўся прыглушаны хрып.

- Эй, ці хто ёсць тут?..

Але тут не было нікога, вакол панавала немата, цемра, і ён упаў на бок, зноў трацячы прытомнасць.

Ён доўга праляжаў ва ўладзе зданяў і хаосу фантасмагорый, трызніў і пакутаваў ад болю і смагі. Увесь час яму здавалася вада. Спярша ён бачыў яе ў гарлачы, з якога прагна і доўга піў, але цёплая вада зусім не спатольвала смагі. Затым ён піў штосьці з дзіўнаватай пустой пасудзіны і, счакаўшы трохі, пакуль праяснее памяць, адчуў, што прыпадае да цёплай балотнай лужыны, якая таксама не давала палёгкі. Прага яго была наспатольнай, яна не сціхала, мяняліся толькі спосабы яе задавальнення, і гэтае пакутнае пітво толькі распальвала яго нутро. Зноў жа, у яго была гарачка, і прывідныя здані прычынялі яму не меней пакут, чым неспатольная смага.

Мабыць, так цягнулася доўга, ён перастаў адчуваць ходу часу і, калі трохі ачуньваў, зусім не ўяўляў, што на дварэ — дзень або ноч. Але вось свядомасць яго праяснілася, ён выразна адчуў сябе на падлозе і, асільваючы востры боль у баку, які яму дапякаў асабліва, памацаў побач рукамі. Рукі яго наткнуліся на сцяну, і ён знямогла, не адразу падняўся, прыхінуўся спіной да сцюдзёных сырых камянёў. Вачэй можна было

не расплюшчваць, у падзямеллі панавала цемра, здаецца, тут не было ніякага акна ці, можа, на дварэ была ноч. Гарачка яго, магчыма, паменшала, але смага засталася ранейшай, здавалася, свядомасць яго зноў пачала туманіцца, і, каб не спазніцца, ён закрычаў з усёй сілы:

- Эй, піць! Дайце піць!

Замест крыку, аднак, у сутарэнні глуха прагучаў і захліпнуўся яго хрыплы шэпт, які наўрад ці хто тут пачуў. Агееў зноў паваліўся на дол - на слізкую саламяную падсцілку.

Аднак гэты раз ён быў пры памяці і, можа, упершыню падумаў пра свой лёс. Хаця які ўжо там лёс, думаў ён, засталіся рэшткі сілы ў знявечаным целе, і, мабыць, чым хутчэй яны скончацца, тым будзе лепш. У такіх пакутах жыць доўга нельга, ды і ці трэба. Нашто жыць, каму ад таго карысць? Хіба што паліцаям і немцам, якія нават на парозе смерці будуць катаваць, каб штосьці ад цябе дазнацца. «А што, калі...» - нясмела падумаў ён і зараз жа ўхапіўся за тую сваю нечаканую думку. Думка пра самагубства здалася яму найбольш прыдатнай, ён памацаў паясніцу - не, дзягі ў яго не было, мабыць, знялі ў школе, калі адчэплівалі ад падвескі. Можа, разадраць на палосы вышытую кашулю? Але ці вытрымае тонкая тканіна ягонае цела? Зноў жа, за што зачапіць? Напэўна, спярша трэба было знайсці які-небудзь крук, цвік у сцяне, краты ў акне ці яшчэ што. Новы намер захапіў яго, і Агееў пачаў пакутна мацаць рукамі па шархоткіх камянях сцяны, абследаваць усе яе выступы і ямкі. Пакуль што, аднак, не траплялася нічога прыдатнага. Ды і было нізка, трэба было пашукаць вышэй.

З натугай і дрыготкаю ў целе ён прыўстаў на каленях, болей абапіраючыся на правае калена, бо левае кепска згіналася ад пухліны і балела, памацаў над галавой. Але скрозь была амаль роўная мураваная сцяна, без асаблівых выступаў ці ямак. Ён не ведаў, у якім баку былі дзверы, і баяўся наткнуцца на іх, каб знянацку не выдаць сябе за гэтым заняткам. Усё трэба было зрабіць

тайна і ціха. Але ён яшчэ не дайшоў да дзвярэй, як дзесь у сутарэнні пачуліся галасы, на сцяне ўзнікла светлаватая плямка, яна рабілася ярчэйшаю, і вось з таго боку глуха стукнула, падаючы, дзвярная засаўка. Дзверы расчыніліся. Нізка над парогам праз дужа задымленае шкло свяціўся агеньчык «лятучай мышы», ён ледзьве асвятліў некалькі пар запэцканых гразёю ботаў. Пярэднія з іх пераступілі парог, і ліхтар прыўзняўся, цьмяна асвятляючы частку долу з утаптанай саломай.

- Пабудзьце там, - кінуў пярэдні астатнім, і дзверы за ім зачыніліся.

Гэта быў Кавешка, які, прыўзняўшы ліхтар, пасвяціў на Агеева.

- Да... Аднак аздобілі яны вас, - сказаў ён і ўздыхнуў, нібыта зусім спачувальна.

Агееў знясілена абвяў, упёршыся плячмі ў цвёрдыя камяні сцяны. Спачувальны тон Кавешкі ўжо не мог ашукаць яго, ён ведаў, што можа спатрэбіцца гэтаму чалавеку. Але дарма стараюцца. Ён не паддаўся Драздзенку, не паддасца і Кавешку, не зважаючы ні на якія яго спачуванні. Яму ўжо была вядома сапраўдная цана гэтых яго спачуванняў. Аднак Кавешка быццам бы не спяшаўся раскрываць свае патрэбы, з якімі прыйшоў у сутарэнне, і, як заўжды, пачаў здалёку.

- Я вам скажу: чалавеку ўласціва такое атавістычнае пачуццё - насалода чужымі пакутамі. Увогуле пачуццё тое мае кожная здаровая натура, адна ў большай, другая ў меншай ступені, і тут нічога не зробіш: прырода! У часе вайны або рэвалюцыі асабліва. Як вы чуецеся? - нечакана запытаўся ён.

- Выдатна, - выціснуў з сябе Агееў і не ў лад са сваімі пачуццямі крыкнуў: - Вады! Дайце вады!..

Тут жа, аднак, падумаў, што дарма не стрымаўся, наўрад ці варта было прасіць вады ў гэтага чалавека. На яго здзіўленне, Кавешка з ліхтаром паслухмяна

павярнуўся да дзвярэй.

- Гэй там!.. Дайце вады...

Ён зноў павярнуў ліхтар, скіроўваючы святло ў камеру, пасвяціў на Агеева. Агееў маўчаў, пакутуючы ад смагі, тупога глыбокага болю ў баку і асабліва - у сківіцы. Ён не меў ні сілы, ні жадання размаўляць з інтэлектуальным земляком, ды яшчэ на такія далёкія тэмы. Але, здаецца, Кавешка нічога іншага ад яго і не хацеў.

- Во як яно палучаецца! Няшчасная нацыя! Беларусіны на працягу ўсёй сваёй гісторыі выконвалі чужыя ролі не імі напісаных п'ес. Цягалі каштаны з агню для чужых інтарэсаў. Для літоўскіх, для польскіх, для расійскіх, канечне. Што знычыць празяваць свой час, праспаць свой цягнік.

- Які цягнік? - не зразумеўшы, прахрыпеў Агееў, расплюшчыў і зноў заплюшчыў адзінае сваё відушчае вока.

- Гістарычны, канечне. Мы яго праваронілі, дарагі, а цягнікі, як вядома, назад не вяртаюцца. Ходу назад гісторыя не мае. Во напаіце яго.

- Адплюшчыўшы вока, Агееў убачыў перад сабой круглы салдацкі кацялок і прагна прыпаў да яго разбітымі вуснамі. Не спыняючыся, ён выпіў усю ваду і знясілена апусціў рукі. Кавешка спытаў:

- Яшчэ?

- Дайце і яшчэ, - сказаў ён, падумаўшы, што, пакуль ёсць магчымасць, трэба напіцца ўволю. Пасля могуць не даць.

- Прынясіце яшчэ, - распарадзіўся Кавешка і, гойдаючы ліхтаром, пратупаў па камеры. Адным вокам Агееў павёў па цьмяных водблісках на змрочных сценах - не, быццам ніякага цвіка нідзе не было, акна таксама. Толькі ў дзвярах чарнела невялікая круглая дзірка з цёмнага падземнага праходу.

- А цяпер яны скарысталі вас, - паварочваючыся ад сцяны, прадаўжаў Кавешка. - Каб цягаць каштаны з эўрапейскага вогнішча. Навошта гэтыя недарэчныя плады беларусінам?

Агееў раптам зразумеў, пра што ён, і з некаторым здзіўленнем зірнуў на цьмяную постаць у капелюшы, якая касым ценем выцягнулася па сцяне сутарэння.

- А вы для каго цягаеце? Гэтыя каштаны? - ледзьве рухаючы разбітай сківаіцай, запытаў ён.

Кавешка азадачана памаўчаў, перш чым адказаць, уздыхнуў.

- Гэта праўда. І я цягаю, - раптам сумна пагадзіўся ён. - што рабіць, такая гістарычная заканамернасць. Але я з той хіба розніцай, што ўзнагародаю мне будзе жыццё, а вам, здаецца, смерць. Так вось, - пакорліва скончыў ён. - Хіба гэта разумна.

- У кожнага свой розум.

- Во гэта і кепска. У судзьбаносныя моманты гісторыі трэба ўмець падпарадкаваць свой розум логіцы гістарычнага працэсу.

- Значыць, немцам? - трымаючыся за разбітую шчаку, буркнуў Агееў.

- У дадзеным выпадку, ага, немцам. Бо ўжо зразумела, што ім нележыць будучыня.

- А нам?

- Што? Не зразумеў?

- А што належыць нам? Вялікая магіла? - запытаўся Агееў.

- А мы павінны прыстасавацца, можа быць, нават асімілявацца, раствaрыцца ў германскай стыхіі. Калі мы не хочам знікнуць фізічна. Іншага выйсця ў нас няма, - пранікнёным голасам загаварыў Кавешка, яўна

імкнучыся ў чымсь пераканаць Агеева. Але Агееву было непрыемна і пакутна ва ўсіх адносінах прадаўжаць гэтую размову, і ён злосна выпаліў:

- Будзь ён пракляты, той выхад. Ужо лепш магіла...

Кавешка памаўчаў, пратупаў з ліхтаром да дзвярэй і зноў павярнуўся да яго.

- А вось з магілай не трэба спяшацца, бо... Бо гісторыя здольная на нечаканасці. Часам робіць выбрыкі насуперак уласнай логіцы і дае ўпушчаны шанц.

«Ну і ну! - падумаў Агееў. - Чаго дамагаецца гэты чалавек? І хто ён? Поп? Ксёндз? Паліцэйскі? Ці хітры гестапавец?»

Але Кавешка тут жа ўсё сам растлумачыў:

- Справа ў тым, што... Зараз сюды прыйдзе шэф раёна. Ён хоча на вас паглядзець. Сярод немцаў, ведаеце, размовы: злоўлены і выкрыты, а ўпіраецца. І не просіць літасці. Гэта, ведаеце, уражвае сентыментальныя германскія душы. Такое для іх - навіна.

«Значыць, ужо прадаў немцам, сволач!» - з нянавісцю падумаў Агееў пра Драздзенку. А казаў, што яшчэ ёсць час. Не паспеў схапіць, як ужо данёс у СД. Каб выслужыцца. Ухапіць свой каштан. Зрэшты, Драздзенка помсціў яму і па асабістых прычынах. За тое, што Агееў яго падвёў, зрабіў несумленна. Як быццам для гэтых людзей існавала такое паняцце - сумленне. «Качэляў» яму было мала, дык вось паспяшаўся перадаць немцам.

Цяпер, канечне, ягонай справе - кранты.

Прыўзняўшы ліхтар, Кавешка пасвяціў ім на выняты з кішаня гадзіннік і сказаў з непакоем:

- О, ужо дзесяць. Дык вы гэта, ведаеце, каб ветліва з ім. Доктар Штумбахер - чалавек тонкі, адукаваны. Працаваў у імперскім упраўленні па культуры. Так што...

- Дык што яму трэба?

- Здаецца, нічога. Пабяседаваць, пазнаёміцца.

- Пазнаёміцца са смертнікам? Паказытаць нервы?

- Хто знае, хто знае, - няпэўна падхапіў Кавешка. - Калі да яго ветліва і з павагай... Ці, скажам, папросіце. Ён мае вялікую ўладу. Можа і таго... Памілаваць.

Ну, усё зразумела, падумаў Агееў. Я павінен не траціць надзею. На выпадак. На міласць шэфа раёна. І, вядома, паводзіць сябе адпаведна. Раскаяцца, прызнацца... Выдаць хлопцаў, Марыю. Але ж усё роўна яны не памілуюць.

- А што, мяне ўжо асудзілі? - запытаўся, падумаўшы, Агееў.

- Ну, знаеце, цяпер суд кароткі, - развёў рукамі Кавешка, махнуўшы закурэлым ліхтаром, чырвоны агеньчык якога ледзьве адольваў змрок прасторнага сутарэння. Але вось Кавешка трывожна страпянуўся, паспешліва ступіў да дзвярэй - мабыць, ягоны слых раней за Агеева злавіў рух у калідоры, і ён расчыніў дзверы, свецячы за парог. У той жа час, аднак, святло ягонага ліхтара і прыцьмела пад яркім прамянём з калідора. У камеру ўвайшло некалькі чалавек у шархоткіх плашчах, яркае святло электрычнага ліхтарыка з рук пярэдняга матлянулася па голай сцяне і, асляпіўшы Агеева, спынілася на ім. Кавешка таропка загаманіў па-нямецку, астатнія ўважліва і моўчкі слухалі. Тым часам электрычны прамень бесцырымонна абмацваў Агеева ў доле, трохі затрымаўся на ягоных ботах, пасвяціў на сінія камандзірскія брыджы і зноў ударыў у вочы. Зусім асляплены ім, Агееў не мог убачыць таго, хто свяціў, хіба вышэй, пад змрочнаю столлю, трохі вылучаліся абрысы яго высокай фуражкі. Немец штосьці ціха сказаў, і Кавешка павярнуўся да Агеева:

- Пан шэф раёна пытаецца, хто вас прымусіў шкодзіць германскім войскам?

- Ніхто мяне не прымушаў, - буркнуў Агееў, і тады немец зноў, надта картавячы, сказаў доўгую фразу.

- Чаму вы, рускі афіцэр, не здаліся ў палон, калі ўбачылі, што супраціўленне бескарыснае і вайна прайграна? - чужым, цвёрдым голасам перакладаў Кавешка. Неяк аддалена слухаючы яго, Агееў падумаў: во пачаў цягаць каштаны яго землячок.

- Яшчэ не вядома, кім яна прайграна, - сказаў Агееў, і немец, выслухаўшы пераклад, ціха кінуў: «Варум?»

- Чаму вы лічыце, што невядома?

- Таму што кішка тонкая ў вашага Гітлера.

Кавешка шматслоўна пераклаў. Немец памаўчаў, хмыкнуў і зноў сказаў доўгую фразу, выслухаўшы якую Кавешка згодна пацвердзіў: «Я, я».

- Пан шэф раёна кажа, што дурная ўпартасць не робіць гонару цывілізаванаму чалавеку. Што ж да славяніна, дык, хаця гэтая якасць у ягонай крыві, яна яму надта шкодзіць. Куды болей разумна цвяроза пра тое падумаць і зрабіць свой выбар.

- Свой выбар я ўжо зрабіў.

- Вы памыліліся з выбарам, - сказаў Кавешка.

- А гэта мая справа.

Немец зноў штось загаварыў сваім ціхім голасам.

- Калі вы патрыёт, - пачаў перакладаць Кавешка, - што ў дадзеных абставінах можна зразумець, дык вы павінны быць нам удзячны. Папярэдзіўшы ваш бандыцкі замах, мы пакараем некалькі вінаватых. Іначай былі б расстраляны сто заложнікаў.

- Гундэрт цывільмэншэн! - са значэнне паўтарыў шэф раёна.

- Гэта вы ўмееце, - ціха сказаў Агееў і запытаўся: - Дык

калі вы мяне расстраляеце?

- Яны абмеркавалі штосьці па-нямецку, і Кавешка холадна вытлумачыў:

- Гэта будзе ў зручны для ўлады час. Паводле рашэння СД і паліцыі бяспекі.

- Даволі няпэўна, - сказаў Агееў. - Але і за тое дзякуй...

Кавешка, аднак, пакінуў ягоныя словы без адказу, цяпер усю сваю ўвагу ён перанёс на немцаў. Электрычны прамень з ліхтарыка, які ўвесь час сляпіў Агеева, слізгануў убок, пад ногі, на парог, - боты сталі паварочвацца наскамі да выхада. Агееў адразу расслабіўся, уздыхнуў. Толькі цяпер ён заўважыў, у якім напружанні быў увесь гэты час, унутры ў яго, бы напятая струна, усё балюча трымцела, і ён сціскаўся ад болю ў баку, чакаючы невядома чаго. Хаця чаго ўжо было чакаць ці чаго баяцца, чаго сцерагчыся? Ён быў раздушаны, скатаваны, скалечаны і чакаў апошняга, чаго мог дачакацца; нічога, здавалася, не магло яго ні ўзрадаваць, ні засмуціць. Не зважаючы на ўсе захады Кавешкі, надзеі ў яго не прыбавілася, і ён добра адчуваў, што час яго скончаны. Вядома, яны жывым яго адсюль не выпусцяць. Ну, а калі б і надумалі выпусціць, куды б ён пабег? Следам яны ж бы пусцілі слых, што ён іхні агент Непанятлівы, і ад яго адхіснуцца ўсе. Той жа Малаковіч першы запатрабуе расправы над ім, і гэта зразумела. Мабыць, на яго месцы Агееў паводзіў бы сябе таксама. Зрэшты, можа, так будзе і лепш, жывым яму заставацца нельга, цяпер для яго адзінае выйсце - пагібель, і найхутчэй. Ён трапіў у бязлітасныя жорны вайны, гэтыя жорны змелюць яго на муку. Дзесь ён дапусціў памылку, зрабіў не тое, збочыў не ў тым напрамку на крывавым раздарожжы вайны, і вось вынік. Вынік - абсалютны нуль.

Так думаў Агееў, але бязлітасны ваенны лёс, мабыць, і яшчэ рыхтаваў яму нешта са сваіх пачварных сюрпрызаў.

Пасля, як пайшоў шэф раёна, ён расслабіўся і,

перасільваючы боль у знявечаным целе, страціў адчуванне. Можа, страціў прытомнасць ці забыўся ў мутным прывідным сне. Ён не ведаў, колькі часу доўжыўся той яго замутнёны стан, але апрытомнеў ён ад нейкай валтузні, побач паявіліся новыя людзі. Калі ён прыўзняў галаву, дзверы ўжо зачыніліся з таго боку, было па-ранейшаму цёмна, але побач, хваравіта стогнучы, хтось шавяліўся і хтосьці яго суцяшаў:

- Ну ціха, ну ціха... Во так, ляж на бачок... На бачок ляж, во так...

Голас быў незнаёмы Агееву, і ён зноў упаў плячмі на волглую салому падсцілкі, не ведаючы, як зручней уладкаваць галаву - левая палавіна твару балела ад скроні да падбароддзя, у роце балюча пухнуў язык, які ўжо ледзьве ўмяшчаўся ў пабітых пашчэнках.

- Піць! - раптам знаёма прастагнаў чалавек насупраць, і другі, што быў з ім, пачаў ціха яго ўгаворваць:

- Дык няма ж вады. Панімаеш, няма... Пацярпі, сынок. Пацярпі...

«Які сынок? Чаму сынок? - прамільгнула ў свядомасці ў Агеева. - Гэта што - бацька з сынам?..» Штосьці знаёмае здалося яму ў тым стогне, і Агееў насцярожыўся. Аднак ён маўчаў, не хочучы выдаваць сваю тут прысутнасць. Цяпер яму не быў патрэбны ніхто, ён хацеў застацца сам-насам з сабой і сваім несціханым болем. Але гэтыя новыя арыштаваныя трывожылі ягоны спакой сваім яшчэ, можа, больш бязлітасным болем.

- Таварыш, вы гэта самае... жывы, можа? - ціха загаварыў да яго адзін з двух, і Агееў, крыва ўсміхнуўшыся, адказаў:

- Трошкі жывы...

І ўхапіўся рукою за сківіцу, якую адразу скрывіла ад болю.

- Тут во хлопцу кепска. Каб вады папрасіць.

- Ніхто не пачуе, - сказаў ён, перамагаючы боль, і падумаў: хто гэта? Чорт бы яе ўзяў, тую цемру, якая нічога не давала згледзець у гэтым сутарэнні.

- А нас заўтра будуць расстрэльваць. Ведаеце? - даверліва паведаміў чалавек.

- Вас? - вырвалася ў Агеева.

- Дык і вас тожа, - уздыхнуў чалавек. - Вы ж той ваенны, што ў Бараноўскай жыў?

Агееў збянтэжыўся, не ведаючы, што сказаць.

- А вы адкуль знаеце? Немцы сказалі?

- Паліцай знаёмы адзін.

Як Агееў ні рыхтаваўся да сваёй смерці і як ужо ні зжыўся з думкаю пра яе непазбежнасць, гэтыя словы перуном выцялі па яго свядомасці, і ён ледзьве зноў не страціў прытомнасць. Але ўсё ж ён намогся, сабраў у адно нешматлікія свае сілы і пастараўся пераканаць сябе, што нічога нечаканага не адбылося, усё ідзе, як і павінна ісці. Можа, так яно будзе і лепш. Усё ж расстрэл для салдата заўжды лепш, чым вісельня, - не трэба будзе гойдацца на пацеху ворагам, адразу ляжа ў зямлю, і ўсё. А смерць - яна справа імгненная.

- Во, ведаеце, ні за што ўзялі, нічога я не зрабіў, а цяпер - расстрэл. Дзіўна ў іх неяк... Заб'юць, а за што? - скардзіўся ў цемры чалавек, і Агееў падумаў, што ўвогуле гэта зразумела. Напэўна, тут кожны лічыць, што пакутуе без віны. Можа, і ён павёў бы сябе гэтак жа, калі б быў выпадак каму паскардзіцца.

- А вы хто? З мястэчка? - запытаўся Агееў.

- Ды я са станцыі, знаеце. Зыль, счэпшчык. І во трэба ж, пайшоў у мястэчка солі купіць, а на пераездзе гэтая дзяўчына з кашолкай. Ёй паліцай: стой! Давай правяраць, і я тут. Ну, абаіх і ўзялі.

Агееў, падобна было, нібы кудысь праваліўся ад

здзіўлення, пачуўшы такое, і зноў вынырнуў, уражаны сэнсам сказанага.

- Якая дзяўчына? - прахрыпеў ён.

- А хто ж яе ведае? Незнаёмая. Я яе ў вочы ніколі не бачыў, а яны кажуць: звязаны. Ды ні з кім я не звязаны.

«Марыя! Гэта Марыя!» - пранеслася ў свядомасці Агеева. Во як яна папалася! Бедная, няшчасная дзяўчынка!.. Ён быў збянтэжаны ад тых слоў счэпшчыка, які, мабыць, не падазраваў нават, як растрывожыў яго сваім паведамленнем. Але Агееў маўчаў, не ведаючы, як трэба паводзіць сябе перад гэтым Зылем. Ды і хто ён такі, ці не падсаджаны сюды паліцай? І ў той жа час вельмі хацелася дапытацца ў яго падрабязней, можа б, ён болей расказаў пра Марыю.

- Піць... Дзядзька, папрасі ў іх вады, - прастагнаў другі ў доле, і ў яго кволых словах Агееву зноў пачуліся знаёмыя інтанацыі. Хутка пра штосьці здагадаўшыся, ён запытаўся амаль спалохана:

- А гэта хто з вамі?

- Гэта Пеця, старэйшы Кіслякова сынок. Плямяш мой. Яны ж яго тожа... Два тыдні тут во мутузяць...

«Божа мой, дык гэта ж Кіслякоў! Ну во, а я столькі часу дабіваўся з ім сувязі, чакаў яго кожную ноч. А Кіслякоў во дзе! І ўжо два тыдні...»

Прыўстаўшы на локці, Агееў бокам падаўся туды, цягнучы за сабой нягнуткую левую нагу, рукамі намацаў на саломе нерухомае цела.

- Кіслякоў, ты?.. Гэта я, Агееў, што ў Бараноўскай...

- Я ведаю... Толькі... Кепска мне дужа, - ледзь чутна прастагнаў Кіслякоў.

І Зыль растлумачыў:

- Яны яго так знявечылі... Жывога месцейка не пакінулі.

- Паліцыя ці немцы?

- Спярша паліцыя. Пасля немцы, - прастагнаў Кісякоў.
- Усё дабіваліся...

- Чаго дабіваліся? - насцярожыўся Агееў.

- Рознага. І пра вас...

- Ну, а ты ж стрываў? Не сказаў?

- Як стрываеш? Калі б адразу памёр, а то... - прастагнаў Кісякоў і сціх.

- Да-а, - выдыхнуў з сябе Агееў.

Штосьці ў іх справах прымала іншы, яшчэ больш кепскі характар. Хаця, здавалася б, што магло быць горш для іх, асуджаных на хуткую пагібель, калі ўжо не мілы стаў увесь белы свет і сваё знявечанае цела, і ўсё іх няўдалае жыццё. Але ж во і яшчэ рабілася горш. Агееў ведаў, што сам стрывае ўсё, не запэцкаўшы нічыйго сумлення, але бяда ў тым, што ён адпраўляўся на той свет не адзін, а з іншымі, і гэтым іншым, можа так здарыцца, перапала болей. Во Кісякоў і не вытрымаў, штось выдаў паліцыі або немцам, і на душы ў Агеева зусім спахмурнела. Ад чаго толькі не залежыць яна, гэтая тонкая і далікатная штуковіна - сумленне, як яе цяжка зберагчы, каб не збэсціць. Ды яшчэ на гэткай вайне.

- Яны яго катавалі, бы звяры, - сказаў Зыль. - Пальцы ў дзвярах раструшчвалі. А пасля, знаеце, калі ён упаў... Ну, палавы орган абцасам раструшчылі. Начальнік іх... Бедны пляменнічак! - бядотным голасам скончыў Зыль.

«Чорт вазьмі! - бязрадасна, аднак, падумаў Агееў. - Значыцца, мне шчэ пашэнціла. Можа, таму, што нядаўна ўзялі? Ці што хутка перадалі ў СД? Ці Драздзенка сцяміў, што не на таго напаў? Ці мае ўлікі былі ўсе ў наяўнасці і яму іх хапіла, каб падвесці мяне пад расстрэл? А Кісякоў?..»

- Зыль, а вы пасля тую дзяўчыну не бачылі? - запытаўся Агееў і сцяўся, чакаючы адказу.

- Бачыў. Вочную стаўку рабілі з ёй. Але што я скажу? Я першы раз убачуў на пераездзе. Яна мяне тожа.

- Ну, а пасля? Што з ёй?

- Дык невядома. Можа, перадалі немцам? А можа, застрэлілі...

- А вас што - не білі? - раптам падумаўшы пра іншае, запытаўся Агееў, і Зыль з гатоўнасцю адказаў:

- Білі! І, ведаеце, знаёмыя паліцаі. Але што я скажу? Я ж нічога не ведаю.

Хвалюючыся, Агееў не мог сцяміць, як яму паводзіць сябе з гэтым гаваркім Зылем, ці варта давяраць яму. Шчырасць яго падабалася, але... Яна магла быць і фальшывай, гэтая яго шчырасць. Вельмі карцела пагутарыць з Кісляковам, каб хоць даведацца, за што яго ўзялі. Але прысутнасць гэтага Зыля ўвесь час стрымлівала яго. Абапёршыся на руку, Агееў сядзеў каля распластанага на саломе Кіслякова і не ведаў, як загаварыць з ім. І ці можна было з ім загаварыць наогул? Хлопец быў у гарачцы, гэта адчувалася нават у цемры, ліхаманкавае дыханне яго часам зусім знікала.

- Усё ж трэба папрасіць вады, - сказаў Агееў. - Вы пастукайце там.

Аднак не паспеў Зыль падняцца, каб падысці да дзвярэй, як зводдаль у сутарэнні пачуліся крыкі, валтузня, якія хутка набліжаліся да іх камеры.

- Не штурхай! Не штурхай, падлюга! Я цябе так штурхану!..

- Ідзі, ідзі!..

Агееў прыслухаўся і зразумеў, што гэта Малаковіч - яго гучны камандзірскі голас гучаў тут злосна і рашуча. Калі дзверы адчыніліся, у святле ліхтара з калідора ён убачыў на парозе свайго франтавога сябра, Малаковіч быў амаль голы па пояс, цела яго пакрывала разадраная на грудзях сіняя майка, адрослыя космы валасоў на

галаве бязладна тырчалі ў бакі, на твары чарнела некалькі сінякоў - слядоў ад удараў. Але дух у гэтага ўзводнага, падобна, заставаўся нязломны - Малаковіч злосна лаяўся:

- Падлюга! Ублюдак нямецкі!

Яго злосна штурхнулі цераз парог, Малаковіч выцяўся аб сцяну, ледзьве не наскочыўшы на трох бедалаг у доле.

- Хто тут? Зыль?..

- Зыль і яшчэ некаторыя, - сказаў Агееў, калі дзверы за ім зачыніліся.

- Вы? - здзівіўся Малаковіч.

- І яшчэ Кісlякоў, - сумна паведаміў Агееў.

- Да, сабралася капэла! - кінуў Малаковіч і загаварыў горача: - Пастараліся, сволачы, нахапалі! І яшчэ штурхаецца, падлюга! Сябрук, называецца, у адным класе вучыліся.

- Гэта хто? - запытаў Агееў.

- Ды Пахом гэты. Паліцай. Свайго ж таварыша б'е, выслужваецца, падлюга!..

Малаковіч дробна-нервова тросся ад крыўды і нянавісці, але, здаецца, пабіты быў менш за іншых ці, можа, пакуль што трываў.

- Нічога, нічога, - супакойваючы яго, сказаў Агееў. - Сядай вось...

- Што нічога?! - узвіўся Малаковіч. - Вы ведаеце: заўтра расстрэл!

- Гэта не самае горшае, - сказаў Агееў.

- Не самае горшае? Ну, вы даёце! Што ж тады можа быць горш? Мы ж гінем! Засыпаліся, праваліліся, як апошнія абармоты. Усе адразу, без рэшты! Эх,

бязмозглыя куры! Хіба так можна было? І - вы!..

- Што я? - насцярожыўся Агееў.

- Што? Вы яшчэ пытаецеся - што? Ды вы ўсё завалілі! - не стрымліваючыся, амаль у шаленстве крычаў Малаковіч.

- Гэта якім чынам?

Мабыць, было не месца і не час разбірацца ў такіх справах, але Агееў ужо не ў стане быў і стрымацца. Ды ці будзе для іх больш зручнае месца? І час?

- А такім! - выпаліў Малаковіч. - Чаму вы даверыліся гэтай... Марыі? Хто яна такая? Што вы пра яе ведаеце?

Агееў зноў знерухомеў у прадчуванні таго, што яго магло тут панішчыць горш за нямецкі расстрэл...

- А што пра яе... трэба ведаць?

- Трэба ведаць усё! - з жарам прадаўжаў Малаковіч. - А то панесла... Куды? Каму? Нікога тут не знае, лезе прама на паліцая. Ён і цопнуў! Кашолка! З базара! А ў кашолцы што? Мыла? Гэта для дурняў «мыла». Ён жа, паліцай гэты, Зялёнка, і кашолку адразу пазнаў: тою зімою Бараноўская прыносіла ў рамонт, ручка адарвалася. Зрабіў, ручкі абкруціў чырвонаю анучкай. Ну! Што яшчэ трэба было паліцыі? Сама здабыча - прама ў кішэню. Трымай шырэй!

Агееў вінавата маўчаў. Малаковіч выцяў яго пад дых, у самае сонечнае спляценне, хаця і не з таго боку, адкуль нядаўна яшчэ чакаў Агееў. Выходзіць, Марыю пагубіў ён сам - гэта ўжо было пэўна. Але ж яна нікога не выдала. Ды і каго яна магла выдаць, апроч Агеева?

- Я быў у безвыходным становішчы, - сказаў ён ціха пасля доўгага і пакутнага маўчання. - Без сувязі. Кіслякоў прапаў, ты ж ведаеш... А тут гэтая перадача...

- Вось вы і паспяшаліся! - перапыніў яго Малаковіч. - Вам хацелася хутчэй апраўдацца, развеяць падазрэнні.

Падазрэнні ж былі?

- Якія падазрэнні? - здзівіўся Агееў.

- А ўспомніце - якія. Ці вы забыліся?

Не, Агееў не забыўся пра падазрэнні, якія нядаўна яшчэ прычынялі яму пакуты, ён проста перастаў думаць пра іх. Кропку на іх паставіў для яго тол, і яму хутка пачало здавацца, што ўсе ягоныя страхі надумаў ён сам. Бо як можна падазраваць таго, хто ўсё рабіў ад чыстага сэрца, стараючыся як найлепш, і сядзіць во, прысуджаны да расстрэлу? Які ніколі нічога не выдаў і нават і не думаў выдаць.

- І Кісялкоў! - раптам амаль закрычаў Малаковіч, ускочыўшы з долу. - Ён мяне выдаў!

Стала зусім ціха, і ў гэтай цішы чутна было, як усхвалявана дыхаў Малаковіч, і ў грудзях у Агеева шалёна калацілася сэрца.

- Як? - збянтэжана сказаў Агееў.

- Проста! Ён назваў маё імя! Сярод сваіх таварышаў. Цяпер я табе не таварыш, паняў?!

Кісялкоў не саломе задыхаў часцей, штось быццам спрабаваў сказаць, але прасіпеў толькі:

- Даруй, Валодзя!..

- Яны яго білі, так білі, я чуў, - зашавяліўся ў цемры Зыль. - Яны яму, ну... палавы орган абцасам раструшчылі.

Здаецца, Малаковіч трохі, аднак, спакайнеў, змоўчаў, адольваючы сваю шалёнасць, - рэчаіснасць нарыхтавала ім самае страшнае, што магло з імі здарыцца, і трэба было сабраць сілы. Агееў лёг ля Кісялкова, над якім сядзеў яго дзядзька Зыль. Дзесь зводдаль прыціх у цемры і Малаковіч. Не перастаючы перажываць усё, што давялося пачуць, Агееў думаў пра Марыю і яе недарэчны лёс. Цяпер яму ўсё выразней бачыліся

прычыны правалу Марыі - не чыя-небудзь віна, а збег дзікіх абставін, дурныя выпадковасці накшталт кашолкі і паліцая, які год назад яе рамантаваў. Калі б не гэтыя супадзенні, усё магло абысціся добра і яны былі б цяпер на волі і ганарыліся тым, што ім удалося зрабіць. Але во ўмяшаліся тыя пачварныя выпадковасці, і ўсё паляцела дагары нагамі. Тол, дыверсіі і іх маладыя жыцці. Хаця што валіць на выпадковасці, хіба не зразумела, што тая барацьба, у якую яны ўступілі, была густа нашпігавана рознымі выпадковасцямі, самымі дзікімі абставінамі, з якіх яна ўся і складалася. Не тое, дык іншае, як кажа гэты вось Зыль. Шанцу выйсці жывымі з гэтай калатнечы практычна ў іх не было. Уся розніца ў тым, што адных пагібель насцігла раней, а другіх пазней, але ў роўнай меры, мусіць, усе яны былі асуджаны на пагібель.

З такімі невясёлымі думкамі ён памалу прыціх, быццам задрамаў нават, звыкся са сваёй бядой і сваім болем, прыпёршыся спіной да сцяны. Прыціхлі і ягоныя сябры па няшчасці. Мабыць, не спаў адзін толькі Зыль, усё поркаўся каля пляменніка: то папраўляў яго галаву, якую трымаў на каленях, то даланёй абмахваў ягоны твар, ад якога патыхала жарам. Як ні дасталося ім у паліцэйскіх засценках, безумоўна, Кіслякову перапала болей за ўсіх, і Агееў не хацеў судзіць яго строга. Ён бы меў права сурова, як гэта рабіў Малаковіч, абвінавачваць няшчаснага, калі б сам стрываў тое ж, што стрываў Кіслякоў, і ўстаяў. Агеева люта білі, але толькі раз, і ён патроху папраўляўся ўжо, не тое што гэты студэнт, які цяпер хоць бы дажыў да ранку. Агееў ужо разумеў, што, хаця магчымасці чалавечага духу амаль бязмежныя, яны надта несуразмерныя са сціплымі сіламі цела. Цела заўжды надта слабое, асабліва для такой злыбеды, як вайна, яно больш за ўсё іншае задае чалавеку клопату і прычыняе пакут. Што ж, Кіслякоў не стрываў, і ўся ягоная віна ў тым, што ён не сумеў памерці ў час і яны штось выцягнулі з яго...

Выводзлі іх па адным, і, пакуль наступнага валаклі з сутарэння, першыя пакутна чакалі, стынучы на сцюдзёным ветры за агароджай ля царквы. Была ноч,

сыпаў дробны, золкі дожджык - у час моцных парываў ветру бязлітасна сек па голых плячах, тварах, галовах асуджаных. Апошнім выцягнулі Кіслякова, які зусім ужо не стаяў на нагах, і яго ўкінулі ў фурманку з ахапкам сена на дне. Паліцаяў тут было сямёра, імі распараджаўся Драздзенка, які з ліхтарыкам у руках бегаў каля царквы. Батарэйка ў ліхтарыку свяціла рэштаю свае сілы, і ў доле мільгала цьмяная плямка святла, Драздзенка лаяўся, мацюгаў арыштантаў і паліцаяў. Ён быў злы і раздражнёны. Воддаль за фурманкай стаяў, назіраючы за іх таропкімі зборамі, чалавек у даўгім плашчы і нямецкай фуражцы, але ён маўчаў, і Агееў не ведаў, хто гэта. Мабыць, нехта з СД. Але не Кавешка. Зрэшты, шкада, што не Кавешка, Агееў бы сказаў яму на развітанне пару моцных, ядраных слоў.

Не сваё здзіўленне, ён адчуў сябе лепш, чым уначы. Балела ў баку, па-ранейшаму дужа ламіла сківіцу, ныла апухлая ў калене параненая нага, але сіл быццам пабольшала - можа, апошніх перад пагібеллю сіл, і ён сам узышоў па прыступках, дакульгаў да веснічак. Тут трэба было чакаць. Паліцаі вязалі ім рукі, поркаліся каля фурманкі з Кісляковым, трое, адышоўшыся воддаль, з вінтоўкамі напагатове пільнавалі іх на выпадак уцёкаў. Але ўцякаць мог хіба адзін Зыль, ды, можа, яшчэ Малаковіч. Хаця Малаковіча на выхадзе дужа выцяў у грудзі адзін паліцай, і ён стаяў цяпер, сагнуўшыся, ля фурманкі і кашляў, раз за разам плюючы ў траву. Толькі Зыль з выгляду быў так сабе, непрыкметна нават, што яго білі, і Агееў каторы раз падумаў: няўжо і яго расстраляюць? Падобна, ён чалавек «іхні» і хутка яго адлучаць ад усёй кампаніі.

Але пакуль не адлучалі, а таксама звязалі за спіной рукі, і нешматлікая іхняя працэсія рушыла праз пустую ўначы кірмашовую плошчу. Наперадзе поруч з маўклівым немцам крочыў Драздзенка, за імі кацілася аднаконная фурманка, у якой пластом ляжаў жывы пакуль што Кіслякоў і на перадку сядзеў знаёмы паліцай Чарамісін. За фурманкай, кульгаючы, брыў Агееў, побач, увесь час імкнучыся наблізіцца да

пляменніка, тузаўся Зыль. За іхнімі спінамі чулася хрыпатае дыханне распранутага да майкі Малаковіча. Зрэшты, апроч хіба Зыля, на плячах якога абвісала нейкая расхінутая, без гузікаў, куртка, усе яны былі амаль распранутыя і люта пакутавалі пад дажджом, на сцюдзёным восеньскім ветры.

- Куды яны нас? - ціха запытаўся Агееў, калі фурманка з'ехала з плошчы.

- Мабыць, на могілкі, - цепнуў плячмі Зыль. - А можа, у кар'ер.

У кар'ер, гэта хутчэй за ўсё, падумаў Агееў, яны ж не любяць капаць, закопваць... Хаця капаць магілу можна прымусіць і арыштаваных, але ж закопваць трэба самім. А гэта ўжо работа. Значыць, у кар'ер. Пра што ён думаў яшчэ ў гэтым сваім апошнім шляху на зямлі, з чым хацеў развітацца? Мабыць, ні пра што болей не думаў і ні з чым не развітваўся - усе яго сілы траціліся цяпер на адоленне сцюжы, на тое, каб не ўзарвацца, хоць знешне захаваць спакой. Ззаду і па баках тупалі па гразі іх канваіры, і сярод іх - ужо знаёмыя з учарашняга паліцаі: Пахом, Стасевіч, Равуноў, Сутчык. Яны былі насцярожаныя, трымалі вінтоўкі пад пахамі, але, падобна, усё ж баяліся. Навокал ляжала непагодная восеньская ноч, абапал вуліцы чарнеліся дахі, платы, парканы местачковых дамоў, голае голле дрэў у садках; неперадзе на пагорку тоўпілася шырокая купа старых высокіх дрэў на могілках, і яшчэ здалёку чуваць быў трывожны варанячы вэрхал. У небе не бліснула ніводнае зорачкі, усё там было непраглядна і змрочна, дробны дожджык то сыпаў, то пераставаў часам. Вецер дзьмуў няспынна, выдзьмуваў рэшткі цяпла з іх кволых спакутаваных целаў. Калі іх працэсія спусцілася да мастка цераз ручэй, Драздзенка выйшаў на ўзбочыну і счакаў фурманку, ababeг паліцаяў, кожнаму штосьці наказваючы. Ці, можа, ён падбадзёрваў. Параўняўшыся з Агеевым, злосна прамычаў праз зубы:

- Ну, дабіўся, чаго хацеў?

- Даб'ешся і ты. Таго ж, - у тон яму адказаў Агееў. -

Падлюга!

- Ну, ну, не вельмі! Ці забыўся, што ў мяне? У блакноціку...

Агееў хацеў крыкнуць штось бруднае і зняважлівае, каб прынізіць гэтага начальніка хоць бы перад немцам, які стаяў на ўзбочыне і чуйна прыслухоўваўся да іх сваркі. Але не крыкнуў. Сапраўды, даў д'яблу распіску, цяпер той ёю распарадзіцца. Да самай магілы. А то і пасля магілы. Сволач прадажная...

Марудна, нібы на пахаванні, яны пераехалі роў, мінулі могілкі. Вараннё ўсё крычала - ад свайго беспрытульнага мноства, неўладкаванасці, сварліва змагаючыся за кожнае месца на дрэве, і гэты варанячы вэрхал замест пахавальнай музыкі доўга суправаджаў іх уначы. Зрэшты, Агееву было ўсё роўна, ён думаў толькі: ну, што яму гэтая дурная распіска цяпер, на апошнім хляху туды, адкуль ніхто не вяртаецца? Але ж во стрымлівала. Адбірала волю. Паралізавала бяздзеянем. Ашаламляла і нейтралізавала...

За могілкамі яны спыніліся і пастаялі нядоўга, чакаючы, пакуль Драздзенка з немцам кудысь хадзілі - уздоўж каменнай агароджы, вышэй, на пагорак. Агееў ужо ўвесь здранцвеў, унутры ў яго ўсё балела - ад катаванняў і сцюжы; шчаку і ніжнюю частку твару ён зусім перастаў адчуваць. Валасы зліпліся пад дажджом, і сцюдзёныя кроплі сцякалі за вушы, па шыі, па халоднай, здранцвелай спіне між лапатак.

- Так і захварэць можна, - са слязьмі ў голасе пажартаваў гаваркі Зыль.

- Ага, прастудзіцца, - з'едліва пагадзіўся Малаковіч, які ўвесь час ішоў ззаду, здаецца, знарок пазбягаючы суседства Агеева. І Агееў падумаў: хай! Можа, так яно і лепш для абодвух. Злосці на лейтэнанта ён ніякай не меў, той жа чагось не мог даравацьяму нават у такую хвіліну.

Фурманка збочыла з дарогі і па гразкай траве

павалаклася ля могілак на пагорак. Іх пагналі следам. Дзесь там наперадзе маячылі постаці Драздзенкі і немца ў даўгім плашчы. Калі яны ўсе наблізіліся, іхняму позірку адкрыўся край высокага абрыву і шырокі кар'ерны правал унізе, добрую палову якога займала лужына. «Значыць, так - у лужыну», - здагадаўся Агееў. А ён думаў... Яму хацелася думаць, што ў зямлі будзе зацішней. І цяплей. У лужыне цяплей не будзе...

Неразумныя гэтыя думкі, аднак, устрывожылі Агеева, які зусім ужо задубеў на сцюжы, і ён не мог пазбавіцца ад іх, пакуль фурманка не спынілася на пагорку. Драздзенка падаў каманду стаць усім у рад, тварам да абрыву. Агееў стаў паслухмяна, амаль з гатоўнасцю, як гэта рабіў мноства разоў у арміі, - каб толькі хутчэй усё скончыць. Побач настырчыўся зусім знявечаны сцюжай Малаковіч - плоскі, бы дошка, з запалым пад майкаю жыватом. Зыль замарудзіў выканаць каманду, і адзін з паліцэйскіх нагадаў яму аб тым, пхнуўшы ў спіну прыкладам. Той жа паліцай затым ціха гукнуў штось Драздзенку, які спярша злосна вызверыўся, а затым падабрэў і дазволіў:

- Ладна! Давай па-быстраму...

Паліцай падскочыў да Агеева - гэта быў усё той жа крутаплечы старанны Пахом.

- Скідывай боты!

Агееў памарудзіў, напаўняючыся гатовым прарвацца гневам, пасля, нібы баючыся не стрымацца, наском аднаго таропка падчапіў заднік другога, лёгка прасунуў ступню ў халяву і, не выцягваючы яе зусім, нагой шпурлянуў бот да абрыву.

- На, бяры, на...

Ён адкінуў і другі бот - далёка на траву, застаўшыся ў расхлёстаных брудных анучах. Паліцай пабег па боты, а побач нервова затузаўся Малаковіч.

- Можа, возьмеш і мае, Пахом? Ці пакінеш у знак былой

дружбы? За тое, што даваў табе кантрольную спісваць?

- Ага, даваў! - пакрыўджана забурчаў паліцай, хапаючы боты. - А помніш: даў спісаць з памылкай. Па алгебры. Сам пяць палучыў, а мне два паставілі.

Малаковіч шчыра здзівіўся:

- Ідыёт! А я пры чым? Ты ж без памылкі і спісаць не мог, падлюга!

- Да-а. Ну і набраў ты падонкаў, Драздзенка, - сказаў Агееў. - Па сабе мераў?

- Ты яшчэ не заткнуўся!.. - крыкнуў Драздзенка, зрабіўшы да яго пагрозлівы выпад, але спыніўся: ззаду яго клікнуў немец. Тры паліцаі сцягвалі з фурманкі Кіслякова, і той слабым голасам выціснуў:

- Прашчайце, браточкі... Не абіжайцеся, калі...

- Нічога, нічога, сынку, - адказаў яму адзін Зыль. Агееў і Малаковіч маўчалі.

Разгоністым крокам Драздзенка падскочыў да іх кароценькага строю, рукой аддзяліў ад усіх Зыля.

- Так! Давай ты, з племяшом у пары.

«Няўжо застрэляць? - з недаверам падумаў Агееў. - Яно і сапраўды падобна, што Зыль тут ні пры чым. Выпадкам трапіў у гэтую гісторыю...»

- Паслухай, Драздзенка, - сказаў ён з папрокам у дрыготкім голасе. - А гэтага нашто? Ён жа тут выпадкова. Я знаю...

Драздзенка крута павярнуўся і замахаў рукой.

- Ты знаеш? А ты знаеш, што ён дванаццаць вагонаў на станцыі падпаліў?

Паліцаі ўжо пхалі Зыля да абрыву, куды прывалаклі Кіслякова, і счэпшчык, пачуўшы тыя словы Драздзенкі, непаслухмяна тузануўся ў іхніх руках.

- Не дванаццаць, начальнік! Семнаццаць! Семнаццаць вагонаў спаліў! Хай там запішуць - семнаццаць...

- Яны яго ўдарылі. Зыль войкнуў і болей ужо не выкрыкваў, не тузаўся.

Агееў дробна дрыжаў - ад сцюжы і нервовага напружання, гледзячы, як за трыццаць крокаў на абрыве сталі дзве постаці - рослы счэпшчык Зыль і ягоны пляменнік - мілы, сарамлівы Кіслякоў. Стаяць Кіслякоў ужо не мог і абвяла віснуў на руках у Зыля, які з натугай трымаў яго, прыгаворваючы нешта за крок да абрыву. Перад імі, рашуча лязгаючы затворамі вінтовак, станавіліся ў шарэнгу некалікі паліцаяў.

- Фоер! - нечакана зычным голасам скамандаваў немец, і ў вушы Агееву ўдарыў разрознены вінтовачны залп. Агееў хіснуўся ад яго паветранае хвалі, міргнуў адным вокам (другога ён ужо не расплюшчваў), і, калі зноў паглядзеў туды, ні Зыля, ні Кіслякова на абрыве ўжо не было. Паліцаі заставаліся ў шарэнзе, і Драздзенка з немцам падбеглі да абрыву, зірнулі ў кар'ер. Пасля пачулася некалькі нямоцных удараў - пісталетных стрэлаў, - для пэўнасці яны пасылалі апошнія кулі ў расстраляных.

- Наступныя! - крыкнуў начальнік паліцыі, павярнуўшыся да іх з пісталетам у руцэ.

- Пайшлі, Валодзя, - ціха сказаў Агееў і, не азірнуўшыся, застыргікаў да абрыву.

Яму паступова і ўсё болей адкрывалася ўнізе вялізная, уся ў ветранай рабізне бліскучая лужына. З цёмнага неба пасыпаў мокры сняжок, асядаючы на апратцы, валасах, далікатна кранаючы яго разбітыя да крыві вусны. На душы ў Агеева было пуста, як, мабыць, можа быць пуста толькі перад пагібеллю, калі ўсё жыццё пражыта дарэшты і пражыта не так, як хацелася, - бязладна, не ў згодзе з сумленнем, з шэрагам няўдач і памылак. Ён ужо нічога не памыкаўся і нават нічога не хацеў сказаць ні свайму саратніку Малаковічу, ні іхнім катам. Хай забіваюць...

Ён яшчэ ўчуў грымотны перуновы залп ва ўпор, як дужы, разгоністы ўдар у грудзі кінуў яго назад. Ён паляцеў кудысь у прастору - з шумам і звонам увушшу, штосьці абрушваючы сваім целам, разам з сабой валячы ў прадонне...

Памалу, аднак, усё пачало сціхаць, аддаляцца, і нарэшце ўсё ўціхамірылася.

З ветранага неба церусіў мокры сняжок...

**Раздзел сёмы**

Работы ў кар'еры засталося няшмат - апошні, бліжні ад могілак кут, зрэдку парослы асотам ды свежым пырнікам, і на тым усё можна б лічыць скончаным. Але Агееў не спяшаўся брацца за справу, з раніцы ён сядзеў над слабенькім, распаленым са смецця і папяровых абрыўкаў цяпельцам, якое смярдзюча дыміла, - грэў рукі. Раніца выдалася хмарная, без пробліску сонца; расы на траве не было, з поля дзьмуў свежы халаднаваты вецер, трывожна шумелі дрэвы на могілках. Накінуўшы на плечы сінюю балонневую куртку, Агееў прыпамінаў свой сённяшні сон.

Сон быў просты, амаль элементарны па вобразнасці, але ён уразіў Агеева сваім загадкавым сэнсам, загадкавым нават для яго, які заўжды ўмеў амаль пэўна расшыфроўваць свае начныя шарады.

Зусім без якіх-небудзь подступаў да галоўнага, сон пачаўся з таго, што ён, Агееў, мяркуючы па ўсім, аднекуль незнарок выпаў, з якога іншага свету ці іншага часу, і апынуўся адзін у вялізнай, страхавітай, пустой прасторы. Цяжка было зразумець характар тае прасторы і нават здагадацца, што ёю з'яўляецца - мора, зямля ці, можа быць, космас. Зрэшты, усё ляжала па-за зрокавым вобразам, хутчэй адносілася да сферы пачуццяў і ўвасаблялася адчуваннем абсалютнай, гнятлівай адзіноты. Па меры таго, як доўжыўся сон, тое адчуванне ўсё большала, а прастора шырэла, запаўнялася трывогай, бояззю, страхам. Ён дужа

пакутаваў, і тыя яго пакуты былі хутчэй за ўсё душэўныя, таму што цялесны Агееў сам па сабе быццам адсутнічаў, у гэтым загадкавым асяроддзі было толькі яго абстрактнае Я, пазбаўленае плоці і тым не менш надта балючае. Падобна, аднак, гэтае яго бясплотнае Я між тым увесь час сціскалася, меншаючы ў аб'ёме па меры разрастання загадкавай прасторы. І вось нарэшце настаў такі момант, калі Я зусім знікла, растварылася, пакінуўшы толькі ўяўленне пра сябе, успамін ці невыразны адбітак свае прысутнасці дзесьці, што ўжо не было ні асяроддзем, ні вобразам. Засталіся хіба што яго пакуты, у якія ён пераўвасобіўся ўвесь, без рэшты, і за якімі нічога больш не было.

Дзіўна, але гэты сон нейкім аддаленым пачуццём напомніў яму тую, даўно перажытую ім пагібель, калі ён у непрытомнасці, з вінтовачнай куляй у грудзях падаў у кар'ер. Тады выпадак ці круты, недастаткова навіслы над вадой схіл не далі яму зваліцца ў лужыну, у якой апынуліся толькі ягоныя ногі, і праз гадзіну ці больш ён апрытомнеў. Навокал было ціха, паліцаі вярнуліся ў мястэчка, з цёмнага неба сыпаў густаваты сняжок. Ён пачаў выбірацца з вады на сухое, доўга поўз па адхоне ля лужыны, пакуль не выбраўся з кар'ера на выездзе. Тут ён зноў страціў прытомнасць, доўга ляжаў у стылай гразі, папоўз зноў. На дарогу ён выпаўз перад світаннем, і яму там пашэнціла. Выпадак узнагародзіў яго сваёй нячастай міласцю: першы ж яздок з мястэчка аказаўся чалавекам добрым, ён моўчкі ўсцягнуў скрываўленага Агеева ў фурманку, і ранкам яны былі ўжо далёка. Зіму ён пластом праляжаў у нямогласці, поўнай безнадзейнасці, пасля захварэў на тыф, двойчы яго перахоўвалі на хутарах. Але вясной, на ўласнае здзіўленне, падняўся на ногі. Усё тое было даўно і, здаецца, перастала хваляваць яго - быццам было не перажыта ім, а ўбачана ў кіно ці прыснілася. І цяпер вось сённяшні, падобны па сэнсу і адчуваннях сон, які ўсё вярнуў з забыцця, усхваляваў яго знясіленыя пачуцці.

Цяжка было ўявіць, колькі часу ён доўжыўся, гэты пакутны сон, і нават чым скончыўся - проста Агееў

кудысьці знік з яго, магчыма, прачнуўся або заснуў іначай - без сноў. Гэтыя начныя пакуты, аднак, падзейнічалі на яго гнятліва, і Агееў думаў, што ўдзень абавязкова штось здарыцца. Што менавіта можа здарыцца, ён ніяк не мог здагадацца, колькі не прыкідваў па сваіх колішніх снах - такі бязвобразны, пакутны сон ён бачыў упершыню. І ён сядзеў ля цяпельца, нават не папіўшы чаю, растрывожаны і нямыты, зусім выбіты са сваёй звыклай працоўнай каляіны - не ведаў, за што ўзяцца. У гэтым стане поўнай разгубленасці ён убачыў двух сябрукоў, якія пралезлі да яго цераз праломіну ў сцяне агароджы. Моўчкі, не павітаўшыся, быццам яны толькі што адсюль адлучыліся, хлопцы сталі над цяпельцам, паўзіраліся ў кволы смярдзючы агеньчык - сарамяжлівы, маўклівы Артур і болей гаваркі Шурка.

- Ну, што, рабяты? - разгублена запытаў Агееў, болей каб парушыць свой невясёлы стан. Калупаючы дубчыкам у касцярку, вяртлявы Шурка адразу ж выпаліў тое, што іх зараз цікавіла:

- А тут бульдозеры прыйдуць. Глядзець будзем.

- Якія бульдозеры?

- А будуць кар'ер закопваць. Птушкафабрыку будаваць.

- Во як!

Пра птушкафабрыку ён ужо некалі чуў - хадзіў у пасёлак па хлеб і падслухаў, як мужыкі, што перакурвалі ля магазіна, вялі гаворку пра нейкую птушкафабрыку, на будаўніцтва якой набіралі падсобнікаў. Але ён не стаў прыслухоўвацца да той размовы і, заняты сваімі думкамі, пайшоў далей.

- А хто вам сказаў, хлопцы?

- Мікола сказаў. Во, Артураў брат. Пайшоў заводзіць бульдозер, хутка прыедзе.

Агееў памаўчаў. Мяркуючы па ўсім, справа яго набывала новы кірунак, і ён уявіў сабе, як прыйдуць

бульдозеры і што яны зробяць з гэтым кар'ерам. Напэўна, трэба было, пакуль яшчэ заставаўся час, хоць бы ў адзін штык перакапаць гэты зарослы быльнягом куток, каб канчаткова пераканацца, што там нічога няма. Хоць бы для ачысткі сумлення. І пасля ўжо няхай усё закопваюць ці раскопваюць, як там запланавана ў іх. Гэта было самае разумнае з усіх магчымых рашэнняў, трэба было ўставаць, браць рыдлёўку. Але ён сядзеў, глядзеў, як хлопцы, прысеўшы над касцярком, пачалі падкладваць у яго сухія, апалыя з дрэў галінкі, пучкі сухога быльнягу. Атрымаўшы харч, касцярок спярша густа задыміў на ветры, пасля каснічкі полымя жвава прабіліся праз слаі дыму, з трэскам ахапілі быльнёг. Агееў сядзеў, амаль напэўна ўжо ведаючы, што не паднімецца і той не перакапаны ім закутак так і застанецца не крануты, таму што... Таму што ён не хацеў яго кратаць. Ён ужо звыкся з, можа быць, самім выпешчанай у сабе думкай, што ў гэтам кар'еры нікога болей няма і не было ніколі. Ягонымі ўчынкамі ўжо стала кіраваць надзея, выхаваная ім за два летнія месяцы, і ён не меў рашучасці рызыкаваць ёю, бо рызыка вельмі проста магла яе знішчыць. Не, ён ужо не хацеў ні да чаго дакопвацца, яго даследчы азарт увесь скончыўся, ён гатовы быў уцячы ад праўды, калі б гэтая праўда раптам яму адкрылася. Вымучанае ім за час гэтых раскопак спадзяванне, нібы птушка шчасця, так наблізілася да яго, што гатова была вось-вось апусціцца на яго натруджаную руку, і ён баяўся паварушыцца, каб не спалохаць яе назаўжды. Зусім можа быць, што ён памыляўся, што гэта было звычайнае боязнае жаданне, прыступ слабасці. Але ўся справа ў тым, што ён ужо не знаходзіў у сабе сілы, каб адолець тую сваю слабасць, ды і не хацеў таго.

Скупа перагаворваючыся, хлапчукі поркаліся ў цяпельцы. Шурка прынёс трохі сухога вецця, сабранага пад сцяной могілак. Артур пачаў соваць яго ў змарнелы агонь, а заглыблены ў сябе Агееў пакутліва згадваў, што трэба зрабіць. Але, мабыць, ён проста не здольны быў што-небудзь рабіць і, напэўна, доўга прасядзеў бы так у задуменнай нерашучасці, калі б халапчукі не закрычалі раптам:

- Едуць, едуць!..

Агееў скалануўся, прыслухаўся. Артур з Шуркам пабеглі ўніз на дарогу, і вецер данёс ледзь чутны грукат цяжкіх машын на дарозе за могілкамі. Грукат гэты, аднак, хутка мацнеў, запаўняў сабой ускраінную прастору пасёлка, пачуўся пералівісты лязгат гусеніц, і вось яны выпхнуліся з-за вугла каменнай агароджы - два нязграбныя, закапцелыя трактары з прыўзнятымі над дарогай шырокімі нажамі бульдозераў. Ля кар'ера абодва спыніліся, але рухавікі працавалі, пыхкаючы ўгару сінім дымам; з кабіны пярэдняга на дарогу вываліліся два чалавекі, пайшлі да кар'ера. Пасля да іх далучыўся бульдазерыст другой машыны. Хуткім крокам яны абышлі яму кар'ера, агледзелі наваколле, нядоўга пастаялі на самай выспе каля кустоўя. Што яны там гаварылі, Агееву не было чуваць, дужа грукацелі дызелі на дарозе, дзе ўжо круціліся Шурка з Артурам.

Агееў нібы ў прастрацыі сядзеў ля палаткі, і толькі калі бульдазерысты занялі свае месцы ў кабінах і магутна зараўлі рухавікамі, ён падняўся. Стараючыся не даць сабе завагацца ці перадумаць, нібы адразаючы ўсе шляхі да адступлення, хутка павыдзіраў дзюралевыя калкі адцяжак - палатка зморшчылася і абвяла, і ён ліхаманкава пачаў выбіраць адтуль рэчы, выкідваючы іх з прарэхі палаткі, запіхваючы ўсё ў рукзак. Добра, што рэчаў было няшмат, галоўнае месца займала палатка, якую ён таропка, абы-як скамячыў і, прыціскаючы каленам, таксама запіхаў у рукзак. На яго наседжаным за лета месцы болей нічога не засталося, апроч кволага касцярка побач ды пластмасавага вядзерца на прытаптаным, з бляклай травой квадраце пад дном палаткі. Небагатае смецце ён нібы прадбачліва спаліў ранкам, месца ўвогуле засталося прыбраным. Закінуў за плячо цяжкаваты рукзак і пайшоў па адхоне ўніз. Перад тым як на дарозе павярнуць за могілкі, не стрымаўшыся, азірнуўся - магутна равучы маторам, першы бульдозер ужо піхаў на абрыў вялізную кучу зямлі, за ім, трохі адстаўшы, упіраўся ў зямлю другі бульдозер. Вось-вось з абрыву ў кар'ер павінна была абрушыцца гара рыхлага грунту, і Агееў, амаль фізічна

адчуваючы цяжар яе імклівага падзення, наддаў кроку.

Груваcткі рукзак, аднак, балюча намуляў плячо, пакуль ён дашкандыбаў да аўтастанцыі, што была ў сілікатным павільёнчыку каля цэнтральнай плошчы. Там перад фанерным стэндам раскладу з палёгкай скінуў на асфальт сваю ношу, хвіліну вывучаў тэрміны прыбыцця аўтобусаў, хаця ўжо з самага пачатку было зразумела, што ён спазніўся. Аўтобус на Мінск ішоў у шэсць раніцы, наступны павінен прыйсці праз суткі. Праўда, быў яшчэ адзін, заезджы, які прыбываў увечары, але білеты на яго прадаваліся пасля прыбыцця. Агееў зморана прысеў на рукзак, адпачываючы, думаў, як быць, і, нічога іншага не надумаўшы, пайшоў прасіць месца ў гасцініцы.

Гасцініца была недалёка, на бакавой вулічцы за пыльным, з маладымі дрэўцамі скверыкам, праз які вяла добра ўтаптаная пасялкоўцамі сцежка. Каля гасцінічнага ганка, чакаючы пасажыраў, стаяў пусты экскурсіўны «Ікарус», і Агееў падумаў, што месца для яго наўрад ці тут знойдзецца. Усё ж ён праціснуўся са сваёй ношай у цеснаваты вестыбюльчык, скінуў рукзак. Знаёмая па мінулым яго тут пражыванні бландзіністая дзяжурная, што снедала з паперкі, мабыць, таксама пазнала яго і, калі ён павітаўся, без лішніх слоў паклала на бар'ер маленькі аркушык анкеты. Гэта была ўдача, на якую Агееў ужо не разлічваў, ён таропка запоўніў анкету і хутка атрымаў ключ з фанернаю біркай ад адзіночнага нумара на другім паверсе. Улезшы туды са сваім рукзаком, адчуў, што на большае сёння не здольны. Пасля ўсіх перагрузак сэрца зусім збілася з рытму, ён праглынуў адразу аж дзве таблеткі хінідзіну, запіў іх цёплай вадой з графіна і, не распранаючыся, упаў на засланы ложак. Цела цалкам і з удзячнасцю аддалося дабратворнай уладзе спакою, металічная сетка паслухмяна гнулася пад яго рухамі. Увогуле тут было зручна і добра, калі б не арытмія, і ён, можа ўпершыню за лета, падумаў: ці не дарма ён усчаў усё гэта? Здаецца, ён ушчэнт падбіўся, падарваў здароўе, а чаго дамогся? Ці не лепш было б жыць, як жывецца: адпачываць, рыбаліць, як тысячы пенсіянераў, не

тузаючы сябе надуманымі праблемамі, не грызці мараллю, як казаў сын Аркадзь, імкнуцца да прастаты там, дзе пануе складанасць; можа б, так ён прыдбаў магчымасць пражыць лішні год на гэтым няласкавым свеце. А то нагарадзіў барыкаду праблем і вось зараз не мог сціхамірыць сэрца, якое соты раз напамінала яму пра ўзрост і тое, што яно не жалезнае... Самае кепскае, аднак, было ў тым, што ён нічога не дазнаўся за лета, праведзенае з рыдлёўкай у кар'еры, перакапаў кубаметры зямлі, але ні на крок не наблізіўся да рашэння сваёй загадкі, нічога не давёў да канца. Часам яму здавалася, што так яно, можа, і лепш - ён нічога не знайшоў і тым пакідаў для сябе надзею. Часам жа ў ягонай памяці паўставаў адзіны, не крануты рыдлёўкай закутак у кар'еры, які мог падмацаваць тую надзею, хаця мог і панішчыць яе. Было падобна, аднак, што яго ўсё ж палохала ісціна і шматзначны туман спадзявання быў яму болей мілы. Ён даваў яму магчымасць жыць спакайней. Без дэпрэсій і стрэсаў.

Вось ці даваў толькі?

Часам, успамінаючы перажытае, Агееў не пазнаваў сябе цяперашняга, так мала ў ягоным характары засталося ад маладога Агеева. Часам можна было падумаць, што той даўні Агееў знік, перарадзіўся, падмяніўся іншым чалавекам, які не мае нічога агульнага са сваім саракагадовай даўнасці папярэднікам. Зразумела, ён пастарэў, пражыў нялёгкае жыццё, што было справай звычайнай і што ён выдатна назіраў на прыкладзе іншых. Да таго ж ён бачыў, як няўхільна мяняўся характар часу, знікаў без следу аскетычны рыгарызм нядаўніх яшчэ гадоў і неўпрыкмет, але ўладарна ў жыцці запаноўвала спаважная цвярозасць разліку, дух узаемнай цярпімасці. Але ці да лепшага гэтыя перамены ў жыцці, ён зразумець не мог. Не ў прыклад іншым, ён даўно ўжо не прымерваў свайго мінулага да пакалення сваіх нашчадкаў, яму хапала роздуму пра сябе самога і сваіх даўно ўжо не маладых аднагодкаў. Часам ён быў не ў стане ўявіць, як бы аднёсся да яго цяперашняга той даўні Агееў, які ледзьве не скончыў свой кароценькі

шлях у гэтым пакінутым ім сёння кар'еры. У той час, як ранейшы Агееў быў пазбаўлены магчымасці судзіць яго цяперашняга, сам ён тысячы разоў на ўсё лады даследаваў і судзіў Агеева даўняга. Гэта было задоўжанае і малапрыемнае для абодвух следства, хаця строгі суддзя быў бясстрасны і мудры той непадкупнай мудрасцю, якая спасцігаецца толькі з вышыні пражытых гадоў. Часам дзівячыся, а часам абураючыся бязмозглаю недарэчнасцю ўчынкаў свайго абвінавачанага, мінаючы некаторыя старыя ісціны, што ўжо выйшлі ў тыраж, гэты суддзя паступова пачаў арыентавацца на сапраўдны кодэкс пастаянных каштоўнасцей, першае месца сярод якіх ён адводзіў самацэннасці самога жыцця. У тым ліку і таго, якім ён некалі так легкадумна распарадзіўся ў гэтым пасёлку. Зрэшты, як і сваім таксама...

У калідоры за тонкімі дзвярамі нумара чуліся таропкія крокі жыльцоў, бесцырымонна перагукваліся спаважныя пакаёўкі, аднойчы ўварваліся шум, смех і гамана маладых людзей - прыслухаўшыся, Агееў зразумеў, што гэта спартсмены.

Праўда, яны хутка зніклі - на трэніроўкі ці на абед у сталовую, у гасцініцы запанавала цішыня, і ён заснуў ці задрамаў, як толькі крыху выраўнялася сэрца.

Прачнуўся ад нязвыклай трывожнай цішы, расплюшчыў вочы і не адразу сцяміў, дзе ён. Было зусім цёмна, за прыштораным акном ляжала летняя ноч, праз шчыліну каля дзвярэй прабівалася тоненькая палоска святла ад лямпачкі з калідора. Аднекуль здалёк, з ускраіны пасёлка, далятаў ледзь чутны сабачы брэх, а наогул было маркотна і ціха. Неўзабаве, аднак, у гэтай душнай, гнятлівай цішы ён улавіў знаёмыя гукі рухавіка, якія спярша ўстрывожылі яго, а пасля жаданай міратворнасцю ляглі на яго душу, як толькі ён зразумеў, што гэта - бульдозеры. Яны працавалі і ноччу, закопвалі кар'ер - кар'ер яго памяці, раўнялі абрывы ягоных трывог, выбоіны яго памылак, назаўжды сціраючы іх з ягонага жыцця і яго перабольшанага ўяўлення. Зацяўшы дыханне, Агееў услухаўся ў захлюбісты грукат

дызеляў, і яму зрабілася нясцерпна шкада чагосьці, што заставалася ў беззваротным мінулым, - можа, сябе і сваёй скрываўленай маладосці, можа, даўно нежывых, расстраляных, забітых, закатаваных у фашысцкіх засценках таварышаў.

Можа, гэта быў плач душы па тых, каму не суджана было нарадзіцца і прадоўжыць жыццё, але пачуццё няўцешнага гора ахапіла яго так моцна, што ён, страціўшы спакой, падняўся, сеў на пасцелі і раптам зусім незнарок заплакаў. Ён быў тут адзін і мог не стрымліваць сябе, даць волю слязам, і даўкія сутаргі скаланалі яго грузнае цела. Ён плакаў доўга, самазабыўна, як гэта здаралася з ім калісь у раннім дзяцінстве, - аб сабе і аб іх, непамерных людскіх пакутах, якія, аказваецца, ніколі не мінаюць бясследна. Навучаны жыццём, ён ужо разумеў, што за ўсё трэба плаціць - за добрае і за кепскае, якія так моцна звязаны ў гэтым жыцці. Але ўся справа ў тым: хто плоціць? Плоціць, канечне ж, той, хто менш за ўсіх вінаваты, хто не разлічвае на выгаду, хто ад нараджэння схільны даваць, у адрозненне ад тых, хто навучыўся браць ды патрабаваць з іншых.

У свой час ён заплаціў ЁЮ і быў бязлітасна пакараны, таму што яна была паслана яму для шчасця, а не для збавення.

Калі за прыхінутым шторай акном азначыўся ранні світанак, ён устаў, падняў свой ацяжэлы за ноч рукзак, расплаціўся з соннай дзяжурнай унізе і павалокся праз сквер на аўтастанцыю.





# Васіль Быкаў

Васіль Быкаў (1924-2003) Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці. Навучаўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Скончыў Саратаўскую пяхотную вучэльню. У 1942 годзе будучы пісьменьнік уступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Ваяваў на Другім і Трэцім Украінскіх франтах, прайшоў па тэрыторыі Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, двойчы быў паранены.

Упершыню творы Васіля Быкава былі апублікаваныя ў 1947 годзе, аднак творчая біяграфія пісьменьніка пачынаецца з апавяданьняў, напісаных у 1951 годзе. Тэматыка раньніх апавяданьняў, дзеючымі асобамі якіх сталі жаўнеры і афіцэры, вызначыла далейшы лёс Быкава, многія з твораў якога прысьвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Бескампраміснасьць прозы Быкава стала прычынай нападаў савецкай крытыкі, якая абвінавачвала пісьменьніка ў ачарненьні савецкага ладу.

У 1974 годзе Васіль Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесьць "Дажыць да світання", 1973), у 1980 годзе атрымаў званьне Народнага пісьменьніка Беларусі, у 1986 годзе - быў уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесьць "Знак бяды".

Некаторыя творы пісьменьніка, такія як аповесьці "Трецяя ракета" (1962), "Дажыць да світання", былі экранізаваныя.

З 1972 па 1978 год Васіль Быкаў займаў пасаду сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

Вядомасьць Васілю Быкаву прынесла аповесьць "Трэцяя ракета", напісаная ў 1962 годзе. У 1960-е ён публікуе аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", у 1970-я - "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі ваеннай прозы XX стагодзьдзя.

Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменьніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэньне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой.

Падрыхтаванае на падставе: Васіль Быкаў, Поўны збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 6, Аповесьці, раман. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2006. — 560 с.

ISBN 5-9691-0123-0

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924-2003). Падчас укладання тамоў найперш улічвалася думка самога аўтара, які паспеў спланаваць праспект выдання свайго 8-томнага Збору твораў. У шосты том Поўнага збору твораў увайшлі аповесці "Абеліск" (1971 г.), "Пайсці і не вярнуцца" (1978 г.) і раман "Кар'ер" (1986 г.).